УДК 94(476)(082)

У чацвёрты выпуск альманаха «Асоба і час» увайшлі матэрыялы, прысвечаныя выдатным дзеячам гісторыі і культуры, чые лёсы звязаныя з беларускай зямлёй. Сярод іх Аляксандра Нарбут, Адам Міцкевіч, Уладзіслаў Плятэр, Вацлаў Ластоўскі, Яўген Барычэўскі, Зоська Верас, Ларыса Геніюш, Васіль Быкаў. Пра свае сустрэчы і ўражанні распавядуць чытачам нашыя сучаснікі — удзельнік змагання пад Монтэ-Касіна Мікалай Махнач, журналісты Валянціна Трыгубовіч і Андрэй Расінскі, вядомы філолаг Аляксей Каўка.

**ISSN 2218-2039**

*Гэты выпуск беларускага біяграфічнага альманаха*
*«Асоба і час» укладальнік і аўтары прысвячаюць памяці*
*выдатнага беларускага гісторыка і архівіста,*
*нястомнага вяртальніка забытых імёнаў,*
*аднаго з першых аўтараў нашага праекта*
*Віталя Уладзіміравіча СКАЛАБАНА*
*(1947–2011)*

# АЛЯКСАНДРА НАРБУТ — АКАДЭМІК БЕРЛІНСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

Міхаіл Балінскі ў працы «Даўняя Віленская акадэмія» пра Аляксандру Нарбут пісаў наступнае: *«…у той час у Вільні кожны адукаваны месціч, кожны, хто меў адносіны да навукі, быў моцна ўсхваляваны навіной, якая толькі што разышлася па горадзе, што агульнавядомая сваімі талентамі і адукаванасцю высакародная літоўская панна Аляксандра Нарбутоўна*[1]*, дачка подкаморага лідскага, была абрана сябрам Акадэміі навук у Берліне на пасяджэнні 19 студзеня 1788 г., і патэнт на тое з рук прускага князя Генрыха атрымала. Усцешыла гэта шмат асоб і асабліва шматлікую сям'ю. Некаторыя здзіўляліся гэтаму і лічылі гэта не жаночай справай, а ў некаторых, як гэта часта бывае ў свеце, гэты факт узбуджаў зайздрасць, калі не здзек»*[2].

Жанчына-акадэмік у XVIII стагоддзі!

Нарбуты — старажытны род, дакладней, некалькі родаў, не маючых роднасных сувязяў, з іх лідскія — самы разгалінаваны, старажытны і шматлікі шляхецкі род Нарбутаў. Род лідскіх Нарбутаў пачынаецца з XV ст. Легендарныя прадстаўнікі роду — з X ст., напрыклад, яго заснавальнік — Доўспрунг — нібыта прыбыў у Літву з Рыма разам з Палямонам у 924 г. Першы «гістарычны» Нарбут (нарадзіўся каля 1430 г.) валодаў маёнткамі Арняны і Калтыняны каля Вільны. Адзін з яго сыноў — Войцех — набыў маёнтак Лебедзь і пасля ўцёкаў Міхала Глінскага з Літвы атрымаў ягоны маёнтак Забалаць у Лідскім павеце. Ягоны ўнук Пётр (нарадзіўся каля 1540 г.) пабудаваў касцёл у Забалаці і лічыцца родапачынальнікам Нарбутаў на Лідчыне[3].

Бацька Аляксандры — Тадэвуш Нарбут[4] (каля 1740 — ?) герба «Задора», палкоўнік пяцігорскі, лідскі падстолі з 1768 г., стольнік з 1778 г., падкаморы Лідскага павета (1782–1792) і каралеўскі шамбелян, сын Казіміра Юзафа Нарбута (каля 1700 — ?). Ад першага шлюбу ў Тадэвуша Нарбута каля 1760 г. нарадзіліся тры дачкі: Канстанцыя[5], Аляксандра[6] і Тэкля, ад другога шлюбу, з Кацярынай Вяжэвіч, — сын Войцех[7], каралеўскі шамбелян, пасол сейма 1788 г. ад Лідскага павета, дачка Ганна і сын Станіслаў (? — 1858), смаленскі канонік і пробашч касоўскі.

---

1 Alexandra Narbutówna (у Балінскага — з адным «t», у іншых крыніцах — з двума).

2 Balinski Michal. Dawna academia Wilenska. Petersburg, 1862. S. 322. «Wszakże mało może zważano na, to cu czytał, bo właśnie wtenczas w Wilnie każdy światły mieszkaniec, albo majncy pretensya do nauki, mocno był zajęty osobliwa wiadomością, która tylko co rozeszła się w mieście, że znajoma wszystkim z talentów i nauki, zacna litewska panna, Alexandra Narbutówna, podkomozanka lidzka, wybrana została na towarzyszkę akademii nauk w Berlinie, na posiedzenia jej dnia 19 stycznia r. 1788, i patent na to z rak książecia Henryka pruskiego otrzymała. Pochlebiało to wielu osubom, a mianowicie całej licznej rodzinie, dziwiło niektórych jako nieoswojonych z tym rodzajem zaszczytu dla kobiet, a w innych nawet, jak to nieraz bywa na świecie, obudzalo uczucie jakiejś zazdrości, jeżeli nie szyderstwa».

3 Нарбут А. Н. Нарбут Н. И. Нарбуты Лидские // Наш Радавод. Кніга 6. Ліда. 1994. С. 44–45.

4 Genealogia potomków Sejmu Wielkiego // http://www.sejm-wielki.pl:2318/sejmwielki?p=tadeusz;n=narbut+h.+zadora

5 Genealogia potomków Sejmu Wielkiego // http://www.sejm-wielki.pl:2318/sejmwielki?p=konstancja;n=narbut+h.+zadora

6 Genealogia potomków Sejmu Wielkiego // http://www.sejm-wielki.pl:2318/sejmwielki?p=aleksandra;n=narbut+h.+zadora

7 Genealogia potomków Sejmu Wielkiego // http://www.sejm-wielki.pl:2318/sejmwielki?p=wojciech;n=narbutt+h.+zadora

Войцех Нарбут (1762–26.02.1837) выхоўваўся ў Вільні ў калегіуме ордэна піяраў, потым у 1774–1776 гг. вучыўся ў Варшаве («Калегіум Нобіліум») і звярнуў на сябе ўвагу караля Станіслава Аўгуста, у якога з дапамогай Чартарыйскіх каля 1775 г. стаў пажам, а потым шамбелянам і даверанай асобай караля. У 1788 г. Войцех быў абраны на Чатырохгадовы сейм (1788–1792) паслом ад Лідскага павета і прысутнічаў на пасяджэнні сейма 3 мая 1791 г., быў прыхільнікам канстытуцыі. Потым ён стаў паслом на Гарадзенскім сейме. У 1794 г. падарожнічаў разам з князем Адамам Чартарыйскім за мяжой. З 1801 г. Войцех Нарбут быў прызначаны выхавальнікам князя Дамініка Радзівіла, сына Гіераніма. Тры гады (1810–1812) служыў маршалкам Лідскага павета.

Па жаданні сяброў Войцех напісаў займальныя і гістарычна цікавыя мемуары аб прыдворным жыцці часоў караля Станіслава Аўгуста. Пад назвай «Успаміны аб сваёй службе пажом пры каралі Станіславу» («Pamiętnik o służbie swej przy Kroli Stanisławie, jako Paź») іх планаваў выдаць Ю. Крашэўскі, але яны засталіся ненадрукаванымі[8]. Акрамя таго, Нарбут перавёў з французскай «Разважанне над Евангеллем…» абата Дюкеня (Abbe Duquesne. «L'evangile medite et distribue pour tous les jours de l'annee, suivant la concorde des quatre evangelistes»). Таксама Войцех славіўся сваімі разьбянымі працамі, якія высока ацэньвалі калекцыянеры[9].

Лідскі падкаморы быў дастаткова багатым чалавекам. Вераемна, ён меў дом у Лідзе, бо ў 1790 г. яму, паводле інфармацыі Ч. Малеўскага, у Лідскай парафіі належала Зарэчча (прыгарад Ліды). Таксама ён валодаў ваколіцамі Бельскія і Плясавічы, фальваркамі Сукурчы і Востраў. Сукурчы былі цэнтрам вясковай акругі (тут жылі больш як 500 чалавек)[10] і даўнім паселішчам. У другой палове XX ст., калі Сукурчаў як населенага пункта ўжо не існавала, у народзе захоўвалася памяць пра тое, што адзін з тутэйшых будынкаў быў вельмі стары і на бэльцы нібыта пазначана дата — XVI ст.[11]. Апошнім уладальнікам фальварка Сукурчы быў легендарны герой Другой сусветнай вайны Вітольд Пілецкі[12].

---

8 Тым не менш, відавочна, Крашэўскі карыстаўся гэтымі мемуарамі, калі пісаў сваю шматтомную «Польшчу падчас трох падзелаў…» (Józef Ignacy Kraszewski. Polska w czasie trzech rozbiorow, 1772–1799). У працы Крашэўскага неаднаразова ўзгадваюцца прадстаўнікі сям'і лідскага падкаморага.

9 Гл.: Русский биографический словарь / под ред. А. А. Половцова. М., 1910. Т. 15. С. 61.

10 Гл.: Słownik Geograficzny Królestwa Polskiego… Warszawa, 1890. T. 11. S. 561.

11 Гл.: Пацюпа Юры. Tahafut al-Tahafut // Arche. 2006. № 4. С. 205.

12 Witold Pilecki (13.05.1901, г. Аланец, Расія — 25.05.1948, асуджаны камуністычнай уладай Польшчы да смяротнага пакарання) нарадзіўся ў горадзе Аланец у Карэліі, куды яго сям'я (шляхецкі род герба «Ляліва») была выселеная царскімі ўладамі за ўдзел у паўстанні 1863 г. З 1910 г. жыў у Вільні, вучыўся ў камерцыйнай школе. У 1914 г. стаў членам забароненага царскімі ўладамі харцэрскага руху, а ў 1921 г. здаў экзамен на атэстат сталасці. На працягу 1918–1921 гг. служыў у польскім войску. Як кавалерыст удзельнічаў у абароне Гродна. 5 жніўня 1920 г. паступіў у 211-ы полк уланаў і ў яго шэрагах удзельнічаў у Варшаўскай бітве 1920 г., у баі ў Рудніцкай пушчы і ўзяцці Вільні. Двойчы ўзнагароджаны Крыжам за адвагу (Krzyż Zasługi). Пасля вайны дэмабілізаваны. У 1934 г. прысвоена званне падпаручніка запасу. Ён заставаўся ў спісе ваеннаабавязаных у лідскім павятовым ваенным камісарыяце з прызначэннем у 26-ы полк велікапольскіх уланаў (26 Pułk Ułanów Wielkopolskich) у горадзе Баранавічы. У жніўні 1939 г. паўторна мабілізаваны, змагаўся супраць немцаў у кампаніі 1939 г. камандзірам узвода ў эскадроне дывізіённай кавалерыі 19-й пяхотнай дывізіі арміі «Прусія» (szwadron kawalerii dywizyjnej 19 Dywizji Piechoty Armii «Prusy»). Апошнія баі яго атрад правёў як партызанскі. Пілецкі распусціў свой узвод 17 кастрычніка 1939 г. і перайшоў на канспірацыю. Пасля заканчэння кампаніі 1939 г. прабраўся ў Варшаву і стаў адным з заснавальнікаў падпольнай арганізацыі Сакрэтная польская армія (Tajna Armia Polska). 19 верасня 1940 г. падчас вулічнай аблавы ён добраахвотна здаўся немцам з мэтай патрапіць у якасці вязня ў канцэнтрацыйны лагер Асвенцім для атрымання інфармацыі і правядзення падпольнай працы. Ён быў дастаўлены ў гэты канцлагер у ноч з 21 на 22 верасня 1940 г. У ноч з 26 на 27 красавіка 1943 г. Пілецкі ўцёк з лагера і першым праінфармаваў

Фальварак Востраў знаходзіўся за 1 км ад Сукурчаў. Тэадор Нарбут так пісаў пра гэты фальварак: *«Востраў, у павеце Лідскім, на захад ад Ліды недалёка ад Мыта, за левым берагам ракі Дзітва, раней уласнасць скарбу літоўскага, дзе быў вялікі палац і да гэтага часу фундамент і склепы захаваліся, гарод меў памер 9 моргаў, у апошнія часы належыла да Тадэвуша Нарбута, падкаморага лідскага. Зараз, пасля здрабнення праз exdywizye, ёсць невялікім фальфаркам…»*[13]. У Востраве Тадэвуш Нарбут на свае сродкі фундаваў капліцу[14]. Паводле гісторыка Тэадора Нарбута (унучаты пляменнік Тадэвуша Нарбута), менавіта ў Востраве было падпісанае знакамітае Востраўскае пагадненне 1392 г., якое паклала канец братазабойчай вайне паміж Вітаўтам і Ягайлам. У 2007 г. мне ўдалося знайсці месца, дзе стаяў легендарны ў нашай гісторыі фальварак Востраў[15].

Належаў Тадэвушу Нарбуту і фальварак Лаўчылавічы каля Ліды, але потым ён быў аддадзены ў якасці забеспячэння доўгу ў 26 000 злотых барону Іосіфу Адэльберту Уладзіславу Грозмані — палкоўніку войска Рэчы Паспалітай.

Паўстанец 1863 г., аўтар каштоўных мемуараў, Мірон Браніслаў Нарбут так напісаў пра бацьку і сына Нарбутаў: *«У даўнія часы шляхта лідская была ахвочая на сеймах да спрэчак і схільная не толькі да недысцыплінаванасці і келіха, але і да абароны межаў Рэчы Паспалітай ад нашэсця ворагаў: у канфедэрацыі Барскай, у паўстанні Касцюшкі і ў пазнейшых баях з акупантам несла сваё жыццё на ахвяру Краю. Павет Лідскі на сеймах меў прадстаўнікоў, якія галасна адстойвалі недатыкальнасць межаў Рэчы Паспалітай, — гэта Тадэвуш Нарбут, падкаморы лідскі, пасол на сейм вальны 1776 г. Пры ратыфікацыі першага падзелу Рэчы Паспалітай ён выступіў супраць і за гэта праследаваўся ўладамі, потым шамбелян караля Станіслава Аўгуста — Войцех Нарбут, пасол — актыўны грамадскі дзеяч, прамоўца на сейме варшаўскім 1791 г., на якім адбылася без праліваня крыві польская грамадзянская рэвалюцыя, прыняў-*

саюзнікаў пра тое, што робіцца ў лагеры смерці. У 1943–1944 гг. Пілецкі служыў у III аддзеле Кедыв (Kedyw) Галоўнага камандавання Арміі Краёвай (у тым ліку наместнікам камандзіра разведачна-інфармацыйнай брыгады «Камелеон» — «Вожык»), удзельнічаў у Варшаўскім паўстанні 1944 г. У перыяд 1944–1945 гг. знаходзіўся ў нямецкім палоне, потым служыў у 2-м Польскім корпусе (2 Korpus Polski) у Італіі. У кастрычніку 1945 г. вярнуўся ў Польшчу з мэтай барацьбы з камуністамі. Восенню 1945 г. арганізаваў выведвальную сетку і пачаў збіраць інфармацыю пра становішча ў Польшчы, у тым ліку пра салдатаў Арміі Краёвай, зняволеных у лагерах НКУС на тэрыторыі Польшчы і высланых у СССР. Ён атрымліваў выведвальную інфармацыю з Міністэрства грамадскай бяспекі (Ministerstwo Bezpieczeństwa Publicznego), Міністэрства народнай абароны (Ministertwo Obrony Narodowej) і Міністэрства замежных спраў (Ministerstwo Spraw Zagranicznych).

Пілецкі ігнараваў загад генерала Уладзіслава Андэрса пакінуць Польшчу ў сувязі з пагрозай арышту. Ён думаў скарыстацца амністыяй 1947 г., але вырашыў не выходзіць з падполля. 8 мая 1947 г. быў арыштаваны, пачаліся допыты з катаванямі. 15 мая 1948 г. Пілецкі прысуджаны да смяротнага пакарання.

30 ліпеня 2006 г. прэзідэнт Польшчы Лех Качынскі пасмяротна ўзнагародзіў Вітольда Пілецкага ордэнам Белага арла.

У кнізе «Six Faces of Courage» брытанскі гісторык прафесар Майкел Фут (Michael Foot) аднёс Вітольда Пілецкага да ліку шасці самых адважных герояў Другой сусветнай вайны.

[13] Narbutt Teodor. Dzieje starożytne narodu litewskiego. Wilno, 1839. T. 5. S. 491. «Ostrow w powiecie Lidzkim, na zachód Lidy niedaleko Myta, za lewym brzegiem rzeki Dzitwy, niegdyś ogromna majętność skarbu litewskiego, gdzie były pałace obszerne, jak dotąd fundamenta i sklepy przekonywają, ogrod owocowy miał zawierać w sobie 9 morgów przestrzeni, pod ostatnie czasy należała do Tadeusza Narbutta, Podkomorzego Lidzkiego. Dziś w zdrobnieniu przez exdywizye jest niewielkim folwarkiem…».

[14] Гл.: Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie. Wilno, 1912. S. 486.

[15] Гл.: Лаўрэш Леанід. Месца заключэння Востраўскага пагаднення 1392 г. // Гістарычны альманах. Т. 13. 2007. С. 109–118.

*шая векапомную Канстытуцыю 3 Мая, якая дазволіла ўшляхціць цэлы народ, даць яму грамадзянскія свабоды, якімі дагэтуль карысталася выключна шляхта»*[16].

Сын Канстанцыі Нарбут Леан Дэмбоўскі напісаў цікавыя мемуары, які служаць крыніцай па гісторыі яго сям'і. Пра свайго дзеда «па кудзелі» ён пісаў: *«Тадэвуш Нарбут, падкаморы лідскі… быў паслом на сейм 1776 г., дзе не падпісаўся пад ратыфікацыяй першага падзелу Рэчы Паспалітай і таму меў за гэта шмат непрыемнасцяў. Лідскі падкаморы жыў у радзінным маёнтку Сукурчы і па жонцы меў вёску Котлуў, а каля 1773 г. дакупіў ад Пясецкіх фальварак Востраў, нічога не заплаціўшы, у крэдыт. Некалькі разоў быў паслом і ўсё жыццё траціў на арганізацыю партый, кіраванне сеймікамі і выбарамі ў Трыбунал літоўскі. З лістоў дзеда… відаць, што свае галоўныя высілкі накіроўваў ён то на падтрымку каралеўскай партыі, то партыі Чартарыйскіх, якая часам супрацьстаяла шчыралітоўскай партыі князя Радзівіла. Акрамя гэтага, умеў праз асабістыя роднасныя сувязі Нарбутаў на Літве вырашаць праблемы. Аднак у выніку страціў фартуну. Адзін яго сын быў шамбелянам пры каралю, іншы прысвяціў сябе духоўнаму званню. Дзвюх дачок, адну маю маці Канстанцыю і іншую, старэйшую, Аляксандру, узяла на выхаванне княгіня Ізабэла Чартарыйская. Яны разам з князёўнамі Тарэзай і Марыяй атрымалі адукацыю і былі іх неразлучнымі сяброўкамі»*[17].

Такім чынам, сёстры Канстанцыя і Аляксандра выхоўваліся і атрымалі адукацыю пры двары княгіні Ізабэлы Чартарыйскай з Флемінгаў (1745–1835) у Пулавах. У другой палове XVIII ст. князь Адам Казімір Чартарыйскі разам з жонкай стварыў у Пулавах сапраўдны асяродак навукі і мастацтва. Пры княжым двары жылі і працавалі мастакі Я. Норблін, З. Фогель, К. Вайнякоўскі, Я. Рыхтар, пісьменнікі Ф. Княжнін, Я. Вароніч, Я. Нямцэвіч, архітэктары Ч. Айгнер, Я. Хемпель, музыканты Вінцэнт і Францішак Лясловы. У палацы была выдатная бібліятэка, фінансаваліся навуковыя даследаванні ў галіне філалогіі, гісторыі. Да навуковай працы прыцягваліся найлепшыя навукоўцы Еўропы. Тут атрымлівала адукацыю і выхаванне таленавітая моладзь. Таму ў XIX ст. Пулавы зваліся *«польскімі Афінамі»*. Пулаўская школа набыла агульнаеўрапейскае прызнанне, калі Чартарыйскія стварылі яе філіялы ў Францыі і Англіі[18].

З Тадэвушам Нарбутам, бацькам Аляксандры, князя Чартарыйскага звязвалі агульныя дзяржаўныя клопаты: *«бацька* (Чартарыйскі. — *Л. Л.*) *у Вільні, быў старшынёй суда Літвы. Ён горача аддаваўся выкананню сваіх абавязкаў… віцэ-прэзідэнтамі суду тады былі: у Гародні — Швяйкоўскі, вельмі выдатны чалавек, а ў Вільні — Нарбут, бацька паннаў, якія выхоўваліся ў доме маіх бацькоў»*[19]. Графіня Анна Патоцкая, якая асабіста добра ведала Чартарыйскіх, пісала: *«Тут можна было назіраць сапраўдную арыстакратыю… Калі князь… даваў падтрымку якой-небудзь небагатай, але высакароднай сям'і, ён тайна дзякаваў ёй за выказаны давер»*[20].

У мемуарах сын Адама Казіміра Чартарыйскага Адам Юры (Ежы) Чартарыйскі[21] (1770–1861) пісаў: *«Знаходжанне майго бацькі ў Літве прыцягнула да нас вялікую колькасць выхадцаў гэтай правінцыі… З Літвы, каб атрымаць у нас выхаванне, прыехала таксама некалькі маладых людзей. Іх прысутнасць ажыўляла Пулавы ў вольныя ад*

---

16 Narbutt Miron Bronisław. Lida i Lidziane. // Ziemia Lidzka. 1997. № 26–27. 1997.

17 Dembowski Leon. Moje wspomnienia. 1898. Petersburg. T. I. S. 8–9.

18 Гл.: Графиня Анна Патоцкая. Мемуары. 1794–1820. М., 2005. С. 44.

19 Чарторижский Адам. Мемуары. М., 1998. С. 20.

20 Графиня Анна Патоцкая. Мемуары. 1794–1820. М., 2005. С. 44.

21 Будучы міністр замежных спраў Расейскай імперыі.

*заняткаў гадзіны»*[22]. Звычайна ў княгіні выхоўвалася 12 дзяўчат. Калі яны завяршалі адукацыю, княгіня клапацілася, каб добра выйшлі замуж. Панны жылі ў асобным будынку пад апекай Францішкі Марыі Янушэўскай, якая разам са сваім мужам Філіпам займалася таксама і адукацыяй дзяўчат[23]. Асноўнай навукай, якую вывучалі дзяўчаты, была французская мова, модная ў той час і неабходная для чытання кніг. Вельмі добра выкладалі польскую мову, і княгіня заахвочвала паненак больш гаварыць і пісаць па-польску. Князь вельмі цікавіўся ўзроўнем адукацыі пулаўскіх дзяўчат, пра што сведчаць асабістыя віншаванні, якія ён накіроўваў выпускніцам. Па заканчэнні тэрміну адукацыі выхаванкі дзякавалі князю і ягонаму дому за *«гонар атрымаць выхаванне ў Пулавах»*[24].

Вядома, што княгіня Ізабэла Чартарыйская вельмі добра ставілася да сясцёр Нарбут. Яны жылі з Чартарыйскімі як члены іх сям'і, абедалі за княжым сталом[25] сталом  і былі сяброўкамі маладых князёўнаў[26].

Адам Чартарыйскі ўспамінаў пра жыццё ў адным з маёнткаў сям'і, Павонзках (пад Варшавай): *«Кожны з дзяцей меў хатку з садам, а пасярэдзіне на ўзвышэнні, над сажалкай, вада якой, сцякаючы ў маленькую рэчку, арашала ўсе пасадкі… каб упрыгожыць гэты маёнтак, мая маці завяла ў ім штучныя разваліны… кожная з хатак… калонія мела сваю адмысловую эмблему. У сястры Марыі эмблемай была выява берасцянкі з надпісам: "Весялосць". Мне далі галінку дуба з надпісам: "Цвёрдасць". Над хатай маці была намаляваная курыца з куранятамі. Над халупай сястры Тарэзы — кошык з белымі ружамі і надпісам: "Дабрыня"… панны Нарбут мелі таксама свае хаткі… Усё гэта было прыдуманае і ўладкаванае маёй маці»*[27].

Сёстры Нарбут бралі ўдзел у сямейных пастаноўках: *«У Павонзках… ставілі оперу пад назвай "Зэміра і Азор". У адным з актаў гэтай оперы на сцэне з'яўляліся і дзве з маіх сясцёр з паннай Нарбут. Сцэна ўяўляла з сябе зачараваны замак, дзе сёстры павінны былі суцяшаць Зэміру»*[28]. *«Неяк, пасля адной з тэатральных п'ес, калі ўжо ўсе раз'ехаліся, успыхнуў пажар. Агонь з'явіўся ў бакавым крыле хаты, дзе жылі мае сёстры. Сёстры з гувернанткай, мадэмуазэль Пці і іх сяброўкі, панны Нарбут, ратуючыся, павінны былі ўцячы на іншы канец двара… пасля пажару, Аляксандра, малодшая з сясцёр Нарбут, была ў адчаі і, думаючы, што мы пазбавіліся ўсёй нашай*

[22] Чарторижский Адам. Мемуары. М., 1998. С. 28.

[23] Гл.: Zofia Gołębiowska. Oświata i wychowanie w Puławach oraz kluczu końskowolskim w czasach Czartoryskich. Puławy, 2005. S. 35.

[24] Гл.: Zofia Gołębiowska. Oświata i wychowanie w Puławach oraz kluczu końskowolskim w czasach Czartoryskich. Puławy, 2005. S. 36.

[25] Гл.: Puławy (1762–1830). Monografia z życia towarzyskiego, politycznego i literackiego na podstawie archiwam ks. Czartoryskich w Krakowie. Opracował Ludwik Dębicki. Lwów, 1887. T. 1. S. 177. / У 1793 г. Канстанцыя была ўжо замужам, *«pp. Dembowscy»*: «Pierwszy stol panski: JO ksiestwo, ksiazeta mlodzi, ksiezna Wirtemberska, pp. Dembowscy, marszalek, Skuczewicz, Rembielinski, Kniaznin, Gutowski, Szpinek, Zalewski, Ciesielski, Orlowski major, ks. Piramowicz, panna Narbutowna, Gasparowna, p. Kling, p. Ferber, ksiezniczka Zofia, Madame Petit, pp. staroscianka (Stadnicka) i Bardeleben, przyjaciol lub gosci 7 osob przecietnie codzien».

[26] Puławy (1762–1830). Monografia z życia towarzyskiego, politycznego i literackiego na podstawie archiwam ks. Czartoryskich w Krakowie. Opracował Ludwik Dębicki. Lwów, 1887. T. 1. S. 117. / «Pannami ksiezny byly dwie siostry Narbuttowny dwie panny Paszkowskie, francuzka panna Parisot, i do pilnowania malych dzieci pani Pichel z corka».

[27] Чарторижский Адам. Мемуары. М., 1998. С. 15–16.

[28] Чарторижский Адам. Мемуары. М., 1998. С. 18.

*маёмасці, казала, каб мае бацькі пераехалі ў вёску яе бацькоў Сукурчы (Sukurcze) у Лідскай акрузе»*[29].

У зборніку Марыі і Уладзіслава Тамкевічаў «Даўняя Польшча ў анекдоце» ёсць нават анекдот з пулаўскага жыцця пра Аляксандру: *«У Чартарыйскіх у Пулавах пэўны час стала жыла панна Аляксандра Нарбутоўна. Была яна ўсімі паважаная і любімая, аднак князь Адам не мог ёй даравäць таго, што яна зашмат ужывала тытунь, таму аднойчы сказаў пра панну Аляксандру: "Калі б іншыя часткі цела ў нашай панны Аляксандры былі неўтаймаваныя гэтак жа, як нос, то якая ж панна была б!"»* [30].

Аляксандра Нарбут стала вядомай актрысай, перакладчыцай і літаратарам. Яе прозвішча ёсць у спісе літаратараў Яна Савінскага[31]. У «Гісторыі польскай літаратуры…» Фелікса Бянткоўскага[32] ёсць інфармацыя пра пераклад п'есы дэ Жанліс «Зэлія, альбо Шчырасць». Выхадныя дадзеныя гэтага перакладу наступныя: «Zelia, czyli Szczerość (Zelia, albo Szczera; Zelia czyli Osobliwsze wychowanie). Kom. w 5 a. Narbutówna Al. (1790). Ładowski R. Warszawa, 1793». Удалося вызначыць некаторыя ролі і спектаклі, у якіх іграла Аляксандра. Гэта роля Тэлезіі ў оперы з трох актаў «Маці Спартанка» Францішка Княжніна. У гэтай жа оперы ігралі таксама яе старэйшая сястра Канстанцыя Нарбут (па мужы — Дэмбоўская), таксама таленавітая і папулярная актрыса і кампазітар, і сама княгіня Ізабэла Чартарыйская (у ролі Тэоны), спектакль ставіўся ў тэатры Пулаў[33].

У паэме Ф. Княжніна «Паветраны шар, ці Пулаўскія вечары» апавядаецца пра палёт паветранага шара ў Пулавах. Тут сёстры, як і ўсе іншыя насельнікі Пулаў, фігуруюць пад імёнамі грэцкіх герояў: Аляксандра — гэта Кліядора, а Канстанцыя — Ірыс[34]. Нарбутоўны ў паэме занатоўваюць падзеі: *«Ірыс — алоўкам, а яе сястра — пяром, Ірыс — як мастак, а сястра яе Кліядора — як дзеяапісальніца»*[35]. Паэма апісвала рэальныя падзеі 1784 г. Чартарыйскія вельмі цікавіліся апошнімі навінамі з Францыі пра палёты толькі што вынайдзенага братамі Мангальф'е паветранага шара. І ў Пулавах з ініцыятывы Канстанцыі Нарбут было заснаванае «Таварыства паветраных шароў» (Towarzystwo Balonowe). Агульнымі намаганнямі пулаўскай моладзі пад кіраўніцтвам прафесара ле'Гулера (L'Huillier) быў зроблены і запушчаны ў паветра шар з катом Феліцыянам у кошыку. Шар нейкі час лётаў у паветры над прысядзібным садам, а калі прызямліўся, кот уцёк ад гаспадароў і схаваўся на дрэве[36]. Палёт паветранага шара з катом Феліцыянам быў адным з першых у нашай частцы Еўропы, і падзея мела вялікі розгалас у магнацкіх колах Рэчы Паспалітай. З гэтай нагоды Княжнін стварыў

---

[29] Чарторижский Адам. Мемуары. М., 1998. С. 15.

[30] Maria Tomkiewiczowa, Władysław Tomkiewicz. Dawna Polska w anegdocie. Warszawa, 1968. S. 287–288. «U Czartoryskich w Puławach przez pewien czas przebywała w charakterze rezydentiki panna Aleksandra Narbuttówna. Była ona przez wszystkich szanowana i lubiana, jednakże książę Adam nie mógł jej datować tego, że ustawicznie zażywała tabakę. Toteż mawiał on o pannie Aleksandrze:

"— Zęby inne członki u naszej panny Aleksandry tak jak nos były niewstrzemięźliwe, co by to za panna była!"».

[31] Sowiński Jan. O Uczonych Polkach. Warszawa, Krzemieniec i N. Glunckber, 1821.

[32] Гл.: Bentkowski Fielix. Historya literatury polskiej w spisie dziel drukiem ogloszonych. Warszawa i Wilnia, 1814. S. 566.

[33] Гл.: Dzeila Franciszka Dyonizego Kniaznina. T. IV. Warszawa, 1828. S. 5.

[34] Гл.: Dzeila Franciszka Dyonizego Kniaznina. T. III. Lipsk, 1837. S. 7

[35] Гл.: Dzeila Franciszka Dyonizego Kniaznina. T. II. Warszawa, 1828. S. 32.

[36] Гл.: Skrzydlata Polska. 1984. № 6.

паэму «Паветраны шар, ці Пулаўскія вечары», якую прысвяціў княжне Марыі Чартарыйскай[37].

Леан Дэмбоўскі пісаў пра абставіны шлюбу сваёй маці Канстанцыі Нарбут: *«Мая маці была прыгожая і стройная, мела вялікі поспех, але найбольш для яе значыла, што яна змагла знайсці сяброўства сваіх дабрачынцаў, і сяброўства было заснаванае на павазе і схільнасці сэрца, якая засталася нязменнай аж да смерці»*. Калі ў 1784 г. князёўна Марыя Чартарыйская выйшла замуж за Людвіка, князя Вітэнбергскага, роднага брата будучай рускай царыцы (жонкі будучага імператара Паўла I, у той час вялікага князя, і маці будучага цара Аляксандра I), князь Людвіг быў на службе ў Прусіі, і таму ёй давялося пакінуць айчыну. Яе сяброўкай заўсёды была Канстанцыя Нарбут. Яны разам нейкі час жылі ў Берліне. Дэмбоўскі працягваў: *«Манархам тады быў Фрыдрых II — вялікі знаўца і аматар жаночага полу. Падчас гэтага знаходжання ў Берліне Канстанцыя пазнаёмілася з афіцэрам прускай гвардыі графам Чакам (Chack) і разбіла яго сэрца сваёй прыгажосцю. Калі маладыя жанчыны вярнуліся ў Варшаву, за імі прыехаў і закаханы граф Чак. Пайшла чутка, што вяселле графа і Канстанцыі — ужо вырашаная справа. Нават кароль Станіслаў узяў прускага графа пад сваю пратэкцыю. Канстанцыя была не супраць, перспектыва стаць графіняй, багатай і ўплывовай жанчынай ёй спадабалася. Аднак у Сукурчах перспектыва вяселля з прусаком не выклікала захаплення. Лідскі падкаморы сказаў, што свайго дазволу не дасць, пакуль немца не пазнае. З такіх далёкіх краёў, казаў ён, і хто яго там ведае, граф або не граф, а можа, галыш які? Зрэшты дадаваў: "Ці ж мор на літвінаў, каб панну за немца выдаваць?" З думкай падкаморага была згодная лідская шляхта, якая нястомна гасцявала ў Сукурчах і выносіла меркаванне па ўсіх пытаннях. Дарэмна лідская падкаморава, маці Канстанцыі, стаўшы на бок дачкі, казала, што князёўна Масальская была выдадзеная за нейкага француза (князя дэ Лігнэ), а Радзівіл пайшла за расейца Ферзена, тое самае зрабіла і Бжастоўская, — ніхто яе не падтрымаў. Выданне дачкі замуж за*

[37] Фрагменты:

[…] Kto by się kiedy tej spodziewał myśli,
Żebyśmy mieli po powietrzu latać?
Ku temu już ludzie na ostatek przyśli,
Że się dziś mogą z ptakami pobratać.
Cudowną Banię pióro me okryśli,
Jak ma wybujać i wiatry zamiatać.
Śpiewam tę Radę co ją budowała:
Dowcip tu pracą i nagrodą chwała.

[…] Lecz co zna dobrze świat stary i nowy,
Co myśli pięknie i co gładko pisze:
Z temi się ozwie **Kliodora** słowy:
Przezacne siostry, baczni towarzysze,
Czegoż to ludzkie nie wymyślą głowy?
Nowych klęsk sobie szukają, jak słyszę.
Ej, niebezpieczne z powietrzem frymarki:
Wieluż to z niego postrącało karki!

[…] Otóż i bania idzie znamienita,
Czterema poważnie wzniesiona ramiony,
Lud ją okrzykiem i klaskaniem wita,
We dwa szeregi dla niej ustawiony.
Kępa pospólstwem jak mrowiem okryta,
Pełne są chłopców dęby i jesiony.
Filusia każdy z nich oglądać drze się,
Co go na barkach **Kliodora** niesie.

*немца здавалася шляхце незразумелым horrendum* (жахам, лац. — *Л. Л.*)*, а каралеўская пратэкцыя тлумачылася дрэннай звычкай манарха да іншаземцаў. Калі розгалас пра меркаванае вяселле разышоўся па Літве, прыехаў ваявода Хмара і абвінаваціў падкаморага і пана Валадковіча, бо астатні Канстацыю за свайго сына меціў»*[38]. Канстанцыя адмовіла немцу, сказаўшы, што ніколі замуж за чужаземца не пойдзе. «*Немец быў шчыра закаханы і ўпаў у меланхолію, хацеў пакончыць жыццё самазабойствам, але час, які ўсё лечыць, залячыў і гэтую рану»*[39]. У той жа год пасля Валадковіча заявіў аб жаданні дамагацца Канстанцыі палкоўнік, а пазней генерал Арлоўскі, які меў пратэкцыю князя Чартарыйскага. Карыстаючыся пасярэдніцтвам Залеўскага, войскага ВКЛ, ён звярнуўся да лідскага падкаморага. Але падкамораму не спадабалася і гэтая партыя. Дэмбоўскі пісаў: «*Слынны потым, а ў той час афіцэр інжынер Юліян Урсын Нямцевіч наўпрост звярнуўся да падкаморага, аднак падкаморы, які быў pater difficultatum, калі пра лёс ягоных дачок справа ішла, адмовіў і яму. Арлоўскаму — таму, што стары, Нямцэвічу — таму, што малады!»*. З ліста падкаморага да дачкі: *«Ад нейкага часу часта перапісваюся з панам Нямцэвічам. Малады чалавек, піша добра, але малады. Каму ж вядома, што з яго будзе? Вядома Богу, а я не прарок. Хто можа прадбачыць, што з яго вырасце? Высокі дуб ці крывы глог? Бачу, што жывы як агонь, а ці не будзе занадта запальчывы?»*. Прыхільнікам Канстанцыі лічыўся і слынны паэт Шыманоўскі.

Аднак усе гэтыя прыгоды скончыліся тым, што Канстанцыя выйшла замуж за ротмістра кавалерыі нарадавой Дэмбоўскага. Шлюб адбыўся ў Пулавах 29 снежня 1786 г. У наступным годзе княгіня Чартарыйская выбралася ў вандроўку па Еўропе з мэтай заканчэння адукацыі старэйшага сына Адама. Канстанцыя паехала разам з княгіняй. У Парыжы яны спыніліся ў гатэлі «Палац Раял», які быў уласнасцю прынца Арлеанскага (у гатэлі тады жыў надворны маршалак Ржэвускі, старэйшы брат польнага пісара Казіміра Ржэвускага). З Канстанцыяй быў у якасці прыслугі казачок, які ні слова не разумеў па-французску, але кожны вечар разгульваў па гатэлі. За ім хадзілі натоўпы цікаўных французаў, бо яны прымалі казачка за кітайца. У канцы 1787 г. Канстанцыя вярнулася з Парыжа на дзявятым месяцы цяжарнасці, і праз 3 дні ў яе нарадзілася дачка Цэцылія. А 16 кастрычніка 1789 г. у Пулавах нарадзіўся сын Леан[40].

Княгіня прадоўжыла падарожнічаць па Еўропе разам Аляксандрай. З канца снежня 1787 г. Аляксандра разам з Ізабэлай Чартарыйскай была ўжо ў Берліне. *«Княгіня напрыканцы снежня прыязджае ў Берлін. Ужо памёр Фрыдрых Вялікі, але адносіны* (да Чартарыйскай. — *Л. Л.*) *за два гады не змяніліся, і вельмі добры прыём княгіні ў Берліне нельга было зразумець без уліку палітычнай сітуацыі. Кабінет міністраў і каралеўскі двор Берліна ў гэты час спрабаваў здабыць папулярнасць у Польшчы і давер партыі, да якой належаў муж княгіні»*[41]. На жаль, знайсці дакладную інфармацыю пра выбранне Аляксандры Нарбут сябрам Акадэміі навук у Берліне на пасяджэнні 19 студзеня 1788 г.

[38] Dembowski Leon. Moje wspomnienia. Petersburg, 1898. T. I. S. 9–11.

[39] Dembowski Leon. Moje wspomnienia. Petersburg, 1898. T. I. S. 12.

[40] Dembowski Leon. Moje wspomnienia. Petersburg, 1898. T. I. S. 13.

[41] Puławy (1762–1830). Monografia z życia towarzyskiego, politycznego i literackiego na podstawie archiwam ks. Czartoryskich w Krakowie. Opracował Ludwik Dębicki. Lwów, 1887. T. 1. S. 255. «W towarzystwie księżny była panna Aleksandra Narbuttówna, młodsza siostra pani Dembowskiej i równie jak ona wychowanica Puław…. przybywa księżna z końcem grudnia do Berlina. Tu już nie żył Fryderyk Wielki, ale stosunki na dworze przed dwoma laty zawiązane, nie uległy zmianie, owszem na dobre przyjęcie księżny nie była może bez wpływu sytuacya polityczna. Wszak gabinet i dwór berliński starał się w tej właśnie porze obradującego sejmu jednać sobie popularność w Polsce i zaufanie stronnictwa, do którego mąż księżny jenerałowej należał».

не ўдалося, але можна выказаць здагадку, што гэтае абранне было дэманстрацыяй павагі да Чартарыйскіх, прызнанне іх сістэмы адукацыі і таленту іх выхаванкі. У значна больш знакамітай Французкай акадэміі (у ёй акадэмікам плацілі неблагія грошы) за 90 гадоў да абрання Аляксандры Нарбут у акадэмію з разлікам на перспектыву і з павагі да бацькі былі прынятыя сямнаццацігадовы сын знакамітага астранома Касіні — Жак, а таксама ягоны пляменнік Джакама Маральдзі[42].

Берлінская акадэмія, арганізаваная Лейбніцам на пачатку XVIII ст., перажыла занепад пры «салдацкім каралі» Фрыдрыху Вільгельму І (1688–1740). Пасля яго смерці, пры Фрыдрыху ІІ, фінансаванне акадэміі было значна палепшана, яна была пашыраная і забяспечаная лабараторыяй, для ўдзелу ў кіраванні акадэміяй былі запрошаныя першакласныя навукоўцы. І, такім чынам, к XIX ст. Пруская акадэмія была ўжо аўтарытэтнай навуковай установай.

Сямейнае жыццё князёўны Марыі не атрымалася. Нейкі час яна разам з Канстанцыяй жыла ў Варшаве ў кляштары сакраментак, чакаючы разводу з Людвігам Вітэнбергскім. Пасля разводу яны абедзве з'ехалі ў Сянявы — уласнасць князёў Чартарыйскіх, дзе іх чакала Аляксандра Нарбут з сваімі двума пляменнікамі. Леан Дэмбоўскі з гумарам апісваў цётку: *«Мая цётка мела слабое здароўе, але была дзіўна экзальтаванай жанчынай. Умела добра маляваць і любіла займацца жывапісам. Аднак я нічога іншага ў яе на мальбертах не бачыў, як толькі малюнак мора пры заходзе сонца. Купідон на лодцы адплываў, а нявеста на беразе, абапіраючыся на якар, з прагай працягвала да яго рукі. Гэтым купідонам для панны Аляксандры быў стары палкоўнік Цясельскі. Гіменей скончыў нарэшце тыя доўгія амуры* (Аляксандра выйшла замуж за палкоўніка ў 1800 г. — *Л. Л.*), *і з'явіўся новы прадмет для мастацтва: два сэрцы гараць на алтары, каля якога ў маўчанні ляжыць абсыпаны кветкамі Купідон. Таксама ў Сяняве ў сваім садзе яна разводзіла велізарных птушак — соў — і мела для іх дзевяць вымураваных фрамуг, у якіх вялікія і маленькія совы парабілі сабе гнёзды»*[43].

У сясцёр у Сянявах бываў Касцюшка і ў адно з наведванняў падарыў ім свае ордэнскія стужкі[44]. А 28 кастрычніка 1792 г. генерал пасля таго, як выйшаў у адстаўку, нязгодны са здрадніцкай палітыкай караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, прыехаў у Сянявы на дзень св. Тадэвуша (адзначаецца 28 кастрычніка). Гнанаму генералу былі наладжаныя ўрачыстыя імяніны. На ягоную галаву быў ускладзены вянок, сплецены з галінаў дуба, пасаджанага ў XVII ст. уласнаручна каралём Янам Сабескім пасля перамогі над туркамі пад Венаю. Пры гэтым у гонар героя прагучаў верш «Генералу Касцюшку ў дзень ягоных імянінаў у Сяняве»[45].

Аляксандра Нарбут удзельнічала ў працы Гарадзенскага сейма. Ю. Крашэўскі ў працы «Польшча падчас трох падзелаў, 1772–1799» пісаў аб прыездзе «*панны Нарбутоўны з княжной Радзівілавай на сойм у Гародню 1793 г.»*[46]. І на сойме губернатарам Літвы

---

42 Гл.: Копелевич Ю. Х. Возникновение научных академий. Середина XVII — середина XVIII в. Ленинград, 1974. С. 98.

43 Dembowski Leon. Moje wspomnienia. Petersburg, 1898. T. I. S. 16–17.

44 Гл.: Dembowski Leon. Moje wspomnienia. Petersburg, 1898. T. I. S. 19.

45 Бензярук Анатоль. Касцюшкі-Сяхновіцкія. Гісторыя старадаўняга роду. http://kamunikat.fontel.net/www/knizki/historia/bienziaruk/kasciuszki/05.htm

46 Kraszewski Józef Ignacy. Polska w czasie trzech rozbiorow, 1772–1799: studya do historyi ducha i obyczaju Warszawa, Nakl. Gebethnera i Wolffa, 1903. T. 3. 1791–1799, S. 308. «…Pięknością odznaczały się, podskarbina litewska Ogińska, hr. Potocka, kasztelanowa Ożarowska, księżna Czetwertyńska, baronówna Heiking, panna Narbutt przybyła z księżną Radziwiłłową, i wiele innych. Mnóstwo panien szukało mężów na tych ruinach. Była to chwila, gdy z Francyi przybyły mody greckie, suknie przezroczyste, podpinane, wdzie-

расейскім генералам Рапніным, «*нягледзячы на стары ўзрост, кіравала прыгожая і разумная панна Нарбутоўна са сваім бацькам, пра што ўсе казалі ўголас, і ён* [Рапнін] *часам быў настолькі чалавечны, што менавіта ў гэтыя гады… яго пахваліў Карпінскі»*[47].

Пра Аляксандру і Войцеха Нарбутаў на Гарадзенскім сейме пісаў і Рэймант[48]. Але ён замест «Нарбутоўна» (Narbuttówa) пісаў «Нарбутова» (Narbuttowa), відавочна, палічыўшы Аляксандру і Войцеха Нарбутаў мужам і жонкай.

Гаротны лёс Рэчы Паспалітай Аляксандра не змяніла, але відаць, што гэтыя адносіны адгукнуліся старому расейцу падчас знаходжання на Лідчыне ўжо пасля падзелу краіны. У той час сярод лідскай шляхты была пашыраная гульня, калі шляхціцы ў залежнасці ад таго, хто галоўны ў сям'і, дзяліліся на «войска Лясковіча» і «войска Валёвай». Справа ў тым, што ў Лідскім павеце быў заможны стараста Валь, уладар Ішчалны, Голдава і іншых вялікіх гаспадарак. Ён ужо у сталым веку ажаніўся з паннай з Шукевічаў і быў ў яе так закаханы, што перад шлюбам апісаў на жонку ўсю сваю маёмасць. Пані Валёва была досыць энергічнай жанчынай і праз некаторы час самастойна кіравала не толькі маёнткам, але і асобай мужа, пра існаванне якога ўсе пачалі забывацца, бо ў размовах упаміналі толькі пані Валёву. Аднаго разу, калі ў маёнтку былі госці, Валь некалькі разоў паспрабаваў падтрымаць гутарку, аднак адна з госцяў цішком запыталася ў Валёвай: «Як завуць гэтага старога, напэўна, гэта эканом пані?» І тая, пачырванеўшы, працадзіла скрозь зубы: «Гэта мой муж». Сястра ж пані Валёвай была замужам за Каралем Лясковічам. Лясковіч быў чалавек небагаты, але меў добры розум і моцную волю. Сваёй жонкай кіраваў дэспатычна. Прыкладна гэтак жа, як Валь у жонкі, яна не мела аніякага голасу. Абедзве пары жылі разам, бо Лясковіч быў давераным асобай Валёвай і займаўся яе гаспадарчымі справамі. Кароль Нарбут, лідскі крайчы і земскі пісар, будучы чалавекам вясёлага характару, падзяліў сваіх жанатых землякоў на два войскі: «войска Валёвай» і «войска Лясковіча». Усе мужчыны, якія былі пад абцасам у жонак, і тыя, якія паслухмяна выконвалі жаночыя загады, адносіліся да афіцэраў «войска Валёвай». Нарбут дзеля смеху, выпісваў патэнты ў гэтыя «войскі».

У 1796 г. расейскі фельдмаршал Рапнін пачаў будаваць дарогі ў Літве, у тым ліку і з Ліды на Гародню[49], і, верагодна, таму гасцяваў у Лідзе. Старога зацікавілі чуткі пра незвычайныя лідскія войскі. Аднойчы на балі ў вёсцы Перапечыца Рапніна пазнаёмілі з крайчым Нарбутам. Падчас знаёмства Рапнін сказаў: *«Я з'яўляюся фельдмаршалам*[50] *расейскай арміі і меў бы задавальненне даведацца пра той тытул, які я мог бы мець у войску, створаным панам Нарбутам»*. На што Нарбут адказаў: *«Гэта будзе залежыць ад заслуг Вашай княжацкай светласці, заўважаных на адпаведным полі славы, прызначаным выключна для гэтых войскаў»*. Праз нейкі час дамы намовілі княжну Рапніну

wane bez koszuli, obnażone nóżki pierścieniami okryte… Markiza Lullie, jakoby emigrantka francuzka, znakomitej rodziny, pierwszą się zjawiła w Warszawie w tym stroju… stan natury przypominającym. W Grodnie równie ją, jak jej brylanty wielbiono».

47 Kraszewski Józef Ignacy. Polska w czasie trzech rozbiorow, 1772–1799: studya do historyi ducha i obyczaju Warszawa, Nakl. Gebethnera i Wolffa, 1903. T. 3. 1791–1799, S. 606. // «Stary Repnin, którym, pomimo wieku rządziła piękna panna Narbuttówna i zręczny jej ojciec, o czem głośno mówiono, okazywał się czasami tak ludzkim, że — właśnie w tych latach, jako wielce dobroczynną istotę opiewał go — Karpiński…».

48 Гл.: Reymont Władysław. Ostatni Sejm Rzeczypospolitej. S. 48.185. http://www.pbi.edu.pl/book_reader.php?p=1931

49 Szymielewicz Michał. Białohruda // Ziemia lidzka. Kwiecień, 2001 r. Nr 2(45).

50 Імператар Павел 18 лістапада 1796 г. прысвоіў 62-гадоваму Рапніну чын генерал-фельдмаршала, а ў 1798 г. звольніў яго са службы. Гэта таксама дазваляе датаваць падзеі ў Перапечыцы 1796–1798 гг.

падысці да мужа, які гуляў у карты, і палашчыць яго па твары, што яна і зрабіла. Прайшло некалькі хвілін, і камердынер прынёс вялікі запячатаны пакет, які падаў князю. Рапнін неадкладна адкрыў пакет і знайшоў у ім патэнт на чын падхарунжага «войска Валёвай». Задаволены, ён, схаваўшы гэты патэнт, сказаў, што далучыць яго да іншых сваіх патэнтаў з вайсковымі тытуламі і ўзнагародамі[51]. Думаю, што будзе карэктна выказаць здагадку аб тым, што лідскі крайчы Нарбут такім чынам нагадаў Рапніну пра ягоны ўдзел у падзеле Рэчы Паспалітай і захапленне Аляксандрай Нарбут.

За ўдзел у паўстанні Касцюшкі ў 1794 г. у Дэмбоўскіх былі канфіскаваныя ўсё маёнткі на Украіне, і Чартарыйскія падаравалі ім невялікі фальварак Пожуг за адну мілю ад Пулаў. Увесну 1800 г. Канстанцыя Дэмбоўская з мужам прыехала жыць у гэты фальварак, куды схаваліся ад расейцаў і ўсе астатнія з Нарбутаў. З 1796 г. тут ужо жылі *«дзве сястры маёй маці — панны Аляксандра і Тэкля, брат Войцех Нарбут… Панна Аляксандра хутка выйшла замуж за палкоўніка Цясельскага і пераехала да яго ў Самокленскі (недалёка, на ўсход ад Пулаў)»,* — пісаў Леан Дэмбоўскі[52]. Такім чынам, у 1800 г. Аляксандра выйшла замуж за Станіслава Цясельскага (Stanisław Ciesielski, 1750–1823) і стала Аляксандрай Цясельскай. *«Палкоўнік Цясельскі — стары з "салодкім" характарам, моцна ўлюблёны ў батаніку, пэўны час быў наглядаў за адукацыяй сыноў князя. Ва ўзнагароду за ягоныя заслугі князь пажыццёва аддаў яму прыгожы фальварак Самокленскі, каштоўны больш не зямлёй, а вялікімі і прыгожымі лясамі. Нягледзячы на тое што ўладанне фальваркам было толькі пажыццёвым, Цясельскі пабудаваў там ладны мураваны дом, заклаў вялікую аранжарэю і сад з рэдкімі раслінамі. На рэчках пабудаваў шлюзы, паставіў млын, тартак, заснаваў вёску Сыры, дагледаў лясы. Пасля яго Самокленскі падвоілі свой сабекошт»*[53].

Менавіта ў Самокленсках прайшлі апошнія гады жыцця Аляксандры. Памерла яна ў 1803 г., і, верагодна, пахавана недзе недалёка ад фальварка мужа.

Аляксандра Нарбут была часткай інтэлектуальнай эліты Рэчы Паспалітай і пасля таго, як гэтай дзяржавы не стала, пачала жыць прыватным жыццём. Жанчына-акадэмік была добра вядомая сваім сучаснікам і даследчыкам першай паловы XIX ст., але ў наш час засталася невядомай нават для сваіх землякоў. Нараджаюцца і сыходзяць у нябыт дзяржавы, але памяць пра першую і адзіную ў гісторыі горада Ліды жанчынуакадэміка павінна жыць.

*Леанід ЛАЎРЭШ*

[51] Гл.: Narbutt Miron Bronisław. Armije małżeńskie // Ziemia lidzka. 2002. № 1(48).

[52] Dembowski Leon. Moje wspomnienia. Petersburg, 1898. T. I. S. 40.

[53] Dembowski Leon. Moje wspomnienia. Petersburg, 1898. T. I. S. 100–101.

# ПРА «ПАПА-СХІЗМАТЫКА» І РУСКУЮ ІМПЕРАТРЫЦУ

Пачнем здалёк.

У 1757 г. на Афоне пачалася пабудова пустэльні старцам Паісіем Велічкоўскім. Разам са сваімі вучнямі ён марыў аднавіць кіновію — хрысціянскую манастырскую камуну, форму сумеснага жыцця манахаў, зніклую на той час у святых месцах. У пустэльні, якая атрымала назву Ільінскай, Паісій запачаткаваў пераклад кніг — знакамітага Дабраталюбія.

Пустэльня карысталася папулярнасцю, да яе далучаліся новыя манахі, у Расійскай імперыі былі заснаваныя тры падворышчы — у Таганрогу, Адэсе і Канстанцінопалі. А напрыканцы XIX ст. манахі там распачалі выданне «Афона-Ільінскіх лісткоў».

Першы нумар гэтага даволі рэдкага сёння выдання датаваны 1896 годам. Чатырохстаронкавыя «лісткі» належалі да масавай літаратуры павучальна-асветніцкага характару і змяшчалі самыя розныя творы: ад народных лубочных апавяданняў да малітваў Мікалая Гогаля.

«Лісток», які цікавіць нас, пазначаны 1901 годам, том V, нумар 9, надрукаваны ў Адэсе з блаславення Ільінскай пустэльні і дазволу маскоўскага цэнзара. А цікавіць таму, што мае самае непасрэднае дачыненне да беларускай гісторыі: аповед Ф. Серна-Салаўевіча[1] — пра сустрэчу свайго продка з Кацярынаю II.

*Ф. Ф. Серно-Соловьевич*

**Царская милость Императрицы Екатерины Великой**

Из семейных преданий

(По поводу 100-летия со дня кончины Матери Отечества)

В 1792-м году праздник Святой Пасхи Императрица Екатерина II встретила в Варшаве, где тогда гостила у последнего короля Польши, накануне её падения, Станислава Августа Понятовского.

По окончании пасхальной заутрени русская Императрица, придерживаясь старинного обычая русских царей, изъявила желание посетить узников, томившихся в варшавской цитадели-каземате. Обходя коридоры и раздавая дары свои заключённым, Императрица услышала пение пасхального канона; с нижнего этажа до слуха её донеслись звуки ирмоса «сей наречённый и святый день» старинного знаменнага напева.

— Кто это поёт? — спросила Императрица сопровождавших её адъютантов короля.

— Поп-схизматик из Литвы, — отвечал тюремщик.

— Проведите меня к нему.

— Но он сумасшедший.

— Я желаю его видеть.

— Но он не заслуживает такой высокой чести: он политический преступник.

— В таком случае я скажу королю, что мне отказывают здесь в удовлетворении моего христианского долга, — строго заметила Императрица.

Нехотя королевская свита приказала тюремщику вести их с Императрицей в камеру «попа-схизматика». Спустились в тёмный подвальный этаж, отперли железный засов у дверей камеры, и пред глазами Императрицы предстал седой старец в рубище.

— Вы православный священник?

[1] Ф. Серна-Салаўевіч — краязнавец, западнарус, аўтар-укладальнік кнігі «Древнерусский город Слуцк и его святыни: Исторический очерк» (Вильно, 1896).

— Да, я священник российско-греческого исповедания, из города Слуцка.

— В таком случае благословите меня, батюшка.

Узник-старец благословил дрожащей рукой высокую свою гостью и хотел было поклониться ей в ноги, но Императрица его удержала.

— Вы знаете, кто я?

— Догадываюсь, что предо мною Великая Православная Царица Екатерина.

— Давно вы, батюшка, находитесь здесь?

— Это мне менее, чем кому-либо другому, известно. Кажется, я ничего худого не сделал своему несвижскому князю Карлу Радзивиллу, по требовании которого был отправлен от своей паствы и родной семьи, схвачен как разбойник, заключён в кандалы и отвезён из Слуцка в несвижский замок, где меня без всякого допроса продержали два года, а потом пешего, под конвоем, в ножных кандалах отправили в Варшаву, бросили вот в эту камеру, в которой томлюсь уже 30 лет.

— Семья у вас, батюшка, есть?

— Была, а есть ли она на свете теперь — не ведаю: ни она ничего обо мне не знает, ни я о ней.

— Я сегодня же поговорю о вас, батюшка, с королём и надеюсь сегодня же видеть вас на свободе у себя во дворце. До свиданья!

— Господь воскресший да благословит тебя, царица! — растроганно произнёс старец, когда Императрица вновь испросила его благословения.

По уходе Императрицы в камеру узника вскоре явились служители, принёсшие ему обильный завтрак со стола русской Государыни, а затем офицер пришёл с двумя лакеями, принёсшими старцу бельё, обувь, платье и полное священническое одеянье, т. е. подрясник, рясу и шляпу.

В полдень «поп-схизматик» уже бодро шёл во дворец на зов Императрицы Екатерины II. Будучи окружён высоким вниманием к нему со стороны свиты, как духовному православному пастырю, старец был введён в покои Императрицы, которой хотел было опять земно поклониться.

— Я, батюшка, должна кланяться вам в ноги, чтобы вы простили меня: я виновата пред вами тем, что вы невинно до сих пор томились в одиночном заключении. Я всё узнала. Вы заключены были сюда за свою преданность Православной церкви, за то, что удерживали от совращения в унию; вас и оклеветали иезуиты пред князем Радзивиллом, будто бы вы обобрали свою приходскую Георгиевскую церковь в Слуцке. Теперь вы совершенно свободны и можете беспрепятственно возвратиться в свой родной Слуцк, к своей семье. Сделала распоряжение, чтобы вас отвезли в Слуцк в удобном экипаже на тройке лошадей, как подобает вашему сану и вашим преклонным годам. А от меня прошу принять прогоны.

Императрица взяла со стола пачку ассигнаций, протянула её старику, но тот уже был у ног её.

— Батюшка, вам и по церковным правилам сегодня нельзя полагать земных поклонов пред Престолом Царя Небесного. Встаньте! — и сама подняла его за руки.

— Царица! Ты так облагодетельствовала меня — старика, что я не могу словами передать те чувства, какие теперь волнуют моё сердце. Будь же ко мне ещё раз милостива, дай своё царское слово исполнить мою первую и последнюю просьбу; она вполне удобоисполнима и ничего противозаконного в себе не заключает.

— Наперёд даю слово, хотя и не знаю, в чём заключается ваша просьба.

— Не надо мне ни экипажа, ни лошадей; позволь мне пешему, с котомкой за плечами, идти к себе на родину, чтобы по дороге прославлять имя Великой и Славной Милостивой нашей Царицы Российской Екатерины II! Меня сюда вели в неволе в ручных и нож-

ных кандалах; здесь я сидел 30 лет взаперти; ноги мои желают теперь ходить; мало того, я буду весело идти, как ветхозаветный царь Давид перед сенным ковчегом, радуясь его возвращению; я же обрадован своим воскрешением, своею свободой и твоими великими царскими милостями… Позволь старику идти к себе домой пешью!

— Охотно разрешаю, но боюсь, что далёкий путь будет не под силу вашим старческим ногам. Собирайтесь же в путь сегодня же и зайдите ко мне на прощанье.

В два-три часа сборы были кончены, и «поп-схизматик» с котомкою за плечами, предстал вновь пред Императрицею.

— Православному пастырю подобает иметь приличный посох, а потому прошу вас, батюшка, принять от меня на память эту трость.

Императрица подала священнику высокую, толстую, тяжеловесную камышевую трость с серебряно-вызолоченным набалдашником, на котором были вырезаны инициалы И. И. М. С. (иерей Иоанн Максимович Серно-Соловьевич).

Так щедро одаренный и обласканный Императрицей тридцатилетний узник отправился пешком из Варшавы в Слуцк, нынешний уездный город Минской губернии. По пути он остановился для отдыха у одного дерева в стороне от почтовой дороги. Снял с себя котомку, а трость поставил у дерева. Когда развязывал котомку и доставал оттуда съестное, задел рукою трость, та упала и издала особый звон. Старик стал её осматривать. Набалдашник привинчивался к верху трости, и когда он его снял, то из трости посыпались червонцы. Оказалось, что сердцевина камыша была вынута, и вся трость внутри до половины была заполнена червонцами, сложенными столбиком.

Так щедро одарила русская царица невинно пострадавшего православного пастыря! Последний благополучно добрался до Слуцка в дом своего сына Сампсона, который настоятельствовал при Георгиевской церкви и благодаря которому три младшие сына окончили курс, два в Киевской духовной академии, а третий в Слуцкой духовной семинарии. Что Императрица Екатерина Великая не забыла и потом «попа-схизматика из Литвы», можно судить по тому, что старший сын его, протоирей и благочинный Слуцких церквей Сампсон Иоаннович Серно-Соловьевич, имея только скуфью, был награждён Императором Павлом, за именным Высочайшим указом, *золотым наперсным крестом,* — награда, которую и ныне имеют редкие из кафедральных протоиереев.

Этот «поп-схизматик» был мой прадед, и трость, пожалованная ему Императрицей Екатериной II, до сих пор сохраняется в потомстве моего старшего дяди, покойного брестского протоиерея Василия Сампсоновича Серно-Соловьевича, — конечно, уже без червонцев, но с серебряно-вызолоченным набалдашником, а золотой крест деда Сампсона Иоанновича — у минского кафедрального протоиерея Георгия Иоакимовича Тарнопольского, женатого на его внучке от старшего сына протоиерея Константина Сампсоновича Серно-Соловьевича, помощника попечителя С.-Петербургского учебного округа, умершего 2 февраля 1871 года.

*Лявон ЮРЭВІЧ*

таго, на яе старонках друкаваліся лісты Тавянскага, літаратурныя творы тавянчыкаў (напрыклад, верш Юльюша Славацкага *«Так дапамажы мне, Божа (Tak mi Boże dopomóż)»*) і да т. п.[29].

І ўвогуле, прапаганда справы Тавянскага пачалася ў «Нацыянальнай газеце» з самага пачатку яго публічнай дзейнасці. У № 28 ад 9 кастрычніка 1841 г. цэлая паласа ў раздзеле «Хроніка» была аддадзеная апісанню першага публічнага выступлення Тавянскага ў Парыжы перад эміграцыяй 25 верасня 1841 г. Пры гэтым апісанне набажэнства, што адбывалася ў саборы Парыжскай Божай Маці, было папярэджанае аб'ёмным артыкулам Міцкевіча, у якім Тавянскі называецца не інакш, як *«Пасланнік* (вялікая літара ў арыгінале. — *Д. М.*) *са словам радасці, што Усёмагутны і Міласэрны без межаў злітаваўся над бедным светам і найбяднейшай у ім нашай айчынай»*. Увесь артыкул паказвае Тавянскага як прарока на зямлі. Тут жа была надрукаваная яго прамова на гэтым мерапрыемстве (хоць і са скарачэннямі), якая заканчвалася апісаннем сцэны пасля яе: *«Пры гэтых словах, прамоўленых узнёслым, поўным узрушання галасам, прамоўца, заліты слязьмі, апусціў галаву, а калі праз хвіліну ўзняўся і падняў вочы дагары, яго аблічча свяцілася радасцю падзякі Найлісцівейшаму Госпаду»*. Адразу трэба зазначыць, што «Нацыянальная газета» была адзінай, што апісвала Тавянскага ў такіх узнёслых тонах. Усе астатнія аўтарытэтныя выданні эміграцыі *(«Белы Арол (Orzeł Biały), «Трэці Травень (Trzeci Maj)», «Польскі Дэмакрат (Demokrta Polski)»)* ацэньвалі ўсё мерапрыемства і заключную сцэну значна больш скептычна[30].

Аднак пратавянісцкая скіраванасць «Нацыянальнай газеты», закладзеная яго галоўным рэдактарам, з'яўлялася своеасаблівай бомбай запаволенага дзеяння, якая раней ці пазней павінна была выбухнуць. Падстаў для гэтага было некалькі. Па-першае, сам Плятэр заўжды быў схільны да традыцыйнага каталіцтва. Нават у першым нумары «Газеты» ў раздзеле, дзе абвяшчалася палітычная праграма новага выдання, сцвярджалася: *«Каталіцкую рэлігію мы лічым самай галоўнай падставай польскай нацыі, стойкасць у ёй — гарантыяй нацыянальнага існавання»*[31]. Тавянскі жа з самых першых сваіх выступленняў пачаў разыходзіцца па некаторых пазіцыях з каталіцкай традыцыяй і ў эміграцыі разам са сваімі прыхільнікамі заслужыў сабе сталую рэпутацыю *«ерэтыка»*[32]. Па-другое, Плятэр на працягу ўсяго часу эміграцыі з'яўляўся не толькі выдаўцом, але і палітычным дзеячам. Таму сувязь, хоць і ўсяго толькі праз тон яго газеты, з сектай Тавянскага, якая пераважнай большасцю эмігрантаў успрымалася негатыўна і ўвесь час служыла аб'ектам для крытыкі і насмешак, кідала цень на яго палітычную рэпутацыю. Усё гэта вымусіла Плятэра вырашаць двухсэнсоўнасць сітуацыі праз змену рэдактара «Газеты» і кардынальнае змяненне яе адносінаў да тавянізму. Як пісаў шмат гадоў пазней сын Міцкевіча Уладзіслаў, *«Уладзіслаў Плятэр і гэтае выданне зацягнуў у хор, што праклінаў Міцкевіча»*[33].

1 красавіка 1843 г. у Плятэра адбыўся сход, прысвечаны абмеркаванню ўчынка Тэафіла Мірскага[34] і напісанню пратэстацыйнага адраса, у якім удзельнічаў і Міц-

---

[29] Dziennik Narodowy. T. 1–2. 1841–1843. № 28, 37, 65–68, 70, 78–79, 82, 94 і інш.

[30] Orzeł Biały. № 45. 25 września 1841; Demokrata Polski. 30 września 1841. S. 89–91; Trzeci Maj. 29 września 1841.

[31] Dziennik Narodowy. № 1. 1 kwietnia 1841. S. 1.

[32] Dziennik Narodowy. № 105. 6 kwietnia 1843. S. 423. Гл. таксама дадатак І.

[33] Mickiewicz W. Żywot Adama Mickiewicza… T. 3. S. 178.

[34] Пра ўчынак Т. Мірскага гл. ніжэй.

кевіч[35]. Ён выступіў з эмацыйнай прамовай, у якой абараняў вучэнне Тавянскага. Усё мерапрыемства было апісанае ў другім нумары за трэці год выхаду «Газеты» (№ 105 ад 6 красавіка 1843 г.), і змяненне яе тону ўжо становіцца відавочным. Артыкул *«Пра цяперашні рух розумаў»* прысвечаны амаль выключна крытыцы вучэння Тавянскага. Пачынаючы з гэтага часу і да канца выхаду «Газеты» на яе старонках у светлых тонах будзе маляваецца іншы прэтэндэнт на лідарства ў духоўным жыцці эміграцыі — Згуртаванне ўваскрэшанцаў (Zgromadzenie Zmartwychwstańców), якое свята трымалася каталіцкай традыцыі і за сваю адданасць каталіцтву нават заслужыла рэпутацыю *«польскіх езуітаў»*[36]. У згаданым артыкуле пісалася, што адзін з уваскрэшанцаў, ксёндз Пётр Семяненка[37], які азнаёміўся з праграмным творам Тавянскага *«Бяседа* (*Biesiada*)*»*, дзе ён выклаў асноўныя палажэнні свайго вучэння, і асабіста паразмаўляў з ім, *«пераканаўся, што вучэнне Тавянскага цалкам супярэчыць вучэнню каталіцкай рэлігіі, што супярэчыць ад пачатку і да канца ўсім догматам, ад першароднага граху і аж да вечных пакутаў. Супярэчыць Выкупленню, Таямніцы Увасаблення, Боскасці Хрыста, Уваскрэшанню целаў і Апошняму Суду»*. Таксама ў артыкуле згаданы і Міцкевіч, які публічна *«скардзіўся на тое, што "Нацыянальная газета" лічыць "ерэтыкамі" прыхільнікаў спадара Тавянскага»*[38]. З гэтага часу адносіны паміж Плятэрам і Міцкевічам змяняюцца на непрыхаваную непрыязнасць, і адкрытая сварка паміж імі застаецца толькі пытаннем часу.

Да гэтага спрычыніўся і яшчэ адзін крок Плятэра. У красавіку 1843 г. у двух нумарах «Газеты» выйшла «Бяседа» Тавянскага[39]. Тады яна ўжо мела факсімільнае выданне, аднак была прызначаная выключна для прыхільнікаў Тавянскага і распаўсюджання ім асабіста. Ні сам Тавянскі, ні хто-небудзь з яго секты ніколі не меў намеру выдаваць яе для ўсеагульнага азнаямлення. З пункту ж гледжання Плятэра, такая публікацыя рабілася не для прапаганды новага вучэння, а з зусім адваротнымі мэтамі. Як пісаў гісторык Станіслаў Шпатанскі, *«твор, настолькі цяжкі, як "Бяседа", што ўводзіць думку ў зусім іншыя сферы, пададзены сурова, без уступу і тлумачэнняў, назаўжды адвярнуў эміграцыю ад Тавянскага»*[40]. Безумоўна, падобныя дзеянні Плятэра не маглі не выклікаць у Міцкевіча самую негатыўную рэакцыю. Паэт быў вядомы сваёй эмацыянальнасцю, як негатыўнай, так і пазітыўнай, і для канчатковага разрыву паміж амбіцыйнымі дзеячамі неабходны быў толькі штуршок.

3 траўня 1843 г. Гісторыка-літаратурнае таварыства, як заўжды ў гэты дзень, святкавала чарговую гадавіну прыняцця Канстытуцыі 3 траўня 1791 г. На ўрачыстым паседжанні з гэтай нагоды ў Польскай бібліятэцы прысутнічалі і Плятэр, і Міцкевіч,

[35] Гэта апошняе вядомае знаходжанне Міцкевіча ў жытле У. Плятэра. Гл.: Goszczyński S. Dziennik Sprawy Bożej… T. 1. S. 59. Падобны сход 27 сакавіка 1843 г. адбыўся ў жытле Міцкевіча. На ім прысутнічалі пераважна прыхільнікі Тавянскага, аднак былі і некалькі пабочных асоб. На гэтым сходзе ў Міцкевіча быў падпісаны адрас, які асуджаў учынак Мірскага. Плятэр, які там прысутнічаў, адрас не падпісаў і як своеасаблівы адказ склікаў сход у сябе [гл.: Mickiewicz A. Dzieła. T. 15. S. 541].

[36] Падрабязней пра Згуртаванне ўваскрэшанцаў гл.: Smolikowski P. Historia Zgromadzenia Zmartwychwstania Pańskiego. T. 1–4. Kraków, 1892–1896.

[37] Семяненка Пётр (1814–1886) — удзельнік лістападаўскага паўстання, эмігрант у Францыі, адзін з першых сябраў ПДТ. У 1837 г. распачаў тэалагічную адукацыю ў Рыме, прыняў сан. У 1842 г. выступіў сузаснавальнікам Згуртавання ўваскрэшанцаў. Рэлігійны пісьменнік, гарачы праціўнік тавянізму [гл.: Goszczyński S. Dziennik Sprawy Bożej… T. 2. S. 481].

[38] Dziennik Narodowy. № 106. 6 kwietnia 1843. S. 423.

[39] Dziennik Narodowy. № 107. 15 kwietnia 1843; № 109. 29 kwietnia 1843.

[40] Szpotański S. Andrzej Towiański… S. 188.

і менавіта тады адбылася сварка паміж імі. Але адразу варта зазначыць, што яе апісанні ў розных крыніцах маюць адрозненні. Валерыян Халхоўскі[41] ў лісце да Ігната Дамейкі ад 9 траўня 1843 г. паказвае выпадак наступным чынам: *«Нядаўна здарыўся скандал на святкаванні 3-га траўня ў Польскай бібліятэцы пад старшынствам Князя* [Адама] *Чартарыскага. Уладзіслаў Плятэр, сустрэўшы Міцкевіча, падаў яму руку для прывітання, але той рукі не падаў, пад нос пагразіў Плятэру, сціснуў тросць і аблаяў, Плятэр адвярнуўся, таму як была вялікая таўканіна ў зале і было немагчыма схавацца, але нічога не адказваў»*[42]. Аднак да апісання Халхоўскім акалічнасцяў сваркі трэба ставіцца асцярожна, таму як ён сам не ўдзельнічаў у святкаванні і пісаў, верагодна, атрымоўваючы звесткі з другіх ці трэціх рук. Газета «Польскі дэмакрат» абмежавалася толькі некалькірадковым сказам пра тое, што *«ў дзень 3-га траўня на публічным паседжанні Літаратурнага Таварыства спадар Міцкевіч зусім неэстэтычна пакрыўдзіў спадара Уладзіслава Плятэра і пагражаў яму кулаком»*[43]. «Нацыянальная газета, выдавец якой удзельнічаў непасрэдна ў гэтых падзеях, таксама не магла прамаўчаць пра здарэнне. 6 траўня выйшла падрабязнае апісанне паседжання, дзе крытыкаваўся не толькі Міцкевіч, але і Адам Чартарыскі[44]. Артыкул падаваў змест выступлення Міцкевіча, у якім пераважалі, безумоўна, матывы вучэння Тавянскага, і заканчваўся фразай: *«Скончыўшы сваё выступленне, спадар Міцкевіч адразу пакінуў сход»*. І ні слова пра лаянку Міцкевіча і пагрозы. Праз пяцьдзясят гадоў пасля падзей Уладзіслаў Міцкевіч, які ствараў біяграфію бацькі, у значнай ступені абапіраючыся на сведчанні сучаснікаў, пісаў, што пасля свайго выступлення, калі Міцкевіч пакідаў паседжанне, *«Граф Уладзіслаў Плятэр стаў перад дзвярыма, жадаючы абавязкова ўцягнуць яго ў дыскусію. Міцкевіч, адсоўваючы яго, прамовіў: “Прэч мне з дарогі!”»*, і дадаваў, што *«некаторыя са сведкаў гэтай сцэны ручаліся, што ў нецярплівага Міцкевіча вырвалася слова “блазан”»*[45].

Як бы ні адрозніваліся паміж сабой апісанні згаданага здарэння, усіх іх яднае адно: паміж Плятэрам і Міцкевічам адбыўся разрыў адносінаў. Безумоўна, Плятэр, як абражаны, не мог не адказаць на абразы. У згаданым артыкуле «Нацыянальнай газеты» разам з апісаннем паседжання значная частка прысвечана крытыцы тавянізму ў цэлым і Міцкевіча, як яго прыхільніка, у прыватнасці. «Газета» не асабліва стрымлівала

---

[41] Халхоўскі Валерыян (1811–1872) — ураджэнец Барысаўскага пав., удзельнік паўстання 1830–1831 гг. у складзе 13-га палка ўланаў, эмігрант; дзякуючы веданню 10 моў шматгадовы чыноўнік у Францыі; адзін з заснавальнікаў Падатковага згуртавання [гл.: Bielecki R. Słownik biograficzny oficerów powstania listopadowego. T. 3. Warszawa, 1998. T. 1. S. 285]. У эміграцыі 30 гадоў ліставаўся з Ігнатам Дамейкам, яго 40 лістоў за 1841–1871 гг. захоўваюцца ў зборах Ігната Дамейкі ў Музеі Адама Міцкевіча ў Парыжы [Muzeum Adama Mickiewicza (далей — MAM). Rkps. 1018. Rękopisy z lat 1831–1888. Pisma i listy do Ignacego Domeyki. Walerian Chełchowski. (у рукапісе адсутнічае нумарацыя аркушаў)].

[42] List Waleriana Chełchowskiego do Ignacego Domeyki z 9 maja 1843 // MAM. Rkps. 1018. Rękopisy z lat 1831–1888. Pisma i listy do Ignacego Domeyki.

[43] Demokrata Polski. — 7 czerwca 1843.

[44] Плятэр хоць і належаў да кансерватыўнага лагера ў эміграцыі, аднак быў сярод апазіцыйных А. Чартарыскаму яго прадстаўнікоў. Дайшло нават да таго, што ў адным са сваіх нумароў «Нацыянальная газета» абрынулася з вялікай крытыкай на князя і яго прыхільнікаў. У артыкуле *«Становішча дынастычнай партыі — Вераадступніцтва некаторых дынастытчыкаў»* напісана: *«На чале яе* (кансерватыўнай партыі. — *Д. М.*) *стаіць палітычна памерлы старац* (А. Чартарыскі. — *Д. М.*), *якім кіруюць некалькі авантурных і пыхлівых чалавек»* [гл.: Dziennik Narodowy. № 105. 1 kwietnia 1843. S. 419].

[45] Mickiewicz W. Żywot Adama Mickiewicza… T. 3. S. 232.

сябе ў выразах: *«Гэтая прамова спадара Міцкевіча пераконвае нас у думцы пра яго сённяшнюю памылковую веру… Дастаткова прывесці некалькі думак, каб пераканацца ў ілжывым і згубным кірунку, які ўяўляны майстар надаў Міцкевічу: з каталіка і паляка зрабіў з яго ерэтыка і славяніна*[46]*. У гэтай акалічнасці мы бачым новы доказ, наколькі слабая ў некаторых земляках каталіцкая вера, калі любы сакратар*[47] *можа вывярнуць яе»*[48].

Пасля разрыву адносінаў Плятэр і Міцкевіч яшчэ доўга працягвалі ўзаемную перапалку. «Нацыянальная газета» ўвесь час і нават у апошні год працягвала вострую крытыку як тавянізму, так і Міцкевіча. Асабліва актыўна яна публікавала падобныя артыкулы ў першыя некалькі месяцаў пасля сваркі — відавочна, словы Міцкевіча балюча закранулі самалюбства графа Плятэра. Аднак потым публікацыі на гэтую тэму з'яўляліся на яе старонках эпізадычна. Пры гэтым Тавянскі і ўсе тавянчыкі выразна шаржуюцца, найбольшая ўвага аддаецца ўсялякім іх дзівацтвам і кур'ёзам, якіх, варта зазначыць, было нямала. Напрыклад, у артыкуле *«Пра Тавянскага»*, перадрукаваным 3 чэрвеня 1843 г. з пазнанскай *«Хатняй газеты (Gazety Domowej)»*, падрабязна апісаны выпадак з адыходам ад вучэння Тавянскага аднаго з першых яго прыхільнікаў — паэта Антонія Гарэцкага[49], якому прыпісваліся словы *«д'ябальская справа»* ў дачыненні да яго[50], а ў артыкуле *«Дэкларацыя спрадара Міцкевіча. — Прысяга тавянчыкаў»* ад 22 сакавіка 1844 г. Міцкевіч і ўсе тавянчыкі выстаўлены дзівакамі і сектантамі[51].

Артыкул *«Тавяншчына»* (№ 206 ад 15 сакавіка 1845 г.) на асобе Міцкевіча спыняўся больш падрабязна: *«Трэба ведаць, што Тавянскі ў сваіх навучаннях стараўся трапляць у слабы бок таго, каго хацеў перавярнуць, "казытаў" злы дух, які лічыў пануючым у кандыдаце. Злым духам Міцкевіча была непараўнальная ганарлівасць, у яе ўдарыў Тавянскі, яе "казытаў" і хутка зрабіў з яго свайго сляпога прыхільніка, а хутчэй асацыянта і сумайстра. Так, Міцкевіч з гэтага часу не размаўляў інакш як тонам загадным, сцвярджальным, усёведным; дактрыну Тавянскага ён узяў у сваю апеку і сваім імём прыцягнуў да яе шмат людзей цікаўных, што не маюць аніякай веры, аніякіх прынцыпаў ні ў рэлігіі, ні ў палітыцы»*[52].

Міцкевіч, са свайго боку, таксама адказваў Плятэру, вобраз якога ў словах паэта далёкі ад станоўчага. Сярод эмігрантаў у Парыжы было вядома яго выказванне: *«Чаму ж наракаюць на нязгоду эміграцыі? Хіба ж уся эміграцыя не згаджаецца, што Пац*[53] *добрасумленны, а Плятэр дурны?»*[54].

---

[46] Тэрмін *«славянін»* набывае ў эміграцыі негатыўны сэнс пасля ўчынку Тэафіла Мірскага, які ў 1842 г. у эміграцыі публічна абвясціў, што прымае праваслаўе і царскую амністыю, а таксама выказаўся за ідэю панславізму, дзе павінна мець першынства Расія. Гэта быў хіба што не адзіны выпадак, калі ўсе без выключэння палітычныя лагеры і групы эміграцыі выступілі з глыбока негатыўнай крытыкай.

[47] Да таго як адправіцца ў эміграцыю, Тавянскі служыў сакратаром Віленскага земскага суда.

[48] Dziennik Narodowy. № 110. 6 maja 1843. S. 441.

[49] Пра гэты ж выпадак гл. дадатак I.

[50] Dziennik Narodowy. № 114. 3 czerwca 1843. S. 456.

[51] Гл. дадатак III.

[52] Dziennik Narodowy. № 206. 15 marca 1845. S. 826.

[53] Пац Людвік (1778–1835) — генерал, удзельнік напалеонаўскіх войнаў і паўстання 1830–1831 гг., эмігрант у Францыі [Bielecki R. Słowbik… T. 3. S. 256].

[54] Ibid.

Пасля ўсяго сказанага варта зрабіць адну агаворку. Хоць вобраз Міцкевіча на старонках «Нацыянальнай газеты» амаль заўжды негатыўны, але ёсць і пэўныя выключэнні. Міцкевіч па-ранейшаму застаецца жывым класікам польскай літаратуры, і гэтая заслуга за ім безумоўна прызнаецца. Нават самая негатыўная крытыка часта суправаджаецца спачуваннем, што вялікі паэт трапіў пад дрэнны ўплыў. Напрыклад, у № 204 «Газеты» ад 12 красавіка 1845 г. пісалася: *«...асуджаючы цяперашнія імкненні і дзеянні аўтара "Валенрода", мы вельмі любім ранейшага паэта»*. У гэтым жа артыкуле «Газета» нават у пэўнай ступені выступіла ў абарону Міцкевіча. Разбіраючы памфлет супраць яго *«Міцкевіч — Пра польскую літаратуру (Mickiewicz — De la litterature slave)»*, «Газета», у цэлым негатыўна ставячыся да ананімнага памфлетыста, на яго абвінавачанне *«Міцкевіч цяпер моліцца, на каленях слухае імшу...»* адказвае: *«Яшчэ нікому не прыходзіла да галавы, нават французскім энцыклапедыстам, абвінавачваць каго-небудзь у тым, что ён моліцца»*[55].

Варта таксама згадаць і яшчэ адзін цікавы факт. Нягледзячы на сварку і ўзаемную непрыязнасць паміж паэтам і выдаўцом, на працягу 1843 г. у «Нацыянальнай газеце» ў якасці дадатка да кожнага нумара працягвалі выходзіць тэксты лекцый Міцкевіча курса першага года. Растлумачыць гэта можна абавязкамі газеты перад сваімі чытачамі. Як у канцы другога года выхаду, так і на працягу трэцяга (канец 1842 — пачатак 1843 г.) яна рэгулярна друкавала паведамленні пра намер выдаваць лекцыі і збірала падпіску на іх. У выпадку спынення друку лекцый давялося б вяртаць грошы падпісчыкам.

Магчыма выказаць меркаванне, што і пасля разрыву адносінаў Плятэр і Міцкевіч маглі бачыць адзін аднаго на розных публічных эміграцыйных мерапрыемствах: яны абодва ўваходзілі ў склад Гісторыка-літаратурнага таварыства і мелі нямала агульных знаёмых. Аднак невядома ніводнага выпадку, калі б яны сустракаліся сам-насам дзе-небудзь і калі-небудзь. Падобныя сваркі ў эміграцыі не былі рэдкасцю, тым больш у Міцкевіча. Напрыклад, у 1848 г. былі разарваны часова адносіны з яго шматгадовым выдаўцом і сябрам Яўстахам Янушкевічам[56], а ў 1851 г., на гэты раз стала, з сябрам і калегам па стварэнні Польскага легіёна ў Італіі Міхалам Ходзькам[57]. Аднак рэдка калі сваркі набывалі настолькі востры характар, што станавіліся прадметам для доўгачасовых публікацый, а іх удзельнікі публічна сыходзілі да непрыкрытых абраз. Гэтая сварка можа таксама паслужыць прыкладам таго, у наколькі складаных маральных умовах знаходзіліся эмігранты, калі эстэтычныя канцэпцыі і догмы з лёгкасцю разбівалі плён доўгагадовага супрацоўніцтва.

*Дзмітрый МАТВЕЙЧЫК*

---

[55] Dziennik Narodowy. № 210. 12 kwietnia 1845. S. 844.

[56] Гл.: Матвейчык Д. Браты Янушкевічы і тавянізм: складаныя шляхі *Вялікай эміграцыі* // Асоба і час: беларускі біяграфічны альманах. Мінск: Лімарыус, 2010. С. 60–61.

[57] Гл.: Матвейчык Д. Міхал Ходзька… С. 238–239.

## I
## Ліст Валерыяна Халхоўскага да Ігната Дамейкі ад 15 лістапада 1841 г.[58]

Парыж, 15 лістапада 1841 г., rue du Foin St. Jacques 22[59]

Любімы спадар Ігнат, я пісаў табе 9га мінулага кастрычніка, я хацеў бы, каб ты гэты ліст атрымаў ужо пасля прачытання першага, таму як гэты быў бы для цябе больш зразумелым. У тым лісце я даносіў табе, што ў першых днях жніўня Тавянскі, што прыбыў у Парыж, з'явіўся да Міцкевіча, старэйшага Сабанскага[60] і Антонія Гарэцкага[61], гаворачы, што атрымаў місію да Эміграцыі ад Бога і што па яго загадзе з'яўляецца да іх, каб яны дзейнічалі сумесна. Гэтыя спадары паверылі, пачалі, беручы на сябе адказнасць, запэўніваць, што хутка мы вяртаемся ў Польшчу, не гаворачы адразу ўсім эмігрантам, на якім абапіраюцца фундаменце, сцвярджаючы гэта. Аднак хутка і крыніца гэтай навіны разышлася, а Міцкевіч нарэшце друкаваным лістом заклікаў палякаў, што знаходзіліся ў Парыжы, на падзячнае набажэнства за гэтую абвешчаную Богам ласку[62]. На імшы сакраментальна прамаўлялі Міцкевіч і Тавянскі, а пасля набажэнства Тавянскі публічна абвясціў пра сваю місію сабраным у касцёле палякам. Некаторыя паверылі ў гэта, а асабліва рэлігійныя людзі, але не ўсе, напрыклад, Цэзар Плятэр[63] не паверыў, таксама засталася з недаверам маса арыстакратаў і дэмакратаў, а гэтыя апошнія ў сваіх газетах здзекваліся і абураліся гэтым. У Міцкевіча ж, аднак, вера была настолькі моцнай, што ён ездзіў у Цэнтральны Камітэт Дэмакратычнага Таварыства, які цяпер з Пуацье пераехаў у Версаль[64], каб з ім дамовіцца наконт гэтага, але нічога ў іх не дабіўся. Прыкладна ў гэты час Гарэцкі адышоў ад гэтай справы, таму як перастаў

[58] MAM. Rkps. 1018. Rękopisy z lat 1831–1888. Pisma i listy do Ignacego Domeyki. Walerian Chełchowski.

[59] Падкрэслена ў арыгінале.

[60] Сабанскі Ізыдар (1796–1847) — памешчык з Падолля, у паўстанні падпаручнік 5-га палка ўланаў, у эміграцыі жыў у Францыі, добры знаёмы Міцкевіча; адзін з першых прыхільнікаў вучэння Тавянскага, аднак заставаўся ім нядоўга [Goszczyński S. Dziennik Sprawy Bożej… T. 2. S. 484].

[61] Гарэцкі Антоні (1787–1861) — ураджэнец Вільні, удзельнік напалеонаўскіх войнаў і паўстання 1830–1831 гг., у эміграцыі жыў у Францыі; найбольш вядомы ў эміграцыі паэт і байкапісец з *Літвы*, аўтар больш як 10 зборнікаў паэтычных твораў [Ciechanowska Z. Gorecki Antoni // Polski słownik biograficzny. T. 8. Warszawa, etc, 1952. S. 306–309].

[62] Імша адбывалася ў саборы Парыжскай Божай Маці 27 верасня 1841 г. Яе апісанне гл.: Szpotański S. Andrzej Towiański… S. 162–163; Sudolski Z. Mickiewicz… S. 512–513.

[63] Плятэр Цэзар Аўгустын (1810–1862) — ураджэнец Вільні, студэнт Віленскага і Берлінскага ўніверсітэтаў, актыўны ўдзельнік паўстання 1830–1831 гг., эмігрант, адзін з заснавальнікаў ТЛРЗ, сябра Таварыства навуковай дапамогі, Гісторыка-літаратурнага таварыства і шматлікіх інш. У эміграцыі вядомы сваёй рэлігійнасцю, меў дачыненне да пачаткаў Згуртавання ўваскрэшанцаў. У 1838–1840 гг. з'яўляўся прадстаўніком кн. А. Чартарыскага ў Рыме [Bielecki R. Słownik… T. 3. S. 302; Kieniewicz S. Plater Cezary Augustyn // Polski słownik biograficzny. T. 26. S. 649–652; Żywczyński M. Watykan wobec powstania listopadowego. Wyd. II. Kraków, 1995. S. 123–124].

[64] Маецца на ўвазе Цэнтралізацыя Польскага дэмакратычнага таварыства, якая ў 1841 г. змяніла месца свайго сталага знаходжання і пераехала з мяст. Пуацье дэп. В'ен пад Парыж у Версаль [гл.: Janowski J. N. Notatki autobiograficzne. 1803–1853 / wyd. M. Tyrowicz. Wrocław, 1950. S. 570]. Факт спробаў Міцкевіча схіліць яе да супрацоўніцтва з Тавянскім не згадваецца ў біяграфіі Міцкевіча аўтарства З. Судольскага.

верыць у праўдзівасць гэтай місіі пры абмеркаванні брашуры, якую Тавянскі пасля імшы ў касцёле паабяцаў хутка надрукаваць. Пры гэтым абмеркаванні Тавянскі саступіў са свайго паводле заўвагі, зробленай Міцкевічам, — размова была пра рэдакцыю гэтага твора, — што прымусіла Гарэцкага зрабіць заўвагу пра тое, што калі Тавянскі мае місію ад Бога, то тое, што ён раней напісаў, павінна застацца і не змяняцца паводле жадання Міцкевіча, таму як Гасподзь Бог не памыляецца і не папраўляецца; а таму як Тавянскі прыняў прапанаваную змену, то Гарэцкі зрабіў выснову, што Тавянскі не мае місіі ад Бога, і адышоў ад усёй справы, пра што таксама сказаў усім знаёмым[65]. У той час, калі ўсё гэта адбывалася, Вітвіцкі[66] быў на поўдні на мінеральных водах, яму Міцкевіч пісаў адразу пра гэта, таксама як і табе пра гэтую навіну. Вітвіцкі паверыў, пайшоў на споведзь там, дзе быў, і на гэтую імшу запрасіў знаёмых рэлігійных палякаў, і праз некалькі тыдняў прыбыў у Парыж. Прыбыўшы сюды, ён заўважыў у размовах з Міцкевічам, што той аддаляецца ад вучэння касцёла, а на зробленыя заўвагі Вітвіцкага Міцкевіч адказваў, што перакананы, што тое, што гаворыць, беспамылковае. Гэтыя пункты, як мне распавядаў Вітвіцкі, наступныя: што Хрыстос да Бога Айца знаходзіцца ў такіх жа адносінах, як губернатар да Караля; таму гэта супярэчыць вучэнню касцёла, паводле якога асобы Троіцы з'яўляюцца цалкам роўныя паміж сабой. Апрача гэтага, яны лічаць, што сярод святых, прызнаных касцёлам, ёсць некаторыя праклятыя, гэтыя найбольш сурова катуюцца малітвамі, якія да іх звяртаюць людзі на зямлі; гэта таксама праціўна традыцыі, бо Бог даў беспамылковасць свайму касцёлу, і таму ён не мог памыліцца і праклятых прызнаць святымі. Таксама Вітвіцкі гаворыць, што з размовы з Міцкевічам бачыць, што той прытрымліваецца думкі, як быццам душы дзяцей, што паміраюць без хросту, могуць быць збаўленыя, яшчэ што Найсвяцейшая Панна не была ўзята на неба, а да гэтага часу жыве на зямлі. Вітвіцкі мяркуе, што Міцкевіч і Тавянскі ашуканыя гэтым духам, і перастаў верыць ва ўсё гэта. Калі я заўважыў яму, што, спадар Ігнат, будучы аднабакова і няпоўна паведамлены Міцкевічам, ты можаш зрабіць крокі, якія цяжка было б выправіць, Вітвіцкі заявіў, што трэба паведаміць табе пра ўсё. Я заклікаў яго, каб ён зрабіў гэта сам, але ён не хацеў зрабіць гэтага, тлумачачы гэта прычынай, што ліст, які ты пісаў яму, пасылаючы Разважанні Святой Тарэзы над малітвай «Ойча Наш», быў дзесьці згублены Міцкевічам падчас яго знаходжання на поўдні, і што ён не ведае, на што павінен адказваць, і таму на мяне, любімы спадар Ігнат, ён усклаў гэты абавязак, дазваляючы яго крэдытам запэўніць цябе ў гэтым. Канечне, я сам Міцкевіча не бачыў амаль тры месяцы і пакуль у размове я яшчэ не заўважаў нічога ерэтычнага. Я ў гэтай справе толькі справаздатчык таго, што мне паведаміў Вітвіцкі. Учора я бачыў Махвіца[67], казаў яму, што пішу табе, ён прасіў кланяцца. У яго ёсць хворы калега Палубінскі[68], той, хоць незнаёмы, таксама абдымае цябе, што і я раблю ад усяго сэрца. Валерыян Халхоўскі.

---

[65] Выпадак з адыходам Антонія Гарэцкага ад вучэння Тавянскага быў апісаны таксама ў № 114 «Нацыянальнай газеты» ад 3 чэрвеня 1843 г. (с. 456).

[66] Вітвіцкі Стэфан (1801–1847) — паэт, сябра Міцкевіча, з 1832 г. добраахвотна жыў у эміграцыі ў Францыі [Goszczyński S. Dziennik Sprawy Bożej… T. 2. S. 496].

[67] Відавочна, маецца на ўвазе Махвіц Адам (1811–1842) — ураджэнец Вількамірскага пав., студэнт Віленскага ўніверсітэта, удзельнік паўстання 1830–1831 гг., эмігрант у Францыі, сябра ПДТ, які ў апошні перыяд жыцця жыў у Парыжы [Bielecki R. Słownik… T. 3. Warszawa, 1998. S. 83].

[68] Відавочна, маецца на ўвазе Палубінскі Францішак — падпаручнік 13-га палка ўланаў, які пасля паўстання апынуўся ў Прусіі [Bielecki R. Słownik… T. 3. S. 318].

## II
## Ліст Фелікса Уратноўскага да Юзафа Багдана Залескага[69] ад 12 студзеня 1842 г.[70]

Парыж, 12 студзеня 1842
8. passage des Beaux Arts

Любімы Багдане! Адам увесь час са сваёй кафедры прамаўляе незвычайна прыгожыя і мудрыя рэчы[71], а ўсё гэта амаль на вецер перад малой групкай слухачоў. Шкада гэтых словаў! Мы ўвесь час думаем над тым, як бы хоць урывак з іх замкнуць у друку і данесці непрысутным землякам. Нашыя жаданні шмат з якіх старон падахвочваюцца лістамі да рэдакцыі Нацыянальнай Газеты, але ніхто не з'яўляецца з так патрэбнай дапамогай. Уладзіслаў [Плятэр] адважыўся, урэшце, сваёй кішэняй пакрыць увесь кошт, а я за ўзнагароду, якая ледзьве вяртае выдаткі на свечы, дрэва і тытунь падчас гэтай працы. Мы будзем даваць да кожнага нумара газеты паўаркушавы дадатак, прысвечаны выключна курсу славянскай літаратуры. Ад Адама мы маем выразны і канчатковы дазвол. Таму справядліва, каб землякі, якія могуць, хоць бы часткова прынеслі нам палёгку. Усяго Яўстах [Янушкевіч] налічыў 1200 франкаў на ўвесь гэты намер, але можна спадзявацца на вяртанне ледзьве чвэрці накладу ад падпісчыкаў і продажу. Таму як Ты выказваў спадзяванне, што мог бы назбіраць якую-небудзь складку, я звяртаюся да Цябе з просьбай, каб Ты паварушыў свае спружыны і ў меры, як Табе дапаможа Бог, аблегчыў цяжар, які цяпер нясе толькі Уладзіслаў Плятэр. Варта падтрымліваць яго шляхетную гатоўнасць да падобных ахвяр. Няхай у яго будзе хоць бы тая радасць, што іншыя гатовыя ацэньваць яго добрыя памкненні і спяшацца яму на дапамогу. Што здолееш назбіраць, прышлі альбо проста яму, альбо на рукі Яўстаха. Мяне ж заўжды захоўвай у сяброўскай памяці, ад чаго я буду багатым і рады наймацней. Цябе і Юзафа[72] сардэчна абдымаю.

Ваш
Фелікс Уратноўскі

## III
## Артыкул
## «Курс славянскай літаратуры. Лекцыя 19 сакавіка [1844 г.]. Дэкларацыя Спадара Міцкевіча. — Прысяга тавянчыкаў»[73]

На мінулай лекцыі, 12 бягучага месяца, Спадар Міцкевіч паабяцаў, што будзе размаўляць пра Слова (du Verbe), таму ўсё, што паабяцаў, схілялася да тлумачэння таго,

---

[69] Залескі Юзаф Багдан (1802–1886) — паэт, удзельнік паўстання 1830–1831 гг., сурэдактар газеты «Новая Польшча»; з 1832 г. жыў у эміграцыі, сузаснавальнік і дзеяч Славянскага таварыства, арганізацыі «Маладая Польшча», уваходзіў у склад Польскага дэмакратычнага таварыства, сябра А. Міцкевіча [Goszczyński S. Dziennik Sprawy Bożej… T. 2. S. 498].

[70] Biblioteka Jagiellońska. Rkps. 9232 II. Korespondencja Józefa Bohdana Zaleskiego z lat 1823–1886. Odpisy listów. XIX–XX w. K. 135–136.

[71] Маюцца на ўвазе лекцыі па славянскай літаратуры.

[72] Залескі Юзаф (1789–1864) — названы брат Юзафа Багдана Залескага, удзельнік напалеонаўскіх войнаў, паўстання 1830–1831 гг., канспірацыйных арганізацый у Галіцыі, экспедыцыі Заліўскага і паўстання ў Велікапольшчы ў 1848 г.; у эміграцыі жыў у Францыі [Goszczyński S. Dziennik Sprawy Bożej… T. 2. S. 498–499].

[73] Dziennik Narodowy. № 155. 23 marca 1844. S. 621–622.

што ёсць слова і хто ёсць словам цяперашняй эпохі. Лекцыя скончылася дэкларацыяй Спадара Міцкевіча і прысягай прыхільнікаў Тавянскага[74].

«…На мяжы дзвюх эпох, я казаў, з'яўляюцца людзі, абвяшчальнікі, якія агалошваюць заняпад таго, што ёсць, разрыў са старым жыццём, са старым парадкам, які памірае, і смелае ўступленне ў новае жыццё. Гэтыя абвяшчальнікі[75] церпяць звычайна перасслед ад людзей мінуўшчыны, ад людзей нізкіх і нікчэмных, якія не могуць іх зразумець, цягнуць іх у мінуўшчыну, якую бароняць, бо для іх важна тое, каб нічога не перашкаджала спакойнаму выкарыстанню таго, што існуе, што яны лічаць сваёй уласнасцю і сваім шчасцем. Не для іх абвяшчальнікі разносяць свае вучэнні, не да іх звяртаюцца. Ісус Хрыстос не абвяшчаў сваё вучэнне ні грэцкім навукоўцам, ні рымскім сафістам, ні шчаслівым людзям; ён абраў для яго народ нешчаслівы, які не меў свайго існавання і цярпеў рымскую няволю. Хрыстос шукаў сваіх вучняў сярод пакутнікаў, бо толькі пакутнікі ў стане зразумець тыя ісціны, якія ім абвяшчаюць пра лепшую будучыню. Сярод народаў славянскі народ пакутуе сёння найбольш, а сярод славянаў — польскі народ. Польшча, сцертая з карты Еўропы, не мае сёння анічога, у яе адабралі ўсё. Польшча не з'яўлялася вам[76] ні ў выглядзе кніг, ні сістэм. Вы бачылі яе сярод сябе ці ў выглядзе легіёнаў, ці саюзных палкоў[77]. У апошнія часы частка польскага народа прыйшла да вас, не несучы ні кніг, ні сістэм; прыйшла да вас у пакутах, з болем і ў выглядзе жабрака, так, як прыходзіць на свет кожная вялікая ісціна. Эміграцыя нічога не мае, яе нічога не прывязвае да зямлі, менавіта таму спачатку сярод яе расквітнее абвешчаная ісціна і ад яе разыдзецца сярод іншых пакутнікаў. Я, што паходжу з яе і што прамаўляю да вас, не тлумачу вам ніякіх ні кніг, ні сістэм, але агалошваю вам новае жыццё, абвешчаную ісціну. Калі мне даручылі яе агалошанне, я адчуў у сябе тое шчасце, пра якое ніколі не забудуся, якое не выдзярэ з мне аніякая людская моц, яно захаваецца на ўсё маё жыццё, на ўсе мае жыцці. Калі б іскра, агонь якой той жа прыроды, што і агонь сонца, хацела спазнаць веліч яго таямніцы, унікнуць у прадметы і ўласцівасць яго вышэйшага прызначэння, чаго б яна дасягнула, калі б не выйшла з нікчэмнага стану? Але калі гэтая іскра, увесь час павялічваючыся, стане святлом, новай зоркай і заблішчыць на небе, о! тады ёй будзе дазволена зірнуць у твар сонцу і ўнікнуць у яго натуру. Я — адна з гэтых іскр, — тут прафесар прыняў урачыстую позу, — іншаму пакінута ўзнясенне да святла сонца, маё прызначэнне — агалошваць вам абвешчаную ісціну і рабіць тое, што ў маёй моцы. Таму я заклікаю ўсіх маіх землякоў добрай волі, хай скажуць, ці прызнаюць гэтую абвешчаную ісціну? Так ці не?». — Усе тавянчыкі і некалькі маладых французаў, устаўшчы, закрычалі з узнятымі рукамі, як мы гэта бачым на карцінах прысягі Гарацыяў: «Так, так, прызнаем». — «Ці прызнаеце мяне сведкам гэтага абвешчання?» — «Прызнаем, прызнаем», — закрычалі хорам з найвышэйшым энтузіязмам, і адзін з іх штосьці казаў з запалам Міцкевічу, чаго мы не маглі пачуць. Усе селі. Падчас гэтага некаторыя жанчыны прыглушана плакалі. Адна маладая француженка, што сядзела каля кафедры, устала і, склаўшы рукі, як для малітвы, і трымаючы іх на вышыні галавы, стаяла, павярнуўшыся да прафесара, які далей прамаўляў цішэй, чым да гэтага, з-за чаго мы пачулі толькі гэтыя заключныя выразы: «Браты мае! Вы бачылі сярод вас гэтага абвяшчальніка. Прысягаеце мне, што пойдзеце за ім?» — «Так, так, пойдзем,

74 Увесь артыкул, за выключэннем першых двух і апошніх трох абзацаў, складаецца з цытаты, якую яго аўтар укладае ў вусны Міцкевіча і якая напісана ад яго імя.

75 Выразная паралель з А. Тавянскім.

76 Зварот да французскай публікі, якая пераважна наведвала лекцыі.

77 Маюцца на ўвазе польскія легіёны на службе ў французскім войску падчас напалеонаўскіх войнаў і палкі Княства Варшаўскага, што таксама ваявалі на баку Напалеона ў 1807–1814 гг.

хоць на раскрыжаванне!» — «Маё прызначэнне выканана», — дадаў прафесар, які таксама кожны раз, калі тавянчыкі прысягалі, трымаў руку выкінутай наперад.

Палякі і іншаземцы, якія не былі падрыхтаваны да гэтай сцэны, глядзелі на ўсё гэта здзіўленыя і ў аслупяненні, і калі Спадар Міцкевіч пакінуў залу, адныя пачалі выходзіць натоўпам, іншыя атачылі аднаго з нашых землякоў, не тавянчыка, які, выходзячы ва ўзрушэнні, упаў, і тую маладую францужанку, якая да гэтага стаяла, усхліпваючы паціху, а цяпер упала на лаву і пачала гучна рыдаць.

Мы расцягнуліся з апісаннем гэтай лекцыі з-за яе важнасці. Секта Тавянскага, якая да гэтага часу вычваралася сваімі дзівацтвамі прыватна, выразна выступіла перад французскай публікай з усім сектанскім запалам. З «Бяседы», пераклад якой на французскую мову выйшаў, а таксама з таго, што Спадар Міцкевіч прамаўляў да гэтага часу з кафедры, іншаземцы пераканаюцца, чым ёсць новая секта. Што будзе далей і чым усё гэта скончыцца, мы хутка ўбачым.

# «СТРАННЫЙ МАРШРУТ» НИКОЛАЯ ЛЕСКОВА

## «Пожарная статья»

В конце непривычно жаркого и сухого мая 1862 г. в Петербурге заполыхало. Пожары бушевали в центре столицы, на территории Толкучего рынка, в торговых Апраксином и Щукином дворах, в переулках по левой стороне Фонтанки, горело на Большой и Малой Охте, в окраинной Коломне. В народе носились слухи о поджигателях, политических смутьянах, нигилистах, носивших синие очки длинноволосых молодых людях в плащах. Эта публика стала заметна на волне либеральных послаблений, сделанных Александром II после многолетней суровой зимы, которой было объято русское общество в годы царствования его отца. А вообще время было смутное, переменное, с ожиданием реформ, начавшихся с отмены крепостного права, со спорами в университетских аудиториях и яростными полемиками в печати.

Либералы, консерваторы, «постепеновцы» — каждая группировка гнула свое. Власть только вступила на путь реформ, а в обществе уже кипело не только идейное ожесточение, но прорывался призыв к государственному перевороту, к уничтожению династии, к крови. На пожары наложилась в том же мае получившая распространение прокламация «Молодая Россия», открыто звавшая к уничтожению монархии. Власть решила дать урок «крайним элементам». Для начала закрыли, как возможные рассадники вольномыслия, воскресные школы и даже Шахматный клуб в Петербурге. Спустя год арестовали Чернышевского, Писарева, Серно-Соловьевича, были приостановлены на восемь месяцев чересчур позволявшие себе в свободном разглагольствовании, хотя и полемизировавшие между собой журналы «Современник» и «Русское слово».

Естественно, даже не предполагая подобный ход событий, но, несомненно, желая внести ноту трезвости в истолкование «пожарного дела», буквально на еще дымящемся пепелище со статьей о «настоящих бедствиях столицы» в газете «Северная пчела» выступает тридцатилетний Николай Лесков. Недавно начавшего печататься в столичной прессе провинциала, успевшего к этому времени послужить и в палате уголовного суда в Орле и помощником управляющего крупными имениями, в литературных кругах знают пока только как журналиста, неплохо осведомленного по части крестьянского переселения. Еще впереди лесковская слава — «Левша», «Соборяне», «Очарованный странник», «Леди Макбет Мценского уезда»… А пока со статьей в «Северной пчеле» приходит известность другого рода — науськивателя властей на молодежь, чуть ли не тайного агента правительства, выступающего с провокационными призывами. А Лесков всего-то и хотел только развеять подозрительные слухи и толки. Ему не по пути с радикалами. Но он не берется судить, «насколько основательны все эти подозрения в народе и насколько уместны опасения, что поджоги имеют связь с последним мерзким и возмутительным воззванием (имеется в виду та же прокламация «Молодая Россия». — *С. Б.*), приглашающим к ниспровержению всего гражданского строя нашего общества». Для него важнее, чтобы власть пожелала опереться на «общественную готовность содействовать прекращению пожаров»[1], допустила к участию в этом деле добровольцев.

В общем, Лесков был за гласность в этой опасной своей неопределенностью ситуации. И вот за такую позицию на него и навалились с двух сторон. Императору

[1] Лесков Н. С. Собр. соч.: в 6 т. Т. 3. М., 1993. С. 87.

Александру II увиделось в его статье недоверие к действиям власти, а либералы расценили ее как донос на радикально настроенную молодежь. Ведь об этом самом «возмутительном воззвании», ходившем по столице, о котором все знали, никто в печати не упоминал. А он сказал, да еще в сочетании с жутким словом «поджигатели». За что и поплатился. Началась травля. «Доносчик», «провокатор», «агент III Отделения» — летело в его адрес. Как писал Горький, «Лесков получил удар в сердце, совершенно не заслуженный им»[2].

Удар этот и стал причиной того, что сам писатель назвал бегством из Петербурга. Сын Лескова и его биограф Андрей Николаевич считал, что редакция «Северной пчелы», «может быть не без искусительной предупредительности», придумала «своему слишком пылкому, но несомненно ценному сотруднику длительную и дальнюю командировку в качестве корреспондента газеты»[3]. Впечатления, соответственно отраженные в материалах, которые ожидала газета, обещали быть интересными, так как поездка планировалась до Парижа, а затем и посещение Лондона. Но Лесков не спешил достичь конечной цели по двум причинам. Первую можно назвать «железнодорожной». В России набирало силу строительство железных дорог, складывались влиятельные группировки, лоббировавшие те или иные проекты. Действовали они и через прессу, в том числе через петербургскую «Северную пчелу». Связанный с этой газетой Лесков получил задание: познакомиться поближе с местами, через которые могла бы пройти Литовская (Белостокско-пинская) железная дорога, проект строительства которой (как пути, соединяющего южные и северные губернии западной части России) усиленно пропагандировался в «Северной пчеле». А вторая причина — неуемная охота к перемене мест, страсть к путешествиям и новым впечатлениям. Она как нельзя лучше могла помочь преодолеть мрачное настроение, в которое погрузила его «пожарная история». В очерках «Русское общество в Париже» он обмолвится, что отправился в поездку «с намерением ехать до границы как можно неспешнее, чтобы еще раз присмотреться к знакомым местам России и взглянуть на места, до тех пор мне незнакомые…». Потому и получилось, что он «ехал в Париж около трех месяцев», в то время как на обычную поездку из Петербурга во французскую столицу уходило двое суток.

«У меня был маршрут, может быть, очень странный и смешной, и во всяком случае маршрут, которым обыкновенно никто до Парижа не следует, — рассказывает он в тех же очерках “Русское общество в Париже”. — Он лежал через всю Литву, по которой я тянулся Бог знает как долго, останавливаясь в Вильне, в Беловеже, Пинске и Домбровице…»[4] А потом были Волынь, Галиция, Польша, Богемия. Белорусская часть этого «странного маршрута» выглядит так: Вильно — Гродно — Белосток — Беловежская пуща — Шерешево — Пружаны — Антополь — Дрогичин — Пинск. Насыщенные интереснейшими подробностями описания быта и нравов, национальных и религиозных традиций, архитектурных памятников, наконец, типов, населявших города и местечки тогдашнего Северо-Западного края, легли в основу цикла путевых заметок, печатавшихся под заголовком «Из одного дорожного дневника» (для краткости будем в дальнейшем именовать его «Дневником»). Впечатления эти пригодились и позже, в том числе при работе над романом «Некуда». Но не будем забегать вперед…

---

[2] Горький М. Собр. соч.: в 30 т. Т. 24. М., 1953. С. 235.

[3] Лесков А. Жизнь Николая Лескова: в 2 т. Т. 1. М., 1984. С. 217–218.

[4] Лесков Н. С. Собр. соч.: в 6 т. Т. 2. Кн. 2. С. 432.

## Вильно

Итак, 6 сентября 1862 г. с корреспондентским билетом «Северной пчелы» Лесков выехал из Петербурга по строившейся тогда Варшавской железной дороге. В купе он оказался с надоедливой барыней, донимавшей и его, и других спутников своей болтовней. Пришлось перейти в соседнее, где удалось нормально выспаться. На станции в Динабурге, уездном городке Витебской губернии, пиво показалось особенно вкусным, что было отмечено и сидевшим с ним за одним столиком генералом. Генерал принял его за француза, хотя Лесков и уверял собеседника, что происходит «от бедных, но честных родителей, вышедших из благословенной семьи православного духовенства»[5]. Кстати, внука, можно сказать, наследственного священника, нередко принимали за иностранца, а одна баба на родной Орловщине посчитала за еврея и потому предложила купить пиявок.

На последующих станциях стала особенно слышна польская речь. Вечером 8 сентября, опоздав на полчаса, поезд прибыл в Вильно. Амбаркадер, так на французский лад называлась платформа, и сам недавно построенный вокзал еще не были как следует отделаны. Лескову не понравились беспорядок, суета. Он не стал получать багаж, решив, что его вещи дорожная служба доставит до Ландварова, где предстояла пересадка на поезд, следующий в Гродно. Главное, что его встретил добрый знакомый, который и отвез к себе домой. Лесков не называет имя человека, встретившего его на вокзале, но есть все основания полагать, что это был виленский литератор Винцентий Коротынский.

Современные справочники называют его белорусским и польским поэтом и журналистом. Ровесник Лескова (оба родились в 1831 г.), он, будучи сыном получившего вольную крепостного крестьянина родом из деревни Селище, что под Новогрудком, и шляхтянки-однодворки, с юных лет стремился к грамоте, к культуре. Научившись с помощью местного органиста писать и читать по-польски и по-русски и усвоив основы арифметики, молоденький Винцесь стал подрабатывать уроками у соседей, учить детей застенковой шляхты. И одновременно упорно занимался самообразованием, восполнял нехватку нужных книг их переписыванием, пробовал себя в переводах и, разумеется, сочинении стихов. Способного юношу порекомендовали в помощники уже знаменитому тогда поэту Владиславу Сырокомле. Коротынский помогал поэту в его литературных и хозяйственных делах в фольварке Залучье и в Борейковщине, а после переезда семьи Сырокомли в Вильно вскоре перебрался туда же. Здесь, продолжая быть секретарем Сырокомли, в значительной степени способствовавшего его росту как литератора, он становится заметной фигурой в общественно-культурной жизни города. Его знают как сотрудника журнала «Teka Wileńska», газеты «Kurier Wileński». Позже он станет корреспондентом «Gazety Warszawskiej», членом Виленской археологической комиссии и Статистического комитета, редактором «Словаря польского языка». Ко времени приезда Лескова в Вильно Коротынский уже был автором сборника стихов на польском языке «Чем хата богата, тем и рада», поэмы «Тамила», сатиры «Выпил Куба до Якуба», а также переводов на польский из Лермонтова, Пушкина, Беранже.

Когда они познакомились, Лесков и Коротынский? Сведений на этот счет пока не обнаружено. Возможно, знакомство произошло в Киеве, где молодой Лесков с 1850 г. служил в Казенной палате, а Коротынский мог приехать туда по каким-то делам. Наверняка

[5] Лесков Н. С. Полн. собр. соч.: в 30 т. Т. 3. М., 1996. С. 11. В дальнейшем цитаты из путевых очерков «Из одного дорожного дневника» приводятся по этому изданию.

сближению поспособствовал живой интерес Лескова к польской культуре. В тех же очерках «Русское общество в Париже», рассказывая о поляках-эмигрантах, он посчитал нужным подчеркнуть: «Я с ранней юности моей жил между поляками, в крае, где польская цивилизация тогда очень уважалась…». Край этот — Украина, с которой Лесков настолько сжился, что в иных случаях называл себя украинцем. Посещая как вольнослушатель лекции по медицине и статистике в Киевском университете, он одновременно интересовался историей славянской культуры, осваивал польский и украинский языки. Имя Тараса Шевченко, с которым он был знаком лично и о посещении которого незадолго до смерти автора «Кобзаря» рассказал в отдельном очерке, для него было дорого и стояло в одном ряду с именем Владислава Сырокомли. Конечно, он надеялся в Вильно встретиться с польским поэтом и полагался здесь на помощь Коротынского. Но буквально накануне приезда Лескова Сырокомля скончался.

Вечером 8 сентября Лесков записывает: «На погребении его было почти все Вильно. Из речей, сказанных над гробом покойного, замечательнее прочих речь литератора Вицентия Коротынского, бывшего искренним приятелем Сырокомли и теперь занятого составлением его биографии». Он упоминает и таких «несомненных друзей» покойного поэта, как граф Евстафий Тышкевич, литератор Адам Киркор, историк Мауриций Крупович, готовых содействовать изданию его сочинений. Лесков призывает «литовское общество» «не останавливаться на одних сетованиях об утрате своего поэта» и почтить «своим вниманием сирот певца скорби и любви, нуждающихся в воспитании, на которое нет средств у их матери». Обращение к «литовскому обществу» свидетельствует о точном понимании Лесковым национально-исторического своеобразия края и культуры, с которыми ассоциировалось творчество Сырокомли. «Сельский лирник» был близок ему как пронзительной славянской напевностью таланта, обращенного к народной душе и заботе, к «братьям в сермяге», так и природным демократизмом своей личности, независимостью позиции. Об этом он пишет в «Дневнике»: «Сырокомлю знают не только в Литве и Польше, но и вообще во всех славянских землях, и где его знали, там его любили за его симпатический талант и неуклонно честное направление. Он никогда не искал ничьих милостей и очень мало заботился о своей репутации. Он не обладал искусством маскироваться и не умел скрывать своих слабостей, которые, впрочем, не приносили никакого вреда никому, кроме самого покойного, много и много пострадавшего в своей жизни».

Как близкое ему, Лесков цитирует на польском (русского перевода еще не было) программное стихотворение Сырокомли «Кто поэт?»:

*Не тот поэт, кто смотрит, как поймет*
*И чем на песнь его толпа ответит,*
*Но тот, кто грудь к родной земле прижмет,*
*Все про себя слезой иль смехом встретит…*
*Поэт лишь тот, кто радостных, порой,*
*И горьких чувств на вид не выставляет,*
*И слезы он в земле своей родной*
*От радости и горя оставляет.*

В первый же день нахождения в Вильно Лесков вместе с человеком, которого называет в «Дневнике» своим родственником, совершил экскурсию по городу. Кто бы это мог быть? Вопрос закономерный, потому что о виленской родне писателя ничего не известно. Родственники в 1862 г. жили на Орловщине (мать Марья Петровна, братья

Як пашоў сыночак,
Тры гады мінае,
Маці свайго сына
Акном выглядае.

Акном выглядае,
Слёзы абцірае.
Пэўна, надарэмна
На сына чакае.

У 1934 годзе я хадзіў у чацвёрты клас. У верасні мой бацька цяжка захварэў на ныркі і, маючы пяцьдзясят гадоў, 31 кастрычніка памёр. Мне тады было толькі адзінаццаць гадоў, а сястры — дзевяць. Так абрынуўся мой свет.

Але трэба было неяк збірацца і жыць далей. На наступны год нехта пазнаёміў маці з беззямельным мужчынам з трохгадовым хлопчыкам, якія не мелі прытулку. Чалавек быў працавітым і пачцівым. Адзін клопат: звалі яго Мікалай і яго сын таксама зваўся Мікалай, ну і я быў трэці Мікалай. Як маці клікала: «Коля!», — мы ўсе трох адгукаліся. Нарэшце маці выйшла з гэтай праблемы наступным чынам: сталіся «вялікі» Коля, «мой» Коля і «малы» Коля. Так і засталося.

Без бацькавага нагляду я занядбаў навуку і застаўся ў чацвёртым класе на другі год.

Працаваў у нашай школе радавіты валожынец настаўнік Мікалай Глухоўскі, школьны сябар майго бацькі яшчэ з царскіх часоў. Быў ён якраз нашым класным выхаваўцам, як я сядзеў другі год у класе. Даведаўшыся пра гэта, маці пайшла ў школу і папрасіла, каб ён заапекаваўся мною «як сваім сынам». Пра што пан Глухоўскі мне і паведаміў.

Глухоўскі быў вельмі добрым настаўнікам, але ў яго класах заўсёды панавала строгая дысцыпліна. Ён не дазваляў аніякай няўвагі, шэпту ці падказак. Не раз крычаў: «Ты, осле дарданэльскі, малпа афрыканьска» і часам біў даланёю па плячах. Але толькі хлапцоў, дзяўчат не чапаў. Здарылася, раз ён мяне пакараў папругай «па мяккай частцы цела» за нязробленую хатнюю задачу. Не так мне і балела, як было вельмі сорамна перад усім класам. Дапамагло, я стаўся адным з вучняў у першай дзясятцы.

У пятым класе да нас далучыліся жыдоўскія вучні, якія да той пары вучыліся ў пачатковай школе. Было трохі смеху з іх, бо цяжка было ім правільна вымаўляць польскія словы. Але паволі даганялі нас.

У чацвёртым і пятым класах я вучыўся разам з сынам валожынскага старосты Збігневам Весялоўскім. Быў ён задавака і хвалько. На ўсіх нас глядзеў згары, і ніхто яго не любіў. І здольным да навукі ён таксама не быў. Усё ж некаторыя настаўнікі, відавочна, каб не псаваць дачыненні з ягоным бацькам, фаварызавалі хлопца.

У 1937 годзе стаў новы староста па прозвішчы Ціхі, які меў дачку Ядзю. І з ёй я таксама вучыўся ў шостым класе. Ядзя была зусім іншага характару: вясёлая, добра вучылася, нікім не пагарджала, дапамагала слабейшым.

Да 1937 года кіраўніком школы быў пан Станіслаў Вайцяхоўскі, мала папулярны, бо непрыступны. Настаўнікаў жа, жанчын і мужчын, мелася хіба з дзясятак. Адных вучні любілі болей, а другіх — меней, як гэта бывае ў кожнай школе.

У шостым класе я закахаўся ў адну з маіх аднакласніц — Геню Белановіч. Дзяўчо было паважнае, не якая там хіхікала або балаболка. Добра вучылася і для мяне была найпрыгажэйшай дзяўчынай не толькі ў нашай школе, але і ў цэлым Валожынскім павеце. Ніколі, аднак, ні ёй, ані каму іншаму не прызнаўся ў сваіх пачуццях. Баяўся, што з мяне могуць насміхацца. Таму гэта засталося маёй асабістай таямніцай. Пасля заканчэння шостага класа Геня перавялася некуды ў гімназію.

Надышоў 1938/39 навучальны год, і я пайшоў у сёмы клас. За год да гэтага кіраўніком валожынскай Публічнай школы агульнаадукацыйнай сямігадовай імя Стафана Баторыя стаў пан Вікенці Вёнцэк. Добры чалавек і сапраўдны настаўнік. Як той казаў, асветнік з Божай ласкі. Інтэлігентны, ветлівы, сапраўдны дэмакрат. Да Валожына ён быў некалькі гадоў аташэ ў справах культуры і адукацыі пры польскай амбасадзе ў Парыжы. Добра гаварыў па-французску. У класе нас было 48 вучняў: 25 дзяўчат і 23 хлапцы. 19 вучняў былі жыдоўскія дзеці, рэшта — беларусы і палякі. Кіраўнік успрымаў нас, што мы вельмі любілі, як ужо сталых асобаў.

У 1939 годзе немцы рабілі многа розгаласу пра вайну, дык мы часта задавалі кіраўніку палітычныя пытанні, на якія ён ахвотна нам адказваў, забыўшыся пра ўрок.

Дадалося яшчэ болей урокаў: болей фізікі, анатоміі, нават зачапілі трохі старажытнай гісторыі, як Егіпет, Грэцыя і Рым.

Летнімі вакацыямі пераважна хлопцы збіраліся на выгане Палачанскай вуліцы. Пры Палачанскай вуліцы рабілі гаць на Валожынцы, каб падняць ваду хоць да пупа і пакупацца.

Падчас маіх старэйшых школьных гадоў кружыў такі вершык пра Валожын:

A Wołożyn — miasto cudne,
Dwa hotele — i te Brudne,
Jeden Polak — i ten żyd,
Jeden burmistrz — i ten Szwed,
A starosta zawsze Cichy
I gospodarz z niego lichy.

Тыя два гатэлікі належалі жыдоўская сям'і з Віленскай вуліцы па прозвішчы Брудно. Самы багаты жыд меў прозвішча Поляк, бурмістр зваўся Швед, а староста — Ціхі.

Перад вайной у Валожыне было крыху больш за шэсць тысяч жыхароў. Беларусаў было 42–45 адсоткаў, жыдоў 30–35 адсоткаў, рэшта былі палякі. У горадзе таксама знаходзіўся 28-ы батальён Корпуса аховы пагранічча, дзве агульнаадукацыйныя школы, а ў 1938 годзе адчынілі яшчэ і гімназію.

1939 год, месяц чэрвень, апошнія тыдні перад заканчэннем школьнага года. У нашай школе была арганізавана экскурсія ў Вільню на тры ночы і чатыры дні. Каштавала гэта сем злотых. І гутаркі не магло быць, каб мая матуля заплаціла гэтульки грошай. Але настаўнікі сабралі 14 злотых і пастанавілі паслаць на экскурсію яшчэ адну вучаніцу і аднаго вучня. Я быў тым шчаслівым вучнем. Не ведаю, чаму якраз на мяне выпала.

Аднак, каб трапіць у Вільню, трэба яшчэ адна златоўка на аўтобус — даехаць да станцыі ў Гародзьках. Імчу штосілы дамоў, бо ад'езд мае быць праз пару гадзін, і радасна гавару матулі, што на экскурсію еду задарма, але трэба адзін злоты на білет да станцыі. На вялікі жаль, мама кажа, што грошай няма, але дазволіла збегаць да суседзяў — можа, пазычаць. Паляцеў да нашых найбліжэйшых суседзяў Бядзінскіх. Аднак яны — ці не хацелі пазычыць, ці не мелі — сказалі, што не маюць. Няма рады, з апушчанай галавой вярнуўся ў школу. Аднакласнікі пытаюць: «Колька, ты едзеш у Вільню?» Адказваю, што не, бо не маю златоўкі на аўтобус. Пасля паўзы чую голас Данусі Яцкевіч: «Дзяўчаткі, хлопчыкі! Праз дурную златоўку Мікалай не паедзе ў Вільню! Давайце мне сюды, хто колькі мае пры сабе — дзесяць, пяць, а то і адзін грош». Узяла свой шэры скаўцкі капялюшык у руку і пачала збіраць на аўтобус для мяне. І сабрала патрэбную суму. Асабліва дружна, па пяць і дзесяць грошаў, давалі жыдоўскія дзяўчынкі і хлопчыкі. Нейкая пані з Грамадскай апекі ўручыла мне два бутэрброды з вяндлінкай на дарогу, і цэлай групай рушылі ў Вільню. Было гэта таксама маё першае падарожжа цягніком. Экскурсія прайшла вельмі ўдала, шмат цікавага пабачылі ў тыя дні.

Вільня — вельмі маляўнічы і прыгожы горад. Кармілі нас, экскурсантаў, у прытулку над рэчкай Віленкай, каля падножжа Трохкрыжовай гары. Некалькі нашых хлопцаў ускараскаліся да крыжоў на вяршыню. Выгляд Вільні з той гары цяжка апісаць. Такога прыгожага места больш ніколі не бачыў, хоць праехаў ужо паўсвету.

Заўсёды быў удзячны Данусі Яцкевіч і ўсё жыццё памятаў ейны ўчынак. Пасябраваў і з яе братам Стасем. Пазней даведаўся, што тая шляхетная дзяўчына ў час нямецкай акупацыі ўтапілася ў Бярэзіне, а яе брат Стась загінуў на вайне недзе над Віслай. Такі вось лёс напаткаў людзей, якіх ведаў, любіў і паважаў. Сумна, што абое загінулі маладымі і трагічна.

Школьны 1938/39 год быў апошні, у якім я і 47 маіх сяброў і сябровак скончылі польскую сямігодку. Дзякуючы ўплыву і шчыраму інтэлігентнаму падыходу нашага класнага кіраўніка Вёнцэка мы вельмі з сабой зжыліся. Не было між нас ніякіх спрэчак і дыскрымінацыі. І як скончылі школу, дык гэтым вельмі ганарыліся, і наш выхаваўца Вёнцэк таксама.

На заканчэнне падчас прыгатаванай для нас настаўнікамі гэтак званай гарбаткі з печывам кіраўнік раздаў усім пасведчанні. Для мяне асабіста было прыемна, што апынуўся з адзнакамі на шостым месцы ў першай дзясятцы. Прамовіў да нас таксама павятовы школьны інспектар пан Стэльмах. Засталося мне ў памяці некалькі слоў з яго прамовы: «Гэта сямігадовая навука дазволіць вам глянуць смялей у вашым узросце на свет і запланаваць сваю будучыню».

Мая будучыня на трохгектарнай гаспадарцы не выглядала надта ружовай, і я намерыўся напісаць заяву ў падафіцэрскую школу для юнакоў у горадзе Коніне ў Познанскім ваяводстве. Але выбухнула вайна, і адказу на заяву не дачакаўся. Можа б, нічога з таго і не выйшла, бо быў праваслаўнай веры і беларус з паходжання.

## «ВЫЗВАЛЕННЕ»

1 верасня 1939 года пачалася вайна. Ані ў польскім друку, ані па радыё не было пэўных звестак пра ход падзей, толькі гаварылі, што немцы бяруць верх над палякамі.

Надышло 17 верасня. На досвітку гэтага дня рота польскага войска, якая знаходзілася ў валожынскіх кашарах, адступіла ў кірунку Наваградка. Грымнула, няпэўная яшчэ, вестка, што Чырвоная армія перайшла мяжу і прасоўваецца на захад. Я варочаўся якраз з табару і чакаў воза, каб забраць наша малако. Заўважыў на вуліцах шмат людзей, асабліва на Касцельнай, каля моста. Большасць святочна апранутыя, бо была нядзеля і людзі збіраліся ў царкву або касцёл, але вестка пра набліжэнне савецкага войска прыпыніла іх.

Не памятаю дакладнага часу, але недзе паміж сёмай і восьмай гадзінамі раніцы першы танк з зачыненым люкам прыпоўз з боку вёскі Капусціна. Даволі хутка мінуў мост на Валожынцы, даехаў аж пад касцёл, павярнуўся і, не пабачыўшы ніякага польскага войска, пагнаў назад у кірунку Капусціна. Праз нейкія пяць-сем хвілін падышла цэлая калона танкаў ужо з адчыненымі люкамі на вежах, і мы ўбачылі танкістаў, што віталі сабраных людзей узмахамі рук. Мы таксама адказвалі ім, махаючы рукамі.

Неўзабаве танкі спыніліся, заглушылі маторы, і некалькі афіцэраў вылезлі адтуль і пачалі прамаўляць да нас па-расейску.

Крыху дзіўна тыя танкісты выглядалі ў сваіх чорных і тоўстых шапках на галовах. Быў сведкам, як з танка, які затрымаўся перад крамкаю з булкамі, вылез танкіст, зірнуў на выставу булачак у вакне і крыкнуў да сваіх: «Ребята, булочная! Пойду купить несколько». Зайшоў у крамку і кажа: «Хозяйка, могу ли купить несколько булок?» «Можаце. — адказвае жыдоўка. — А колькі вы хочаце?» «На рублей пять», — адказвае танкіст.

Зразумела, уладальніца не ўяўляла, якую вартасць мелі тыя пяць рублёў. Яна, пэўна, падумала, што гэта, як польскія злотыя. Пачала яму накладаць дзесяціграшовыя булачкі на рукі і дала столькі, што тыя пачалі падаць на падлогу. Ажно танкіст яе спыніў: «Довольно, хозяйка, довольно!» Паварочваецца і выходзіць з крамкі, а жыдоўка крычыць наўздагон: «Гаспадзін, вазьміце здачу!» «Да чёрт побери со сдачей», — адказаў танкіст і, задаволены, пачаў абдорваць сваіх таварышаў.

Ад прыходу савецкага войска мінула, бадай, гадзіна часу; я пачаў адчуваць голад, і пара было занесці малако дахаты. Да таго ж маці магла занепакоіцца, што не вяртаюся. Не памятаю, хто гэтым ранкам прывёз малако, але нехта з Касцельнай вуліцы. Я забраў сваю бляшанку, у якой было з вядро малака. Пачаў несці, было даволі цяжка. На вуліцы стаяла група чырвонаармейцаў з афіцэрам. Хоць па-расейску я не размаўляў, але разумеў. Апрануты я быў у саматканую кашулю і порткі з дзюркамі на каленях, ды басанож. Набліжаючыся да той групы вайскоўцаў, чую, што адзін з іх кажа: «Ну вот и один пролетарий нашелся». Затрымалі мяне і пытаюць: «А куда ваши рабочие и крестьяне подевались? Видим только панов, все разодетые». Адказваю ім па-беларуску, што гэта ніякія не «паны», толькі дробныя гаспадары. А што святочна ўбраныя, дык сёння ж нядзеля, таму так апрануліся, каб пайсці ў царкву ці касцёл. Акурат праходзіла некалькі знаёмых мне суседзяў, і я сказаў, што гэта сяляне. А я, патлумачыў, таму ў пашарпаных нагавіцах, што вяртаюся з пашы, дзе даіў кароў. Нехта з групы запытаўся яшчэ: «А что, у вас еще молятся?»

З тым я і адышоў ад дужа збянтэжаных «освободителей». У наступныя тыдні і месяцы мы таксама былі збянтэжаныя і здзіўленыя.

Наступныя савецкія аддзелы, як пяхота і конніца, прыбылі ў гэты ж дзень значна пазней. Беларусы і жыды віталі савецкае войска даволі радасна: хлебам, соллю і кветкамі, пераважна вяргінямі. Але вялікага энтузіязму не было, не было спехам збудаваных «вітальных брамаў». Выгляд чырвонаармейцаў быў далёкі ад імпазантнага. Гімнасцёркі даволі дрэнныя і не заўсёды чыстыя, халявы ботаў з нейкага штучнага матэрыялу. Афіцэры замест гадзіннікаў мелі на руках компасы. Некаторыя «бойцы» мелі вінтовачныя рамяні, прывязаныя шнуркамі, чаго ніколі не бачылі ў польскіх жаўнераў.

Тым часам некаторыя валожынцы пайшлі на тэрыторыю польскіх вайсковых кашар і пачалі выносіць, што трапілася, з складоў. Я таксама паляцеў туды, хоць даволі позна, але здолеў знайсці пару вайсковых чаравікаў, якія мне пазней вельмі прыдаліся, і пяць пар лыжаў. З іх пакінуў сабе пару, а рэшту аддаў стрыечным братам. Папраўдзе кажучы, гэта было не што іншае, як звычайнае рабаўніцтва. Але каб я не ўзяў, то забралі б іншыя.

Першыя пару тыдняў было нейкае бескаралеўе. Але савецкая ўлада паволі пачала «действовать», перадусім НКУС. Пайшлі па Валожыне чуткі, што арыштоўваюць людзей, ловяць найперш польскую паліцыю і пакуль некаторых чыноўнікаў. З'явіліся «политруки» і пачалі арганізоўваць «митинги». Зразумела, кожны такі мітынг пачынаўся з паклонаў да крамлёўскага алтара. Потым пачыналі запэўніваць, якое вялікае шчасце і будучыня нас чакаюць у межах «советской родины».

Недзе праз месяц, а можа і пазней, адчынілі школу. Выявілася, што ўсе вучні, што хадзілі ў польскую школу, у класы пяты, шосты, сёмы і нават першы гімназійны, пераводзяцца назад у пяты клас. Адзінымі новымі прадметамі былі навука расейскай і беларускай моваў. Ну, відаць, можна было назваць новымі таксама гісторыю і геаграфію СССР. Нేставала новым уладам настаўнікаў, бо тыя, што навучалі ў польскіх школах, або ўцяклі, або, як правіла, былі арыштаваныя. Шмат хто з ранейшых настаўнікаў ведаў расейскую мову, а некаторыя і беларускую, і паспяхова маглі навучаць і далей пры савецкай сістэме, але ў той сістэме «дурняў не сеюць і не жнуць, яны самі растуць».

Каб неяк справіцца з недахопам настаўнікаў, новыя школьныя ўлады арганізавалі ў 1940 годзе шасцімесячны «Педагогический курс», куды паступіў і я. Але ў нас захварэла мама, таму вымушаны быў яго кінуць.

Усяго пачало неставаць. Жыды свае крамы і крамкі пазачынялі, тавар адразу ж пахавалі. Нельга было набыць найпатрэбнейшых рэчаў, як соль, цукар, газа для лямпаў, не кажучы ўжо пра вопратку ці абутак. Праўда, адчынілі некалькі крамаў з хлебам, каля якіх штодня збіраліся чэргі, чаго мы, валожынцы, за польскай уладай ніколі не бачылі, за выключэннем часам па білеты ў кіно. Не было чэргаў толькі ў крамах з кніжкамі і часопісамі.

Недзе, здаецца, у канцы сакавіка 1940 года адбыўся паказны «плебисцит». Высвятлялася, ці хочам мы, «новоосвобожденные» беларусы, украінцы, жыды і палякі, далучыцца да Савецкага Саюза. А як жа іначай?! Зразумела, «хочам»! І абвясцілі вынік: больш за 90 адсоткаў за далучэнне.

У 1940 годзе савецкая ўлада наклала на сялянаў падаткі. Апрача грашовай платы мусілі здаваць па «обязательству» збожжа, мяса. Нешта казалі пра здачу малака і яек.

Разгарнулі таксама агітацыю сярод вяскоўцаў за ўступленне ў калгасы. Вёска Бурмакі стала першай, у якой стварылі калгас. Іншыя вёскі і валожынцы неяк не спяшаліся.

Шмат хто з мясцовых людзей задумваўся, якая можа быць прычына, што старая савецка-польская мяжа, хоць мы ўжо з'яўляемся часткай Беларускай Савецкай Рэспублікі, па-ранейшаму закрытая і пільнуецца савецкімі памежнікамі, што сем'і і крэўныя, калісьці падзеленыя Рыжскім трактатам, па-ранейшаму не могуць сустрэцца і пабачыцца. Людзі пачалі задумвацца: што савецкая ўлада хавае? Праз год можна было пачуць такую показку: «20 гадоў палякі нас вучылі, як стаць палякамі, і не навучылі. Прыйшлі саветы і навучылі за год».

У валожынскіх кашарах размясцілі чырвонаармейцаў. Быў гэта полк, у якім служылі пераважна грузіны. Зіма 1939–1940 гадоў была вельмі марозная. Вымерзлі ўсе яблыні ў садах і іншыя дрэвы. Нават паўтысячагадовыя дубы і тыя пацярпелі. Таму грузінам таксама было ў Валожыне вельмі холадна, дый ад Каўказа далёка.

Прыходзіла поўнае расчараванне. Шмат гаварылася, вельмі мала рабілася. Не паслалі нават мясцовага чалавека дэпутатам у Вярхоўны Савет, толькі падкінулі, як ката ў мяху, нейкага Козінцава — расейца, які рэпрэзентаваў нас, валожынцаў, у Маскве.

Неяк перамучыўся я ў школе яшчэ год, вучыўшыся чытаць і пісаць па-расейску і пабеларуску, што на некалькі наступных гадоў вельмі прыдалося. А потым кінуў школу і не ведаў, што рабіць далей. Пакуль што заняўся гаспадаркай.

29 красавіка 1941 года прынеслі мне позву, каб прыйшоў у райвыканкам. Якое ліха там мяне чакае? Калі з'явіўся туды, у пакоі ўжо было з дваццаць маладых хлопцаў, пара з іх — знаёмыя мне валожынцы, а рэшта, як пасля даведаўся, — з навакольных вёсак. За сталом сядзелі двое вярбоўшчыкаў. Адзін з іх запытаўся, як маё прозвішча. Я адказаў, і ён, праглядзеўшы кучу папераў на стале, выбраў адну і падаў мне ў рукі, кажучы: «Распішыся!». Я да яго: «Прабачце, калі ласка, але я наперад прачытаю, што буду падпісваць». Гэта была дамова-кантракт, што я «добровольно» згадзіўся працаваць у Карэла-Фінскай Рэспубліцы, у «Карэллесе» на лесараспрацоўках шэсць месяцаў. Прачытаў далей, што там будзе забяспечана кватэра, спецвопратка і абутак, добрыя заробкі і ўмовы працы. Папытаўся ў аднаго знаёмага, падпісалі яны ці не? Той кажа, што не падпісалі, бо ніхто з іх не згадзіўся ехаць у Карэлію «добровольно».

Адзін з вярбоўшчыкаў кажа: «Давайте, подписывайте! Если нет, то мы подойдем к этому делу иначе!» Мы ўсе заявілі, што слова «добровольно» не адпавядае праўдзе, ніхто з нас самахоць не з'явіўся, нас сюды паклікалі. Тады адзін вярбоўшчык узяў тэлефон, выкруціў нейкі нумар, і праз пяць хвілін з'явіўся лейтэнант НКУС. «В чем дело?»

Вярбоўшчык яму патлумачыў, у чым справа. Энкавэдыст зірнуў грозным вокам і кажа: «Ребята, давайте не будем валять дурака. Подпишете или не подпишете — и так поедете. Если подпишете, поедете как свободные граждане нашей страны. Если не подпишете, поедете под конвоем. Но не на шесть месяцев, а на пару лет. А через вашу глупость ваши семьи тоже могут пострадать». Пасля тых словаў мы паглядзелі адзін на аднаго і падпісалі. Толькі шэсць месяцаў, неяк вытрымаем.

Было нас усіх дваццаць хлопцаў. Трое з Валожына: Аркадзь Купцэвіч з Бандароў, Мікалай Касоўскі з Келявіч і я. Астатнія з навакольных вёсак. Не памятаю дакладна з якіх, але было двое ці трое з Забрэззя, адзін — з Славенска, адзін — з Канавалаў, здаецца, было пара з Маршалкаў. Самы старэйшы меў трыццаць два гады, а я, наймалодшы, — сямнаццаць. Эдзік Жукоўскі з Забрэззя толькі што быў ажаніўся, тры месяцы па шлюбе. Нас, валожынцаў, пусцілі дадому ўзяць якія-небудзь рэчы, рэшта хлопцаў ужо мелі з сабой пакункі.

Па абедзе пасадзілі на грузавік і завезлі ў Гародзькі на станцыю, далучыўшы нейкую віленскую жыдоўку, якая павінна была даставіць нас у карэла-фінскую сталіцу — Петразаводск. Усе нашыя дакументы былі на захаванні ў яе. Пасадзілі нас у пасажырскі вагон і праз Маладзечна, Вялейку, Полацак, Вялікія Лукі, Балагое — да Ленінграда, і спыніліся на Фінскім вакзале. Было ўжо 2 траўня.

У Ленінградзе — перасадка на цягнік да Петразаводска і далей, аж да Мурманска. Да ад’езду трэба было чакаць пяць гадзін. Каля яшчэ ў Валожыне падпісалі дамовы, нам далі кожнаму па 380 рублёў авансу, які павінны былі адпрацаваць у лесе. Вось мы, атрымаўшы «аж столькі грошай», не ўяўлялі, як гэта выйдзе пазней на практыцы. У Ленінградзе, маючы вольны час, хацелі выйсці ў горад і пабачыць, як выглядае «сталіца рэвалюцыі», і звярнуліся да нашай праваднічкі, каб аддала на пару гадзін пашпарты. Яна адмовіла, бо, маўляў, з пашпартамі мы можам уцячы, а яна за нас адказвае. Усё ж такі чатырох з нас рызыкнулі і выйшлі з вакзала на Лігаўскі праспект паглядзець на Ленінград.

Была якраз нядзеля, і амаль усе магазіны былі зачыненыя. Будынкі на Лігаўцы, узведзеныя яшчэ да рэвалюцыі, былі вельмі прыгожыя і цікавыя. Дайшлі да адной харчовай крамы, якая была адчыненая, і захацелі купіць каўбасы, якую ўбачылі ў вітрыны. Ад прадаўца даведаліся, што ён прадаў апошні кілаграм, а сёння ўжо давозу не будзе, бо нядзеля, дый позна. Дык мы кажам: «А гэная каўбаса, што ў акне на выстаўцы?» Збянтэжаны такім пытаннем, той адказаў, што яна штучная. Яшчэ адна звестка пра савецкую рэчаіснасць.

Прайшліся мы яшчэ па Лігаўцы, падзівіліся на трамваі, што ездзілі туды і сюды, і вярнуліся на вакзал, дзе нас чакала знерваваная праваднічка. Падагналі хуткі цягнік «Ленінград — Мурманск», наша група ўселася ў яго, і каля пятай гадзіны па абедзе выехалі з Ленінграда праз Волхаў да Петразаводска, да якога ехалі дзесьці каля дваццаці трох гадзін. Нейкі прадстаўнік «Карэллесу» спаткаў нас на вакзале і завёў у інтэрнат на начлег. Змучаныя доўгай дарогай, мы заснулі, хоць і дакучалі клапы.

## КАРЭЛІЯ

У Петразаводску нас затрымалі пару дзён, пакуль арганізавалі транспарт грузавіком у Пражаскі раён, Кіндасаўскі лесапункт, пасёлак Сяпся — гэта нейкіх 80 кіламетраў на захад ад Петразаводска.

Было дзесьці 5 траўня, а на карэльскіх азёрах ляжаў яшчэ лёд, толькі рэчкі былі ўжо вольныя ад яго. Пасёлак Сяпся — пры рацэ Сяпся, такой, як наша Бярэзіна або Ісләч.

Адзін вялікі інтэрнат з кухняй, адзін барак для начальства, жанчына-камендант і крамка-ларок. Інтэрнат падзелены на мужчынскую і жаночую часткі па 30 ложкаў

кожная. Адразу ўсе жыхары пасёлка даведаліся, што прыехала група «западнікаў». Выявілася, што мы гэтакія ў Сяпсі не першыя: ужо было з дзясятак жанчын і некалькі хлопцаў з Заходняй Украіны, з Валыні. Кожнаму з нас выдзелілі ложак і пасцель, сёе-тое начальнік пасёлка сказаў нам для прывітання і заявіў, каб заўтра да васьмі раніцы былі гатовыя на працу.

Тым часам аванс, які атрымалі ў Валожыне, у нас дужа зменшыўся. Спецвопратку, якую абяцалі, нават не паказалі.

На наступны дзень майстар-карэл падзяліў нас па трое і завёў на працу, на «каток» — скочваць калоды спілаваных дрэваў у раку на сплаў. Абавязкова павінны былі выпрацаваць норму. Адразу ўбачылі, што гэтую норму нам, не звыклым да працы з дрэвам, вырабіць будзе цяжка. Рэальна выходзіла, што зараблялі мы ў дзень 8–10 рублёў, а праядалі 12–14. Значыць, штодня ўсё глыбей западалі ў кабалу леспрамгаса. Дык наша ўмова на шэсць месяцаў, напэўна, замянілася б на шэсць гадоў. І дакуль бы мы былі ў даўгу, датуль нас не пусцілі б дадому. Злавілі нас у пастку.

Пасля заканчэнні «каткі» нас перавялі ў другое месца — таксама на праклятую «катку», але гэтым разам замест скочвання ў раку мы скочвалі ў возера. Тут скочванне пачаў нехта раней, але тады калоды былі яшчэ прымёрзлыя да зямлі, ды так і засталіся. Дык вось нам давялося гэтыя астатнія рады прымерзлых калодаў каціць у возера. Некаторыя з іх трэба было высякаць сякерамі, што ўскладняла работу. Ад пачатку нашай працы на «скочцы» ані разу мы яшчэ не атрымалі заробку. Давалі нам па 30 рублёў авансу на харчы, і з кожным тыднем мы западалі ўсё глыбей і глыбей у доўг. І вось аднойчы нам адмовілі даць аванс, і наступным днём мы пайшлі на работу без сняданку. Ад бараку (на самай справе гэта былая царква), дзе мы кватараваліся, і да працы было каля чатырох кіламетраў. Прыйшоўшы на працу, мы ўбачылі якраз начальніка — фіна, якога звалі Кірыпелда. Мы да яго са скаргай: «Чаму вы нам не далі авансу? Мы прыйшлі на работу галодныя». Дык ён кажа, што мы авансу не заслужылі, бо вырабілі норму толькі па два рублі на дзень. Як толькі мы гэта пачулі, дык як па камандзе кінулі свае сякеры яму пад ногі і, нічога не кажучы, павярнуліся і пайшлі назад у інтэрнат. Папросту мы пайшлі на страйк: хай будзе, што будзе.

Наша забастоўка нарабіла неспадзяванага клопату начальству, дый нам самім таксама. Мы вырашылі трымацца і бараніцца тым, што начальства «Карэллесу» не выконвае сваёй часткі дамовы, якую падпісалі з намі ў Беларусі.

Зляцелася ўстрывожанае начальства. Пачалі нас і прасіць, і страшыць, а мы толькі падсоўваем нашы з імі ўмовы: маўляў, не мы іх парушаем, а яны не вытрымліваюць сваёй часткі. Цэлы тыдзень мы не выходзілі на працу. Ішлі перамовы. Нарэшце начальнік лесапункта (звалі яго «папой») заявіў, што нам заплоцяць сярэдні заробак 11 рублёў за адпрацаваныя і страйкавыя дні і вышлюць на зусім іншую працу, а менавіта на сплаў.

У гэтыя дні страйку ўсе савецкія работнікі ад нас адвярнуліся. Адзін толькі сказаў: «Вы, дурныя палякі, не ведаеце, у што вы ўляпаліся». У савецкай сістэме заўсёды нехта адказвае. Пазней мы даведаліся, што начальнік Кірыпелда быў асуджаны за «правакацыю» незнаёмых з савецкімі парадкамі «западнікаў».

Пасля сплаву вярнулі нас у Кіндасаўскі лесапункт на тартак. Мушу дадаць, што да 1941 года ўся Карэлія была густа пакрытая лясамі, поўная азёр, рэк і рэчак, а заселеная рэдка. Нас каля 40 чалавек жыло ў адным бараку, далёка ад паселішчаў, каля вялікай ракі Шуі, якая ўпадала ў Анежскае возера.

Мяне паставілі на тралёўку, далі сібірскага коніка з санямі — сцягваць спілаваныя калоды пад драўляную каляю, па якой на спецыяльных вазах калоды везлі да ракі, а потым сплаўлялі. Вось мой конік гняды з белай стрэлкай на галоўцы быў вельмі паслухмяны і працавіты. Але праблема была ў тым, што хамут быў не падагнаны і конік меў

нацёртыя грудзі аж да сырой раны. Яму, беднаму, надта балела, як цягнуў сані з калодай. Я яго шкадаваў і клаў на сані толькі адну калоду замест двух. Таму і норму выконваў толькі на 75–80 адсоткаў. З 8–10 тралёўшчыкаў я быў найгоршы, на што і звярнуў увагу майстар. Тады я яму паказаў раны ў коніка і сказаў, што, будучы гаспадарскім сынам, які пры кані вырас, не магу дазволіць сабе яго мучыць. Спачатку трэба каня вылечыць, затым падагнаць хамут, і тады я змагу вырабіць норму.

Не ведаю, які лёс напаткаў гэтага коніка, да якога я прывязаўся, бо 22 чэрвеня 1941 года немцы пачалі вайну з Савецкім Саюзам.

Уранку таго дня мы толькі пачалі працу ў лесе, як адзін з майстроў прымчаўся верхам на кані і пачаў крычаць: «Кончай работу! Проклятый немец напал на нашу страну!» Мы ўсе натуральна аслупянелі і пачалі вяртацца ў барак. Там начальнік лесапункта загадаў спакаваць і забраць свае рэчы, пераправіцца лодкай праз раку Шую і пешкі лясной дарогай кіравацца да раённага горада Пража (гэта каля 8–10 кіламетраў). Па дарозе мы ішлі з хлопцамі малымі групкамі па трох-чатырох, паціху гаворачы і не ведаючы, які лёс нас чакае. Дайшоўшы да Пражы, пасяліліся ў інтэрнаце, нешта з'елі і чакалі далейшых распараджэнняў.

Назаўтра з'явілася вайсковая камісія, і сем хлопцаў з нашай валожынскай групы мабілізавалі ў Чырвоную армію. Рэшту завезлі ў пасёлак Сяпся, дзе мы рэзалі бярозавыя чуркі да газагенератарных трактароў і грузавікоў. Тыдзень пазней паслалі нас і шмат іншых хлопцаў на будоўлю аэрадрома недалёка ад Пражы ў амаль некранутым лесе. Для гэтай работы сабралі, напэўна, больш за 200 чалавек. Адразу пачалася інтэнсіўная праца, але пабудаваць аэрадром у густым лесе не так проста. Трэба вельмі шмат спілаваць і вывезці лесу, выкарчаваць пні, падрыхтаваць грунт для ўзлётных палос і зацэментаваць.

Тым часам на франтах Чырвонай арміі не шанцавала, даводзілася, як нам усім вядома, спачатку адступаць. Пасля трох тыдняў работу спынілі, а людзей — мужчын і жанчын, уключылі ў «строй-батальёны» і падвезлі пад франтавую зону на абаронныя работы — капаць акопы, нацягваць калючы дрот, рыхтаваць кулямётныя пазіцыі, рабіць супрацьтанкавыя перашкоды. На абароннай рабоце нам плацілі па пяць рублёў і кармілі ў вайсковай кухні на калёсах. Усё гэта адбывалася пад наглядам вайсковых сапёрных інжынераў. Пасля заканчэння першага ўчастка праз два тыдні перавезлі на другі.

Працавалі мы начамі, якія летам на поўначы нагэтулькі відныя, што нават можна чытаць газету. Найгорш нам дакучалі мошкі, якія лезлі ў вочы, вушы, нос і рот, немагчыма было ад іх адбараніцца. Але ж хоць нешта з гэтага выйшла пазітыўнае: харчуючыся з вайсковай кухні (каша і суп) і маючы пяцірублёвую зарплату на дзень, я ды іншыя хлопцы вылезлі з даўгоў.

На другім участку акопаў я заўважыў маладога дзецюка, апранутага ў польскі вайсковы мундзір. Стоячы ў чарзе па яду, наважыўся з ім пагутарыць. Ён знайшоў калоду і сеў з сваёй ежай, я прысеў каля яго і загаварыў па-польску. Назваўся, і мы пачалі гутарыць. Выявілася, што ён — зямляк з-пад Смаргоні. У 1939 годзе яго мабілізавалі ў польскае войска, біўся з немцамі на фронце. Дадому яму ўдалося вярнуцца ўжо пры савецкай уладзе. Пазней на адной з вечарын, на якую прыйшоў, пабіўся. Забралі ў міліцыю. Быў суд, і за хуліганства атрымаў шэсць месяцаў «исправительных лагерей». Пасля нападу немцаў на Савецкі Саюз яго амніставалі і, пакуль атрымае дакументы, адправілі на акопы, а затым накіруюць у польскую армію, якая будзе стварацца ў СССР.

Ад яго я даведаўся, што за мяжой у Лондане ёсць польскі ўрад і што ён падпісаў дамову з савецкім урадам аб стварэнні польскай арміі з былых польскіх грамадзянаў, якія знаходзяцца на тэрыторыі СССР. З таго часу я паставіў сабе за мэту далучыцца да

польскай арміі ў СССР. Падзякаваў я Сцяпану Чартовічу (так звалі таго земляка), і пакуль мы былі разам на абароннай рабоце, блізка трымаліся і часта размаўлялі.

Тым часам хлопцы з нашай валожынскай групы былі мабілізаваныя ў Чырвоную армію. І нас засталося толькі двое: Мікалай Касоўскі, бо меў толькі адно вока, і я, бо мой 1923 год яшчэ не падлягаў мабілізацыі.

На гэтым другім месцы абаронных работ мы рабілі супрацьтанкавыя перашкоды, сутнасць якіх была ў тым, што паабапал шашы зразалі кожнае дрэва на вышыні аднаго метра. Толькі цалкам камель не спілоўвалі, пакідалі недарэзаным і, калі дрэва пачынала трашчаць, штурхалі яго ў адным кірунку. Таму недапілаваныя камлі трымаліся на пні. Такія завалы мелі 100 метраў даўжыні і 35–40 метраў шырыні і на самай справе стваралі даволі моцную перашкоду для танкаў. Пасля сканчэння гэтай работы людзей накіроўвалі на выкананне іншых заданняў.

Развітаўшыся з Чартовічам, пажадаў, каб яму пашчасціла даехаць туды, куды вялі яго дарога і лёс. Даў яму 50 рублёў, бо хлопец быў без капейкі. Калі ў наступным годзе я прыстаў да польскай арміі, дык шукаў Мікалая, але нічога пра яго не ўдалося даведацца.

Праз тыдзень пасля абарончых работ Касоўскі і я апынуліся аж у Петразаводску, дзе група работнікаў «Карэллесу» чакала далейшага распараджэння. Быў ужо хіба апошні тыдзень жніўня. Нас зноў рассялілі ў інтэрнаце па 20 чалавек і нават дазволілі пабадзяцца па сталіцы Карэла-Фінскай Рэспублікі.

Я заўважыў расклееную рэкламу, што ў рэспубліканскім тэатры будзе паказаная канадская аперэта «Розмары». Намовіў Колю Касоўскага і яшчэ аднаго беларуса, і пайшлі мы паглядзець тую «Розмары», зразумела, на расейскай мове. Музыка і спевы вельмі харошыя, тым больш што замежныя, і нам вельмі спадабалася.

## ШЛЯХ НА ЎСХОД

Праз дзень ці два паклікалі нас у кантору «Карэллесу» і падзялілі па некалькі чалавек, даючы розныя заданні. Мяне з Касоўскім і яшчэ пяцёх маладых хлопцаў запісалі ў брыгаду, кіраўніком і правадніком якой прызначылі старэйшага мужчыну, гадоў трыццаці пяці. Далі нам вось такую задачу. У лясной карэльскай гаспадарцы шмат непатрэбных цяпер коней. Праз вайну праца тут прыпынілася, і з konьмі нешта трэба было рабіць, а менавіта эвакуяваць з Карэліі далей на ўсход.

Нас восем чалавек. Атрымалі 32 кані, чатыры вазы, па 400 рублёў на дарогу, адпаведныя дакументы для нашага праваднiка. І мусілі перагнаць гэтых коней аж да Пярмі, што каля Уральскіх гор. Нейкіх, напэўна, 1400 кіламетраў — гэта толькі напрасткі. Відаць, ніхто з начальства не падумаў, што гэта немагчымая задача — перагнаць коней да зімы, бо пачынаўся верасень. За выкананне яе нам абяцалі заплаціць па 20 рублёў за суткі. Наш брыгадзір Іван Асіпенка, беларус, і яшчэ трое хлопцаў былі з Гомельскай вобласці. Касоўскі і я — з Валожына, адзін з Менскай вобласці і яшчэ расеец з наскім прозвішчам Янкоўскі Пётр з Смаленска ці Смаленскай вобласці. Па адным кані былі ў аглоблях, рэшта — прывязаныя на пастронках — усё гэта стварала маляўнічы табар-караван.

Дарога вяла ўздоўж паўднёвага берага возера Анега, праз Вазнясенне, Выцягру, Белазерск, Кірылаў, Вожагу і Ельск. Нават калі б мы галопам імчалі дзень і ноч, усё роўна да надыходу зімы да Пярмі не даехалі б.

Пераадольваючы ў дзень 15–20 кіламетраў, на ноч затрымліваліся, пераважна на сенажацях або выганах пры вёсках, каб папасвіць коней ды самым нешта з’есці. Па дарозе куплялі нашы пайкі хлеба па 600 грамаў на дзень, часам заходзілі ў сталоўкі, каб з’есці супу ці кашы. Пра мяса можна было толькі ўспомніць або памарыць. Калі была магчы-

масць, проста кралі калгасную бульбу, якую вечарам варылі ў вядры, бо катла не мелі. І поўнае гэтае вядро бульбы з'ядалі адразу. Бывала такое, што затрымліваліся на дзень, як траплялі на добры выпас, а калі быў дождж — дык і даўжэй.

Ад Выцягры мы ехалі ўздоўж канала аж да Белазерска. Паабапал канала, а гэта 3–4 кіламетры, знаходзіліся лагеры. Канал ужо пабудавалі, і большасць тых лагераў пуставалі, або былі занятыя пад іншыя патрэбы. Я сустракаў людзей і слухаў іх апавяданні пра цяжкую працу на тым будаўніцтве. Падчас будоўлі не было аніякіх машын, дзе-нідзе трактар або грузавік. Асноўныя прылады працы — сякера, лучковая піла, кірка і тачка. Пры гэтым здаралася мноства няшчасных выпадкаў. Цяжкая праца ў балоце і холадзе, на дрэнных харчах была суровым выпрабаваннем для лагернікаў.

Пасля заканчэння будоўлі шмат каму з лагернікаў была аб'яўлена амністыя. Але, здаецца, звольненыя лагернікі не доўга цешыліся «свабодай». Іх арыштоўвалі зноў і пасылалі ў іншыя савецкія лагеры.

Перад Выцяграй, устаўшы рана пасля начлегу, я ўбачыў, што адна з старэйшых кабыл папросту не паднялася. Мы ўсе, восем хлопцаў, спрабавалі яе паставіць на ногі. Нічога з гэтага не выйшла. Тады паклікалі мясцовага кіраўніка калгаса за сведку, каб даў нам даведку, што кабыла здохла, пакінулі яе на выгане калгаснікам і паехалі далей.

У адной мясцовасці мы затрымаліся каля пякарні, каб выкупіць наш паёк хлеба. Вось я і звярнуў увагу на гэтую незвычайную пякарню. Раней гэта была праваслаўная царква, якую ператварылі ў пякарню і склад мукі. Мяне ўразіла яе вялікае падабенства да Віленскай катэдры і Валожынскага касцёла. Адкуль такая архітэктура класіцызму ўзялася на поўначы Расеі? Толькі званіца, якая стаяла побач, мела традыцыйны расейскі стыль. Крыху далей, недзе за Кірылавам (манастыр-крэпасць), мы з сябрамі ўбачылі адну з найпрыгажэйшых цэркваў, якія мне даводзілася бачыць. Мела яна аж трынаццаць купалаў. Адзін, галоўны, увасабляў Хрыста, а астатнія — апосталаў. Вось гэтая пярліна сакральнай архітэктуры была ператвораная ў лагер з «гнёздамі буслоў» — ахоўнымі вышкамі. Такое можна было ўбачыць толькі ў камуністычнай Расеі.

Між іншага штораз станавілася ўсё халадней, закончваліся нашыя грошы, хоць мы іх выдаткоўвалі вельмі эканомна — толькі на самыя неабходныя патрэбы. Даехалі да Белазерска, і наш праваднік даведаўся, што тут ёсць прадстаўнік абласнога камуністычнага камітэта. Я ўзяў з сабой яшчэ двух хлопцаў, і мы пайшлі параіцца, што нам рабіць далей. Мы хацелі, каб у нас гэтых коней забралі, бо ніколі да той Пярмі не даедзем, або каб нам далі чыгуначны транспарт, ну і грошы на дарогу. Адказ быў наступны: коней не могуць узяць, бо яны леспрамгасаўскія, чыгуначнага транспарту таксама не будзе, бо ўсё прызначана для вайсковых патрэбаў. Грошай таксама няма, але можаце прадаць у калгас каня, атрымаеце квітанцыю, а як прыедзеце на месца — вылічаць з зарплаты.

Мы так і зрабілі. Прадалі каня, дзесьці за 2000 рублёў, а пазней яшчэ аднаго перад надыходам зімы. Напрыканцы кастрычніка даехалі мы да Волагда-Архангельскай чыгункі і прыпыніліся на станцыі Вожэга ў Валагодскай вобласці. Наступная станцыя была ўжо ў Архангельскай вобласці.

Коней з кожным разам станавілася пасвіць усё цяжэй і цяжэй. Трава пажоўкла, надышлі халады, і выпаў першы снег. Да гэтага часу мы праехалі каля 500 кіламетраў і часта падвозілі пешых бежанцаў з-пад Ленінграда. Едучы, бачылі вялікую бядоту калгаснікаў, амаль пустыя склады і крамы. За ўвесь гэты час я не сустрэў ніводнага чалавека на ровары. У нас за польскім часам, каб купіць ровар, трэба было прадаць карову або тры парсюкі, але ж усё роўна амаль у кожнай вёсцы быў адзін-два, а часам і болей.

На станцыі Вожэга я спаткаў групу палякаў, якія ехалі ў нейкі Бузулук, дзе арганізоўвалася польскае войска. Хацеў я да іх далучыцца, але старшы той групы мне сказаў:

«Нас каля 50 чалавек, набіраем правізію толькі на самых». А я быў бы лішні чалавек у падраздзяленні, якое і так мае вельмі сціплыя порцыі. Гэтым разам мне не ўдалося.

Там жа чатырох нас вырашылі адлучыцца і паспрабаваць паехаць, вядома ж без коней, аж у Ташкент, бо там адзін з нас меў дзядзьку, які, можа, паспрыяў бы ўладкавацца там дзе-небудзь на працу. Але неабходна было мець пропуск ад ваеннага камендanta станцыі, каб купіць білет на цягнік. Пайшлі мы з просьбай да каменданта па гэты пропуск. Камендантам аказаўся старшы лейтэнант НКУС. Паказалі яму дакументы, што мы з Карэліі і хацелі б трапіць на поўдзень СССР, у Ташкент. Ён уважліва нас выслухаў, што і як, але сказаў, што, пакуль сітуацыя на франтах не зменіцца на лепшую, увесь чыгуначны транспарт прызначаны толькі на ваенныя патрэбы. І тут жа прапанаваў уладкавацца на працу тут, у мясцовым леспрамгасе, пакуль не наступяць лепшыя часы.

Іван Асіпенка і трое хлопцаў паехалі з коньмі да горада Вельска, дзе павінны былі нешта вырашыць на зіму з коньмі. Мікалай Касоўскі, Пётр Янкоўскі, Рыгор Шэметаў і я пайшлі ў кантору мясцовай управы леспрамгаса.

Дырэктар вельмі цёпла нас прывітаў, ветліва і жартаўліва пагаварыў і з радасцю прыняў на работу. Сказаў толькі, што нас чакае 40-кіламетровы марш да пасёлка Курылава, па дарозе трэба будзе пераначаваць у сельсавеце. Ён туды патэлефануе і нас там будуць чакаць. На дарогу выпісаў картачкі для пякарні на хлеб па два кілаграмы кожнаму з нас. Не буду казаць, як нас гэты хлеб усцешыў і наталіў.

Была пара абеду, калі мы пешкі рушылі да таго Курылава. Па дарозе заначавалі, па аднаму раздзяліўшыся, у вясковых хатах. Я трапіў да беднай, ужо пажылай, адзінокай жанчыны. Даведаўшыся, што я родам з Заходняй Беларусі, яна, бедная, заплакала і сказала, што яе сын быў у Чырвонай арміі, і яго полк, як пачалася вайна, стаяў у Беластоку, і ад сына няма ніякай весткі. Паслала мне на лаве і, прыкрываючы нейкай дзяружкай, дадала: «Бог ведае, можа, твая маці прыкрывае ў Беларусі майго сыночка». Як згасіла лямпу, я ціха заплакаў, не ведаючы, што мяне чакае.

На другі дзень позна ўвечары дабраліся да пасёлка Курылава.

Начальнік ужо нас чакаў, сардэчна прывітаў і завёў у сталоўку, дзе пачаставалі цёплым супам і панцаковай кашай, Пасля вячэры завёў нас у барак, дзе жылі толькі нежанатыя мужчыны, і пазнаёміў з імі. Вялікая ўзнікла цікавасць, калі даведаліся, што двое з нас — «западнікі». Выдзелілі нам ложкі з матрацамі, па адной коўдры і падушцы. Было ўжо позна і, змучаныя дарогай, мы хутка паснулі.

Начальнік Дзмітрый Сцяпанавіч Фамічоў, гадоў 55–60, даў нам наступны дзень адпачыць. Мы пайшлі ў лазню, памыліся, ад чаго стала вельмі добра, атрымалі сякеры і пілы-лучкоўкі і сталі шыкавацца на наступны дзень на працу — падрыхтаваць дарогу для трактара і саней, на якіх будуць вывозіць калоды на бераг рэчкі для веснавога сплаву.

Работа была вельмі цяжкой. Праўда, вялікія дрэвы былі спілаваныя, але трэба было карчаваць пні. А пры мокрай зямлі, халодным ветры ды летнім абутку — вярталіся ў барак заўсёды з мокрымі нагамі. Нягледзячы на цяжкія ўмовы, усё адно мусілі выпрацаваць гэтыя праклятыя нормы. Нічога на гэтай нялюдскай зямлі не рабілася без нормаў.

У лістападзе настаюць маразы і пачаў часцей падаць снег. З надыходам халадоў мы звярнуліся да начальніка, каб даў вайлакі, гэтак званыя катанкі, бо застанёмся без ног. Атрымалі мы тыя катанкі хутка, нават дня не прайшло. Шчасцем для мяне было і тое, што я ўзяў з дому куртачку з хатняга тканага сукна, якая ратавала мяне ад марозу. Шапку-вушанку я таксама загадзя купіў дзесьці каля Белазерска. Цяпер якраз і яна спатрэбілася.

У Курылаве жылі і працавалі некалькі ўкраінскіх сем'яў — былых кулакоў, якіх дэпартавалі сюды на пачатку 30-х гадоў падчас «слаўнай» калектывізацыі.

Ніяк не ўдавалася нам вырвацца з доўгу перад канторай. Ніколі не маглі вырабіць прызначаных нормаў. Пры ўсім гэтым яда была нізкакаларыйная, чалавек недаядаў, амаль заўсёды адчуваў голад.

Увесь час я думаў. як трапіць у польскае войска і дзе яго шукаць. Не было нават у каго даведацца ці спытаць. Насталі моцныя маразы — 35–40 градусаў. Не выганялі нас на працу толькі тады, калі слупок тэрмометра апускаўся да 42 градусаў або ніжэй. Лесапавал, пагрузка, вывазка і гэтак званы спецзаказ. Да ўсяго гэтага раз на месяц, у нядзелю, выганялі нас на «суботнікі», дзе ўсе, нават начальнікі, працавалі задарма.

У Курылаве якраз мне споўнілася 18 гадоў жыцця. Дзень нараджэння сустрэў галодным. Так неяк здарылася, што давялося мне тры дні галадаць, бо не меў нават аднаго рубля на талерку супу. А прадаць не было чаго. Неяк удалося пазычыць 10 рублёў да наступнага авансу. Нармальны васямнаццацігадовы дзяцюк цікавіцца дзяўчатамі, але будучы запрацаваным, галодным і без ніякага цікавага занятку — не ў галаве тыя дзяўчаты. Маладых хлопцаў у пасёлку амаль не было, усіх мабілізавалі ў армію. Засталіся старэйшыя мужчыны і рознага ўзросту жанчыны.

Паставіў я сабе за мэту нешта зрабіць, каб з гэтага сіла неяк выблытацца. Вырашыў спачатку пагаварыць з начальнікам. Пасля работы зайшоў да яго ў кантору з просьбай, каб выслухаў мяне па ўласнай справе. Я яму і кажу, што цяпер у Савецкім Саюзе ствараюць Польскую армію, якая разам з Чырвонай арміяй плячо ў плячо будзе ваяваць супраць немцаў. І як я, польскі грамадзянін, пра гэта даведаўся, дык хачу ў гэтую армію ўступіць. Начальнік паглядзеў на мяне сур'ёзна і кажа: «Коля, этот номер тебе не пройдет. Если ты польский гражданин, это значит, что наша власть не будет тебя трогать, а польская власть тебя здесь не найдет. Мне нужны здесь мужики для работы в лесу, и ты как раз для этого дела годишься. Ты молод, пойдешь в армию, пошлют на фронт, можешь погибнуть и никогда с девушкой не потешишься». Апошні сказ прамовіў больш простымі словамі. Мне нічога не засталося, як пакуль што адкласці свой намер на пазнейшы час.

## У ПОШУКАХ ВЫЗВАЛЕННЯ

Была ўжо другая палова студзеня 1942 года. Аднойчы ўвечары пасля працы я цвёрда пастанавіў: няхай будзе, што будзе, але заўтра раніцай пайду да станцыі Вожага і паспрабую дабрацца з Божай дапамогай да Польскай арміі.

Калі пасылалі на «спецзаказ», то трэба было ехаць далёка ў нейкую вёску, дзе нас рассялялі, і тады выдавалі хлеб на цэлы тыдзень. Наступным ранкам я ўстаў а пятай гадзіне, пабег да ларка, выкупіў хлеб на шэсць дзён, кажучы, што еду зноў на «спецзаказ» у сяло Матулёва.

Упакаваў хлеб (паўтара бохана), забраў дакументы і рушыў да станцыі, аддаленай ад Курылава амаль на 40 кіламетраў. Адышоўшы два-тры кіламетры ад Курылава, спаткаў знаёмага лесніка на санях. Сэрца маё закалацілася ад страху, бо ён мяне пазнаў: «Доброе утро, Николай! А ты куда идешь?» Мне як бы хто падказаў. Іду, кажу, у сельсавет на прыпіску, атрымаў паведамленне, каб з'явіцца. Усе, годныя да мабілізацыі, мусілі прайсці прыпіску ў сельсавеце, адкуль пасылалі іх на месца збору. «Ну, ступай, — кажа ляснік. — Всего тебе хорошего».

Зусім ужо цёмна і позна дабраўся да станцыі Вожага. Мароз каля 35 градусаў, трэба ж недзе заначаваць. На станцыі часам правяралі дакументы і да гэтай пары з Курылава маглі патэлефанаваць, ці такі-сякі не круціцца на станцыі. Я прыгадаў, што за нейкі кіламетр адсюль ёсць сяло. Туды і пайшоў. Снег рыпеў пад нагамі. Дайшоўшы да нейкага вялікага будынка, я ўбачыў, як нехта стаў перада мной і кажа: «Кто идет?» Быў гэта голас жаночы. «Бежанец з Карэліі, — адказваю. — Прыйшоў сюды ў сяло, каб знайсці начлег,

і ці можаце вы мне сказаць, дзе жыве старшыня калгаса?» Выявілася, што жанчына сама была бежанка з-пад Ленінграда і працавала ў гэтым сяле пакуль што вартаўніком пры складзе лёну. Яна мне, як маці, кажа: «Сынок, ужо позна і няма чаго шукаць старшыню, вось тут ёсць лазня, дзе сёння мыліся, там яшчэ цёпла і суха. Я табе дам куль лёну, пасцелеш і выспішся, а раніцай цябе разбуджу. Дый мне будзе спакайней, ведаючы, што ты тут блізка». Так і сталася. Я разуўся, распрануўся і, змучаны, адразу заснуў. Раніцай ветлівая жанчына мяне разбудзіла, прынёсшы кубак кіпеню. З'еў кавалак хлеба, запіў вадою, пацалаваў ветлівую жанчыну ў руку, падзякаваў і вярнуўся на станцыю.

На станцыі пачаў пільнаваць цягнікі, якія ехалі з Архангельска на Волагду, каб да каго-небудзь далучыцца. Трапіць у пасажырскі вагон не было ніякай магчымасці. Зрэшты, ні адзін пасажырскі цягнік не паказаўся, з выняткам таго, які быў запоўнены чырвонаармейцамі. Зразумела, што сесці ў яго я не рызыкнуў.

Я пачаў ужо па-сапраўднаму непакоіцца, што мне тут рабіць далей. Думаў ужо, а ці не забрацца на якую адкрытую платформу на таварны цягнік. Аднак у 35–40-градусны мароз гэта было самагубствам. Але, відавочна, міласэрны Бог сцярог мяне.

Каля дзвюх гадзін папоўдні прыйшоў таварны састаў і затрымаўся на станцыі, каб набраць вады ў паравоз. Пасярэдзіне таварных вагонаў знаходзіліся тры адкрытыя платформы, на якіх былі замацаваныя тры адмысловыя, несавецкай вытворчасці аўтамабілі, з дзіўнымі намаляванымі сіне-бела-чырвонымі знакамі на даху. (Пасля я даведаўся, што гэта ангельскія аўтамабілі, прысланыя ў Архангельск у рамках ваеннай дапамогі СССР.) Асцярожна разгледзеўшыся, што ніхто мяне не бачыць, я кулем ускаціўся на платформу. Адчыніў паціху дзверцы ў сярэднім аўтамабілі і, улезшы ўсярэдзіну, улёгся на сядзенні, каб не было відаць маёй галавы. І так дачакаўся, пакуль цягнік не рушыў у далейшую дарогу — да Волагды. Хоць і даволі моцна марозіла, але ў шчыльна зачыненым аўтамабілі было нагэтулькі цёпла і без скразняку, што стала досыць утульна. Знаходзячыся першы раз у кабіне такога аўтамабіля, пачаў яе разглядаць і вельмі быў рады, што маю такі «капіталістычны» транспарт. Заўважыў прыскрынак, адчыніў дзверцы, усунуў руку і намацаў нейкую тканіну. Выцягнуўшы яе, убачыў, што гэта дзве трыкатажныя сарочкі, вельмі элегантныя. Адразу зняў куртку, фрэнч і апрануў абедзве сарочкі, каб было цяплей. Пазней я іх прадаў і атрымаў па 30 рублёў за кожную. За гэтыя грошы можна было купіць трохі ежы і выкупіць дзённы паёк хлеба, без якога ні я, ні хто іншы не мог бы выжыць.

Было ўжо добра за поўнач, калі цягнік спыніўся ў Волагдзе. Выбраўся я з свайго сховішча і падаўся да вакзала, за рагом якога ледзь не наступіў на нейкага замерзлага насмерць бедака.

Увайшоў у будынак, у вялізную залу, поўную людзей, што сядзелі і ляжалі на падлозе. Пачаў аглядацца, дзе б знайсці вольнае месца, каб усесціся. Заўважыў грамаду палякаў, што сядзелі на сваіх рэчах. Пазнаў іх па польскіх вайсковых шынялях на некалькіх мужчынах, а наблізіўшыся, пачуў польскую мову. Вельмі ўзрадаваўся такім паваротам справы. Тым часам адчынілі буфет, і адразу паўстала чарга, у якую без ніякага «пардону» пхаліся уркі, выпушчаныя з лагераў. Стаў і я, каб купіць малую булачку і кавалачак цукру. Кіпень быў дармовы, але таксама па чарзе.

Вырашыў пазнаёміцца бліжэй з палякамі і даведацца што-небудзь пра Польскую армію.

Падышоў я да аднаго мужчыны гадоў 35–38, назваў сябе і пачаў гутарку. Пан Марцінкевіч — так зваўся мужчына ў польскім вайсковым шынялі — ваяваў на польска-нямецкім фронце ў верасні 1939 года. Вярнуўся дадому, недалёка ад Стоўбцаў, а за тое, што быў лесніком, саветы ў 1940 годзе вывезлі яго і ягоную сям'ю ў Архангельскую вобласць. Цяпер з іншымі «спецперасяленцамі» едзе, каб уступіць у Польскую армію, якая ствараецца на тэрыторыі Узбекістана. Але затрымаліся, бо няма вольных, зразу-

мела таварных, вагонаў. Праўда, ваенны камендант сказаў, што як толькі хто знойдзе пусты вагон, дык палякі могуць яго заняць, а ён дасць загад падчапіць да цягніка, які ідзе на ўсход, да Уральскіх гор. Запытаўся ў Марцінкевіча, ці маглі б яны прыняць мяне ў сваю групу, аднаго і без усялякіх пакункаў, толькі з торбачкай, дзе быў усяго кавалак хлеба. Марцінкевіч прадставіў мяне сваёй жонцы і пары іншых землякоў, якія таксама былі пры Польшчы леснікамі, і аднаму асадніку. Усе яны мелі або куфэркі, або валізкі, ды нават скрынкі з інструментамі, такімі як малаткі, абцугі, пілкі і сякеры. Калі хто адыходзіў, адзін аднаму пільнавалі, бо «ўркачы» кралі ўсё, што траплялася на вочы. Я, маючы толькі торбачку, падвешаную на плячо, мог свабодна рухацца.

Волагда — гэта вялікі чыгуначны вузел з безупынным рухам сотняў паравозаў і тысяч вагонаў. Вось я і пайшоў шукаць пусты вагон. Разгледзеўшыся добра, павярнуў на запасныя пуці і ўбачыў на крайняй каляі адзінокі падвойны «пульман». Падышоўшы да вагона, адчыніў дзверы і зазірнуў усярэдзіну. Вагон быў пусты, калі не лічыць кавалка дошкі і кучы саломы на падлозе. Дакладна запомніў, дзе вагон стаіць, і пабег у вакзал да Марцінкевіча сказаць яму пра знаходку. Ён падзівіўся навіне, сабраў шэсць ці сем мужчынаў, і я павёў іх туды, дзе стаяў вагон. Убачыўшы, што ён сапраўды пусты, трое засталіся яго пільнаваць і трохі падмесці, а астатнія вярнуліся на вакзал паведаміць сваім і забраць рэчы. Нехта ўспомніў, што неабходна печка, каб трошкі прагрэць у вагоне, бо ў такі мароз будзе дужа холадна. Але адкуль гэтую печку ўзяць?

Неўзабаве польская група пачала гуртам заносіць у вагон рэчы і займаць месцы. Я зноў пайшоў: можа, дзе-небудзь знайду печку. Ходзячы, заўважыў доўгі састаў, але без паравоза, а на далёкім канцы — вартаўніка з вінтоўкай. Ён не выглядаў на вайскоўца. Пералез я пад вагонам на другі бок, каб вартаўнік мяне не бачыў, адчыніў у адным вагоне дзверы, зазірнуў туды і ледзь не крыкнуў з радасці, бо ўбачыў дзве печкі. Гэты састаў быў падрыхтаваны для войска або зняволеных ці ваеннапалонных. Улез у вагон. Печка была зробленая з невялікай бляшанай бочкі і мела бляшаныя трубкі для коміна. Паціху аддзяліў печку ад коміна, уважліва разгледзеўся, каб ніхто мяне не бачыў, і панёс печку да нашага вагона. Потым вярнуўся па комін. Комін складаўся з трох трубак. Узяўшы трубкі пад пахі, я скочыў з вагона на снег. Адна трубка выслізнула з-пад пахі і грукнулася аб кола. Вартаўнік пачуў і павярнуўся. Убачыўшы мяне, крыкнуў: «Стой, такую твою мать, стрелять буду!» Я схапіў трубку і нырнуў пад вагон, і так даўся аб нешта цвёрдае, што ледзь не страціў прытомнасці. Маё шчасце, што тоўстая ватная шапка змякчыла ўдар. Гэтак мне і ўдалося ўцячы з комінам.

Тым часам шмат хто з палякаў таксама разбегліся па ўсёй станцыі, каб здабыць трохі дошак на нары і дроў на апал. Мне ўдалося зрабіць сваю паліцу, каб спаць і сядзець якраз каля печкі, бо, як сказаў Марцінкевіч, я гэта заслужыў.

Усіх нас сабралася шэсцьдзесят два чалавекі. Заявілі начальніку станцыі пра засяленне, і на другі дзень, раніцай, нас падчапілі да састава, які вёз два ці тры вагоны жанчын і дзяцей, эвакуяваных з-пад Ленінграда. Для нас гэта было ў дарозе сапраўдным дабрадзействам, бо тыя людзі былі сем'ямі партыйнага начальства і мелі спецыяльныя прывілеі на атрыманне харчоў. Часам і нам удавалася з гэтага скарыстаць. Заўважылі, што на некаторых станцыях яны некуды ішлі з вёдрамі і прыносілі суп. Мы таксама ішлі з імі і, пусціўшы пару жанчын з вядром уперад, падыходзілі самі. Калі там не правяралі дакументы, то і нам шанцавала атрымаць супу.

Падчас гэтага падарожжа пасажыры трохі зблізіліся і пазнаёміліся. У адной палове вагона сабраліся палякі і беларусы, а ў другой — палякі і пара сем'яў з Заходняй Украіны. Калі 62 асобы ў адным таварным вагоне, то на выгоды няма месца. Вельмі цяжка навесці парадак, калі ўсе сядзяць ці ляжаць адзін каля аднаго. Але ўсе былі радыя, што нас вязуць ва Узбекістан, да Арміі.

Дарога вяла з Волагды праз Кіраў, Глазаў, Перм, Перваўральск, Свярдлоўск і Чалябінск. Да Чалябінска нічога цікавага не здарылася. На кожнай станцыі даведваліся, ці доўгі будзе прыпынак, і большасць людзей выскоквала з вагона, каб купіць што-небудзь з'есці ці па асабістых фізіялагічных патрэбах, або каб знайсці якога паліва для печкі. Не было дзе памыцца, дык на даўжэйшай стаянцы беглі ў прыбіральню трохі памыцца хоць пад пахамі.

У Чалябінск прыехалі позна ўвечары. Замена паравоза і абслугі магла доўжыцца пару гадзін. Большасць людзей злезла, каб што-небудзь здабыць з'есці. Гэта быў найвялікшы клопат для нас усіх. Выйшаў і я на станцыю. Прадаў тыя сарочкі, знойдзеныя ў ангельскім аўтамабілі, дык меў яшчэ пры сабе некалькі рублёў. На дварэ мароз пэўна 35–40 градусаў.

Чалябінск далёка ад фронту. Таму быў ярка асветлены, асабліва вакзал і вялізная станцыя. Не зважаючы на холад, пачаў я прахаджвацца паміж вагонамі. Нічога не знайшоўшы, павярнуў да нашага састава. Па дарозе, пераступаючы праз шматлікія рэйкі, заўважыў у адным вагоне адчыненыя дзверы. Зірнуўшы ўсярэдзіну, прыкмеціў нешта белае. Улез у вагон і, прыгледзеўшыся, убачыў, што гэта была соль. Солі ж есці не буду, але ўсё ж набраў у торбачку каля пяці кілаграмаў. Прынёс у вагон, паклаў пад сваім месцам і забыўся пра яе.

Урэшце цягнік зноў рушыў — на поўдзень, на Магнітагорск і Орск.

Едучы ў такой цеснаце, вельмі цяжка падтрымліваць нейкую гігіену. Пайшлі вошы. Ноччу, калі мне здавалася, што людзі спалі, я распранаўся да пояса і пёк сваю вопратку на коміне, нагрэтым да чырвані. Людзі баяліся эпідэміі тыфу, які нас апанаваў, але пазней ужо, ва Узбекістане.

Даехалі мы ўрэшце да Орска, на мяжы Казахстана. Там нас спаткаў буран, такая завіруха, што беларуская мяцеліца выглядала на забаўку. Затрымалі на станцыі амаль увесь рух. Начальства сказала, што будзем чакаць дні два-тры, пакуль не супакоіцца буран. А потым, як адновіцца чыгуначны рух, нас адправяць пасля ад'езду важнейшых транспартаў. Няма рады — трэба чакаць.

На другі дзень вецер трохі прыціх, і можна было выйсці з вагона. Стоячы на станцыі, мне ўдалося заўважыць за горкай нейкія будынкі, аддаленыя на паўтара кіламетра. Запытаўся ў аднаго работніка на станцыі, што гэта за паселішча? Ён адказаў, што гэта саўгас і што там ёсць вялікі мясакамбінат.

Ведаючы, што наш цягнік рушыць заўтра, а можа і пазней, надумаўся туды пайсці і, шчыра кажучы, нажабраваць яды. Угаварыў яшчэ аднаго беларускага хлопца — Аркадзіка Адэта. Яго бацька быў леснікам, і для савецкай улады ён, як і ўсе іншыя леснікі, настаўнікі, польскія службоўцы, былі «врагами народа», або проста «ненадежным элементом». І ўсіх іх вывезлі і параскідалі па ўсёй савецкай дзяржаве як «спецперасяленцаў». Аркадзік папытаўся дазволу бацькоў. Узялі мы па дзве торбачкі і нейкі кацёльчык і пайшлі па заснежанай дарозе ў той саўгас жабраваць.

Наколькі савецкая сістэма была нікуды не вартая, нагэтульку народ быў (праўда, не ўсе) прыветлівы, і хоць сам не шмат меў, але часта дзяліўся тым, чым мог. Пастукалі мы ў дзверы. Нехта іх адчыніў і запытаў, што мы за такія і чаго хочам. Сказаўшы ім, хто мы і куды едзем (у гэтую пару шмат хто ў СССР ужо ведаў пра Польскую армію), і нам вельмі цяжка здабыць па дарозе яду і ці не маглі б нам што-небудзь даць з харчоў… У дзвюх кватэрах нас пакармілі гарачым супам. У наступных хатах (не ва ўсіх) далі па жмені мукі, круп, проса, аўсянкі, якія мы ссыпалі ў адну торбачку. У адной хаце дзве бабулькі выцягнулі скрынку з-пад лавы і на самым дне пад ручнікамі знайшлі два невялікія сухары і аддалі нам. Калі вярнуліся ў свой вагон, бацькі Аркадзіка і яго старэйшыя брат і сястра ўзрадаваліся, убачыўшы нашы дары. Цягам некалькіх дзён мы «балявалі», смакуючы кашу і зацірку.

## СЯРЭДНЯЯ АЗІЯ

Буран аціх, і наш вагон прычапілі, мабыць, да другога саставу, і рушылі мы далей на поўдзень праз Троіцк да Акцюбінска. Не памятаю, як доўга ехалі з Троіцка, але, нарэшце, затрымаліся ў Акцюбінску на бакавой каляі. Прычынай было тое, што пасажыры нашага вагона і некалькіх іншых, у якіх падарожнічалі бежанцы, меліся нарэшце пайсці ў лазню. Усе ўзрадаваліся, бо ад выезду з Волагды пару, а можа, і больш тыдняў ніхто з нас не меў ніякай магчымасці памыцца, хіба толькі абліць твар вадой з вядра. Некаторыя, у тым ліку і я, калі на якімсьці раз'ездзе спыняліся, выскоквалі з вагона не толькі «па сваёй патрэбе», але і каб абмыць рукі і твар снегам.

Завялі нас у лазню: асобна мужчын, асобна жанчын. Шчаслівцы, якія мелі трохі мыла, маглі вымыцца добра. Я такога люксусу не меў, таму парыўся, як толькі мог трываць, а пасля змываў бруд моцна гарачай вадой. У той час, калі мыліся, лахманы нашы ў клунках пражыліся ў «вошебойке». На жаль, усе мы былі надта вашывыя. Лазня зрабіла палёгку ўсім нам. Праўда, спатрэбіўся час, пакуль кожны знайшоў свой выпражаны клунак. Аднак нямала вошай засталося ў вагоне, у які мы мусілі вярнуцца. Паўставала небяспека, што раней ці пазней нехта захварэе на тыф.

Пасля лазні наш цягнік рушыў далей у кірунку Ташкента, да якога было яшчэ даволі далёка. Да той пары жывіўся я тым, што нажабраваў каля Троіцка, ды 600-грамовай лустай хлеба, якую нам удавалася купіць на некаторых станцыях. Неяк уранку цягнік затрымаўся ў Казалінску. Седзячы на сваіх нарах, думаў: дзе мне узяць грошы, каб выкупіць сённяшнюю лусту хлеба. І тут чую жаночы голас: «Граждане, имеет ли кто соль на продажу?» Я аж падскочыў, бо ўспомніў пра торбачку пад нарамі. Выбег на перон і крычу: «Гражданка, у меня есть соль на продажу!». Жанчына сярэдніх гадоў падышла да мяне і пытаецца: колькі я той солі маю і колькі за яе хачу? Кажу, што блізу пяці кілаграмаў і што ахвотна яе памяняю на ежу, калі што ёсць. Яна мне: «Паренек, я тебе дам буханку хлеба, мороженую рыбу и пять рублей деньгами». Згадзіўся адразу, толькі пытаюся, ці мае што, каб тую соль перасыпаць, бо торба мне патрэбная. Нешта яна там мела. У кошычак паклала дзяружку, і я тую соль ёй перасыпаў. Думаю, што мы абое задаволены былі з той здзелкі. Меў яшчэ жменю прасяных круп, то зварыў сабе супу з рыбы і тую кашу. Такім чынам, атрымаліся добрыя дзве стравы.

Наступная даўжэйшая затрымка была ў Ташкенце. Чамусьці нічога пра той горад не запомнілася, апрача таго толькі, што адна маладая жанчына, якая ехала з намі разам з братам, захварэла на тыф. Яе забралі ў больніцу, а брат паехаў з намі далей. Усе ўстрывожыліся, бо хвароба заразная, пераносіцца вошамі, і могуць быць наступныя ахвяры.

З Ташкента цягнік рушыў на Самарканд. У нашым вагоне былі пераважна сем'і перасяленцаў, адзінокім быў, відаць, толькі я. Ехалі з намі пані Сова і пяцёра яе дзяцей. Муж яе, здаецца, быў сяржантам польскага войска, сядзеў недзе ў турме, а яе з дзецьмі вывезлі ў Архангельскую вобласць. Яна таксама ехала туды, дзе стваралася Польская армія, спадзеючыся, што, можа, спаткае там свайго мужа. Найстарэйшы яе сын Эдмунд меў якіх 18 гадоў, вельмі прыгожая дачушка Зося — 16 гадоў, сын Францішак, дачка Ядзя і малы Каролік — два гады. Галодны, ён часта плакаў. Матка, сама не зусім здаровая, нічым не магла дапамагчы. Мела яна з сабой пару куфэркаў, з якіх раз-пораз выцягвала якуюсьці адзежыну і пасылала Эдка або Зосю, каб на чарговай станцыі прадалі ці памянялі на ежу.

У Самаркандзе пані таксама паслала Зосю з нейкай адзежынай, бо малы Каролік што хвіліны крычаў: «Mamusiu, ja chcę papu!». Бедная Зося паляцела на станцыю і затрымалася, а тут паравоз, што нас цягнуў, засвістаў і пачаў памаленьку рухацца з месца. Зосі

яшчэ няма, матка ў плач. Што рабіць? Цягніка не затрымаеш. Бачу, што справа дрэнь: дзяўчына застанецца і адна можа згубіцца. А як я не меў ніякіх рэчаў, апрача таго, што на сабе, думаю — саскочу з цягніка, пашукаю або пачакаю дзяўчыну. І будзе ёй лягчэй быць з кімсьці знаёмым, чым зусім адной у чужым і не заўсёды прыязным месце. Нічога нікому не кажучы, адсунуў дзверы вагона і скокнуў. Цягнік паволі набіраў хуткасць. Добра, што састаў быў вельмі доўгі, то яшчэ цягнуўся. Гляджу: ляціць амаль пры канцы цягніка Зося. Адразу зразумеў, што дагнаць наш вагон, другі ад паравоза, ніякага шанцу няма. Пабег насустрач Зосі і крычу: «Зося, нам трэба як найхутчэй учапіцца за вагон, які мае ганачак стрэлачніка, бо да свайго ўжо не дабяжым». Заўважыў якраз такі вагон з прыступкамі, крычу Зосі, каб хутчэй чаплялася за парэнчы.

Неяк удалося нам на той ганачак узлезці. Абое задыханыя, але і радыя, што цягнік ад нас не ўцёк. Была другая палова лютага. Ва Узбекістане дні ўжо былі цеплаватыя, але ночы зусім халодныя. Прыгода з Зосяй здарылася ўжо пасля захаду сонца, пачынала халаднець, дый цягнік набраў ужо хуткасць, таму нас працінаў вецер. Спадзяваліся, што на нейкай станцыі эшалон спыніцца і мы дабяжым да нашага вагона. Аднак, як на тое, ён гнаў наперад, часта перастукваючы коламі на рэйкавых стыках. Бедная Зося моцна трымала свой клуначак з нейкімі харчамі, каб хоць яго не ўпусціць. Холад ужо добра даваўся ў знакі на тым адкрытым ганачку. Урэшце я набраўся адвагі і кажу: «Зося, давай прытулімся адно да аднаго, будзе нам цяплей, раней ці пазней цягнік усё ж спыніцца, і мы дабяжым да нашага вагона».

Не памятаю, як доўга мы, небаракі, былі прытуліўшыся, але нарэшце цягнік на нейкай станцыі спыніўся і мы, задыханыя, дабеглі да нашага вагона. Цяжка апісаць радасць маткі, калі ўбачыла Зосю, ды ў дадатак з прадуктамі для хворага Кароліка. Пазней пані Сова і трое меншых яе дзяцей памерлі, толькі Эдак і Зося засталіся жывыя і служылі ў 2-м Корпусе.

Тым часам цягнік ішоў у Бухару. У Бухары забралі ў больніцу з высокай тэмпературай Эдмунда Сову — ён захварэў на тыф. Ад’ехаўшы з Бухары, я таксама адчуў высокую тэмпературу і не мог устаць з сваіх нараў. Цягнік спыніўся на невялікай станцыі Хазан. Нехта з нашага вагона паведаміў на станцыю, што ёсць моцна хворы хлопец. Відавочна, сярод уцекачоў былі частымі выпадкі захворванняў, бо на кожнай большай станцыі меўся прадстаўнік службы аховы здароўя. Нехта вывеў мяне з вагона, паклалі на ўзбекскі двухколавы воз і павезлі ў больніцу мястэчка Хазан. Двухколку цягнуў асёл.

У больніцы вольных ложкаў ужо не было, таму паклалі мяне на сяннік у калідоры. Я страціў прытомнасць і не ведаю, як доўга быў без памяці, але калі ачуняў, ляжаў ужо на ложку. Сказала мне пазней медсястра, што меў жару 41 градус з рыскамі.

Сястрычка аказалася беларусачкай з Гомельскай вобласці. Нарэшце накармілі мяне «вермишелью с растительным маслом».

Не памятаю, як доўга быў я ў той больніцы, можа тыдзень, можа меней, а можа болей. Нарэшце мяне выпісалі. Быў страшэнна аслабелы, а да станцыі трэба было ісці пехатой пяць кіламетраў. Перад выхадам папрасіў, каб далі чаго паесці, бо не дайду да станцыі. Зямлячка прынесла мне трохі супу. Падзякаваў ёй і развітаўся. Ледзь дабраўся да той чыгуначнай станцыі, зайшоў у чайхану. Абшукаў свае кішэні ў спадзяванні знайсці якіх грошай купіць гарачай гарбаты. На вялікі жаль, не знайшоў ні капейкі. Як мяне забіралі ў больніцу, мая торбачка, кацялок і лыжка засталіся ў вагоне. Увесь час быў я ў цяжкой сітуацыі, а цяпер зусім у трагічнай. Яшчэ не зусім здаровы, аслабелы, без граша ў кішэні і зусім адзінокі. Сярод гасцей у чайхане пераважалі ўзбекі.

Было ўжо даволі позна пасля паўдня. Я абыходзіў кожны цягнік, што спыняўся на станцыі, прыслухоўваўся, ці не пачую польскую гаворку, але ў той дзень пачуць не давялося. Надышоў вечар, і холад змусіў мяне пакінуць перон. Зайшоў зноў у пачакальню,

якая злучана была з чайханой, знайшоў нейкі кут каля печкі, папрасіў буфетчыка, каб пазычыў мне кубачак набраць кіпеню, каб хоць абагрэць пусты жывот гарачай вадой. Неяк ноч перамучыўся, часта прачынаўся, бо надта нязручна было мне на падлозе. Наступнага ранку, дзесьці а восьмай ці дзявятай гадзіне, спыніўся цягнік, і, на вялікую маю радасць, я пачуў польскую гаворку. Падбег да адсунутых дзвярэй і хутка пачаў казаць, як тут, на гэтай станцыі Хазан, апынуўся і ці дазволяць да іх далучыцца. Вядома ж, дазволілі. Было іх каля дзесяцёх адносна маладых мужчынаў — таксама ехалі да месца фармавання Польскай арміі. Як жа я ўсцешыўся, калі даведаўся, што ўжо ўвечары мусім прыехаць у горад Гузар, у якім знаходзіцца рэкруцкі пункт. Ужо ў вагоне звярнуўся да іх з просьбай даць чаго-небудзь паесці, бо амаль суткі, апрача вады, нічога ў роце не меў. Адзін з іх кажа, паказваючы рукой на грудку жмыхоў з баваўнянага зерня пры печцы, што іх трэба падпражыць, і хоць не смачныя, але голад могуць супакоіць. Ні хвіліны не чакаючы, падпёк кавалак таго жмыху і пачаў грызці. Быў вельмі цвёрды і нясмачны, але сапраўды пасля паўгадзіннага жавання голад трохі прыцішыў.

Адчуванне голаду ёсць, бадай, найгоршым адчуваннем, якое чалавек мусіць пераносіць. Калі не даядаеш кожны дзень, тыдзень, месяц пры месяцы, то нават тады, калі часам надарыцца пад’есці і страўнік маеш поўны, пачуццё голаду ўсё адно ў табе застаецца. Пасля тых баваўняных жмыхоў пачало мне вельмі непрыемна адрыгацца. Добра, што ў вагоне было вядзерца з вадой.

Адзін з прысутных мужчынаў запэўніваў нас, што да вечара даедзем да таго Гузара, і там павінны нам даць паесці. Калі нарэшце ўбачылі на станцыйным будынку надпіс «Гузар», ужо амаль сцямнела, але, нягледзячы на ваенны час, зацямненне ў азіяцкіх рэспубліках не прадугледжвалася, і станцыя была крыху асветленая.

Калі цягнік стаў, убачылі капрала ў ангельскай вайсковай форме, але з польскімі адзнакамі на пагонах. Гэта быў службовец, заданнем якога і было сустракаць «польскіх рэкрутаў» і накіроўваць іх у часовы лагер. Высветлілася, што некалькі асобаў ужо былі на станцыі. Яны прыехалі крыху раней і чакалі прыбыцця нашага цягніка. Спярша запісалі нашыя прозвішчы і месца нараджэння. Потым далі жаўнера ў форме і элеганцкім плашчы, каб завёў нас у зборны лагер у горадзе Гузар, за тры кіламетры ад станцыі. Лагер знаходзіўся на ўзгорку, у разбуранай старадаўняй крэпасці, названай кімсьці з раней прыбылых «Абісініяй». Стаяла там каля дзесяці, а можа больш, палатак і палявая кухня.

На вялікую нашу радасць, атрымалі па кавалку хлеба, можа паўкілаграма, кавалачак цукру і кубачак гарбаты, беленай па-ангельску. Няма чаго і казаць: для нас, згаладалых, гэта быў сапраўдны банкет. Размясцілі ў палатках, разлічаных на восем чалавек. На голай зямлі была пасланая толькі салома, добра ўжо прымятая нашымі папярэднікамі. Палатак трохі не ставала, і нас пасялілі па дзесяць у кожнай. І калі леглі, то каб павярнуцца з боку на бок, трэба было гэта рабіць па камандзе — і паварочваліся ўсе разам. Найгорай было хадзіць у прыбіральню па сваёй патрэбе, бо толькі што прыбылыя не ведалі, дзе тая прыбіральня знаходзіцца. Уранку выявілася, што нас, рэкрутаў, ладная група. Усе стаялі ў чарзе па рэдкі суп з проса, званы «галёпка». Тут я адразу апынуўся ў няпростай сітуацыі: не меў ані міскі, ані лыжкі. Мусіў стаць у канец чаргі, а пасля папрасіць каго, хто ўжо з’еў сваю порцыю, каб пазычыў кацялок і лыжку. Пасля снедання прыйшоў нейкі падафіцэр, загадаў сабрацца на ранішнюю спяваную малітву:

Kiedy ranne wstają zorze,
Tobie ziemia, Tobie morze,
Tobie śpiewa żywioł wszelki
Bądź pochwalon Boże Wielki.

Калі праспявалі гэты гімн, падафіцэр аб’явіў, што павядуць нас у лазню, якая была за паўтара кіламетра ад «Абісініі». Па дарозе ўбачылі ўжо абмундзіраваных жаўнераў, падафіцэраў і афіцэраў. Глядзелі мы на іх зайздросным вокам, бо выглядалі ў тых ангельскіх «battle-dress» сапраўды хараша.

Апрача Гузара былі яшчэ і іншыя месцы, куды прыязджалі колішнія грамадзяне польскай дзяржавы — высланыя, зняволеныя ў лагерах і турмах, прымусова завербаваныя на работы ў лясах ды шахтах. Было, мабыць, шэсць ці сем гарнізонаў, дзе стваралі вайсковыя адзінкі, а таксама меншыя лагеры для моладзі ды сірацінцы для дзяцей. Пазней давялося пазнаёміцца з адным такім лагерам. Быў ён недалёка Гузара, зваўся Каркін Батаж.

Тыя з нас, хто часова знаходзіўся ў «Абісініі», атрымалі па пяць рублёў платы на месяц. Хацеў, вядома, купіць нешта, каб можна было куды наліць сваю порцыю супу, часцей з проса, радзей з рысу. На жаль, ніякіх місачак ці кацялкоў у продажы не было. Каб утрымаць нейкую чысціню і гігіену, кожны трэці дзень вадзілі нас у лазню, а вопратку аддавалі ў кацёл-вашабойку. Часам даводзілася чакаць сваёй чаргі, бо іншыя групы былі ўжо ў лазні. Аднаго дня, стоячы гэтак на вуліцы, я пачаў разглядаць, што знаходзіцца паблізу лазні. Стаялі тут саманныя ўзбекскія дамкі, абгароджаныя глінянай паўтараметровай сцяной-мурам. Уваход — праз дашчаныя весніцы. Гэтак разглядаючы, захацелася зазірнуць у двор. Праз шчыліну бачу, што каля будкі спіць навязаны сабачка, а ў сямі ці васьмі метрах ад яго стаіць на зямлі паліваная пасудзіна на сабачую яду. Адразу з’явілася думка ўкрасці тую місачку. Ціхенька адчыніў весніцы, паглядзеў, ці няма каго з гаспадароў, і, не заўважыўшы нікога, пачаў памаленьку, ціхенька, каб не разбудзіць сабачку, набліжацца да місачкі. Сабачка нібы ведаў пра маю патрэбу і не прачнуўся. Удалося! Падняў місачку, схаваў пад крысо курткі і ціхенька выйшаў на вуліцу. Потым падышоў да канаўкі, што абвадняе агароды, зрабіў вехцік з сухой травы і добра вышараваў пяском маю місачку, украдзеную ў сабачкі. Аб’ёмам з літр, яна служыла мне добрых некалькі тыдняў, пакуль не атрымаў мундзір і кацялок. Не ганаруся гэтым учынкам, але знаходзіўся ў такой сітуацыі, што іншага выйсця не было. Маю надзею, што той сабачка дараваў маю правіну.

Дарма што ежа, якую нам давалі, была малакаларыйнай, але атрымлівалі яе рэгулярна, і я памалу набіраў моцы пасля тыфу.

У тым зборным лагеры не раз даводзілася дапамагаць на кухні: насілі з блізкай рэчкі ваду, засыпалі старую прыбіральню і капалі новую. Мы ўсё яшчэ хадзілі ў сваіх старых лахманах, амаль ніхто не меў бялізны на змену.

Аднойчы сяржант, які замяняў каменданта, аб’явіў, каб заўтра пасля снедання нікуды не разыходзіліся, бо ўсе памаршыруем на станцыю. Там у спецыяльных вагонах пройдзем медыцынскую і рэгістрацыйную камісію, пасля якой нас накіруюць у вайсковыя часткі, і праз два тыдні каранціну атрымаем мундзіры.

Медыцынская камісія адбылася 15 сакавіка 1942 года. Меў я 18 гадоў і важыў 52 кілаграмы. Быў схуднелы і слабы, на галаве валасы рэдкія, як у толькі народжанага дзіцяці, таму атрымаў катэгорыю D, што на вайсковым жаргоне значыла «do dupy». Мяне і некалькі іншых хлопцаў накіравалі ў аддзяленне, званае каранцінным, на папраўку. Прабылі мы на тым каранціне два тыдні. Затым яшчэ раз прайшоў медычнае абследаванне і нарэшце атрымаў накіраванне ў батальён дарожных сапёраў. Батальён складаўся толькі з дзвюх кампаній (ротаў), па чатыры плютоны (узводы) у кожнай кампаніі. Камандзірам батальёна быў афіцэр у чыне капітана, а плютонамі камандавалі — адной паручнік, другой харунжы.

Была ў нашым батальёне група падафіцэраў ужо сталага веку: тры сяржанты, восем ротных, гэтулькі ж капралаў безфункцыйных. Я трапіў у падраздзяленне (12 жаўнераў)

плютановага Міколы Лявонава, былога начальніка пошты з Новай Вялейкі. Высокаінтэлігентная і культурная асоба, проста душа-чалавек і ў дадатак — беларус. Знаёмячыся з сваім плютонам, ён абменьваўся парай сказаў з кожным новым рэкрутам, мне падалося, што са мной гаварыў найдаўжэй і ціха ў канцы закончыў: «Добра, што паспеў уступіць у Армію, бо акурат будзем з пекла гэтага выязджаць». Аднак трохі, бядак, памыліўся, бо выехалі мы з таго пекла толькі ў жніўні, а стаяў тады сакавік 1942-га.

Спадзяваліся, што нас вось-вось абмундзіруюць. У той час, як Савецкі Саюз «праглынуў» ці «вызваліў» балтыйскія дзяржавы — Летуву, Латвію і Эстонію, былі ліквідаваныя іх вайсковыя склады. Летувіскія, латвійскія і эстонскія мундзіры прывезлі нам. Толькі боты з брэзентавымі халявамі былі савецкай прадукцыі. Мне трапіўся элеганцкі эстонскі мундзір, прыгожа пашыты з светла-зялёнага сукна, як бы прымераны на мяне.

Гэта не быў яшчэ «Britisch Batlle Dress», але мы ўжо глядзеліся жаўнерамі.

Хоць частка, у якую я трапіў, называлася батальён дарожных сапёраў, з дарогамі нічога агульнага пакуль мы не мелі. Скарыстоўвалі сапёраў на розных іншых работах, як разгрузка вагонаў вугалю або іншых грузаў на станцыі, рамонт кватэр. Аднойчы рамантавалі дом, у якім жыў з сям’ёй палкоўнік НКУС, галоўны прадстаўнік савецкай улады ў горадзе Гузар. Аднаго разу, маршыруючы па галоўнай вуліцы, заўважыў на ходніку добра знаёмага мне валожынца — Уладзіслава Мачульскага. З яго малодшымі братам і сястрой хадзілі ў адну школу. Не могучы выйсці з строю, крыкнуў толькі яму, у якой частцы знаходжуся, бо ў Гузары было некалькі большых вайсковых адзінак, а камандаваў гарнізонам дыпламаваны палкоўнік Коц.

Праз пару дзён Мачульскі прыйшоў у наш батальён, каб сустрэцца з валожынцам. Мяне ён, вядома, не пазнаў, але як сказаў яму пра сябе, то стаў прыпамінаць, бо нашы сем’і жылі на той самай Касцельнай вуліцы. Ён паведаміў, што ў Гузары ёсць яшчэ адзін валожынец — Пётра Мамонька, служыць ардынарцам пры доктары палкоўніку ў Гузарскім вайсковым шпіталі, які размясціўся ў мячэці. Пазней я наведаў таго Мамоньку. Аказалася, што ведаў майго бацьку.

У батальёне дарожных сапёраў болей было беларусаў і жыдоў, чым палякаў. Мелася некалькі і ўкраінцаў. Пасябраваў я з Мечыславам Тэадаровічам, на два гады старэйшым за мяне, родам з Сарнаў Палеска-Валынскага павету. Сам-насам гаварыў са мной на беларуска-ўкраінскім дыялекце (разумелі адзін другога як «łyse kobyły»).

Шэфам нашым быў гураль — сяржант Станіслаў Вацняк, добры хлоп, разумеў наша не зусім ідэальнае становішча і з жаўнерамі абыходзіўся, як бацька аддзялення. Аднак часта бэсціў жыдкоў, што паміж сабой гаварылі па-жыдоўску. (Жыды паступалі ў польскае войска як палякі Mojżeszowego wyznania.) Сяржант Вацняк казаў ім: «Калі вы палякі Майсеевага веравызнання, то гаварыце па-польску, а калі жыды, то гаварыце сабе па-габрайску, а гэтага жыдоўскага жаргону слухаць не хачу».

Неяк скора Тэадаровіча і мяне паслалі на работу ў вёску Каркін Батаж, дзе быў лагер юна́каў і сірацінец. Вазілі ваду ў бочцы конным возам, капалі прыбіральні. Жаўнер-вазніца ўжо там быў, ён і каня даглядаў. У кухні памагалі мыць катлы.

Пешшу прыйшлі мы ў той Каркін Батаж і зарэгістраваліся ў каменданта сірацінца. Быў гэта чалавек пад 60 гадоў у чыне капітана. Пачуўшы нашы прозвішчы і даведаўшыся, што сапёры, з усмешкай запытаў: «А ці ўмееце з хлеба цвікі рабіць, бо сапраўдныя сапёры гэта ўмеюць?» Завёў нас на кухню ў распараджэнне шэфа. Атрымалі малы пакоік у нейкім хлевушку.

Каркін Батаж быў калісьці сядзібай-маёнткам нейкага ўзбекскага бая — багатыра, бо дом быў вялізны з невялікім паркам і агародам. Цяпер у гэтым доме трымалі і даглядалі польскіх дзяцей.

Расказвалі, што ў 1937 годзе савецкая ўлада праводзіла тут калектывізацыю пры дапамозе конніцы маршала Будзённага. Усюды зруйнаваныя паселішчы. Трэцяя частка іх абязлюдзела. У Каркін Батажы было толькі тры ці чатыры сям'і ўзбекаў.

Наступным днём заняліся паслугамі ў лагеры для старэйшых дзяцей, гучна званых юна́камі. Было там некалькі настаўнікаў, якія праводзілі ўрокі пад тутоўнікамі — дрэвамі, лісцем якіх кормяць шаўкапрадаў. Дзеці, як і мы, дарослыя, атрымлівалі тую самую малакаларыйную ежу, таму шмат хто з іх хварэў на крываўку, тыф, а ў траўні дадалася яшчэ і малярыя. Лекаў не хапала, хоць дзецям і выдзялялася больш. Не ведаю дакладна, колькі тых дзяцей было, але ўсё ж больш як сто — ад немаўлятак да 16–17-гадовых.

На другі дзень, на маю вялікую радасць, наткнуўся на Франуся Сову, які пазнаў мяне і прыляцеў прывітацца. Хуценька расказаў мне, што яго сёстры, старэйшая Зося і малодшая Ядзя, знаходзяцца тут з ім, брат Эдмунд ужо недзе ў войску. З плачам паведаміў, што мамуся і малы Каролік памерлі… Пасля пабег кудысьці і хутка вярнуўся з сёстрамі: былі рады і я, і дзеці. Наколькі дазваляў мне час, стараўся бачыцца з імі штодня. Усе дзеці згаладалыя, выглядалі дрэнна, і рэдка можна было пачуць там смех, часцей плач, асабліва тых найменшых. Бачылі яны сваіх памерлых равеснікаў, якіх адвозілі на вайсковыя могілкі ў Гузары.

Мы з Тэадаровічам дапамагалі на кухні. Вось прывезлі пару вялікіх бочак саленай рыбы, падобнай да сома, велічынёй, як мужчынская рука, без лускі. Гэтак была засоленая, што мусілі яе вымочваць, мяняючы ваду. Але дзеці, хоць і недаядалі, той рыбы не хацелі есці, бо была нясмачная, і скардзіліся на болі ў жываце.

Праз пару тыдняў Тэадаровіча і мяне выклікалі назад у батальён у Гузар. Нарэшце абмундзіравалі і астатніх прыбылых рэкрутаў. Атрымалі, лічы, два мундзіры: адзін суконны, выхадны, і другі лёгкі цікавы — на заняткі, дзве кашулі на змену, дзве пары ваўняных шкарпэтак, пару добрых, выгодных чаравікаў, плашч і палярыну на выпадак дажджу. (Якраз у сакавіку і красавіку ў Сярэдняй Азіі час дажджоў.) Да таго яшчэ пілотка на галаву, два пледы, рукзак, хлебнік і падвойны ангельскі прастакутны кацялок, алюмініевы кубак ды ўсё патрэбнае для цыравання шкарпэтак: іголку, ніткі і нават напарстак (які трымаю на памяць і часам карыстаюся і сёння), яшчэ бутлю ў суконным футарале. З гэтай пары ўжо мелі што цягаць.

Нас, навабранцаў, апанавала вялікая радасць, і цяжка таму дзівіцца, бо нарэшце падобнымі сталі да жаўнераў, хоць і галодных.

Адбылася ў нашым дарожным батальёне перагрупоўка, і мяне з 1-й кампаніі перавялі ў 2-ю, у 4-ы плютон. Камандзірам 4-га плютона быў Вл. Пэнкала, і ягоны 4-ы быў накіраваны для работы на вайсковых могілках. Шэсць дзён на тыдзень, з рыдлёўкай «на плячо», палявымі сцежкамі праходзілі два кіламетры. Пахаванні былі кожны другі дзень, і наша работа выглядала так: удзень, калі не хавалі памерлых, кожны сапёр, а было нас 20 чалавек, мусіў сам выкапаць дол двухметровай глыбіні, даўжынёй два метры і шырынёй 80 сантыметраў. Пасля гэтай работы мы былі вольныя ад іншых заняткаў. Затое ў дні, вызначаныя для пахаванняў, два сапёры капалі адну магілу да абеду. Пасля абеду ізноў ішлі на могілкі і чакалі, пакуль санітары з вайсковага шпіталя коньмі на вазах прывязуць памерлых і пакладуць у ямы. Нашым заданнем было засыпаць магілу і сфармаваць надмагільны насып. У сярэднім хавалі больш за 20 памерлых. Здараліся дні, калі хавалі больш за 30.

Хавалі там і дзяцей з таго сірацінца. Вядома, ніякіх трунаў не было, закопвалі ў тым, што меў на сабе памерлы. Дзяцей не раз клалі па двое. Адным з найпрыкрэйшых для мяне здарэнняў было, калі Франусь і Ядзя Сова таксама хутка, адно за адным, памерлі, і давялося мне іх пахаваць. З усёй сям'і Соваў засталіся толькі Эдмунд і Зося. Ведаю, што з Расеі яны выехалі, абое былі ў 2-м Корпусе, а больш ужо сустрэцца не давялося.

Калі Польскае войска пакінула Гузар, то на вайсковых могілках засталіся 500 магілаў… Ведаю пра гэта, бо амаль да апошняга дня там працаваў разам з іншымі сапёрамі.

Ходзячы часта на могілкі сцежкамі паміж хаткамі, спатыкалі ўзбекаў, якія працавалі на абводненых палетках, засеяных ячменем, пшаніцай, а найбольш бавоўнай. Часам заводзілі гутарку, хоць і з цяжкасцю, таму што большасць узбекаў не ведалі расейскай мовы. Я нават здружыўся з дзвюма сем'ямі. Адзін з узбекаў працаваў калісьці на чыгунцы і спраўна гаварыў па-расейску, а другі быў настаўнікам і таксама гэтую мову ведаў. Знаёмства з настаўнікам і яго сям'ёй было не зусім звычайным.

Мы ўжо былі апранутыя ў вайсковую форму, і кожны жаўнер атрымаў ладны кавалак мыла, каб мыць кашулі і бялізну, бо ў траўні было ўжо горача і чалавек моцна пацеў. Большасць жаўнераў палову таго мыла вырашылі абмяняць на хлеб, дакладней, на ўзбекскія праснакі з ячменю. Узбекі ў краме мыла купіць не маглі і ахвотна мянялі на ежу, хоць і ў іх лішняй не было. У нядзелю, пасля абеду, вырашыў прайсці знаёмай сцежкай і зайсці ў якую-небудзь хату з сваім кавалкам мыла. Падышоў, пастукаў у брамку, праз хвіліну брамка адчынілася і паказаўся ўзбек, чыста апрануты, у каляровай шапачцы на галаве. Убачыўшы польскага жаўнера, быў трохі здзіўлены. Па-расейску спытаўся, па якой справе. Я разгарнуў газету з кавалкам мыла і кажу, што ахвотна памяняў бы яго на праснак ці на што іншае з харчу. Пазіраючы на мяне і мыла, голасна нешта сказаў па-ўзбекску, мабыць жонцы, якая адгукнулася з-за хаты. Пачуў я і іншыя мужчынскія і жаночыя галасы. Гаспадар кіўнуў рукой, паказваючы, што магу зайсці, і павёў мяне глыбей у двор. Я заўважыў некалькі дарослых асобаў. Яны сядзелі быццам на падвышэнні, засланым матамі з трыснягу. Пасярэдзіне на разасланым абрусе стаяла вялікая медзяная міса рысу з мясам (а была гэта бараніна), і была толькі адна вялікая лыжка, якая па чарзе ішла па коле з рукі ў руку, і кожны госць набіраў ёю рыс з кавалачкам мяса, і так елі.

Выявілася, што я трапіў якраз на ўрачыстасць, якая ў славянскіх народаў называлася пастрыжыны. Сыночку гаспадара споўнілася сем гадоў. Да гэтай пары меў стрыжаную галоўку, толькі пасярэдзіне патыліцы насіў доўгую пасмачку. У сем гадоў яе абразаюць, і хлопчык пераходзіць з-пад апекі мамы пад апеку бацькі. Па традыцыі, хто надыдзе ў гэты дзень, нават чужы, запрашаецца да пачастунку. Убачыўшы чужаземца, пані гаспадыня наклала ў невялікую місачку рысу з баранінай і папрасіла з'есці. Мяне запрашаць два разы не трэба было.

Зацікавіліся неспадзяваным госцем і сталі распытваць, як мы жылі ў Польшчы, пакуль не апынуліся пад савецкай уладай. Мыла пакінуў гаспадыні, нічога ўжо не патрабуючы, аднак тая ўціснула мне праснак і то пшанічны. Гаспадар запрасіў, каб заходзіў да іх яшчэ. Ахвотна згадзіўся, бо заўважыў дзвюх вельмі прыгожых дачок. Адной было 13, другой 16 гадоў — сапраўдныя ўсходнія прыгажуні.

Так вось пачалося маё знаёмства з узбекам, які нічога добрага не мог сказаць пра савецкі лад і рэжым.

Веснавыя дажджы ў гэтай частцы свету канчаюцца ў красавіку, але ў тым, 1942-м, годзе, прыйшла яшчэ залева ў канцы траўня, і ўзбекі казалі: «Гэта вашы спяваныя малітвы прынеслі нам позні дождж, які затрымае надаўжэй зялёную траву ў стэпе». Там пасвіліся статкі авечак-мерыносаў, зразумела, калгасных. У савецкім «раі» некаторыя калгаснікі трымалі кароўку, пару авечак, а шчаслівцы мелі восліка, на якім вазілі на рынак кіслае малако-катых, сезонную гародніну і садавіну з сваіх гародчыкаў.

Наш 4-ы плютон працягваў працаваць на могілках. Дадалі нам па 200 грамаў хлеба, які сквапна з'ядалі.

Пасля тыфознай тэмпературы былі ў мяне рэдкія і слабыя валасы. Цырульнік-прафесіянал, які быў у нашай 2-й кампаніі, сказаў мне, што, каб узмацніць цыбулькі валасоў,

галаву трэба галіць. Так я і рабіў. Тыя пяць рублёў платы, якія атрымоўваў на месяц, плаціў цырульніку за галенне. Парада была слушнай: валасы пагусцелі і ўзмацнелі. Яшчэ і сёння, у 88 гадоў, я не лысы.

Тым часам недзе працягваліся перамовы Польскага ўрада ў Лондане з Масквой аб выездзе нашай арміі на Блізкі Усход. Ніякай зброі і транспартных сродкаў мы не мелі, толькі пару коней з возам у кожным палку ці батальёне, каб было чым прывезці штодня хлеб ды іншы правіянт. Хлеб пяклі 5–6-кілаграмовымі боханамі, выдавалі адзін на восем жаўнераў, выходзіла прыблізна 600 грамаў на кожнага. Гэта была аснова харчавання. «Пузачоў», як гаварылі савецкія, сярод нас не было.

У другой палове ліпеня пайшла пагалоска, што нам, магчыма, удасца выехаць з таго «савецкага раю». Кожны з хваляваннем чакаў гэтага загаду.

З надыходам гарачыні дадалася яшчэ адна хвароба — малярыя, небяспечная, калі не лячыць, а лекаў і надалей не хапала. Асабліва пакутавала згаладалая дзятва. Магчыма, брытанцы і прысылалі трохі лекаў, але гэтага было мала. Могілкі запаўняліся ўсё новымі магіламі. Калі такая крытычная сітуацыя працягнецца, то войска вымра, не дачакаўшыся франтавых баёў.

Нарэшце ў жніўні са штаба прыйшоў загад, каб жаўнеры, сірацінцы і члены сем'яў рыхтаваліся да выезду. У Гузары салдаты пачалі грузіцца 11–12 жніўня. За дзень перад гэтым пабег, каб развітацца з узбекскай сям'ёй. Хацелі, каб пакінуў якую фатаграфію. На жаль, не меў ніводнай. Не памятаю нават, каб хто меў фотаапарат у нашым батальёне, дый у цэлым гузарскім гарнізоне. Мой знаёмы ўзбек-настаўнік прыйшоў з дзецьмі на станцыю, каб яшчэ раз са мной развітацца. У канцы шапнуў: «Як выедзеце адгэтуль у вольныя краіны, то не маўчыце, гаварыце ўсім, што перажылі тут у нас і што бачылі».

І сапраўды, хто хацеў слухаць, а нават калі не хацеў, тым расказвалі, хоць праз няведанне моў гэта не заўсёды ўдавалася.

## ІРАН, ІРАК

Урэшце ў перапоўненых вагонах рушылі на Ашхабад і да Краснаводска. На дарогу атрымалі сухі паёк, а недзе пасярэдзіне дарогі, у горадзе Мары, завялі ўсіх групамі ў вялізную сталоўку, дзе сілкаваліся і чырвонаармейцы, што ехалі на фронт, і параненыя з фронту. Іх перавозілі з Баку ў Краснаводск параходамі, а пасля чыгункай у азіяцкія рэспублікі на лячэнне. У сталоўцы падалі нам суп з крошкамі мяса і незаменную кашу са скваркамі.

У Краснаводск прыбылі амаль увечары наступнага дня. Са станцыі перайшлі ў блізкі порт. Там і была перавалачная база, дзе нас затрымалі на начлег і далі перакусіць. З побыту ў Краснаводску запомнілася вялікая колькасць рэзервуараў на нафту і бензін паблізу порта, а таксама вялікіх і малых параходаў на рэйдзе.

14 жніўня, пасля снедання, пачалі грузіць войска на параходы, па 300 чалавек. Было вельмі спякотна, таму пасадзілі нас пераважна на палубах. Прыбіральня была высунутая за борт парахода, і ўсе людскія выдзяленні траплялі проста ў мора. Часта гэта ўсё сплывала ўніз па борце карабля, ствараючы несамавіты смурод.

Плылі мы цэлую ноч і наступнага дня перад поўднем былі ў іранскім порце Пехлеві. Да самога порта не дайшлі, яшчэ ў моры сталі на якар. Да нас падплыў ад берага меншы карабель, закінуў якар побач з нашым. Мы перабраліся на яго па перакінутым мосціку і гэтым меншым уплылі ў порт. Неўзабаве выйшлі на бераг, і нас падраздзяленнямі павялі адразу ў лагер на беразе Каспійскага мора, які абслугоўвала індыйскае войска пад брытанскай камандай. Тут стаяла штосьці падобнае да баракаў, сцены якіх былі з плеценых трысняговых матаў, а стрэхі саламяныя. Пакармілі нас рысам з баранінай і дынямі на дэсерт. Порцыі былі вялікія і каларыйныя. Калі хто хацеў, мог атрымаць і дадатак.

Хоць нас і перасцерагалі ад пераядання (згаладалым магло зашкодзіць), аднак спакуса напхаць жывот напоўніцу была вялікая. Шмат хто паплаціўся недамаганнем.

А я, яшчэ плывучы на параходзе, адчуў тэмпературу. Нягледзячы на цёплае надвор'е, бралі мяне дрыжыкі. Думаю, якое ліха зноў на мяне напала? Выявілася — малярыя. Доктар індус адразу паслаў мяне ў малярыйнае аддзяленне амбулаторыі. Далі піць хінін (смак нашага беларускага палыну). Хворы на малярыю адзін дзень тэмпературыць і чалавека трасе (добра нам вядомае слова — трасца), наступны дзень маеш моцны боль галавы; ды прымаючы хінін, па некалькіх днях той пакуты хвароба праходзіць, але траціш шмат вагі. Пасля хваробы з'яўляецца такі воўчы апетыт, што еў бы без супынку. На маё шчасце, ужо тут, у Іране, есці было што.

Выпадкова і неспадзявана сустрэў тут Мікалая Мядзінскага, свайго суседа з Валожына. Яго сям'я і мы жылі побач: цяпер гэта вуліца Мічурына. У той час была палявая дарожка. Коля Мядзінскі старэйшы за мяне на тры гады, але мы добра паміж сабой сябравалі. На пачатку Другой сусветнай вайны быў ён у польскім войску на фронце, а пасля 17 верасня 1939 года трапіў у савецкі палон і працаваў у шахце жалезнай руды ў Крывым Рогу ва Украіне. Зразумела, не маглі нагаварыцца, успамінаючы ўсё роднае. (Бедны, загінуў пад Монтэ-Касіна.) Але тады, абодва хворыя, спаткаўшыся выпадкова так далёка ад Радзімы і сваіх сем'яў, былі мы бліжэйшыя за родных братоў.

На другі ці трэці дзень пасля прыбыцця ў Іран выдалі нам першы раз прыстойную жаўнерскую плату — восем туманаў шараговым і большую, у залежнасці ад рангу. Адразу знайшліся першыя гандляры, прапануючы звараныя нацвёрда вароніны яйкі. Мясцовыя людзі персы добра гаварылі па-расейску. Восем туманаў не так і многа, але курцы куплялі папяросы, аднак большасць жаўнераў — дыні, кавуны ды садавіну: абрыкосы, апельсіны, вінаград і ўпершыню мной убачаныя гранаты. Была нават імпартаваная яшчэ да вайны польская «Зуброўка». Калі, вылечыўшыся хінінам, пачуўся лепш, далучыўся да іншых хлопцаў, каб выкупацца ў Каспійскім моры, бо вада была цёплая, быццам падагрэтая.

З першага дня знаходжання ў Іране мы перайшлі пад камандаванне галоўнай стаўкі Вялікабрытаніі. У Пехлеві часткі, што прыбывалі з Савецкага Саюза, затрымліваліся не даўжэй за 10–12 дзён і грузавікамі адпраўляліся праз Іран у Ірак. Транспартаванне адбывалася ў чатыры этапы. Там ужо наперад былі падрыхтаваныя пункты харчавання, санітарная служба і начлег. Першы пастой быў у горадзе Казвін. Ехалі вельмі гарыстым краем. Шаша тады не была яшчэ заасфальтаваная (толькі жвір), вельмі крутая і месцамі ляжала па-над прорвамі, чалавеку страшна было глянуць уніз. У кожным грузавіку 36 жаўнераў. Шафёры-персы ехалі на вялікай хуткасці. На прыпынках, бачылі мы, курылі гашыш і ў такім узбуджаным стане вялі машыны. Аднак не было чуваць, каб здарыўся які выпадак з польскімі жаўнерамі.

З Казвіна прывезлі нас на вячэру, начлег і снеданне ў Хамадан — святы горад мусульманаў. З Хамадана — да Керменшаха і адтуль у Ірак да горада Ханакін, яшчэ недалёка ад іранскай граніцы. Здаецца, быў ужо верасень.

У Іраку пачалася рэарганізацыя Арміі. Адны фармаванні ліквідавалі, стваралі новыя, іншыя папаўнялі. Наш батальён дарожных сапёраў зліквідавалі, асобныя плютоны далучылі да іншых сапёрных аддзелаў. Я з групай сапёраў апынуўся ў 2-й кампаніі 7-га батальёна сапёраў.

Размясціліся ў трапічных намётах — па 60 чалавек у большых і па восем у малых. Трапічныя намёты мелі падвойны тэнт. Верхні не дапускаў простых сонечных промняў непасрэдна на намёт. Тэрыторыя, на якой раскінуліся намёты, — гэта пустыня, усыпаная камянямі. Меншыя з іх — велічынёй з грэцкі арэх, і большыя — з кулак. З сярэдзіны намётаў іх выкідалі, бо інакш нельга было не тое што легчы, а нават сесці. Ачышчаць ад камянёў трэба было таксама пляц для шыхтаванняў і сцежкі ад намёта да намёта. Сама

ж зямля была гліністая. Неўзабаве ў гэтым пераканаліся, калі ў другой палове кастрычніка надышла пара дажджоў і гліна пачала прыліпаць да нашага абутку. Перш чым зайсці ў намёт, трэба было тую гліну саскрабаць. Каб дажджавая вада не цякла ўсярэдзіну, намёт навокал абкладвалі мяхамі з пяском, але пры моцных дажджах вада ўсё адно сачылася.

Горад Ханакін размешчаны ў даліне даволі вялікай ракі, нешта як наша Бярэзіна. У горад нам заходзіць забаранялася. Мабыць, каб часам не правакаваць насельніцтва якімі-небудзь неразумнымі паводзінамі. Жылі там пераважна курды. Пару кіламетраў уверх па рацэ знаходзіўся вялікі нафтаперагонны завод, які працаваў на поўных абаротах пад наглядам брытанскіх інжынераў. Сярод арабаў панавалі пранямецкія сімпатыі і заўсёды можна было чакаць сабатажу. І тут польскае войска акурат прыдалося, каб такога не дапусціць. 3-я Карпацкая дывізія ўжо была размешчаная каля горада Масул, дзе былі нафтавыя свідравіны.

Надалей адбываліся змены і перамяшчэнні жаўнераў да новых або іншых баявых адзінак. Праз некалькі тыдняў 7-ы сапёрны батальён апынуўся ў стане расфармавання. Аднаго дня зрабілі пастраенне нашай кампаніі і прызначылі нам паручніка Расціслава Кэнпіньскага (узросту каля трыццаткі), які меў намер выбраць групу жаўнераў і падафіцэраў для спецыяльнага «піратэхнічнага» плютона. Прайшоўся паволі перад нашай шарэнгай, уважліва ўзіраючыся ў кожнага жаўнера. На вока выбраў з сорак жаўнераў і некалькі падафіцэраў, а рэшце сказаў адысці. Пачаў па чарзе падыходзіць і пытацца прозвішча, адкуль паходзіць, якая адукацыя і прафесія. Урэшце выбраў 27 шараговых, у тым восем падафіцэраў, і кажа, што мы выбраныя для настворанага спецыяльнага плютона абясшкоджвання бомбавых невыпалаў, і калі нехта з нас лічыць, што такая спецыяльнасць яму не падыходзіць, то можа адмовіцца. Уся наша група засталася. Даў нам паўгадзіны на збор і пакаванне нашай сціплай маёмасці і грузавіком завёз у мясцовасць Кізыл Рабат, аддаленую ад Ханакіна на кіламетраў дзевяноста. Да лістапада ўсё нашае войска атабарылася непадалёку таго Кізіл Рабата, і мы занялі пад намёты даволі роўную тэрыторыю на абшары 15–20 квадратных кіламетраў.

Наш настворраны плютон апынуўся ў 10-м батальёне сапёраў, які складаўся з 1-й, 2-й (пантоннай і механічнай) кампаніі і нашага 10-га плютона абясшкоджвання бомбаў, пад камандай палкоўніка Ежы Сахоцкага. Незвычайны чалавек, клапатлівы пра «сваіх хлопцаў», якіх праз нейкі час ведаў усіх па імёнах. Часта нас наведваў, усё аглядаючы, пытаючыся і жартуючы. Для прыкладу: шэфам кухні ў нашым батальёне быў сяржант па прозвішчы Свірскі. А перад вайной сціплай ваеннай марынаркай Польшчы камандаваў таксама Свірскі, контр-адмірал. Палкоўнік Сахоцкі часта наведваў кухню і пытаўся ў шэфа: «Пане адмірале, што пан падрыхтаваў цяпер на яду маім хлопцам?» Гэта быў пераважна рысавы суп і рысавая каша з катлетай з бараніны. Радзей гатавалі «сушаную бульбу» на нядзельны абед і часам кампот на дэсерт.

Зразумела, афіцэры сілкаваліся ў афіцэрскім казіно, але асобнай кухні не мелі, кармілі іх з батальённай, падавалі на стол тое самае, толькі, відаць, з нейкімі дадаткамі, якіх шараговыя і падафіцэры не атрымлівалі.

У той жа час хлеба было малавата, давалі невялікі боханчык — паўтара кілаграма на тры асобы. Але неўзабаве мясцовае курдскае насельніцтва неяк даведалася, што нам не стае хлеба і пачало да нашага лагера пасылаць дзяцей з ячменнымі праснакамі на продаж. А жаўнеры іх навучылі, што па-польску гэта называецца «хлеб». З нейкай прычыны не маглі вымавіць літару «х» і замест гэтага крычалі: «Клеб, клеб!».

Яшчэ да пабудкі, якая была а шостай гадзіне раніцы, дзятва з хлебам у хусцінках падыходзіла пад нашыя намёты, але здалёку, і гукала патроху: «Клеб, клеб». Але як толькі гарніст іграў пабудку, то адразу пачыналі амаль крычаць: «Клеб, клеб!» І ў іх куплялі гэтыя праснакі па 10 фільсаў.

Кожныя 10 дзён мы атрымоўвалі плату (жолд) — адзін ірацкі дынар, больш-менш раўназначны аднаму ангельскаму фунту стэрлінгаў. Дынар жа падзяляўся на 1000 фільсаў. Манеты былі 5, 10, 25, 50 і 100 фільсаў. Увесну 1943 года атрымалі гэтак званы трапічны дадатак — яшчэ паўдынара. Нам выдалі таксама лёгкія трапічныя мундзіры, кашулі і шорты, ну і трапічныя коркавыя гэльмы, без якіх нельга ўдзень хадзіць па вуліцы, бо лёгка было атрымаць сонечны ўдар.

У сувязі з воднымі трэніроўкамі 10-ы сапёрны батальён размяшчаўся бліжэй да ракі, той самай, што працякала праз Ханакін. З другога боку знаходзіўся вялікі канал для арашэння палёў. Каб трапіць да сапёраў, трэба было пераехаць або перайсці праз масток па-над каналам, збудаваны менавіта сапёрамі нашага батальёна.

На новым месцы дыслакацыі недзе ў сярэдзіне лістапада 1942 года жаўнераў пачалі інтэнсіўна трэнінгаваць, кожны аддзел па сваёй спецыяльнасці. Нас, «бамбоўцаў», таксама.

Падчас паветранай бітвы за Вялікабрытанію ў 1940–1941 гадах узнікла вялікая патрэба ў сапёрах-спецыялістах па абясшкоджванні бомбавых невыпалаў. Так склалася, што брытанцы напачатку такіх спецыялістаў не мелі, і інструктараў таксама не было. Трэба было навучацца ў часе налётаў. Быў гэта вельмі цяжкі перыяд, поўны ахвяраў, але патроху брытанцы ў гэтай галіне навучыліся і прыдумалі шмат спецыяльных прыстасаванняў для абясшкоджвання бомбаў.

Так што наш плютон пачаў навучацца тады, калі брытанцы ў гэтай галіне ўжо дасягнулі вялікіх поспехаў, якімі і падзяліліся з намі.

Кожная бомба нагэтулькі эфектыўная, наколькі спраўны яе запал. У нямецкіх бомбах запалы былі электрычныя і дзейнічалі паводле прынцыпу кароткага замыкання: пры сутыкненні з цэллю ў запале ўзнікала замыканне, іскра трапляла на запал, з запала на дэтанатар, а потым на траціл у бомбе, які і выбухаў. Выкарыстоўвалі таксама запалы гадзіннікавыя, якія настаўляліся на выбух з затрымкай ад двух да 74 гадзін. Іх звычайна ўжывалі ў бомбах, што глыбока пранікалі ў грунт — для знішчэння стратэгічных аб’ектаў.

Перш чым паручніка Кэнпіньскага прызначылі, каб ён стварыў адпаведнае падраздзяленне і навучыў гэтай вельмі небяспечнай вайсковай спецыяльнасці жаўнераў, ён сам павінен быў прайсці навучанне. Таму быў накіраваны ў Цэнтр узбраення брытанскай арміі на Блізкім Усходзе, які знаходзіўся ў Ісмаіліі, над Суэцкім каналам у Егіпце. А цяпер, не трацячы часу, пачаў навучаць нас тэарэтычна. Урокі былі, як у школе.

Тым часам усё войска пачало атрымліваць зброю, транспарт ды іншае вайсковае абсталяванне. Трэба было «на гвалт» навучаць кіроўцаў, бо іх паміж нас было няшмат. Наш «бомбавы плютон» атрымаў тры машыны, гэтак званыя трохтонкі, адну паўтонку, адну машыну-кампрэсар, якая абслугоўвала пнеўматычныя молаты. Камандзіру далі «віліс», якога нашы хлопцы назвалі «лазікам», бо хоць быў лёгкай машынай, але меў чатыры вядучыя колы і мог узбірацца нават на стромкую гару. Выдалі таксама адзін матацыкл для сувязнога. Наш плютон атрымаў таксама спецыяльнае абсталяванне для абясшкоджвання бомбаў, нават паравы кацёл на шэсць атмасфер ціску для іх «стэрылізацыі», які я павінен быў вывучыць і пры патрэбе абслугоўваць. Пазней выкамбінавалі, што можам парай награваць ваду і ўжываць для ўласнага мыцця, бо не заўсёды было блізка да вайсковай лазні, а памыцца ж, аднак, трэба.

Надышла зіма, зразумела не такая, як у Беларусі. Удзень тэмпература была 18–20 градусаў, але ночы былі халодныя, і пад адной коўдрай спаць было халаднавата, таму накрываліся яшчэ і плашчом.

Прыбылі да нас госці з айчынных краёў. Былі гэта цэнтральнаеўрапейскія шпакі, што прылятаюць зімаваць у Месапатамію. Дзеля сваёй бяспекі ўтвараюць тут незвычайна вялізныя чароды, бо на іх палююць сокалы, ястрабы, можа, нават і арлы. Не перабольшу, калі скажу, што ў такіх чародах дзясяткі тысяч птушак. Часта назіралі, як на іх

палявалі сокалы. Драпежнікі ўзляталі над шпакамі, а потым маланкава нырцавалі ўніз, і так мусілі рабіць па некалькі разоў, пакуль удавалася схапіць у кіпцюры якую-небудзь птушку. Відовішча не самавітае. Часам шпакі абсядалі нашыя намёты, ім тады кідалі недаедзены рыс, які птушкі вельмі любілі.

Набліжалася свята Божага Нараджэння. На жаль ялінак не было, але крыху зяляніны з пальмавых лістоў знайшлося. Мацнейшага алкаголю таксама не было дзе знайсці, але піва мелі — у нашых кантынах, салдацкіх сталоўках.

Кожны полк і батальён меў свайго капелана, які ў нядзелю правіў набажэнства. Праваслаўныя жаўнеры таксама мелі палявую капліцу і ў нядзелю, а таксама на праваслаўныя святы там збіраліся. Але яны былі ўжо з усіх падраздзяленняў, і там ў вялікай колькасці слухалі малітвы праваслаўнага святара. Пасля заканчэння малітваў можна было бачыць большыя і меншыя купкі «сваякоў», жаўнераў з тых самых паветаў, гмін і мясцовасцяў, што размаўлялі між сабой. У адну такую нядзелю, стоячы ў шарэнзе перад алтаром, адчуў раптам, што нехта на мяне ўзіраецца. Пачаў разглядацца ва ўсе бакі і ў пэўны момант нарэшце заўважыў свайго дзядзьку, які стаяў насупраць, гледзячы на мяне з усмешкай ад вуха да вуха. Быў гэта Дзмітры Куніцкі з вёскі Бурмакі. Яго маці і мая бабуля былі роднымі сёстрамі з Кібуцяў. У верасні 1939 года быў у польскім войску і трапіў у савецкую няволю. Мусілі цярпліва чакаць канца набажэнства, каб прывітацца і паразмаўляць. Ён быў танкістам, і ягоны аддзел знаходзіўся непадалёку майго, каля аднаго кіламетра, таму ад гэтага часу даволі часта сустракаліся. Але не толькі з ім. У Корпусе было каля 30 валожынцаў, а можа і больш. Раскіданыя па ўсіх падраздзяленнях, толькі пры выпадку збіраліся па некалькі на «пагадушкі» пры шклянцы, а то і бутэльцы піва.

Божае Нараджэнне і Новы год 1943 года святкавалі мы ў Іраку. Рыштунак, цалкам новы, зброю, машыны ды ўсё іншае прывозілі ў порт Басра, а адтуль да нас — шашой або вузкакалейкай, якая менавіта з Багдада ішла да канцавой станцыі Гялюль, паблізу дыслакацыі арміі. Восеньская дажджлівая пара скончылася, і можна было з новай зброяй пазнаёміцца і папрактыкавацца. Менавіта ўсе падраздзяленні былі занятыя тым азнаямленнем. Зразумела, нас, «бамбоўцаў» гэта таксама не мінула.

Наш паручнік Кэнпіньскі знаёміў нас, пакуль што тэарэтычна, як абясшкоджваць бомбы. Былі мы як на нейкім «факультэце», укладаў ён нам ў галовы вельмі старанна і дакладна, наколькі гэта было магчыма. Вучыў і практычна таксама.

Каб у пустыні не нудзіцца, займаліся мы і спортам, пераважна футболам і валейболам. Палявая друкарня выдала некалькі кніжак: «Трылогія» і «Крыжакі» Сянкевіча, «Прыгажосць жыцця» і «Попел» Жаромскага, «Эмансіпанкі» Пруса. Акрамя таго, друкавалі «Дзённік жаўнера» і тыднёвік «Ожэл Бялы». Былі таксама дзве тэатральныя трупы, якія давалі спектаклі і канцэрты. Словам, рабілася, што можна, каб жаўнер далёка ад дому, сям'і і Бацькаўшчыны мог неяк вытрымаць гэтую разлуку і гэты ненармальны побыт.

Чуючы спажыву, да нашых «намётавых кватэр» падыходзілі бяздомныя, звычайна беспародныя сабакі, таму шмат якія аддзелы іх прыкармілі і іншых звяркоў таксама. На шляху з Ірана ў Ірак хлопцы з транспартнай кампаніі купілі ў нейкага персідскага браканьера пару медзведзянятаў і назвалі іх Войтэк і Бася. Зразумела, што мядзведзяняты праз некалькі месяцаў выраслі і былі немалой забаўкай для жаўнераў. Здаецца, іх навучылі нават грузіць на машыны скрыні з амуніцыяй. Пазней давезлі іх ажно ў Брытанію, дзе ўрэшце аддалі ў звярынец у Шатландыі. У нашым батальёне нехта з жаўнераў трымаў нават галубоў.

Летам 1943 года 10-ы сапёрны батальён правёў гэтак званыя водныя вучэнні, якія адбываліся на рацэ Еўфрат, у мясцовасці Хабанія. Там таксама знаходзілася вялікая брытанская лётніцкая база. На тыя водныя вучэнні пасылалі толькі адзін раз па адной кампаніі. Большую частку нашага плютона далучылі да 1-й кампаніі, і мы таксама

апынуліся на вучэннях, зразумела і начных. Будавалі пантонныя масты, перавозілі на пантонным плыце (два пантоны з памостам), на якім мог змясціцца адзін плютон з меншай аўтамашынай і зброяй.

Еўфрат — вялікая рака, як наш Нёман або Дзвіна, і мае вельмі імклівую плынь, што не аблягчала вучэнняў. Але для чаго чалавек з’яўляецца сапёрам?

Водныя вучэнні доўжыліся каля двух тыдняў. Менавіта тады мелі мы аказію два разы праязджаць праз Багдад. Але не спыняліся там.

Надышла вясна з улеўнымі дажджамі, пачала расці трава, і ўся пустыня, дзе мы знаходзіліся, зазелянела, зацвілі чырвоныя макі ды іншыя кветкі. Нішто так прыгожа не выглядае, як вясна ў гэтай частцы Ірака. Тутэйшая свойская жывёла, як коні, вярблюды, козы і авечкі, мела свой штогадовы «баль». Але недзе ў сярэдзіне траўня ўсё пачынае рудзець і ператварацца ў сухое бадыллё травы, якое разносіць гарачы вецер.

У другой палове траўня прымалі мы цягам тыдня ангельца — харунжага, спецыяліста па бомбах, які праверыў наш рыштунак, ну і нашыя веды па абясшкоджванні бомбавых невыпалаў. Добра, што ўжо мелі ў нашым плютоне двух хлопцаў, што размаўлялі паангельску. Былі гэта нядаўна прыбылыя з Англіі падпаручнік Стэфан Твароўскі і падхарунжы Анджэй Кжыскі.

У другой палове траўня яшчэ адна перадыслакацыя, амаль усяго Корпуса, да горада Кіркук, уласна не ў сам горад, а ў яго ваколіцы. Паблізу Кіркука было шмат нафтавых свідравін і вялізны нафтаперапрацоўчы завод, а таксама чыгуначная станцыя і лётнішча. Наш батальён размясціўся каля горада найбліжэй, на невялікім пагорку, з якога былі бачныя будынкі і мінарэты.

У ліпені таго самага году мелі вельмі важнага госця. Прэм’ер Польскага ўрада ў Лондане і военачальнік Польскіх узброеных сілаў генерал Уладыслаў Сікорскі прыехаў да нас з інспекцыяй. У суправаджэнні генерала Андэрса, штаба і пары вышэйшых брытанскіх афіцэраў наведваў палкі і батальёны. Зразумела, не мінуў і нашага 10-га батальёна сапёраў. Праходзячы перад шарэнгамі войска, падышоў і да шарэнгі нашага плютона. Мы былі апранутыя ў трапічныя мундзіры: шорты і кашулі з закасанымі за локці рукавамі. Адзін з нашых капралаў меў на перадплеччы татуіроўку з выявай пышных формаў кабеты. Генерал Сікорскі заўважыў гэта і, звяртаючыся да капрала, кажа: «Ну што ж, пане капрале, у пустыні і такая не раз прыдасца». Усе прысутныя, зразумела, голасна рассмяяліся.

## ПАЛЕСТЫНА

Наша радасць з візіту генерала Сікорскага не была доўгай. Праз некалькі дзён прыляцела, як гром з яснага неба, вестка, што, вяртаючыся ў Вялікабрытанію, ён загінуў у авіякатастрофе над Гібралтарам. Толькі што бачылі яго здаровым, усмешлівым і жартаўлівым, а тут як быццам хтосьці нас, жаўнераў, ударыў даўбешкай па галаве. Абвясцілі жалобу і маліліся за супакой душы Галоўнакамандуючага.

На ваенных дзеяннях гэтая трагедыя аніяк не адбілася. Баі працягваліся, і мы павінны былі рыхтавацца да апошняй пераможнай бітвы ў Еўропе.

Час ужо надышоў, падрыхтавалі нас, навучылі і добра ўзброілі. Немцаў выгналі з Паўночнай Афрыкі, і Сіцылія таксама ўжо была ў руках альянтаў.

У жніўні нашае войска пачало пакідаць Ірак і скіравалася праз Іярданію ў Палестыну. Гэтым разам ехалі ўжо на ўласных машынах з сваімі шафёрамі.

На палове маршруту, у Іярданіі, быў падрыхтаваны начлежны лагер, дзе нам давалі гарачую страву, а ўвечары перад сном тэатральная трупа пацешыла нас з імправізаванай сцэны гумарам і песнямі.

На другі дзень апоўдні пераехалі мост цераз Іярдан і апынуліся ў Палестыне, тады яшчэ пад брытанскім пратэктаратам. Тут кожны аддзел размясцілі ў бараках, якія засталіся ад брытанскага войска.

Палестына была тады зусім іншым краем, чым астатнія арабскія тэрыторыі, асабліва гэта датычыла паселішчаў з еўрапейскімі жыдамі. Сярод іх былі жыды з Польшчы і Чэхіі, з Беларусі і Вугоршчыны, а таксама з дарэвалюцыйнай Расеі. Лёгка было дамовіцца і нешта памяняць або купіць. Польскія жыды складалі даволі вялікі адсотак перасяленцаў у Палестыне. Яны друкавалі на польскай мове газеты, мелі і праглядалі ўсе польскія фільмы, зробленыя да пачатку вайны. Таму нашыя жаўнеры ахвотна хадзілі ў мясцовыя кінатэатры. Адчуванне было такое, быццам наведалі свой край.

А з тае прычыны, што ў Палестыне рэдка калі ідзе дождж, кінатэатры мелі адно сцены, а дах быў толькі над апаратнай кабінай, словам, фільмы паказвалі пад голым небам. Пакуль не пачынаўся сеанс, «зала» была ярка асветленая, і землякі часта пазнавалі адзін аднаго. Я таксама спаткаў у кіно двух валожынцаў: Казіміра Яворскага, які жыў на Зялёным пляцы, і былога паліцыянта з Валожына прозвішчам Залепа. Яны мяне не пазналі, але я падышоў паразмаўляць, напамінаючы ім, адкуль іх ведаю. Падобных выпадкаў было вельмі шмат.

Наш плютон атабарыўся ў партовым месце Хайфа. Жылі мы ў вайсковых бараках на біблійнай гары Кармэль. Нашымі суседзямі былі жаўнеры з Індыі: таксама толькі плютон ды таксама, як і мы, былі спецыялістамі па абясшкоджванні бомбаў.

Хайфа была вельмі рухлівым портам, і заўсёды існавала небяспека, што нямецкія самалёты, якія базаваліся ў акупаванай Грэцыі, маглі нас бамбаваць. Таму на ўсякі выпадак і размясцілі тут два гэтыя плютоны — польскі і індыйскі. Акрамя таго, Хайфа мела вельмі моцную супрацьпаветраную абарону з зеніткамі і пражэктарамі.

Мы жылі побач з індусамі-сікхамі, якія былі даволі высокімі, барадатымі і з вялікімі турбанамі на галовах. І хоць адны адных не разумелі, але гулялі між сабою ў валейбол, выйграючы і прайграючы, як каму пашчасціць. Яны і мы мелі добрых гульцоў.

У Хайфе я захварэў шосты і ўжо апошні раз на малярыю. Завезлі мяне ў вайсковы брытанскі шпіталь, дзе быў толькі паўтара дні, бо не маглі са мною паразумецца. Таму наступнага дня адвезлі санітарнай машынай у польскі шпіталь.

Адзін з польскіх шпіталяў знаходзіўся каля новапабудаванага горада Рэхабот. Там я пабыў дзён дзесяць. На другі ці на трэці дзень прывезлі і паклалі каля мяне маладога жаўнера, хворага на трапічную малярыю, небяспечнейшую за тую, што меў я. Некалькі дзён ён быў без памяці, і санітарка не адыходзіла ад яго. Лячылі яго ўколамі. Нарэшце хлопец апрытомнеў, і стан яго значна палепшыўся. Пачалі размаўляць. Даведваюся, што жыў з бацькамі ў Валожынскім павеце, у Івянцы. Бацька яго быў капітанам, служыў у івянецкім батальёне Корпуса аховы пагранічча. Як прыйшлі саветы, яго арыштавалі, а маці з сынам вывезлі ў Казахстан. Пра бацьку хлопец яшчэ нічога не ведаў, бо каб быў у Арміі генерала Андэрса, то да гэтага часу знайшоў бы яго.

Пачалі для нас ладзіць экскурсіі да святых мясцін, як Ерусалім, Батлеем, Назарэт. Мы наведалі Мёртвае мора ды іншыя гістарычныя мясцовасці. Тым часам у Ерусаліме на жаўнерскія складкі купілі будынак пад Дом польскага жаўнера, дзе экскурсанты затрымліваліся падсілкавацца ды невялікімі гуртамі заставаліся на начлег. Ці варта казаць, якія цікавыя і павучальныя былі гэтыя экскурсіі, як яны духоўна ўзмацнялі нас?

Ад малярыі мяне вылечылі, і цягніком вярнуўся ў Хайфу, якраз у самы час, бо нас, «бамбоўцаў», брытанцы накіравалі ў Ліван і размясцілі ў сталіцы Бейруце. Порт у Бейруце быў вельмі важным стратэгічным асяродкам брытанцаў, як месца дастаўкі вайсковага грузу альянтам. Была небяспека, што яго можа бамбаваць нямецкая авіяцыя. Да налётаў не дайшло, і Бейрут запомніўся як найпрыемнейшае месца нашага знаходжання на Блізкім Усходзе.

Размясцілі нас на віле былога прэзідэнта горада Бейрута. Занялі партэр, аўдавелая гаспадыня жыла на другім паверсе. На сядзібе быў невялікі басейн з фантанам і залатымі рыбкамі.

Управа горада Бейрута выдала загад, каб з жаўнераў, якой бы яны ні былі нацыянальнасці, не браць платы за праезд трамваямі. Таму мы ездзілі, колькі хацелі, калі дазваляў час.

Цудоўны горад.

Тамсама пазнаёміўся я з маёрам царскай арміі — белагвардзейцам, які неўзабаве пасля рэвалюцыі праз Турцыю дабраўся да Лівана і прапанаваў свае паслугі французам. Некалькі разоў надаралася магчымасць цікава пагаварыць з ім на тэму рэвалюцыйнай Расеі. Шкада, што знаходжанне ў Бейруце было кароткім: нашу армію чакалі краіны Еўропы, якія заставаліся пад нямецкім панаваннем.

Прайшло пяць незабыўных тыдняў, і вярнуліся ў Палестыну.

Выпадкова спаткаў тады майго камандзіра з часу знаходжання ў Гузары плютановага Мікалая Лявонава. Затрымаўся ў яго на абед, якраз у яго аддзяленні падавалі. І потым ён, за размовай, паказаў мне некалькі фотаздымкаў, і на адным з іх сярод добраахвотніц я пазнаў жонку апошняга кіраўніка школы ў Валожыне. Кажу, што гэтую пані ведаю, гэта Вэрця Вёнцэк, жонка майго школьнага выхаваўца. А ён мне на гэта: «Хочаш яе ўбачыць? Тады цябе завяду, жаночы аддзел тут побач». Зразумела, што згадзіўся, бо хацеў з ёю паразмаўляць і даведацца, дзе б мог пабачыцца з яе мужам.

Спаткаўся з пані Вёнцэк, сказаў, хто я, бо яна не ведала мяне. Вёнцкі пажаніліся адразу пасля заканчэння 1938/39 школьнага года, амаль перад нападам немцаў на Польшчу. Яна таксама вучыла дзяцей, але ў Івянцы. З прыходам савецкай улады Вёнцкаў арыштавалі, а пасля вывезлі. Вось так савецкае «вызваленне» выглядала на практыцы. Сказала мне, што муж служыць у артылерыі, і калі яго ўбачыць, то раскажа пра спатканне са мною.

Неяк так нефартунна адбылося, што хоць пра сябе ведалі, але да спаткання між намі не дайшло. Вёнцка, відаць, пакінулі ў Палестыне, бо як педагог больш быў патрэбны ў лагеры юна́каў для навучання дзяцей, чым для абслугі гарматы. Лагер моладзі знаходзіўся ў Назарэце. Некалькі дзясяткаў хлопцаў, калі падраслі, былі ўлучаныя ў войска ўжо ў Італіі.

Падчас знаходжання нашага, гэта значыць польскага, войска ў Палестыне ўзнікла вельмі прыкрая сітуацыя з жаўнерамі жыдоўскага паходжання. Было іх у арміі больш за чатыры тысячы. Пазнаходзілі ў Палестыне сваіх «крэўных і знаёмых» ды прасілі камандзіраў, каб можна было іх адведаць з пропускам. З тымі пропускамі ехалі адведаць «дзядзькоў, цётак, кузінаў, школьных сяброў» ды іншых. Як паехалі, так і не вярнуліся, папросту дэзерціравалі. Збеглі дзесьці дзве трацінy жыдоўскіх жаўнераў.

Спачатку польская жандармерыя ў супрацоўніцтве з брытанскай спрабавала іх знайсці, але палестынскія жыды іх добра хавалі, таму мала каго злавілі. Нарэшце ў галоўным штабе, відаць, вырашылі, што як баба з возу, то каню лягчэй, і перасталі іх шукаць. Пазнейшы прэм’ер Ізраіля Менахім Бегін быў адным з тых, хто «наведаў сваіх крэўных».

На сутыку лістапада і снежня 1943 года пачалі мы пераязджаць праз Сінайскую паўвыспу на заходні бок Суэцкага канала, цераз які пераправіліся паромам у Эль-Кантары.

Наш плютон размясціўся каля канала непадалёку горада Ісмаілія, дзе прэснаводны канал, што ідзе з-пад Каіра, злучаецца з Суэцкім.

Пасяліліся ў бараках, якія да нас займалі ангельцы. Непадалёку ад баракаў стаяў вельмі высокі помнік у гонар інжынера Лесэпса і будаўнікоў Суэцкага канала. Да Ісмаіліі таксама было блізка, і часам пасля вячэры мы хадзілі ў кіно. Мала з таго разумелі, бо фільмы былі ангельскамоўныя, з арабскімі подпісамі. Але ж і з гэтага была нейкая пацеха.

Святкавалі там Божае Нараджэнне і сустрэлі на далёкай чужыне яшчэ адзін Новы год, 1944-ы. Зноў зычылі адзін аднаму, каб наступны год сустрэць ужо на Бацькаўшчыне. І ў тым годзе зычэнні не здзейсніліся, а для большасці з нас ужо не здзейсняцца ніколі.

Не так доўга каля канала мы затрымаліся, бо ўжо, атрымаўшы новую назву — 2-і Польскі корпус, збіралі усю армію ў мясцовасці, што называлася Касасін, хоць там не было ніводнага паселішча.

Аднаго разу папоўдні прадстаўнічы аркестр Брытанскіх узброеных сілаў у Егіпце даў нам вельмі ўдалы канцэрт вайсковых маршаў, граў і іншыя творы для духавога аркестра.

Паехалі мы таксама на экскурсію ў Каір, нават не вельмі памятаю, што ў горадзе бачылі, з выняткам звярынца, у якім заўважыў вельмі нервовага і нешчаслівага белага мядзведзя (на Афрыканскім кантыненце!). Зразумела, падзівіліся на піраміды і сфінкса, і нават за невялікую плату я праехаўся галопам на арабскім кані — нейкіх паўтары сотні метраў.

У канцы студзеня нашы шафёры выехалі на запоўненых рыштункам аўтамабілях у Порт-Саід — грузіцца на караблі. Рэшта нас яшчэ пару тыдняў мусілі чакаць сваёй чаргі.

Аж нарэшце нейкага дня пасля снедання загадалі нам пакаваць свае рэчы ў плечакі і дарожныя мяшкі і быць напагатове, бо павінны прыехаць транспартныя аўтамабілі. Нас маюць завезці у Порт-Саід, дзе пасадзяць на караблі, якімі перавязуць цераз мора да вызначаных месцаў у Паўднёвай Італіі.

І сапраўды, аб адзінаццатай гадзіне з'явіліся тры грузавікі з транспартнага падраздзялення. І кіроўцамі тых грузавікоў былі не хто-небудзь, а нашыя малайцаватыя самаахвотніцы. Іх вывучылі на шафёраў: два поўныя транспартныя падраздзяленні. Не толькі ўмелі весці аўтамабіль, але часам маглі і нешта адрамантаваць, калі такая патрэба ўзнікала, або замяніць апоны.

Яшчэ таго самага дня прывезлі нас у Порт-Саід, ноччу ў цемры пагрузілі і на досвітку цэлы канвой транспартных караблёў выплыў з порта. Не памятаю, колькі іх было, напэўна каля дваццаці.

Так мы і развіталіся з зямлёю фараонаў ды ўзялі кірунак на захад, да берага Паўднёвай Італіі. А здарылася гэта ў лютым 1944 года. Па дарозе напаткала нас вялікая бура.

Мінула год і пяць месяцаў, як мы пакінулі «гостеприимную, передовую страну мира». Шмат чаго ў нашым жыцці змянілася і зменіцца яшчэ больш, калі апынемся насупраць немцаў на італійскім фронце.

Але ўрэшце для гэтага нас узброілі і натрэнінгавалі. Розніца ва ўзросце, нацыянальнасці, веры і адукацыі амаль знікла. Зжыліся мы: на фронце будзем адзін ад аднаго залежнымі ды будзем адзін аднаму памочнікамі.

У нашым плютоне акрамя палякаў быў адзін украінец і шэсць беларусаў — тры яўныя і тры каталікі, якія сваё паходжанне ўтойвалі. Мне гэта асабіста не перашкаджала, бо сам лічыў сябе грамадзянінам Польшчы і беларусам з паходжання. Верагодна, мой светапогляд мог быць іншым, але савецкі камунізм яго знявечыў. Так сталася не толькі са мною, але і з іншымі людзьмі іншых нацыянальнасцяў, якія сутыкнуліся з савецкай рэчаіснасцю, хлуслівай прапагандай і тэрорам.

Перад выездам з Егіпта наш камандзір плютона паручнік Расціслаў Кэнпіньскі прапанаваў нам зрабіць складку і купіць добрае радыё на акумулятарах, бо не заўсёды на фронце будзе электрычнасць. Здаецца, што кожны з нас даў па адным егіпецкім фунце, і з тымі грашыма паехалі з падхарунжым Кжыскім у Каір купіць радыё. Купілі нечспадзявана дасканалага «Філіпса» італійскай вытворчасці.

Рашэнне купіць прыймач было выдатным. Маглі ў тым радыё лавіць амаль цэлы свет, асабліва на кароткіх хвалях. Перадачы БіБіСі на польскай мове, таксама як і «Варшаву, Кракаў, Познань, Вільню і Баранавічы на хвалях Лондана». З акумулятарамі не мелі клопату, бо дзве скрыні па дванаццаць вольт кожная былі часткай нашага баявога рыштунку. «Філіпс» служыў нам навінамі і музыкай і на фронце, і па вайне. Гэтае радыё заехала з намі нават у Вялікую Брытанію ў верасні 1946 года.

Нарэшце, падрыхтаваныя і з запалам, набліжаліся мы да берагоў Італіі, каб нарэшце дарвацца да немцаў і «злоіць ім скуру».

## ІТАЛІЯ

Дазволю сабе вярнуцца яшчэ да марскога падарожжа з Порт-Саіда ў Егіпце да Таранта ў Італіі.

Марскі канвой налічваў каля дваццаці транспартных караблёў, тры контртарпедаўцы і некалькі падводных лодак нашай аховы. На кожным транспартніку быў замацаваны супрацьсамалётны паветраны шар на стальным тросе даўжынёй пяцьдзясят метраў. Адлегласць паміж караблямі 75–100 метраў. Контртарпедаўцы, як ганчакі, кружыліся вакол нас для абароны. Камандаваў канвоем польскі контртарпедавец SM «Ślązak». Перадаваў нам, жаўнерам, праз рэпрадуктары польскія маршы і розныя народныя мелодыі.

Па дарозе ў Італію напаткаў нас моцны шторм, які трываў двое сутак. Амаль усе жаўнеры пакутавалі на марскую хваробу. Хоць нічога, лічы, не елі, усё адно нудзіла страшэнна, і выварочвалася ўсё, што змаглі глынуць.

Нарэшце на трэці дзень даплылі да порта Таранта, дзе нас высадзілі. Там ужо чакалі нашы грузавікі з шафёрамі, высланыя на тыдзень раней іншым канвоем.

Размясцілі наш 10-ы батальён сапёраў у маёнтку нейкага графа ці барона, што называўся Санта-Тарэза. (У Італіі не менш як кожнае чацвёртае паселішча мае назоў святога або святой.) Неяк там атабарыліся і чакалі новых загадаў. Між тым пачалі мы знаёміцца з мясцовым насельніцтвам, што было нялёгкай справай, бо не ведалі італійскай мовы. Аднак неўзабаве палявая друкарня 2-га Корпуса выдала малы кішэнны польска-італійскі слоўнічак, які дапамагаў нам знайсці нейкае слова, скласці пытанне ці адказ. Італійская мова для нас, славянаў, лёгкая для вымаўлення. Нават калі не разумееш слова, аднак лёгка яго паўтарыць. Нашы хлопцы, пасля больш чым паўтарагадовага знаходжання ў мусульманскіх краях, дзе нельга было мець зносінаў з мясцовымі людзьмі, нарэшце ў Італіі маглі заспакоіць цікаўнасць.

Да нашага месца дыслакацыі пачалі падыходзіць дзяўчаты і пытацца, ці не маем даць ім што памыць або зацыраваць. Зразумела, былі і такія, што прапаноўвалі іншыя «паслугі». Камандаванне аднак праявіла пільнасць і адным з першых загадаў быў прымусовы прагляд фільмаў пра заразныя хваробы, што астудзіла нашы хаценні.

Жаданне ўбачыць край і сустрэцца з людзьмі было вялікае, таму ўдвух або ўтрох пачалі мы знаёміцца з найбліжэйшай мясцовасцю. Адзін з нашых хлопцаў прынёс навіну, што ў аднаго гаспадара за два ці тры метры ад уваходных дзвярэй дома тырчыць, уклініўшыся, бомба. Хтосьці сказаў пра гэта нашаму камандзіру Слаўку Кэнпіньскаму. А наш жа плютон сапёраў — трыццаць два жаўнеры — спецыяльна быў навучаны абясшкоджваць бомбы. Дык, натуральна, гэта было нашым заданнем. Тут жа паручнік Кэнпіньскі ўзяў з сабой чатырох сапёраў і пайшоў праверыць. У гэтай групе быў і я. Як выявілася, там была 50-кілаграмовая ангельская бомба, скінутая з самалёта на нізкім палёце. Млынок ад запальніка ў бомбе не паспеў выкруціцца і не вызваліў іголку, таму бомба не выбухнула. Яна толькі ўваткнулася ў вапняковую скалу на трэць даўжыні і палохала беднага італійца. Вядома, чалавек баяўся. Жонку і дзяцей ён адправіў да цешчы, а сам круціўся каля хаты, бо меў нейкую хатнюю жывёлу, здаецца асла, карову і некалькі авечак, якіх трэба было даглядаць. У хату, асцерагаючыся, лазіў праз бакавое акно.

Высветліўшы, што бомба фактычна не ўяўляе небяспекі, паручнік загадаў раскапаць трохі грунт навокал яе. Мы прывязалі трос за хвост і, на ўсякі выпадак, з адлегласці нейкіх дваццаці пяці метраў, з-за каменнага муру, тузануўшы, выцягнулі бомбу. Завалаклі яе далей у аліўкавы сад і гучна падарвалі, не прычыніўшы нікому ніякай шкоды. Удзячны гаспадар не мог аддзякаваць, нешта ўсё гаварыў, гаварыў, якія мы «boni e brave, e molte brave». Пазней, як спазналі трохі мову, даведаліся, што гэта значыць «вельмі добрыя і мужныя». Абдарыў нас дзвюма бутлямі хатняга віна і кошыкам мандарынаў.

Гэта была наша першая абясшкоджаная бомба. Пазней за час знаходжання ў Італіі плютон абясшкодзіў і знішчыў шэсцьдзесят пяць тон нямецкіх, ангельскіх і амерыканскіх бомбаў. Амерыканскія і ангельскія лётчыкі бамбілі нямецкія пазіцыі, і таксама не ўсе бомбы разрываліся. Але немцы звычайна іх не чапалі, бо часцей за ўсё адступалі. Войскі альянтаў вызвалялі новыя тэрыторыі, на якіх знаходзіліся тыя бомбы. Яны маглі быць небяспечнымі і для нашых войскаў, і для мірных жыхароў, таму наш плютон і займаўся іх ліквідацыяй.

У 2-м Корпусе быў толькі адзін такі плютон. Брытанцы мелі цэлы батальён, гэта значыць тры плютоны. Не ведаю, ці былі ў амерыканцаў такія спецыялісты, бо ніколі іх не сустракалі.

Тым часам мы чакалі далейшых распараджэнняў, і праз нейкія восем-дзевяць дзён атрымалі загад размінаваць два кіламетры міннага поля, на якім было больш за пяць тысячаў нямецкіх процітанкавых мінаў. Тыдні два спатрэбілася нам, каб справіцца з гэтым заданнем. Міны ляжалі ў падмоклым полі шэсць ці сем месяцаў, і шмат якія з іх паржавелі. Але гэта не значыць, што былі яны бяспечныя. Нам удалося абясшкодзіць іх без аніякіх здарэнняў.

Падчас знаходжання ў Святой Тарэзе прызначылі мяне памочнікам кухара, і я павінен быў уставаць на гадзіну раней, каб гатаваць сняданак. Таму калі-нікалі па абедзе, памыўшы каструлі, клаўся я на сваім палявым ложку гадзінку падрамаць. Аднаго разу прачнуўся ад таго, што мой ложак моцна скалануўся. Думаю, на якое ліха нехта мяне пабудзіў і навошта? Выявілася, гэта быў не хто іншы, як вулкан Везувій, які быў ад нас на адлегласці прыблізна сто пяцьдзясят кіламетраў. Ён час ад часу «чхаў або кашляў», выкідваў трохі пары і попелу. А гэтым разам крыху болей, бо праз два тыдні мы каля яго праязджалі і бачылі: мясцовасць была засыпаная вулканічным попелам, які яшчэ не змылі дажджы. Плютон наш перабіраўся на новае месца, і ехалі мы менавіта каля гэтага вулкана.

Наш камандзір наважыўся затрымацца на пару гадзін у адкапаным старажытным горадзе Пампеі, каб пры выпадку наведаць гэтыя раскопкі. Нягледзячы на ваенны час, выпадковая экскурсія была надзвычай цікавая.

Ужо добра папоўдні, праехаўшы праз Неапаль, прыбылі ў горад Ізернія ў правінцыі Кампабаса — на новае месца дыслакацыі, за нейкія трыццаць кіламетраў ад сумна вядомага цяпер Монтэ-Касіна. У Ізерніі ўжо гатовае было для нас «pole do popisu» («магчымасць праявіць сябе»). Мы абясшкодзілі тут каля дзесяці нямецкіх бомбаў, скінутых на чыгуначную станцыю і масты. Некаторыя з іх не ўзарваліся, і мы павінны былі іх знішчыць. Справіліся з заданнем без ахвяраў. Галоўная ўмова пры знішчэнні бомбаў — падрываць іх, калі гэта магчыма, там, дзе яны знаходзяцца. Аднак калі бомба трапілася ў стратэгічным месцы, дзесьці пры мосце, будынку, чыгуначных станцыйных або партовых збудаваннях, то даводзілася рабіць рызыкоўныя складаныя захады, каб яе абясшкодзіць.

У гэты час 2-і Корпус рыхтаваўся да наступлення на Монтэ-Касіна. Наш плютон непасрэднага ўдзелу ў наступленні не браў, але было іншае небяспечнае заданне. Немцы выявілі галоўную кватэру камандавання Корпуса ў аліўкавым гаі і спрабавалі разбамбіць з самалёта. Скінулі восем бомбаў, аднак у цэль не трапілі. З нейкіх прычын яны нават не выбухнулі. Далажылі нашаму камандаванню і паслалі больш за дзясятак хлопцаў на чале з нашым камандзірам высветліць, чаму яны не ўзарваліся. Магчыма, у бомбах пастаўлены механізм з зацяжным дзеяннем, і яны могуць выбухнуць праз некалькі гадзін. Часцей за ўсё гэта выявіць няпроста, бо кожная скінутая бомба зарываецца ў зямлю ад аднаго да трох метраў, залежна ад грунту. Тады трэба капаць шахту, каб да яе дабрацца. Часта сценкі абсыпаюцца, і каб яе дастаць, даводзіцца шахту ўмацоўваць шалёўкай. Бывае, што выступае вада, тады трэба яе выпампоўваць. Пакуль

да той «д'ябліцы» чалавек даступіцца, мінае не адна гадзіна, і ўвесь гэты час трэба быць асцярожным, каб не памыліцца.

Усе бомбы ў гаі мы шчасліва абясшкодзілі.

Згадаю пра камандзіра нашага плютона паручніка, а пазней капітана Расціслава Кэнпіньскага. Ён служыў кадравым афіцэрам гэтак званых чыгуначных сапёраў пад Варшавай у Легіянове. Падчас змагання з немцамі ў верасні 1939 года апынуўся ў савецкім палоне. Прадчуваючы найгоршае, зняў з сябе афіцэрскую форму, адзеў жаўнерскую з забітага і трапіў у няволю як шараговы. Змяніў таксама прозвішча і заявіў, што прафесія яго тэхнік-дантыст. Ён шмат што ведаў з гэтай прафесіі, бо ягоная жонка — дантыст. Такім спосабам утаіў ад камуністаў сваё паходжанне і чын, а таму і пазбег лёсу афіцэраў, расстраляных у Катыні.

Ягоны бацька за царом Мікалаем быў галоўным упраўляючым чыгуначных шляхоў па Віленскай губерні. Маці была з Украіны, і дома размаўлялі часцей па-расейску, чым па-польску.

Ён часта любіў са мной пагаварыць па-расейску «наедине».

Пасля пераможнай, але крывавай бітвы пад Монтэ-Касіна Польскаму корпусу далі пару дзён на адпачынак. Нас перавялі на новую пазіцыю на беразе Адрыятычнага мора ў правінцыі Аскалі-Пічэна. Мы занялі нейкія 35–40 кіламетраў узбярэжжа. Гэтым разам мы павінны былі наступаць уздоўж адрыятычнага ўзбярэжжа кірункам на партовы горад Анкона.

Наш камандзір плютона, ужо вылучаны на званне капітана, загадзя выслаў адзін аўтамабіль і некалькіх сапёраў па-над Адрыятыку, каб заняць і падрыхтаваць новае месца дыслакацыі. Праз некалькі дзён прыехала рэшта нашага «бомбавага плютона», і адразу адбылося вельмі сумнае для нас здарэнне. Дык вось, на новым месцы быў налёт нямецкага самалёта, які скінуў некалькі бомбаў на новую нашу пазіцыю ў мясцовасці Порта-Рыканаці, курортна-пляжным пасёлку.

Самое бамбаванне вялікай шкоды не ўчыніла. Усе прысутныя пахаваліся як маглі і пасля налёту павылазілі з схованак. Але ніхто не прадбачыў, што адна з бомбаў мела гадзіннікавы механізм і неспадзявана выбухнула праз нейкія паўгадзіны. Двух нашых таварышаў, што стаялі каля адчыненых дзвярэй, забіла асколкамі. Гэта быў адзіны ў нашым плютоне трагічны выпадак цягам Італьянскай кампаніі.

І сумна, і прыкра, што двое маладых хлопцаў загінулі пры такіх неспадзяваных абставінах. Але ж гэта вайна…

Недалёка ад Порта-Рыканаці знаходзіцца мястэчка Ларэта, дзе збудавана базіліка ў імя Маці Божай Ларэтанскай. Паданне сведчыць, што дамок, у якім пасля смерці Хрыста пасяліліся Маці Божая і апостал Ян, быў цудоўным чынам перанесены анёламі ў Ларэта дзесьці ў сёмым-восьмым стагоддзі.

Дык вось, па-над тым невялікім, шэсць на шэсць метраў, дамком, што застаўся ўсярэдзіне, пабудавана святыня. Яна мае дзесьці каля дваццаці выкладзеных мазаікай алтароў, прысвечаных усім каталіцкім краінам. Ёсць там і «польскі алтар», на якім паказаны дзве гістарычныя сцэны: кароль Рэчы Паспалітай Ян Сабескі пад Венай і Юзаф Пілсудскі пад Варшавай.

Падчас налёту нямецкіх самалётаў на польскія вайсковыя часткі, што знаходзіліся каля Ларэта, адна з запальных бомбаў трапіла ў базіліку, і ўзнік пажар. На шчасце, 10-ы батальён сапёраў, куды ўваходзіў і наш плютон, патушыў пажар, і святыня не дужа пацярпела. Біскуп асабіста падзякаваў нашаму палкоўніку Ежы Сухоцкаму за тушэнне пажару і выратаванне базілікі.

Пасля некалькіх тыдняў перадыху 2-і Корпус пачаў баявыя дзеянні супраць немцаў. За мэту гэтага новага наступу паставілі захоп порта Анкона. Там меліся аднавіць партовыя докі ды прымаць караблі з амуніцыяй для войскаў альянтаў.

Той парою я грунтоўна зацікавіўся італійскай мовай. Удалося набыць адпаведны слоўнік, і я пачаў паўтараць пачутыя словы ды шукаць іх значэнне ў слоўніку. А пасля, калі ўжо запомніў некалькі словаў, пачаў спрабаваць будаваць сказы. Дапамагала і тое, што італійцы — увогуле гаваркі народ, і ў часе размовы дапамагаюць сабе рукамі ды мімікай. Вядома, хтосьці павінен будзе растлумачыць тое-сёе з граматыкі. Але на тое будзе яшчэ пара, бо падчас ваенных дзеянняў вучыцца немагчыма.

Тым часам ліпнёвае сонца і спякота пачалі нам давацца ў знакі. Добра, што мора было блізка і можна было час ад часу астудзіцца купаннем. Нашы хлопцы, забяспечаныя добрай зброяй, амуніцыяй і палівам, паспяхова атакавалі на фронце ды вызвалялі ад немцаў усё новыя і новыя гарады і мястэчкі.

Дакладна не памятаю даты, але недзе ў канцы ліпеня ці на пачатку жніўня 3-я Карпацкая дывізія вызваліла Анкону, і адразу ж пачаўся рамонт порта. Наш плютон узяўся ачышчаць наваколле ад бомбаў, якія не выбухнулі. Брытанскія сапёры пачалі рамантаваць трубаправод на паліва. Дзеля большай зручнасці наш бомбавы плютон перавялі ў горад Анкону. Туды таксама пераехаў адзін з палявых шпіталяў, а было іх у Корпусе аж тры, не лічачы санітарных пунктаў.

Пасля Анконы 2-і Польскі корпус вызваліў наступныя гарады на ўзбярэжжы Адрыятыкі: Чыаравале, Сенігалію, Мандольфа, Фана, Пезара — ды закончыў гэтыя франтавыя атакі ў мясцовасці Католіка, надалёка ад незалежнай міні-рэспублікі Сан-Марына. Нарэшце Польскаму корпусу далі больш працяглы адпачынак, каб вылечыць параненых, годна пахаваць палеглых, бо адразу хавалі абы-дзе. Пачалі рыхтаваць новыя могілкі менавіта ў Ларэта.

Заставалася толькі адна пільная справа: папоўніць вайсковыя часткі і аддзелы, што мелі страты забітымі і цяжка параненымі. Праблема была ў тым, што ў нас не было адкуль браць рэкрутаў, таму што Польшча была яшчэ пад нямецкай акупацыяй. Але да чаго не дадумаюцца людзі ў штабе? Яны хутка зарыентаваліся, што сярод нямецкіх ваеннапалонных шмат палякаў, якіх пад прымусам забралі ў вермахт з такіх земляў, як Сілезія (Шлёнск), Велікапольшча і Памор’е.

Нашы афіцэры паехалі ў лагеры нямецкіх ваеннапалонных, там сабралі вязняў і перад усімі прамовілі па-польску з заклікам, калі хто з вязняў адчувае сябе польскім патрыётам, то самахоць, пэўна ж, можа ўступіць у Польскае ўзброенае войска на Захадзе. І адразу ж выявілася шмат ахвотных. Больш, чым спадзяваліся.

Наш 10-ы плютон абясшкоджвання бомбаў таксама павялічыўся да сарака пяці чалавек, улучна з новымі рэкрутамі: некалькі сілезскіх «перонаў», велікапольскіх познанскіх «пызаў» (клёцак) і паморскіх кашубаў. Блізка пазнаёміўшыся з імі, выявілася, што гэта добрыя хлопцы, і мы ад іх мелі шмат пацехі, асабліва ад «слензакоў», бо яны гаварылі з намі па-свойму, на сілезскай гаворцы. Вось штосьці падобнае: «Куды ідзеш, пэроне? — На хаўтуры, пэроне! — А хто памёр, пэроне? — Стары пэрун, пэроне!».

Усе сілезцы былі апантаныя гульцы ў футбол, а таму ганялі мяч, дзе ўдавалася, і звычайна толькі ў адны вароты.

Пасля вызвалення Анконы ды іншых узбярэжных гарадоў нашаму Корпусу далі адпачыць па-над Адрыятычным морам амаль да восені 1944 года. У гэтым часе пачалі вучыць ахвотных на аўтамабільных шафёраў, якіх у нашых матарызаваных палках не хапала. Наш плютон хоць і на адпачынку, аднак усё адно ачышчаў тэрыторыю ад неразарваных бомбаў. Гэтым разам часцей траплялiся бомбы альянтаў, чым нямецкія. Да нашага плютона быў прымацаваны брытанскі сяржант Каралеўскіх паветраных сілаў, спецыяліст па абясшкоджванні бомбаў. Ён вёў улік усіх абясшкоджаных нашым плютонам бомбаў і высылаў дакументацыю ў штаб брытанскай 8-й Арміі, часткай якой і з’яўляўся 2-і Польскі корпус.

Недзе ў кастрычніку 2-му Корпусу даверылі ўчастак фронту на поўнач ад горада Арэца ва Усходняй Тасканіі — заданне вельмі цяжкое, бо мясцовасць гарыстая, а дарогі дрэнныя. Адсюль мы павінны былі наступаць кірункам на горны гарадок Сан-Сафія і далей на Прэдапія, дарэчы, месца нараджэння Мусаліні, і аж да прамысловага горада Фарлі, які знаходзіўся на галоўнай трасе з Рыміні ў Мілан.

Нягледзячы на складаныя ўмовы позняй восені — холад, дажджы са снегам, гразь да паловы колаў, бездараж у гарах, войскі нашага Корпуса на пачатку снежня захапіла горад Фарлі. Далейшае прасоўванне было прыпыненае, каб трохі адпачыць і падрыхтавацца да веснавога наступу ў даліне ракі По і на горад Балонья.

Наш плютон пасля кароткага побыту ў горадзе Арэцца і курортным мястэчку Баньня дзі Раманья затрымаўся на зімовых кватэрах ў мясцовасці Сан-Марына, недалёка ад горада Прэдапія. Нас рассялілі недалёка ад касцёла, у плябаніі ды гаспадарчых будынках. Ксяндза не было, і для ўсіх нас хапіла месца, таксама і для тэхнікі. Гэта быў найдаўжэйшы зімовы пастой, які я памятаю, цягнуўся амаль тры месяцы. Набліжалася свята Божага Нараджэння і Новы 1945-ы год. Ваколіца была сельскагаспадарчая. Тут жылі патроны, уласнікі зямлі, і «кантадзіны», сяляне, якія гэтую зямлю арандавалі ды пяцьдзясят адсоткаў ураджаю аддавалі гаспадару. У той час сялянаў, якія мелі ўласную зямлю, было ў Італіі вельмі мала.

Хоць нам хапала вайсковых харчоў, аднак стравы гатаваліся аднастайныя, пераважалі кансервы, якія ўжо прыеліся. То тут некаторыя з нас вырашылі самастойна ўзбагаціць і ўразнастаіць святочны стол, але чымсьці такім, пра што нашы сілезскія калегі гаварылі: «цосік ад пежа» (штосьці з-пад пер'я), — смажанай курацінай. З гэтага часу пачалі мы ўдвох і ўтрох «лазіць» па навакольных вёсках, каб купіць у сялянаў курыцу або пеўня. Час быў нялёгкі для ўсіх, і для італійскіх сялянаў таксама. Не ўсім удалося штосьці купіць, але мы наладзілі кантакты з мясцовымі жыхарамі. Мне асабіста таксама ўдалося пазнаёміцца і запрыязніцца з адной сям'ёй. Дапамагло тое, што я сялянскі сын. Нам было што расказаць пра сабе і пра сялянскую працу — як у іх, так і ў нас.

Маё веданне італійскай мовы ўсё яшчэ было недастатковым. Але пэўны лексічны запас я ўжо меў, і з дапамогай слоўніка мне сяк-так удавалася паразумецца. Да таго ж вельмі памагаў кілішак хатняга вінаграднага віна, а таксама пачак тытуню, прынесены для люлькі гаспадара. Сапраўднай прынадай для наведвання гэтай сям'і была дачка гаспадара, даволі сімпатычная і на год за мяне малодшая дзяўчына па імені Ліліяна. У гэтай сям'і было яшчэ двое малодшых братоў. Бацька і маці — Карла і Жазефіна Вальморы — былі сярэдняга веку. Яны арандавалі з дваццаць гектараў зямлі на тых самых умовах: палова ўраджаю патрону. І што мяне вельмі здзівіла, цяглавая сілай была пара валоў, але, з увагі на гарыстую мясцовасць, можна сказаць, што валы, відаць, лепш за коней прыдаваліся для апрацоўкі зямлі.

Сям'я маіх новых знаёмых-італійцаў запрасіла мяне на вячэру з нагоды свята Божага Нараджэння. У мяне быў час, і я паспеў купіць сціплыя гасцінцы: пачак тытуню для бацькі, кавалак мыла для гаспадыні і карабок шакаладных цукерак для дзяцей — адзін на дваіх. Удалося мне выкупіць некалькі порцый рому ад сваіх калег жаўнераў, якія не пілі. Гэтага напою набралася толькі чвэртка літра, але хапіла, каб закруціла ў галаве сеньёра Карла і ў мяне. Па нейкім часе мы пасябравалі з Ліліянай, але ў той ваеннай і няпэўнай сітуацыі не хацеў я звязвацца «сэрцам». Як умеў, так і патлумачыў дзяўчыне: «Калі пасля заканчэння вайны ўсё пойдзе добра, то ведаю, дзе жыве, і заўсёды буду мець магчымасць вярнуцца». Да самага выезду ў Англію мы падтрымлівалі знаёмства праз перапіску. А ў той час я мог хоць зрэдку наведваць сваіх знаёмых, і гэта памагала лепш авалодаць італійскай мовай.

У жыцці чалавека бываюць такія здарэнні або эпізоды, якія западаюць у памяць і назаўсёды там застаюцца.

Такім здарэннем у маім жыцці быў праваслаўны Вялікдзень, які прыпаў на апошнія дні сакавіка 1945 года. Быў я тады дваццацідвухгадовым жаўнерам 2-га Польскага корпуса ў Італіі.

За тыдзень перад тым 2-гі Корпус пасля досыць цяжкіх баёў вызваліў горад Балонью. І пасля гэтага франтавыя баі практычна скончыліся. Немцы не маглі ўжо сабрацца ў кучу, здаваліся ў палон, а іншыя ўцякалі на поўнач — да аўстрыйскай і швейцарскай межаў.

2-гі Корпус нарэшце мог даць жаўнерам адпачынак, вельмі заслужаны.

Якраз надыходзіў праваслаўны Вялікдзень. Нехта ў штабе выдаў загад, каб усіх жаўнераў, хто захоча, сабраць каля горада Імоля на ўрачыстую велікодную Божую службу.

У велікодную нядзелю бальшыня праваслаўных жаўнераў сабралася на вызначаным месцы каля падрыхтаванага палявога алтара. Восемдзесят, а можа, і болей адсоткаў праваслаўных жаўнераў 2-га Корпуса былі беларусамі. Рэшта — браты ўкраінцы, трохі нават расейцаў.

Сабраліся праваслаўныя з усіх вайсковых падраздзяленняў. Можна было бачыць жаўнераў, якія на левых рукавах мелі шаўроны 3-й і 5-й дывізій Львоўскай брыгады панцэрнай, — усе ў чорных барэтах. Рэшта былі ў зялёных: з запасных палкоў і батальёнаў пяхоты, сапёраў, сувязі і з абслугі шпітальнай, транспартнай і гаспадарчай. Разам — вялікі гурт. З іх можна было стварыць асобны праваслаўны полк.

Вайскоўцы былі ад шараговых і ўсіх рангаў падафіцэраў і афіцэраў — да палкоўнікаў уключна. Усе былі адзначаныя рознымі ордэнамі, як «Krzyż Zasługi», «Krzyż Walecznych» («Крыж мужных») і, нярэдка, найвышэйшымі крыжамі «Virtuti Militari».

Перад Божай службай, якую вялі тры праваслаўныя капеланы, найстаршы з іх звярнуўся да жаўнераў, каб тыя, хто калі-небудзь спяваў у царкоўным хоры, падышлі да алтара і памаглі дзячку ў спевах. Падышлі, бадай, з дваццаць вайскоўцаў.

У малебне ўзяў удзел аркестр 2-га Корпуса, выканаў некалькі царкоўных гімнаў. У гэтым аркестры граў на басовай трубе валожынец Уладзімір Карабан, сям'я якога жыла на Касцельнай вуліцы, а перад іх хатай была студня, з якой усе суседзі бралі ваду.

Выпадкова тады я спаткаў яшчэ пару валожынцаў: Мікалая Белановіча, таксама з Касцельнай вуліцы, і свайго дзядзьку Змітрука Куніцкага з вёскі Бурмакі. Пэўна, былі і іншыя валожынцы, а было нас у 2-м Корпусе каля трыццаці чалавек. Але ў тым вялікім натоўпе жаўнераў цяжка было іх убачыць.

Малебен быў адслужаны вельмі ўрачыста і годна. Мясцовыя жыхары і жаўнеры-каталікі — некалькі дзясяткаў людзей — з вялікай цікавасцю прыглядаліся да нашай праваслаўнай літургіі…

Праз некалькі тыдняў Другая сусветная вайна закончылася поўным разгромам немцаў. Неўзабаве потым пачалася гэтак званая халодная вайна, каторая замкнула нам, беларусам, ды іншым таксама, дзверы да вяртання на Бацькаўшчыну.

Мы зноў жа атабарыліся па-над Адрыятыкай паміж гарадамі Анкона і Пезара ды паўтара года займаліся гэтак званай службай навядзення «парадку». Некаторыя нашы жаўнеры нават паступілі ў італійскія вышэйшыя навучальныя ўстановы, а некаторыя захацелі атрымаць атэстат сталасці. Рэшта нашых жаўнераў наведвалі навакольныя гарады, купаліся ў моры і чакалі, што цяпер неспагадлівы лёс і палітыка альянтаў прынясуць нам.

У верасні 1946 года 2-і Польскі корпус перавялі ў Вялікабрытанію.

Арэвідэрчы, Італія!

## АНГЛІЯ

Перш чым пісаць пра выезд, хачу нагадаць пра адну справу, што адбылася ў сакавіку ці красавіку 1946 года.

Дык вось, назбіралася каля 700 жаўнераў 2-га Корпуса, якія заявілі пра сваё жаданне вярнуцца ў Польшчу. Зразумела, што камандаванне на чале з генералам Андэрсам не мела аніякага намеру, каб забараніць ім гэта зрабіць. Хочуць вярнуцца ў родны край да сваіх сем'яў — хай вяртаюцца, нават са зброяй. Вядома, не з гарматамі ды танкамі, але толькі з асабістымі карабінамі. Мы мелі пераважна карабіны МК-4 канадскай вытворчасці.

Быў падрыхтаваны чыгуначны транспарт, наколькі я памятаю, недалёка ад горада Сенігалія па-над Адрыятыкай. Цягнік паехаў праз Паўночную Італію, Аўстрыю і Чэхаславакію ды пэўнага дня даехаў да чэшска-польскай мяжы. На граніцы жаўнераў прывіталі з вялікай помпай. А як жа! Духавы аркестр, дзяўчаты ў нацыянальных строях, з кветкамі і пацалункамі.

Вайскоўцаў часова пасялілі ў нейкім там лагеры. На другі дзень загадалі аддаць зброю, маўляў, у Польшчы ўсё адно няма адпаведных патронаў. А на трэці дзень вакол лагера паставілі ахову, і пачаліся допыты ды нават арышты.

І як жа я і мае таварышы, што засталіся ў Італіі, пра гэта даведаліся? Дык вось, з дваццаць, а можа, нават некалькі дзясяткаў жаўнераў падчас той неразбярыхі ўцяклі і пасля цяжкіх выпрабаванняў вярнуліся ў Італію. Яны прыйшлі ў штаб Корпуса і пра ўсё расказалі. Такім чынам яны збілі ахвоту тым, хто яшчэ хацеў вяртацца.

Мы, жаўнеры 2-га Корпуса, карысталіся заслужаным адпачынкам і, размешчаныя каля Адрыятыкі, купаліся ў моры. Былі таксама наладжаныя экскурсіі ў Рым, Фларэнцыю, Венецыю ды іншыя гарады. Некаторым дазволілі паступіць у італійскія вышэйшыя навучальныя ўстановы. Некалькі чалавек ажаніліся з мясцовымі дзяўчатамі і намерваліся застацца ў Італіі. Вядома, усе былі прыгнечаныя тым, што ніхто не ведаў, якая нас чакае будучыня і дзе. Тым часам мы займаліся кансервацыяй абсталявання, прыладаў і зброі, купаліся ў моры, гулялі ў валейбол, хадзілі ў кіно і на танцавальныя вечарыны па суботах. Клопат быў толькі ў тым, што мала хто з нас, асабліва наймалодшых, умеў танцаваць. Але паступова, наступаючы партнёркам на пальцы, нарэшце навучыліся.

Надышоў жнівень. Усё часцей пачалі даходзіць чуткі, што мы маем выехаць у Вялікабрытанію. Калі нарэшце загадалі ў прызначаныя месцы звезці цяжкую зброю: гарматы, танкі і машыны, мы паверылі, што гэта сапраўды скора адбудзецца.

Большая частка нашага войска паехала чыгункай з горада Вероны праз перавал Брэнэр, праз Аўстрыю, Паўднёва-Заходнюю Нямеччыну, праз Страсбург, Францыю — аж у горад Кале па-над Ла-Маншам. Гэтае падарожжа ў верасні 1946 года доўжылася трое сутак. Спецыяльныя роды войскаў, што мелі шмат прыладаў ды іншай маёмасці, такой як шпіталі, склады, выправіліся ў Англію з Неапаля па моры праз праліў Гібралтар. Яшчэ ў Вероне мы атрымалі сухі паёк, але па дарозе ў нас былі два паўтарагадзінныя прыпынкі на станцыях — адзін у Нямеччыне, а другі — у Францыі, дзе кожны з нас атрымаў шчодры абед з трох страваў і кухаль піва — у Нямеччыне, кілішак віна — у Францыі. На абодвух прыпынках нам нават ігралі невялікія аркестры.

Па дарозе мы бачылі страшныя разбурэнні, асабліва ў Нямеччыне. Гледзячы на ўсё гэта, чалавек думаў: «А добра вам, чортавым швабам! Захацелася вам у сваім тысячагадовым Рэйху з вашым фанатыкам фюрэрам — то майце цяпер руіны, спазнайце і вы бяду». Фанабэрыстыя калісьці немцы хадзілі з нізка апушчанымі насамі і вачыма.

У горадзе Кале мы пераселі на невялікія параходы, што былі спецыяльна прыстасаваныя для перавозу войска, і праз нейкіх сорак хвілін убачылі белыя скалы Дуўра. На чыгуначным вакзале ў Дуўры нас спаткалі, а дакладней, чакалі нас ангельскія пані

з гарбатай і булачкамі, ветлівымі ўсмешкамі, вітаючы нас словамі «Velcom to England» («Вітаем вас у Англіі»). Брытанская паліцыя (наколькі я памятаю, кожны паліцыянт быў сама меней ростам 185 сантыметраў) выглядала велічна ў сваіх цёмна-сініх мундзірах і высокіх галаўных уборах, што больш падобныя да каскі, чым да шапкі. Крыху пазней мы пераканаліся, што яны былі таксама вельмі ветлівыя і, што найбольш цікава для нас, не насілі асабістай зброі, а толькі схаваную ў калашыне каўчуковую палку.

Мы паселі ў вагоны, вядома пасажырскія, а не таварныя, да якіх пару гадоў таму былі прызвычаіліся, і рушылі ў паўночна-заходнім кірунку. Едучы цягніком першы раз па Англіі, мы ўзіраліся, як выглядаюць большыя і меншыя паселішчы. Здаліся аднастайнымі. Уздоўж вуліц цягнуліся доўгія двухпавярховыя жылыя блокі. Карацей кажучы, кватэры мелі адну супольную сцяну, вокны выходзілі фронтам на вуліцу, а з тылу — на маленькі надворак, дзе была пабудаваная паветка на паліва: каменны вугаль або кокс. Як сын селяніна, я звяртаў увагу на палі і лугі, дзе пасвіліся шматлікія авечкі, каровы, а таксама дзе-нідзе прыгожыя коні. Я заўважыў, што ўсе гэтыя палі былі падзеленыя на большыя і меншыя асобныя палеткі, адасобленыя адзін ад аднаго падстрыжанымі кустамі — нібы плотам, што быў шырынёю 0,8–1 метр ды паўтара метра ў вышыню. У адпаведным месцы былі пастаўлены вароты, або звычайныя пераходы з аднаго палетка на другі. Як мы пазней даведаліся, тыя зялёныя платы мелі падвойную функцыю. Яны служылі як агароджа. Пасля таго як на адной дзялцы была з'едзена трава, авечак ці кароў пераганялі на другую, а той давалі час, каб зноў вырасла трава. Жывёла звычайна пасвіцца цягам усяго года, таму што зімы амаль бясснежныя, а зялёныя платы засланяюць скаціну ад халодных вятроў. Апрача таго, гэтыя зялёныя платы таксама з'яўляюцца адпаведным месцам для гнездавання шматлікіх птушак, а таксама на прытулак дзікім трусам, вожыкам і лісам. Хоць Вялікабрытанія даволі густа заселеная, тут мноства розных птушак і дробных дзікіх звяркоў.

Дзесьці пад вечар даехалі мы да нейкай невялікай чыгуначнай станцыі, і нам загадалі выходзіць. З сваімі мяшкамі з вопраткай, вядома вайсковай, ранцамі, плечакамі ды з асабістай зброяй (вінтоўкі без патронаў) у шэрагах па трое мы памаршыравалі за нейкім брытанскім афіцэрам да недалёкай ад станцыі вайсковай казармы. Займалі гэтае месца да нас амерыканцы, але пасля вайны мінуў ужо больш чым год, і яны выехалі, ці, дакладней кажучы, паплылі ў свой заморскі край. А нас, «бяздомных» польскіх жаўнераў, часова пасялілі тут. Як мы неўзабаве даведаліся, лагер, дзе нас размясцілі, быў толькі за нейкія пятнаццаць кіламетраў ад вялікага порта і горада Ліверпуля. У гэтым лагеры былі ўжо іншыя вайскоўцы, і мы акурат трапілі на вячэру з гарачымі стравамі.

Баракі не надта раскошныя, але даволі выгодныя. Кожны жаўнер атрымаў палок з сяннікам. Тут стаялі доўгія сталы і лавы, каб можна было сесці, а таксама ўмывальня з бягучай гарачай і халоднай вадой. Можна было таксама ў асобным будынку памыцца пад душам.

На другі дзень нам выдалі плату ў ангельскай валюце. Кожны атрымаў адзін фунт і дзесяць шылінгаў на дзесяць дзён. Мы перш крыху разгубіліся, бо не ведалі, што адзін фунт мае дваццаць шылінгаў, а адзін шылінг мае дванаццаць пенсаў. Іншымі словамі, ангельскі фунт стэрлінгаў можна падзяліць на тры роўныя часткі па шэсць шылінгаў і восем пенсаў кожная.

Ад жаўнераў, якія прыехалі ў гэтае месца да нас, мы даведаліся, што электрычкай можна лёгка з'ездзіць у Ліверпуль і схадзіць у кіно, а ў суботу ўвечары наведаць дансінг у міжнародным клубе маракоў. Танцавальная зала і дванаццаць музыкантаў аркестра з двума вакалістамі — усё выглядала цудоўна. Уваход каштаваў толькі тры шылінгі, і можна было прыемна правесці час, нават не ведаючы ангельскай мовы. Нечаканасцю для нас было тое, што ангельцы вельмі музыкальныя, дасканалыя танцоры, а танец

лічаць прыемным і жыццярадасным спортам. Як мы крыху пазней даведаліся, у кожным пятым або шостым ангельскім доме было фартэпіяна, і ўжо абавязкова — у кожнай піўной, кожным клубе і школе. Заўсёды хтосьці знаходзіўся, хто ўмеў іграць, а астатнія прысутныя спявалі ва ўнісон.

У вайну і яшчэ амаль восем гадоў пасля вайны харчы ў Англіі размяркоўваліся па картках. Асабліва ўразіла нас тое, што картачная сістэма была аднолькавая і пачцівая. Калі на картку выпадала трыста грамаў мяса, тры скрылікі грудзінкі, адно яйка, трохі масла і сыру — на тыдзень, то не рабілі ніякай розніцы, ці то містэр Сміт, Браўн ці Джонсан, або сэр Лістэр, ці нейкі іншы Майбытэн, — усе яны аднолькава атрымоўвалі і выкуплялі тое, што належала атрымаць, — усе, без выключэння. Чым даўжэй мы жылі ў Англіі, тым больш пераконваліся, як павінна выглядаць сапраўдная дэмакратыя.

На гэтым першым месцы дыслакацыі мы прабылі крыху менш за тры тыдні. Потым наш плютон накіравалі ў мясцовасць Бары ў графстве Ланкашыр, недалёка ад прамысловага горада Манчэстэр. Там нарэшце загадалі нам здаць карабіны і тыя некалькі аўтаматаў, што называліся «таміган», якіх, дарэчы, было толькі тры ці чатыры. Цягам усіх ваенных дзеянняў у Італіі мы не мелі ніводнай аказіі, каб гэтую сваю зброю выкарыстаць супраць немцаў. Хутчэй, у нас стралялі. Мы ж былі занятыя будаваннем мастоў, размінаваннем дарог і пераходаў, умацаваннем пазіцыі. А мой плютон абясшкоджваў бомбы, якія не выбухнулі. У тым 10-м батальёне сапёраў нас ахрысцілі проста «бамбоўцамі». Сярод нас было няшмат параненых, а як былі, то вельмі цяжка параненыя. Сапёры, як ім што-небудзь не ўдавалася, звычайна гінулі, а як удавалася, то не атрымоўвалі нават драпінкі. Гаварылі нам, што сапёр памыляецца толькі адзін раз. Наш бомбавы плютон, на шчасце, перажыў вайну, аддаўшы толькі дзве ахвяры — на сорак два чалавекі ў плютоне. То мы разлучыліся з нашымі карабінамі без жалю і сантыменту. Для нас, «бамбоўцаў», гэта быў толькі сямікілаграмовы цяжар, які мусілі насіць.

У вайсковым лагеры ў Бары жылося нам зручна, нібы ў сваякоў. Усе баракі былі з выгодамі ды, як на вайсковае паселішча, выглядалі нават прыемна. Была добра абсталяваная кухня з печчу, каб выпякаць хлеб. Апрача нашага плютона тут атабарыліся іншыя вайсковыя падраздзяленні. У адным з іх выявіўся прафесійны пекар, які з прызначаным яму памочнікам пачаў пячы добры жытні хлеб, якім жаўнеры былі вельмі задаволены. А найбольш, бадай, хлеб спадабаўся ангельскаму сяржанту, гаспадарчаму адміністратару лагера. Ён вельмі палюбіў наш хлеб, а таксама і кухню ды браў з сабою бохан хлеба для сваёй сям'і.

У лагеры ні заняткаў, ні муштры практычна ўжо не было, з выключэннем работы дзеля падтрымання парадку. Пачалі нас вучыць ангельскай мове, аднак клопат быў, што толькі лічаныя паміж нас ведалі хоць што-небудзь па-ангельску і не маглі вучыць іншых. Нарэшце да нас пачалі прыходзіць жаўнеры з 1-га Корпуса, які знаходзіўся ў Вялікабрытаніі, і тыя жаўнеры ведалі ангельскую мову даволі добра.

У горадзе Бары была вельмі вялікая танцавальная зала, дзе ці не тры разы на тыдзень адбываліся вечарыны. Тыя, хто любіў музыку і танцы, а да іх належаў і я, хадзілі туды сама менш адзін раз у суботу. Уваход каштаваў тры шылінгі. У гэтай танцавальнай зале не прадавалі ніякага алкаголю. Мы маглі купіць сваёй партнёрцы толькі газаваную ваду, гарбату або каву ды якое-небудзь печыва. Заўважу, што ніколі на танцах мы не бачылі, каб хто-небудзь з ангельцаў учыніў бойку. У той час можна было бачыць маладых мужчынаў яшчэ ў мундзірах, то і нас, польскіх жаўнераў, лёгка прымалі за ангельскіх. Мы былі маладымі, і хоць наша будучыня не малявалася ў ружовым колеры, трэба было неяк злагодзіць сум па родным краі і сям'і.

Пастой нашага 10-га плютона абясшкоджвання бомбаў у Бары не працягваўся доўга, можа чатыры-пяць тыдняў. Мы ўжо пачыналі прызвычайвацца да мясцовых умоў, а тут

зноў загад пакаваць наш сціплы вайсковы скарб: два мундзіры, парадны і будзённы з ціку, дзве пары абутку (адна пара штодзённая вайсковая, а другая — чаравікі, купленыя за асабістыя грошы, каб выйсці ў горад). Нам выдалі таксама дзве-тры пары бялізны, тры пары шкарпэтак з воўны, паліто («шынэль»), зялёны барэт і пілотку ды, вядома, кацялок з лыжкай, відэльцам і нажом — без гэтых рэчаў аніякі жаўнер не можа абысціся. Ага, забыўся яшчэ пра два пледы для кожнага.

Загрузіліся ў выдзелены нам пасажырскі вагон, што быў з мяккімі сядзеннямі. Пасля нейкіх пяці гадзін язды цягнік спыніўся. Мы прыехалі ў горад Ньюпарт, што ў Паўднёвай Валіі. Са станцыі павезлі аўтобусам у малое мястэчка Кастлтаўн, што знаходзіцца паміж гарадам Ньюпарт і горадам Кардыф — сталіцай Валіі.

Раскватаравалі наш плютон у вельмі прыгожым ды з выгодамі замачку — палацы, які да нашага прыезду быў сядзібай нейкай брытанскай вайсковай часткі. Узбоч палаца стаяў гараж, на трэцім паверсе якога была кватэра, прызначаная, відаць, для шафёра або для нейкай іншай хатняй прыслугі. Вакол палаца знаходзіўся даволі вялікі сад з аранжарэяй, з разнастайнымі кустамі, што цвілі вясною. Сам замачак называўся Вэнтлук-Кастл. Гэта было ўладанне нейкіх там валійскіх Вэнтлукаў, што напэўна паходзілі з шляхты, а можа нават з брытанскай арыстакратыі. Як вядома, на час вайны ўрад Яго Каралеўскай Мосці шмат такіх уладанняў прызначыў Брытанскім узброеным сілам дзеля карыстання. Ад брытанскіх жаўнераў засталіся ложкі і кухонныя прылады — рэчы, якія нашаму плютону дужа прыдаліся. Нас адразу перадалі пад брытанскае вайсковае кіраўніцтва, што знаходзілася ў Кардыфе. На другі дзень нам вылучылі два вялікія грузавікі.

Капітан Расціслаў Кэнпіньскі, перш чым мы пачалі распакоўвацца, распарадзіўся пачаць генеральную чыстку ды давесці да ладу памяшканні: ён вельмі не любіў балагану. Мы вычысцілі памяшканні хутка і спраўна. Рассялілі нас у асобных пакоях, а сам камандзір і яго намеснік паручнік С. Твароўскі занялі два пакоі на другім паверсе. Было вельмі цікава, навошта брытанцы пасялілі нас аж так далёка — у Паўднёвай Валіі і да таго ж у такім шыкоўным замачку. Неўзабаве мы даведаліся чаму і дзеля чаго. Нямецкая авіяцыя вельмі часта бамбавала тутэйшыя стратэгічныя аб’екты. З таго часу засталося шмат бомбаў, якія не выбухнулі. А калі будуць адбудоўваць або рамантаваць будынкі, гэтыя бомбы могуць быць небяспечнымі, і таму трэба іх абясшкодзіць. Мы ніколі не даведаліся, ці гэта быў загад брытанскіх уладаў, ці можа толькі хаўрусная прапанова на доказ братэрства па зброі.

Фактычна аўтарытэт плютона не паніжаўся, а хутчэй, набываў пэўныя плюсы ў вачах нашых брытанскіх гаспадароў. А нам, «бамбоўцам», за цяжкую і небяспечную работу падвысілі порцыю харчу, хоць яшчэ добрых некалькі гадоў брытанцы жылі на картачнай сістэме харчавання ўсіх грамадзянаў — і сваіх, і чужых.

Тыя бомбы, што засталіся ў зямлі, ляжалі там ужо два-тры ды больш гадоў, але каб іх дастаць, трэба было мець адпаведныя веды і спрыт, як за такую працу брацца. А наш плютон такі досвед якраз меў.

Сталіца Валіі налічвала блізу шасцісот тысяч жыхароў, мела вялікі порт і шмат разнастайных прамысловых прадпрыемстваў, таму, як я ўжо казаў, немцы часта бамбавалі горад. І каля электрастанцыі засталіся два дзясяткі неразарваных бомбаў, якія трэба было ліквідаваць. Мы адразу пачалі іх шукаць і выкопваць. Важылі яны, як правіла, па дзвесце пяцьдзясят кілаграмаў. Былі і меншыя, па пяцьдзясят кілаграмаў, але знайшлася таксама адна ажно на паўтоны. Нашая задача спрашчалася тым, што камандаванне брытанскіх сапёраў дакладна ведала, дзе кожная бомба знаходзіцца. А чаго яны не маглі ведаць, дык толькі аднаго, на якой глыбіні яна засела ці ўваткнулася.

Мы пачыналі звычайна капаць шахту. Часта зямля абсоўвалася, і тады мусілі абшалёўваць сценкі раскопу. Таксама ў некаторыя выкопы падцякала вада, тады мы вы-

карыстоўвалі бензінавыя помпы. Некаторыя з тых бомбаў убіліся ў зямлю надта глыбока — аж да шасці-сямі метраў.

Працу пачалі ў лістападзе 1946 года. Было ўжо даволі холадна і ветрана, ды і частыя дажджы перашкаджалі нашай працы.

Мы, «бамбоўцы», мелі нашытыя на левым рукаве ніжэй за локаць спецыяльныя знакі нашай «піратэхнічай спецыяльнасці». Гэтыя знакі брытанцам былі добра вядомыя, а таму мы хутка адчулі іх прызнанне. Нас называлі «спраўнымі польскімі хлопцамі» і дзякавалі за паслугу. Часта нас частавалі цыгарэтамі, гарбатай, а ўвечары, калі хто трапляў у піўную, фундавалі піва. Нашы кантакты стрымліваліся толькі тым, што мы не гаварылі па-ангельску. Брытанцы ўжо ведалі, што большасць польскіх жаўнераў не хоча вяртацца на Бацькаўшчыну, бо ўладу там захапілі камуністы, і людзі знаходзяцца пад жорсткім ціскам і наглядам.

У тым часе, у канцы 1946 і пачатку 1947 года, у Вялікабрытаніі было больш за дзвесце тысяч польскіх жаўнераў: лётчыкаў, маракоў, пяхотнікаў ды іншых. Польскія ўзброеныя сілы былі тады трэцяй пасля амерыканцаў і брытанцаў найвялікшай арміяй на Захадзе.

Мушу, аднак, вярнуцца да абясшкоджвання бомбаў. Не памятаю дакладна, колькі нам часу спатрэбілася, каб ачысціць тэрыторыю электрастанцыі ў горадзе Кардыф, але ўрэшце мы скончылі гэтую працу пад апладысменты гарадскіх уладаў і брытанскіх сапёраў. Пасля яны нас спецыяльна запрасілі наведаць іх казармы, а таксама «сапёрскі музей», які знаходзіўся менавіта ў горадзе Кардыф. Там, напрыклад, мы ўбачылі нашу старую знаёмую — 75-кілаграмовую бомбу, якую наш плютон абясшкодзіў падчас бітвы за Монтэ-Касіна. Мы тады «выпаласкалі» з яе трацiл ды пустую «шкарлупу» перадалі брытанскім сапёрам як рэдкі, зважаючы на вагу, экзэмпляр. Таблічка побач с корпусам бомбы нагадвала і тлумачыла, хто яе абясшкодзіў, дзе і калі. То быў вельмі годны з боку брытанскіх сапёраў жэст, што яны так наш плютон адзначылі.

На невялікай адлегласці на захад ад горада Кардыф знаходзіцца невялікі гарадок Порт-Тэлбат, але там вялікі металургічны завод і вялікая фабрыка коксу. Дык не дзіва, што нямецкая авіяцыя бамбіла гэтыя аб’екты. Таксама ж і тут засталіся бомбы, якія не выбухнулі. Не памятаю, колькі бомбаў там было, але заселі яны недалёка ад сцен завода і каксоўні. У тым месцы было вельмі цёпла і нават часам вельмі горача, што само па сабе магло спрычыніцца да выбуху. Гэты горад знаходзіўся далёка ад нашага часовага месца кватаравання, таму восем жаўнераў і адзін падафіцэр пасяліліся ў гардэробе каксоўні. Яны працавалі тыдзень, а потым іх мянялі чарговыя восем калегаў з адным падафіцэрам. Абед нам прывозілі аж з Кастлтаўна. Акрамя таго, мы падагравалі кансервы. У гардэробе была «кіпяцілка», і можна было заварваць гарбату або каву.

Увечары мы звычайна хадзілі на кухаль піва. Вестка пра тое, што «польскія бомбавыя спецыялісты» выкопваюць каля каксоўні і металургічнага завода бомбы, хутка разнеслася па ўсім горадзе. І вось калі мы аднойчы зайшлі ў паб, гэта значыць у піўную, то адразу ж нам зафундавалі піва. Ангельцы вельмі любяць піва. А іхная кухня даволі далёкая ад добрай кухні, тым больш калі харч нізкакаларыйны і выдзяляецца на карткі, то людзі півам дапаўнялі свае калорыі. Акрамя таго, піва для звычайнага грамадзяніна каштуе параўнаўча танна, і кожны можа дазволіць сабе выпіць кухаль або нават два. У кожным пабе абавязкова ёсць фартэпіяна, і заўсёды хтосьці з прысутных гасцей сядае за фартэпіяна і пачынае граць, звычайна, вядомую або папулярную песню. Іншыя адразу пачынаюць спяваць ва ўнісон, і гулянка раскручваецца.

Чаго ангельцы ніколі не рабілі, дык толькі аднаго: не запрашалі нас, жаўнераў, у свае дамы, як гэта рабілі італійцы. Ці таму толькі, што харч быў рацыянаваны і не было чым пачаставаць, ці то нейкая боязь да чужаземца — не ведаю, а магчыма, яны проста

былі асцярожнымі. Крыху пазней мы даведаліся, што брытанцы ставяцца да знаёмстваў з пэўнай засцярогай, каб не выйшла, як у той прымаўцы: «Што раптоўнае, тое ад д’ябла». Але ўжо калі пасябруюць, дык тая дружба шчырая і трывалая. У горадзе Порт-Тальбат мы выкапалі чатыры ці пяць бомбаў (дакладна не памятаю) і задаволеныя вярнуліся ў «наш» Вэнтлук-Кастл.

Набліжаліся свята Божага Нараджэння і Новы 1947-ы год. Кожнаму з нас, жаўнераў, набягалі думкі пра дом, сям’ю і Бацькаўшчыну. Аж залішне мы ведалі, што там не вельмі добра. А сама горай, што не ставала хоць якіх-небудзь вестак з роднага краю. Я — ужо каторы раз — пасылаю кароценькі ліст маме ў Валожын, што жыў і здароў. А мінула ажно шэсць гадоў, як мяне раптоўна прымусілі пакінуць родны дом, і мая мама жыла хіба толькі спадзяваннем, што, можа, я дзесьці яшчэ ёсць на белым свеце. Я ведаў, што ўсе лісты ў Савецкі Саюз падлягаюць кантролю. Барані Божа напісаць тое, што камуністы прызнаюць ненадзейным і варожым. Я баяўся нарабіць бяды і так ужо беднай маёй сям’і ды нават крэўным. (Як пазней даведаўся, так менавіта і было.) Вядома, пісаў я і раней некалькі разоў, калі быў яшчэ ў Італіі. Тады зваротным адрасам падаваў адрас італійскай сям’і, з якой я пасябраваў. Аднак адказу ніколі не атрымоўваў. А таму пачынаў думаць, што з мамай і сястрой магло штосьці здарыцца ў той ваеннай завірусе.

Наша «кватэра» ў Вентлук-замку ўсе больш і больш нам падабалася, наваколле таксама. Часта ўвечары мы наведвалі горад Ньюпарт, да якога можна было даехаць вельмі добрым і недарагім аўтобусам. Пераважна мы хадзілі ў кіно, а кінатэатраў у горадзе было ажно чатыры, і ў кожным паказвалі па два фільмы, пераважна амерыканскія. Але былі і ангельскія, часцей за ўсё добрыя камедыі, што спрыяла вывучэнню ангельскай мовы. У нашым плютоне былі чатыры чалавекі, якія няблага ведалі ангельскую. Адзін з іх, найбольш абазнаны, паводле загаду капітана Кэнпіньскага вучыў нас — дзве гадзіны ў тыдзень — размаўляць на мове нашых брытанскіх гаспадароў. Апрача таго, мы самі, хоць, можа, не ўсе, вучылі ангельскія слоўцы з слоўніка. Кожны з нас — хто больш, хто менш — рабіў поспехі.

У Ньюпарце былі дзве вялікія танцавальныя залы, куды мы, можа не ўсе, заглядалі. Тады якраз станавіліся папулярнымі румба і самба, а таксама і танга. На тых дансінгах некаторыя пазнаёміліся з мясцовымі дзяўчатамі, ды завязалі нейкае там «кульгавае» — бо не ведалі мовы — сяброўства. Часам нават прызначалі спатканні. Нашыя сустрэчы былі, вядома, чыста сяброўскія і звычайна заканчваліся пацалункам. Мы добра ведалі, што калі б якая-небудзь паненка зацяжарыла, то ангельскія ўлады прымусілі б узяць яе замуж. А жаніцца ніхто не спяшаўся, бо не ведалі, што чакае нас пасля звальнення з службы і куды нас занясе лёс.

Да гэтай пары, сустракаючы Новы год, мы зычылі адзін аднаму хуткага вяртання на Бацькаўшчыну, у родную сям’ю. З надыходам 1947 года амаль усе мы ўжо разумелі, што нашыя мары не споўняцца. Чакае нас вялікае Невядомае. Большасць з нас, каля васьмідзесяці пяці адсоткаў, не збіраліся вяртацца, бо гэта было б раўназначна самагубству.

Усім нам дакучала туга па Айчыне і сям’і ды няўпэўненасць у сваёй будучыні. Некаторыя яшчэ цешылі сябе спадзевам, што, магчыма, мы яшчэ будзем патрэбныя. Халодная вайна пагаршала абставіны, Савецкая Расея штораз больш ставіла перашкодаў перад сваімі былымі заходнімі «хаўруснікамі», штораз мацней бразгала шабляй, дый не толькі шабляй.

Свята Божага Нараджэння і Новы 1947-ы год мы сустрэлі ў Кастлтаўне. Цягам наступных некалькіх тydняў мы займаліся толькі тым, што падтрымоўвалі парадак на нашай сядзібе. Было ў нас некалькі заняткаў з тэорыі, але пераважна вучылі ангельскую мову.

Дзесьці на зыходзе лютага ці на пачатку сакавіка наш плютон атрымаў ад брытанскіх гаспадароў яшчэ адно заданне. Гэтым разам даручылі не абясшкоджванне бомбаў,

а выцягванне трубаў. У 1941 годзе, калі Вялікабрытаніі пагражала нямецкая інвазія, брытанцы як маглі рыхтаваліся да гэтага. Уздоўж марскіх пляжаў, асабліва на поўдні краіны, дзе немцы маглі высадзіць дэсант, рыхтавалі розныя абарончыя ўмацаванні і прыстасаванні. З дапамогай аднаго з іх, узрываючы скрыжаванні дарог, намерваліся перашкодзіць немцам трапіць на мясцовыя дарогі. Дык вось з дапамогай спецыяльных прыладаў тыя трубы 10-сантыметровай таўшчыні ўбівалі пад шашу пэўным чынам, залежна ад мясцовасці, на глыбіню ад сямідзесяці пяці сантыметраў да аднаго метра. Іх у выпадку неабходнасці можна было запоўніць дынамітам або трацілам ды ў патрэбны момант узарваць, робячы глыбокі дол на скрыжаванні.

Да інвазіі ў Англію не дайшло, і цяпер тыя трубы мусілі даставаць. Менавіта да гэтай працы ангельскія ўлады заангажавалі наш плютон. Прынамсі палову плютона, а гэта шаснаццаць хлопцаў, паслалі ў мясцовасць, што знаходзілася па-над самым берагам Брыстальскай затокі. Гэта Тэнбі ў графстве Пэмбрукшыр.

Нас пасялілі ў недалёкім лагеры, дзе ўжо заспелі польскі батальён з 1-га Корпуса, які падчас вайны знаходзіўся на тэрыторыі Вялікабрытаніі. Тыя хлопцы няблага ведалі ангельскую мову. Неўзабаве мы пасябравалі, і ўсё пайшло гладка. Нас забяспечылі спецыяльнымі гідраўлічнымі «выцягачамі», мапамі той ваколіцы, і мы пачалі даставаць тыя трубы. Работа карпатлівая і брудная, а сакавіцкае надвор’е таксама не спрыяла.

Недалёка ад нас месціўся невялікі гурт нарвежцаў, але яны ўжо рыхтаваліся да выезду дамоў, і мы ім зайздросцілі. Яшчэ пра што хачу згадаць. Быў у тым батальёне сапраўдны нашчадак польскага арыстакратычнага роду князь Чартарыйскі. Ён меў званне плютановы падхарунжы, ведаў чатыры ці пяць моваў, меў дзесьці ў Францыі маёмасць і менавіта туды пасля звальнення з войска збіраўся выехаць. Быў несумненна адукаваным ягамосцем, але фізічнага выгляду не найлепшага. Сам ён усведамляў сваю сітуацыю і не ўтойваў, што прычынай таму былі шлюбы паміж блізкімі родзічамі.

Абшар Тэнбі і наваколле былі выключна сялянскія. Тут гадавалі кароў, коней і авечак. У некаторых гаспадароў працавалі на гаспадарцы палонныя немцы. На пашы, дзе пасвіліся авечкі, было таксама шмат дзікіх трусоў, за якімі ганяўся бяздомны сабачка Кулі, што быў пасябраваў з намі. Ганяў ён часам таксама і авечак, і з гэтай нагоды да нас наведаўся паліцыянт. У выніку тую псіну забралі ў сабачы прытулак. А шкада, таму што з сабачкі мы мелі шмат пацехі, асабліва тады, калі ездзілі выцягваць трубы. А тыя трубы, праляжаўшы ў зямлі шэсць гадоў, гэтак паржавелі ды ўраслі ў зямлю, што зрушыць іх было даволі цяжка. Калі ўжо зрушыліся, то спачатку вылазілі даслоўна па пары міліметраў, а пасля ўжо і па некалькі сантыметраў. І мы часам цэлы дзень важдаліся на адным скрыжаванні дарог.

Часта, як мы працавалі недалёка ад гаспадарскага дома, гаспадыня частавала нас гарачай гарбатай, а гаспадар — папяросамі. На жаль, размова не клеілася, бо наша веданне ангельскай мовы было яшчэ ў пялюшках. Праз месяц скончылася і гэтая праца, падчас якой наш камандзір нас наведваў, прывозячы невясёлыя весткі пра наша няпэўнае становішча.

Калі мы вярнуліся ў Кастлтаўн, мяне чакала мілая, але адначасова сумная неспадзяванка. Нарэшце я атрымаў ліст з Валожына ад мамы. Дрыготкімі рукамі я раскрыў канверт і пачаў уважліва чытаць. Мама пісала па-расейску. Як я згадваў раней, апошні ліст я напісаў да свайго дзядзькі Юр’я Грышчыка, бо лісты, пасланыя маме, заставаліся без адказу. Дзядзькі сярод жывых ужо не было, але дзядзіна, як толькі атрымала і прачытала ліст, занесла яго маёй маме. Радасць у доме была вялікая, таму што ўсе з нашай даволі вялікай радні думалі, што я дзесьці загінуў. Не маглі ўцяміць, як я з Карэліі трапіў ажно ў Англію. Але дужа радаваліся, што матчыны малітвы былі пачутыя Богам.

Матуля, як і раней, жыла ў нашым дамку на вуліцы Ліпавай, што за польскім часам называлася Легіёнавай, дом 11. Сястра Валя вучылася ў Менску на настаўніцу. Іншыя

блізкія родзічы таксама ацалелі ды, як пісалі, ім добра жылося на Радзіме, якою кірує шчыра любімы вялікі і геніяльны бацька народаў. Усе вельмі ўсцешыліся, а найбольш мама з сястрой. Але я адразу прыкмеціў, што дамоў вярнуцца не запрашаюць. Адразу ўцяміў, што яны мяне нібы перасцерагалі: сядзі там і дамоў не спяшайся. З тае пары я пачаў хоць і не часта, але рэгулярна перапісвацца з сястрой.

Тым часам урад Яго Каралеўскай Мосці вырашыў ліквідаваць Польскія ўзброеныя сілы. Ангельцы пастанавілі перш, што яны будуць замененыя на гэтак званы Польскі корпус падрыхтоўкі і дыслакацыі. Было нас, вайскоўцаў, у страі яшчэ каля двухсот тысяч. Недзе 15–17 адсоткаў жаўнераў звярнуліся з просьбай вярнуцца на радзіму. І як я толькі цяпер, гэта значыць у 2010 годзе, даведаўся з брашуры Б. В. Бароўскага, у Беларусь вярнулася 888 вайскоўцаў. Я проста не магу надзівіцца, што аж гэтулькі было наіўных хлопцаў. Няўжо яны думалі, што драпежнік ужо без кіпцюроў? Апраўдваю толькі тых, хто меў малых дзяцей.

Каб падрыхтаваць нас да цывільнага жыцця, пачалі ладзіць спецыяльныя курсы. Наш Польскі корпус сталі называць цяпер «P. K. P. R.». (Хтосьці языкаты адразу ж цынічна замяніў на «Pocóż Kutasie Poszedł Robić?».) І ўжо ўсім стала вядома, што да канца 1947 года Польскае войска напэўна будзе расфармаванае.

Надышоў красавік, пацяплела, на дрэвах і кустах пачалі распускацца пупышкі. Сярод жаўнераў адчувалася выразная нервовасць, кожны думаў, як у гэтай сітуацыі наладзіць свой побыт, а таксама і будучае існаванне. Ніхто яшчэ не ведаў, як з намі абыдуцца ангельцы.

Гэтаю парою некалькі хлопцаў намерыліся пасеяць у садовай цяпліцы салату і радыску, агуркі і памідоры. Салаты і радыскі мы дачакаліся, але рэшту давялося пакідаць, таму што шэф нашага плютона Станіслаў Стукін, сяржант родам з Вялейкі, загадаў падрыхтавацца да яшчэ аднаго пераезду. Як неўзабаве выявілася, ужо апошняга для нас, хто быў пакуль што ў мундзіры.

Перш чым мы пакінулі наш зручны і прыемны Вэнтлук-Кастл, аднойчы перад абедам заехаў на панадворак нашай рэзідэнцыі вельмі элегантны, зіхоткі ад хрому, з адкінутым верхам аўтамабіль. З гэтага аўтамабіля вылез не надта каб вялікі ростам мужчына, але апрануты ў гарнітур і пад гальштукам, ды на класічнай ангельшчыне звярнуўся да нашага дзяжурнага афіцэра, што хацеў бы сустрэцца з нашым камандзірам капітанам Кэнпіньскім. Дзяжурны адразу ж далажыў капітану. Назваўшы сябе і прывітаўшыся, госць, а гэта быў містэр Гудсан, запрасіў капітана на непрацяглую размову. Дык вось, ён быў уладальнікам бетоннага завода ў горадзе Ньюпарт. Пачуў, што ангельскія ўлады распускаюць Польскае войска ды звяртаюцца да кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў, каб прымалі былых вайскоўцаў на працу і такім чынам дапамагалі ім пачаць цывільнае жыццё ды асімілявацца ў брытанскім грамадстве. Ён гатовы прыняць на працу дванаццаць — пятнаццаць хлопцаў. Містэр Гудсан падаў назву сваёй фірмы і адрас. Пазней, праз нейкія тры месяцы, дзесяцёх з нас скарысталі з гэтай прапановы.

Мы прыехалі ў Кастлтаўн у вялікі вайсковы лагер, што называўся Фокслей-Камп і знаходзіўся недалёка ад горада Герфард у Сярэдняй Англіі. Жылі там некалькі тысячаў жаўнераў, і ў той сціжме праз пару дзён я сутыкнуўся лоб у лоб з былым вучнем валожынскай паўшэхнай школы. Я яго добра памятаў, хоць ён і вучыўся на два класы вышэй за мяне. Гэта быў Аляксандар Карузін, сын валожынскага суддзі, ягоная сям'я жыла ў гэтак званых Доміках. Некалькі разоў пасля той сустрэчы мы спатыкаліся, але дэмабілізацыя неўзабаве нас раздзяліла, і я не ведаю, дзе ён пасля падзеўся. А шкада.

Нас пачалі па некалькі чалавек выклікаць у спецыяльныя дэмабілізацыйныя пункты, рабілі нам новыя дакументы, а мы падпісвалі абяцанне нашай лаяльнасці да ўладаў Яго Каралеўскай Мосці. Пасля падпісання гэтых дакументаў ды атрымання копіі ў рукі

кожнаму выдалі таксама паштовую ашчадную кніжку. У кніжку на маё прозвішча была ўпісана сума трохтыднёвага заробку — дваццаць адзін фунт стэрлінгаў. А яшчэ выправілі нас у адну мясцовасць, дзе быў склад з цывільнай вопраткай. Там нам дазволілі выбраць гарнітур ды кашулю і гальштук — як пасаг у цывільнае жыццё. Аднак пакінулі нам і нашы суконныя ды палатняныя мундзіры, у якіх мы пасля хадзілі на працу, а таксама і абутак.

Як на мой розум, то брытанцы абышліся з намі прыстойна і справядліва, калі браць пад увагу абставіны, у якіх апынулася тады Польскае войска. Тыя жаўнеры, хто наважыўся вярнуцца ў Польшчу або, напрыклад, у савецкую Беларусь, атрымоўвалі, як мне здаецца, на дарогу больш грошай, якія, як я здагадваюся, забралі ў іх адразу, як толькі яны вярнуліся дамоў, або памянялі на бязвартасныя рублі.

Атрымаўшы гарнітур, кашулю з гальштукам ды капялюш, пра які забыўся згадаць, мы вярнуліся ў лагер Фокслей, каб забраць рэшту нашых клункаў ды памятак, якіх крыху назбіралася на ваеннай дарозе. Мы развіталіся з камандзірамі 10-га плютона абясшкоджвання бомбаў ды з калегамі. І дзесяцёх нас, ужо як цывільныя, паехалі зноў у Ньюпарт у Паўднёвай Валіі працаваць на бетонным заводзе, што называўся «Hodson Concrete Produckts Lmt.» і належаў да «Corporation Rd. Newport Mon».

Найперш мусілі знайсці кватэру. Купілі мясцовую газету, і там звычайна падавалі абвесткі, дзе здаюцца пакоі ды колькі трэба плаціць. То я і мой калега Зыгмусь Крагель, родам з Беластока, знайшлі з дапамогай ягонай паненкі ангелькі, з якой ён пазнаёміўся яшчэ тады, як мы жылі ў Кастлтаўне, пакойчык з двума ложкамі ў адной сям'і, што мела даволі прасторны дом ды тры пакоі здавала адзінокім мужчынам. За пакойчык на дваіх з харчаваннем мы павінны былі плаціць два фунты стэрлінгаў штотыднёва — даступныя для нас умовы. Заплацілі мы наперад, аддалі гаспадыні таксама нашыя толькі што атрыманыя харчовыя карткі, каб яна магла выкупляць прызначаныя нам харчы. Апрача Зыгмуся і мяне жылі ўжо ў нашых гаспадароў чацвёра мужчынаў: адзін шатландзец і трох ангельцаў. У аднаго з ангельцаў не было рукі, якую ён страціў на вайне. Жыў тут яшчэ адзін хлопец з Югаславіі, што працаваў дзесьці кухарам, і з ім мы маглі крыху паразумецца.

Наша гаспадыня місіс Форж мела невялікую крамку з гароднінай і садавінай. Вядома, яна ахвотна рыхтавала нам шмат страваў з гародніны, хоць, як пераважная большасць ангелек, найлепшаю кухаркай не была. Увогуле, стравы ангельскай кухні не вызначаюцца адметным смакам.

Рэшта нашых цывільных «бамбоўцаў» таксама знайшлі жытло, рассяліліся па двое. Наступным днём мы прыйшлі ў бетанярню пана Гудсана на працу. Але працаваць пачалі з панядзелка. У той час у Англіі быў абавязковы 45-гадзінны працоўны тыдзень.

Калі мы ўдзесяцярох прыйшлі на працу ў бетанярню, містэр Гудсан асабіста прывітаў нас і пазнаёміў з сваім сынам Базылём, які таксама быў звольнены з службы ў брытанскім войску, і кіраўніком канцылярыі фірмы панам Уільямсам. Напачатку, пасля абавязковых працэдур афармлення на працу ды перапісвання нашых адрасоў, нас правялі па ўсім прадпрыемстве, паказалі і пазнаёмілі, называючы імёны работнікаў і майстра. Нам заявілі, што напачатку наш заробак будзе чатыры фунты і восем шылінгаў за тыдзень ці за сорак пяць гадзін працы, а таксама, што пачынаем у панядзелак а восьмай гадзіне раніцы. Ад дванаццатай да трынаццатай гадзіны — абед, а сканчаем працу а пятай гадзіне надвячоркам.

На гэтым прадпрыемстве выраблялі пліты для тратуара, вулічныя бардзюры, жалезабетонныя слупы для агароджвання палёў, лугоў і гэтак далей. Было і штосьці зусім новае для нас, замежнікаў, штосьці падобнае да «пустакоў» — з шлаку, які змешвалі з вадой і цэментам. З гэтых блокаў складвалі ўнутраныя сцены мураваных дамоў. Таму сама бетанярня знаходзілася побач з вялізным сталеліцейным заводам, у печы якога засыпалі вялікую колькасць коксу, ад якога пасля спальвання заставалася шмат шлаку

і попелу. І вось хтосьці дадумаўся, што калі перамалоць, а дакладней, раздрабніць шлак да памераў гарошыны, фасоліны або бобу, дадаць вады і цэменту, добра перамяшаць, то можна стварыць дасканалую сумесь на будаўнічыя блокі.

Працу мы пачыналі а восьмай гадзіне раніцы, а 9.15 мелі кароткі перапынак, каб выпіць кубачак гарбаты або кавы ды што-небудзь згрызці. Да месца працы мы даязджалі аўтобусамі. За работніцкі білет на праезд плацілі толькі тры пенсы, нават калі вымушаныя былі перасядаць на другі аўтобус. Наш заробак: чатыры фунты і восем шылінгаў — гэта тое, што выдавалі на рукі. А перад гэтым ужо вылічылі адзін фунт і два-тры шылінгі падаходнага падатку ды страхоўкі на выпадак хваробы. Поўны ж тыднёвы заробак складаў сем фунтаў стэрлінгаў. Вядома, на іншых прадпрыемствах плацілі значна больш.

Маім першым абавязкам быў вываз згаданых будаўнічых шлакаблокаў. Пасля трох-чатырох дзён сушкі блокі трэба было вывезці на тачцы з сушні ды скласці ў сцірту на двары. А калі прыедзе грузавік забіраць іх, то дапамагчы шафёру пагрузіць. Тыя блокі памерам дваццаць пяць на сорак сантыметраў выраблялісе з рознай таўшчынёй сценак: дзесяць, а таксама сем з паловай ды пяць сантыметраў.

Наша гаспадыня варыла абеды на дзесяць чалавек, то амаль кожны вечар двое, трое, а часам чацвёра кватарантаў абіралі бульбу на наступны дзень. Мяса, што атрымоўвалі на карткі, хапала толькі для аднаго абеду на тыдні, звычайна ў нядзелю. У іншыя дні варылі бульбу з рыбай, вэнджанай або соленай, зрэдку свежай.

Але без картак можна было купіць хлеб, малако і мармелад ды яшчэ штосьці зробленае з бульбы з невялікім дамешкам мяса і тлушчу. Гэтае своеасаблівае «салямі» прыдавалася хіба што на бутэрброды, якія мы бралі з сабой на працу. Часам у суботу або ў нядзелю заходзілі ў вядомую нам кавярню на філіжанку кавы ды сасіску з булачкай.

Праца ж як праца, можа не найлепшая, але на плату за жытло і харчаванне заробку хапала. Зразумела, мы імкнуліся прыкупіць што-небудзь з вопраткі — на змену, гарнітур або спартовы камплект: пінжак ды пару адпаведных нагавіц. Час ад часу даводзілася працаваць на адну гадзіну даўжэй, і мы ахвотна згаджаліся, бо за дадатковую працу плацілі сто пяцьдзясят адсоткаў заробку. Такім чынам нам удавалася сабраць сякую-такую капейчыну. Прыстойны гарнітур сярэдняй якасці каштаваў адзінаццаць-дванаццаць фунтаў, пара абутку — ад двух да чатырох фунтаў, кашуля — паўтара фунта, паліто — дзесяць-дванаццаць фунтаў. Вядома, хацелася ўбрацца як мага харашэй, і па нейкім часе нам удалося спатоліць нашыя мары, можа не ўсім, але большасць нашых хлопцаў апраналіся вельмі элегантна. Ангельскія дзяўчаты звярталі на нас увагу — а як жа!

Мой калега Зыгмусь, з якім я кватараваў, і я праз тры месяцы, як мы выехалі з Ньюпарта, прыйшлі на танцы ўжо ў гарнітурах. Некаторыя даўнейшыя знаёмыя памяталі нас, якімі мы былі ў вайсковых строях, то цяпер віталі нас ды зычылі поспехаў у цывільным жыцці. Некаторыя пыталіся, дзе мы цяпер жывём і дзе працуем.

Дырыжор аркестра, які звычайна агалошвае, што менавіта будуць граць, час ад часу аб'яўляў, што гэтым разам будзе «адбіваны» танец, гэта значыць, што дзяўчаты могуць патрабаваць, ветліва вядома, разлучыць адпаведным жэстам пару, якая танцуе. Але часцей абвяшчалі: «Паненкі выбіраюць!». Дык вось пасля адной з такіх абвестак «Паненкі выбіраюць» падышла да мяне, выбіраючы мяне за партнёра, дзеўчына, з якой я пару разоў танцаваў. Вядома, я ахвотна згадзіўся. Наколькі я памятаю, танцавалі павольны ангельскі вальс, які я вельмі любіў. Мы разгаварыліся, і яна сказала, што вельмі рада зноў бачыць мяне, тым больш у цывільным. Я ж нагэтулькі добра ўжо «прыхапіў» ангельшчыну, што разумеў, што яна мне кажа. І я, як мог, так адказваў.

І вось Бэці, а гэта скарочанае імя ад поўнага Альжбэта, кажа мне: калі ўжо так сталася, што я жыву і працую ў Ньюпарце, то можа калі-небудзь разам сходзім у кіно.

Я ахвотна згадзіўся, і мы дамовіліся ў пэўны дзень увечары спаткацца каля кінатэатра. Калі ў дамоўлены час мы сустрэліся, я быў здзіўлены, што яна ўжо мела купленыя два білеты. Я хацеў аддаць грошы, але Бэці сказала: «Наступным разам ты купіш білеты».

Бэці была даволі прыгожай дзеўчынай сярэдняга росту, мела цудоўныя блакітныя вочы. Але яна была амаль «сікухай» — на цэлыя сем гадоў за мяне маладзейшая. Мы сустракаліся некалькі разоў, ды па нейкім часе яна пайшла ў войска — была такая служба для жанчын. Думаю, ейная маці не хацела, каб дачка сустракалася з чужаземцам. Так скончыўся мой першы раман з ангельскай дзяўчынаю. Коратка і соладка.

Аднаго разу Базыль Гудсан прапанаваў мне і Зыгмунту навучыцца рабіць шлакаблокі. Мы адразу пагадзіліся, бо за гэтую працу плацілі на фунт больш. А работа выглядала так. Асобная група рабочых падвозіла мяшанку з шлаку, цэменту і вады ў спецыяльнай вываратцы па рэйках. На краі даволі вялікага металічнага стала была ўсталяваная форма ў выглядзе прастакутнай скрынкі ды ручны вагар, з дапамогай якога падымалі ўжо падрыхтаваны блок. Мяшанку ссоўвалі ў скрынку чымсьці падобным да кельні ці шуфля ды ўтрамбоўвалі медным таўкачом. Адзін з нас кідаў шуфлем мяшанку, а другі трамбаваў. Сфармаваны блок выкідвалі на спецыяльны драўляны паднос ды неслі ў сушыльную камеру. Там блокі ставілі адзін каля аднаго на дашчаных паліцах па трыццаць на кожную.

Зыгмунд і я працавалі мяняючыся. Спачатку ён трамбаваў, а я накладваў мяшанку, даставаў і выносіў гатовыя блокі. Праз кожныя дзве гадзіны мяняліся, я тоўк, а ён насіў. Такім простым спосабам мы аблегчылі сабе работу, і пасля выканання нормы — сямсот дваццаць штук — маглі ісці дамоў. Калі мяшанку ў нашу майстэрню падвозілі без затрымкі, то мы заканчвалі працу ўжо а палове чацвёртай.

Стаялі на нашым «заводзе» чатыры сталы, і пры іх працавалі восем чалавек, што выраблялі шлакаблокі, ды былі яшчэ чатыры, якія рыхтавалі мяшанку ды падвозілі яе да сталоў. Попыт на блокі быў вялікі, іх патрабавалі будаўнікі, таму мы былі вельмі занятыя.

Паступова мы прызвычайваліся да нашай новай рэчаіснасці. Ангельская мова і надалей заставалася нашым клопатам. Але жыццё і праца поруч з ангельцамі спрыяла вывучэнню. Штодня запаміналася хоць некалькі словаў. Мы нібы пачалі збольшага па-ангельску гаварыць, але думалі на сваёй мове. Толькі ў тым разе, калі чалавек думае на той мове, на якой гаворыць, можна казаць, што ён крыху яе ведае.

Нам вельмі падабалася сістэма выплаты заробку штотыдня. Звычайна атрымоўвалі грошы ў пятніцу. А чалавеку значна лягчэй размеркаваць выдаткі ад пятніцы да пятніцы, чым ад першага да апошняга дня месяца. І такім чынам рэгулярна адкладвалі што-небудзь на ашчадную кніжку, якую ангельцы выдалі падчас дэмабілізацыі. За год я набыў сабе два гарнітуры, пару кашуляў, пару добрага абутку і гэтак званую ясёнку — лёгкае паліто.

Тым часам я пачаў даволі рэгулярна абменьвацца лістамі з сястрой Валяй, якая ўжо працавала настаўніцай у вёсцы Сугвазды за нейкіх восем кіламетраў ад Валожына. Мы абое ведалі, што лісты будзе праглядаць цэнзура, то абменьваліся навінамі і поглядамі вельмі асцярожна. Але цягам часу навучыліся штосьці напісаць, як той казаў, паміж радкамі — а Валя і я ведалі, у чым справа. Я пачаў таксама думаць, каб неяк маме і сястры дапамагчы, выслаць пасылку з вопраткай ці нейкія лекі.

Неўзабаве ў Лондане ўзнікла фірма, якая пачала перасылаць пасылкі ва Усходні блок. Савецкія ўлады налічвалі мыта амаль гэтулькі ж, колькі вартая была ўся пасылка. Калі, напрыклад, у пасылцы было тавару на дзесяць фунтаў, то мыта складала дзесяць фунтаў плюс страхоўка, што залежала ад вагі. Пры маіх заробках я не мог, вядома, дазволіць сабе пасылаць пасылкі часта, але хоць на адну пасылку за год адважваўся. Адзін з маіх стрыечных братоў насмеліўся мне напісаць, то яго выклікалі ў НКУС на допросы, што мяне не здзівіла. Добра яшчэ, што не пасадзілі. І ён перастаў мне пісаць.

Праз год я памяняў кватэру на крыху больш выгаднейшую. Падгаварыў мяне на такі крок іншы мой сябар Ян Конік, які хваліў сваю гаспадыню, што яна гатуе лепшыя і смачнейшыя стравы. Да таго ж ён крыху менш плаціў кватэрнай платы. Рэчаў у мяне было няшмат, то пераезд на новую кватэру прайшоў лёгка.

Дазволю сабе напісаць пару слоў пра Яна Коніка. Як немцы напалі на Польшчу, ён менавіта адбываў службу ў польскім войску. Тае восені ён павінны быў дэмабілізавацца, але вайна затрымала. Служыў у палку цяжкай матарызаванай артылерыі. Пасля трохтыднёвых баёў польскае войска пачало адступаць асобнымі часткамі на ўсход і на поўдзень. Полк, у якім служыў ён, адыходзіў да румынскай мяжы. Як толькі камандзір даведаўся, што Савецкая армія ступіла на тэрыторыю польскай дзяржавы, ён даў загад пранікаць у Румынію па двое, па трое, па чацвёра, каб надта не прыцягваць увагі як немцаў, так і саветаў. Дык вось, артылерыст Конік ды яшчэ адзін жаўнер з ім перайшлі на румынскі бок, але ў густым лесе заблудзіліся ды, праблукаўшы некалькі гадзінаў, выйшлі зноў на мяжу. А там ужо былі чырвонаармейцы. Іх абодвух затрымалі, а тое, што яны перайшлі мяжу, сведчыла: яны шпіёны. Ніякае тлумачэнне не дапамагло. Абодвух арыштавалі, і праз нейкі час Конік ужо быў у Палтаўскай турме. Пасля следства Ян Конік атрымаў шэсць гадоў «исправительных лагерей» і апынуўся на Кольскай паўвыспе. На падставе дамовы Сікорскага — Майскага яго амніставалі, ды з іншымі польскімі грамадзянамі ён трапіў у войска генерала Андэрса, як і я ды тысячы іншых. Ян паходзіў аднекуль з ваколіц Івана-Франкоўска, і быў, як і я, праваслаўнага веравызнання. Мы вельмі добра сябравалі ды сустракаліся не толькі ў Англіі, але і пазней у Злучаных Штатах — аж да ягонай смерці ў 1997 годзе. Ён жыў і працаваў у Нью-Джэрсі.

Калі я перабраўся на новую кватэру, надарылася аказія змяніць працу. З бетанярні я перайшоў працаваць у ліцейку, дзе адлівалі розныя дэталі для чыгункі. Праца цяжкая, было горача і брудна. Пасля змены мы мыліся пад душам і пераапраналіся. Але затое заробак быў нашмат большым. Пасля адлічэння падатку атрымлівалі восем фунтаў і шэсць шылінгаў — за тыдзень.

Ян Конік выпадкова пазнаёміўся з польскай паненкай, якая была калісьці вывезеная ў Германію на прымусовыя работы, а пасля заканчэння вайны прыехала ў Англію і працавала на баваўнянай фабрыцы пад Манчэстэрам. Праз год пасля знаёмства яны вырашылі пабрацца. Конік узяў крэдыт і купіў чатырохпакаёвую кватэру ў старым будынку. Ён крыху ўмеў сталярнічаць і цяслярыць, то кватэру прыстойна аднавіў. Яны прызначылі ўзяць шлюб у апошні дзень 1948 года. Мяне Ян папрасіў быць ягоным шаферам, і я ахвотна згадзіўся.

Нявеста прывезла з сабою дружку, таксама палячку. Тая жыла ў тым самым горадзе, дзе і нявеста, ды разам з ёю працавала ў прадзільным цэху. Яны і жылі разам ды мелі тое ж самае імя — Марыя. Гэтак мы пазнаёміліся. Яна была прыгожая дзеўчына, на тры гады за мяне маладзейшая, і таксама пасля вайны не вярнулася ў Польшчу. Не мела там нікога з блізкай радні, таму і паехала ў Англію на працу.

Мы разам з ёю адсвяткавалі шлюб сваіх сяброў. Дзеўчына мне вельмі падабалася, і я прапанаваў ёй перапісвацца ды сустракацца час ад часу, бо далёка адно ад аднаго жылі. Ведаючы, што ў Англіі шмат былых польскіх вайскоўцаў, а польскіх дзяўчат не багата, разумеў, што мушу нейкім чынам утрымаць каля сябе гэтую дзеўчыну, з якой так выпадкова пазнаёміўся. Яна паехала ў свой горад Олдхэм, а я пачаў пісаць ёй лісты — праз дзень, і намерыўся наведваць яе хоць бы раз на два месяцы. Часцей не мог, таму што было даволі далёка: чатыры гадзіны язды цягніком і гадзіну аўтобусам. Да таго ж мусіў быў на такое наведванне — двухдзённы візіт — выдаць сама меней пяць фунтаў.

Праз паўгода я наважыўся пераехаць з Ньюпарта ў Олдхэм. Мог ужо паразумецца па-ангельску, то знайшоў у Олдхэме сабе работу на газавым заводзе, дзе каксавалі

вугаль — сорак два — сорак пяць вагонаў за суткі — і выраблялі кокс, газ і машынную аліву. Праца была на тры змены, таму што рэторты мусілі запаўняцца без перапынку.

Калі яшчэ жыў у Ньюпарце, я зарэгістраваўся ў амерыканскім кансуляце як прэтэндэнт на эміграцыю ў Злучаныя Штаты. Тым часам Марыся і я вырашылі ўзяць шлюб. Намер споўнілі, гэта значыць пабраліся, 18 сакавіка 1950 года. Я дапісаў яе імя да сваёй заявы ў амерыканскім кансуляце без праблем.

Як нас звальнялі з войска, ангельскі ўрад абяцаў, што калі хто-небудзь з нас цягам наступных пяці гадоў знойдзе сабе край, куды захоча эміграваць, брытанскае міністэрства працы сплоціць кошт пераезду. Праз паўтара года пасля шлюбу я атрымаў паведамленне ад амерыканскага консула, што нам выдаюць візы на ўезд у Злучаныя Штаты. Мы прадалі, што можна было прадаць, а астатнія рэчы запакавалі ў тры чамаданы ды з сотняй фунтаў стэрлінгаў на ізраільскім пасажырскім самалёце паляцелі на Амерыканскі кантынент, у Ньюарк у штаце Нью-Джэрсі. Па дарозе затрымаліся яшчэ на абед у Ісландыі. Пералёт доўжыўся 18 гадзін.

## ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ АМЕРЫКІ

У Злучаныя Штаты мы прыляцелі 18 лістапада 1952 года і прызямліліся ў аэрапорце горада Ньюарк у штаце Нью-Джэрсі. Самалёт належаў новапаўсталай Ізраільскай паветранай лініі Al-Am. Жыды закупілі некалькі вайсковых транспартных чатырохматорных самалётаў з вайсковага «дэмбілю». Перарабілі іх на пасажырскія: кожны забіраў дзевяноста двух пасажыраў і восем чалавек абслугі. З прычыны дрэннага надвор’я самалёт з Лондана быў накіраваны на Ісландыю і прызямліўся у Рэйк’явіку, дзе нас, пасажыраў, пачаставалі гарачай гарбатай з бутэрбродам. Увесь пералёт з Англіі ў Амэрыку доўжыўся васямнаццаць гадзін.

Пасля прызямлення прайшлі пашпартны кантроль, нягледзячы на тое што была толькі другая гадзіна ночы. Пасля завялі нас, гэта значыць былых польскіх жаўнераў, адзінокіх і жанатых, як я (некаторыя ўжо мелі малых дзяцей і немаўлятак), у залу чакання. Прапанавалі нам яшчэ падрамаць, бо аўтобус забярэ нас з лётнішча а восьмай гадзіне. Аднак мала хто мог заснуць. Ціха гаварылі паміж сабой, што нас чакае на зямлі Вашынгтона. Адны ўжо ведалі куды едуць, а іншыя спадзяваліся, што арганізацыя «Samopomoc żołnierska» ў Нью-Ёрку кудысьці накіруе, дапаможа знайсці жытло і месца працы.

А восьмай гадзіне з’явіўся аўтобус, з якога выйшла нейкая жанчына. Яна прывітала нас на чыстай польскай мове і паведаміла, што паедзем у сядзібу «Samopomocy» на San Marks Place ў Нью-Ёрку і там даведаемся, хто куды накіруецца.

Перад выездам з Англіі мы перапісваліся з сям’ёй, якая за паўгода да нас ужо пераехала і ўладкавалася ў Амерыцы ў траўні 1952 года. Абое яны ўжо працавалі, мелі кватэру і пісалі нам, каб, прыехаўшы ў Штаты, накіравацца да іх, і яны дапамогуць нам зрабіць першыя крокі на амерыканскай зямлі.

У сядзібе «Samopomocy» нам сказалі, што калі маем сяброў, гатовых нам дапамагчы, то, калі ласка, і зараз ужо можам ехаць у любым кірунку. Мы ж запыталіся толькі, як выслаць тэлеграму сябрам і як даехаць да горада Ворстэра (Worcester) у штаце Масачусетс. Казалі нам даць адзін даляр, і яны вышлюць тэлеграму, а падарожжа — цягніком з Цэнтральнай станцыі Нью-Ёрка да Ворстэра без перасадкі. Таго ж яшчэ дня даехалі мы да Ворстэра, дзе нас спаткалі і прывіталі знаёмыя.

Яны мелі нанятую кватэру ў трохпавярховым драўляным доме на другім паверсе: гасцёўня, дзве спальні, кухня і ванны пакой.

Адным з вольных ад працы дзён у Злучаных Штатах ёсць свята Дзень падзякі (штосьці, як нашы дажынкі), якое адзначаюць у трэці чацвер лістапада. Гэта сямейнае

свята. Усе сямейнікі збіраюцца, прыязджаючы часам здалёку, да бацькоў на традыцыйны абед. На стол амаль заўсёды падаюць печанага індыка з рознымі прысмакамі. Традыцыйным стала і адорванне заводамі, прадпрыемствамі сваіх супрацоўнікаў і рабочых марожанымі індыкамі за пару дзён да свята, каб можна было паспець размарозіць і прыгатаваць.

Вось і наш сябра, у якога мы затрымаліся, прынёс з сваёй фабрыкі васьмі- ці дзевяцікілаграмовага індыка. Мы прыбылі ў Штаты васямнаццатага лістапада, а свята прыпадала на дваццатага. Наша гаспадыня Зося Віткоўская і яе муж Тадэвуш пыталіся ў сваёй цёткі, як таго індыка прыгатаваць, бо для іх і для нас упершыню надарылася нагода спрабаваць на смак тую індычыну.

Кожнага наступнага года дзень гэтага свята быў для нас памятным — як гадавіна нашага прыезду ў Злучаныя Штаты.

Зося спыталася ў свайго працадаўцы, ці не прыняў бы ён на працу яе сяброўку, якая прыехала з Англіі. Той сказаў прывесці яе, гэта значыць маю жонку, у панядзелак. І праз пяць дзён пасля прыбыцця ў Штаты яна пачала працаваць на фабрыцы, дзе выраблялі трыкатаж на тонкія швэдры, кашулі ды іншую вопратку. Атрымала стаўку тры чвэрткі даляра за гадзіну працы. Такім чынам, заробак жонкі за саракагадзінны тыдзень складаў 30 даляраў. Гэта было няшмат, але болей, чым у Англіі. Нам абаім трэба было займець гэтак званую карту працы, на якой абазначаны нумар сацыяльнага забеспячэння, з якім прыйдзецца нам і памерці.

Я ж пайшоў у гарадскі аддзел працы — «Labour Office» — і там пагутарыў з прадстаўніком, які пытаўся, што ўмею, дзе ўжо працаваў. Даведаўшыся, што прыбыў у Штаты назаўсёды, ветліва мяне прывітаў, спытаў пра нацыянальнасць і, калі даведаўся, што я былы жаўнер Польскага войска на Захадзе, а маё месца нараджэння — у Савецкім Саюзе, тады толькі сказаў, што ўсё добра разумее. Знайшоў мне працу ў ліцейным цэху на заводзе, дзе выраблялі ўсё абсталяванне для папяровых фабрык. Пачатковая стаўка была адзін даляр і пяць цэнтаў за гадзіну працы.

Прыступіў я да работы першага снежня 1952 года. Завод складаўся з дзвюх асноўных частак: ліцейкі і механічнага цэха з металаапрацоўчымі станкамі: такарнымі і шліфавальнымі. Пасля мантажу «папяровай» машыны, даўжыня яе была больш за пяцьдзясят метраў.

Зразумела, пачаў работу ад нізу, у ліцейцы, дзе ачышчаў учарашнія астылыя за ноч жалезныя адліўкі ад пяску формы. Занятак быў пыльны, адліўкі былі яшчэ амаль гарачыя і даволі забруджаныя. Перад заканчэннем працоўнага дня давалі нам, работнікам, пятнаццаць хвілін на душ і замену адзення. Кожны меў у гардэробе бляшаную шафку на сваю вопратку. Усяго на заводзе працавала каля трохсот чалавек розных нацыянальнасцяў. Апрача карэнных амерыканцаў былі палякі, італійцы, ірландцы, шведы, фіны, партугальцы, грэкі, некалькі расейцаў і, зразумела, амерыканскія негры.

Першыя некалькі тыдняў давялося знаёміцца з працай, з супрацоўнікамі, дырэктарам, з майстрамі, якіх у Амерыцы завуць босамі. Адзін з маіх босаў быў італійскага паходжання. Аднойчы, пры нейкай аказіі, я адазваўся да яго па-італійску. Здзівіўся і пытае, адкуль ведаю. Я сказаў, што ў вайну два з паловай гады ваяваў там і трохі навучыўся. Пасля гэтага ён любіў перакінуцца са мною колькімі словамі па-італійску.

Праз пару месяцаў прапанаваў мне працу пры абслугоўванні печы, у якой плавілі жалеза. Я папрасіў, каб паказалі, у чым гэтае абслугоўванне палягае: спачатку паспрабую, а потым дам адказ. Даведаўся, што кожны дзень зранку трэба падрыхтаваць печ для плаўкі чыгуну і лому. Пасля абеду расплаўлены метал залівалі ў формы, падрыхтаваныя да абеду. Затым печ тушылі, а рэшткі плаўленага жалеза, дзындра ды вапна заставаліся на дне печы, пакуль тая астыне.

Печы былі дзве — на выпадак, калі адну давядзецца рамантаваць. Яны стаялі на чатырох «нагах», а дно, як астыне, адкрывалася двума паўкруглымі клапанамі ўніз, і ўсе рэшткі з папярэдняй плаўкі падалі долу. Вось іх і трэба было вывезці. Гэта была адна з работ пры печы. Затым неабходна было падрыхтаваць на заўтра дзве тачкі вогнетрывалай гліны і выканаць некалькі іншых дробных работ.

Пазнаёміўшыся з усёй працэдурай і ўмовамі працы пры печы, даў згоду на «новую пасаду». Атрымаў дзесяць цэнтаў прыбаўкі за гадзіну. І ў мяне за саракагадзінны тыдзень працы выходзіла ўжо сорак шэсць даляраў. З іх вылічвалі падаходны і штатаўскі падаткі, разам каля дваццаці адсоткаў. Такім чынам, на рукі кожны чацвер атрымліваў трыццаць сем даляраў. Жонка на пачатку зарабляла каля дваццаці васьмі даляраў на тыдзень. Разам мелі шэсцьдзесят пяць, а за месяц — каля двухсот шасцідзесяці даляраў. З таго заробку аддавалі дваццаць пяць даляраў на тыдзень за кватэру, каля ста дваццаці даляраў на ежу, газ і электрычнасць, 12 і 50 даляраў на выплату крэдыту за мэблю, якой узялі на суму сямсот даляраў. Рэшта грошай ішла на іншыя дробныя выдаткі. Была ўжо зіма, і нам абаім неабходна было купіць штосьці цёплае з вопраткі і абутку. Жонка купіла паліто, а я — ватную куртку.

Новую работу хутка асвоіў і так распланаваў, што, усё зрабіўшы, меў час на кароткі адпачынак, на папяросу і кубак кавы. А найбольш падабалася мне, што ніхто ў маю працу не ўмешваецца. Аднак, асабліва зімой, даваўся ў знакі падвей. Давялося купіць цёплую камізэльку.

У Віткоўскіх жылі чатыры месяцы. У канцы сакавіка 1953 года знайшлі трохпакаёвую кватэру з ваннай у пажылых людзей Сямашкаў, якія прыбылі ў Амерыку перад Першай сусветнай вайной з Ашмянскага «ўезду». Гаварылі яны па-польску, але з выразным беларускім акцэнтам.

Трэба было дакупіць стол, крэслы, халадзільнік, трохі каструль ды талерак. З купляй — чаго б там ні захацеў — у Злучаных Штатах ніколі не было праблемы, нават у крэдыт. Адзінай умовай было мець працу, і паводле дамовы трэба было сплачваць адпаведную суму кожны тыдзень або месяц. Набралі мэблі нешта на сямсот даляраў, але, працуючы ўдваіх, з выплатай спраўляліся.

Пасля паўтарагадовай працы ў ліцейцы знайшоў работу ў масарні (каўбаснай фабрыцы), дзе лепш плацілі і было чысцей. Працаваць давялося ў халадзільні, дзе заўсёды — зіма ці лета — тэмпература плюс восем – дзесяць градусаў. Тут часта надараліся звышурочныя гадзіны, за якія плацілі сто пяцьдзясят адсоткаў, таму заробак даходзіў да 70–75 даляраў чыстымі пасля адлічэння падаткаў і на пенсію. За тыднёвы заробак можна было апрануцца: купіць мужчынскі гарнітур сярэдняй якасці за трыццаць пяць даляраў, кашулю з гальштукам за сем — дзесяць даляраў, пару лёгкага абутку таксама за сем — дзесяць даляраў, шапку або капялюш за чатыры — восем і яшчэ на піва заставалася. Пачалі з жонкай думаць, каб набыць тэлевізар, але пакуль задаволіліся вельмі добрым настольным радыёпрыймачом, які купілі ў камісійнай краме, дзе прадавалі ўжываныя рэчы.

Як і ўсе навасельцы, пачалі мы знаёміцца з старэйшай эміграцыяй. Яны мелі ўжо тут значны даробак. Пабудавалі касцёлы з школамі, у якіх дзяцей вучылі мове бацькоў: польскай, летувіскай, шведскай — кожнае нацыянальнае таварыства ці клуб. Было таксама Таварыства ветэранаў Польскага войска ў Амерыцы. Гэта былі жаўнеры Першай сусветнай вайны, гэтак званыя галерчыкі з «Блакітнай арміі», якія ваявалі ў Францыі. Яны прапанавалі нам, жаўнерам Другой сусветнай вайны, далучыцца, павялічыўшы такім чынам арганізацыю ветэранаў. (А было ўжо нас у гэтым горадзе каля сотні чалавек.) Прапанову мы прынялі, стварыўшы Związek Weteranów Armii Polskiej — суполка № 52 у горадзе Ворстэр, у якой зарэгістравалася блізу ста трыццаці сяброў. З таго часу

пачалі мы браць удзел у агульнаамерыканскіх урачыстасцях ды ў польскіх імпрэзах. Наладжвалі сяброўскія вечарыны, танцы, сходы і штогадовыя з'езды ветэранскіх акругаў. Сход суполкі праводзілі ў апошнюю нядзелю кожнага месяца, за выняткам ліпеня і жніўня, каб не псаваць сябрам летняга адпачынку. Мелі ўласную сядзібу, вельмі прасторную, з барам, залай для сходаў, кухняй і вялікай танцавальнай залай на першым паверсе, дзе ладзіліся танцы, вяселлі, банкеты і нават хрэсьбіны. Кола прыяцеляў і знаёмых пашыралася. Мая другая Айчына сталася для нас, уцекачоў, зямлёй абяцанай, шчодрай і сапраўды вольнай.

Пасля чатырох гадоў знаходжання ў Амерыцы, у 1956 годзе, працуючы і патроху ашчаджаючы, мы купілі новую машыну фірмы «Ford». Цана яе на той час — дзве тысячы дзвесце дваццаць даляраў. Зразумела, што машыну ўзялі ў крэдыт на паўтара года, заплаціўшы пяцьсот даляраў задатку.

Працаваў я па дзесяць гадзін у дзень, сорак пяць гадзін на тыдзень. А плацілі за сорак сем з паловай гадзін. Зарплата пасля вылічэння падаткаў — блізу ста даляраў за тыдзень. Жонка зарабляла каля шасцідзесяці даляраў.

Пасля пяцігадовага знаходжання ў Штатах мы падалі заяву на грамадзянства. Пазней была асабістая сустрэча з прадстаўніком дзяржавы, у дадзеным выпадку з суддзёй, які распытваў нас трохі пра гісторыю Штатаў, характар улады, пра заканадаўчыя, выканаўчыя і судовыя органы. Праз пару тыдняў усе, хто стараўся атрымаць грамадзянства, сабраліся ў вялікай зале, паслухалі прамову пра абавязкі грамадзянаў і склалі прысягу на вернасць Рэспубліцы Злучаных Штатаў. Праз тыдзень кожны з нас атрымаў пасведчанне грамадзяніна. Тады я змяніў сваё імя Мікалай на ангельскае Nicholas.

Амерыканскае грамадзянства спатрэбілася жонцы і мне, бо ў ліпені 1960 года мы наважыліся паехаць у Польшчу, дзе рэжым камуністаў дапусціў нейкую нібы «адлігу» і дазволіў эмігрантам адведаць сваю сям'ю і радню. Я перапісваўся з нашымі суседзямі з Валожына, якія пераехалі з Беларусі на гэтак званыя Ziemie Odzyskane (вернутыя землі), у Бранева ў колішняй Прусіі. Наперад папрасіў іх, каб выклікалі да сябе ў госці маю маму, каб такім чынам спаткацца з ёю. Аднак папярэдзіў, каб ні ў якім разе не пісалі ёй, што я з жонкай прыеду ў Польшчу.

Так яно і сталася. Мы плылі на пасажырскім караблі «Batory» цягам адзінаццаці дзён і дзесяці начэй — з Манрэаля ў Гдыню. Мама атрымала дазвол на дваццацідзённае знаходжанне ў Польшчы. Спаткаліся мы ў нашых суседзяў і правялі разам пятнаццаць дзён — пасля 19-гадовай разлукі. Былі гэта для мамы і для нас мілыя і радасныя хвіліны. Вядома ж, шмат чаго даведаліся пра падзеі мінулых ваенных гадоў.

Тое спатканне з матуляй — наймілейшая сустрэча з усіх, што выпалі мне ў жыцці. Пайшоў з хаты сямнаццацігадовым падлеткам, а гэтым разам меў трыццаць восем гадоў і быў жанатым мужчынам. Развіталіся са слязьмі радасці і шчасця, што літасцівы Бог дазволіў нам пабачыцца. Пасля вяртання ў Валожын мама сказала Валі ды сваім братам і сёстрам, іншым крэўным, што цяпер ужо можа спакойна памерці, бо ўбачыла сына і нявестку. Але матуля яшчэ жыла дзесяць гадоў пасля нашага спаткання і памерла ў сакавіку 1970 года, пражыўшы семдзесят сем гадоў.

На зваротным шляху з Гдыні ў Манрэаль мы ўбачыліся з канадскімі ўкраінцамі, якія пасля візіту ў Савецкі Саюз таксама плылі «дадому». І якім згодным гуртам тыя людзі плылі ў Польшчу, а затым цягніком праз Польшчу ехалі на савецкую Украіну, гэтак, падзеленыя на малыя купкі, вярталіся і былі выразна незадаволеныя з таго, што ўбачылі ў бацькоўскіх краях. Адна жанчына нават не спрабавала хаваць сваёй злосці да савецкіх уладаў. Казала, што ёй не дазволілі прыехаць у родную вёску, толькі пасялілі ў нейкім гатэлі ў Крамянцы, а яе родных прывезлі аўтобусам у гэты гатэль, каб з ёю ў сталоўцы

спаткацца і паразмаўляць. Падчас усяго спаткання з родзічамі круціўся побач нейкі «анёл-страж» з тайнай савецкай паліцыі, то яе родныя баяліся размаўляць шчыра, і размова зусім не клеілася.

Як плылі ў Польшчу, то размаўляў з адным украінцам, які эміграваў у Канаду ў 1928 годзе як польскі грамадзянін і цяпер ехаў наведаць месца нараджэння і крэўных. Я адразу заўважыў, што ён быў «памаляваны на чырвона» і поўны сімпатыі да савецкай сістэмы. Ведаючы, што яго чакае прыкрае расчараванне, я парадзіў яму больш прыглядацца не да таго, што яму будуць паказваць, а да таго, што не будуць паказваць.

На зваротным шляху ў Амерыку той ягамосць цураўся мяне. Толькі знаходзячыся на тэрыторыі Канады, калі карабель плыў ужо па рацэ Святога Лаўрэна, падышоў і сказаў, што я яму добра парадзіў. І цяпер ён мае зусім іншы погляд на гаспадарчае і палітычнае жыццё ў камуністычнай сістэме: з тым, што там ёсць, нас яны ніколі не дагоняць. Нездарма людзі кажуць: «Вер не сказу, а паказу».

Візіт у Польшчу з падарожжам цераз акіян доўжыўся сем тыдняў, але для нас быў удалы і цікавы.

Крыху нам гэта каштавала, але на тое і грошы, каб, зарабіўшы іх, на нешта патрэбнае траціць. Неабходным у дадзеным выпадку было падарожжа ў «народную» Польшчу. Шмат чаго там малпавалася з Савецкага Саюза, аднак шмат было рэчаў адрозных, больш практычных у штодзённым жыцці.

Пасля такога доўгага няробства трэба было зноў вяртацца да фізічнай працы, бо, не маючы прафесійнай падрыхтоўкі, толькі ёй мы і маглі займацца. Шчыра скажу, што мы не лічылі сябе прыгнечанымі капіталістамі: за нашу цяжкую працу нам прыстойна плацілі. Пасля трохгадовага знаходжання ў Штатах купілі мэблю для трох пакояў і новы аўтамабіль. Былі мы прыгожа апранутыя і добра харчаваліся. Вольным часам хадзілі ў кіно, у суботу часта — на патанцулькі. Летам таксама ў суботу ездзілі на атлантычныя пляжы, каб пакупацца і пагушкацца на марскіх хвалях.

Пасля вяртання з Польшчы мінула амаль два гады. Пачалі з Марысяй, маёй паловай, думаць пра набыццё дамка, дзесьці не пры галоўнай дарозе, каб мець крыху зямлі пры доме на кветнік і агародзік.

Увесну 1962 года пачалі шукаць. Надарылася нам убачыць дом з таблічкай перад ім і надпісам «House for sale» (дом на продаж). Затрымаліся каля яго, спадабаўся. Падышлі да дзвярэй і націснулі на гузік званка, але гаспадароў не было дома. Пастанавілі вярнуцца наступнага дня ўвечары.

Так і зрабілі. Уладальнікі былі дома. Мы назвалі сябе і папрасілі паказаць нам дом усярэдзіне і панадворак, а дакладней, дзялянку, на якой гэты дом быў пабудаваны. Гаспадары ахвотна згадзіліся і запрасілі ў дом, каб мы маглі ўсё агледзець.

Дом не такі ўжо і вялікі, але былі чатыры пакоі, купельня, дзве спальні, вялікі пакой для адпачынку, як тут, у Амерыцы, называюць, франтовы, — з канапай, мяккім крэслам, тэлевізарам, а таксама даволі выгодная кухня, дзе стаяла печка для гатавання, шафкі для начыння, стол з чатырма крэсламі.

Пад усім домам знаходзіўся склеп, толькі не такі, як звычайна ў нас. Дом быў пабудаваны на скале — надзейны падмурак! Ды менавіта таму палову склепа выкапалі, а дакладней, высеклі на глыбіню толькі нейкіх паўтара метра. Але другая палова глыбейшая: амаль два метры. Там стаяла печка на газу, якой зімой абаграваўся дом, было месца для пральнай машыны і вялікая ракавіна. На двары па-за домам было гэтак званае шамбо на сцёкі з купельні і кухні.

Цана за дом і гараж узбоч дома — дванаццаць тысяч даляраў. Уся сядзіба нам спадабалася, дый кошт не занадта высокі. Пасля кароткай нарады Марыся і я вырашылі той дом купіць.

Наступным днём паехалі ў банк, дзе мелі ашчадны рахунак, дамовіцца пра пазыку адзінаццаці тысяч даляраў на купчую. У такім выпадку банк пасылае свайго спецыяліста па нерухомасці агледзець дом і пасля праверкі паведамляе пакупнікам, колькі можа пазычыць, на колькі гадоў размеркавана сплата і пад які працэнт. Звычайна банкі патрабуюць, каб пакупнік меў пяць або сем адсоткаў уласных грошай на задатак. Мелі тысячу даляраў уласных грошай, пазычылі адзінаццаць тысяч на пятнаццаць гадоў сплаты пад 4,75 адсоткаў.

Уся працэдура куплі доўжылася адзін месяц, плюс адзін месяц даецца ранейшым уласнікам на высяленне. Так цягам няпоўных двух месяцаў сталі гаспадарамі ўласнага дома, праўда толькі намінальна, бо дом, хутчэй, быў уласнасцю банка, які нам даў пазыку. Банк таксама раз на год інспектаваў усю ўласнасць — ці ўладальнік часам не занядбаў будынак.

Перад домам рос даволі стары дуб, а за домам таксама было пару дубоў, маладая ялінaчка і пару хвоек; акрамя гэтага, перад домам каля ганку расло шэсць вечназялёных шыпулькавых кустоў, якіх штолета падстрыгалі. Жылі мы ўжо ў сучасным свеце, бо нават мелі тэлефон, які пачаў уваходзіць у моду.

Я ў масарні пачынаў працу а шостай гадзіне раніцы, а Марыся — толькі а палове восьмай. Я ехаў на працу ўласным аўтамабілем, а жонка ехала пазней аўтобусам. А ўжо з працы часта вярталіся разам.

Як я ўжо згадваў, наш дом быў збудаваны на скале, на моцнай апоры, але калі шмат дзён ішлі моцныя дажджы, праз скальныя шчыліны ў склеп працякала вада. Не было яе так шмат, можа два-тры вядры, пра што гаспадары, якія нам дом прадалі, папярэдзілі. Пазней я купіў спецыяльны цэмент і цалкам замураваў месцы, дзе працякала вада.

Мы пазнаёміліся з новымі суседзямі і неўзабаве пасябравалі. З аднаго боку жыў швед з паходжання, жанаты з фінкай. Яны мелі трох дзяцей школьнага ўзросту. З другога — былі канадскія французы з Квэбэка, якія мелі дзвюх дачок: адну ўжо замужнюю, а другую гатовую «да адлёту». Усё «грала» як мае быць, было прывольна і прыемна ў невялікай мясцовасці, што называлася Лестэр (Leicester).

Жылі мы ў нашым доме ўжо пару гадоў. Надышоў год 1964-ы. Таго лета ў канцы ліпеня — пачатку жніўня ў нашым штаце ў невялікай мясцовасці Орыдж (Orage) былі наладжаны Міжнародныя спаборніцтвы парашутыстаў. Прыехалі спартоўцы ці не з трыццаці краін, у тым ліку з Расеі (вельмі шмат), каманды краін «народных дэмакратый»: Польшчы, Чэхаславакіі, Балгарыі, Вугоршчыны і Румыніі. Была пара школьных канікулаў, таму парашутыстаў з абслугай пасялілі ў навакольных школах, а харчаванне прывозілі аўтамашынамі.

Цікаўнасць да таго парашутнага турніру была вельмі вялікая. Кожны дзень з’яўлялася вельмі шмат людзей, каб назіраць за гэтым незвычайным міжнародным спаборніцтвам.

У суботу мы не працавалі, у нядзелю таксама, дык я дамовіўся з прыяцелем, каб паехаць у Орыдж, аддалены ад нашай мясцовасці на нейкія пяцьдзясят кіламетраў, паглядзець на парашутыстаў, як скачуць. Мой калега быў з жонкай і шасцігадовай дачушкай дый я з сваёй жонкай.

На месцы паркінг для аўтамабіляў быў вялізны, таму з паркоўкай нашага самаходу не было праблемы. У Орыджы быў сучасны, добра падрыхтаваны спартыўны аэрадром, таму не дзіўна, што там менавіта гэтыя скокі адбываліся. Людзі ж проста сядалі на прывезеныя з сабою складныя крэслы або на разасланы на траве дыванок.

Сярод гледачоў знаходзіліся і ўдзельнікі спаборніцтва, і калі самі якраз не скакалі, то ўважліва прыглядаліся, як скакалі іншыя. Недалёка ад нас прысела на траве купка расейцаў, можа з дзесяць асобаў, у тым ліку дзве жанчыны. Яны размаўлялі між сабой і аглядалі парашутыстаў ды сабраных навокал гледачоў.

І тут жа паміж сабранымі круцілася некалькі гандляроў марожаным. Людзі куплялі, бо было горача. Праходзячы, прадавец прыпыніўся каля расейцаў, і тады я пачуў, як адзін з іх звярнуўся да іншага з пытаннем: ці мае дробныя грошы, каб купіць марозіва. Той адказаў, што не мае. Зразумела, размова вялася па-расейску. Пачуўшы, што той не меў «мелочи» на марозіва, я падышоў да прадаўца і кажу яму, каб кожнаму з расейцаў даў порцыю, а я з ім разлічуся. Так ён і зрабіў, трохі тым уразіўшы расейцаў. Але марозіва прынялі, і як убачылі, што я заплаціў, то адзін з іх кажа: «Большое вам спасибо за угощение». Адказаў яму тады, па-расейску зразумела: «Пожалуйста, мне приятно было это сделать». Здзівіла гэта іх, што ведаю расейскую мову, і адзін з іх, што меў імя Алег, запытаўся, дзе я навучыўся расейскай.

Сказаў ім тады, што з'яўляюся польскім ураджэнцам з Заходняй Беларусі і пасля гэтак званага вызвалення хадзіў у савецкую школу, потым трапіў на «принудиловку» ў Карэлію, а пасля нападу немцаў на Савецкі Саюз уступіў у Армію генерала Андэрса і ў шэрагах гэтай арміі пакінуў «по закону» Савецкі Саюз у 1942 годзе. А той Алег адразу: «Ну да, вы удрали, вы не хотели вместе с нами воевать с германцем». Не столькі мяне гэта здзівіла, колькі раззлавала. Стрымліваючы гнеў, кажу яму: «То, можа, вы мне скажаце, як мы гэты цуд зрабілі? Як Польская армія, якая налічвала семдзесят пяць тысяч жаўнераў і трыццаць пяць тысяч сем'яў тых жаўнераў, размешчаная ў шасці ці сямі гарнізонах ва Узбекскай ССР, без зброі, абсалютна без транспарту, без аніякіх сродкаў забеспячэння і харчу магла "удрать" у Іран, аддалены ад Узбекістана на шэсцьсот або семсот кіламетраў? А праўда такая — кажу таму "бальшавіку" — што вяліся перамовы савецкага ўрада з аднаго боку ды польскім і ангельскім урадамі з другога боку, і нарэшце нас эвакуявалі праз Іран у Ірак, дзе нам далі найноўшую зброю ды навучылі ёю карыстацца. І калі апынуліся ў Італіі, далучаючыся да 8-й брытанскай арміі і 5-й амерыканскай, былі мы адной з найлепшых баявых адзінак на італійскім фронце».

Адзінае, што той «бальшавік» тады сказаў: «Мы вам не доверяли и поэтому вас выпустили».

Рэшта расейцаў нават не азваліся, але ўважліва слухалі, што я кажу. Амерыканцы, якія знаходзіліся непадалёку, звярнулі ўвагу на нашу размову, хоць нічога, вядома, не разумелі.

Напрыканцы я звярнуўся да іх усіх і запрасіў чатырох з іх — хто захоча, бо гэтулькі мог узяць у аўтамабіль, — да сябе ў госці. Кажу ім, што зробяць мне з жонкай прыемнасць і гонар, калі пабудуць пару гадзін у нашым доме. Сказаў, што жыву недалёка адсюль, што іх завязу да сябе, пачастуем, паглядзяць, як жыве ў Амерыцы «рабочий класс», і прывязу назад. Зразумела, майго запрашэння не прынялі, адгаварыўшыся недахопам часу, але за прапанову падзякавалі.

Праз тыдзень мы зноў паехалі ў Орыдж паглядзець на паветраных акрабатаў.

Купіў і прыгожа запакаваў гасцінец для Алега. Былі гэта прылады для галення. Нічога незвычайнага — машынка для бяспечнага галення, дваццаць лёзаў, пэндзаль і мыла. Купіў таксама пару кавуноў, каб частаваліся.

Кожная група спартоўцаў мела пастаўленыя вялікія шатры, таму адразу пайшоў да савецкага шатра і папытаўся ў нейкага начальніка (падаючы тыя кавуны для савецкіх парашутыстаў, каб пакаштавалі), ці мог бы пабачыцца з Алегам. Ён адказаў, што Алег гэтым днём дрэнна пачуваецца і застаўся ў кватэры. Не было іншага выйсця, як аддаць пакунак таму дзяжурнаму з просьбай перадаць Алегу. Ці перадаў ён мой гасцінец, не ведаю.

Але зусім не здзівіўся б, калі б Алег трапіў у няласку да якога-небудзь «анёла-стража» з ліку іх палітрукоў за правакацыйную размову з «изменником».

Гэтак скончылася маё апошняе спатканне з савецкім поглядам на свет. У той жа час, прыкладам, польская група парашутыстаў гасцявала ў Польска-Амерыканскім грамадскім клубе ў горадзе Горстар (Horcester). Кіраўніцтва клуба выслала спецыяльны аўтобус, забралі іх з Орыджа, прывезлі ў клуб. Там гасцей пачаставалі абедам з напоямі, іграў танцавальны аркестр, усе размаўлялі, смяяліся і спявалі. І хоць у Польшчы яшчэ быў рэжым «партыі рабатнічай», аднак была нейкая большая талерантнасць да суайчыннікаў.

Парашутныя спаборніцтвы закончыліся. Спартоўцы паказалі, што ўмелі, а сапраўды было на што паглядзець. Здаецца, найлепей выступіла каманда новазеландцаў.

Жылі мы ў мястэчку Лестэр, але працавалі з жонкай у горадзе Ворстэр, аддаленым ад нашага дома на пяць кіламетраў. У Ворстэры было шмат рознай прамысловасці, крамаў і малых фабрычак, а таксама ажно чатыры вышэйшыя навучальныя ўстановы. Сам горад налічваў каля ста васьмідзесяці тысяч жыхароў. Месцаў для працы было шмат, і толькі той не працаваў, хто не хацеў. Прыкра, але ў Амерыцы таксама ёсць такія гультаі, што прыкідваюцца хворымі, няздатнымі з нейкай прычыны да працы.

Дзесьці ў 1960-я гады амерыканскі ўрад прызнаў за намі, як альянтамі, поўныя камбатанцкія правы.

Увесну 1964 года мы з жонкай вымушаныя былі прыняць важнае рашэнне. Як ужо ўспамінаў, я пачынаў працу ў масарні а шостай раніцы, а жонка на паўтары гадзіны пазней. Я ехаў на працу на нашым аўтамабілі, а жонка — пазней на аўтобусе. Дык вось тым аўтобусам ездзіла вельмі мала людзей, і транспартная фірма з увагі на тое, што маршрут прыносіць адны страты, пастанавіла яго не абслугоўваць.

Калі жонцы ездзіць са мною, дык у горадзе ёй дзесьці трэба было знаходзіцца цэлую гадзіну. Каб з кім іншым даязджаць, то ніхто з суседзяў акурат у гэты час не ехаў. І што рабіць? Прадаць дом і пераехаць або купіць іншы дом недзе паблізу адпаведнага аўтобуснага маршруту? Можна было б купіць нейкі другі, ужываны самаход: людзі так часам і рабілі. Але Марыся яшчэ не ўмела ездзіць, хоць я і намаўляў, каб пайшла на шафёрскія курсы. Я спрабаваў вучыць яе сам, але калі казаў, як і што рабіць, то яна мне ў адказ гыркала. Таму, думаю, як пойдзе на курсы, то не будзе мець адвагі спрачацца з інструктарам.

Спаткаўшы калегу-ветэрана, які жыў з сям'ёй ва ўласным доме непадалёку аўтобуснай лініі і галоўнай дарожнай артэрыі, падзяліўся з ім сваім клопатам. А ён мне кажа, што якраз цяпер каля яго ёсць на продаж зямля пад дом. «Прыедзь да нас з жонкай, паглядзі, і калі ўпадабаеце, то купіце».

Паехалі агледзець тую дзялку. Яна выглядала прывабна: тысячу шэсцьсот квадратных метраў абшару пры канцы вуліцы. Там раслі асіны, клёны, дзікія вішні і кусты. Далей было залесенае ўзвышша, а за ўзвышшам — даліна з вадасховішчам пітной вады. Зайшлі да ўласніка папытацца пра кошт. Прасілі тысячу сто даляраў. Цана, як на той час, не завышаная. Параіўшыся, наважыліся купіць зямлю і пабудаваць новы дом, а той, у якім мы жылі больш за тры гады, прадаць. Хутка знайшлі і купца, дамовіліся пра кошт. Наш банк пагадзіўся, каб пакупнік пераняў нашу пазыку, і выдзеліў нам новую пазыку шаснаццаць тысяч даляраў на пятнаццаць гадоў. Зрабілі дамову з будаўнічай фірмай, і ў жніўні 1966 года праца пачалася. Але перш мы мусілі ачысціць дзялку ад некаторых дрэваў і кустоў. Зрабілі гэта самі, крыху дапамаглі прыяцелі, і ўсё пайшло без асаблівых цяжкасцяў.

Мелі толькі тры месяцы часу, каб выселіцца з старога дома. Будаўніцтва ішло даволі хутка, і на свята Божага Нараджэння 1966 года мы ўсяліліся ў новы дом, які меў пяць пакояў, ванну, склеп і вялікі гараж пад домам. Усё будаўніцтва і зямля каштавалі нам васямнаццаць тысяч пяцьсот даляраў, і жылі мы ў гэтым доме дваццаць тры гады.

Зімой 1966–1967 года на двары нельга было нічога рабіць. А ўвесну, як пацяплела і падсохла, я пачаў даводзіць панадворак і сялібу да ладу.

Купілі некалькі тонаў зямлі, якую ў вольную часіну тачкай развёз ды зараўняў тэрыторыю, а потым засеяў травой. Пакінуў тры клёны, што раслі тут, на нашай зямлі, бо не люблю голай тэрыторыі каля дома. Пасадзіў дзве «срэбраныя» нарвежскія яліны, арабіну і ліпку, а таксама жываплот уздоўж вуліцы. У куце сядзібы ўскапаў дзялку — чатыры на пяць метраў, пад агародзік, а каля дому — пад кветнік. Усё лета 1967 года было прысвечанае парадкаванню тэрыторыі вакол дома.

Таго ж году мелі мы таксама госцю з Англіі. Прыязджала дачка валожынца Мікалая Белановіча з Касцельнай вуліцы, якая толькі што закончыла школу. Ён і я зналіся з дзяцінства, хадзілі ў тую самую школу, ён на тры гады быў старэйшы за мяне. Палеткі нашых бацькоў былі толькі праз дзве мяжы. Ягоны бацька і мой служылі ў царскай арміі падчас Першай сусветнай вайны.

Пасля «вызвалення» нас саветамі Мікалая арыштавалі. Сядзеў у валожынскай турме ў падвале аднаго з Тышкевічавых палацаў, быў асуджаны чорт ведае за што! Завезлі яго ажно на Кольскую паўвыспу ў канцлагер. Пасля нападу немцаў на Савецкі Саюз амніставалі. Як і я, уступіў у Польскае войска і з той арміяй выехаў на Блізкі Усход.

Удалося нам сустрэцца толькі ў Італіі ў 1944 годзе па-над Адрыятыкай. З таго часу ўсе наступныя гады, хоць і раздзяляў нас акіян, не губляліся. У Англіі Мікалай ажаніўся з ангелькай (быў на ягоным вяселлі, а як жа!), ну і неўзабаве стаў бацькам: знайшлася ў яго сям'і дачушка Альжбета. Вось яе мы і запрасілі да нас, каб правяла месяц вакацыяў у Злучаных Штатах. Тады яна мела васямнаццаць гадоў. Дзеўчына гэтага гасцявання ў Амерыцы не забыла. Праз усе наступныя гады перапісвалася з намі. Вырасла, даспела, сама выйшла замуж і мае дзве дачкі, якія таксама выраслі і выйшлі замуж, і абедзве ўжо маюць па дзіцятку.

Мой сябра Мікалай Белановіч, калі пішу гэтыя словы — у лістападзе 2010 года, адсвяткаваў круглыя 90 гадоў і з'яўляецца гордым Беларусам, бацькам, дзядулем і прадзядулем.

У масарні я працаваў больш за шаснаццаць гадоў. Праца была фізічная і нялёгкая, таму ўрэшце намысліў змяніць занятак. Наступную працу знайшоў дзякуючы суседу-ветэрану, пры яго падтрымцы і рэкамендацыі. Уладкаваўся на фірму, дзе выраблялі розныя механічныя нажы: вялікія сталёвыя нажы, якія выкарыстоўваліся ў працэсе вырабу фанеры, вялікія скрабалкі для хакейных лядовых арэнаў, для папяровых фабрык, спіральныя нажы-скрабалкі для апрацоўкі скуры ў гарбарнях. У той фірме працавала шэсцьдзесят пяць чалавек.

Пачаў як інспектар (кантралёр) якасці скрабалак, бо на некаторых пасля загартоўвання часам з'яўляліся трэшчыны або рабацінне. Праз пару гадоў далі мне шанец навучыцца на аператара шліфаркі, гэта значыць шліфавальнага станка. Зарабляў менш, чым у масарні, але затое было недалёка ад дому, дый жонка працавала таксама паблізу і ў той самы час — ад сёмай уранні да шаснаццатай па абедзе. Гэта таксама нешта значыла.

Дрэвы і кусты, якія мы пасадзілі каля дому, падраслі і аздобілі сядзібу. Зрабіў некалькі птушыных домікаў і прымацаваў на дрэвах. Гняздзіліся ў іх шпакі, сініцы, амерыканскія «салоўкі», вераб'і ды нават адзін від амерыканскіх ластавак, якія звычайна робяць гнёзды ў дуплах, але ахвотна пасяляюцца ў доміках, зробленых людзьмі.

Адзін з нашых добрых знаёмых з суседняга горада гадаваў галубоў і маленькіх курак-ліліпутак. Аднойчы ён прыехаў з сям'ёй да нас у госці і прывёз пару — пеўніка і курку, на прэзент. Але дзе мне гэтае прыгожае і мілае птаства трымаць?

Часова пусціў іх, Петруся, пеўніка, і Соню, курку, пад сенцы, дзе ставіў тачку, рыдлёўкі, граблі ды іншыя прылады. Рады не рады, а мусіў сам збудаваць курнік і зрабіць агароджаны сеткай вальер, бо інакш маглі пайсці ў кусты і згубіцца або трапіць у сабачыя зубы.

Тыя куркі былі прыгожай пароды, мелі цёмна-брунатную афарбоўку з чорнымі канцамі пёраў. Выглядалі так, нібыта мелі на сабе рыбную луску.

Калі зрабіў курнік і выган, то дакупілі яшчэ чатыры куркі, той самай пароды, і мелі шмат пацехі з іх. Як мы былі дома, то выпускалі на траву на падворку. Яны там і хадзілі, розных жучкоў і чарвячкоў збіралі, а калі часам пры добрым надвор'і мы абедалі на двары ў цяньку, то немагчыма было іх ад стала адагнаць, бо таксама хацелі паспытаць тое, што гаспадар з гаспадыняй елі. Добра таксама несліся, праўда, яечкі былі невялікія, але як больш збіралася, то яечня смачная выходзіла. Сабе хапала і суседзям перападала. Сыходзілася дзятва з суседніх дамоў, каб паглядзець на «czykis», гэта значыць куранятак — малых курачак і пеўніка. А пеўнік час ад часу кукарэкаў — то была для маленства сенсацыя!

У Злучаных Штатах мы жылі ў дастатку, але не забываліся пра нашых родных, маіх у Беларусі і жончыных у Польшчы. Нешта паслаць у Польшчу было значна лягчэй, чым у Савецкі Саюз. Жонка высылала свайму брату, а таксама далейшым крэўным пасылкі з ужыванай вопраткай, абуткам, часам лекамі і нават грошы. А саветы патрабавалі, каб усё было новае, каб пасылка была застрахаваная ды мыта аплачанае — такое вялікае, як і кошт пасылкі. Калі, напрыклад, рэчаў у пасылку запакавана на сто дваццаць даляраў, то яшчэ сто дваццаць — мыта і страхоўка, бо іначай мая матуля не магла яе выкупіць. І ўжо абсалютна нельга было высылаць даляры, бо каб знайшлі, то адрасата маглі яшчэ і арыштаваць. Таму высылаў не больш за дзве пасылкі на год, каб тых «слугаў народа» не дражніць і зайздрасці не выклікаць. Не інакш было і з сястрой, якая жыла і працавала ў Малдавіі.

Дзесьці ў сярэдзіне 1970-х гадоў (не ўпэўнены, ці дакладны тэрмін, бо ў 1972 годзе бачыліся ў Польшчы) намерыўся адведаць сястру ў Малдавіі. Для гэтага патрабавалася запрашэнне ад сястры і швагра, зацверджанае мясцовымі органамі. Сястра пайшла ў адпаведную ўстанову ў раёне і тлумачыць, што хоча запрасіць брата ў адведзіны, але жыве ён за мяжою. Чыноўнік, відаць, падумаў, што гэта недзе ў адной з краін Усходняга блока, і кажа: «Пожалуйста, в какой стране он проживает?» Сястра адказвае, што ў Злучаных Штатах Амерыкі. Як ён тое пачуў, адразу вырачыў вочы і перайшоў на павышаны тон: «Что, ваш брат живет в Америке? А что же он, предатель, там делает?» Сястры гэта забалела. Хапіла ў яе смеласці сказаць апаратчыку, што брат нарадзіўся польскім грамадзянінам, што ўступіў у Польскую армію, што ў шэрагах гэтай арміі законна выехаў з Савецкага Саюза і потым на італійскім фронце змагаўся з тым самым ворагам, як і яе муж, знаходзячыся ў Чырвонай арміі.

Запрашэнне не прыйшло, я ў адведзіны не паехаў. Адным словам, «mała strata, krótki żal».

Год ляцеў за годам, ажно надышоў пенсійны век. Заведзена ў Штатах, што людзі працуюць да шасцідзесяці пяці гадоў. Але можна пайсці на пенсію і ў шэсцьдзесят два, толькі тады атрымліваеш восемдзесят адсоткаў пенсіі. Можна было ў такім выпадку знайсці нейкую часовую працу і дарабіць (відаць, лепш было б сказаць зарабіць, бо што значыць — дарабіць?) штомесяц пяць тысяч без ападаткавання.

Так і зрабіў. Пайшоў на пенсію пасля шасцідзесяці двух гадоў з дня нараджэння і знайшоў занятак прыбіральніка — пяць гадзін штодня на гарадскіх могілках. Праца на свежым паветры, пераважна ў цішы, да таго ж у кампаніі птаства і малых звяркоў: вавёрак, дзікіх трусоў. Што ні кажы, работа больш прыемная, чым на заводзе. А калі дождж ці завіруха, ішоў дахаты або з калегамі на піва.

Праз два гады жонка таксама пайшла на пенсію. Дома, як і раней, трымалі тых самых курак, мелі пару канарэек, дадаўся яшчэ каток. Аднак выявілася, што канарэйкі і каток — не найлепшая камбінацыя. Трэба было трымаць ката ў сутарэнні, а канарэек — у хаце.

У 1987 годзе нячысцік пацягнуў нас выехаць у Польшчу: там нашая пенсія дазволіць жыць у дастатку, наведаем яшчэ еўрапейскія краіны, будзем бліжэй да Беларусі, бо і там, у Савецкім Саюзе, пачынаецца «адліга». Надта ж спадзяваліся, што ўсё складзецца як найлепш. Спатрэбілася паўгода, каб вырабіць усе патрэбныя дакументы, прадаць дом у Штатах, запакаваць і выслаць марскім шляхам некаторыя рэчы. Папярэдне заплацілі за аўтамабіль польскай вытворчасці «паланэз», каб ужо ў Польшчы мець свой транспарт.

У верасні 1987 года прыехалі ў Польшчу і часова пасяліліся ў сына маёй школьнай сяброўкі з Валожына, якая з сям'ёй жыла блізу горада Бранева, што ў Ольштынскім ваяводстве.

На жаль, у Народнай Польшчы ўлада была яшчэ ў руках камуністаў, якія амаль заўсёды бралі прыклад з усходняга суседа. Як сказаў мне сам-насам адзін з новых знаёмых інтэлігентаў, камуністычны рэжым спаршывіў наш народ. Вечны балаган, заўсёдныя нястачы, хабарніцтва прайдзісветаў, хітруноў з уладных установаў. «Салідарнасць» быццам бы рабіла шмат шуму і нешта там спрабавала змяніць, але старыя звычкі, як і раней, мучылі, а некаторыя поспехі, якія ўдавалася заўважыць, і надалей кульгалі. Усюды была нястача і чэргі ў крамах.

Ужо ў кастрычніку паведамілі нам, што можам забраць нашага «паланэза», за які яшчэ ў Штатах заплацілі тры тысячы даляраў. Праз шэсць месяцаў удалося нам набыць за дваццаць тысяч даляраў вельмі харошы дом у Ольштыне.

Крыўдзілі нас, аднак, пры абмене даляраў нашай пенсіі на злотыя. Тым часам, калі нам мянялі адзін даляр на 28–29 злотых, на чорным рынку плацілі 80–90 і нават па 100 злотых за даляр. За прэм'ерам М. Ракавецкім ставіліся да нас яшчэ больш-менш прыстойна, бо сорак адсоткаў нашай пенсіі пакідалі ў далярах, а шэсцьдзесят мянялі па афіцыйным курсе (прыблізна 30 злотых за даляр). Таму грошай было яшчэ даволі, хапала на харчы, а таксама на іншыя асабістыя патрэбы. Заставалася і на замежныя ды краёвыя турыстычныя паездкі. Але пасля нам прызначылі гэтак званы падатак ад прыбытку, у дадзеным выпадку ад нашай амерыканскай пенсіі, якую штомесяц нам прысылалі з Штатаў. Пачалося даволі нявінна і сціпла — дванаццаць адсоткаў, наступнага года ўжо забіралі васямнаццаць, неўзабаве — дваццаць два, пасля — дваццаць восем і нарэшце пачалі забіраць ажно сорак два адсоткі.

Гэта ўжо быў «rozbój w biały dzień» — разбой сярод белага дня. Не было іншай рады: або сядзець у Польшчы і быць рабаваным урадам «Салідарнасці», або вяртацца ў Штаты. Вырашылі з жонкай пазбыцца ўсяго, што ўдасца — прадаць, рэшту параздаваць знаёмым і вярнуцца ў Штаты. Дом прадалі за «астранамічную суму» — дзевяцьсот мільёнаў злотых, што ў пераліку на даляры склала сорак тысяч.

Вярнуўшыся ў Штаты ў 1993 годзе, пасяліліся ў вядомым нам невялікім гарадку Вэбстэр у штаце Масачусетс…

І на гэтым, хіба, закончу свой жыццяпіс, бо набліжаюся да жыццёвай рысы.

*Мікалай Махнач*
*2010–2011 гады*
*Вэбстэр, ЗША*

## З ЛІСТАВАННЯ

*З ліста Мікалая Махнача*
*да Яўгеніі Чаплінскай (Белановіч)*
*ад 9 чэрвеня 2010 г.*

Serdeczne dzięki za dwa ciekawe artykuły z waszej gazety, które otrzymałem dzisiaj. Ciekawa i tragicznie smutna historia Jakuba Konana po jego powrocie na Бацькаўшчыну wcale mnie, znając sowieckie opresyje, nie zdziwiła. Co mnie bardzo zdziwiło, że aż 888 byłych żołnierzy zdecydowało się wrócić do Ojczyzny? Cyż oni naprawdę myśleli że «komunistyczny drapieżca» zmieni swoje centki. Ja odrazu wiedziałem, że powrót do domu na Białoruś byłby dla mnie i wszystkich innych «śmiałych» samobójstwem. Okazało się w rzeczywistości słuszne. Jeszcze mogę rozgrzeszyć tych co mieli żony i dzieci na Białorusi czy w Polsce, ale samotnym leźć z powrotem do paszczy «smokowi» było niewytłumaczalnym.

Nie znam dokładnej liczby «powrotowiczów», ale powróciło może do Polski i na byłe Kresy Wschodnie nie więcej niż 17–18 % polskich żołnierzy. A było nas wszystkich żołnierzy, lotników i marynarzy przeszło 200 tyś. 1-szy Korpus w Wielkiej Brytanii i 2-gi z Włoch. Mało kto o tem wie, że Polskie Siły Zbrojne na zachodzie po Anglikach i Amerykanach były 3-cie najliczniejsze w bojowych akcjach na zachodnim froncie. A nawet do tego doszło, że kiedy po zwycięskim zakończeniu wojny, była ogólna «defilada zwycięstwa» w Londynie, to żeby nie drażnić Stalina i jego «oprawców» nie zezwolono polskim oddziałom brać udziału w pochodzie.

Dopiero teraz nie dawno «wyszło szydło z worka», że to zrobiono na rozkaz gen. Dw. Ejsenhawera Dowódce Zbrojnych Sił Sojuszniczych na Zachodzie. Potraktowano nas jak najbardziej po «macoszemu». Zaraz też cofnięto uznanie dla Rządu Polskiego w Londynie i staliśmy «wojskiem bezdomnym». Dobrze że nas Brytyjczycy nie zmuszali do powrotu do Kraju, uważali że coś jednak nam byli winni, i obeszli się z nami naogół po ludzku, pomagając albo osiedlić się w Wielkiej Brytanii, albo pomóc w emigracji do innych kpaiów, jak Stany Zjednoczo, Kanada, Australia, Argentyna i inne…

*З ліста Мікалая Махнача*
*да Яўгеніі Чаплінскай (Белановіч)*
*ад 24 студзеня 2011 г.*

Darahaja maja Siabroŭka Gienia!

Nareszcie otrzymałem Twój liścik z dnia 11-go listopada zeszłego roku, oraz broszurkę — modlitewnik «Хвала Богу за всё». Bardzo długo to szło, ale w końcu otrzymałem.

Dziekuje też za kopję fotografij i wycinek z gazety z portretem «Dziadka Piłsudskiego», który spowodował dużo wspomnień ze szkolnych lat. Jest to kopia aficyjalnego portretu, który, napewno pamiętasz, wisiał na ścianie w każdej klasie? Biały orzeł w koronie po środku, na prawo od orła portret Piłsudskiego, a na lewo prez. Mościckiego. Później, po Jego śmierci, doszedł portret Rydza-Śmigłego. …Był jeszcze krzyz, tylko dokładnie nie pamiętam, gdzie był umieszczony. Jak nas troche uczono o życiorysie «Dziadka», to pamiętam, że jak był podrostkiem w majątku Zułowie, gdzieś koło Swięcian, to go nazywano «Ziukiem». Czemu «Ziukiem» akurat? Ja myslę że tą «zagadką» rozwiązałem. Bo w majątku przecierz pracowały «parobki-Białorusy» i Juzio pewnie często między nimi się kręcił i jego pewnie nazywali: panicz Juziuk, jak to jest w białoruskiej wymowie: Piatruk, Wincuk, Antuk, Stasiuk i t. d. Poniewarz Juziuk po polsku nie zbyt ładnie brzmi, więc skrucono na «Ziuk» I tak go wszyscy w domu nazywali.

*З ліста Мікалая Махнача*
*да Яўгеніі Чаплінскай (Белановіч)*
*ад 2 сакавіка 2011 г.*

…Nie pamiętam dokładnie, ale kiedy polska wytwórnia filmowa wyprodukowała film «Barbara Radziwiłówna», to byliśmy całą szkołą na tym filmie, płacąc wtedy tylko 10 groszy za bilet. Normalny bilet uczniowski kosztował, chyba pamiętasz, 25 gr.?

Było kilka innych filmów, które oglądaliśmy na specjalnym szkolnym wyświetlaniu, jak: «Pan Twardowski», «Krzyżacy», amerykańskiej produkcji, «King-Kong» i, bodajże «Golgotę» produkcji francuskiej. Osobiście bardzo lubiałem chodzić do kina, ale kłopot był w tym, że dla mnie, i nie tylko dla mnie, suma 25-ciu groszy była nie osiągalna, to też próbowaliśmy dostać się «na gapę». Otóż żołnierze, którzy w dżwiach, odrywali kupony biletowe przy wejściu na salę często potem pozbywali się tych kuponów, wrzucając z kieszeni do kaflowych pieców i, kiedy się nie paliło, to my potem ich wybierali, lekko przyklejali do starych biletów i wkładali do książki, żeby wyglądał sztywno i gładko. I choć nómery seryjne nie zgadzały się, ani data też, ale my zawsze czekali na wejście, aż się zacznie film, i wtedy przy wejściu na salę było o wiele ciemniej i udawało nam się dostać w ten sposób do środka. Widzisz teraz, Gieniu, że byłem «żulikiem» i łobuzem też.

*З ліста Яўгеніі Чаплінскай (Белановіч)*
*да Міхася Чарняўскага*
*ад 16 студзеня 2011 г.*

Скончыўшы 4-ы класы szkoły powszechnej у вёсцы Маршалкі, дзе вучыла мая мама, 5-ы і 6-ы класы канчала w siedmioklasowej szkole ў Валожыне. Гэта былі 1935–1937-ыя гады.

Каб скараціць дарогу ў школу, кожны дзень трэба было праходзіць каля жыдоўскай бажніцы, адкуль даносіўся многагалосы лямант мужчын, якія такім спосабам маліліся, каб малітву іх пачуў Бог. Мне было страшна, і я, прыспяшаючы крок, набліжалася да касцёла, з якога плыла велічная музыка аргана, яна мяне ўспакайвала. Я разумела, што раніцай людзі, кожны па-свойму, праслаўляюць Бога.

Запомнілася, як горкімі слязмі плакала — такім цяжкім падаўся мне нотны стан з яго гукарадам, што так складана размясціў свае сем нотаў паміж лінейкамі. (Дарэчы, веданне музычнай граматы дапамагло мне, будучы ўжо на пенсіі, самастойна авалодаць ігрой на сінтэзатары. Занятак гэты добра дзейнічае на настрой ва ўмовах адзіноты.)

З экскурсіі ў Вільню запомнілася Вострая брама і пліта на Росах з надпісам: «Matka i serce syna», а таксама тое, што на грошы, якія мела, купіла, параіўшыся з panią nauczycielką, маме падарунак.

На жаль, у музей Луцкевіча нас не звадзілі, хаця тады яшчэ ён, мабыць, існаваў.

*Падрыхтоўка тэксту Зміцера САНЬКО,*
*Здзіслава СІЦЬКІ, Яўгеніі ЧАПЛІНСКАЙ,*
*Міхася ЧАРНЯЎСКАГА*

# ГЕНЕРАЛ ЛУКАШ КАЛЯДКА І ЯГО ЧАС

Нельга сказаць, што імя генерал-маёра Лукаша Калядкі (19(31) кастрычніка 1887–16 траўня 1966) забытае. У 1988 г. гісторык Генадзь Каханоўскі змясціў яго фотаздымак з усімі рэгаліямі ў кніжцы пра Маладзечна[1]. У Энцыклапедыі гісторыі Беларусі і ва ўніверсальнай Беларускай Энцыклапедыі маюцца артыкулы пра яго з фотаздымкамі. Аўтар артыкулаў Віталь Скалабан паведамляе нам, што будучы генерал нарадзіўся у в. Лесуны Слуцкага павета. Пра сям'ю, пра вучобу ў двухкласным народным вучылішчы і ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, пра тое, у якіх падзеях браў ён удзел у маладосці, — пра ўсё тое мы збольшага даведаемся з апублікаваных тут генералавых успамінаў «Молодечненская история». Машынапіс успамінаў Лукаша Калядкі ды іншыя тэксты, якія друкуюцца тут, захоўваюцца Мінскім абласным краязнаўчым музеі (г. Маладзечна). І я выказваю шчырую падзяку супрацоўнікам музея за дапамогу ў падрыхтоўцы гэтай публікацыі.

«Молодечненская история», пра існаванне і месца захавання якой мне паведаміў Віталь Скалабан, заканчваецца прызывам мемуарыста ў царскае войска (1910 г.). На вайсковай службе салдат XII арміі Лукаш Калядка сустрэне Лютаўскую рэвалюцыю і будзе ўцягнуты ў вір падзей. Напярэдадні бальшавіцкага перавароту ён будзе ўдзельнікам з'езда воінаў-беларусаў Заходняга фронту, XII арміі Паўночнага фронту і Балтыйскага флоту (18–24 кастрычніка 1917 г.). На гэтым з'ездзе яго выберуць у склад Цэнтральнай беларускай вайсковай рады. А яшчэ раней салдат Лукаш Калядка стане членам Савета салдацкіх дэпутатаў XII арміі і ўдзельнікам I Усерасійскага з'езда сялянскіх дэпутатаў (Петраград, 4–28 мая 1917 г.) і будзе абраны ў Выканаўчы Камітэт Усерасійскага Савета сялянскіх дэпутатаў[2].

Бальшавіцкі пераварот заспее Лукаша Калядку ў Мінску. Нельга выключаць, што ён быў у ліку тых сяброў Цэнтральнай беларускай вайсковай рады, якія разам з Беларускім выканкамам Заходняга фронту, кіраўнікамі Беларускай сацыялістычнай Грамады і Беларускай народнай партыі сацыялістаў прынялі 27 кастрычніка Грамату да беларускага народа[3], у якой заклікалі беларусаў яднацца вакол Вялікай Беларускай Рады. Калі выканаўчыя камітэты Вялікай Беларускай Рады і Цэнтральнай вайсковай беларускай рады, а таксама Беларускі выканаўчы камітэт Заходняга фронту звярнуліся з адозвай склікаць 5 снежня 1917 г. з'езд прадстаўнікоў усяго беларускага народа[4], у ліку прыхільнікаў ідэі гэтага з'езда быў і Лукаш Калядка.

Тут трэба агаварыцца. Лукаш Калядка мог выступаць прыхільнікам склікання Усебеларускага з'езда і як сябар Цэнтральнай беларускай вайсковай рады, і як сябар Беларускага абласнога камітэта (БАК) — кароткачасовага органа, заснаванага пры Усерасійскім Савеце сялянскіх дэпутатаў, у які ўваходзілі сябры гэтага Савета з Беларусі — пераважна абмаскоўленыя сацыялісты-рэвалюцыянеры.

---

[1] Гл.: Каханоўскі Г. А. Маладзечна: гісторыка-эканамічны нарыс. Мінск, 1988. С. 34. У гэтай кнізе, як і ў папярэдняй (Каханоўскі Г. А. Маладзечна: гісторыка-эканамічны нарыс. Мінск, 1971), апавядаецца таксама пра забастоўку вучняў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі.

[2] http://mirslovarei.com/content_pol/pervyj-vserossijskij-sezd-sovetov-krestjanskix-deputatov-6690.html. Мне цікава, быў ці не быў Л. Калядка ў ліку тых 20 дэпутатаў, якія галасавалі за выбранне ў Выканкам Усерасійскага Савета сялянскіх дэпутатаў Уладзіміра Леніна. Зрэшты, рэйтынг правадыра бальшавікоў быў не самы нізкі: бацька расійскай сацыял-дэмакратыі Георгі Пляханаў, левая эсэрка Марыя Спірыдонава, Максім Горкі і слынны меншавік Іраклі Цэрэтэлі набралі яшчэ менш галасоў. Што праўда, Марыю Спірыдонаву абралі ў Выканкам ад Асобай арміі.

[3] Гл.: Турук Ф. Белорусское движение: Очерк истории национального и революционного движения белорусов. М., 1921. Рэпрынт: Мінск, 1994. С. 95–96.

[4] Тамсама. С. 97–100.

БАК хацеў перахапіць у Вялікай Беларускай Рады кіраўніцтва беларускім рухам. Ён таксама выказваўся за аўтаномны статус Беларусі ў складзе Расійскай Федэратыўнай Рэспублікі, таксама выступіў за Усебеларускі з'езд, але прапанаваў склікаць яго 15 снежня ў Рагачове. Мы бачым подпіс Лукаша Калядкі перад адпаведнай Дэкларацыяй Беларускага абласнога камітэта[5].

Тут трэба трохі адхіліцца ўбок і пацікавіцца, ці быў Лукаш Калядка дэлегатам на II Усерасійскі з'езд Саветаў сялянскіх дэпутатаў, які праходзіў у Петраградзе 26 лістапада — 10 снежня 1917 г. Як вядома, перад гэтым з'ездам бальшавікі здолелі перацягнуць на свой бок левых эсэраў на чале з Марыяй Спірыдонавай, а на самім з'ездзе яны стварылі з левымі эсэрамі блок і аддзяліліся ад іншых дэлегатаў. Так паўстаў лаяльны да бальшавікоў Цэнтральны Выканаўчы Камітэт (ЦВК) Саветаў сялянскіх дэпутатаў. Гэты ЦВК аб'яднаецца з Усерасійскім ЦВК Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў, які ў кастрычніку ўхваліў бальшавіцкі пераварот і стварыў Савет Народных Камісараў (СНК) на чале з Леніным. Цяпер, атрымаўшы падтрымку левых эсэраў і ўвёўшы іх прадстаўнікоў у склад свайго ўрада, бальшавікі маглі пачувацца больш упэўнена[6].

Праўда, праваэсэраўская частка з'езда не збіралася капітуляваць і выбрала свой ЦВК Саветаў сялянскіх дэпутатаў.

Ведаць, ці быў Лукаш Калядка дэлегатам на II Усерасійскі з'езд Саветаў сялянскіх дэпутатаў, важна таму, што гэты з'езд і Усебеларускі з'езд часткова накладваліся адзін на адзін.

Усебеларускі з'езд пачаўся 5 снежня 1917 г. у Менску, і ў ліку яго ўдзельнікаў мы бачым Лукаша Калядку. Вядома таксама, што з'езд аднагалосна прыняў першы пункт пастановы аб самавызначэнні Беларусі і аб часовай краёвай уладзе, паводле якога для кіравання Беларуссю з ліку дэлегатаў належала выбраць Усебеларускі Савет сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў.

Мы ведаем, што бальшавікі Заходняй вобласці (так яны называлі Беларусь) і фронту разагналі з'езд, але акт палітычнай рэвалюцыі быў здзейснены: беларускі народ вуснамі сваіх прадстаўнікоў выказаўся за самавызначэнне Краю. І бальшавікам урэшце давядзецца прыняць гэтае рашэнне да ведама. А пакуль тое, 18 снежня 1917 г. у дэпо Лібава-Роменскай чыгункі адбылося паседжанне «общего собрания членов 1-го Всебелорусского Съезда»[7]. На ім было вырашана «Совет Съезда объявить Временной Краевой Властью». 21 снежня Рада Усебеларускага з'езда прызнала сябе «таковой Временной Властью» і вырашыла дапоўніць свой склад «представителями крестьян, рабочих и солдат», а таксама «национальных меньшинств края в лице их социалистических партий». У той самы дзень быў сфармаваны і Выканаўчы Камітэт Рады Усебеларускага з'езда — праўобраз урада Беларусі.

Ці быў сярод удзельнікаў паседжання ў дэпо дэлегат Лукаш Калядка? Не скажу, затое пэўна ведаю, што ён — разам з Аляксандрам Бурбісам, Язэпам Варонкам, Тамашом Грыбам, Ігнатам Дварчанінам, Язэпам Мамонькам, Іванам Серадой, Аляксандрам Чарвяковым ды іншымі дзевятнаццацю дэлегатамі з'езда — быў арыштаваны, пра што можна прачытаць у пратаколе, падпісаным сябрамі прэзідыума і Рады Усебеларускага з'езда

[5] Гл.: Турук Ф. Белорусское движение. С. 105.

[6] Мажліва, гэта не адносіцца да тэмы нашага артыкула, але ўсё ж трэба адзначыць, што больш упэўнена бальшавікі сталі пачувацца ў ліпені 1918 г., калі здолелі дэлегалізаваць партыю левых эсэраў. (Здаецца, ужо ніхто з гісторыкаў не мае сумневаў наконт таго, што так званы леваэсэраўскі мяцеж у ліпені 1918-га і забойства нямецкага пасла фон Мірбаха былі спланаваныя ў ЧК. Як і замах на жыццё Леніна 30 жніўня 1918 г., калі выканаўцай тэрарыстычнага акта была абвешчаная паўсляпая эсэрка Фані Каплан.)

[7] Гл.: НАРБ. Ф. 325. Воп. 1. Адз. зах. 6. Арк. 21. На жаль, гэтыя копіі пратаколаў не засведчаныя подпісам сакратара.

(Бібліятэка АН Літвы. Ф. 21, адз. зах. 871, арк. 7). Зрэшты, арышт быў кароткачасовы. А ў студзені 1918 г. Лукаш Калядка, як піша Віталь Скалабан, быў дэлегаваны Радаю Усебеларускага з'езда ў Петраград як прадстаўнік у справах Беларусі пры СНК Расіі.

У Выканаўчым Камітэце Рады Усебеларускага з'езда не выключалі збройнага сутыкнення з бальшавікамі. Акадэмік Іларыён Ігнаценка паведамляе: «Калі, на думку Камітэта, магчымасці атрымаць уладу палітычным шляхам былі выкарыстаны, паўстала пытанне аб пераходзе да ўзброенай барацьбы. Член Беларускай рады Л. С. Калядка пісаў: "Маё глыбокае перакананне, што ў беларускім руху толькі нашы ваенныя арганізацыі адыграюць вырашальную ролю". Выканкам нават ажыццявіў некаторыя крокі ў гэтым кірунку…»[8].

Як бачым, Лукаш Калядка быў у ліку тых, хто не выключаў збройнай барацьбы з бальшавікамі за Беларусь. Іншая справа, што Выканкаму Рады Усебеларускага з'езда і Цэнтральнай беларускай вайсковай радзе не ўдалося арганізаваць збройныя сілы Беларусі. Мусіць, гэта не ў апошні чарод паўплывала на перамену пазіцыі Лукаша Калядкі. Зразумеўшы, што бальшавікоў на разе перамагчы нельга, ён, як відаць, перайшоў на іх бок.

Наступная немалаважная падзея, у якой Лукаш Калядка браў удзел, — III Усерасійскі з'езд Саветаў, калі З'езд Саветаў сялянскіх дэпутатаў і З'езд Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў аб'ядналіся ў адзін. Хоць тут яшчэ няма яснасці, дэлегатам якога з'езда быў першапачаткова быў выбраны Лукаш Калядка (З'езда сялянскіх дэпутатаў ці З'езда рабочых і салдацкіх дэпутатаў), усё паказвае на тое, што ён стаяў на пазіцыях прынамсі левых эсэраў, бо той З'езд сялянскіх дэпутатаў, які аб'яднаўся са З'ездам рабочых і салдацкіх дэпутатаў, быў альтэрнатываю З'езда сялянскіх дэпутатаў, які склікаў праваэсэраўскі ЦВК Саветаў сялянскіх дэпутатаў.

III Усерасійскі з'езд Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў адбыўся 10–18 студзеня 1918 г. — неўзабаве пасля разгону Устаноўчага Сходу. Ён увайшоў у гісторыю не толькі тым, што прыняў Дэкларацыю правоў працоўнага і эксплуатаванага народа (аснову савецкай канстытуцыі), але і тым, што нароўні з разгонам Устаноўчага Сходу ўхваліў разгон Усебеларускага з'езда. Цікава, як галасаваў па гэтым пытанні Лукаш Калядка?

Далей у жыццяпісе ўдзельніка гістарычных падзей — белая пляма. І ўжо з ягонага паслужнога спісу мы даведваемся, што са снежня 1918 г. ён стаў чырвонаармейцам. Добраахвотна ці па мабілізацыі — іншае пытанне, а тут адзначым: з Рабоча-Сялянскай Чырвонаю арміяй (з 25 лютага 1946 г. — Савецкая армія) звязаны ўвесь далейшы лёс сялянскага сына са Случчыны.

У нас няма падрабязнага паслужнога спісу Лукаша Калядкі. З ягонага ліста ў Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі, які друкуецца тут, і з ягоных успамінаў «Миссия в Турцию»[9] мы можам даведацца, што ў першай палавіне 1920-х гг. ён служыў ад'ютантам знакамітага савецкага палкаводца Міхаіла Фрунзэ, разам з ім у складзе дэлегацыі Савецкай Украіны здзейсніў у лістападзе 1921 — студзені 1922 г. паездку у Турцыю[10].

Можна сказаць, што службовая кар'ера Лукаша Калядкі складвалася ўдала. Яго прозвішча мы можам сустрэць у пастанове Савета Народных Камісараў СССР ад 4 чэрвеня

---

[8] Ігнаценка І. М. Кастрычніцкая рэвалюцыя на Беларусі: асаблівасці і вынікі. Мінск, 1995. С. 170.

[9] Гл. у кн.: М. В. Фрунзе: Воспоминания друзей и соратников. М., 1965. С. 200–208. Пазней успаміны Лукаша Калядкі былі перадрукаваныя ў кн.: О Михаиле Фрунзе: Воспоминания, очерки, статьи современников. М., 1985. С. 244–251. Адчуваецца, што гэта «падрэдагаваны» фрагмент больш шырокага тэксту, бо адсутнічае сюжэтная закругленасць.

[10] Міхаіл Фрунзэ быў прызначаны паўнамоцным прадстаўніком Украінскай ССР у Турцыі і ад імя Савецкай Украіны заключаў з ёю дагавор. У гэтым няма нічога дзіўнага. Паўнамоцным прадстаўніком Савецкай Беларусі ў Нямеччыне быў вядомы дзеяч бальшавіцкай партыі, паўнамоцны прадстаўнік Савецкай Расіі ў Нямеччыне Мікалай Красцінскі (Крестинский).

1940 г. аб прысваенні вялікай групе военачальнікаў генеральскіх званняў[11]. Удзельніку Усебеларускага з'езда было прысвоенае званне генерал-маёра інтэнданцкай службы, а ў наступным годзе яго прызначылі начальнікам кватэрна-эксплуатацыйнага ўпраўлення Службы тылу Узброеных Сіл СССР. На гэтай пасадзе ён прабудзе 10 гадоў.

Працу начальніка кватэрна-эксплуатацыйнага ўпраўлення станоўча ацэньваў, напрыклад, генерал-лейтэнант, доктар гістарычных навук, сам у вайну намеснік галоўнакамандуючага фронтам па тыле Мікалай Анціпенка[12]. Ён характарызаваў генерала Калядку як незвычайна клапатлівага, энергічнага і пунктуальнага чалавека, добрага выканаўцу. Добрыя словы пра яго напісала і Марыя Пакрышкіна — жонка тройчы Героя Савецкага Саюза маршала авіяцыі Аляксандра Пакрышкіна[13].

Як на маю думку, Лукаш Калядка зрабіў даволі ўдалую кар'еру таму, што своечасова парваў з сацыялістамі-рэвалюцыянерамі, не ўступаў у бальшавіцкую партыю і пазбег праверак, якія праводзіліся ў гэтай партыі падчас чыстак. Разам з тым трэба адзначыць, што беспартыйнасць не дала яму падняцца на больш высокую прыступку.

Не магу сказаць з пэўнасцю, чым займаўся Лукаш Калядка пасля таго, як у 1951 г. пайшоў у адстаўку. Па меншай меры вядома, што ён сачыў за літаратурай з гісторыі Беларусі, чытаў беларускую мастацкую літаратуру і сам пісаў успаміны. 8 траўня 1964 г. ён скончыў і даслаў у Мінск, у ЦК КПБ, успаміны «Молодечненская история». Натуральна, што гэты машынапіс з ЦК быў накіраваны на рэцэнзію ў Інстытут гісторыі Акадэміі навук БССР. У той час знаўцам рэвалюцыйнага руху пачатку ХХ ст. лічыўся Канстанцін Шабуня, аўтар XVII раздзела ў 1-м томе «Истории Белорусской ССР» (1954) і манаграфіі «Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905–1907 гг.» (1962). Ён і напісаў водгук на ўспаміны Лукаша Калядкі.

Трэба сказаць, што Канстанцін Шабуня мае рацыю ў двух момантах: калі сцвярджае, што спроба арганізаваць адначасовае выступленне вучняў чатырох настаўніцкіх семінарый не магла абысціся без агульнага вонкавага кіраўніцтва і што семінарыст Лукаш Калядка «не стоял у руководства забастовкой». Мала таго, генералу Лукашу Калядку, мабыць, было невядома, што ЦК БСГ у асобе рэдакцыі газеты «Наша Ніва» меў свайго агента (карэспандэнта), які рэгулярна інфармаваў аб падзеях у Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. Гэтым карэспандэнтам быў семінарыст Мікола Шыла, які ў 1946 г. успамінаў, як ён вазіў літаратуру з Вільні ў Маладзечна[14]. І той, хто возьмецца вывучаць гісторыю страйка маладзечанскіх семінарыстаў, дзякуючы матэрыялам «Нашай Нівы» істотна дапоўніць успаміны Лукаша Калядкі. Але пачаць даследаванне трэба было б з пытання: як так хутка, з налёту, без прыглядвання (а раптам правакацыя?) маладзечанскія семінарысты Іван Пратасеня ды Іван Сычоў здолелі навязаць кантакт з вучнёўскімі лідарамі трох іншых семінарый і дамовіцца з імі пра адначасовы страйк? Шляхам перапіскі? Дык перапіска семінарыстаў знаходзілася пад кантролем адміністрацыі. Хто падказаў двум Іванам — Пратасеню і Сычову — імёны вучнёўскіх лідараў у Свіслачы, Панявежы і Полацку? І тут рад-няволя трэба звярнуцца да артыкула «Zmahańnie za szkołu», змешчанага ў газеце «Homan» 18 красавіка 1916 г. Аўтар (а ім, без сумнення, быў Антон Луцкевіч) паведамляе, што амаль за паўгода да страй-

---

[11] Генеральскія званні ў Чырвонай арміі былі ўстаноўленыя ўказам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР 7 траўня 1940 г. На падставе гэтага ўказа камандзірам брыгад, дывізій, карпусоў, а таксама камандзірам армій 1-га і 2-га рангаў былі прысвоеныя званні генерал-маёра, генерал-лейтэнтанта, генерал-палкоўніка і генерала арміі.

[12] Гл.: Антипенко Н. А. На главном направлении / предисловие Г. К. Жукова. Минск, 1982. С. 329–331.

[13] Гл.: Покрышкина М. К. Жизнь, отданная небу. М., 1989. С. 67–68.

[14] Гл.: Казлоўскі М. Галасы разбуджаных птушак. Мінск, 2006. С. 26–27.

пачалі стральбу. Загінула двое рабочых. Напярэдадні — у дзень падпісання Маніфеста — у Віцебску ў выніку сутычак было шмат параненых.

XXVI У Маніфесце 17 кастрычніка 1905 г. Мікалай II абвяшчаў, у прыватнасці, аб дараванні народу «непахісных асноў грамадзянскай свабоды на пачатках сапраўднай недатыкальнасці асобы, свабоды сумлення, слова, сходаў і саюзаў» ды абяцаў склікаць заканадаўчую Дзяржаўную Думу, даўшы пры гэтым выбарчае права рабочым.

XXVII Тут аўтар парушае паслядоўнасць падзей. Усерасійскі кастрычніцкі палітычны страйк 1905 г., які пачаўся 10 кастрычніка з забастоўкі на Маскоўскім чыгуначным вузле, праз тыдзень ахапіў амаль усю Расію. Кульмінацыйным пунктам страйка было выданне Маніфеста 17 кастрычніка (гл. заўвагу XXVI). 7 снежня пачаўся новы ўсерасійскі палітычны страйк. У Маскве і некаторых іншых гарадах ён перарос у збройнае паўстанне, якое было стлумленае царызмам.

XXVIII На ўвазе маецца Порт-Артур (кітайская назва Люйшунь), цытадэль на Ляадунскай паўвыспе. У 1898 г. Расія ўзяла яе на 25 гадоў у арэнду ў Кітая. У выніку працяглай аблогі 20 снежня 1904 г. цытадэль была ўзятая японцамі.

XXIX Тога Хэйхаціра (1848–1934), маркіз, адмірал флоту і маршал Японскай імперыі, камандаваў Аб'яднаным флотам у час расійска-японскай вайны 1904–1905 гг., кіраваў аблогай Порт-Артура.

XXX На ўвазе маецца Ногі Марэсукэ (1849–1913), граф, генерал, у японска-кітайскай вайне 1894–1895 гг. камандзір брыгады, якая за адзін дзень узяла Порт-Артур; камандаваў 3-й арміяй пры аблозе Порт-Артура ў 1904 г. і ў Мукдэнскай бітве (19 лютага — 10 сакавіка 1905 г.), у якой перамагла Японія. Пасля смерці імператара Японіі разам з жонкай учыніў харакіры.

XXXI Камімура Хіканодзё (1849–1916), адмірал, у расійска-японскую вайну вызначыўся як адзін з найлепшых флатаводцаў Японіі, яго караблі нанеслі істотны ўрон расійскаму флоту.

XXXII Курапаткін Аляксей (1848–1925), генерал ад інфантэрыі, вайсковы пісьменнік, удзельнік расійска-турэцкай вайны 1877–1878 гг. і заваявання Сярэдняй Азіі. У 1898–1904 гг. вайсковы міністр Расійскай імперыі. У час расійска-японскай вайны 1904–1905 гг. камандаваў расійскімі войскамі на Далёкім Усходзе. Пасля Мукдэнскай бітвы зняты з пасады.

XXXIII Мікалай II (Мікалай Аляксандравіч Раманаў; 1868–1918) быў імператарам у 1894–1917 гг. З 1894 г. жанаты з прынцэсай Гесэн-Дармштацкай Алісай (гл заўвагу XXXIV). Яго разам з жонкай і дзецьмі (чатырма дочкамі і сынам) без суда расстралялі бальшавікі.

XXXIV Царыцай Сашай аўтар верша назваў жонку Мікалая II. Прынцэса Гесэн-Дармштацкая Аліса Вікторыя Алена Луіза Беатрыса (1872–1918), яна перад вянчаннем з цэсарэвічам Мікалаем Аляксандравічам прыняла праваслаўе пад імем Аляксандры Фёдараўны. Імператрыца ў 1894–1917 гг.

XXXV Трэпаў Дзмітры (1855–1906), генерал-маёр, з 1896 г. выконваў абавязкі маскоўскага оберпаліцмайстара, у 1900 г. зацверджаны на гэтай пасадзе; бліжэйшы памочнік маскоўскага генерал-губернатара вялікага князя Сяргея Аляксандравіча (гл. заўвагу L). 1 студзеня 1905 г. быў накіраваны ў распараджэнне галоўнакамандуючага войскамі на Далёкім Усходзе, але 2 студзеня на яго жыццё быў учынены замах. 11 студзеня прызначаны санкт-пецярбургскім генерал-губернатарам, з мая адначасова выконваў абавязкі таварыша міністра ўнутраных спраў Расійскай імперыі, шэфа Асобага корпуса жандараў і загадчыка паліцыі. Яму належыць знакамітая фраза: «Халастых залпаў не даваць і патронаў не шкадаваць». З 26 кастрычніка 1905 г. камендант царскага Палаца. Памёр нечакана ад перараджэння сэрца.

XXXVI Аляксееў Яўгені (1843–1918), віцэ-адмірал, генерал-ад'ютант, з 1899 г. галоўны начальнік і камандуючы войскамі Квантунскай вобласці і марскімі сіламі Ціхага акіяна, з 1903 г. намеснік Далёкага Усходу. Ад пачатку расійска-японскай вайны камандаваў усімі сухапутнымі і марскімі сіламі на Далёкім Усходзе. 12 кастрычніка 1904 г. вызвалены ад абавязкаў галоўнакамандуючага, а 6 чэрвеня 1905 г. — ад абавязкаў намесніка.

XXXVII Князёўнай Лізаветай названа вялікая княгіня Лізавета Фёдараўна (1864–1918), старэйшая сястра імператрыцы Аляксандры Фёдараўны (гл. заўвагу XXXIV). З 1884 г. жонка вялікага князя

Сяргея Аляксандравіча (гл. заўвагу L). Пасля смерці мужа прыняла манаскі пострыг, заснавала ў Маскве Марфа-Марыінскі жаночы манастыр. Кананізавана.

[XXXVIII] Фрагмент верша Мікалая Някрасава (1821–1878) «Размышения у парадного подъезда» (1858), які пачынаецца словамі «Укажи мне такую обитель», стаў народнай песняй. Пяецца на матыў арыі з оперы «Лукрэцыя Борджыя» італьянскага кампазітара Гаэтано Даніцэці (Donizetti; 1797–1848).

[XXXIX] На сходзе ў Мікалаеўшчыне (ліп. 1906 г.) Канстанцін Міцкевіч (Якуб Колас) і ягоныя калегі вырашылі далучыцца да Усерасійскага саюза настаўнікаў і дзеячаў народнае адукацыі. Па даносе сход накрыла паліцыя. Да суда былі прыцягнутыя 4 чалавекі. Аднаго з іх суд апраўдаў[29]. Саюз беларускіх настаўнікаў быў заснаваны на з'ездзе, які адбыўся 25 траўня 1907 г. у Вільні, пра што «Наша Ніва» паведаміла 8(21) чэрвеня 1907 г.

[XL] Дырэктарам семінарыі быў, імаверна, І. Р. Гадыцкі-Цвірка, які з кастрычніка 1907 г. узначаліў Бабруйскую мужчынскую прыватную гімназію.

[XLI] Дэпутаты Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі былі ў папячыцеля Віленскай навучальнай акругі 19 кастрычніка 1906 г. Нічога не дамогшыся, «паехалі яны шукаць праўды ў Пецярбург» (Наша Ніва. 1906. 10(23) ліст.).

[XLII] Пад загалоўкам «Беларуская Сацыялістычная Грамада ў першым пэрыядзе яе працы (1903–1907)» у зборніку «Беларусь: нарысы гісторыі, эканомікі, культурнага і рэвалюцыйнага руху» (Менск, 1924) змешчаны скарочаны варыянт нарыса дзеяча нацыянальна-вызвольнага руху, аднаго з пачынальнікаў сучаснага беларускага тэатра Аляксандра Бурбіса (1885–1922) «Кароткі агляд беларускага нацыянальна-рэвалюцыйнага руху». Поўны тэкст гэтага нарыса пад псеўданімам *Стары Піліп* апублікаваны ў часопісе «Вестник Народного комиссариата просвещения», які выходзіў у Менску (1921. № 1, 2).

[XLIII] У паэме А. Пушкіна «Палтава»: *«Его луга необозримы»*.

[XLIV] Мусіла б быць *«вам»*.

[XLV] Асоба Трукшына не ідэнтыфікавана. Генадзь Каханоўскі пісаў, што ён быў бальшавік[30].

[XLVI] Асоба Папова не ідэнтыфікавана.

[XLVII] Гапон Георгі (1870–1906), праваслаўны святар; быў ініцыятарам мірнага шэсця да Зімовага палаца дзеля ўручэння петыцыі пецярбургскіх рабочых Мікалаю ІІ. Мірнае шэсце было расстралянае (Крывавая нядзеля 9 студзеня 1905 г.). Некаторыя рэвалюцыйныя дзеячы лічылі Георгія Гапона правакатарам. Сацыялісты-рэвалюцыянеры арганізавалі яго забойства (павешанне).

[XLVIII] Пра снежаньскае збройнае паўстанне ў Маскве гл. заўвагу XXVII.

[XLIX] Міністр унутраных спраў Расіі і шэф Асобнага корпуса жандараў Вячаслаў Плевэ забіты выбухам бомбы, кінутай у яго 15(28) ліпеня 1904 г.

[L] Вялікі князь Сяргей Аляксандравіч, дзядзька імператара Мікалая ІІ, маскоўскі генерал-губернатар, забіты 4(17) лютага 1905 г.

[LI] Курлоў Павел (1860–1923), мінскі губернатар у1905–1906 гг.; потым віцэ-дырэктар дэпартамента паліцыі міністэрства ўнутраных спраў, таварыш міністра ўнутраных спраў, шэф Асобнага корпуса жандараў. У 1911 г. выйшаў у адстаўку у сувязі з забойствам старшыні Савета Міністраў Расіі Пятра Сталыпіна. Гл. таксама заўвагу XXV.

[LII] РСДРП — Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя. Заснавана на І з'ездзе ў Мінску (1898). З 1903 г. дзялілася на дзве асноўныя фракцыі — меншавікоў і бальшавікоў. У час рэвалюцыі 1905–1907 гг. фракцыі дзейнічалі супольна. У 1906–1907 гг. мелася Смаргонская акруговая арганіза-

[29] Гл.: Луцкевіч А. Да гісторыі беларускага руху. Вільня, Беласток, 2010. С. 218–221.

[30] Гл.: Каханоўскі Г. А. Маладзечна: гісторыка-эканамічны нарыс. Мінск, 1971. С. 35; я г о ж. Маладзечна: гісторыка-эканамічы нарыс. Мінск, 1988. С. 33.

цыя РСДРП (Валожынская, Даўгінаўская, Лебедзеўская, Смаргонская аганізацыі і спачувальнікі ў Палачанскай воласці Ашмянскага пав.). З іх самай трывалай была Смаргонская арганізацыя (1903–1914), якая пэўны час выконвала функцыі камітэта акруговай арганізацыі.

LIII Асоба Гурына не ідэнтыфікавана.

LIV Эсдэкі — сацыял-дэмакраты.

LV Эсэры — сацыялісты-рэвалюцыянеры, сябры і прыхільнікі Партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, якая была адной з буйных расійскіх партый і ў асноўным адлюстроўвала інтарэсы сялянства.

LVI «Овод» («Авадзень») — папулярны раман англійскай пісьменніцы Этэль Ліліян Войніч (Voynich; 1864–1960), напісаны ў 1897 г. і прысвечаны вызваленчай барацьбе ў Італіі.

LVII «Хитрая механика» — скарочаны загаловак нелегальнай брашуры «Хитрая механика. Правдивый рассказ, откуда и куда идут мужицкие денежки», выдадзенай у 1874 г. у Жэневе пад псеўданімам Андрей Иванов Васілём Варзарам (1851–1940), актыўным удзельнікам рэвалюцыйнага руху, заснавальнікам расійскай прамысловай статыстыкі.

LVIII «Конек-горбунок» — шырока вядомая вершаваная казка расійскага пісьменніка і педагога Пятра Яршова (Ершов; 1815–1869).

LIX Сцяпняк-Краўчынскі (сапр. Краўчынскі) Сяргей (1851–1895), расійскі пісьменнік, удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Расіі і Італіі. Яго кніга «Падпольная Расія», напісаная па-італьянску, выйшла ў аўтарскім перакладзе ў 1893 г.

LX На ўвазе маецца кніга «Рассказы из русской истории» (1906) расійскага рэвалюцыянера-народніка Леаніда Шышко (1852–1910), якая лічыцца ўзорам эсэраўскага тлумачэння расійскай гісторыі.

LXI Пляханаў Георгі (1856–1918), заснавальнік расійскай сацыял-дэмакратыі. Артадаксальны марксіст, ён быў праціўнікам бальшавізму. У яго працы «Наша рознагалоссе» (1885) утрымліваецца крытыка з марксісцкіх пазіцый тэорыі і практыкі народніцтва.

LXII Гаворка можа ісці пра адзін з тамоў «Полного собрания сочинений» М. Чарнышэўскага ў дзесяці тамах (адзінаццаці кнігах), выданне якога было ажыццёўленае ў 1905–1906 гг. малодшым сынам аўтара.

LXIII На ўвазе маецца кніга амерыканскага журналіста, падарожніка і пісьменніка Джорджа Кенана (Kennan; 1845–1924), якая мела ў час рэвалюцыі 1905–1907 гг. некалькі расійскіх перакладаў. У 1999 г. выдадзена ў двух тамах у Санкт-Пецярбургу.

LXIV На ўвазе маецца нарыс Антона Чэхава (1860–1904) «Остров Сахалин (Из путевых записок)», упершыню надрукаваны ў 1893 г. Асобнаю кнігаю выдадзены ў 1895 г.

LXV Мажліва, на ўвазе маецца кніга лекара, расійскага сацыял-дэмакрата, пісьменніка, філосафа, эканаміста, заснавальніка Інстытута пералівання крыві ў Маскве Аляксандра Багданава (сапр. Маліноўскі; 1873–1928) «Краткий курс экономической науки» (1897), якая працяглы час была папулярным дапаможнікам па марксісцкай палітычнай эканоміі. У 1920 г. кніга выйшла 10-м выданнем.

LXVI Крывадубскі Дзяніс (1890–1958), сын селяніна в. Ячава Слуцкай воласці Кузьмы Крывадубскага. З 1910 г. у Першай драматычнай трупе Ігната Буйніцкага; запісваў народныя песні для кампазітара і фальклярыста Антона Грыневіча[31]. У 1925–1932 гг. працаваў у Белдрамтаварыстве.

LXVII Вайцяховіч Міхаіл, сын селяніна в. Бязверхавічы Слуцкай воласці Сцяпана Мікітавага Вайцяховіча; па стане на 20 верасня 1907 г. яму споўнілася 20 гадоў.

LXVIII Далей у машынапісе прозвішча настаўніка падаецца як Радзюковіч.

LXIX Асоба Вітухноўскага не ідэнтыфікавана.

---

[31] Інфармацыя д-ра Арсеня Ліса.

[LXX] Леанід Ігнатаў Шашура паходзіў з мястэчка Крайск Вілейскага павета (цяпер вёска ў Лагойскім раёне); па стане на 29 верасня 1907 г. яму споўнілася 17 гадоў.

[LXXI] Шыла Мікола (1888–1948), дзеяч нацыянальна-вызвольнага руху, сябар Беларускай сацыялістычнай Грамады, потым Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, сябар Цэнтральнай беларускай вайсковай рады, дэлегат Усебеларускага з'езда, сябар Рады БНР, працаваў у рэдакцыях часопісаў «Беларускае Жыццё» (рэдактар Францішак Аляхновіч) і «Рунь» (рэдактар Янка Купала), у Заходняй Беларусі быў рэдактарам газет «Змаганне», «Голас Беларуса» і «Сын Беларуса». У час нямецка-савецкай вайны настаўнічаў, з 1944 г. на эміграцыі.

[LXXII] Асоба Канстанціна Казляка не ідэнтыфікавана.

[LXXIII] На ўвазе маецца Фабіян Шантыр (1887–1920), дзеяч нацыянальна-вызвольнага руху, публіцыст, пісьменнік. За рэвалюцыйную дзейнасць падвяргаўся арышту, у 1917 г. старшыня Бабруйскай арганізацыі Беларускай сацыялістычнай Грамады, дэлегат Усебеларускага з'езда; з канца 1918 г. у бальшавіцкай партыі; сябар Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі па нацыянальных справах; у 1920 г. удзельнічаў у выданні газеты «Савецкая Беларусь». Расстраляны.

[LXXIV] Ярушэвіч Афанасі (? —?), выпускнік Санкт-Пецярбургскай праваслаўнай духоўнай акадэміі, дырэктар Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі ў 1907–1920 гг. Аўтар кнігі: Ярушевич Аф. Молодечно и его учебные заведения (Вільня, 1914).

[LXXV] Луцкевіч Антон (1884–1942), дзеяч нацыянальна-вызвольнага руху, адзін з заснавальнікаў Беларускай сацыялістычнай Грамады, потым Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, публіцыст, педагог, літаратурны крытык, аўтар першай граматыкі беларускай мовы, першы фактычны рэдактар газеты «Наша Ніва», старшыня Беларускага Народнага Камітэта (1916–1918), Беларускай Рады ў Вільні (1918–1919), аўтар праекта III Устаўнай Граматы Рады БНР, старшыня Рады Міністраў і міністр замежных спраў БНР (1918–1920), старшыня Беларускага навуковага таварыства і дырэктар Беларускага музея пры ім.

[LXXVI] Ільюшын Іван (1903–1997), філосаф, член-карэспандэнт АН БССР, працаваў на пасадах намесніка старшыні Савета Мініставў БССР, дырэктара Інстытута філасофіі і права АН БССР, галоўнага вучонага сакратара прэзідыума АН БССР, у 1951–1961 гг. міністр асветы БССР, у 1961–1975 гг. на выкладчыцкай працы.

[LXXVII] Умрэйка Сцяпан (1908–1978), член-карэспандэнт Акадэміі педагагічных навук СССР, у 1943–1948, 1952–1964 гг. намеснік міністра асветы БССР, у 1964–1978 гг. у Беларускім дзяржаўным універсітэце (загадчык кафедры, у 1967–1974 гг. прарэктар).

[LXXVIII] Шабуня Канстанцін (1912–1984), доктар гістарычных навук, член-карэспандэнт АН БССР, працаваў у Беларускім дзяржаўным універсітэце, ЦК Кампартыі Беларусі, Інстытуце гісторыі АН БССР (з 1956 г. загадчык сектара публікацый, гісторыі Беларусі дасавецкага грамадства), адначасова выкладаў у ВНУ г. Мінска; адзін з аўтараў і рэдактараў 1-га і 2-га тамоў «Гісторыі Беларускай ССР» у пяці тамах (1972), т. 1 «Истории рабочего класса Белоруссии» ў чатырох тамах (1981).

[LXXIX] На ўвазе маецца Тоўсцік Аркадзь (1925–2009), журналіст, рэдактар газеты «Звязда» ў 1973–1986 гг., мемуарыст; у 1960–1973 гг. працаваў у аддзеле прапаганды і агітацыі ЦК Кампартыі Беларусі.

[LXXX] Фрунзэ Міхаіл (1885–1925), дзеяч бальшавіцкай партыі, савецкі дзяржаўны і вайсковы дзеяч. У 1916 г. заснавальнік Мінскай сацыял-дэмакратычнай групы, у 1917 г. адзін з стваральнікаў Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, начальнік народнай міліцыі г. Мінска. З канца 1917 г. працаваў у Расіі, з пачатку 1919 г. у Чырвонай арміі: камандуючы арміяй, камандуючы Усходнім, Туркестанскім і Паўднёвым франтамі, у 1920–1924 гг. камандуючы ўзброенымі сіламі Украіны і Крыма, з пачатку 1925 г. старшыня Рэвалюцыйна-Ваеннага Савета і народны камісар вайсковых і марскіх спраў СССР.

[LXXXI] На ўвазе маецца аповесць Якуба Коласа «На ростанях» (1948–1954), заключны твор аднайменнай трылогіі. У першай частцы аповесці апавядаецца пра з'езд настаўнікаў у ліпені 1906 г. у Мікуцічах (Мікалаеўшчыне). Пра гэты з'езд гл. заўвагу XXXIX.

[LXXXII] Ленін (сапр. Ульянаў) Уладзімір (1870–1924), публіцыст, палітолаг, лідар бальшавіцкай фракцыі ў Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі, з 1912 г. лідар бальшавіцкай партыі. Пасля кастрычніцкага перавароту 25 кастрычніка 1917 г. узначаліў Савет Народных Камісараў (урад) Расіі, з 30 снежня 1922 г. Савет Народных Камісараў СССР.

[LXXXIII] «Дворянское гнездо» — раман расійскага пісьменніка Івана Тургенева (1818–1883), упершыню апублікаваны ў 1859 г.

[LXXXIV] «Антон Горемыка» — аповесць расійскага пісьменніка Дзмітрыя Грыгаровіча (1822–1900), упершыню апублікаваная ў 1847 г.

*Публікацыя, падрыхтоўка тэксту*
*і каментар Анатоля СІДАРЭВІЧА*

# ЛІСТЫ Ў «ЛЯСНУЮ ХАТКУ»
## З перапіскі Ларысы Геніюш і Зоські Верас

Лета 1988 года. Віленская ўскраіна. Мы з Анатолем Сідарэвічам ідзем па чыгуначным палатне ў кірунку Панараў — узгорыстай мясцовасці, парослай ніштаватым падлескам. Між бліскучых рэек палахліва прыгінаюць галовы прыземістыя рамонкі, чыгунка на даляглядзе пакалыхваецца ў спякотным марыве. Вось і чаканая паваротка. У лесе наш рух запавольваецца: проста абапал сцежкі (як хто крапідлам пакрапіў) — чырвоныя россыпы суніцаў. Яны і прывялі нас да самотнага жытла — «лясной хаткі» Зоські Верас. Нас сустракае Лявон Луцкевіч — зяць гаспадыні і найлепшы знаўца гісторыі Вільні. Ягоная жонка Галіна Войцік частуе здарожаных гасцей чарніцамі з малаком. Абое тлумачаць нам: Людвіка Антонаўна заседжваецца дапазна, таму з раніцы яе стараюцца не будзіць. Бавім час на падворку. На маё здзіўленае пытанне: а дзе студня? — Лявон Антонавіч паказвае на вялізныя чаны і бочкі пад вадасцёкамі. У гэтай хаце спажываюць толькі нябесную ваду.

Пані Галіна кліча нас у гасподу: прачнулася маці і гатовая з намі сустрэцца. І вось — зацішная бакоўка, нейкія старыя камоды з шуфлядамі і ў зручным фатэлі — Яна. Маленькая, прыветлівая, з маладымі вачыма. Мой спадарожнік піша вялікімі літарамі свае пытанні (на дзясятым дзясятку Людвіка Антонаўна кепска чуе), а мне няёмка і турбаваць яе прыпамінаннямі. Колькі падобных паломнікаў і цэлых дэлегацый прыняла Зоська Верас за сваё жыццё — не толькі сведка, а жывы ўдзельнік гісторыі!

Гэта яна надрукавала свой першы твор яшчэ ў 1907 г. — усяго на два гады пазней за Янку Купалу, а аўтарам легендарнай «Нашай Нівы» стала ў 1911-м.

Гэта яна ў 1916 г. прывячала ў Менску Максіма Багдановіча, які абяцаўся пісаць ёй з Ялты, з «белага дома над сіняй бухтай».

Гэта яна на ўсё жыццё запомніла, як бальшавікі ў снежні 1917-га разганялі ў Менску І Усебеларускі кангрэс.

Гэта яна за свае сціплыя заробкі ў 1928 г. выдала паэтычны зборнік Міхася Машары «Малюнкі» і толькі за гэта заслугоўвае не меншай пашаны, чым Магдалена Радзівіл — фундатарка неўміручага «Вянка».

Гэта яна рабіла і выпускала ў свет часопісы для дзяцей «Заранка» і «Пралескі», а для дарослых — месячнік «Беларуская борць», якім карысталіся пчаляры па ўсёй Заходняй Беларусі.

Гэта яна склала і выдала ў 1924 г. знакаміты «Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік», у які і сёння не зашкодзіць зазірнуць самым дасведчаным лексікографам, каб даведацца, як праўдзіва на роднай мове называецца тая ці іншая расліна.

Гэта да яе паэт і бібліёграф Гальяш Леўчык пісаў са Слоніма прачулыя лісты, якія пачыналіся звароткамі «залаценечка і дарагенечка дзядзіначка» альбо «паважаная цётухна і залатая сястронка»…

Лісты ў «лясную хатку» прыходзілі часта. І на кожны нястомная гаспадыня давала адказ — успамінала, тлумачыла, удакладняла. Уся карэспандэнцыя захоўвалася ў ідэальным парадку — меў магчымасць пераканацца ў гэтым на свае вочы. Усе шуфляды ў бакоўцы былі літаральна забітыя фотаальбомамі і акуратна перавязанымі стосікамі лістоў. Зоська Верас прасіла адчыніць пэўную шуфляду, дастаць патрэбны альбом ці пакунак, а пасля асцярожна трымала іх на каленях — лісты ад Віталя Скалабана, Янкі Саламевіча, Дануты Бічэль, Зыгмунта Абрамовіча, Ларысы Геніюш…

Ларыса Антонаўна і Людвіка Антонаўна ліставаліся каля чатырнаццаці гадоў — з 1967-га да 1983-га. Ліставанне мела даволі інтэнсіўны характар: часам з Зэльвы на

далёкі віленскі адрас лісты адпраўляліся ледзь не штодня. Ларыса Антонаўна ў снежні 1967 г. наведала «лясную хатку», нават заначавала ў сваёй прыяцелькі, і яны да самай раніцы не маглі нагаварыцца.

Лясная хатка, у якой Зоська Верас пражыла (прыкметна для Беларусі!) сем дзясяткаў гадоў, згарэла на пачатку 90-х. Гаспадыня ненадоўга яе перажыла — адышла ў лепшы свет, не дажыўшы да ўласнага 100-годдзя нейкіх паўтара месяца. Памятаю, пачуўшы пра пажар у Панарскім лесе, я з жалем падумаў, што згарэла і ўся бачаная ў «лясной хатцы» перапіска. Але, дзякаваць Богу, вялікая частка эпісталярыя ацалела, своечасова перададзеная на захаванне ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Прынагодна выказваю падзяку яго дырэктару Ганне Вячаславаўне Запартыцы за магчымасць працы ў фондзе 318 — схоўніцы тых ўратаваных з Панарскага лесу скарбаў.

…Тады, у 1988-м, я адыходзіў з Лясной хаткі з дзіўным пачуццём — быццам здзейсніў падарожжа ў мінулае на машыне часу. І доўга не мог апрытомнець, нават ужо сеўшы ў менскі цягнік. І вось сёння лісты, напісаныя ў маёй роднай Зэльве, бачаныя мною ў глінабітнай хаціне ў лесе пад Вільняй, зноў вяртаюць нас у мінулае, пачынаюць расказваць пра жыццё дзвюх вялікіх беларусак, якія ўмелі і пчолы гадаваць, і кветкі разводзіць, і вершы пісаць, і беларускім духам палымнець — ды так, каб і другія займаліся!

*Зэльва, 20 сьнежня 1967 г.*

Даражэнькія!

Сьпяшу падзякаваць Вам за мілую і арыгінальную гасьціну. Прыкра мне, што я так нечакана ўварвалася ў Ваш дом і прынесла Вам столькі клопатаў…

Я крыху перастыла, ды разбалеўся мне зуб. Цяжкая была ноч, але сяньня разрэзалі нарыў на дзясьне, ізноў зуб абкалолі пэніцылінам, і чуюся лепш. Удома ўсё ў парадку! Муж як быццам крыху ачуняў. Вельмі, вельмі цешыўся, што я ўжо дома.

У нас — сьнег і мароз, але ў хаце цёпла. Аўтобус быў халодны, і я ўсё яшчэ адчуваю далёкую дарогу, да якое я не прывычная. Цешуся, што Вас пабачыла, і шкадую, што не пасьпела прачытаць Вашых успамінаў. Спадзяюся, што Вы адчуваеце сябе добра. Прашу прабачэньня ў катоў за тое, што яны мерзьлі з маёй прычыны ў халодным пакоі. Усё ўспамінаю, як яны важна і насторожана сядзелі ўвечары на пліце і падазрона на мяне паглядалі. У Вас недзе таксама ўжо сьнег, і цяжка бегаць Славіку[1] па крутой сьцежцы. Успамінаю тую ноч, калі доўга мы з Вамі не маглі заснуць, гутарылі ўсё і пісалі. Два жыцьці: маё і Ваша, розныя шляхі і адна мэта.

Сваё дзяцінства і часьць маладосьці я пражыла на аднасельлі. Ніхто нас вельмі не шкадаваў, і варункі жыцьця былі даволі цяжкія. Бывала, паставяць паганяць коні ў манежы, альбо адкідаць салому ад барабана, дык халадно-халадно, а дзень даўгі… Мама лічыла, што ўсё трэба ўмець рабіць. Я адыходзіла ад улюбёнай літаратуры, але пазнавала народ, яго тысячалетнюю даўніну, адкрываючы для сябе ўсё новае і новае.

Вельмі міла я правяла час у сваіх «дзяцей»[2]. Яны зусім ня злосныя за маё сватаўство. І Богу дзякаваць за гэта! Многа ўспаміналі. Вельмі мілая ў іх дзяўчынка, але столькі было ўспамінаў, што не было калі мне пагуляць і пагутарыць зь ёю.

Караткевічы, пэўна, прыедуць аж 6 студзеня, так пісала ўчора Надзежда Васілеўна[3]. Валодзя[4], здаецца, жэніцца на нейкай выкладчыцы з Брэсцкага пэд. Інстытута[5]. Яна 5 дзён гасьціла ў іх… Ня веру таму Валодзі, цяжкая зь ім гутарка ў гэтай справе. Мяне ж ён баіцца, як Вашыя каты, і крыху слухаецца. Ці атрымалі календары? Не забудзьцеся мне аб гэтым напісаць. Цешуся, што пабачыла Вас і пакінула ў поўным здароўі.

Цалую Вас сардэчна і жадаю ўсяго добрага. Шчырыя прывітаньні Вашай сям’і.

*Ларыса Геніюш.*

*Зэльва, 23 снежня 1967 г.*

Даражэнькія!

Спадзяюся, што ліста майго Вы ўжо атрымалі. Яшчэ раз дзякую Вам за мілую гасьціну. Вельмі рада была сяньняшняй вестцы ад Вас. Я ўсё яшчэ ня ў форме, дзясна зажывае добра, але ў зубе ўсё яшчэ нешта не ў парадку. Адчуваю, што ён у мяне ёсьць.

Як жа Вы маглі прыняць мяне лепей, даражэнькія? Была мілая гарбата з п. Я. Шутовічам[6], цудоўны ды адпаведны як на пятніцу абед, харошая пасьцелька нанач і спакойны сон пад Вашаю страхою… Харошыя і мілыя Вашыя асабіста адносіны да мяне, можа, крыху з маленькай засцярогай, як да зусім незнаёмай асобы, але ж гэта зусім натуральна ды зразумела. Я радуюся, што Вас пабачыла, думала, што Вы мацнейшая фізычна і маеце болей камфорту, які так неабходны ў нашыя гады. Урэшце, гэта справа прывычкі.

Як жа мне добра некалі жылося на аднасельлі ў бацькоў! Толькі было там 5 пар коней, а зімой яны застойваліся, дык шпарка ехалася па соль і газу. Я сяньня рада жыла б там, і не было б мне сумна. Таму вельмі Вас разумею. Харошы Максім Танк[7] радзіць і нам пакідаць Зэльву. Сяньня я аб гэтым паважна задумалася.

Субота, трэба было мужу ісьці ў лазьню, а ён ужо не знайшоў сілаў на гэта… Была б ванна і выгоды ў хаце, да якіх ён прывык за 26 г. прабываньня ў Празе, было б усё інačай. Я цягаю торф, попел, ваду, дровы і часта бываю ў сажы, як чорт.

М[аксім] [Танк] хворы, лечыць сваё сэрца на Украіне, дзе на беразе Дняпра стаяць волаты-дубы, якім па 300–500 гадоў… Абавязкова трэба будзе паехаць у Менск, пазнаёміцца са сваімі новымі сябрамі, якіх у мяне там многа, як піша М. Т.

Жаль, што не ўдалося павялічыць ці перазьняць старыя фатаграфіі. Дзеля чаго мне гэта? Я Вам пасылаю ліста. Вярнеце мне яго. Такіх лістоў болей. У нас тут перазьняць фатаграфію вельмі цяжка. Я дакараю сябе, што не зьвярнулася з гэтым да фатографа ў Вільні. Вы ж маглі б мне іх перасլаць! Урэшце, я і забылася, мае сябры ў Менску ўмеюць гэта рабіць. Муж бачыў, як яны сабе павялічылі нейкі маленькі мой здымак з газэты! А я тут турбую людзей сваімі справамі! Прашу за гэта прабачэньня.

У нас усё добра. Муж стогне, сястра ўжо сьпіць, а мне яшчэ трэба напісаць многа лістоў.

У беластачан няважная мова, і няма многа «сьвятога агню», але нешта яны ўсё ж робяць, і лепш мець каляндар, чымсьці яго ня мець… Падзякуйце свайму сыну за ўсе клопаты, зьвязаныя з маёю асобаю.

Бывайце здаровыя. Цалую Вас — *Ларыса Геніюш*.

*Зэльва, 12 лютага 1968 г.*

Дарагая Людвіка Антонаўна!

Дзякую Вам за ліста. Вельмі сумна, што Вы захварэлі. Як чуецеся цяпер? Можа, Вы прастылі?

Сяньня мела магчымасьць паслаць Вам сваю кніжку. Калі яе атрымаеце, абавязкова паведамце, бо, як ні дзіўна, кнігі гінуць нават з пошты! Юра[8] кнігу, высланую яму ўрачыста з выдавецтва, не дастаў. Прыйшоў толькі пусты канвэрт. Тэлефанаваў аб гэтым, злосны, учора. Л. Луцкевічу[9] і Шышэям мае выслаць зь Менску Прашковіч[10] (на мой кошт). Убачымся некалі зь імі, дык падпішу. Першыя кнігі я разаслала сваім самым старым і дарагім знаёмым. У Вільню — толькі Клімовічам[11], і то ня ведаю, ці яны атрымалі… Сяньня ім напісала. Бывае, што лісты ад іх гінуць…

Таксама прашу ня гневацца на Белакоза[12]. У яго таксама не заўсягды соладка. У нас тут — законы тайгі… Можа, і ён не атрымаў Вашага так цэннага ліста. Пастараюся туды пад’ехаць.

Памыляецеся крыху адносна мяне. У Менску я чулася вельмі дрэнна. З натуры я чалавек задумчывы і невясёлы. Мне там было часамі так пагана, што не вытрываць. І найгорай тое, што не магу гэтага скрыць… Я прывыкла да ціхага і беднаватага жыцьця. Гэта ня фразы, але сапраўды я і муж толькі жывем, дышам і існуем для Краю… Гэта і літаратура, і круг знаёмых, і гэтыя капейкі, што нам застаюцца, — усё на адну мэту: то паможам, то пагасьцім каго, а калі трэба, дык і пашлем. Нічога ў нас няма больш, і жыць нам ужо ня так доўга і засталося. Вось толькі ёсьць многа кніг і, Богу дзякаваць, унукі. Што да сына, то няхай робіць, што знае, бо жыць зь нявесткаю нашай, як пішуць людзі, нельга! Гэта тое самае, каб мяне пасяліць з якім Берыяй[13]…

Няхай сябра Тонік[14] будзе так ласкавы і скажа Л. Луцкевічу, што вельмі-вельмі стараюся для яго кніжку. Учора тэлефанаваў Быкаў[15], што ізноў яны ёсьць у Менску. Ён адну сабе купіў. Водзывы аб кніжцы харошыя. Я рада! Сяньня ізноў паслалі Юры і ня ведаем, ці дойдуць…

Што да Алесі Ігнатаўны[16] [Смоліч], то ёй няма чаго бедаваць. У людзей куды горай у жыцьці… Яе дзеці ўжо настолькі дарослыя, што можна іх адлучыць ад «пупавіны». Вось і мне хочацца, каб яна пакінула нейкія ўспаміны, бо яны вельмі цэнныя для нас. Гэта важна! А вечна цацкацца зь нейкімі шызафрэнікамі, якія чаўпуць, што хочуць, няма патрэбы. З Алесяй Ігнатаўнай так і не давялося мне паважна пагутарыць, але тое, што яе дочкі ня ведаюць слова па-беларуску, мне не падабаецца. Я за гэта не вінавата. Папаўшы ў такое таварыства, я старалася ня быць там дысанансам. Таварыства было цікавае — вельмі разумны і асьвечаны чалавек і той самы мастацтвавед, але на мне вісіць цяжар лягера, нейкі сум, роздум. Я папраўдзе чалавек чыну, працы, і гэткая «багема» не па мне…

Цікава, што мы зусім добра разумеліся са студэнтамі і наагул з моладзьдзю. Адзін зь іх нават не даспаў і ў 8 г. быў ужо на аўтобуснай, каб яшчэ раз пабачыцца. Казаў: «Прасіў дзяўчат, каб збудзілі»… Зусім цёпла мы пагутарылі і зь дзяўчынай Караткевіча. Яна ад іх ужо паехала, але прыслала мне пачку дэтэктывак, і, відно, што ёй, беднай, нявесела… Што ў іх атрымаецца, ня ведаю.

У ліпні прыедуць дзеці і ўнукі, я ўжо загадзёў з гэтага цешуся, асабліва зь Міхасіка[17]! Гэта ж такі мой друг! А які далікатны, добры. Разумны Алесічак[18]! Думаю, што і муж паправіцца, як іх убачыць.

Ад П. Ластаўкі[19] лістоў мы ня мелі. Як там яго здароўе? Ня ведаю, але ня вельмі люблю людзей, якія не маглі нават ажаніцца па-людзку са сваёй дзяўчынай і стварыць беларускую сям'ю! Я ведаю, што Вы мяне разумееце і ў гэтым пытаньні, і ў тым, што ня час нам прапіваць свае творчыя сілы і тапіць у гарэлцы таленты!

Вельмі і вельмі падабалася мне ў М[аксіма] [Танка]. Вельмі люблю патрыярхальныя, добрыя сем'і. Што да Дубоўкі[20] і яму падобных, дык я іх не разумею. Часамі мне здаецца, што залежыць ім толькі на іх уласных пэрсонах, ну і на рублях… Я ў Менску была — як дзікі ястраб сярод нейкай рэжымнай, пладаноснай фэрмы! Я пасьмела мець уласныя мысьлі, свае погляды і, галоўна, іх выказваць! М[аксім] [Танк] у апошнім сваім лісце піша: «Беражыце сваю свабоду, як Вы яе бераглі ўсё жыцьцё. Я разумею сяброўскія адносіны, але — незалежнасьць ад каго б там ні было. Вы, дзякуй Богу, маеце глыбокі і трэзвы розум, калі за некалькі дзён змаглі разабрацца самастойна ў людзях». Я яму дзякую за гэтыя словы! І мне лягчэй.

Дык папраўляйцеся, даражэнькія, бо ж Вы мусіце яшчэ да мяне прыехаць, а ўсе мы разам — у Гродна! Цалую Вас сардэчна.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

*Зэльва, 12 чэрвеня 1968 г.*

Даражэнькія!

Дзякую за ліста. Туліпаны Вашыя цудоўныя, і такіх у мяне няма. Ёсьць два белых ад п[ані] Кароль[21]. Муж некалі ў яе выпрасіў.

Цяпер я амаль нікому не пішу, нейкі жаль, боль і злосьць усе разам мяне замучаць… Зноў трагедыя, зноў правакацыя. Тое, што пачало гестапа ў 1941 г., прадаўжаецца сяньня, толькі другімі рукамі… Найболей агідна, што ўсё гэта робіцца сьведама, брудна. Не хачу тут больш жыць, не магу дыхаць болей гэтым паветрам няпраўды і правакацыі! Мусіць, падобнае можна тварыць толькі над беларусамі… Якая агіда…

Ня буду Вам пісаць, у чым справа, гэта будзе знаць Лёня, датычыць той газэты з Магадану, той справы. Як усё лжыва, як усё хітра, як подла… Толькі цяпер я поўнасьцю зразумела, дзе я жыву… Не, мне нічога ня грозіць, але я не магу зьмірыцца з махлярствам, і не зьмірuся… Прычынай, безумоўна, кніжка[22]… Трэба ж нейк яе апаганіць.

Так трымацца, так змагацца з усім нямецкім усю вайну, так ратавацца ад Ермачэнкі[23], ад усіх яму падобных правакатараў, так горда і высока несьці ў сэрцы шляхамі ўсіх цярпеньняў сваю Беларусь, і бачыць і чуць такую агіду — гэта я ўжо ня вытрываю. Толькі пытаюся сябе: дзе я? што за «гестапа» зноў навокал? Скуль столькі ілжы? Прыеду — дык усё раскажу. Галоўнае, што ўсё гэта ўплывае на ўсіх пражанаў і на Забэйду[24], якога ня хочуць сюды пускаць, і яны ўсе ні ў чым не вінаватыя. Проста страх!

Пісаў Ластаўка вялікага ліста. Хварэў. Пісала П. Мядзёлка[25] яшчэ большага ліста. Нарэшце, здаецца, яна мяне зразумела…

Вось сяджу, пішу і плачу, як бабёр… Ня ведаю, калі прыедуць дзеці. Вельмі шкадую М. Танка, якому дзеля гэтых паклёпнікаў «мыюць» за мяне галаў… Найболей абурае тое, што так тэндэнцыйна, так неразумна, недальназорна топчацца праўда… Вось чаго не пераношу, з чым ніколі не згаджуся, каб пасеклі мяне на кускі, гэта з падобнымі мэтадамі насільля! І так, што будзе далей, ня ведаю! Альбо памру, альбо мяне пасадзяць зноў, бо некаму выдзеру вочы!

Вось такі мой сяньняшні ліст… Усё гэта даведалася 8 чэрвеня ад А. Н. Карпюка[26].

Цалую Вас і прашу прабачэньня, калі хутка не напішу.

*Ларыса Генiюш.*

*Зэльва, 22 красавіка 1969 г.*

Даражэнькія!

Атрымала ліста ад Вас. Цешуся, што вы ўсе жывыя-здаровыя. Я пра Бядулю[27] нічога ня ведаю бліжэй, але вельмі люблю і цаню ў нашай літаратуры вытокі сапраўднай беларускасьці ў небеларусаў… Тое, што ён так няпраўдзіва ўсё напісаў[28], далікатна кажучы, — сьвінства! Страшнага і паганага тут нічога няма, але махлярства ёсьць махлярства! Чаму ён так зрабіў, зь якой мэтай? Вам трэба сьпісацца цясьней з дасьледчыкамі спадчыны і жыцьця Максіма Багдановіча і даць ім факты. Спадзяюся, што лёгіка фактаў пераканае іх. Кажу Вам яшчэ раз: нічога паганага там няма! Калі б нават с. п. Ваша Мама і зрабіла падобныя заўвагі, дык яны былі, на жаль, праўдзівымі. Які б вартасны, дарагі, таленавіты чалавек ні быў, гэта ня зьменшвае небясьпекі. Калі тубэркулёз у адкрытай форме, ён забойча шкодны для прабываючых у адной кватэры. Бактэрыя Коха, асабліва ў той даўні час, нясла загубу, ды і сяньня гэта вялікая небясьпека! Ведаючы, як жыдкі хваравліва дрыжаць за сваё здароўе, зусім ня веру Бядулі, што ён прабываў з М[аксімам] Б[агдановічам] у адным пакоі! Ён проста свае думкі хоча ўлажыць у вусны Вашай Маці, толькі яшчэ раз кажу: гэта яе не ўніжае! Добра ведаючы псыхалёгію яўрэяў, я зусім, зусім ня веру Бядулі. Калі б у нас нехта адпаведны паявіўся, я яго напэўна з гэтым пазнаёмлю.

Пару гадоў таму мне прыслаў сваю кніжку аб Багдановічы Грынчык Мікола[29]. Маецца быць у нас Прашковіч, і ён мне парадзіць у гэтай справе. У нас быў знаёмы лясьнічы, які запрасіў да сябе ў лесьнічоўку хворага (ініцыялы закрэсьлены. — *М. С.*). Калі ён заяжджаў пасьля да нас, у яго ўжо былі сымптомы. Заразіўся ён ад паветра ў пакоі хворага, дзе было поўна бактэрыяў. Ён выжыў (цяпер у Польшчы) ведаеце як? Завёў пасеку і лячыўся мёдам. Вельмі прагнуў жыць, бо кахаў сваю жонку, якую «ўкраў», і дзяцей. Жыў ён з хворым месяц. Дык калі с. п. Ваша Мама і зрабіла такую заўвагу, гэта сьведчыла аб яе вялікай інтэлігенцыі і адукацыі, бо кахаць і паважаць некага — гэта ня знача заразіцца. На маю думку, хітры жыдок укладае свае думкі ў словы Вашай Мамы, бо яны то заўсёды добра арыентаваліся ў хваробах. У нашым мястэчку (Воўпа) кагал спэцыяльна плаціў лекару, каб толькі ён быў напагатове. Драбніцы гэта, і Вы не праймайцеся! Злуе мяне тут толькі махлярства, вось гэта — сьвінства!

Паўлінка [Мядзёлка] вельмі любіць і добра ведае Бядулю, што каб папытацца ў яе? Між іншым, я ня ведаю, што будзе. Пасьля таго, як я Вам пісала, яна дала мне тэлеграму, што выяжджае 20 красавіка. Вось я ёй шчыра і напісала, што мы нікога ня можам узяць да сябе назаўсёды! Сьмешна! Яна, напэўна, лютая на мяне, але я не пісала ёй аб тым, што мужу зусім зьбіраюцца ня даць пэнсіі, як нам тут сказалі… Што нэрвы нашыя патрэбныя, каб вытрываць усё, што тут робіцца каля нас! Не пісала ёй і таго, што яна — процілегла інакшы чалавек, чымсьці мы, і гармоніі ў нас ня будзе! Я нічога гэтага ёй не паясьняла. А тут муж — ледзь-ледзь. Хаджу за ім як за дзіцем, яму патрэбны спакой, адпачынак і свая, толькі свая хатняя атмасфэра. Ён перачулены на гэтым пункце! Баюся эксцэсаў з боку Паўліны Вікенцеўны [Мядзёлкі], але што ўжо будзе! Бачыце, даражэнькія, калі ў мяне госьць, то я яго ўжо дагледжу! Гэта традыцыя! Але не магу я сяньня гэтага рабіць, шкодзячы сваяму мужу. Ён такі капрызны, хвараблівы, але ён у мяне — галоўная асоба, а сяньня — адзіная, каб аб ім клапаціцца.

У нас холад і сьнег ужо пару дзён. Праўда, ён ляжыць нядоўга, але ж дакучае. Сяньня Дзень памінаньня мёртвых, я вярнулася з царквы. У нас сапраўды нецікавыя пэрспэктывы, але ж Бог — бацька! Зноў і зноў цераблю сваё сумленьне: муж ці П[аўліна] М[ядзёлка]? Муж, муж і толькі ён! Калі б П. М. была бяз сродкаў да жыцьця, дык другая справа, а тут мы хутка застанемся бяз тых сродкаў… Я паважаю яе і цаню, але гляджу на жыцьцё рэальна. Муж заснуў, крыху перастыў, моцна кашляе, але стаў болей зраўнаважаны пасьля таго майго ліста П. М. Я ня думала, што ён так балюча перажываў тую справу…

Як маецца п[ані] Шнаркевічава[30]? Я проста баялася адчыняць Вашага ліста… Дай ёй Божа яшчэ пажыць, убачыць сёлета сонца і кветкі! Калі б Вы адведалі яе, дык перадайце ёй ад нас самыя шчырыя пажаданьні здароўя і ўсяго найлепшага. А да Вас у мяне просьба: не прымаць да сэрца Бядуліны і Бядуліхіны выдумкі. Надта ж ужо па-хрысьціянску Бядуля сябе выстаўляе. Вось цікава, як паставяцца да гэтага сёстры Бядулі? Напішэце ім! Усім паэтам свомая фантазія, любую рэальнасьць апаэтызуюць па-свойму… Галоўная рэч — даць людзям сапраўдныя факты, а гэта вы ўжо зрабілі! Ногі мае крыху адышлі, начамі сплю. Ніхто мне ня піша, ніхто ў нас апошні час не бывае. Чакаем цяпла.

Сяньня Прашковіч і А. Коршунаў[31] прыслалі нам сваю кніжку «Прадмовы і пасляслоўі Скарыны». Цудоўная рэч для нас! Усё ў арыгінале! Акадэмічнае выданьне, на жаль — 1200 экз. усяго. Зноў сэрца баліць мне па той Паўліне М[ядзёлцы]. Але вось ляжыць чалавек пад пледам і кашляе… Ці пісала яна Вам? Ах, тое маё грамадзянства, як яно многіх людзей непакоіць…

Дзякую, што паслалі ў «Ніву»[32] песьні. Вось гэта добра! Як жа цяжка было М. Багдановічу ў сям'і… Мелася быць у нядзелю ў Гудзевічах — у дзеда на магілцы, але не змагла пакінуць мужа. Усяго Вам добрага! Галоўнае — здароўе! Муж мой просіць, каб не нэрваваліся, бо сапраўды няма чаго. Абое мы Вас сардэчна цалуем. Усім хатнім шчырыя прывітаньні —

Вашыя *Геніюшы*.

*Зэльва, 16 ліпеня 1969 г.*

Даражэнькія!

Прашу мне даравацъ, што спазьнілася з адказам. Хварэю. Нейкі грып без тэмпэратуры, з кашлем і болем галавы, ламаньнем ног. Муж паехаў ужо адпачываць. Паехаў недалёка — у Рось, там, кажуць, даволі добры дом адпачынку. Я сабралася ехаць у Луцк, гдзе жывуць старыя мае цёткі, але вельмі зарасла наша бульба на полі і трэба было яе апалоць. Палолі мы да 11 гадзін вечара, быў моцны, халодны вецер, я пацела і зноў астывала. Я такая заўзятая, вось таму і адкінула мяне зноў. Маю вельмі мала надзеі на той Луцк. Цешуся, што адпачывае муж.

Да нас ніхто не прыехаў. Гэтага можна было чакаць. Не магу цяпер запрасіць і Паўліну Вікенцеўну [Мядзёлку], бо чуюся так дрэнна, і пагода ў нас асеньняя. Вельмі хвалюе мяне заўтрашняя падзея — запуск чалавека на рамантычны Месячык! Мусіць, уся людзкасьць перажывае гэтую проста неверагодную падзею. Толькі б усё ўдачна! Самыя сымпатычныя сяньня з усіх герояў — гэта героі касьмічных прастораў. Якая рызыка, якая тэхніка, якая адвага! Забівае мне гэта дых! Як дажыць да дня іх шчасьлівага і пераможнага павароту на Зямлю? «Сэрцу цесна, крыві неспакойна на маленькім гарэшку Зямлі…» — гэта з аднаго маяго вершу.

Я спадзяюся, што Вы нічога не сказалі шаноўнай Паўліне Вікенцеўне аб маіх замоцна шчырых высказваньнях аб ёй. Я экспансыўны вельмі чалавек, і часта шкадую аб сказаным, але калі б не сказала гэтага з усёй шчырасьцю — мяне гэта «разарвала» б! Вартасны і добры яна чалавек, але я яе не люблю. Яна жыве інтрыгамі, сапраўды. Я ніколі ня ведаю, калі яна гаворыць шчыра. Яна — ня тое, што я заву Беларусьсю. Можа, жыцьцё яе змучыла, можа, яно яе перарабіла на свой лад штучны, крыху чужы. Яна многа хоча, хоча ўсяго чалавека, а гэтак нельга, бо я, напрыклад, перадусім і дарэшты належу нашаму народу, маёй Радзіме. Я магу маўчаць, магу цярпець удары і ўсякія зьдзекі, але сьвятое маё са мною.

Сьвяткавалі ў нас у Зэльве дзень, калі прагналі немцаў зь Беларусі, і ніводзін прамоўца не сказаў ніводнага слова на мове народу, зь якога кожны чацьверты грамадзянін загінуў у пекле вайны. Можа, гэта і добра… Прадставілі з грубым камізмам цяжкую мінуласьць нашых сялян — дзядзькі ў неймаверна вялікіх лапцях (далі ім па 5 руб. на гарэлку) цягнулі худымі калгаснымі коньмі баронкі і сошкі па бруку вуліцы пад рогат начальства. Апранутыя яны былі ў даўгія, шэрыя, быццам брудныя, кашулі…

Мне прыпомніліся нашыя гаспадыні, іх гонар — белыя кашулі мужоў. Мне прыпомніліся 10 тысяч югаславаў у 1938 г. на Сакольскім зьезьдзе ў Празе — усе ў пастоліках. Як быццам хацелі паказаць не абутак, а Чалавека. Няблага яны ў тых пастоліках пасьля білі добра абмундыраваных ворагаў.

Пасьля ішлі жнейкі — як табар цыганоў у розным лахмоцьці, з калыскамі, згорбленыя. Устыдаючыся, ішлі неяк подбегам, а зь іх рагаталі іх равесьнікі і равесьніцы ў капронах, ужо з раніцы чуць п’яныя, абыякавыя да ўсяго на сьвеце, убогія. Ехалі трактары і камбайны, машыны, нейкі дзядзька скрывіўся і выціснуў праз зубы: «Глядзеце, каб са сваёй тэхнікай і атамам зноў не прывялі людзкасьць да сошкі…» Наагул, людзі рабілі свае заўвагі. Вельмі рэпрэзэнтабэльная трыбуна і — вельмі чорныя і худыя заслужаныя калгасьнікі… Усе мне на гэта зьвярталі ўвагу, і я ўцякла. Быў хор у народных вопратках, шоўкавых кашулях. Божа, і кашулі, і паясы друкаваныя на фабрыцы — бутафорныя…

Мне прыгадаліся чэхі, якія плацілі тысячы крон за народны крой, як яны кажуць. У іх шырокія гафтаваныя белыя рукавы з аборкамі. Як яны адносяцца з усёй любасьцю, з усёй пашанай да каляровай, макавай нейкай вопраткі сваіх продкаў! А ў нас тут неяк

дзіўна. Мы, быццам на вятры, засланяем сарамліва сваю народную душу, адкрываем яе толькі сярод сваіх.

Лякарства, якое мелі прывезьці, пакуль што няма. Я не пасьпяшалася, і яго забралі. Другі раз яшчэ не прывезьлі. І я ўчора вырвала першага гурочка. Зрабіла халаднічок. Лілія candida ў мяне ёсьць. Сёлета цьвіло іх 50 штук. Яшчэ некалькі стаіць. Вецер іх паглуміў, і пажаўцелі лісточкі. Людзі нахальна іх у мяне выпрашваюць. Часам злуюся.

Як здароўе п. Шнаркевіч? Белакоза ня бачу. Чула, што ён баіцца сустракацца са мною… Праверу гэта. Толькі няма чаго яму мяне баяцца. Гэта так да дурасьці сьмешна. У мяне ж ня гумавы хрыбет, а беларускі, і чалавечы — адзін на ўсё жыцьцё — твар. Бывае горка, ды яшчэ такая нецікавая пагода. Спадзяюся, што Вы адносна здаровыя, спадзяюся, што зусім спакойныя са справай паважанай Бядуліхі. І што гэта ёй прыйшло ў галаву?

Бывайце здаровыя, кланяйцеся ласкава ўсім хатнім.

Цалую Вас шчыра — *Ларыса Геніюш.*

*Зэльва, 26 студзеня 1970 г.*

Даражэнькія!

Атрымала ліста ад Сяргея П[анізьніка][33] і хачу Вам напісаць тое слова, якое Вы прасілі даведацца, а то памяць у мяне няважная. Слова тое жульвіца — гэта дрэва, «ива», вярба, лаза. Садзяць яе ля бальшакоў. Адростае з камля. Гэта зь ліста Сяргея. І яшчэ: «Нарадзіўся я ў Мёрскім раёне, в. Бабышкі ля мястэчка Лявонпаль (Зах. Беларусь)». Жывецца яму, беднаму, дрэнна, ніякіх уражаньняў — піша. «Спачатку быў як агаломшаны, потым безразлікі, а зараз ужо на злосьць бярэ!» І яшчэ: «А потым, калі ўсё навокал працівіць, калі ўнутры робіцца пустата, калі нічога ня хочацца, нават выпіць…» Беднае дзіця маё, як яму там нявесела! А галоўнае — брак беларускіх навінаў, адгалоскаў жыцьця, кніг і часапісаў.

У нас аслабелі маразы. Ніякіх навінаў, акрамя таго, што сяньня ўжо прыбыў «Бел. каляндар» зь Беластока. На маю думку — добры, удалы. Вельмі хораша і зьмястоўна за сябе гавораць маладыя паэты нашай Бацькаўшчыны. А ў нас па-старому. Мае мужчыны неяк трываюць — ня кураць! Амаль героі! Сын і ня п’е, замест апэрацый цягае нагавіцы да краўца — пашырае ў поясе. Во што знача трымацца як сьлед чалавеку! Муж таксама ўжо зойдзе ў баню і лёгка вернецца, а то ня мог ужо дыхаць. Зь Менску — ні вестачкі. Забыліся пра мяне зусім. Нічога цяпер не пішу, болей чытаю, ды стала крыху спакайней вакол. Надта хочацца хутчэй сустрэць сваіх малых. Ну, Міхась ужо даганяе ростам маці. Але што гэта знача — два ўнукі? Каб іх хоць з 12! Не з маім шчасьцем. Усё думаю пра Сашу Белакоза — дзейны ён і харошы чалавек. А як Вашае здароўе? Як з сэрцам? Ці хоць крыху спацыруеце па лесе? Ці цёпла ў Вашай хаце? Як Славік і Вашы дзеці прабіраліся праз сьнягі? Бо ў нас усё было завеяна. Яшчэ і сяньня ня ўсюды ходзяць аўтобусы, не ва ўсе вёскі. Цешуся, што П. Сергіевіч[34] робіць юбілейную выстаўку. Думаю — яна будзе мець посьпех. Вось каб яе паўтарыць у Менску! Каб хоць не зрабілі зь яго якога летувіса… А што Вы думаеце? Мы — як пахілае дрэва, на якое ўсе козы скачуць, асабліва калі не баронімся.

Ня можам дачакацца першага тому Энцыкляпэдыі.

Цалую Вас сардэчна! Прывітаньні ад нас усім хатнім!

*Ларыса Геніюш.*

*Зэльва, 2 траўня 1970 г.*

Даражэнькія!

Ласкава прабачце, што не адразу адказваю на Вашага мілага ліста. Малітвы страснай нядзелі, парадкі і булкі — усё гэта забрала час і ўвагу. Лье дождж. Мы ледзь адмовіліся ад вясельля ў суседзяў. Муж і наша госьця, студэнтка Мэд. інстытуту, яшчэ сьпяць, моцна, соладка, а мне разносіць галаву ў бакі. Здаецца, што гэта раней няведамая ў жыцьці мігрэнь. Галава баліць месцамі, і аж скрыпіць ад болю патыліца. Я ішла аднойчы з бані ў мароз у малой хустачцы, і ад таго часу вось трываю мукі. Мянчане нас выракліся, а так, як у мяне слова не расходзіцца з чынам, дык выракаюся і я іх. Быў учора ў нас адзін студэнт, казаў, што пісьменьнікі сварацца за мэдалі… О, неба! Гдзе ж іх розум? Бедныя складальнікі вершаў… Не далі сяньня таго мэдалю, дык дадуць заўтра, а сварыцца за гэта дзіка.

У мяне багата і густа цьвітуць фіялкі. Вашыя прымулкі ўжо адліваюць ружовым па жоўтым, а апошнія кусьцікі ліловыя. Як жа прыгожа! Дэўцыя — маё гора, мая бяда, адрастае. Надта ж яна была кругленькая, стройная. А можа, гэта ёй сьнег так нашкодзіў, бо паламаў мне амаль усе маліны, а людзям і кусты смародзіны.

Далі ўжо нам вызаў для дзяцей, і мы радыя, што змаглі яго ім паслаць. Былі Ленінскія дні, былі Першамайскія сьвяты, і нігдзе ніводнага слова на мове народу, які засяляе адвечную Беларусь. А тут халуі сварацца за мэдалі… Ды я памерла б з устыду, каб мне далі яго тыя, якія забіраюць нам родную матчыну мову! Удумацца ж толькі ў гэта!

Як Вашае здароўе? Ці елі ўжо сваю любімую крапіву? Вось расьце яна ў нас, зелянее, а я так і не адважваюся яе варыць.

У мяне цьвіце яшчэ гэтак званы галяндзкі ландыш.

Нашыя ўстаюць. Галодныя. Іду варыць гарбату, смажыць яешню і г. д. Бывайце! Цалуем Вас шчыра і ўсім шлем прывітаньні.

*Ларыса.*

*Зэльва, 14 траўня 1970 г.*

Даражэнькія!

Дзякую за ліста. Шкада вельмі, што мы ня ведалі аб юбілеі сябры Клімовіча. Ня ведаем яго сяньняшняга адрасу і вельмі просім Вас пераслаць яму пару слоў, якія далучаем.

Адна прымулка, апошняя, зацьвіла цёмна-бурдова з жоўтым абводзікам. Усе іншыя — ліловыя. Падняліся абедзьве цыбулькі лілій ад Вас, але цьвісьці ня будуць. Дэўцыя жыве, але высокі і стройны абрыкосік — зьмерз. Прымерзьлі вінаград, ружы. Вельмі хораша растуць туліпаны. Ужо зацьвітаюць. Нарцызы крэмавыя сёлета не зацьвілі. Часнаковую лілію трэба абавязкова кожны раз выкопваць, інакш не зацьвіце. Мая цьвіце і мае, відно, другую цыбуліну. Цьвіце яна аранжавымі званочкамі прыблізна так, як я нарысавала. Зацьвіла крыху пазьней за прымулкі. Так, прыблізна сінім цьветам цьвіце той галяндзкі ландыш. Зацьвіў пасьля фіялак. Ён з цыбулькаў, расьце невысока. Вось барвінку ня маю і ня ведаю нават, які ён. Півоні запавядаюцца хораша. Як, скажэце, дастаць анэмонаў? Вельмі люблю гэтыя кветкі і нігдзе іх ня бачу. Ёсьць у мяне кусьцік лёгка-крэмавых буйных нарцызаў. Цьвітуць рана. Было сёлета 5 кветак, і я змагла ўзяць іх 10 траўня ў Бераставіцу на сустрэчу між Гродзеншчынай і Беласточчынай. Бачылі сына. Зноў п’е, зноў няма міру ў сям’і. Боль маёй галавы — гэта ціск крыві — 180 на 100 адразу з паніжанага, таму апошні час быў акрамя болю «трактар» у галаве. П’ю розную брыду, і не памагае… Баліць крыху і сяньня.

Сын быў у Празе і заходзіў да М. Забэйды. Казаў, што жыве ён у тым жа пакоі, сярод старых запыленых вянкоў-трафэяў, сам старэйшы за іх. Якраз разглядаў «Каласы»[35]

Караткевіча, якія яму з дэдукацыяй даслаў аўтар. Меў два інфаркты і чуецца пагана. Нехта мне казаў, што ён мае многа грошай, дык дзіўлюся, чаму прадае піяніна на помнік. Сьмешна. Пакінуў бы яго п. Марысі, ёй жа нялёгка матэрыяльна. Паштоўкі і фатаграфіі лялькі мы атрымалі. Відно, у мяне разам з гіпэртаніяй і склероз, бо яшчэ не падзякавала. Дзякую за ўсё шчыра. Лялька надта прыгожая, а Вашай фатаграфіяй мы былі проста захопленыя. Панізьнік да нас не заяжджаў, пакуль што ён нам ня піша. Відно, што ня змог заехаць да нас, а жаль… Веру, што нялёгка яму, асабліва тое, што ён пакінуў вучобу. З гэткай галавой не магу працаваць, каб Вы ведалі, як я змучылася, а муж — толькі сьмяяўся. Я пайшла тады да другога лекара, і той цяпер мяне лечыць. Жаль нейкі…

Цалую Вас шчыра. Прывітаньні Вам усім ад нас — Ваша *Ларыса Геніюш*.

*Зэльва, 12 жніўня 1974 г.*

Даражэнькая Людвіка Антонаўна!

Учора атрымала Вашага ліста. Дзякуй вялікае Вам і п. Г[аліне] [Войцік][36] за клопаты адносна ўнівэрсытэту. Гэты малады «мамін сынок» паедзе, відавочна, у Менск, і хоць пасьля Львова горад гэты здаецца яму меней прывабны, чымсьці Вільня, будзе там прабаваць шчасьця. Мае магчымасьць вярнуцца ў Львоў (меў акад. водпуск), але гэта вельмі далёка ад бацькоў, ды і сябры завяліся там ня тыя, што трэба. Адным словам, гэта іх справа. Мяне гэта датычыла пастолькі, што я магла зь некім (і зь яго маці) прыехаць пабачыць Вас.

Затэлефанаваць Вам прыйшла ідэя Олі Іпатавай[37], бо і сапраўды жаль дарма ехаць. Дзякуй яшчэ раз за клопаты і Вашую ласкавасьць. Яны з Оляй выклікалі і ўнівэрсытэт, але не дазваніліся. Для мяне гэта добра, бо ехаць цяпер ня маю магчымасьці, а муж зусім не траспартабэльны. Дзякуй вялікае за мілыя запросіны, у шчырасьці якіх не сумняваемся. Гэтак жа шчыра просім хоць каго-небудзь з Вас адведаць нас пры нагодзе. Вельмі просім. Бачу, што Вы не атрымалі двух маіх апошніх лістоў. Квітанцыя ад аднаго ёсьць, дык будзем рэклямаваць. Другі высланы недзе 24–25 ліпеня, як і ўсе маі лісты — заказным. Адным словам, мне прыехаць да Вас ніяк нельга. Муж запакаваў Вам учора 8 «Ніваў» і пляшачку альмагелю, які дастаў нялёгка. Адно жаданьне ў нас — каб дайшоў да Вас гэты лек і каб Вам дапамог.

Усе лісты ад Вас атрымалі. Я толькі зьдзівілася — Вы ня ведаеце, што са мною робіцца, калі я Вам паслала аж два лісты! Пісала я Вам, як клапоцяцца зусім абыякавыя дагэтуль людзі аб нашых кніжках, аб нашым, вельмі яшчэ праблематычным выезьдзе з Зэльвы і т. п. Вялікі жаль, што гэтыя «працаўнікі культуры» абсалютна ня маюць гэтай культуры ў сабе. Яны зусім забыліся, што мы яшчэ жывыя і, Богу дзякаваць, не бязродныя. Адным словам, гэтыя дзеячы крыху нам папсавалі нэрвы, але я іх раскусіла ад парога і, здаецца, тактоўна дала ім гэта зразумець. З О[ляй] І[патавай] быў даволі камічны мамэнт. Яна нам першы і другі раз прывезла вестку аб сьмерці адной паэтэсы, якая ня тут жыве. Я паплакала крыху, паспачувала ў сэрцы і вельмі ўсьцешылася, атрымаўшы ад «памершай» картку, пісаную 27 ліпеня 1974 г. (дзень маіх нарадзінаў). Калі другі раз мне казалі аб сантымэнтальнай паэзіі гэтай выдатнай у маіх вачах, старой паэткі (у сувязі з яе «сьмерцю»), я не ўстрымалася, каб не паказаць жывы доказ яе «ўваскрашэньня».

Адным словам, прыехаць да Вас — гэта сяньня для мяне як заляцець на Вэнэру ці Марс. Малюся сілам нябесным, каб хоць гэтыя мае словы да Вас дайшлі. Вярнуўся назад ліст, пісаны да Міхасіка (?!), вярнулася пачка кнігаў здалёк… Іначай — усё паранейшаму. Адна, праўда, атракцыя: наш дом на дзьве палавіны. Ад вуліцы жыў старшы брат (брат мужавага бацькі), мы — ад падворка. Сяньня ад вуліцы — камунальная пало-

ва, ад падворка — мы. У нас адвеку такі звычай: хто жыве ад вуліцы, той і замятае кусочак таго ходніка і бруку. Так усюды. Побач з намі дом, гдзе 6 кватэр, і вуліцу замятаюць двое, між імі вельмі працавітая жонка нашага «глав. врача». І так нашы суседзі, паводле іх слоў — партызаны (ён пэрсанальны пэнсіянэр), выступілі з прэтэнзіямі, каб і я замятала ім вуліцу. Наша мясцовая ўлада дружна іх падтрымала, і яны мелі раскошу наглядаць, як я з грабелькамі і венікам увіхалася ля іх палісадніка, а суседзкі хлопчык дабраахвотна і шчыра мне ў гэтым дапамагаў. Некалі пад канвоем мяне з мужам прымушалі чысьціць уборныя і казалі: «Вось як міністар чысьціць г…», змушалі мяне кіркаваць вечную мерзлату ў 40-градусны мароз, дык гэта ў параўнаньні з тым — драбніцы….

Цалую Вас моцненька — Ваша *Ларыса Геніюш*.

*Зэльва, 22 верасьня 1974 г.*

Даражэнькая Людвіка Антонаўна!

Вельмі непакоюся за Вашае здароўе. Заказным ліста пасылаць сяньня ня буду, бо гэта мае значаньне ўсюды, але толькі ня тут. Апошні ліст ад Вас дайшоў, адказваць было — што кідаць гарохам у сьцяну. На днях быў ліст ад Надзежды Васілеўны Караткевіч (праўда, у пасылцы), зь якога я даведалася вельмі сумную вестку аб сьмерці дарагой нашай Алесі Смоліч. Памерла 14 жніўня на Украіне, і там яе пахавалі. Дочка і зяць прыяжджалі на 9 дзён у Менск палагодзіць справы і зь сябрамі дарагой Алесі Ігнатаўны аддаць ёй апошнюю пашану. Быў там і Валодзя К[араткевіч]. Н[адзежда] Васілеўна не была, бо не паведамілі яе. Яна жыве цяпер у сястры, якая нядаўна аўдавела і мае хворае паламанае бядро. Думаю пра цяжкі, сапраўды беларускі лёс дарагіх Смолічаў, і плач мяне душыць. Няхай жа ёй, харошай, будзе лёгкай зямелька, хоць і ня родная. Нігдзе ніхто пра яе ня ўспомніў! Што ж, усё зразумела.

Кніжку мілай П. Мядзёлкі маем, але мне іх патрэбна яшчэ і яшчэ, таму буду вельмі ўдзячная, калі Слаўка ці нехта іншы возьме яе ад Вас і вышле мне, каб толькі Вам меней з гэтым мець клопату. Хлапец, які хацеў перавесьціся ў Вільню са Львова, вучыцца ў Гомелі, куды яго перавялі. Няхай п. Галіна [Войцік] ласкава даруе мне за турботы. Як Вашае здароўе? Гэта самае важнае, самае галоўнае. У дзяцей нашых усё пакуль добра. Хлопцы пайшлі ў школу, дзеці на працы. Добра адпачылі на азёрах, бо якраз была харошая пагода. Малы Алесік на лодцы самастойна ўмеў пераплыць вялікае возера туды і назад! Хлопчык выразіў жаданьне вучыцца іграць на гітары, і мусялі споўніць яго мару — купілі яму гітару. Цяпер два разы на тыдзень ходзіць на паўгадзіны вучыцца. Міхасік добра вучыцца, але для яго галоўнае — спорт і купюра a la Kopernik[38]. Крыху на яго накрычала, бо хочацца, каб меў глыбейшыя зацікаўленьні. Сын ня п’е ўжо даўно і дбае аб здароўі (піша нявестка). Бога прашу, каб злыдні, людзьмі праклятыя, зноў не ўцягнулі яго ў гэтую прорву. Шмат ёсьць спосабаў губіць нас, а гэты — адзін зь іх… Божа мой, каб хоць Вы былі здаровыя. Калі дойдзе мой ліст, дык пару слоў напішэце.

Буду чакаць Вашага ліста. Ці маеце «Вершалінскі рай»[39] А. Карпюка? Варта прачытаць.

Цалуем і абнімаем Вас усіх. Няхай усё ў Вас будзе добра.

Вашыя *Геніюшы*.

*Зэльва, 7 красавіка 1975 г.*

Дарагая Людвіка Антонаўна!

Атрымалі Вашага ліста, зь якога зусім не відно, каб дайшоў да Вас наш ліст з успамінамі мужа аб Г. Леўчыку[40] і з маім здымкам за кудзеляй. Паслала я яго 29.III 75 г. заказным і з паведамленьнем, якое да сяньня не прыйшло таксама. Няўжо і на гэта

паквапіліся? Што ж, буду рэклямаваць, калі б ліст не дайшоў, і шукаць нейкае рады. Усе мае лісты, у дадатак да шматлікіх цэнзураў, правярае яшчэ і Зэльва. Проста забіраюць з пошты і, працэнзураваныя, аддаюць ці крадуць сабе. Калі, напрыклад, нехта піша адначасова нам і каму ў Зэльве, дык той атрымоўвае лісты на 2 ці 3 дні раней. Мы тут гэта добра зьверылі.

Успаміны даволі скупыя, але бачыце, паквапіліся і на іх. Я іх Вам надрукавала, а муж падпісаў. Як бачыце, дык у нас тут не жыцьцё, а суцэльная пакута. Зьдзек цяпер, хутчэй, маральнага характару, але даходзіць да вяршыні садызму. Горай, што выняткі з маіх лістоў недзе *там* выкарыстоўваюць, прекракруціўшы і падтасаваўшы іх адпаведна. За акупацыі ў Чэхах такога не рабілі з поштаю людзей! Такога нідзе ў сьвеце няма! Ні адной весткі каб не было *імі* прашнырана. Хіба толькі ў панядзелак, калі «пасьля п'янкі», дык не бяруць, — казаў мне некалі чалавек, у якога яшчэ крыху сумленьня было. Быў расеец, бо наш ніколі не папярэдзіў бы, а хутчэй, прадаў бы.

Як бачыце, забралі мне ўсё, нават вестачкі ад сяброў, ад маіх унукаў, атруцілі рэшткі жыцьця і зьнівечылі яго наагул. Ці ёсьць нешта болей жудаснае пад сонцам?

*Зэльва, 28 кастрычніка 1975 г.*

Дарагая Людвіка Антонаўна!

Дзякуй вялікае за ліста і за пасылачку. Галоўнае — дзякуй за памяць. Памідоры дайшлі цалюткія. Яны вельмі смачныя, а на жоўценькія мы думалі, што вінаград! У нас ужо даўно няма сьвежых памідораў, і таму Вашыя былі вельмі ў пору. Ці атрымалі газэты і эўкаліпт? Выслала я ўсё гэта на Архітэкту[41]. Сардэчна жадаем Вам здароўя і шчасьлівых гадоў жыцьця. Ласкава нам прабачце, што не павіншавалі Вас у час. Ня гневайцеся! З усіх «радасьцяў жыцьця» я ўжо нічога не памятаю, нічога ня ведаю. Часам бываюць болей як дзіўныя правалы памяці. Вельмі асьцерагаемся зь ежаю, ямо толькі тое, што купім у краме. Пішу гэта не галаслоўна…

Добра, што Ваш дарагі ўнук мае магчымасьць часьцей Вас бачыць. Хораша, што дзеці паклікалі гасьцей і адзначылі Ваш дзень нарадзінаў. Напэўна, зрабілі здымачкі? Прышлеце ласкава, калі яны ёсьць. Думаю, што Вам добра хадзіць, бо рух — гэта жыцьцё, але перамучвацца працаю ніяк нельга! Добра было б Вам сядзець у шэзьлёнгу і працаваць галавою, бо яна ў Вас сьветлая і куды мацнейшая за фізычныя сілы. Сколькі яшчэ прыносіце карысьці! Толькі дзьве асобы я ведаю з такой выключнай памяцьцю — Вас і Паўліну Мядзёлку. Як добра! Перадавайце ад мяне самыя шчырыя прывітаньні дарагому сябру Абрамовічу[42]. Кожны ліст ад яго малады і цікавы. Жаль толькі, што маі да яго ня дойдуць. Вось і Міхась атрымаў ліста толькі ад дзедзіка, хоць я свой паслала на пару тыдняў раней. У дзяцей пакуль што праца і адносны спакой. Крыху накрычала на сына, каб злагодзіў тэмы сваіх мініятураў. Піша: «Мама, я чорны, я чорны, хоць скура мая — белая»… Прасіла, каб забыўся на гэта. Як лісы робяць з барсучынымі норамі, дык нешта падобнае намагаюцца цяпер зрабіць з нашымі душамі… Столькі ілжы на раз я яшчэ ня чула, ня бачыла… Разглядаю гэта як убогасьць аргумэнтаў, такое бясьсільле. Трымаю як мага мужа і Богу дзякую за кожны пражыты намі дзень. Нешта мне ўсё колюць ад сэрца. Здаецца, мне лепей. 3 лістапада ідзе муж у водпуск. Думаю, што да працы болей ня вернецца, бо сілаў у абрэз. Здаецца мне часам, што мы — як нейкія Рабінзоны на пустым востраве, гдзе ні хваробы, ні чырвонаскурыя дзікуны ня дрэмлюць… Жаль, няма ў нас сваіх кроўных і блізкіх. Злы лёс быццам прадугледзеў і гэты фактар. Пачынаю разьлічаць людзей на сапраўдных і нелюдзяў. Другіх надта напладзілася многа, і мы ппрыцягнем увагу сілы іх жывёльнай, тупой зацікаўленасьці. З мухі твораць слана! Мару часам аб асяродзьдзі

сапраўдных людзей, а то ўсё Іуды. Вось і разжалілася на сваёй зямлі… Якая іронія… Уцякаю думкамі ў дзяцінства, хаваюся на грудзёх сваёй мамы, і так мне сумна! Гэта я вінавата відавочна, што ня ўмею мяняцца і мяняць вечных праўд на болей выгодныя лёзунгі. А можа, гэта віна асяродзьдзя зь яго мінімальнымі запатрабаваньнямі духу і агромнымі — іншых дабротаў жыцьця, гарэлку не выключаючы?..

Нешта доўга з працы не прыходзіць мой гаспадар. Учора паслаў мяне ў кнігарню, дык прынясла яму розных кніжак. Меў радасьць, кнігі — як лек для яго. Дастаў ліста ад Міхасіка — і гэта лек! Вось так тут і кідаемся. А восень падступае пад вокны — ветраная і ўжо халодная. Прапальваю дрывамі ў печцы. Ад іх меней смуроду, як ад торфу, так прыемна, калі гарэць. Падумайце, сапраўды, ці не замнога працуеце? У меру толькі выходзьце з хаты і добра затульвайцеся! А ў Вас там гамоняць сосны, і гэта добра.

Цалуем Вас, абнімаем і ўсіх-усіх сардэчна вітаем — Вашыя *Геніюшы*.

*Зэльва, 11 лістапада 1975 г.*

Даражэнькая Людвіка Антонаўна!

Вельмі радыя вестачцы ад Вас. Муж цяпер удома, бо мае месяц водпуску. Дзеці амаль ня пішуць. Сёлета гнілі моцна яблыкі, і яшчэ ўсё надгніваюць. Мае памідоры раньнія, дык мы іх адразу зьядалі ці закручвалі ў банкі. У мяне ціск крыві — 130 на 80, таксама паніжаны, і на днях так балела галава, што было аж трывожна. Сяньня лягчэй. Цікава тое, што галава баліць тут многім. Пачынаецца боль ад патыліцы.

Для Вашага сына добра быць у руху і на паветры (як і для мяне), тады і апэтыт лепшы, і настрой. Гэта цяжка, але гэта трэба! Лекаў, наагул, — як найменей. Мне прыпісалі стугерон — ад галавы (па тры таблеткі ў дзень) і кампламін — ад сэрца (па тры таблеткі). Стугерон — нейкі найнавейшы лек, і дастаць яго цяжка.

Шкада пані Галіну [Войцік]. Няўжо каменьні? А да добрага лекара яе трэба завесьці абавязкова, і няхай гэта зробіць муж. Гэта ня жарты — хварэць і вучыць адначасова. Трэба больш думаць аб сабе, пакуль пачаткі хваробы. У нас — ніякага марозу, і пагода — як летам! Дзякуй Вам вялікае, што яшчэ знаходзіце хвіліну адведаць дарагіх памерлых. Час на такое могуць знайсьці толькі моцна запрацаваныя людзі… харошыя людзі.

Кніжак, аб якіх пішаце, яшчэ ня маем (Альбэрта Паўловіча[43] і інш.). Да нас іх не завозілі яшчэ. Ці ведаеце, што моцна хворая п. Марыя Шутовіч[44]? Ляжыць цяпер у шпіталі, і зусім зь ёю дрэнна. Пісала мне пра гэта Ядзя Гарлуковіч[45] (Вильнюс, Жемайтэ, 28), у якой пані Марыся праляжала паўгода! У яе глыбокі склероз, так што мусялі аддаць у больніцу. Як жа на вачах асыпаўся гэты куст! Нешта несамавітае і трагічнае ў гэтым. Добры той Ваш інжынер, што хоць завязе Вас часам у горад. Каб гэта Вам і нам мець на старасьці год — машыны! Гэта так патрэбна, як ніколі. Вось і цяпер муж пайшоў крыху праветрыцца, а ногі яго не слухаюць. І той фільм п. Галіны хацелася б паглядзець! Ды і людзей харошых так радыя былі б пабачыць… Як жаль, што жывем далёка. Пісалі мне, быццам уключана ў выдавецкі плян мая кніжка для дзяцей «Добрай раніцы, Алесь!» Нешта неверагоднае! Відавочна, памылка, альбо ўсё зэльвенскае начальства трэба паклікаць да адказнасьці за зьдзек над паэтэсай у слаўны жаночы год! Чорт зь імі! Гутарыць і думаць пра іх ня хочацца. Рада я з Вашага ўнука, што добра вучыцца, што разумны, спагадлівы і што так Вам аданы. Званіў сын, што нашыя налапалі троек. Надта ўжо «спартсмэны» і крыху гультаі. Што за клопаты і непрыемнасьці могуць быць з п[ані] Бэргман[46]? Хіба толькі якога асабістага характару? Буду рада атрымаць ад яе хоць пару словаў. Але ці дойдуць? Кастрычніцкія сьвяты прайшлі ў нас адзінока ды нават ня вельмі сыта, бо крамы былі звышдобра забясьпечаныя гарэлкаю. А ежаю? Лепш прамаўчу…

Кажуць, Вільня — гэта Эўропа па колькасьці і якасьці прадуктаў, дык хоць карыстайцеся з гэтага, і п. Галіна няхай есьць болей садавіны. Мы дык не галодныя, бо колькі нам трэба? Але, напрыклад, сытая (адно сала) сьвініна і тая ў нас — 2 руб. 85 кап. кілё! Прадавалі яшчэ кролікаў, але іх не ямо… Былі мука, масла і сьмятана, так я тут і камбінавала абеды і вячэры. Рада, што крыху сьціх боль галавы. Учора пры дапамозе суседак папілавалі ўсе дровы! Пасьля выпілі «Рабінаўкі» (на каньяку!), і быў смачны абед! Вось як мы тут кідаемся. Надта добра спалася пасьля такое працы. У маім гародчыку ваўкі выюць! (Крапіва і інш.) Але я больш каля мужа, і часамі сваруся, каб устаў і пахадзіў крыху. З выгляду ён проста малады, гладкі, а вось на нагах — хістаецца!

Цалую Вас і ўсіх сардэчна вітаю. Ад мужа сардэчныя прывітаньні. Не чытаю нават ліста, бо бягу на пошту.

Глядзеце хоць сябе! Мне пішэце хоць пакрысе, бо надта чакаем весткаў ад Вас. Няхай усё ў Вас будзе добра!

Ваша *Ларыса*.

*Зэльва, 27 лістапада 1975 г.*

Даражэнькая Людвіка Антонаўна!

Шчыра Вам дзякуем за мілага, як заўсёды, Вашага ліста. Заўсёды думаю, як Вам цяжанька сядзець і пісаць, і тым болей удзячная за Вашую памяць. Мушу Вам напісаць сумную вестку: 14 лістапада памерла Марыя Шутавічанка, а Вы напісалі нам 19 лістапада. Няхай родная зямелька будзе ёй лёгкай. Ліст атрымалі сяньня. Тэлеграму мне не давалі. Аб сьмерці с. п. маці Каралёў[47] мы таксама нічога ня ведалі. Надта многа неяк адразу адыходзіць добрых нашых людзей у Вільні. Стала яна нейкая няласкавая для беларусаў… Вечны спакой ім абедзьвюм. Няхай доўга трывае ў патомкаў памяць аб іх! Пісала Ядзя [Гарлуковіч], што п. Марыся перайшла да яе жыць, бо мела ўсяго 200 руб. грошай. Свае кніжкі, здаецца, аддала некаму добраму, каб захаваліся. Ядзя не дастала ад яе ні адной кніжкі, але яна верыць у розум п. Марысі, што дрэнна яна зрабіць не магла. Пахавалі яе, напэўна, там, у калёніі, хоць Ядзя аб гэтым ня піша. Гэтая бедная жанчына толькі тое і ведае апошнія гады, што даглядае і хавае Клімовічаў і Шутовічаў ды сваяго мужа (сваяка кс. Станкевіча[48]), які колькі год таму павесіўся (надта піў). Відно, што неблагая яна і разумная жанчына. Дзеці Клімовічаў дабудавалі паверх у сваёй хаце. Жывуць добра, а да с. п. сваёй цёткі Марысі, як піша Ядзя, прыйшлі толькі на пахаваньне і «ласкава» засталіся на вячэру.

У нас гэтымі днямі цьвярдыя маразы, а сьнегу яшчэ няма. У хаце цёпла. Палю пераважна дровамі, бо торфу ўжо каля нас няма, а брыкет, які тут прыдзяляюць, дрэнна гарыць у нашай печцы.

Як здароўе п. Галі? Ці паправілася? Добра было б, каб пры гэтай нагодзе які добры лекар яе прагледзеў, а то яна ня любіць хадзіць лячыцца. Калі ласка, ня гневайцеся на яе, што нічога Вам не сказала аб хваробе. Я разумею, настолькі яны любяць Вас, што не хацелі палохаць. Толькі б яна паздаравела, а рэшта — умоўнасьці. Для іх, маладых, хвароба ня так страшная, як для нас. Горай тое, што Вы самі нездаровыя. Ці прымалі Вы калі вуглі? Яны танныя і спыняюць шкодныя бактэрыі. Яны добрыя пры развальненьні ды ўздуваньні. Саляту з малачаю я ніколі ня ела. Дзякуй Богу, што Вы змаглі яе есьці і што Вам памагае. А французы толькі і жывуць на адных салятах ды аліве! Дзіўлюся, што п. Галіна прастыла, едучы з мужам. Куды ж ён глядзеў? Чаму не апранулася добра? Толькі ж не бярэце гэтага моцна да сэрца. Спадзяюся, што Вы ім ужо даравалі. Шкадуюць яны Вас, а Слаўка Вас ад усёй душы кахае. Ах, які добры Слаўка! Міхась ужо ня піша ні мне, ні мужу. Мы думаем, што так зацішней для іх. А можа, зноў

папаў пад дрэнны ўплыў. Бо такое явішча — даўно нам знаёмая рэч. Пісаў Белакоз, што ў жніўні памерла яго маці. Даўно-даўно не было ліста ад іх… Апошні ліст ад Надзежды Васільеўны К[араткевіч] быў неяк крывенька напісаны. Яна была хворая, і хоць я ёй ужо двойчы напісала — адказу няма. Непакоюся. Муж апошнія дні водпуску праводзіць пераважна лежачы. Я гэты месяц хоць супакоілася крыху, бо меней кашляў, лепш чуўся і быў заўсёды на вачах.

Я вельмі бядую, што хоча зноў ісьці на працу. Баюся, што перастыне ды перамучыцца, проста ідучы. Ніяк не магу яго ўгаварыць. Белакоз нам прыслаў раённую газэту. Справа ў тым, што дзеткі з музэя прывіталі нашага слаўнага касманаўта П. І. Клімука[49] са слаўным палётам-подзьвігам. Паслалі яму гальштук уласнай работы. А ад яго са Зьвёзднага гарадка атрымалі таксама пасылку! Быў там ліст, яго здымак і «Невадам зь Нёмана» зь яго аўтографам. Падаркі памясьцілі на пачэсным месцы ў музэі, а радасьці — няма граніцаў! Вось якая падзея ў той газэтцы.

Шчуроў у нас — як і ў Вас. Грызуць у склепе буракі і бульбу, а катоў — ніводнага! Бяда, што яны ў Вас — між стольлю. Часам яны здыхаюць у нас пад падлогаю ля печкі. Тады — такі смурод, такое гора, і рады няма, бо ці ж можна вечна зрываць падлогу?! А Вы глядзеце, будзьце толькі здаровыя!

Пану Тоніку, як і мне, наагул хварэць нельга! Няхай трымаецца, меней думае і памятае, што мы зь ім адказныя за мікраклімат у нашых хатах і наагул за многае.

Цалуем Вас моцненька і ўсіх шчыра вітаем!

На днях былі лісты ад дзяцей, у іх усё пакуль што добра. Сын гэты месяц быў у Беластоку ўвесь час, на ўдасканаленьні. Іначай ён працуе ў Гарадку. Хутка зноў вышлем «Ніву». Трымайцеся!

Вашыя *Генюшы*.

*Зэльва, 6 траўня 1979 г.*

Даражэнькія!

Я ня пэўная, ці адказала Вам на апошняга ліста. Можа, толькі «пісала» Вам у думках. Я здаецца, адурэла ўжо з болю, яго ж нічым ня ўняць. Баюся, што і час будзе перад гэтым бясьсільны. Са здароўем — не скажу, што лепей. Сяньня дзіка баліць галава. Званіла Юры. Сяньня Юр'я — яго імяніны. Зноў успомніла с. п. Мужа, і сьлёзы так і прарваліся. Была ў царкве, там заварожваюць мяне зь дзяцінных гадоў улюбёныя, моцна кранаючыя душу сьпевы. Удома я заснула, але боль галавы ня сьціх.

Пагода дажджлівая, туманная, так і гняце. Гарод наш нізкі, і садзіць яго няма як. Ружы мае амаль усе памерзьлі. Нешта і на дэўцыі ня бачу лісточкаў. Толькі Вашыя ягадкі зеленеюць. Я так цешылася, што нарву іх міламу свайму хвораму. Толькі так і думала… Зноў плачу… Што да п. Галіны [Война], дык у нас часта чуваць, што баліць некаму пад лапаткамі. Людзі ратуюцца ад гэтай «эпідэміі» гарчычнікамі. Гэта сапраўды памагае. Бедная Ваша сваячка зь Беластоку! Як я яе разумею! Мне вельмі цяжка ў маёй хаце, але ў кожным іншым месцы было б куды цяжэй. Тут і балюча, і міла, і цёпла душы. Я тут — гаспадыня, і гэта зусім не пустое слова.

Вельмі расчаравалася нашымі землякамі. Мне здаецца, што акрамя нейкага неабгрунтаванага страху ў большасьці іх атрафіраваліся чалавечыя пачуцьці спагады, сяброўства ў горы. Я дык ня ведаю страху, калі мне трэба некага падтрымаць. Таму не хачу думаць, балюча думаць, проста ўстыдно! Толькі што гэта ёсьць факт… Добра, што Вашыя страхі мінулі. Майце справу з дастойнымі людзьмі і нічога ня бойцеся. Разрадка — гэта і індывідуальныя кантакты людзей, ня толькі важкія словы дыпляматаў.

Мела вельмі паважную гутарку з прадстаўнікамі адказных культурных установаў. Людзі зрабілі на мяне добрае ўражаньне. Дагаварыліся наконт друкаваньня, а які будзе рэзультат — ня ведаю. Калі б жыў мой с. п. Муж, гэта было б для мяне болей важна. Дарагія, далёкія мае сябры моцна запрашаюць мяне ў Аўстралію. Удава аднаго нашага паэта (А. Салаўя)[50] вельмі хоча, каб я разам зь ёю жыла. Мяне гэта проста вабіць. Ды і за 33 руб. тут цяжка мне будзе пражыць. Адна мая знаёмая піша, што гэта мала было б і для яе ката Філімона… Здаецца мне, што там я так спакойна заснула б… Цешуся, што недзе жыве маленькі Ян, але лістоў ад іх болей няма. Мне забіраюць і такія радасьці, на жаль… Лісты ад іх не даходзяць.

Паваліўся зусім мой плот. Крыху паправіла. Пераважна сама, і суседзі дзе-што дапамаглі. Калі нешта думаю ці раблю, дык забываюся пра сваё гора. Простыя нашы людзі не забываюцца пра мяне. Яны штодня хоць на хвілінку забягаюць, стараюцца нечым усё дапамагчы. Жаль — нічога не магу чытаць. Гэта яшчэ да мяне не даходзіць. Калі ёсьць які грош, дык і далей купляю кніжкі. Так хацеў бы дарагі с. п. Муж. Недалікатныя людзі прапануюць прадаць бібліятэку на рынку, бо добра плацяць. Божа, якая ж агіднасьць… Мне проста сорамна за такіх людзей. Мы жылі вельмі скромна. І таму я думаю, што заўсёды нейк дам сабе рады.

Як цікава было Вам атрымаць ліст, калі нехта запамятаў Вас аж з 1916 г.! Як гэта хораша. Галоўнае тое, што Вы заслужылі на ўспамін людзей праз даўгія гады.

Вялікдзень прайшоў мне зь людзьмі, але пасьля я паважна захварэла. Разгаўляліся мы з мужавымі сваякамі. Пасля ўсе хадзілі на могілкі, а згуль жанчыны пайшлі да нас на гарбату (яечак у нас маляваць нельга, калі нехта памрэ ўдома). Пасьля прыйшлі мужы тых жанчын, і даволі доўга пасядзелі, пагутарылі. Падобна прайшоў і 1-шы май, у які якраз быў памінальны дзень. Спраталі павялыя вянкі з магілкі, пакінулі толькі капронавыя. У іх заблыталася адна стужка, якой ня вынясьлі, не спалілі. Калі я разгледзела, дык гэтая стужка была «ад унукаў»… Так я яе і прыладзіла на другі вянок. С. п. Дзедзіку гэта было міла.

Зацьвілі мае кветкі. Прымулькі крыху прымерзьлі. Пасадзіла ўжо юргіні. Ля сеткі многа заўсёды пахучага гарошку, які летам выглядае вельмі міла. Туліпанаў сёлета будзе няшмат. Пасьля візыту вышэй упамянутых таварышаў я крыху бясьпечней чуюся. Гэта для мяне сяньня вельмі важна. У польскім журнале «Kobieta i zycе» ёсьць здымак Ольгі Корбут[51] з народжаным сынам. Яе муж Леанід Барткевіч[52] — адзін зь «Песьняроў». Жаль, што такое мы даведваемся толькі з чужых часопісаў… Хлопчык маленькай Вольгі важыць 3,5 кг. Называецца Леанід.

Вось ужо амаль тры месяцы, як няма майго с. п. Яначчкі. Некаму сьніўся, што ажыў… Я наагул так здурэла, што ледзь не паверыла ў гэта. У кожным выпадку стала мне лягчэй. Цалую Вас, усіх шчыра вітаю.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

*Зэльва, 23 кастрычніка 1980 г.*

Даражэнькая Людвіка Антонаўна!

Даруйце ласкава маю нетактоўнасьць. Я ведала, што дзень Вашых народзінаў увосені. Па тэлефоне гаварыла пра гэта і мілай Данусі (яна непакоілася Вашым маўчаньнем). Але думала, што крыху пазьней. Яшчэ была адна прычына. Гэта — маё нікуды ня вартае сэрца. Задумалі пакласьці мяне ў больніцу, але я адпрасілася. Выпісалі 6 гатункаў розных лекаў. Хаджу штодня на траякія ўколы. Жыву яшчэ, безумоўна, але ці будзе лепей? Гэта ўсё пасьля вельмі дрэннай элекракардыяграмы. Я захісталася крыху і болей

эгаістычна падумала пра сябе. Нечаму пачала ратавацца. Сяньня думаю, ці варта было? Я ж тут — нікому ўжо непатрэбны чалавек, а шмат хто чакае ўжо нават маёй сьмерці…

Мастака з Рыгі, здаецца, ведаю. Гэта наш Слава Целеш[53], напэўна. Цешуся, што наведалі Вас такія мілыя госьці. Алега Лойкі[54] толькі нечаму я не люблю. Аднак гэта толькі мае капрызы, з якімі справіцца цяжка.

Учора быў дождж, а мяне пацягнула з апошнімі юргінямі да с. п. Яначкі. Ледзь давезьлі мяне, на дарозе падабраўшы, дамоў… 21 кастрычніка быў дзень народзінаў нашага сына. Было аб чым «пагаварыць» са с. п. мужам. Сыну не пісала нічога. Няхай добры Бог ім усё даруе. Я вылечуся, безумоўна, але сьлед застанецца да сьмерці. Богу дзякаваць, хоць што ўнукі ўмеюць думаць, і жыцьцё яшчэ не пакарожыла ім душаў.

На наступны год я прыеду на дзень Вашых народзінаў. Напэўна. Суседкі тут мяне даглядаюць. Прыходзяць нанач. У хаце — цёпла. У душы — халадно… У Язэпа Найдзюка[55] крыху «бяда», але гэта зусім не бяда! Я ім усё напісала, і яны згодныя са мною. У іх нарадзіўся ўнук у Люцынкі, наймалодшай дачкі, якой 29 год. Яна выкладае ангельскую мову ў Мэд. акадэміі ў Беластоку. Выгадуе сына сабе на радасьць і бяз бацькі!

Цалую Вас сардэчна і ўсіх шчыра вітаю — Ваша *Ларыса Геніюш*.

*Зэльва, 18 лістапада 1980 г.*

Родная мая, дарагая Людвіка Антонаўна!

Пацяплела ў нас, і зальвяне зноў дапамагаюць калгасам выбіраць буракі. Я зноў раскісла і пастанавіла не выходзіць з хаты. Прыйшла з уколу. Робяць мне толькі АТФ (30 уколаў). Рабілі яшчэ Б-6 (вітамін) і папавэрын. Да гэтага я моцна перастыла. Забылася, што трэба асьцерагацца. Хаджу ўжо дабра, мала задыхаюся. АТФ колюць зноў пасля двухтыднёвага перапынку.

Цешуся, што пісаў Вам наш дарагі Зыгмунт Абрамовіч. Жаль, не адудзячыла наша зямля яму за супольныя намаганьні адраджэньня народу ў цяжкія часы царызму. Вам усім за гэта належыць вялікая ўдзячнасьць. Што ж, яна глыбока ў сэрцах патрыётаў…

Як хораша, што ў Дзень Задушны і Вы былі на могілках. Адведалі і сваіх родных, і дарагіх адышоўшых народу… Вадзіў мяне с. п. А. Клімовіч на магілу Ядзьвігіна Ш.[56] Ён расказваў мне пра многія магілы і ксяндзоў беларусаў ці сымпатыкаў нашага адраджэньня, і іншых дарагіх нашых адышоўшых. Магіла Ядзьвігіна Ш., здаецца, блізка ля ўваходу на могілкі? Я ўжо забылася крыху. Дзякуй міламу Славе за хрызантэмы на іх магілкі. У нас хрызантэмаў няма.

Прыбілася да мяне нейкая малая, брыдкая-брыдкая сучачка. Не адыходзіць ад мяне. Сьпіць у сенях і брэша, калі хто шарахнецца ля хаты. Ці [Янка] Хвораст адзін? Думаю, што ягоная сяброўка пры ім. Каб хоць пры ім быў нехта, каб хоць паправіўся.

Найдзюкі назвалі ўнука Марцінам. Язэп піша: «У мінулую нядзелю адведаў нас Мар'ян Пецюкевіч[57]. Мы многа гаварылі ды ўспаміналі Вас і п. Людвіку Войцік. Яна ўсьцяж яшчэ актыўная, працавітая ды мае добрую памяць. Як будзеце пісаць да яе, успомніце, калі ласка, што мы памятаем пра яе і жадаем ёй добрага здароўя і ўсяго найлепшага». Яшчэ піша, што быў тры дні ў Беластоку і ня мог наглядзецца на свайго ўнука. Люцынка з сынам жыве якраз у студэнцкім доме (мае там пакой), які знаходзіцца насупраць дому, у каторым жывуць нашыя. Сын — добры пэдыятар, дык Люцынка яго часамі выклікае. Думаюць, што на Каляды, калі Марцінка падрасьце, дык прыедзе разам са сваёй мамай да іх у госьці. Яны цяпер шчасьлівыя з унука, і няхай будзе ім добра.

Люцынка — гэта дачка Язэпа ад другой жонкі. Яна выкладчыца ангельскай мовы ў Мэд. акадэміі ў Беластоку. Амаль штогод езьдзіць дасканаліць сваю мову ў Лёндан. Відно, што вельмі інтэлігентная дзяўчына. Язэп заходзіў да нашых падзякаваць сыну за

апеку над яго ўнукам і ягонаю маткаю. Юрка наш прафіляктычна глядзіць усіх дзяцей прафэсароў Мэд. акадэміі. Ён — пэдыятар выдатны, а вось нап'ецца, дык робіцца проста жывёлаю. Я пакуль што не магу ні пісаць яму, ні яго бачыць. А крыўдна мне болей за с. п. мужа, чымсьці за сябе. Няхай Бог даруе яму. І я дароўваю, але дараваць — гэта яшчэ ня значыць забыцца…

У суботу — вясельле ў радні с. п. мужа. Жэніцца Віця — харошы, разумны, але толькі шафёр. Мне вельмі блізкі. Некалі змушалі ягоную маму, каб пазбавілася сваёй цяжарнасьці. У іх было дзьве дачушкі, і бацька баяўся трэцяй. Ну і лаяла я таго бацьку! Думала, што век да мяне не акажацца… З якім страхам чакалі мы дзіцятка. Нарадзіўся наш Віктар, як «гаспадар», гонар сям'і. Было гэта ў 1959 годзе — *25 сакавіка!* У гэты дзень яму спраўляюць урачыста дзень народзінаў. І ягонай будучай жонцы Валі я загадала спраўляць іх заўсёды!

Учора паказаўся мне ўжо ў новым касьцюме. Прыгожы і стройны, як таполя! Толькі б паздаровець мне крыху! Будзе пятнаццаць дружак і столькі ж дружбантаў, безумоўна. А іншых гасьцей будзе безьліч. Мне даручылі вітаць іх у ЗАГСе. Сьмешна, але розныя маладыя мамы і таты з возікамі — мае частыя госьці. Радыя заўсёды паказаць мне сваіх нашчадкаў. А яны растуць, хварэюць, маюць зубочкі — і ўсё гэта я мушу ведаць. Адна маці выгадавала ўжо Леначку, якую нарадзіла вагою 800 грам. Колькі тут трэба было любові… Дзяўчынка нарадзілася 22 лютага сёлета.

Вось такое маё жыцьцё. За мяне не турбуйцеся. Я ўжо буду жыць! Мэдыкі глядзяць мяне добра. Пісаў Міхасёк. Думае над тым ужо, якою будзе яго будучая жонка. Зь Менску мне — ніхто ні слова. Ні з кім зь іх ня буду ўжо гаварыць! Мала ў іх чалавечнасьці. А жаль. Народ некалі быў харошы.

Вітаю усіх Вашых хатніх. Вас шчыра цалую — *Ларыса Геніюш.*

*Зэльва, 2 лютага 1981 г.*

Даражэнькая Людвіка Антонаўна!

Забірае мяне памаленьку «ўсемагутны» грып, але я наелася таблетkaў дзеля таго, каб хоць крыху з Вамі пагутарыць. Перадусім прывітаньні Вам ад п. Зыгмунта [Абрамовіча]: «Даўно "ні гу-гу" ад Люды зь Вільні. Як яе здароўе?» Наш дарагі сябра адпачываў у санаторыі і вось толькі цяпер напісаў. Лістоў у Вас — сапраўды цэлы архіў. Ёсьць, напэўна, вартыя і цікавыя, якія і сабе, і людзям яшчэ прыдадуцца. Зь вялікай радасьцю ўбачыла Вас са Славаю ў Календары. Яшчэ раз усё зь цікавасьцю прачытала. Падобны матэр'ял — гэта скарб сяньня.

Думаю, што калі ацякаюць ногі, то АТФ Вам зрабіць неабходна. Ведаю, што зноў цяжка перажылі незабыўную дату сьмерці с. п. сына. Баюся, ці не падзейнічала гэта на хворае і так сэрца? Радая, што ля Вас п. Галя і п. зяць і, галоўнае, — Слаўка. Жыць трэба калі ня вечна, дык як найдаўжэй, колькі нам дана Богам. Аб гэтым ніколі не думайце! Забараняю! Вы яшчэ так патрэбныя. Патрабуюць жа людзі роднай, духовай справы, хоць бы тая школьная моладзь з в. Мясота. Мне толькі пісалі дзеткі з Гудзевіч. Яны пабудавалі ля школы (відавочна — перанесьлі) стогадовую беларускую хату. Дзеля музэю ў гэтай хатцы папрасілі, каб я выслала ім дыван, тканы ў 1913 г. Памыліліся. Дыван той вытканы недзе яшчэ ў Саколцы (несшываны) для мамы с. п. Янкачкі ў 1900 г. Вытканa на ім і тая дата. Зроблена гэта яшчэ ў Бобры праз Палубінскіх. Быў ён і ў Празе. Аднойчы бедны студэнт ня меў што есьці і занёс той дыван у лямбард. Як жа быў зьдзіўлены, калі далі яму вялікія грошы. Ручная праца! І там гэта мела сапраўдную вартасьць.

І ў мяне быў такі дыван ад с. п. мамы, з 1936 г. (дата вытканая), але застаўся, як і ўсе нашыя рэчы, у Празе. І тут нам усё растрэсьлі, разграбілі. Але стары дыван кінулі ў кут,

як непатрэбшчыну. Гэтак жа захавалася і «Шляхам жыцьця» Я. Купалы (Пецярбург, 1913 г.) з надпісам с. п. Яначкі: «Даражэнькаму татачцы. Вялікдзень, 1924 г.» Як сьвятасьць, трымаю гэта ў руках.

Ня столькі «хамскія» натуры
На карках вынесьлі сваіх!
І сьвіст даносчыкаў пануры,
Паверце, не запудзіць іх!

Папраўлюся крыху, дык вышлю ім гэты дыван. Трэба напісаць ім яшчэ яго «гісторыю».

Вось бліжыцца час 8 лютага — сьмерць с. п. мужа. Ноч сплю, другую — зусім ня сплю. Усё прыпамінаецца, і адышоўшы чалавек робіцца дарагім, як за жыцьця, і так да болі патрэбным.

Я маю ўсё неабходнае, толькі я ўжо — быццам цень тут. Палова душы маёй недзе пры ім. Сьвятар да нас цяпер толькі наяжджае, і ў гэтую пару нядзель яго тут ня будзе. Недзе на сэмінары. Так жаль… Але, напэўна, папрыходзяць людзі. Што ж, сходзім на могілкі. Чарку ім пастаўлю ў хаце. Зраблю абед. А там — як Бог дасьць.

Пісаў Міхась. Апошні экзамэн здаў на 4+. Вельмі хочацца яму ў Зэльву. Пытаўся, ці ня маю якога верша пра любоў да дзяўчыны і да Бацькаўшчыны. Дарагі, харошы, да болі наіўны мой унук. Так сталася, што ніколі не давялося пісаць пра любоў, хіба толькі да Беларусі. Што ж, унуку адмовіць нельга. Напісала яму тыя два вершы. Паслала. Толькі б нарэшце спакой быў там у Польшчы і сякі-такі дастатак.

Усе паўцякалі ў гарады на лягчэйшы хлеб, а некаму ж трэба карміць усю дзяржаву. Некалі і ў нас была такая любоў да зямлі, такая прага працаваць на ёй. Упэўненасьць, калі стаіш на зямлі. Цяпер — зусім інічай. Забілі ў людзей любоў да зямлі, а гэта явішча дрэннае. Хоць нашыя людзі яшчэ працавітыя. Апрацуюць дзе-якую лапінку. Зь нічога выгадуюць паршучка, купляючы і яму хлеб у краме (мукі нам не даюць), і не галадаюць! А таму што ня маюць ніякіх больш клопатаў, мэтаў і зацікаўленьняў, дзе што пасеяць, выгадаваць, купіць, дык выпіваюць з тугі, уцягнуўшыся ў гарэлку аж да алькагалізму…

Мала ёсьць стойкіх, разумных людзей, болей іх нейк гіне духова, маральна — зь беззьмястоўнасьці, з пустэчы жыцьця. Кожны адчувае патрэбу нешта тварыць (як Слаўка — свае цяплярні). Калі ня творыць — гібнее. Ды і я толькі і жыву жыцьцём кветак і дрэўцаў, што ля маёй хаты.

У нас сяньня надвор’е амаль вясьнянае. Як добра, што бывае канец і зіме. Напішэце хоць пра здароўе! Цалую.

Жадаю Вам здаровячка. Цалую Вас сардэчна. Вітайце ўсіх хатніх.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

*Зэльва, 25 сакавіка 1981 г.*

Дарагая Людвіка Антонаўна!

Дзякуй за ліста. Стараюся выслаць Вам лекі, якія атрымала ад сына. Нехта пераслаў іх Вам. Няхай Вас хоць не нэрвуе тое, што ня ўсё можаце зрабіць удома. Пакіньце гэта маладым. Я хварэла дзіка, цяжка. Учора была ў Гродне, куды мяне запрасілі на сход філіяла Б[еларускага] С[аюза] П[ісьменьнікаў]. Я ледзь стаяла на нагах. Мой знаёмы сьвятар[58] завёз мяне і прывёз назад на сваёй машыне. Там былі гэтым крыху шакіраваны, але ён быў «у цывільным» і ня быў з намі. Іначай я не зайшла б нават на аўтобусную. Вельмі аслабела.

Дзіва і цуд, але сяньня чуюся лепей, хоць пакропвае дождж. Зь сябрамі было вельмі міла. Усе былі сардэчныя. Амаль усе. Падпісалі мне свае кніжкі. Выйшаў зборнік

вершаў Данусі Бічэль «Ty to ty». Вельмі сымпатычны і звонку і зьместам. Затрымаліся мы ў Данусі, але абедалі ў рэстаране. У Данусі вельмі элегантная кватэра і вельмі харошы дом, у якім жыве. Муж — жоўты, працуе. Дарагі ён і вельмі харошы чалавек. Сынок вырас, такі скромны пяцёрачнік. Вельмі цікавая ў іх шатляндзкая аўчарка Бона. Разумнае прыгожае стварэньне.

Былі весткі з Польшчы, а ўчора — і ліст ад сына. Яго сапраўды хацелі забіць. Паранілі ня так сільна. Але ўсё роўна — цяжкі нэрвовы шок, ад якога і лячыўся два месяцы. Працуе цяпер у Беластоку. Бандыт напаў быццам за сьмерць дзіцяці, якое сын некалі лячыў. Ён настолькі асьвечаны чалавек і партыйны прытым, што ведаў — такое дзіця жыць ня можа. Яно нарадзілася без жаўцяводаў. Рабілі апэрацыю, калі было яму пару тыдняў. Дзіця пераважна ляжала ў больніцы, дзе і памерла ў 14 месяцаў. Сын ужо там яго не лячыў. Усё тут моцна сьмярдзіць… Бандыт на свабодзе. Здаецца, яго будуць судзіць.

Піша, што чуецца яшчэ дрэнна. Ліста заканчвае проста хамствам у адрас с. п. бацькі, што, будучы студэнтам, паслаў яму нейкія кніжкі (якія пасьля і забраў). У сваёй дзікай скупасьці вымаўляе мне нейкія грошы, аб якіх мне казаў сам, будучы тут апошні раз. Мне на гэтым не залежыць, і я нават не папыталася, колькі іх і ад каго… Проста не хацела… Я толькі напісала яму — калі можаш, прышлі мне лекаў за тыя там грошы. Піша мне, што «зайздросна заглядаю ў чужы рот» і т. п. Сьцярпець усё гэта мне вельмі цяжка. Не хачу і не магу яшчэ яго бачыць… Бярэ мяне жах…

Такія мае справы. Падкрапіла мяне крыху тое Гродна. Быў там сымпатычны настрой. Цешуся, што магу ўжо пэўней стаяць на нагах, што не калоціць мяне. Можа, Бог дасьць, будзе лепей. Ліста ад п. Зыгмунта [Абрамовіча] не атрымала. Не атрымоўваю многа лістоў. Ліста, пісанага 23 лютага, аддалі мне тут 13 сакавіка. Справа датычыла маёй кніжкі. Ліст быў з выдавецтва. Я моцна сварылася на пошце, але яна тут меней вінавата. Як будзе далей — пабачым. Толькі б крыху адужаць.

Пасылаю Вам газэтку з Вашым [Серафімам] Татарынам[59]. Я яго не люблю чамусьці. Цалую Вас сардэчна. Усіх шчыра вітаю. Сьпяшаюся на пошту.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

*Зэльва, 28 красавіка 1981 г.*

Даражэнькая Людвіка Антонаўна!

Першае, што датычыцца насеньня і прыправаў, дык акрамя лекаў, нічога болей мне не далі. Пастараюся гэтую справу выясьніць, хоць лісты ад сына ідуць дрэнна. Ад другіх асоб зусім не даходзяць. Яшчэ запытаюся ў таго чалавека[60], калі яго ўбачу ў Зэльве (працуе ён у Дзярэчыне). Я рада, што хоць лекі прывезьлі ў парадку.

У нас крыху пацяплела, і сьвяты праходзяць урачыста і міла, хаця пасьля майго ваяжу ў Менск (у тоненькіх панчошках) схапілі мяне і радзікуліт, і сэрца, і ўтома са сьвяточнай беганіны і турботаў. Амаль кожнаму трэба было парадзіць, дапамагчы, сьпячы і сабе нешта прыгатаваць, бо цяпер наяжджае да нас сьвятар з Поразава і звычайна затрымліваецца ў мяне, бо я жыву ля цэрквы. Папрасілі мяне аб гэтым нашыя людзі. Я адмаўлялася, што хворая на грыпу, але гэта не дапамагло. Дык я цяпер — нібы ў сям'і на сьвята. Клопатаў хапае, хоць мне і весялей у маёй адзіноце. Людзі яны вельмі арыгінальныя і цікавыя ў сваім адданьні няземскаму. Я болей «зямная» і — далёка не аскет…

На зьезьдзе закранaлі пакрысе і справу мовы. Сьмялей гэта зрабіць ніхто не адважыўся, хоць закранaлі там і даволі цікавыя, актуальныя і вельмі патрэбныя сяньня пытаньні. Сябру [Янку] Саламевіча[61] затрымала я сама. Ведала яго з тэлебачаньня.

Пасьля ён падыходзіў да мяне і вельмі міла гаварыў пра Вас, але чакалі другія сябры, і я была — як у цікавым сьне.

С. Панізьніка ня бачыла на зьезьдзе. Зрабіў на мяне ўражаньне Я. Семяжон[62]. Зь ім магла б гаварыць бесканечна. Гэта вельмі інтэлігентны і вартасны чалавек. Цешуся, што ў нас ёсьць такія. Нялёгка было яму ўзьняць з пылу стагодзьдзяў і вярнуць народу Гусоўскага[63]…

Сяньня ў нас крыху цяплей. Я цяпер, акрамя Вас, амаль нікому не пісала. Без Вас не магу. Люблю Вас вельмі і непакоюся аб Вашым страўніку.

Цешуся, што Валодзя Караткевіч добра яшчэ выглядае, што талковы і энэргічны, што дае надзею на новыя творы. Абяцала сябрам, што вазьму савецкае грамадзянства, бо хочуць, каб была — як яны ўсе, а не як нейкая «заморская» птушка. Цешацца з гэтага, а я ўсё думаю, думаю… Толькі сказанага слова назад не вазьму, а там — што ўжо Бог дасьць. Трэба дароўваць… Я дароўваю, але не забываюся, бо гэта ад мяне не залежыць…

Пішу Вам і чакаю нашага сьвятара з жонкаю на абед. Паехалі некага хаваць на сяло. Я заўтра буду садзіць глядыёлусы. Непакоюся за сваіх у Польшчы, хоць і ў нас тут з прадуктамі ня соладка, але ў іх — горай. Хочацца пабачыць і падкарміць Міхася з Алесікам, але ці іх сюды пусьцяць сёлета? Ці хоць вытрымае маё хворае сэрца ўсё, што прыносіць жыцьцё…

За зёлкі Вам шчырае дзякуй. Прышлеце іх, толькі напішэце, як іх запарваць, па колькі піць? Хоць, шчыра Вам прызнацца, дык ня вельмі мне ўжо і хочацца жыць. Нешта ўжо «пазаграбавое» адчуваецца ў маім настроі. Вельмі баюся вайны.

Дзякуй Вам за ўсё, за ўсё! Вітайце сваю сямейку ад мяне! Моцненька цалую Вас.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

*Зэльва, 15 жніўня 1981 г.*

Мілая і дарагая Людвіка Антонаўна!

Дзякуй Вам вялікае за Вашу мілую памяць, за прывітаньні з днём маіх народзінаў, такім ужо паважным, што крыху агортвае сум. Апошні час было многа клопатаў, і я вельмі дрэнна сябе адчувала. Праходзіў рамонт нашай царквы (1443 г.), і давялося мне хоць нечым дапамагчы. Проста жылі ў мяне дзьве жанчыны, якія прыехалі дапамагчы маляваць (бяз грошай!), затрымоўваўся і наш сьвятар зь сям'ёю. Усіх трэба было і накарміць і дагледзець.

У нас сяньня выпаў нарэшце дожджык, і крыху пасьвяжэла ў паветры. Як Вы чуецеся? Як са страўнікам? Хто адведаў Вас, хто Вам піша? Даўгі час я ня маю ніякіх лістоў. Кажуць, што ўнукі павіншавалі бабулю таксама, але лісты ад іх не дайшлі, як і ад мяне не даходзяць. Дзікунства нейкае сяньня на сьвеце. Рваць сувязі паміж сем'ямі, ды яшчэ старым, хворым людзям — гэта праступнасьць! Жаль, што падобнае ў нас называюць прагрэсам… Я цяпер зрабілася вельмі нэрвовая. Не без прычыны, безумоўна…

Маю таксама даволі гуркоў і памідораў. Цэлая вялікая яблыня белага наліву. Крыху кансэрвую, раздаю добрым людзям. Аб кніжцы маёй не чутно нічога[64], але я ўжо прывыкла да гэтага.

Як маюцца Вашы? Ці ўсе яны цяпер пры Вас? Жадаю Вам добрага здаровечка і ўсягоусяго найлепшага ў жыцьці.

Дануся нагаворвае мяне прыехаць зь ёю да Вас, але Бог ведае, што будзе са здароўем яе мужа… Пакуль што — да пабачэньня! Цалую Вас, усіх вітаю.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

*Зэльва, 11 лістапада 1981 г.*

Даражэнькая Людвіка Антонаўна!

Рада, што ёсьць хвілінка часу, каб пагутарыць з Вамі. Жыву адна, а спраў нейкіх і клопатаў — болей, як некалі. Пісаў Язэп [Найдзюк], ён непакоіцца бракам вестак ад Вас — ці хоць Вы здаровыя? У мяне моцна пабольшаў ціск, і зноў дрэнна з сэрцам, але гэта ўжо — нармальнае явішча.

Апошнімі днямі забралі мне крыху час пасылкі да сына. Учора выслала ім яшчэ адну. Мяса і тлушчаў слаць не дазволена. Была ў мяне Данузя са сьвітаю. Гэта былі сябры Аляксей Пяткевіч[65], Аляксей Карпюк ды Юрка Голуб[66]. Данузя задаволена зь візыту да Вас. Казала, што многа скарыстала. Аднак на гэтую тэму гутарылі зь ёю мала, бо парушылі яны болей актуальныя справы адносна маёй асобы. Веру, што ўсе яны жадаюць мне дабра зь іхняга пункту гледжаньня. Візыту іх я была вельмі рада.

Былі і ў Гудзевічах. Алесь Мікалаевіч [Белакоз] выдаўся мне бадзёры і нейкі радасны. Харошыя ў яго сыны. Былі якраз абодва ўдома. Жонка зусім не зьмянілася. Спадабаўся музэй, хоць яшчэ не зусім прыведзены ў парадак. На тэрыторыю музэя яны прывезьлі старую хатку 150 год і абставілі яе, сені і каморку ўсім сялянскім прыладзьдзем тых часоў. Пры печы — мілая ляжанка, цёплая прытым. Мы былі моцна ўзрушаныя і сагрэліся там целам і душою. Цікава было ўзяць у рукі кніжку, падпісаную П. Клімуком. Аднак моцна балела мне сэрца, бо ў мысьлях былі адныя магілы няшчаснага майго роду. Я аж захварэла.

Сын піша аб труднасьцях жыцьця ў іх, асабліва зь ядою. Міхась у Ольштыне, дзе вучыцца. Жыве ўпрогаладзь. Я тут пакуль што недастаткаў не адчуваю. Рада, што маю чым паліць печкі, і так думаю, што яшчэ перазімую. Шкада мне толькі, што не давялося бачыць Вас.

Учора праслаў мне картку наш мілы Забель [Зыгмунт Абрамовіч]. За вокнамі мокры сьнег, вятры і адзінота… Як Ваша здаровячко? Не забывайцеся пра мяне. Вітайце хатніх. Цалую Вас шчыра.

Ваша *Ларыса Геніюш.*

У Польшчы зрабілі Саюз беларускіх студэнтаў — у Варшаве і Беластоку. Яны зьбіраюць сабе цяпер бібліятэку. Пісаў мне пра гэта Язэп [Найдзюк].

*Зэльва, 30 студзеня 1982 г.*

Даражэнькая Людвіка Антонаўна!

Рада, што Слаўка здароў і ўжо гаспадар поўны ў Вашай хаце. Сяньня быў ліст ад Алесіка, малодшага ўнука. Таксама падбіраецца пад гаспадара, клапоціцца, як тут даю рады. Піша, што ў іх цяжка. Надта прыдаліся мае пасылкі. Жаль — нельга болей ім нічога ад нас паслаць. Богу дзякаваць, што хоць усе здаровыя. І што там будзе заўтра? Толькі б спакой нарэшце.

Прачытала Лойкаў «твор»[67]. Гэта ж зашкоднііцтва! Уніжэньне і Я. Купалы, і «[Нашай] Нівы», і ўсяго таго, што было і ёсьць для нас дарагім. Які ж шантаж? І каму гэта выгадна? А той «раман» Я. Купалы з літоўкаю… Падобнага я ня чула ні ад Мядзёлкі, ні ад кога. Лойка быццам абмінае сьвятое і велічнае, як той чарвяк, рад капацца на сьметніку. Разумею Вашае абурэньне. І такі «твор» пойдзе да моладзі… Што ж, некаму гэта патрэбна і выгадна.

Грып мой крыху ўлёгся. Хаджу крыху павольней і цішэй спраўляюся з працаю. Адчуваю сябе, як той Рабінзон Круза на пустым востраве. Акрамя хітрага Жука пры мне нікога.

Ліст Алесіка быў шчыры і разумны. Бог пазбавіў мяне шчасьця бачыць час ад часу сваіх унукаў. Абсалютна пазбавіў мяне майго роду. Усё гэта — крывавыя ўспаміны.

Найбольшая трагедыя ў тым, што я прасякнутая гуманнасьцю, любоўю да людзей, асабліва нашых беларусаў, культураю Захаду, якую спазнала падчас свайго прабываньня ў Чэхах. Калі б ведалі, якая ў нас цяпер няроўнасьць паміж людзьмі! Радзівіл некалі ня быў такім грубым і высакамерным да людзей, як нашае тут начальства! Першага сакратара людзі так і хрысьцяць за вочы: «Обэрштурмфюрэр СС». А кожны дрыжыць за сябе, схіляе голаў і грубыя абразы запівае гарэлкаю. Каб не балела…

Калі трэба выконваць, перавыконваць пляны, дык не абавязкова такімі мэтадамі! Людзі як пачнуць мне расказваць, дык хочацца ўцякаць мне адгэтуль, каб ня чуць і ня бачыць падобнага. Культура — вялікая і сьвятая рэч. Сіла — гэта далёка яшчэ не культура. А тварыць падобнае з людзьмі — гэта альбо ізаляваць іх духова ад спраў дзяржавы, альбо рабіць «дзяржымордаў», падобных сабе. Вось чаму я з гэтым не хачу нічога супольнага мець.

У нас прыгожы Дом культуры, але прыкладу для людзей ад гэтых «дзеячоў» ці нечага вартага дарма чакаць. Беларускага — тым больш. Адзін чалавек расказваў мне, што дачка (ня родная) лупіць яго, п’яная прыйшоўшы з клюбу дадому. Лаецца бязбожна. Што сярод гэтых клюбных «дзеячоў» — адно разбэшчаньне і гарэлка. Адно дзяўчо працавала там, дык уцякло. Чалавеку нельга стрываць такое. Хваліць падобнае і мірыцца зь ім — гэта немагчыма. Гэта не на карысьць ні дзяржаве, ні Беларусі, ні людзкасьці. Мусяе быць нейкая маральная патрабавальнасьць да людзей наагул, а да работнікаў падобных прафэсіяў — тым болей! Не на хітрасьці і вёрткасьці, а на саліднасьці трэба будаваць будучыню і болей клапаціцца пра маральны воблік чалавека. Людзі, якія жывуць у мадэрных дамах, дрыжаць ад крыку вечна п’яных суседзяў, ад енку іх бітых жонак, ад лаянкаў, грубасьці і нярэдка злачынства…

У Празе падобнага я ня бачыла, дык знача, што можна выхаваць людзей на людзей! Розныя былі некалі элемэнты ў сяле, і вось выплылі на паверхнасьць тыя горшыя якасьці. Такая нецікавая рэчаіснасьць, што нават вершы ня пішуцца. Нельга лякіраваць узьнёслымі сьпевамі гэтую безнадзейную рэальнасьць…

Вы жывеце ў сталіцы, і я рада, што падобнага ня бачыце і не адчуваеце, як пазбаўляюць людзей іх годнасьці і дастойнасьці. Мусіць, трэба мне прастудыяваць ідэолягаў марксізму. Баюся, што «истины» іх ня вечныя і ня тыя, якія могуць задаволіць усе духовыя запатрабаваньні чалавека. Сіла ёсьць сілаю, але трэба мець і свой чалавечы дастойны твар.

Палю печку. Богу дзякую, што ёсьць чым. 8 лютага будзе ўжо тры гады ад сьмерці с. п. Мужа. Бракуе мне гутарак зь ім. Таму сяньня так шчыра гутару з Вамі. Няхай Бог Вам пашле ўсё найлепшае. «Прарвалася» сьвяточная картка ад Забеля [Зыгмунта Абрамовіча].

Вітайце сваіх! Цалую і абнімаю Вас — Ваша *Ларыса Геніюш*.

*Зэльва, 1 сакавіка 1982 г.*

Дарагая Людвіка Антонаўна!

Рада, што ёсьць ад Вас вестачка, але вельмі сумна, што Менск такаднёсься да с. п. М. Забэйды-Суміцкага — як мачыха… Напішэце мне ласкава, ці ёсьць якія там праблескі грамадзкага розуму і сумленьня? Ці робяцца нейкія стараньні, каб забраць дамоў урну і сякую-такую спадчыну па памершым? Гэта ж сьвяты наш абавязак.

Я ледзь пішу Вам. Моцна хворая. Здае сэрца. Электракардыяграма зусім дрэнная. Я доўга не была ў лекараў. Змусілі мяне пайсьці. Навыпісвалі лекаў, але ўколаў тут ніякіх няма. Сяньня была на аналізах. Падзеі ў Польшчы і падзеі ў Зэльве (каля маёй асобы) мяне даканалі. Пісаць Вам пра ўсю бязбожную хлусьню авантурыстаў проста ня хочацца. Быў там і адзін разумны чалавек, і хлусьня засталася хлусьнёю, але ўсё моцна

адбілася на маім хворым сэрцы і нэрвах. Казаў мне нядаўна адзін чалавек: «Наскольki моцна Вас любяць людзі, настолькі ненавідзіць начальства»… У сяньняшнія часы гэта сіла няроўная, і вось таму так пакутую. Трываю покуль што.

Затрымка будзе, здаецца, з кніжкаю. Усё жыцьцё мяне гэтым мучаць. Але тое «слаўнае» зэльвенскае начальства крыху цяпер percатрасаюць. Робяць перамены, і напэўна, будуць яны на карысьць, бо ўжо тут было — і сьмех і грэх!

Лечаць мяне сумленна, але ці гэта паможа… Рада, што хоць у дзяцей больш-менш добра. З прадуктамі там цяпер лепей, так што лішне не перажывайце. Яны не галодныя. А Вам няма як і калі займацца малапатрэбнымі ім пачкамі. Каўбасы і сала слаць нельга, а кашы, як піша мая нявестка, у іх ледзь ужо ня «молі ядзяць». Вам патрэбны спакой і ўсім хатнім таксама.

Тамаша Грыба[68] не давялося мне пазнаць асабіста. Я прыехала, калі ён, хворы на запаленьне лёгкіх, ляжаў у больніцы. Я была на ягонай крэмацыі… Гэта зрабіла на мяне, як на патрыётку, цяжкае ўражаньне — памёр на чужыне… Былі вечары памяці аб ім, і ўсе гаварылі ў супэрлятывах. Быў асьвечаны, разумны, чэсны і бедны, як усе парадачныя людзі. Цяжка мне ўспамінаць тыя часы, хоць былі яны ў маім жыцьці, бадай, лепшымі.

Нічога не здымае мне сяньня болю з маёй галавы, ажно трашчыць… Вонку сумна і нейк цёмна. Жук ля маіх ног. Айцец Васілій упаў з драбіны і паламаў нагу. Нага будзе ў гіпсе паўтары месяцы. Шкода дзейнага, разумнага чалавека. Яшчэ 14 лютага адслужыў паніхіду па с. п. Яначцы. Былі і др. Кароль зь Пётрам Рашэтнікам[69] і праездам украінскі паэт Іван Гнацюк[70]. Айцец Васілій — яшчэ малады сьвятар, і мае тыя ўласьцівасьці, што з-пад яго рук аднаўляюцца храмы, і ўсё, да чаго ён дакранецца, а словы выклікаюць роздум у людзей і часта сьлёзы.

Паўлінкі Мядзёлкі я не магла зразумець: ні яе душы, ні яе казаньняў (даруй ёй, Божа…). Яна мела жаль да нас, бо была пэўная, што застанецца з намі. Гэта было нельга, бо с. п. Муж ужо быў хворы, ды яе бесцырымоннасьць, рэплікі і заўвагі моцна яго раздражнялі. Усе яны сяньня сьпяць. Дык няхай жа спакойна ім сьпіцца.

Вельмі хочацца, каб ген. Ярузэльскі[71] нейк унармаваў адносіны паміж імі і намі. Каб хоць сваіх унукаў яшчэ пабачыць. Сын вельмі просіць хоць на пару дзён выклікаць яго сюды праз нашае пасольства ў Варшаве. Баюся, што не дазволяць. Вельмі рада, што Вы не адныя, як я. Добра толькі адно — што ёсьць свая старая хатка, дзе хоць успаміны са мною…

У нас яшчэ сьнег і сьлізгота, але вясна не за гарамі і адчувацца ўжо ў паветры. Баюся, што сёлета не змагу многа працаваць у гародзе. Цяпер перажываю, што лётаюць па хаце молі. Як Вы ратуецеся ад іх? Усё тут пачалося ад сушаных яблыкаў. Вельмі баюся за свае дываны. Іх вельмі рады забраць у музэй. Дарма, безумоўна… А мы аддавалі за іх апошняе, каб толькі бачыць тыя старыя ўзоры. Воля с. п. Мужа была, каб усе іх выслаць далёкім сябром. Жаль — цяпер не дазволена.

Яшчэ раз вітаю Вас са сьвятам 8 сакавіка! Вам і мілай п. Галіне жадаю найлепшага. Няхай будзе спакой на сьвеце, у хатах нашых, у нашых душах! Усіх-усіх сардэчна вітаю, а Вас цалую шчыра і абнімаю.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

*Зэльва, 29 траўня 1982 г.*

Дарагая Людвіка Антонаўна!

Атрымала толькі што «ЛіМ» і ўбачыла там Ваш партрэцік, дарагі мой новы член С[аюза] П[ісьменьнікаў] С[авецкай] Б[еларусі]! Віншую і зычу радасьці і посьпеху ў Вашым жыцьці! Нядаўна пісала Вам. Даруйце за цяжкі мой ліст. Пішу, Вам асабліва,

заўсёды так, як ёсьць. Сяньня настрой у мяне ня лепшы, але ня хочацца закранаць рэчаістасьць.

Як Вашае здароўе? Як расьце і цьвіце ўсё ля Вашай сядзібы? У мяне столькі было туліпанаў, як ніколі! Півоняў будзе ня менш. Гляджу на кветкі, і сумна мне, што Міхасёк мой ня бачыць такога квітненьня. Нават лістоў ад іх няма зноў. Непакоюся. Наагул, лістоў апошні час атрымоўваю мала. Пасьля шматлікіх уколаў мне крыху лепей, але цяжкага не магу ні рабіць, ні падымаць. Стамляюся хутка. Наагул, нейк слабею. Ніколі ня думала, што такімі цяжкімі будуць на Беларусі апошнія гады майго жыцьця. Прасьледаваць і зьдзекавацца над паэтам-жанчынай у 72 гады яе жыцьця можа толькі… Што ж, і гэта трэба стрываць. Толькі за ўсё з часам прыходзіць расплата. За зьдзекі — таксама. Я ўпэўнена!

Баюся, што і сёлета ня пусьцяць сюды маіх унукаў і сына. Як я гэта перажыву? Так хочацца верыць, што яны такія, як іх дзед, як уся нашая сям’я. Сяньня ў людзях, асабліва ў моладзі, нейкі дэфіцыт чалавечнасьці, абсалютная чэрствасьць душы і нейкі тупы эгаізм. Глядзіш — і толькі дзіва бярэ. Людзей цікавяць толькі матэрыяльныя вартасьці, болей нічога. А трэба ж ведаць і мінулае свайго народу, і сучаснае, і трэба ўмець любіць ня толькі сябе. Ведаю толькі, што ўнукі мае вельмі любяць зямлю. Маюць дзялку 30 сотак і ахвотна на ёй працуюць.

Яшчэ раз віншую Вас. Усіх вітаю. Вас сардэчна цалую.

Ваша *Ларыса*.

*Зэльва, 26 верасня 1982 г.*

Даражэнькая Людвіка Антонаўна!

Сардэчна вітаю вас зь юбілеем! Жадаю добрага здароўя, у меру бадзёрасьці духу і сілаў, каб памагаць тым, хто Вашае дапамогі прагне. Трымайцеся, гадоў не лічэце, жывеце яшчэ на радасьць нам доўга і шчасьліва ля сваіх найраднейшых. Усіх Вашых хатніх вітаю са сьвятам велічным і благаславенным — Вашым юбілеем! Рада, што магу сяньня напісаць Вам.

Пару дзён таму было са мною вельмі дрэнна. Давялі мяне ледзь не да сьмерці. Вы маеце рацыю: тут болей нэрвы, хоць і сэрца здае. Мне тут стала неімаверна цяжка. Усяго не апішаш, бо і так лісты прападаюць. Пісаў сяньня Белакоз. Папярэдні ліст ад яго загінуў. Ад сына і ўнукаў таксама лістоў не аддаюць…

Рада, што душу Вашую пацешылі этнографы. Часамі бываюць такія людзі, што пакідаюць харошы і сьветлы след. Дануся Бічэль будзе ў Вас. У яе многа гора. Бога прашу, каб даў ёй сілы ўсё перанесьці. Аб усім яна Вам раскажа сама.

У мяне таксама ёсьць пару яблыняў, дзе вельмі многа яблыкаў, але яны сёлета вельмі дробныя. Стараюся крыху сабрацца зь сіламі, прыйсьці да сябе. Глядзела сяньня, як наш урад і грамадзкасьць віталі М. Танка. Цешыць тое, што ён яшчэ добра выглядае і добра трымаецца. Піша мне часамі. Стараўся дапамагчы, але безрэзультатна. Усё тут упіраецца ў мясцовых кацыкаў.

Вельмі хачу і стараюся выехаць за мяжу. Толькі да сына ехаць мне нельга. Вы добра разумееце гэта самыя. Ніяк не вышлю кніжкі Лёдзе і Кастусю [Шышэям], бо штодня тут новыя беды на маю голаў. Язэпу [Найдзюку] напісала. Адчуваю жудасную адзіноту. «Навокал чорная сьцяна і з дапамогаю — нікога. Насупраць зла стаю адна і гутару душою з Богам!»

Яшчэ раз зычу Вам найлепшага. Цалую Вас сардэчна і ўсіх вітаю.

Заўсёды Ваша — *Ларыса Генію*ш.

*Зэльва, 19 студзеня, 1983 г.*

Даражэнькая Людвіка Антонаўна!

Вялікі дзякуй за вестачку. З жалем бачу, што і мае лісты да Вас, відавочна, пагубляліся ў навале сьвяточнай пошты… Думаю пра Вас, бо надыходзіць сумная дата, і Ваша сэрца будзе неспакойным… Гэта лёс, зь якім нам належыць зьмірыцца, бо жывыя мусяць жыць. Дык няхай сьпіць спакойна с. п. Тонік, пахаваны і аплаканы кахаючымі яго. А Вы каб трымаліся! Глядзеце хоць крыху свайго здароўя. Бог няхай Вас пацяшае.

У нас сяньня Вадохрышча. Ноччу збурыўся дзікі вецер, які дагэтуль не сьціхае. Учора ліў дождж, а цяпер выпала крыху сьнегу, і стала нешта падобнае на зіму. Ад доўгага часу ўзялася за пяро, за лісты. То сьвята, то было вясельле хрышчонага сына, дзе таксама трэба было прыкласьці рукі. Вясельле было шматлікае, багатае, гучнае, у рэстаране. Выручалі, перадусім, свае паршукі. Кожны, хто прадбачыць вясельле, гадуе сьвіней. Гасьцей было каля сотні. Музыка такая, што можна ад яе адурэць. Барабанна-піскліва-гучная, да ненармальнасьці крыклівая і галосная. Усё гэта я нейк вытрымала. Цешыў добры настрой гасьцей, асабліва старэйшага пакаленьня. Пілі гарэлку па-беларуску, скакалі з азартам, дарылі шчодра. Праўда, на другі дзень вясельля выклікалі да мяне хуткую дапамогу. Пасьля ўколаў я ўжо ўсё вытрымала да канца, як і належыць хрышчонай маці. Здароўем пахваліцца не магу. Вельмі слабеюць і баляць ногі, задышка. Далейісьці мне ўжо цяжка. Нешта паднесьці цяжэйшае — амаль немагчыма. Ведаю, што шкодна ляжаць, але часта кладаўлюся.

У дзяцей пакуль што ўсё добра. Апошні ліст быў ад Міхася. Просіцца ў Зэльву. Пісалі і сын, і нявестка. А ўчора быў ліст ад дваюраднай сястры, дык піша, што сын жыве вельмі добра, а ўнукі — харошыя хлопцы, якімі можна ганарыцца. Ведаю, што лекары ўсюды нейк даюць сабе раду, хоць сын мой і нявестка надта скупыя і часта наракаюць на брак грошай… А мне тут хапае ўсяго, Богу дзякаваць, акрамя здароўя. Нічога сабе не шкадую, і заўсёды ёсьць чым пачаставаць добрых людзей, якія заходзяць у хату.

*20 студзеня.* Ліста ўчора не магла скончыць. Прыйшлі сваякі с. п. Мужа і забралі мяне з сабою на дзень народзінаў. Былі толькі цесна свае людзі, і даволі міла прайшоў час. А сяньня добра падмерзла, і падае сьнег. Сьвятлей нейк. Я проста баюся думаць аб сваім лёсе. Навокал то пераважна добрыя людзі, але ўсе яны занятыя працаю, сваімі справамі, а мне тут патрэбная ўжо дапамога.

Даўно не была ў амбуляторыі, хоць паявіўся цукар у крыві. Пакуль нямнога. Суседка дала мне крыху лісьцяў чорнага ягадніку і фасолі. Запарваю, п’ю. Рэчаістасьць робіцца вельмі нецікавай. Прадукцыя атамнай зброі варожыць самае горшае. Пакуль што гэтага нельга спыніць. Ня ведаю, ці пусьцяць вясною ці летам сюды маіх унукаў. Разьдзеленыя сем’і і боль чалавечы — гэта як бы дэвіз нашага часу. Я хоць рада тым, што Вы не адна.

Пісала Данкуся [Бічэль]. Муж яе ў больніцы. Дрэнна зь ім. Баюся, што на гэты раз проста трагічна, бо піша, што вантроба запоўніла ўвесь жывот, закранутая селязёнка. Як здароўе п. Галіны [Войцік]? Як маюцца нашыя Шышэі, ці бываюць у Вас?

Усяго-усяго Вам найлепшага, дарагая Людвіка Антонаўна. Сардэчнае прывітаньне хатнім.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

## ЗАЎВАГІ

Усе лісты Ларысы Геніюш друкуюцца ўпершыню паводле аўтографаў з архіва З. Верас (Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, фонд 318, вопіс 1, справы 42–48).

[1] *Славік* — унук З. Верас.

[2] *Міла я правяла час у сваіх «дзяцей»...* — маюцца на ўвазе Леакадзія і Кастусь Шышэі, удзельнікі беларускага незалежніцкага руху, якія пазнаёміліся ў зняволенні дзякуючы Л. Геніюш.

[3] *Караткевіч Надзея Васілеўна* (1893–1977) — маці У. Караткевіча, перапісвалася з Л. Геніюш.

[4] *Караткевіч Уладзімір* (1930–1984) — класік беларускай літаратуры; ліставаўся з Л. Геніюш.

[5] *Валодзя [Караткевіч] жэніцца на нейкай выкладчыцы...* — маецца на ўвазе *Ватковіч Валянціна* (у першым шлюбе *Нікіціна*; 1934–1983) — гісторык, даследчыца помнікаў архітэктуры.

[6] *Шутовіч Янка* (1904–1973) — грамадска-палітычны дзеяч, рэдактар віленскага часопіса «Калоссе».

[7] *Танк Максім* (сапр. *Яўген Скурко*; 1912–1995) — беларускі пісьменнік, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі (1967–1990), член ЦК Камуністычнай партыі Беларусі (1966–1990), старшыня Вярхоўнага Савета БССР (1963–1971). Народны паэт Беларусі (1968), Герой Сацыялістычнай Працы (1974).

[8] *Геніюш Юрка* (1935–1985) — сын Ларысы і Янкі Геніюшаў. Закончыў Беластоцкую медыцынскую акадэмію, працаваў дзіцячым лекарам, жыў у Беластоку.

[9] *Луцкевіч Лявон* (1922–1997) — малодшы сын Антона Луцкевіча; каля дзесяці гадоў правёў у Гулагу.

[10] *Прашковіч Мікола* (1932–1983) — літаратуразнавец, крытык, перакладчык, кандыдат філалагічных навук (1965).

[11] *Клімовіч Адольф* (1900–1970) — грамадскі дзеяч, журналіст, выдавец; жыў у Вільні.

[12] *Белакоз Алесь* (нар. 1928) — краязнавец, педагог, мемуарыст; заснавальнік Гудзевіцкага літаратурна-краязнаўчага музея (1965).

[13] *Берыя Лаўрэнцій Паўлавіч* (1899–1953) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, адзін з галоўных арганізатараў і кіраўнікоў палітычных рэпрэсіяў у СССР у 1930–1950-я гг.

[14] *Шантыр Антон* (1919–1976) — сын Зоські Верас і Фабіяна Шантыра (1887–1920).

[15] *Быкаў Васіль* (1924–2003) — класік беларускай літаратуры; ліставаўся з Л. Геніюш.

[16] *Смоліч Алеся* (?—1989) — педагог, аўтар беларускіх падручнікаў; жонка навукоўца і палітыка Аркадзя Смоліча (1891–1938).

[17] *Міхасік* — унук Л. Геніюш; па прафесіі ветэрынар, жыве ў Беластоку.

[18] *Алесічак* — унук Л. Геніюш; паштовы служачы, жыве ў Беластоку.

[19] *Ластаўка Пятро* — паэт, дзеяч культурна-асветнага руху ў Заходняй Беларусі; жыў у Варшаве.

[20] *Дубоўка Уладзімір* (1900–1976) — беларускі паэт і перакладчык.

[21] *П. Кароль* — маецца на ўвазе жонка *Усевалада Караля* (1919–1984) — актывіста Беларускай незалежніцкай партыі, па прафесіі лекара; у 1946 г. быў арыштаваны, пасля вяртання з Гулагу жыў у Баранавічах.

[22] Паэтка мае на ўвазе сваю кнігу *«Невадам з Нёмана»* (1967).

[23] *Ермачэнка Іван* (1894–1970) — дзеяч беларускага палітычнага руху і эміграцыі. З 1940 г. — старшыня Беларускага камітэта самапомачы ў Празе. У 1941 г. пераехаў у Менск, узначаліў Белару-

скую народную самапомач, быў дарадчыкам генеральнага камісара Беларусі В. Кубэ. З 1948 г. — на эміграцыі.

[24] *Забэйда-Суміцкі Міхась* (1900–1981) — беларускі спявак (лірычны тэнар). Спяваў у Пазнанскай і Харбінскай операх, стажаваўся ў Мілане ў Ф. Карпі. З 1940 г. быў салістам Народнага тэатра ў Празе. Пахаваны на пражскіх Альшанскіх могілках.

[25] *Мядзёлка Паўліна* (1893–1974) — мемуарыстка і грамадская дзяячка; жонка *Т. Грыба*.

[26] *Карпюк Аляксей* (1920–1992) — пісьменнік і грамадскі дзеяч, у 1978–1992 гг. узначальваў Гарадзенскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі.

[27] *Бядуля Змітрок* (сапр. *Самуіл Плаўнік*; 1886–1941) — паэт і празаік.

[28] *Тое, што ён так непраўдзіва ўсё напісаў*...— маецца на ўвазе апавяданне З. Бядулі «Страцім-лебедзь» (гл.: Шлях паэта: зборнік успамінаў і біяграфічных матэрыялаў пра Максіма Багдановіча / скл. Н. Ватацы. Мінск, 1975, с. 72).

[29] *Грынчык Мікола* (1923–1999) — літаратуразнавец, прафесар Менскага інстытута культуры, доктар філалогіі.

[30] *Шнаркевіч Надзея* (1897–1974) — настаўніца, супрацоўніца галоўнай управы Таварыства беларускай школы, рэдактар часопіса «Жаночая справа».

[31] *Коршунаў Аляксандр* (1924–1991) — літаратуразнавец, даследчык беларускай старажытнай літаратуры.

[32] *«Ніва»* — штотыднёвая грамадска-культурная газета, выдаецца з 1956 г. у Беластоку Беларускім грамадска-культурным таварыствам.

[33] *Панізнік Сяргей* (нар. 1942) — беларускі паэт, краязнавец, перакладчык, грамадскі дзеяч.

[34] *Сергіевіч Пётра* (1900–1984) — мастак; жыў у Вільні.

[35] Маецца на ўвазе раман У. Караткевіча *«Каласы пад сярпом тваім»* (1964).

[36] *Война Галіна* — дачка Зоські Верас і Антона Войціка (1948–1998).

[37] *Іпатава Вольга* (нар. 1945) — пісьменніца і грамадская дзяячка, старшыня Саюза пісьменнікаў (1998–2002).

[38] *Купюра a la Kopernik* — польская банкнота.

[39] *«Вершалінскі рай»* — раман А. Карпюка.

[40] *Леўчык Гальяш* (сапр. *Ляўковіч Ілля*; 1880–1944) — беларускі паэт і бібліяфіл.

[41] *Архітэкту* — вуліца ў Вільні, дзе жыў Л. Луцкевіч.

[42] *Абрамовіч Зыгмунт* (сцэнічны псеўданім *Антон Забель*; 1892–1988) — актор тэатра Ігната Буйніцкага; жыў у Злотаве (Польшча).

[43] *Паўловіч Альберт* (1875–1951) — паэт і драматург.

[44] *Шутовіч Марыя* — сястра ксяндза Віктара Шутовіча (1890–1960).

[45] *Гарлуковіч Ядзвіга* — віленская прыяцелька Л. Геніюш. [46]*Бергман Аляксандра* (сапр. *Кучкоўская*; 1906—?) — гісторык, даследчыца нацыянальна-вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі; з 1946 г. жыла ў Польшчы.

[47] *Аб сьмерці с. п. маці Каралёў*... — маецца на ўвазе сям'я *Усевалада Караля* (гл. заўвагу 21).

[48] *Станкевіч Адам* (1891–1949) — рэлігійны і палітычны дзеяч, гісторык і публіцыст.

[49] *Клімук Пятро* (нар. 1942) — касманаўт, двойчы Герой Савецкага Саюза; прыслаў у Гудзевіцкі літаратурна-краязнаўчы музей кнігу Л. Геніюш «Невадам з Нёмана» са сваім дарчым надпісам, што служыла своеасаблівай ахоўнай граматай для музея.

[50] Маецца на ўвазе *Зінаіда Кадняк*, удава паэта Алеся Салаўя (1922–1978); жыве ў Аўстраліі.

[51] *Корбут Вольга* (нар. 1955) — беларуская гімнастка, чэмпіёнка Алімпійскіх гульняў (1972, 1976).

[52] *Барткевіч Леанід* (нар. 1949) — эстрадны спявак, саліст ансамбля «Песняры» (1970–1980).

[53] *Целеш Вячаслаў* (нар. 1938) — беларускі мастак і філакартыст, аўтар альбома «Гарады Беларусі на старых паштоўках» (1998); жыве ў Рызе.

[54] *Лойка Алег* (1931–2008) — паэт, празаік, літаратуразнавец; член-карэспандэнт НАН Беларусі (1989), доктар філалогіі (1969).

[55] *Найдзюк Язэп* (1909–1984) — дзеяч беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі, рэдактар часопіса «Шлях моладзі»; з 1944 г. жыў у Польшчы пад прозвішчам *Александровіч*.

[56] *Ядвігін Ш.* (сапр. *Антон Лявіцкі*; 1869–1922) — пісьменнік; пахаваны ў Вільні на могілках Росы.

[57] *Пецюкевіч Мар'ян* (1904–1983) — этнограф, педагог, мемуарыст, рэдактар часопіса «Шлях моладзі» (1930–1935); жыў у Польшчы.

[58] Маецца на ўвазе *Чыкіда Васіль* (1938–2000) — святар, настаяцель зэльвенскай Свята-Троіцкай царквы.

[59] *Татарын Серафім* (1903–1988) — удзельнік рэвалюцыйнага і культурна-асветнага руху ў Заходняй Беларусі; жыў у в. Вострава Зэльвенскага р-на.

[60] Гаворка пра *Пятра Марціноўскага* (1932–2006) — настаўніка, краязнаўца; жыў у мястэчку Дзярэчын на Зэльвеншчыне.

[61] *Саламевіч Янка* (нар. 1938) — беларускі літаратуразнавец і фальклcostарыст, аўтар першага ў гісторыі беларускага літаратуразнаўства «Слоўніка беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў XVI–XX ст.» (1983).

[62] *Семяжон Язэп* (1914–1990) — беларускі перакладчык.

[63] *Гусоўскі Мікола* (1470–1480-я — пасля 1533) — беларускі паэт-гуманіст і асветнік эпохі Адраджэння, прадстаўнік новалацінскай усходнееўрапейскай школы.

[64] *Аб кніжцы маёй не чутно нічога…* — гаворка пра зборнік *«На чабары настоена»* (1982).

[65] *Пяткевіч Аляксей* (нар. 1931) — літаратуразнавец, прафесар Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы.

[66] *Голуб Юрка* (нар. 1947) — паэт, родам з вёскі Горна, што непадалёк ад Зэльвы.

[67] *Прачытала Лойкаў «твор»…* — гаворка пра раман А. Лойкі *«Як агонь, як вада»*.

[68] *Грыб Тамаш* (1895–1938) — беларускі палітычны і культурны дзеяч, сябра Рады БНР, народны сакратар земляробства ва ўрадзе Я. Воронкі. Жыў у Празе, пахаваны на Альшанскіх могілках.

[69] *Рашэтнік Пётра* (1926—?) — удзельнік беларускага незалежніцкага руху, сябра Саюза беларускай моладзі. У 1948 г. быў арыштаваны і асуджаны на 25 гадоў няволі; пасля вызвалення жыў у Баранавічах.

[70] *Гнацюк Іван* — украінскі паэт і перакладчык.

[71] *Ярузельскі Войцех* (нар. 1923) — ваенны і дзяржаўны дзеяч Польшчы, першы сакратар ЦК ПАРП, ініцыятар увядзення ў Польшчы ваеннага становішча (1981).

*Прадмова, падрыхтоўка да друку,*
*публікацыя і заўвагі Міхася СКОБЛЫ*

# Чаму мы былі сведкі



# БЕЛАРУСКА, ЧАСТКОВА «САВЕТКА»

## Дарожныя занатоўкі, успаміны, каментары

У верасні 1980 года спрыяльны збег абставінаў (мусіць, дакладней — ласка Божая) даў мне магчымасць дзесяць дзён правесці ў Польшчы, Польскай Народнай Рэспубліцы… Я была госцем беластоцкай газеты «Ніва», у мяне быў цудоўны персанальны «апякун» — публіцыст Мікалай Гайдук, які зладзіў шмат сустрэчаў з рознымі людзьмі ды паказаў мне Беласточчыну, Кракаў, Варшаву з такой замілаванасцю, так грунтоўна распавёў пра славутыя мясціны, якія мы наведалі, што яны ярка і жыва зберагаюцца ў памяці дагэтуль. Сёння падобным маршрутам можа прайсціся, праехаць амаль любы беларускі турыст. І я не стала б выцягваць свае нататкі трыццацігадовай даўніны, каб проста пагаварыць пра дарожныя *пекнасці*… Упэўнена: іх пабольшала за прамінулы час. Аднак яшчэ большыя змены адбыліся ў грамадскім жыцці, іншыя прыярытэты, іншыя каштоўнасці кіруюць сёння ў Польшчы мільёнамі людзей. І вось згадаць пра пачатак трансфармацыі краіны і чалавечай свядомасці, зыходныя пазіцыі, так бы мовіць, мне падаецца важным і своечасовым, вартым увагі беларускага чытача. Маё светаўспрыманне з таго часу значна змянілася, савецкага наіву і апломбу, хочацца верыць, істотна паменела. Але я чытаю свае дзённікавыя запісы, быццам углядаюся ў сябе колішнюю. Ці можна зразумець, як і чаму адбываюцца змены ў ментальнасці? Чаму ў адных і тых самых варунках розныя людзі паводзяць сябе па-іншаму? Што вызначальнае? Што імі кіруе?

## Крок назад

Будзённым летнім днём 1979 года мяне выклікаў галоўны рэдактар газеты «Голас Радзімы», дзе я тады працавала. Ён сказаў, што ў Мінск прыязджае журналіст з Беластока, з газеты «Ніва», і мне даручаецца суправаджаць яго і дапамагчы яму зладзіць сустрэчы з тымі дзеячамі культуры, літаратуры і мастацтва, у якіх ён мае намер узяць інтэрв'ю. Пра «Ніву» я ўжо нешта ведала, мела зрэдку магчымасць яе пагартаць. (Гэты тыднёвік друкаваўся на шурпатай жаўтлявай паперы, а «Голас Радзімы» — на гладкай белай, дык было пачуццё нейкай зверхнасці.) Тонам сяброўскіх парадаў рэдактар выдаў інструкцыі: быць абачлівай, улічваць магчымасць антысавецкіх правакацый, бо чалавек гэты няпросты, заняты нацыяналіст. Ён ведае яго з часоў студэнцтва. Але наконт будучых суразмоўцаў абмежаванняў няма. Госця цікавіць мова, гісторыя Беларусі, народнае ды прафесійнае мастацтва, літаратура… Вось у гэтых рамках і дзейнічаць. Толькі ў Мінску! Не забываючы, што ў яго тут шмат асабіста знаёмых людзей… Завуць гэтага журналіста з Польшчы — Мікалай Раманавіч Гайдук.

Працавалася нам з госцем лёгка. Ён ужо да прыезду меў спіс асобаў, з якімі збіраўся гутарыць. Я дадала толькі пару мастакоў ды навукоўцаў. Праўда, таго-сяго мы не здолелі «вылавіць»: лета, час адпачынкаў. Мікола нястомна пісаў штодня ў свой блакнот, пераважную частку свайго спісу «апрацаваў» без маёй прысутнасці і дапамогі. Але выкройваўся час і на нейкія свае размовы, наведванне камісійных крамаў, адзін дзень патрацілі на агляд мінскіх ваколіцаў, чым пашырылі дазволены «кругагляд». (Было няпроста знайсці прыватніка з машынаю дзеля гэтага. Сёння смешна гучыць такое.) І вось неяк пры каве, у лёгкай гамонцы «а ў вас… а ў нас…», раптам прагучалі словы, якія мяне не тое што насцярожылі, а папросту спалохалі. Мімаходам, як нешта само сабой зразумелае, Мікола сказаў, што вось Савецкі Саюз неўзабаве разваліцца,

толькі невядома, ці мы дажывем да гэтай падзеі. А змены тады будуць каласальныя. Што ўжо там будзе, я не чула… (прынамсі, у памяці не засталося). Бо адна думка ўсё засланіла: гэта — правакацыя ці проста шчырая размова? Мушу я сказаць пра гэта свайму кіраўніцтву ці лепш зрабіць выгляд, што нічога не было? Ноч не спала… У такой справе і параіцца не было з кім. Пра гэты свой страх я ўпершыню насмелілася сказаць самому Міколу… у 1989 годзе, калі мы разам ехалі ў Вільню на Устаноўчы з'езд БНФ. Ён моцна здзівіўся, падобна, нават не паверыў, бо размовы той зусім не памятаў. А для мяне яна стала вяхою на жыццёвым шляху.

### «Думаў, прыедзеш на танку…»

Такім «вясёлым» жартам сустрэў мяне Мікола Гайдук 20 верасня 1980 года на варшаўскім чыгуначным вакзале. (Давялося потым не раз сутыкнуцца з падобным польскім гумарам.) Побач стаяла Ася, малодшая Гайдукова дачка, з букецікам братак. Была *вольна субота*, таму не працавалі крамы, Асін ліцэй таксама. Мікола прыклаў шмат высілкаў, каб зладзіць маю паездку — службовую камандзіроўку ў адказ на ягонае наведванне Мінска. У Польшчы тады рабілася ўсё больш неспакойна, але зразумець, што насамрэч там адбываецца, паводле лаканічных, казённай мовай пісаных паведамленняў ТАСС было немагчыма. Дый, папраўдзе кажучы, мяне гэта мала цікавіла, савецкае ўзгадаванне давала свой плён. Затое магчымасць паехаць за мяжу ў грамадстве цанілася высока (вядома, Польшча паводле прэстыжнасці стаяла далёка не на першым месцы, быў нават «крылаты выраз»: «курица — не птица, Польша — не заграница»). Аднак вы́бегаць усе патрэбныя паперы на паездку (анкеты, характарыстыкі і інш.) усё роўна было няпроста. У вагоне цягніка «Масква — Варшава» нас было трое: правадніца і два пасажыры, акрамя мяне ехаў яшчэ мужчына непрыкметнай знешнасці, практычна без багажу. Міколаў жарт я ацаніла і зразумела значна пазней, калі крыху «макнулася» ў польскую рэчаіснасць.

**З дзённіка. 20.09.80 г.** Ад цэнтральнага вакзала прайшліся да Алеі Ерузалімскай, абышлі Палац навукі і культуры — «сталінскі падарунак», можа й функцыянальны будынак, але дысгармонія з наваколлем поўная, з'елі па «гарачым сабаку» і загрузіліся ў «*малюх*». Ён крыху больш зручны, чым наш «запарожац». Усю дарогу да Беластока я глядзела па баках і слухала аповед Міколы пра апошнія навіны, дакладней, «польскія падзеі». Іх ініцыятарамі і арганізатарамі ён лічыць Папу і КОР (*Корпарацыя обороны работнікув*). Падзеі — пратэсты — маюць мірны характар. Іх хваля пракацілася праз Люблін, Гданьск, Шчэцін. Калі дайшла да Беластока, згасла. Тут людзі працавалі, не паддаліся на «козні Папы». Яны праваслаўныя. Паляк і католік — паняцці ўзаемазвязаныя, непадзельныя ў масавай свядомасці. Вось цяпер уводзяць месы па радыё… Як дзейнічалі «пратэстоўцы»? Працаўнікі займалі прадпрыемствы, пры гэтым падтрымлівалі ідэальны парадак — ні чаркі, ні акурка. Кіравалі ўсім забастовачныя камітэты, у іх выбіралі партыйных і беспартыйных, жанчын і мужчын, людзей рознага ўзросту. Акцыі трывалі прыблізна па тры тыдні. Жонкі насілі ежу да брамы, па святах там жа былі месы, споведзі. Акцыі маюць выразную антысавецкую скіраванасць, але ні слова пра гэта не было сказана ці напісана. Дакладна падгаданы час: Масква звязаная Алімпіядай ды Афганістанам. *Страйкоўцы* дамагліся ўсяго, што прасілі. У некаторых патрабаваннях было па 20–26 пунктаў. Паўсюль ствараюцца вольныя прафсаюзы, галіновыя адколваюцца ад цэнтралізаваных, працоўныя дамагаюцца права на забастоўкі і г. д. Калі давядзецца адлічваць з заробкаў грошы на ўтрыманне гэтых прафсаюзаў, то, можа, пачнуць іх кідаць… Пакуль што дабіліся прыбаўкі зарплаты, прыблізна 1000 злотых. Але крамы пусцеюць. Наперадзе — пагаршэнне жыцця. Найбольш Мікола баіцца

разні, міжнацыянальнай варажнечы. У яго свядомасці застаўся моцны страх пасляваенных гадоў, калі на Беласточчыне палякі выразалі, выпальвалі беларусаў цэлымі вёскамі. («Або едзеш у сталінскі рай, або ідзеш на лона Аўраама!») Староннія вочы (мае!) тым часам бачаць прыбраныя кветкамі ды каляровымі стужкамі прыдарожныя крыжы ля кожнай вёскі, прыгожыя дамы-катэджы, дагледжаныя палеткі — нязвыклыя для савецкага чалавека кавалкі-шнуры. І ў той самы дзень мы ідзем у філармонію на канцэрт самадзейных выканаўцаў у гонар удзельнікаў сімпозіуму МАПРЯЛ (Міжнародная асацыяцыя выкладчыкаў рускай мовы і літаратуры), які праходзіў у Беластоку.

**P. S.** Гэты сімпозіум, як і міжнародны фестываль лялечных тэатраў, на адкрыццё якога мы патрапілі праз пару дзён, для мяне быў проста чарговым службовым мерапрыемствам, падобным на мінскія. Слабая ўключанасць у польскія рэаліі не давала магчымасці напоўніцу ацаніць тыя «калючкі», якія ляцелі з вуснаў вядучых ды асобных выступоўцаў у бок уладаў, партыйцаў, іх нораваў і стылю жыцця. Публіка ж рэагавала вельмі востра. І пляскала ў ладкі, і дадавала воклічамі свае каментары. (Пэўна, для мяне жарты не здаваліся такімі смешнымі, бо падтэкст выпадаў. «Што сказана, то адразу і будзе зроблена ў нас…» — кажа вядучая. Дружны смех у залі. А яна пасля паўзы дадае: «…у тэатры». І зноў усе смяюцца. Або: «Пан ваявода адкрыў наш з'езд… Вольны і незалежны…(паўза). Незалежны ад надвор'я, бо маем надзейныя сцены, і сафіты…») Зусім іншыя былі паводзіны людзей ля касцёлаў. (Падчас службы ў будынак я не наважылася зайсці ні разу.) Нават увесь падворак, як правіла, быў запоўнены людам. Стрыманым, без ніякіх усмешак. І словы малітвы, і казань ксяндза тут гуртавалі, вучылі, заклікалі… Адчувалася такая энергетыка! Кожны раз, калі мы выбіраліся да касцёла, Мікола папярэджваў: «Маўчы! Ні слова не скажы! Бо адразу пачуюць, што "саветка", і рэакцыя будзе непрадказальнай, адназначна — негатыўнай». Маё недаўменне было смешным, разумею гэта цяпер. У вачах тых людзей ля касцёла я была пасланцом СССР — чужой, варожай ім па ментальнасці краіны, акупантам. Не мела ніякага значэння, што сама па сабе я прыстойны чалавек, шараговец, пачатковец у сваёй прафесіі, што я не маю КПССаўскага білета, што прыехала з адкрытай душой… Я была ім чужой ідэалагічна і нацыянальна, апрыёры. І мая апеляцыя да беларусаў, беларускасці не магла б ратаваць, бо настроі міжваеннай Польшчы ў гэты час там былі вельмі моцныя, а беларускі рух на Беласточчыне, дазволены, актывізаваны ў 1950-я гады ўладамі, успрымаўся як «пятая калона». Ратуючы сябе, адстойваючы сваё права на жыццё і дзейнасць (хоць бы самадзейна-фальклорную, хоць бы праз навучанне беларускай мовы), беластоцкія беларусы апелявалі да БССР, чым міжволі падкідвалі трэскі ў вогнішча незадаволенасці. Цікава, як бы я сябе паводзіла тады з сённяшнім разуменнем той сітуацыі?

**З дзённіка. 21.09.80 г.** Раніца пачалася з «гадзіннікавых» непаразуменняў. [Мушу нагадаць, што Беларусь жыла тады паводле маскоўскага часу, паміж ім і варшаўскім розніца была дзве гадзіны.]* Пасля спешнага сняданку (*кефір, кава, омлет, хлеб*) высняю, што да прыходу майго апекуна яшчэ процьма часу! Значыць, магу дазволіць сабе прагулку па ваколіцах гатэлю. Прыстойны маленькі еўрапейскі горад. [Адкуль тое веданне Еўропы?! Хіба з кіно ды часопісаў.] Брук, асфальт, шмат зелені і кветак. І вуліца называецца *Ліпова…* А вось проста цуд: кветкавая крама! Памерам, можа, як тэлефонная будка, але чаго ў ёй толькі няма! І кветкі свежанькія, быццам толькі што зградкі. [Шчырая зайздрасць «саветкі», бо ў нас заўсёды былі адно гваздзікі да рэвалюцыйных святаў ды падсохла-прымарожаныя мімозы перад 8 сакавіка.] А вось цэны паўсюль немалыя… Трэба добра падумаць, на што патраціць свае грошы.

* Тут і далей у цытатах з дзённіка ў квадратных дужках падаюцца сённяшнія аўтарскія ўдакладненні ці каментары.

А 10-й раніцы паехалі ў Супрасль. Перад гэтым крыху паслухалі месу па радыё. «Гістарычны момант, — сказаў Мікола. — Гэта ўпершыню пасля 1946 года. Праз трыццаць гадоў сацыялістычнай дзяржавы…»

Прыдарожныя краявіды нечым нагадваюць беларуска-літоўскае памежжа. Але вёскі больш цывілізаваныя. Мой спадарожнік стараецца не прапусціць ні адной зачэпкі, каб гісторыя і культура Беласточчыны паўсталі перада мною ва ўсім сваім багацці і самабытнасці. Вось трапляецца пры дарозе скульптура з дрэва… Паводле легенды, чалавек падпаліў хату суседа ад зайздрасці і злосці. Але згарэла і ягоная сям'я. А сам ён стаў балотным вогнікам. Мітусіцца, імкнецца затушыць полымя, а вада ўцякае, не даецца, бо яна чыстая. Век блукае грэшная душа… Разьбяр (яго працы трапіліся нам яшчэ не раз) — Войцэх Заленскі, былы дырэктар, а цяпер настаўнік мастацкага вучылішча ў Супраслі.

### Ушанаваная мінуўшчына

Стаўленне ў Польшчы да помнікаў гісторыі і культуры мяне тады моцна ўразіла. У Беларусі яшчэ і сёння няма нічога падобнага. (Рэстаўрацыйныя работы ў Міры ды Нясвіжы часцей выклікаюць жаль, чым захапленне.) Супрасльскую ж царкву Дабравешчання, архітэктурны шэдэўр першай паловы XVI ст., у той час можна было пабачыць хіба на малюнках, у кнігах ці альбомах. Хрысціянская святыня была ўзарваная на мяжы гітлераўска-савецкага панавання. Кім — цяпер адно Бог ведае. Я ўбачыла толькі акуратна закансерваваныя фундамент і рэшткі царквы. Манастырскія будынкі — наўкол яе — займала нейкае сельскагаспадарчае вучылішча, але ў двух пакоях зладзілі музей (філію беластоцкага). Можна было ўбачыць фрагменты царкоўных фрэсак, падабраныя і зберажоныя людзьмі, малюнкі, планы, макет узарванай царквы, паслухаць экскурсавода. У былой манастырскай трапезнай таксама было даволі цікавых экспанатаў. Часам тут праводзяцца камерныя канцэрты, сказалі нам. Мяне больш займала архітэктура, яшчэ я распытвала пра тутэйшае колішняе кнігадрукаванне… Міколу ж (агулам — праваслаўным беластачанам) больш балела іншае: вярнуць да жыцця царкву, вярнуць манастыр. (І яны ўсё гэта ажыццявілі! Праўда, пазней. Аднак зрабілі ўсё дасканала!) А ў той дзень мы доўга хадзілі вакол руінаў, любаваліся надрэчнымі краявідамі, зноў і зноў спрабавалі ўявіць, як тут усё дзеілася ў папярэднія гады, стагоддзі.

Тыкоцін. Мястэчка, дзе да вайны габрэі складалі 80 % насельніцтва. Рэстаўраваная тры гады таму сінагога (значыць, у 1977 годзе). Адзіная ў Польшчы. Узведзена на мяжы Рэнесансу і барока. Пакуль мы разглядаем унутранае ўбранства, спрабуем зразумець прызначэнне культавых рэчаў, любуемся дасканалай працай рамеснікаў — узорыстымі люстрамі, падсвечнікамі, гучыць музыка. Запіс адмыслова быў зроблены ў Венгрыі, у дзейнай сінагозе. Немагчыма пераказаць словамі гэтае музычнае маленне: пераход габрэяў цераз Чырвонае мора. Пакутлівы, аксамітны чалавечы голас, раз'юшанасць стыхіі… Незабыўнае ўражанне.

Па суседстве, у былой малой сінагозе, размешчаны краязнаўчы музей. Экспанаты ўзнаўляюць традыцыйнае атачэнне жыхароў Падляшша XIX — пачатку XX стагоддзя. (Чытай — беларусаў! Ці пераважна беларусаў.) Побытавыя рэчы з колішніх фальваркаў, жывапіс мясцовага мастака Зыгмунта Буйноўскага, чый зямны шлях абарваўся ў 32 гады. Сялянскі сын, вучыўся ў Пецярбургу і Кіеве. Цёплыя, настраёвыя краявіды, паэтызацыя старых збудаванняў — стадолы з пахіленымі дахамі, парослымі мохам. Узоры мясцовага ткацтва (славутае палатно «ў гурочак»), рукадзелле, кухоннае начынне, прылады для апрацоўкі лёну, размаляваныя велікодныя яйкі…. Уражвае дажыначны вянок, *ожэл бялы* з жытніх каласоў, нават ногі і кіпцюры дасканала выплеценыя з саломы.

Ідзём па мястэчку. Ціха, бязлюдна. Вялізны касцёл. Недзе тут калісьці мог праходзіць (ці праязджаць) Жыгімонт Аўгуст: апошні з Ягелонаў валодаў Тыкоцінам. У замку на другім беразе Нарвы (руіны закансерваваныя) загінуў, паводле версіі (чыёй, так і засталося для мяне таямніцай), Януш Радзівіл, прэтэндэнт на карону незалежнай Літвы-Беларусі, які ваяваў на баку шведаў. Калі яго не стала, шведы ўзарвалі замак і адступілі. А Тыкоцін і ваколіцы польскі кароль перадаў палкаводцу Стэфану Чарнецкаму за ягоныя заслугі ў той вайне. Падыходзім да помніка гэтаму Чарнецкаму ў засені дрэваў. Ляжыць даволі свежы вянок з чырвоных гваздзікоў. Надпіс на стужцы паведамляе, што гэта ў памяць тых, хто загінуў… у 1939 годзе (маецца на ўвазе верасень, Саветы), ад таварышаў па зброі палка № №. Мікола каментуе: гэта такая прынятая форма публічнага пратэсту, дэманстрацыя настрояў.

На зваротным шляху ў Беласток спыніліся выпіць кавы ў «Доміку Напалеона». Утульная кавярня размешчана ў мытні часоў Напалеона, які тут ніколі не быў насамрэч.

Паспелі яшчэ на вячэрнюю службу ў царкве Святога Мікалая. Перад сном у гатэлі дапісала дзённыя ўражанні.

**З дзённіка. 21.09.80 г.** Не дае поўнага задавальнення сустрэча з важнымі для беларускай культуры мясцінамі. Супрасль, напрыклад. Бо пераносішся не толькі ў часе, але і ў палітычнай прасторы. Нейкая падсвядомая крыўда, што сваё належыць чужым, імі абжытае і прысабечанае. Усе подпісы, усе тлумачэнні на чужынскай мове. Хоць адначасна адчуваеш удзячнасць, бо захаванае і дагледжанае.

І ёсць рэчы, якія пакуль не даходзяць да маёй свядомасці. У Тыкоціне зайшлі мы на падворак кляштара. Пуста, зарасло ўсё травой, ціха. Прыгадаліся па асацыяцыі падворкі нашых вясковых школаў улетку. Але кляштар дзейны. Значыць, там, за мурамі, за вокнамі — жывыя людзі! На вуліцы так хораша: сонейка, цёпла, пачынаецца бабіна лета. А ў стылых мурах… Дзеля чаго людзі пакутуюць? І я гэтае пытанне, па прастаце душэўнай, Міколу задала. А ён сказаў, што гэта проста шчаслівыя людзі, бо яны ў роздумах аб Найвышэйшым і ў пазнанні сябе. Не ведаю, пакуль не магу гэтага ўсвядоміць. Дзіўна мне бачыць таксама помнікі на магілках — шыкоўныя, з італьянскага мармуру, з імёнамі і датамі нараджэння. Чакаюць… нябожчыка і даты смерці.

Паўсюль ідзе будаўніцтва. Распаўзаюцца цэхі на ўскраінах Беластока, растуць, як грыбы пасля дажджу, двух- ды трохпавярховыя катэджы. Кожны крадзе, дзе можа [такі быў рэфрэн амаль усіх гаворак пра жыццё-быццё], зарабляе «злева», гандлюе. У нядзелю ля могілак бабулі прадаюць кветкі, свечкі… і памідоры заадно.

### Беларускае жыццё: энтузіясты і чыноўнікі

Госцем я была афіцыйным, дык і спатканні з панядзелка пайшлі службовыя. З кіраўніцтвам мясцовага аддзялення таварыства польска-савецкай дружбы, з інспектарам аддзела культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення (ну, як бы наш аблвыканкам), са старшынёй галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства, з галоўным рэдактарам «Нівы», з дырэктарам выдавецтва… Наўмысна не называю тут іх прозвішчы і поўныя службовыя тытулы, бо ўсё, што яны гаварылі, а я занатоўвала, было такое дзяжурнае, стандартнае, я была для іх ці то нейкім савецкім інспектарам, якому трэба даць «прыгожую карцінку», ці то рэкламным агентам, які сваёй публікацыяй можа падвысіць іхную вагу ў вачах начальства. З падобным я сутыкалася падчас камандзіровак у кожным правінцыйным гарадку БССР, таму ніякіх адмоўных эмоцый не ўзнікала. Гэта цяпер я перачытваю свае запісы і спрабую вылавіць, дзе ж і ў чым быў праўдзівы клопат пра так моцна дэклараваную беларускасць…

**З дзённіка. 22.09.80 г.** «Галоўнае — умацоўваць савецка-польскую дружбу, рабіць яе ўсім блізкай і зразумелай. Паясняць балючыя пытанні, змагацца з легендамі, што засталіся ў свядомасці з міжваеннага часу. Для розных груп насельніцтва мы выкарыстоўваем розныя формы і метады працы. Інтэрнацыянальнае выхаванне людзей. Дзеці, моладзь. Самая цяжкая група — вяскоўцы. Яшчэ не маем выпрацаваных формаў, якія захаплялі б усіх. Імкнемся ўздзейнічасць праз песню, паэзію, музыку, турыстычныя паездкі. Чалавек, які вяртаецца з паездкі па Савецкім Саюзе, ужо гатовы лектар. Руская мова займае другое месца ў свеце (пасля ангельскай) па аб'ёме перадаванай інфармацыі, пра гэта гаварылі днямі на сімпозіуме МАПРЯЛу. Разуменне гэтага пытання ёсць у Польшчы. А ў студзені 1981 года плануем арганізаваць чарговае пасяджэнне нашага таварыства, абмеркаваць працу ў вёсцы. Няхай бы мінскае Таварыства дружбы прысылала больш матэрыялаў у Беласток, бо тое, што яны высылаюць у Польшчу, найчасцей «асядае» ў Варшаве. Патрэбен штатны супрацоўнік у Гродне. І больш аператыўнасці. Вось у Літве ўсе пытанні тэрмінова вырашаюць».

«Праводзім Дні савецкай культуры. Прыязджалі да нас танцавальныя ансамблі з Гродзеншчыны, сялянская капэла з Літвы, і нашы самадзейныя калектывы ўдзельнічалі. Прыгранічнае супрацоўніцтва ідзе пад лозунгам "Працуем дзеля міру". Мы ўсе свае вёскі заахвочваем да ўдзелу ў музычных ды спеўных гуртках, да выступленняў на конкурсах, фестывалях. Музеі абменьваюцца паміж сабой экспанатамі. Вось у музеі рэвалюцыйнага руху доўгі час была выстава "Фелікс Дзяржынскі ў графіцы". Рабілі яе разам з гарадзенцамі. Хочам наладзіць кантакты паміж філармоніямі Мінска і Беластока. Для пачатку запрасіць да сябе "Песняроў", "Харошкі". Спадзяемся, што яны і на наш фальклор звернуць увагу, а мы іх тут забяспечылі б і гледачамі, і кватэрамі. Конкурс савецкай песні пачаўся ў Беластоку, цяпер ён у Зялёнай Гуры праходзіць».

«Перад тым як пачаць гаворку, аглядаем памяшканне БГКТ (Беларускага грамадска-культурнага таварыства). Тры пакоі займае праўленне: старшыня, сакратар, бухгалтэрыя. Адна зала нагадвае кавярню, тут столікі і крэслы, па вечарах можна мець каву. Пры сцяне шафы з кнігамі, маскоўскімі і беларускімі часопісамі. Другая зала прызначана для пасяджэнняў. Нядаўна праводзілі з'езд арганізацыі. Фотавыстава на сцяне паказвае працу БГКТ. Пераважна гэта сцэнкі мастацкай самадзейнасці або сустрэчы з пісьменнікамі».

«Падкрэслена ветлівы, абаяльны чыноўнік крыху распавёў пра свае працоўныя клопаты, асудзіў забастоўшчыкаў, неразуменне імі дзяржаўных інтарэсаў. "Жанчыны, вы толькі ўявіце, патрабуюць цырульніка за службовы кошт штодзень! Адкуль жа ўсё гэта возьмецца, калі мы не будзем працаваць?!" Паўспамінаў сваю паездку ў Савецкі Саюз. Быў і ў Мінску. Шкада, не наведаў Хатынь. Па здымках вельмі ўражвае. На Беласточчыне таксама ёсць вёскі, знішчаныя фашыстамі, у тым ліку і неадроджаныя. Трэба ездзіць, трэба абменьвацца досведам».

**P. S**. Суразмоўцы-чыноўнікі не вылучалі «беларускую кампаненту» ў сваёй працы як штосьці адметнае, гэта для іх было «дзяжурнае», не вельмі важнае. З большым імпэтам гаварылі, напрыклад, пра гады вучобы ў Маскве (у цэнтральнай камсамольскай школе) або пра спевакоў Мусліма Магамаева, Алу Пугачову, Яўгена Мартынава ды Уладзіміра Высоцкага. На маё прамое пытанне пра беларускіх пісьменнікаў, якіх чытаюць (ведаюць), атрымала адзін адказ: Васіля Быкава. Маўляў, ён піша лёгка і глыбока, у яго шмат прыхільнікаў, яны мараць сустрэцца з ім на Беласточчыне. І чытаюць яго… на рускай мове. (Азначэнне «лёгка» ў дачыненні Васіля Быкава падаецца мне дзіўнаватым. Ці яго насамрэч чыталі?)

Затое калегі і каляжанкі з «Нівы» гаварылі пра ўсё на свеце, што называецца, не для запісу. І прыязныя дачыненні амаль з усімі засталіся ў мяне на доўгія гады. Галоўны

рэдактар, Юрый (Георгій) Валкавыцкі скончыў Літаратурны інстытут імя Горкага ў Маскве. У «Ніве» ад яе нараджэння. Піша вершы. Пагаварыць вялікі майстар… Ён лёгка пераходзіў у размове з пытанняў выдання газеты («300 экзэмпляраў ідзе за мяжу — на Захад і ў СССР») да палітычнай сітуацыі, тлумачыў цяжкасці самаідэнтыфікацыі беларусаў тэзісам Эдварда Герэка: Польшча — дзяржава аднй нацыі. (Ці ж толькі адзін гэты партыйны сакратар трымаўся такой пазіцыі?!) У ацэнках падзеяў асцярожны і лаяльны да ўладаў. Падалося, што яму стала лягчэй, калі мы перайшлі да абмеркавання магчымай дапамогі тыднёвіку з боку маіх калегаў па працы. Самае патрэбнае: цікавыя і разнастайныя матэрыялы па культуры і мастацтве, па гісторыі культуры, а таксама адпаведныя фотаздымкі. Прамысловыя і грамадскія тэмы ім забяспечвае БелОКС. Ахвотныя чытаць «Голас Радзімы» сярод беларускіх актывістаў, пэўна, ёсць. Ён збярэ іх адрасы і дашле мне неўзабаве.

Пачытала я з ласкі рэдакцыйных супрацоўнікаў і выкрывальныя ўлёткі, якія хадзілі тады па руках. Да прыкладу, штó мае міністр Шчэпаньскі (і чаго не мае ягоны маскоўскі калега). Пералік займаў цэлую старонку дробнага тэксту, там былі шыкоўныя вілы, яхты, чорныя наложніцы…А ўжо колькі злабадзённых анекдотаў распавядалі! Цікава было б ведаць, ці зафіксаваў хто гэтую народную творчасць? А можа, гэта была аўтарская літаратурная праца? Мела поспех!

Пры каве, нязмушана, мы абмяркоўвалі аднойчы беларускія моўныя праблемы, якія і для «Нівы» надзвычай актуальныя: дыялектызмы, наватворы, тэхніцызмы, запазычанні з іншых моваў… Як прымаць тое, што мову ўзбагачае, але адкідваць тое, што яе засмечвае? І сама па сабе пачалася «гульня ў словы». Адны дэманстравалі старыя вясковыя жарты ў дакладным мясцовым маўленні (пераказаць іх не адважуся, надта часта спатрэбіцца ставіць шматкроп’е), іншыя цытавалі «свежыя досціпы»: *«жонд валэнсуе, а Валэнса жондзіць», «Кто то Каня? Чы то рыбка? Чы то птушка? Можэ, новы злодзеюжка?», «лепш Каня, чым Ваня», «спярша Каня, потым Ваня».* (Мушу патлумачыць: тады якраз быў абраны першым сакратаром ЦК ПАРП Станіслаў Каня, ён змяніў Эдварда Герэка на пасадзе, але агульная боязь перад магчымым уводам савецкіх войскаў моцна адчувалася. Адкрыта, аднак жа, ніякія палітычныя дыскусіі не вяліся. Прынамсі, у маёй прысутнасці.)

Рэдакцыя беларускамоўнага тыднёвіка працавала роўна ў межах дазволенага: асвятленне грамадска-культурнага жыцця. Грамадскае практычна не выходзіла за межы БГКТ і тых гмінаў, дзе жылі беларусы, а ў культуры пераважалі фальклор, мастацкая самадзейнасць, творчасць народных майстроў. Пры гэтым журналісты па сваёй ахвоце «абрасталі» дадатковымі функцыямі: запісвалі мясцовыя паданні і легенды, натавалі песні і звычаі, дакументавалі сямейныя хронікі XX стагоддзя — успаміны пра бежанства, войны ды акупацыі, сыход у гарады, заняпад вёскі… Своесаблівы навукова-даследчы цэнтр, летапіс краю. А яшчэ ж і клопат пра дзяцей — дапамога ў навучанні роднай мове, гісторыі. Ды падтрымка мясцовых літаратурных талентаў… А вось палітыка ды ідэалогія — табу, як і ў Савецкім Саюзе.

## «Люблю наш край, старонку гэту…»

Школьныя клопаты і праблемы Беласточчыны пачала я спазнаваць у Гайнаўцы. Інспектар мясцовага аддзела адукацыі Януш Лунеўскі звыкла сыпаў лічбамі: маем дзве пачатковыя школы і адну некамплектную, два агульнаадукацыйныя ліцэі (адзін з іх — з беларускай мовай), прафтэхвучылішчы, два тэхнікумы, пяць прадшколляў (дзіцячых садоў). 90 % дзяцей дашкольнага ўзросту наведваюць гэтыя прадшколлі (у сярэднім па краіне — толькі 45 %), таму шасцігодкі прыходзяць у школу належна падрыхтаваныя.

Вялікай праблемай, аднак, з'яўляецца перагружанасць школаў — праца ў дзве змены і ўсе нязручнасці, звязаныя з гэтым. Задача нумар адзін — будаўніцтва новых школ. Пакуль невырашальная. Ідзе пераход на новую сістэму адукацыі — дзесяцігодку. Большасць настаўнікаў мае вышэйшую адукацыю (працэнт больш высокі, чым сярэдні па краіне). Але розніца ў аплаце працы настаўнікаў, якія маюць ступень магістра ці доктара, невялікая, усяго 300 злотых. Таму не матэрыяльны чыннік галоўны ў жаданні павышаць прафесійныя веды. Ёсць праблемы з рамонтам школьных будынкаў, але пра забяспечанасць настаўнікаў кватэрамі ўлады дбаюць пастаянна. Клопат пра грамадзянскае выхаванне падрастаючага пакалення: 80 % школьнікаў — харцары. Бацькі актыўна кантактуюць-супрацоўнічаюць з школамі, найперш праз бацькоўскія камітэты. Дырэктар гайнаўскай *падставовай* школы № 2 мгр. Уладзімір Мусько, другі суразмоўца, з гонарам дадаў, што ён — выпускнік Бельскага ліцэя, што многія школьнікі бяруць удзел у алімпіядах рознага ўзроўню і немалая частка іх прывозіць дахаты прызы пераможцаў, што ў школах наладжана харчаванне дзяцей (і настаўнікі могуць гэтым карыстацца), што вядзецца інтэрнацыянальнае выхаванне. У прыватнасці, у школе № 2 створаны музей Героя Савецкага Саюза Аляксея Фларэнкі, імя якога носіць школа, дзеці дагледаюць магілы савецкіх воінаў, якія загінулі пры вызваленні Беласточчыны ад нямецкіх акупантаў. (Мы таксама наведалі гэтае месца — апошні прыстанак 1200 маладых асобаў, пераважна — безыменных. Сапраўды, пахаванні былі дагледжаныя, не абдзеленыя людской увагай.)

Беларускі ліцэй у Бельску паказваў мне яго дзелавіты і абаяльны дырэктар Аляксей Карпюк. Вучняў тады ў іх было 381, настаўнікаў — 19 ды яшчэ два па сумяшчальніцтве (музыкі і ручной працы). У ліцэй прымаюць пасля 8-га класа пачатковай школы. Практычна — з Бельска і навакольных земляў. Асноўныя прадметы выкладаюцца па-польску, але ёсць урокі беларускай мовы і літаратуры: тры гадзіны на тыдзень у спецыялізаваных класах (фізіка-матэматыка, хімія-біялогія), чатыры — у агульнаадукацыйных.

**З дзённіка. 23.09.80 г.** Аляксей Карпюк: каля 90 % вучняў — беларусы або праваслаўнага веравызнання, 10 % — з мяшаных сем'яў або палякі-католікі. Многія вывучалі беларускую мову ў пачатковых школах. Але да 30 % прыходзяць без мовы. Прычына: добры ліцэй, высокі ўзровень навучання. І беларускай мове нашы настаўнікі вучыць умеюць. На пачатку ацэньваюць новенькіх выключна за стараннe. Да канца навучання ў ліцэі розніца ў валоданні беларускай мовай, як правіла, знікае. І ёсць выпадкі, калі дзеці з польскіх сем'яў ідуць потым вучыцца ў Варшаўскі ўніверсітэт на беларускую філалогію.

Паколькі жадаючых вучыцца ў нашым ліцэі больш, чым месцаў, маем магчымасць прымаць лепшых выпускнікоў пачатковых школ, пераможцаў конкурсаў. Людзі сёння вельмі прагматычныя. Таму яны імкнуцца аддаць сваіх дзяцей да нас, бо мы амаль гарантавана рыхтуем навучэнцаў да паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Напрыклад, з 68 сёлетніх выпускнікоў 55 сталі студэнтамі. Летась было яшчэ лепш: з 73 выпускнікоў — 61 студэнт. Ідуць у політэхнічныя інстытуты, настаўніцкія, вайсковыя і медычныя вышэйшыя школы. У розныя гарады — Люблін, Варшава… Спісы тых, хто паступіў, абавязкова вывешваюцца ў ліцэі. Дый студэнты падтрымліваюць сувязі з вучнямі, якія занялі, так бы мовіць, іх месцы. Хоць мы жывем-працуем у правінцыі, мала маем роўных сабе. Ніводная алімпіяда — школьная, ваяводская, цэнтральная — не праходзіць без нашых гадаванцаў. Удзельнік агульнапольскай, між іншага, робіцца студэнтам без уступных экзаменаў. І нашы настаўнікі, і сам ліцэй неаднойчы былі ўдастоены розных узнагародаў. А ў 1968 годзе ліцэй атрымаў імя Браніслава Тарашкевіча.

**P. S.** Падчас сустрэчы з ліцэістамі мне паказалі-разгарнулі афіцыйны сцяг ліцэя. На палотнішчы шоўкам вышыты партрэт Браніслава Тарашкевіча… (Бацькі вучняў

пастараліся зрабіць усё як найлепш!) Тут жа ў гаворцы з хлопцамі ды дзяўчатамі высвятляецца, што яны маюць і ўласны гімн, як шмат якія іншыя школы. І ліцэісты дружна заспявалі: «Люблю наш край, старонку гэту…». Ці трэба ўдакладняць, што імя Канстанцыі Буйло ім было добра вядома?!

Перажытае падчас гэтай сустрэчы ўзрушэнне не пакідала мяне, таму пасля вяртання ў Мінск я напісала ліст Канстанцыі Антонаўне, спадзеючыся яе таксама парадаваць. Папрасіла яе колькі словаў напісаць бельскім ліцэістам. Неўзабаве з Масквы, дзе жыла паэтка, прыйшла паштоўка. «Паважаная Валянціна Трыгубовіч! Вялікае Вам дзякуй за ўсхваляваўшае мяне пісьмо. Мне было вельмі прыемна даведацца, што мая песня — зусім самастойная асоба і ходзіць па свеце, згубіўшы ўсякую сувязь са мной, яе маткай, стаўшы народнай. І тыя, хто яе спяваюць, не маюць паняцця, што яе напісала нейкая К. Буйло і згінула з кругавіду людзей, як у процьму. Вось збіраюся выдаць двухтомнік… Заціснулі яго дзесьці ў Бел. выдавецтве і ні слыху аб ім, ні духу… Усё гэта гаворыць аб тым, што чалавек — вельмі нетрывалы матэрыял, згінае без следу. А песня будзе жыць! І хай жыве! Пісаць ім не буду. Ці варта выглядаць з нябыту? Сардэчнае дзякуй за пісьмо. Ваша Канстанцыя Буйло».

Папраўдзе сказаць, мяне гэта засмуціла… Аднак на кантакты з моладдзю Беласточчыны не паўплывала. І калі чарговая «генерацыя» пры сустрэчы ўжо казала: «Наш гімн — “Тры чарапахі”», я разумела, што па-ранейшаму люблю наш край.

## Кветкі ад афіцыянта

Кожны падарожнік у чужой краіне найперш звяртае ўвагу на знешнія праявы жыцця (кшталту чыста падмеценых вуліц у сучасным Мінску), хоча належнага задавальнення ягоных звыклых патрэбаў (яда, камфорт і г. д.). Прызвычаеная да савецкага дэфіцыту ды чэргаў у мінскіх крамах — нават за варанай каўбасой, цукрам або садавінай, я вельмі чуйна рэагавала на ўсе польскія размовы пра іхнае збядненне, пра пагаршэнне эканамічных варункаў. У крамах і на рынках прадуктаў і тавараў было выразна больш, як у нас, але, казалі, людскія заробкі не заўсёды дазваляюць гэта купіць. Пасля таго як аднойчы я самастойна замовіла ў кавярні каву і пірожнае ды заплаціла па рахунку больш як 80 злотых (нейкую невялікую суму грошай мне памянялі яшчэ ў Мінску), тоесёе, як кажуць, да мяне дайшло… Гэта было ў разы даражэйшае за тыя самыя смакоцці ў Беларусі. І я перастала здзіўляцца паводзінам свайго апекуна, які ўвесь час старанна пралічваў нашы траты і эканоміў, дзе толькі мог.

У Беластоку мы пару разоў абедалі ў сталоўцы ваяводскага камітэта ПАРП (дзеля гэтага трэба было займець спецыяльныя талоны). Вельмі прыстойны кавалак мяса клалі нам у талерку… І грэцкая каша там была смачная. (Праўда, у буфеце ЦК КПБ у Мінску ў той самы час можна было нават «Птушынае малако» набыць. Толькі зайсці ў той буфет шанцавала не кожны год.) Прыстойны і танны абед (так запісана ў маім дзённіку) з’елі мы ў белавежскім рэстаране «Іва»: боршч, бігас, наліснік з тварагом і кампот з яблыкаў. Кошт — 83 злотыя.

У Варшаве цэны былі ўжо нашмат большыя. Аднак мае афіцыйныя гасцявыя выдаткі прадугледжвалі адну «сяброўскую вячэру» (вядома, з фіксаванай сумай). Мы з Міколам вырашылі «не турбаваць» сяброў, а ўдвух схадзіць у нейкі шыкоўны рэстаран, каб займець «эксклюзіўныя ўражанні». Выбралі «Гетманскую карчму». Не ведаю, наколькі цяпер гэты рэстаран знаны і слаўны, тады ён мне падаўся вяршыняю раскошы. Наведвальнік мог падысці да вялікага праёма ў сцяне рэстараннай залі і паглядзець-разгледзець усё, што дзеілася на кухні. А там ззяў да бляску начышчаны медны посуд на сценах і паліцах, імітуючы старыя добрыя часы, штосьці скварчэла

і булькала на патэльнях, у каструлях, гаршках… І спрытныя знаўцы сваёй справы неяк лёгка і артыстычна рухаліся ў гэтым бляску і шуме. Наведвальнікаў у рэстаране было няшмат. Мы доўга чыталі меню (потым папрасілі яго ў якасці сувеніра!), раіліся з афіцыянтам, якому адразу выклалі сваю задуму: штосьці такое арыгінальнае, чаго мы раней не мелі, і каб яно ўклалася ў наяўную суму. Так мы (я — упершыню) пакаштавалі каньяк «Камю» (па адной порцыі — 25 грамаў на чалавека), з'елі марынаваную фарэль (афіцыянт паказаў, якім відэльцам)… Было і мяса. Пакрысе дабраліся да дэсерту. «Гурманы» атрымалі вялікую асалоду. Але ўсё ж найбольш яркае ўражанне з таго вечара — гэта букецік настуркаў, які афіцыянт прынёс «для пані», калі мы ўжо разлічыліся па рахунку. Не ведаю, ці быў гэта экспромт, ці завядзёнка рэстаранная. Для мяне ж гэтыя кветкі зрабіліся нейкім сімвалам польскай гасціннасці, еўрапейскага сэрвісу, водгуллем рамантызму. Заплацілі мы за вячэру 800 злотых.

## Кракаўскі гейнал

Колішняя польская сталіца трапіла ў афіцыйную праграму майго побыту зусім не з нагоды сваёй каралеўскай велічы ці мастацкіх набыткаў. Узгадняючы па тэлефоне планы на будучую вандроўку, Мікола настойліва паўтараў: «Вядома ж, ты хочаш наведаць Пароніна недалёка ад Кракава, дзе Ленін жыў у 1913–1914 гадах…» Дзеля чаго мне тое Пароніна?! Але інтанацыі былі такія, што я зразумела: мушу пацвердзіць. Таму, натуральна, выказала да Пароніна вялікую зацікаўленасць. Як і трэба было чакаць, насамрэч наведванне ленінскага музея ў задуму калегі-апекуна не ўваходзіла, але гэтае «маё жаданне» было адзіным спосабам уключыць у праграму паездку ў Кракаў. Упэўнена, без гэтага горада вобраз Польшчы для мяне быў бы няпоўны, неймаверна збеднены.

**З дзённіка. 26.08.80 г.** У Кракаў прыехалі а 4-й гадзіне раніцы. Пакуль дапыталі свой гатэль «*Манопаль»* ды высветлілі, што нумары будзем мець а 12-й (інакш трэба заплаціць за лішнія суткі), крыху развіднела. Пакінулі рэчы ў гатэлі, пайшлі гуляць па горадзе. У бліжэйшым скверы якраз прачыналіся вароны, з лямантам і спробаю крылаў. Адна з іх ненарокам ляпнула мне проста на галаву… І смех, і слёзы! Усімі наяўнымі насоўкамі я старалася выцерці тое г…но, а Мікола спагадліва паўтараў, душачы ў сабе смех, што гэта вельмі добрая прыкмета, знак прыхільнасці, спрыяння, так бы мовіць.

Світанак мы сустрэлі на цэнтральнай плошчы Кракава, дзе адбываюцца ўсе важныя імпрэзы, дзе некалі хадзілі каралі. *Сукеніцы* — старадаўнія гандлёвыя рады займаюць цяпер у асноўным «*Цэпэлія*» (сувеніры ды народнае мастацтва) і кавярні. Мар'яцкі касцёл, дзе каранаваліся каралі і куды не пусцілі для каранацыі Соф'ю Гальшанскую, апошнюю жонку Ягайлы (а яна ж дала пачатак дынастыі Ягелонаў!). Помнік Міцкевічу… Ледзь не на кожным доме памятныя дошкі: тут жыў Гётэ, тут — Касцюшка, тут быў штаб паўстанцаў, на гэтай плошчы Касцюшка прысягаў. А 6-й гадзіне раніцы гарніст з вежы Мар'яцкага касцёла пратрубіў на чатыры бакі свету. Славуты кракаўскі *гейнал*! А недалёка ад касцёла, ля мясной крамы, амаль нерухомая чарга — людзі занялі месцы з вечара, шмат хто прынёс з сабой зэдлік і плед. Чакаюць адкрыцця крамы… Тым часам пачалі прывозіць кветкі: рынак на плошчы заўсёды ажыўлены. Манашка вынесла з капліцы і выкінула ў скрыню для смецця суперакуратны скрутак завялых кветак, потым напампавала вядзерца вады і панесла назад, у капліцу. У касцёле ўжо гучыць арган, пару дзясяткаў людзей, пераважна мужчынаў, моляцца. Хто ўкленчыў, хто стаіць *проста,* адзін лёг крыжам на падлозе… Побач стаіць ягоны партфель. Падобна, гэта людзі перад працай завіталі ў касцёл.

Мы пайшлі да ўніверсітэта. Помнік Каперніку, ён тут вучыўся і ўпісаны ў аналы. Старыя будынкі розных эпохаў. Нарэшце знаходзім патрэбны нам, самы стары. Дво-

рык, галерэі па перыметры сценаў, пасярод двара калодзеж, якому прысвечаныя вершы прафесара XVI стагоддзя — узнёслыя і квяцістыя. Спрошчаны, вылузаны з квяцістых радкоў тэкст гучыць грубавата: «У цябе цудоўная вада, але ты не зарасцеш кветкамі, бо шмат ног ля цябе таўчэцца». Некалі тут вучыўся Скарына, хадзіў гэтым дворыкам, магчыма, піў ваду з гэтага калодзежа або дамешваў яе ў віно… Аднекуль з падсвядомасці выплывае перакананне, што гэты сярэднявечны дворык мне даўно знаёмы, што я ўжо чула раней гаману ягонага натоўпу, размераную лаціну і гучны мужчынскі рогат… Гэта нехта распавядае пра чарговае застолле ці авантурныя прыгоды. І Францішак сярод гэтых студыёзусаў. Не магу паверыць, што ён быў анёлкам. Быць першаадкрывальнікамі дадзена толькі людзям магутным, шматгранным.

**P. S.** Кракаў дае нейкае матэрыяльнае адчуванне прысутнасці даўняй гісторыі ў сучасным жыцці. Вавель — былая каралеўская рэзідэнцыя, унікальны музей з незлічонымі скарбамі. Адмысловая архітэктура, роспісы, габелены… Цудоўна ўвасобленыя біблійныя сюжэты! Экскурсавод заўважыла нашу цікавасць да гісторыі «ўсходняй часткі Рэчы Паспалітай — Вялікага Княства Літоўскага», таму ў кожнай залі звяртае ўвагу на яе «занатаванасць». Вось выява Аршанскай бітвы, партрэт апошняга з Ягелонаў, партрэт Марыны Мнішак… Шмат разоў сустракаецца Пагоня. А калекцыя габеленаў была калісьці нашмат большай, аднак сотні паўтары іх вывезла царыца Кацярына II, потым яшчэ і савецкія вайскоўцы добра «пастараліся».

**З дзённіка. 27.09.80 г.** Справа ад увахода ў касцёл — капліца, пабудаваная адмыслова для Соф'і Гальшанскай, якая была праваслаўнай. У скляпеннях, акрамя каралёў, іх жонак і дзяцей, пахаваныя Міцкевіч і Славацкі. У самым канцы — Пілсудскі. Усё надмагілле — металёвая гладкая скрыня — абкладзена свежымі кветкамі. Велічны мемарыял. Яго воінскія знакі, бюст, дошка з надпісам, урна з зямлёй з магілы маці ў Вільні. Экскурсавод усцешана, што магіла там у добрым стане.

Перапоўненыя ўражаннямі гістарычна-мастацкімі, так бы мовіць, спяшаемся на чарговую дамоўленую сустрэчу — у кафэ клуба журналістаў. Стэфан Мацієўскі — наш калега, распавядае пра нядаўна створаны камітэт па ахове навакольнага асяроддзя. У яго складзе навукоўцы, журналісты, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі. Вось на трох старонках выкладзеныя імі патрабаванні-прапановы Сейму (галоснасць, дбайнасць, незалежнасць грамадскага камітэта ад уладаў…). Стэфан павязе гэтыя паперы ў Варшаву. Гаворым таксама пра Беларусь. Суразмоўца марыць праехаць па Нёмане з канца ў канец. А мой «родны кут» якраз у вярхоўях Нёмана! Абяцаю дасылаць калегу-журналісту часопіс «Родная прырода».

У вітрынах Саюза польскай моладзі — кракаўскія «дацзыбао», патрабаванні падрабязныя і сур'ёзныя. Стаіць натоўп, чытае. І мы далучаемся. Патрабуюць свабоды, дэмакратыі, вольных замежных пашпартоў, рэвізіі кіраўніцтва, выбарнасці ўніверсітэцкіх уладаў, права на маніфестацыі і страйкі… Пад кожным загалоўкам — да 12 пунктаў удакладненняў, дэталізацыі.

**З дзённіка. 28.09.80 г.** З раніцы ў нядзелю тут нічога не робяць. Таму мы доўга пілі *гарбату*, размаўлялі. Потым зноў схадзілі да ўніверсітэта. «Скарынаўскі» дворык быў поўны гаманлівых турыстаў, дык сакральны настрой не паўтарыўся. Ля Фларыянскай брамы зладжаная выстава дробнай пластыкі. Можна паглядзець, узяць адрас майстра і купіць або замовіць нейкую рэч. Зайшлі на «Venus-80». Гэта выстава мастацкай фатаграфіі, дзе паказваюць сваю творчасць майстры з розных краінаў свету. Экспануецца выключна ню — выявы аголенага жаночага цела. Спаткала тут і работу Шэгельмана з Магілёва. Выстава надзвычай цікавая, хоць мне нешк няёмка было разглядаць гэтыя

фатаграфіі ў прысутнасці знаёмага мужчыны. Амаль не абменьваемся каментарамі. Аднак да адной супольнай высновы ўсё ж прыходзім: фатографы з заходніх краінаў паказваюць жанчыну больш рамантычна, больш прывабна, імкнуцца выявіць таямнічасць, эстэтычнасць, эратычнасць мадэлі. Аўтары з усходу спавядаюць натуралізм, іх «праўда жыцця» часам змушае хутчэй прайсці міма. Аднак самым шакуючым аб'ектам на выставе была кніга водгукаў. Тоўстая кніга фармату А3 была прыкута ланцугамі да стала (як і асадка). Чаго толькі не было ў той кнізе! Тэксты і малюнкі то нагадвалі сцэнапіс у грамадскіх прыбіральнях, то пераносілі гэтыя ж сюжэты на польска-савецкія дачыненні. Генсек Брэжнеў рабіўся тады галоўным героем: адны малявалі яго сэкс-гігантам, іншыя з асалодай яго «апускалі». І кожны аўтар спяшаўся падзяліцца сваімі адчуваннямі. Без каментараў, як кажуць.

З прыемнасцю вярнуліся да больш пасуючай гораду гістарычнай тэмы: завіталі ў Дом-музей Матэйкі…

**P. S.** Змучаныя вандроўкай па горадзе, селі ўрэшце ў нейкай кавярні пісаць інтэрв'ю для «Нівы». Успаміналі-перабіралі, пра што варта гаварыць з газетных старонак, а што лепш не кранаць. Я пачынала захапляцца архітэктурай царквы, якую ўзводзілі тады ў Гайнаўцы, а Мікола спыняў: каб табе не прышылі прапаганду «опіуму для народа». Пачынала гаварыць, што ў Беластоку і Кракаве жывуць на фасадах і ў інтэр'ерах выявы Пагоні, а ён махаў рукамі. Так тое маё інтэрв'ю і пайшло да чытачоў правільным — паводле тагачасных прапагандысцкіх стандартаў.

**З дзённіка. 28.09.80 г.** Уражвае начны Вавель. Такая змрочная цёмная глыба. Хоць ён збудаваны на натуральным узвышэнні, на вапняках Смочай ямы, так і просіцца на язык вобраз з легендаў: на касцях вырас. (Кідалі смоку ў яму ахвяры — прыгожых дзяўчат.) А ўнізе, як прорва, як бездань, — Вісла з рэдкімі адбіткамі агнёў. Польшча эканоміць электрычнасць.

### Непратакольныя сустрэчы

Шчырасць і даверлівасць у размовах з Міколам Гайдуком ішлі праз усе гады нашага знаёмства. Хоць было не раз, што нейкія падзеі або асобаў мы ацэньвалі па-рознаму, спрачаліся, крыўдавалі. Кожны жыў сваім розумам. У кожнага быў свой лёс, свая праўда. Свой жыццёвы досвед. Але для разумення беларускай долі, адметнасці Беласточчыны, важнасці для чалавека хрысціянскай веры, ён даў мне так шмат, як ніхто іншы.

…Па дарозе ў Бельск спыніліся ў Заблудаве. Вось недзе тут стаяў палац Хадкевічаў, месцілася славутая друкарня. Можа, якраз гэтыя старыя дрэвы былі сведкамі барацьбы амбіцый і пошукаў ісціны, жыцця і смерці? Мікола ад нараджэння жыў тут недалёка, і летнім днём 1941 года ішоў разам з сваёю цёткаю пераведаць другую. Мястэчка, акрамя ўскраін, усё выгарала ад падпаленых перад адступленнем вайсковых складаў. Згарэлі цікавая драўляная сінагога, царква… Дарога была застаўленая кінутымі праз адсутнасць паліва танкамі КВ, французскімі (купленымі) самаходкамі. Трупы паўсюль. Пах праз гады помніцца. Потым, калі Мікола зацікавіўся краязнаўствам, то ў розных месцах Беласточчыны запісваў ад людзей нешта падобнае.

…Едзем у цягніку (першым класам) да Варшавы. Гаворым нягучна паміж сабою, натуральна, па-беларуску, пераскокваючы з гісторыі на культуру ды наадварот. Праз нейкі час мужчына, які таксама едзе ў гэтым купэ, пачынае па-польску, гучна, з жэстыкуляцыяй даводзіць іншым пасажырам, што беларуская мова вельмі простая і прымітыўная, ад хлява да кухні. Мы ў дыскусію не ўвязваемся, але Мікола проста кіпіць. Найбольш агрэсіўныя такія «мовазнаўцы» менавіта на Беласточчыне.

…Цягнік на Закапанэ, мы едзем да Кракава. Наш спадарожнік, пачуўшы беларускую мову, пытае, адкуль мы. І прыязна распавядае пра сябе. Джазмен, піяніст. Быў з сваім ансамблем «Вавель» на гастролях у Савецкім Саюзе — ад Мінска да Новасібірска. Найбольш патрабавальная публіка, на ягоную думку, у Ленінградзе. Сур'ёзна і грунтоўна разважае пра польскія падзеі. Спадзяецца на лепшае. Усе, хто прагне вольнасці, незалежнасці, яе некалі дамагаюцца.

…У варшаўскай кватэры спадарства Туронкаў, куды забягаем «на хвілінку», атрымліваем з рук гасціннай гаспадыні па шклянцы гарбаты і далучаемся да гаворкі ўжо тут прысутных, пераважна беларусаў.

**З дзённіка. 25.09.80 г.** Вельмі цікавыя, мыслячыя людзі, маюць на многія рэчы ўласны погляд і меркаванне. *Скамплікаванасць* сітуацыі ў краіне — вядучая тэма размовы. Гэтае асяроддзе лічыць, што варта было б спыніцца на сучасным этапе, бо далей сітуацыя можа пайсці ўразнос. Але, падобна, зрабіць гэта ўжо немагчыма. Рух набірае моцы. Слухаю моўчкі. Упершыню ў жыцці маю магчымасць назіраць інтэлігенцыю ў варунках, вядомых мне толькі з класічнай літаратуры. Роздумы, разважанні, перасцярогі, спадзяванні, спрэчкі, жарты, але ніякага дзеяння. Бо рэальныя справы вырашаюцца ў іншых месцах — на прадпрыемствах, ва ўрадзе… Адно з выказванняў: маем, па сутнасці, пралетарскае выступленне супраць гандлёва-рамесніцкай праслойкі, якая з прыватнай прадпрымальнасці атрымлівала вялікія грошы, мела сабе з замежных пазыкаў добры кавалак, а працоўнаму не трапляла нічога. А цяпер аддавай, Польшча, 20 мільярдаў пазыкаў! Зноў прыгадалі-абсмакавалі міністра Шчэпаньскага з ягонымі мільёнамі і чорнымі наложніцамі.

Здаецца, я зусім не гатовая (няздатная?) да такой дэмакратыі. Пагаварылі, папляткарылі, а што далей?! Адно ўясніла: ідэі сацыялізму тут глыбока ў адным месцы… Традыцыі мацней. І не зусім слушная, атрымліваецца, пазіцыя майго калегі-апекуна, які цураецца палітычных пытанняў, гатовы зусім на іх заплюшчыць вочы, абы беларускасць жыла і магла развівацца.

**Апошні дзённікавы запіс. 1.10.80 г.** Па дарозе на вакзал ад шафёра таксі даведваемся тое, пра што на вакзале вычытваем з газетаў. Вольныя і незалежныя прафсаюзы — «Салідарнасць» — аб'явілі на пятніцу агульнапольскі страйк: з 12-й да 13-й гадзіны! Гэта папярэджанне ўладам. «З польскіх гарадоў не страйкавалі толькі Вільна і Львоў» (?!). Вал барацьбы шалёна нарастае. Даўгі дзяржавы тым часам растуць. Зноў закупілі збожжа больш, чым летась. Мікола Гайдук лічыць, што можа быць фінляндызацыя краіны.

**P. S.** Хочацца сказаць: працяг будзе. Бо шмат сустрэчаў ды імёнаў засталося за межамі тэксту. Некаторыя знаёмствы з цягам часу перараслі ў сяброўства і супрацоўніцтва, абраслі творчымі набыткамі, клопатамі і праблемамі. Гадамі ішло ліставанне. А тады, у 1980 годзе, пасля вяртання ў Мінск я распавядала пра ўбачанае і пачутае толькі родным і блізкім, сябрам ды калегам. Друкаваць дарожныя нататкі мне «не рэкамендавалі», дзённік давялося закінуць на паліцу. Мікола Гайдук у снежні 1981 года, калі ў Польшчы быў уведзены ваенны стан, трапіў у вязніцу, як і тысячы іншых людзей. Ён не быў *салідарнасцёўцам*, не рупіўся пра змену ўлады. Ён толькі шчыра працаваў на беларушчыну. Але ў нашым краі гэта адвеку і да сёння самая большая крамола, самая рызыкоўная палітычная справа.

*Валянціна ТРЫГУБОВІЧ*
*Студзень — сакавік 2011 года*

## «УВЕСЬ ЧАС ВАС, МАІХ МІНСКІХ ЗНАЁМЫХ, ПАМЯТАЮ, І МО ГЭТА ДАПАМАГАЕ МНЕ НЕЯК ТРЫМАЦЦА»

Наша ліставанне з Міколам Гайдуком (25.05.1933–2.09.1998) пачалося ў 1979 годзе і доўжылася, з паўзамі і змушанымі перапынкамі, да канца ягоных дзён. Апошняе, што я даслала ў Беласток на вуліцу Chełmońskiego, была спачувальная тэлеграма жонцы — Лідзіі Платонаўне. (Мы напісалі яе супольна з экс-дэпутатам Валянцінам Голубевым, бо на пачатку1990-х не раз, здарожаныя, разам пілі гарбату ў гасціннай хаце Гайдукоў, маючы там двух цудоўных суразмоўцаў.)

Мікола пісаў вельмі лёгка, інфармацыйна, даваў лаканічную і выразную карцінку навакольнага жыцця — і адначасна выказваў уласны душэўны стан, сумненні, пакуты, трывогі… Ён не баяўся быць суб'ектыўным, не ўдаваў з сябе непамыльнага. Асоба неардынарная, з глыбокімі ведамі і крытычным розумам, ён не быў, на маю думку, да канца зрэалізаваны ў беластоцкай грамадзе. Відаць, таму пастаянна імкнуўся ў Мінск, яго вабіла інтэлектуальнае, нацыянальна арыентаванае асяроддзе беларускай сталіцы: навукоўцы — філолагі і гісторыкі, мастакі, званыя этнаграфістамі, фальклярысты… Ён умеў слухаць суразмоўцу і па-майстэрску займаўся асветніцтвам. Чытачы «Нівы» ягонымі стараннямі часам маглі ведаць пра дасягненні асобных творцаў раней, чым пра іх адважваліся пісаць у Беларусі.

Народжаны ў сялянскай сям'і на Беласточчыне (вёска Кабылянка каля Міхалова), Мікола Гайдук выбіваўся ў людзі, карыстаючы, так бы мовіць, кожны спрыяльны грамадска-палітычны павеў. І пры гэтым праз усё жыццё нёс пачуццё ўласнай годнасці, усведамленне сваёй нацыянальнай прыналежнасці, хоць ня раз змушаны быў расплачвацца за сваю прынцыповасць, шчырую веру ў дабро і справядлівасць уласным здароўем. Вышэйшую філалагічную адукацыю ён набываў у Савецкім Саюзе: павучыўся ў Растове-на-Доне, Ленінградзе, Мінску. Добра ведаў акрамя беларускай і польскай моваў расейскую, латынь, царкоўна-славянскую. Па сканчэнні БДУ (1959) працаваў настаўнікам, затым дырэктарам ліцэя ў Бельску Падляшскім. Меў здольнасці да творчай працы і амбіцыйнае жаданне друкавацца. Яшчэ з студэнцкага Мінска паслаў у беластоцкую «Ніву» допіс пра акадэміка Я. Карскага.

У 1971 годзе Мікола Гайдук пераходзіць на працу ў «Ніву», сям'я пераязджае ў Беласток. Да 1986 года — публіцыст, у 1986–1988 гадах — намеснік галоўнага рэдактара. У Беластоку і Мінску выходзяць яго кнігі мастацкай прозы, краязнаўчыя занатоўкі, паэтычны зборнік. Разам з жонкай ён піша падручнікі па беларускай мове для беластоцкіх школаў, якія вытрымалі не адно перавыданне. Урад Польшчы адзначыў працу Міколы Гайдука ордэнамі, званнем заслужанага дзеяча Польшчы (1986).

Вось пішу гэтыя сухія радкі з біяграфіі і адчуваю, як «бранзавее» постаць. Жывы Мікола адразу з'едліва ўпікнуў бы за гэта. Таму — чытайце ягоныя лісты. Там пульсуе думка, эмоцыі, рэальныя клопаты — штодзённыя і адвечныя. Меркаванні часам спрэчныя, дыскусійныя, але ясна выказаныя. І заўсёды — уласныя. Улічвайце пры гэтым часта ўжываную тады ў перапісцы эзопаву мову: ніколі не можна было быць пэўным, што твой ліст не прачытае першым якісьці цэнзар. Усе рэверансы і рытарычныя пытанні наконт партыі і яе персонаў — гэта ў бок яго, таго цэнзара. Праўдзівы змест адчуваеш паміж радкоў, калі настроены на хвалю суразмоўцы і разумееш ягоныя інтарэсы, спавядаеш тыя самыя каштоўнасці.

Чалавек эмацыйны і шчыры, ён часам залішне давяраў людзям, якіх уважаў за аднадумцаў, хоць не былі яны такімі ў сапраўднасці. Як творчы чалавек, быў, натуральна, індывідуалістам. Аднак усе гады, колькі я яго ведала, ён духоўна і інтэлектуальна ўзрастаў, востра цікавіўся навакольным жыццём — не зачыняўся ў шкарлупіне калісьці

засвоенага. Калі ў Беларусі пачаліся зрухі ў бок дэмакратызацыі, ён усклаў на гэта вялікія надзеі: «Жыве Беларусь!». Сваімі парадамі і дапамогай у навязанні лучнасці з праваслаўнай грамадой Беласточчыны спрыяў стварэнню брацтва Трох Віленскіх мучанікаў у Мінску. Быў удзельнікам устаноўчага з'езда Беларускага народнага фронту (Вільня, 1989 год), на якім выступіў з палымянай прамовай і быў абраны сябрам Сойма. Чым мог, дапамагаў потым БНФу, найперш — ягонай замежнай камісіі.

Спадзяюся, што з цягам часу знойдзецца зацікаўлены біёграф, які напіша грунтоўны жыццяпіс беларуса і энтузіяста, праваслаўнага верніка і нястомнага асветніка, літаратара і краязнаўцы, шляхотнага мужчыны і адданага сем'яніна, карацей — пра Мікалая Раманавіча Гайдука. Публікацыяй ягоных лістоў я толькі нагадваю пра гэтага Чалавека і выказваю яму сваю глыбокую пашану і ўдзячнасць.

У публікацыі пададзены таксама лісты іншых асобаў, калегаў спадара Гайдука па «Ніве»: Юрыя Валкавыцкага, тагачаснага рэдактара, і ягонай жонкі — Веры Леўчук. З этычных меркаванняў асобныя прозвішчы ў тэкстах схаваны пад лацінскімі абрэвіятурамі.

*Валянціна ТРЫГУБОВІЧ*

## Лісты

*Беласток, 9 ліпеня 79 г.*

Шаноўная Валянціна Андрэеўна!

Выбачайце, што толькі цяпер сабраўся я напісаць Вам. Проста патрабаваў я крыху часу, каб змаглі ўтрэсціся вынесеныя мною з пабыўкі ў Мінску надта ж багатыя ўражанні. А калі яны ўжо неяк уляглія ды супакоіліся, мне перш за ўсё захацелася абмяняцца хаця б некалькімі словамі з Вамі. І так, Пані Валю, Вы першая, да каго я пішу ў Мінск пасля вяртання з яго! І не выпадкова: для Вашай асобы я вывез са сталіцы Беларусі найбольшую сімпатыю і непамерную ўдзячнасць за тую аграмадную працу, захады, клопаты і свой уласны час, што Вы прысвяцілі мне. Вялікае, вялікае Вам дзякуй!

Усё маё падарожжа з Мінска ў Беласток прайшло вельмі ўдала і плённа. У Вільні я сустрэўся з Людвікай Войцікавай[1], сабраў крыху ўспамінаў яе з дзейнасці ў часы «Нашай Нівы» і ў былой Заходняй Беларусі. Аказалася, што Л. Войцікава — наша зямлячка, яе маці паходзіла з Беласточчыны, тут выхавалася і Людвіка. Быў я на Лукішскім пляцы (былым, цяпер гэтая плошча носіць імя У. І. Леніна), знайшоў пліту ў гонар К. Каліноўскага і З. Серакоўскага, паглядзеў на кварталы старой Вільні. Проста, на ўласныя вочы глянуў на вялікі кавалак нашай гісторыі, трагічнай гісторыі.

У нас тут, у Беластоку, усё па-старому, па-колішняму, як у кожнай рэдакцыі. Паволі пачынаю выбіраць тое ды сёе з сабранага мною ў Мінску і пісаць. Не спяшаюся з гэтым, бо хачу зрабіць па меры маіх магчымасцей ладна і адпаведна. Таму да вялікіх тэмаў, як Ф. Янкоўскі[2], Г. Цітовіч[3], «Голас Радзімы»[4], М. Савіцкі[5], В. Гапава[6], Б. Сачанка[7] і іншыя, адразу не бяруся, каб не сапсаваць іх часам. Тым больш, што з В. Гапавай маю вялікі клопат — не маю яе здымка! А без яго мой матэрыял — не матэрыял! Тое самае з Вашым шаноўным шэфам В. Мацкевічам[8]. Проста не ведаю, што і рабіць! Шэфу я на днях буду пісаць, папрашу яго, каб нешта мне выслаў. Але калі б Вы захацелі неяк яму пра гэта нагадаць… У Гапавай хіба ж мне ўжо не ўдасца выманіць фота… Хоць ёй таксама буду пісаць. Вось, бачыце, Пані Валю, як помсцяць усе мае недаробкі ды недагляды ў часе пабыўкі ў Мінску!

Што добрага ў Вас? Як Вы адпачылі? Як маецца Ваш сынок?[9]

Перадайце Вашаму сыну самыя сардэчныя прывітанні, вельмі ж прыемны хлопчык!

Прывітанні і словы шчырага прызнання перадайце, калі ласка, галоўнаму рэдактару В. Г. Мацкевічу, Д. Ц. Чаркасавай[10], майму шаноўнаму калегу М. Васілеўскаму[11], а таксама ўсім іншым супрацоўнікам Вашай рэдакцыі.

З ушанаваннем да Вас

Мікалай

P. S. Ці не маглі б Вы мне даць прыватны адрас мовазнаўцы Ф. Янкоўскага, у мяне недзе згубіўся.

*Паштоўка з выявай марскога пляжа*
*21.08.79 г.*

Многа цёплых пажаданняў Вам з сонечнай у гэтым годзе Балтыкі ў канцы жніўня ў Калабжэгу[12]. Прыемна тут. Хіба ж крыху адпачну ў рэшце рэшт.

М. Гайдук

*Беласток, 12.12.79 г.*

Шаноўная Пані Валю!

Прабачце, што ўсё ж час ад часу непакою Вас сваімі карткамі ці допісамі. Проста памятаю Вас, удзячны Вам, мне вельмі хочацца абмяняцца з Вамі хоць некалькімі словамі.

Што я раблю, Вы добра ведаеце, калі праглядаеце «Ніву». Але гэта толькі частка мае «прадукцыі». Цяпер я засеў да чытанкі для чацвёртага класа па беларускай мове для дзетак беларусаў у Польшчы. Мне ў гэтым вельмі-вельмі дапамагае прафесар Янкоўскі, ён даслаў мне масу кніг, даў парады. Цудоўны чалавек! Пачынаю рыхтаваць «Беларускі каляндар на 1981 год». Апрача таго, польскае агенцтва Interpres «выціскае» з мяне па аднаму-двух артыкулах для СССР пра настаўнікаў, польска-савецкія традыцыі дружбы на Беласточчыне і г. д. У той жа час хацелася б і нешта напісаць мастацкае — апавяданнечка, замалёвачку ці яшчэ што-небудзь. Таму вельмі Вас прашу: не лайце мяне і не наракайце на мяне, што я Вам не напісаў сваіх уражанняў з пабыўкі свае ў Мінску. Я іх пішу, як бачыце, у «Ніве», пішу як умею найлепш. Планую спецыяльны адрэзак, прысвечаны Мінску (агульныя ўражанні), Вашай рэдакцыі (інтэрв'ю з шэфам) і Вамі (калі не будзеце мець нічога супраць). У такой сітуацыі спецыяльны артыкул у «Голасе Радзімы», хоць для мяне вельмі пажаданы, але ці не «переборщил бы он» усяе справы?

А што з Вашым прыездам у Польшчу? Мо трэба зрабіць якія-небудзь захады з майго боку? Напішыце, я пастараюся.

З пажаданнямі ўсяго найлепшага

М. Гайдук

*Беласток, 2.04.80*

Шаноўная Валянціна Андрэеўна!

Вельмі цешуся з нашай з Вамі размовы па тэлефону 1. 04.1980 г. Ваш прыезд у Польшчу пачынае прымаць рэальнае аблічча. Добра, што вы хочаце прыехаць улетку, гэта асабліва мне на руку, бо я да таго часу надзеюся ўтрэсці найважнейшыя свае выдавецкія працы. Плануйма канкрэтна: прыедзьце паміж 15–20 чэрвеня, найдалей 30 чэрвеня. Я ўвесь час сяджу ў Беластоку і Польшчы. Выберуся на ўзмор'е недзе ў канцы жніўня (люблю пустынныя пляжы, першыя асеннія штормы, цішыню прыморскіх лясоў).

Цяпер жа, не адкладваючы, папытайце, дзе трэба, ці Вам памяняюць грошы і колькі. Я мушу гэта ведаць. У наступным лісце я напішу, што мне трэба, каб Вы прывезлі

з Мінска. На днях я перагавару са сваім шэфам, што Вы маглі б нам напісаць у «Ніву», каб атрымаць некалькі злотых «кішэннага».

Неабходна, каб Вы зараз жа, магчыма — заўтра, напісалі мне, што Вы хочаце наведаць у Польшчы прыватна і службова (тэмы, справы, асобы), не абмяжоўвайцеся да некалькіх, дайце і мне магчымасць выбару! Па Беласточчыне то, пэўна, я сам Вам запрапаную маршрут, бо проста яе Вы не ведаеце і не можаце меркаваць, што тут можна пабачыць. Але на ўсялякі выпадак — падумайце, прымяркуйце і напішыце. Вядома, будзеце фатаграфаваць, не забудзьце захапіць фотаапарат, але каб новы добры, бо ў нас слабыя рамонтныя майстэрні. Я набыў, будучы ў Вас, нядрэнны «Зеніт Е», добра мне служыць і іншым падабаецца яго праца. Падумайце пра гэта. Зрэшты, найлепей параіць Вам Яўген К.[13] Гэта дасканалы знаўца фатаграфічнай справы і наш добры знаёмы. Яго фатаграмы ў нас часта ідуць у «Ніве»

Здаецца, што на мой першы ліст — гэта будзе столькі. У наступным напішу Вам, што зрабіў. Далей, якія іншыя справы Вам трэба аформіць. Але пасля кожнага майго ліста прысылайце мне хоць паштоўку, каб я ведаў, што Вы атрымалі мой ліст і рыхтуецеся да выезду, як трэба.

Прывітанні Сыну і ўсёй рэдакцыі «Голасу Радзімы», Содалю[14] таксама.

М. Гайдук

*Беласток, 12.04.80*

Паважаная Валянціна Андрэеўна!

Спяшаюся паведаміць Вас, што мне ўдалося «разгарнуць» дзеянні і захады пра Ваш прыезд у Польшчу поўным фронтам. Здаецца, што ўсё ідзе нармальна. У справу вельмі заангажаваўся мой шэф Юрый Валкавыцкі[15], і гэта дае гарантыю, што ўсе цяжкасці неяк мы пераможам.

Да Вас асабіста ад мяне і Ю. Валкавыцкага просьба. Каб забяспечыць Вас у якоенебудзь мала-мальскае «кішэннае», Вы павінны зараз жа, не адкладаючы, прыслаць 3–4 матэрыялы. Гэта могуць быць нават тыя Вашыя (і толькі Вашыя) артыкулы, якія Вы апублікавалі ў «Голасе Радзімы» ці іншых газетах БССР, крыху перапрацаваныя, дастасаваныя да нашага тыднёвіка. Мы іх зараз жа (помніце, наш вытворчы цыкл складае аж 3 тыдні) апублікуем у «Ніве», і такім чынам у вас будзе некалькі злотых на дробныя выдаткі. Не адмаўляйце! Гэта адзіная магчымасць. Не адкладвайце, высылайце адразу тое, што зробіце, па адным артыкуле ў пісьме на адрас «Нівы». Памер артыкула — 3–4 старонкі машынапісу. Могуць быць з 1–2 здымкамі або і без іх. Тэмы — па Вашаму выбару, могуць быць і па ахове прыроды ў БССР, размова з В. Быкавым[16] (чаго мне не ўдалося зрабіць) і пра яго цяперашнюю працу і бліжэйшыя планы і г. д. Важнае, каб мы зараз жа атрымалі хоць адзін матэрыял, а праз некалькі дзён наступны і гэтак далей.

У мяне асабіста мноства работы. Карпею над падручнікам і календаром. Страшна завалены. Ні хвіліны вытхнення.

Перадайце мае самыя сардэчныя прывітанні Вацлаву Генрыхавічу, Уладзіміру Якаўлевічу[17], Дзіяне Цімафееўне, Міколу (па бацьку не памятаю) Васілеўскаму і іншым знаёмым.

З пашанаю да Вас

М. Гайдук

*Беласток, 28.04.80*

Шаноўная Пані Валя!

Абодва лісты ад Вас атрымаў я, дзякую, Вы іх зразумелі так, як трэба. А цяпер па справе. Актыўна «прапіхваю» запрашэнне Вас у Польшчу. Вядома, адміністрацыйных

вузкіх горлаў — безліч, але я, дзякуй Богу, неяк праціскаюся. Пакуль гэты ліст дойдзе да Вашых рук, мне стане вядома што, як, калі, колькі. Не здзіўляйцеся, але такі будзе сэнс гэтых займеннікаў: 1) ці Старшыня выдавецкага кааператыва «Прэса»[18] выкажа згоду запрасіць Вас (гэта найважнейшае), 2) ці зацвердзіць ён жа праграму Вашага візіта (я яе склаў згодна з выказанымі Вамі пажаданнямі: вядома ж — будуць Варшава і Кракаў!), 3) ці асігнуюць сродкі на Вашую пабыўку ў Польшчы (гасцініцы, камандзіровачнае, праезды і г. д.) на даволі круглую сумку (маўчыце пра гэта!), 4) калі ўсе паперы будуць гатовы і 5) на калі Вас можна будзе запрасіць і шмат што іншае, пра якое раскажу пры нашай з Вамі сустрэчы ўжо ў Польшчы. Што ж героем ніякім я не ёсць, але змагаюся па меры маіх сіл і магчымасцей. Вядома, найбольшы, наймацнейшы і найвярнейшы мой памочнік і энтузіяст справы — гэта шэф «Нівы» Ю. Валкавыцкі. Так што пра канкрэтны тэрмін Вашага прыезду няма што пакуль што гаварыць. Магчыма, я Вас крыху ўвёў у зман гэтымі 15–30 чэрвеня. Прабачце. Дамовімся так, калі гэта Вам не перашкаджае: усё належна аформім мы тут у Польшчы, а Вы ў СССР і тады Вы проста пазвоніце нам. У наступным лісце я падам Вам нумары тэлефонаў і г. д. Дамовімся тады, калі Вы выедзеце, якой трасай і г. д., і я Вас спаткаю, пастараюся дапамагчы ўладзіць і ўсё-ўсё і многа-многа іншага.

Згараю з пустой цікаўнасці, але ўсё ж напішыце, ці не мае Вацлаў Генрыхавіч прэтэнзій да мяне і майго артыкула пра яго ў «Ніве»? Дарэчы, мы тут паклапаціліся выслаць у Вашу рэдакцыю камплект «Нівы» за бягучы год, дашлем надалей, на другое паўгоддзе г. г. паспрабуем выпісаць Вам яе.

Пакуль што гэта хіба ж усё. Неўзабаве напішу зноў.

Прывітанне ўсёй рэдакцыі «Голасу Радзімы» на чале з яе шэфам

Сержу прывет!

М. Гайдук.

*Паштоўка з выявай палаца Браніцкіх*
*у канверце, не датаваная.*
*Менскі штэмпель на канверце — 02.09.80*

Шаноўная Валянціна Андрэеўна!

Шчыра вітаем Вас у нас у Польшчы. Прыязджайце, усё падрыхтавана. Чакаю на Вас 20–30.IX ці ў іншым часе. Я дагэтуль водпуску не браў, спадзяючыся Вашага прыезду. Прывітанні Вацлаву Генрыхавічу, Вашаму Сержу і ўсім маім і Вашым супольна знаёмым. P. S. Выязджаючы, дайце тэлеграму, абавязкова.

М. Гайдук

*Беласток*
*7.10.80*

Шаноўная!

І так, казачныя дзесяць дзён і чароўнасці Супраслі, Тыкоціна, Белавежы, Кракава і Варшавы засталіся ўжо недзе воддаль ды пачалі губляць свае выразныя абрысы. Толькі памяць іх захоўвае непарушнымі, цудоўная рэч — людская памяць прыгажосці і шчасця!

А ці даехала дамоў шчаслівая і без прыкрасці? А ці спаткалі добра і з радасцю? А ці ўжо паспела адпачыць ды атрахнуцца ад уражанняў? А ці… Ну, вядома, мноства іх і таму з нецярпеннем чакаю ліста… і матэрыялаў са здымкам Аляксея![19]

Ужо напісаў я пра тыя нязвыклыя Твае 10 дзён у Польшчы, проста — перадаў, што сама сказала і запісала. Пра збіранне каштанаў і нядобрых птушак на кракаўскіх

Плянтах — не ўспомніў нават. І ўсё ж Валкавыцкі скараціў, скараціў бессардэчна, найкаштоўнейшае. Што ж, прапала! Чытай і думай пра большае, сярод тых слоў схавалася і маё цудоўнае дзесяцідзённе, дэкада вандравання па чароўнай Аркадыі.

Прывітанні ўсім нашым супольным знаёмым.

Бывай!

M. Hajduk

*На бланку «Нівы»*
*рукапісны ліст Г. Валкавыцкага,*
*тагачаснага рэдактара тыднёвіка*
*20.X.1980*

Добры дзень, Валянціна Андрэеўна!

Цешуся, што Вы задаволены паездкай ў Польшчу. Асабліва радуе, што ўсведамляеце сябе нашым прадстаўніком (усе паўнамоцтвы Вам давяраем). Думаю, што менавіта такія адносіны нам і патрэбны. Атрымала ў нас поўную падтрымку і другая Вашая прапанова. Мы звярнуліся пісьмова да некаторых нашых актывістаў і аматараў беларускага друкаванага слова з пытаннем, ці хацелі б атрымліваць «Голас Радзімы». Усе выказалі гарачае жаданне быць Вашымі чытачамі. Дасылаю адрасы і спадзяюся, што будзеце мець новых карэспандэнтаў. Некаторыя — выхадцы з былых «крэсаў», і Ваша газета павінна быць ім асабліва блізкай.

Прыміце найлепшыя пажаданні ад усяго нашага калектыву.

Г. Валкавыцкі

*Паштоўка з выяваю Геркулеса ў парку Браніцкіх*
*(на паштовай марцы — чырвоны «малюх»)*
*Беласток, 17.11.80*

Мілейшая!

Я зусім-зусім не пакрыўдзіўся, наадварот — вельмі Табе ўдзячны за ўсё-ўсё і прашу яшчэ-яшчэ. Здымак з «Домікам Напалеона» будзе неўзабаве. «Ніва» на твой прыватны адрас падпісаная, калі не атрымаеш у пачатку студзеня’80 — усчыняй гвалт і лямант. Пра «Малюха» яшчэ потым (ён на паштовай марцы).

Прывітанні ўсім-усім.

М. Гайдук.

*Беласток*
*24.12.80*

Мілая Валянціна Андрэеўна!

Што ж, насталі каталіцкія Коляды — уся Польшча на каленях перад тэлевізарамі, бо ў галоўным выданні «навін» бласлаўленне «ўсім палякам» уласнавусна і ўласнаасабова перадаваў амаль паўгадзіны часу сам Іаан Павал ІІ папа рымскі. Мала што лепей, чым І Сакратар пасля важнага для ўсяе дзяржавы пасяджэння ЦК ПАРП. Дзеткі (8–12 год) спявалі калядкі, у якіх аб’яўлялі сваю вернасць каталіцкай рэлігіі і «пастырам духоўным», папе ў першую чаргу. Акцёры (найлепшы гарнітур) дэкламавалі самыя што ні на ёсць клерыкальныя вершы розных эпох. Вянцом жа ўсяму гэтаму «калляднаму вечару» ў Польскай тэлевізіі быў адзін урывак, ці адрэзак, шматсерыйнага фільма, які цяпер рыхтуецца, «Каралева Бона»[20]. Выбрана найбольш яскравае, палаючае антырускасцю і езуітызмам месца — каранацыя Зыгмунта Аўгуста[21] на вялікага князя літоўскага

і затым караля польскага. У гэтым месцы, што ні сітуацыя, абразок, то і прысяга ды клятва каралёў «умацоўваць і пашыраць адзіна праўдзівую веру каталіцкую і найдасканальную дзяржаву польскую». Такім корміць наша тэлевізія сваю «паству» наштодзень. У сэрцы Еўропы нарадзіўся другі цемрашальскі Іран, толькі замест брудных мулаў тут правяць краінай пурпураносныя ды зіхацяць золатам епіскапы і кардыналы. Праўдзівай Каносай[22] для нашай партыі была ўрачыстасць адкрыцця помніка загінуўшым ад куляў народнай міліцыі ў Гданьску ў снежні 1970 г. Выступалі: Лех Валэнса[23] — найважнейшая постаць, епіскап вармінскі — другая па значнасці персона і сакратар гданьскага абкома — найменш там важная асоба, бо Валэнсу павітаў гром апладысментаў, епіскапа — набожныя спевы, а сакратара — магільнае маўчанне і хутка пусцеючая плошча. І што Ты на такое?

Самаадчуванне ў мяне агіднае, у душы пустка, ніякая думка не хоча складвацца ў нейкую сэнсоўную цэласць. Зрабіў некалькі артыкульчыкаў на царкоўныя тэмы. Лічу, што гэта проста неабходна ў нашай цяперашняй сітуацыі. Беларусам у Польшчы трэба яднацца, нас тут вельмі-вельмі мала! Намерваюся нават пісаць пра маладога мастака, які вырэзьбіў алтар у адну з цэркваў на самым пагранiччы — у Цеханоўцы. Працы добрыя, цікавыя, натхнёныя. Але як пра іх напісаць? Што ты на такую маю думку і намер?

Каб Ты ведала, як мне хочацца забыцца на ўсё, уцячы куды-небудзь! Маці цяжка хворая, цалкам без улады (без рук, без ног, без памяці), і яе я сам толькі (!) даглядаю, на яе кватэры жыву нават.

Адна ўцеха — самотнасць.

Выйшаў мой «Беларускі каляндар»[24]. Вышлю Табе адзін экземпляр, у запасе буду трымаць яшчэ, на выпадак, калі б трэба было Табе даслаць яшчэ. З гэтага выдання (ужо 6-га на маім рахунку) я амаль задаволены. Трэба брацца рабіць новае яго выданне, ужо на 1982 год. Можа Ты захацела б што-небудзь напісаць у яго? Усё ж гэта кніжка! А можа, каго-небудзь са сваіх знаёмых схіліш напісаць? Напрыклад, Раманюка Мішу[25] на тэму «Беларускі народны строй» з мноствам здымкаў? Благаю, паспрабуй! Матэрыял (гатовы, але ў адным экземпляры) трэба даслаць да 1 сакавіка 1981 года.

Цяпер чытаю А. Мальдзіса[26] «На скрыжаванні славянскіх традыцый». Фундаментальная рэч! Я захоплены ёю. Усё ж Адам Язэпавіч — глыба! Напішу рэцэнзію ў «Ніву», будзе станоўчая і абшырная (вядома, Валкавыцкі абрэжа ёй галаву і ногі — як заўсёды, аставіць «потроха»!), але ж такі ўжо мой няшчасны лёс.

Вельмі хочацца мне ў Беларусь, хоць на 5–6 дзён, напрыклад, у Гродна, каб падыхаць Вашым паветрам, паблукаць над Нёманам, наладавацца сілай і ахвотай. Але такое ж немагчыма, хіба ж…

Артыкул пра А.[27] будзе. Ужо пішу яго (у думках). Не смейся — у мяне заўсёды артыкулы так пішуцца. Гэта будзе адзін з апошніх пра мае «Мінскія сустрэчы», развітальны з тымі чароўнымі майскімі днямі ў беларускай сталіцы.

І гэта хіба ж усё, што на сёння. Не адчайна, але цяжка. Усюды — у крамах, сярод людзей, у працы. Але няхай гэта не маркоціць Цябе і не азмрочвае Тваіх уражанняў з мінулай залатой восені. Яна мне здаецца яшчэ больш барвовай і прывабнай. Вядома, такое здараецца ў нашым жыцці рэдка, надта рэдка, зусім выпадкова.

З сардэчным прывітаннем

Мікола

P. S. Прывітанні ўсяму калектыву «Голасу Радзімы» і супольным нашым знаёмым.

*Паштоўка з выяваю парку Браніцкіх — дрэвы, скульптуры.*
*18.01.81*

Валя, добры дзень!

Праўдападобна буду праездам у Мінску ў час паміж 10 і 20 лютым г. г. Можа ўдасца затрымацца на дзень, не болей. Хуценька напішы, якія кнігі і іншыя выданні Табе патрэбны да працы, пастараюся прывезці, а пішы зараз жа, каб я меў час іх знайсці. З прывітаннем

М. Гайдук.

*На бланку «Нівы»*
*рукапісны ліст Веры Леўчук*
*21.01.81*

Дарагая Валя!

Вашы некалькі слоў мяне моцна ўзрадавалі. Дзякую Вам за сяброўства, вельмі дзякую. І прашу заўсёды помніць пра мяне.

А цяпер пра бяду. Не маем, як кажуць, нават на развод, аніводнага нумара з каляндаром. Людзі-падпісчыкі з далёкіх сёл прыязджаюць са скаргамі, што не атрымалі, бо пісьманосцы не паразносілі, а пакралі.

Я рашыла ўзамен выслаць Вам 10 кніжных каляндароў. Калі трэба, вышлю больш.

Адносна кнігі, якую абяцала[28]. Помню, але рашыла толькі пачакаць. Вельмі хачу, каб яе Вы атрымалі. Так як Вы лічыце, што трэба выслаць, дык высылаю.

Усяго найлепшага і многа творчых непакояў, хоць цяжка з імі жыць.

Вера Леўчук

*25.01.81*

Валянціна Андрэеўна, дзень добры!

Праўду сказаўшы, не меў намеру пісаць ліста, хацеў адно паштоўкай абысціся, але ж не паўстрымаўся! А прычынай усяму, зразумела, у першую чаргу Твой фундаментальны ліст ды надта ж плённая публіцыстычная, твая ж таксама, дзейнасць на старонках «Голасу Радзімы». І ад яе пачну. Ужо ад інтэрв'ю з М. Савіцкім — грунтоўнае, змястоўнае і адважнае. Затым шкода, вялікая шкода, што Зоську Верас пажадала паказаць сяброўка і шэф Твая, мо пад тваім пяром яна была б больш жывая, каларытная і блізкая ўсім, бо яна іменна такая і ёсць, я ж быў у яе! Гэтаму якраз доказ — Твая цудоўная «Husoviena»[29] — такая пранікнёная, усхваляваная, чуллівая і ў той жа час надта ж кампетэнтная. Наогул, Ты, Валянціна Андрэеўна, расцеш, удасканальваешся, прыгажэеш! І ў друку, а на яве — убачу за 3–4 тыдні, калі пашанцуе, у Мінску. Так, Гусоўскі, Гусоўскі. Каб неяк залавіць натхненне і напісаць апавяданне пра Гусоўскага, які чытае ўрывак свае паэмы каралю і князю ВКЛ у «камінковай», вячэрняй зале на Вавелі. Там, дзе мы былі. Але на гэта трэба часу, запалу і сілы. Усяго гэтага мне цяпер якраз і не хапае. Мая маці вельмі цяжка хворая, і я мушу дзень і ноч дзяжурыць пры ёй. Яна сама не ўстае, не лажыцца, не есць і не п'е, вядома, не ходзіць. Трэба падымаць, пераносіць. А вага яе звыш 80 кг!.. Ніхто мне пасобіць не можа і не надта спяшаецца памагаць. Разам з атрафіяй мускулатуры наступае ў яе атрафія памяці, арыентацыі і г. д.

У краіне ў нас крыху быццам бы «спакойнее», «Салідарнасць» крыху сцішэла вонкі ў адносінах да нас, беларусаў. (Атакуюць урад, партыю.) Гэтая маса ўмацоўваецца, арганізуецца, мабілізуецца і хто ведае, якое «каленца» можа выкінуць за некалькі тыдняў. Мы, беларусы, спрабавалі адбівацца: склалі С. Каню (І сакратар ЦК ПАРП) спецыяльны мемарандум пра ўчыненыя нам, беларусам, нашай культуры, асвеце і наогул меншасці

крыўды, праследванні і ўціскі. І памагло, хоць тымчасова, можа. Пачаліся перамовы, парады, сустрэчы ў Ваяводскім камітэце ПАРП у Беластоку, Міністэрстве асветы і выхавання ў Варшаве, у аддзеле культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення ў Беластоку з дэлегацыямі ГП БГКТ і «Нівы», абяцаюць спатканне ў Міністэрстве культуры ў В-ве. Мы выкладаем свае болі, жалі і прэтэнзіі, яны слухаюць, выкручваюцца, абяцаюць. Але атакуем мы! Я ўдзельнічаў у дэлегацыі ў Міністэрстве асветы 22.01.81. Прыняў нас (М. Самоціка — старшыню ГП, А. Іванюка — члена Прэзідыума ГП БГКТ і мяне) віцэ-міністр Бонах. Мы «вылушчылі» ўсё, што нам набалела ў справе навучання бел. мовы, г. зн. усялякіх перашкодаў, цяжкасцей і проста праследванняў яе ў школах, асветных установах, выдавецтвах і інш. Ціснулі мы моцна. Міністр нешта прамямліў і заціх. Здаецца, паездка была ўдалай. Цяпер рыхтуемся да паездкі ў Міністэрства культуры.

Цяпер жа адказы на Твае пытанні з ліста ад 16.1.81

«Летапісы»[30] я атрымаў «в целости и сохранности» і вялікае, аграмаднае Табе дзякуй за твае ахвярныя клопаты пра мае патрэбы. «Голас Радзімы» атрымліваю рэгулярна на хатні адрас недзе ад лістапада на 7–9 дзень пасля выхаду нумара. Дзякуй зусім такое самае, як папярэдняе.

Пра паездку ў далейшыя і надта далёкія вандроўкі[31] пакуль што нічога сказаць не магу. Непрыхільна для іх складваюцца мае хатнія і іншыя ўмовы.

Відаць, у Мінску мы сустрэнемся хоць на хвіліну, а то і на болей (некалькі гадзін). Заказваю для нас двох столік у «Юбілейнай», маёй любімай «Юбілейнай», значна, намнога больш любай мне, чым усякія «Гетманскія», «Саскія» і іншыя ляшскія[32]. У Мінску я падыхаю праўдзівым паветрам. Я ведаю добра, упэўнены, што там толькі аддыхаюся ад усяго таго, чым тручуся тут штодня.

Які ў нас хаас і проста бардак (прабач, іншага слова няма на гэта), Ты не можаш сабе ўявіць. Польшча ўмірае самаіснай смерцю, ад шаленства, а дакладней — народнага самабойства, самазнішчэння. Яшчэ два-тры месяцы — усё стане, зачыніцца, разваліцца: эканоміка, дзяржаўны апарат, армія, міліцыя, усё-ўсё. І ў такіх умовах пісаць артыкулы проста немагчыма, асабліва «побасенки» ў «Краязнаўчы слоўнік» ці «Легенды нашага краю»[33], а трэба!

Сардэчныя прывітанні ўсім знаёмым. Прывітанні персанальныя Сержу!

Да спаткання ў Мінску 14–16 лютага г. г. Абавязкова будзь у Мінску, а ў гэтыя дні ў рэдакцыі. Благаю!

Мікалай

*Паштоўка з выяваю ўязной брамы палаца Браніцкіх*

Шаноўная!

Вярнуўся ў тэрмін і без складанасцей. Маю клопат са спадчынай па маці. Пачынаю ўжо пісаць, ад М. Савіцкага, у тым жа цыкле «Мінскія сустрэчы». Камплектую «Бел. каляндар на 1982 г.». Благаю: давай матэрыялы. Што з артыкулам М. Раманюка? У БелОКСе[34] мяне запэўнілі, што ўсё будзе аформлена як трэба. Прывітанні ад Р. Лазаровіча![35] Усё выглядае абяцаюча. Прывітанні ўсім-усім.

Мікола 23.03.81
у Беластоку

*Паштоўка з выявамі Бельска Падляшскага (тры здымкі)*
*Беласток. 27.05.81*

Шаноўная Валянціна Андрэеўна!

Дзякую за ліст. Прыеду не раней ліпеня — жніўня, і то няма ўпэўненасці, бо экскурсіі не выходзяць. Усе нумары «Нівы» за студзень — красавік выслаў на твой адрас,

тое самае А. І. Мальдзісу з артыкулам пра яго і тое ж Фёдару Міхайлавічу. Калі прыеду, матэрыялаў у рэдакцыю рабіць не буду. У нас цяжка, штораз горш. Атакуюць. Адбіваемся. Прывітанні ўсім знаёмым і Сержу.

М. Гайдук.

*Беласток, 28.05.81*

Паважаная Валянціна Андрэеўна!

Ну вось: думаў, што абыдуся звычайнай, сумбурнай паштоўкай (кароткія формы інфармацыі мне ніколі не ўдаваліся), а тут давялося закаціць цэлы вялізны ліст з адказамі на безліч Тваіх пытанняў. Пачынаю, як у памяці захаваліся. Так, афармляю фінансавае забеспячэнне візіту Твайго шэфа ў нас, у Польшчы. Надзеюся, што ўдасца. Плануем — канец лета, вядома. Маршрут — пакуль што таямніца, дадам толькі, што надта ж цікавы. «Голас Радзімы» атрымліваю рэгулярна, напрыклад, нумар ад 21.05.81 чытаю сёння, г. зн. 28.05.81. І захапляюся, вядома, тваім артыкулам-цудам «Служыць землякам»[36]. Віншую, заахвочваю, блаславуляю, як старэйшы сябра, да гэтай чалавечнейшай з усіх людскіх тэмаў. Чакаю пра тых, з апошняга сказа Твайго артыкула. «Ніву» я Табе, «Голасу Радзімы», Фёдару Міхайлавічу (вядома) высылаю ў канцы кожнага месяца камплектам, за ўвесь месяц. Калі праглядаеш яе, то ведаеш, што няшмат пішу, бо карпею над «Беларускім календаром». Прысылайце ж, у рэшце рэшт з Міхасём свае матэрыялы як мага хутчэй! Пойдуць! Без іх не магу здаць кнігі… Захадаў у Гродне ніякіх пакуль што не рабілі. Абставіны паганыя, горш — цемрашальска дзікія. Ды і Самоцік падаецца на скорапасціжную хітрэцка-хітрую пенсію. Няма з кім што-небудзь рабіць. БелОКС тое-сёе даслаў, вялікае ім дзякуй, і просім яшчэ, і яшчэ, і яшчэ, і яшчэ ўсяго таго, чаго я прасіў, няхай капаюць хоць па кроплі, але часцей. Міхасёвы (Р.) здымкі ідуць у «Ніве», пераважна адкрываюць нумар. Збіраем яму грошыкі за іх, чакаем, што некалі загляне да нас у госцейкі. Я ж у Мінск калі і траплю, то не раней як у ліпені — жніўні, пасля з’езда нашай партыі. Паклапачуся пра Твае справы, але ўжо тады, як буду ехаць, бо паездка — віламі па вадзе пісаная: ніхто не хоча бачыць палякаў у сябе! Так і трэба. Бо гэты народ цалкам рэхнуўся, ашалеў у сваім экстрэмізме палітычным, рэлігійным. Нам цяжка. Дакучаюць на кожным кроку. Нападу на рэдакцыю пакуль што не было, але шрыфты ў друкарні некалькі разоў то знішчалі, то рассыпалі склад. «Ніва» ідзе нарасхват. Людзі гуртуюцца, разумеюць небяспеку. Але мы адплёўваемся — у «Ніве», дыспутах, сварках, да боек пакуль што не даходзіць, не пeражывай лішне за свайго калегу. З Геніюшам[37] нічога страшнага не здарылася: нейкі рэўнівы (зайздросны) муж падзёўбаў яго ножыкам і толькі ўсяго! Дзірак — некалькі, але нястрашныя, даўным-даўно вылізаўся з іх, нават следу няма. Пашто Табе мой артыкул пра Басалыгу[38]? Ты ж яго маеш, ды і ён мае! Зрэшты, адкуль я яго цяпер выкапаю і як дашлю табе? Сакратавы[39] артыкулы — нечытэльныя і добра. Дашлю іх потым — потым. Цікавыя, незвычайныя, шалёныя. Ну, даволі?

Вярнуўся дасканала, таксама як Ты! Вялікае дзякуй ад сябе і ад Лазаровіча агромністае дзякуй. Калі надалей утрымаецца на сваім крэсле, гарантую — не забудзе, бо ўсё перапытвае, што ў Цябе чуваць!.. Ой, Валянціна, трымайся! Нічога Вацлавам не перасылай мне, нічагуські. Старайся толькі, калі падвернецца пад руку, залучыць той том «Полного собрания русских летописей», у якім ёсць Валынскі і Іпацьеўскі летапісы (у іх мноства матэрыялаў пра Беласточчыну). Ага! Прывітанні ад Веры і Яні[40], паклоны ад Амільяновіча[41] (па-хамску напаў ён на нас, беларусаў Беласточчыны, што ж стары АКовец, бандзюга!), са мной пакуль што ў дыпламатычнай згодзе: рукі не падае, але галавой ківае. Пра бардзель, які дзеецца ў гэтай краіне, пісаць не буду, бо гэта невообразимо, и несказанно, и неописуемо…

Прывітанні ўсім, асаблівыя — Сержу.

Мікола Г.

*Беласток, 13.07.81*

Шаноўная Валянціна Андрэеўна!

«Ну, нарэшце!» — уздыхнеш, пэўна, можа нават усцешышся, што мяне тут не задушылі і не зарэзалі (пакуль што, хоць будучыня выглядае надта ж мутна-смутна). Даканаў мяне «Беларускі каляндар на 1982 год». Сёння ж закончыў над ім асноўную работу і нясу здаваць. І толькі таму сеў пісаць табе, маючы ўжо на такую прыемнасць поўнае права. І Твой і Міхасёў матэрыялы прыйшлі ў апошнюю, даслоўна, хвіліну. Я іх уласнаручна перапісаў у 3-х экземплярах, бо так неабходна (а машыністкі ў нас — кралі, даражацца), і памясціў, як трэба. Дзякуй вам вялікае (кожнаму з Вас па тры разы!). Гэта будзе праўдзівая аздоба «Календара». Кнігі з «Радзімы»[42] атрымаў, падзякуй сабе і іншым за добрае сэрца і памяць пра мяне, беднага. Вядома, чытаю Караткевіча[43] з надзеяй, што пры чарговым наведанні Мінска мне ўсё ж удасца ўзяць у яго інтэрв'ю для «Нівы».

А цяпер пра Твае пытанні.

Адносна «Беларускага календара». Задума яго выдаваць нарадзілася ў 1956 годзе, ініцыятарам быў тадышні сакратар рэд. «Нівы» Міхась Баравік. Па прыклады і ўзоры сягалі да календароў «Нашай Нівы». Першыя гадавікі былі надта ж сціплыя, а нават мізэрныя — у асноўным змяшчалі каляндарыум, невялічкую інфармацыю пра БГКТ і «Ніву», беларускае школьніцтва, практычныя парады па сельскай гаспадарцы. 60–100 старонак. З бегам часу ён ператварыўся ў асноўнае выданне Галоўнага праўлення БГКТ, пашырыўся яго змест, узбагаціўся, пахарашэў. Асноўнай яго мэтай з'яўляецца: 1) даць інфармацыю пра дзейнасць БГКТ, 2) стварыць магчымасць публікацыі аўтарам, пішучым па-беларуску ў Польшчы (вершы, апавяданні, эсэ, рэпартажы), 3) публікаваць матэрыялы па народнай творчасці беларусаў Беласточчыны, 4) фармаваць свядомасць іх і пажыўляць веды пра мінулае свайго народу, 5) даваць практычныя парады па сельскай гаспадарцы, дамаводству, прававыя і г. д. Рэдакцыйны камітэт — грамадскі орган — ён ацэньвае папярэдняе выданне, абмяркоўвае, штогод, праект новага выдання, уносіць свае заўвагі, прапановы, зацвярджае або не зацвярджае праект. Складае праект рэдактар гадавіка. Рэдактара паклікае Выдавецкая секцыя ГП БГКТ пераважна на кожны гадавік асобна. Дагэтуль было шмат рэдактараў, першым быў Міхал Баравік (успомнены ўжо першы сакратар рэдакцыі «Нівы»). Найболей выданняў зрабілі: М. Гайдук, Г. Валкавыцкі, С. Яновіч (па 5–6 гадавікоў). Рэдактар, апрацаваўшы канцэпцыю і план гадавіка, шукае выканаўцаў-аўтараў, звычайна мае з гэтым вялікія цяжкасці, бо няма ў нас лішне ахвотных публікавацца ў «кацапскім» выданні ды яшчэ на «хамскай» мове. Таму аўтары пераважна з нашага БГКТоўскага круга. Сродкі на выданне і паперу забяспечвае ГП БГКТ з дзяржаўных датацый. Тыражы былі розныя: першыя гадавікі выдаваліся 6–7 тысячамі, але не разыходзіліся і потым паменшыліся да 4–5 тысяч. Цяпер выдаем 5 тыс., усё разыходзіцца, попыт аграмадны і то нават за межамі Польшчы: у БССР, на Захадзе. Ідзе толькі ў свабодны продаж, але прадае яго само БГКТ і «Ніва» без удзелу дзяржаўнага кніжнага гандлю. Проста самі развозім па школах, клубах, вёсках, дамах культуры. Чытачы любяць гэтае выданне, лічаць яго сваім, блізкім. Ёсць многа такіх, што ўкамплектавалі ўсе гадавікі. Выказваюць таксама свае пажаданні, крытыкуюць востра няўдалыя матэрыялы ці канцэпцыі на розных сходах гурткоў і пленумах БГКТ. Пажаданні розныя, найчасцей — больш матэрыялаў па гісторыі беларусаў на Беласточчыне і наогул па гісторыі і сучаснасці Беларусі, практычныя парады, літаратурныя творы і г. д. Рэдактары намагаюцца выканаць усё гэта. Але маюць вялікія цяжкасці — няма аўтараў.

Літаратурна-мастацкая секцыя «Белавежа» ўзнікла ў 1958 г. пры «Ніве», потым перайшла да ГП БГКТ. Заснавальнікам яе быў і духовым кіраўніком па сёння ёсць

Г. Валкавыцкі. Апрача альманаха выдае: індывідуальныя зборнічкі твораў сваіх членаў (А. Барскі — 2, Я. Чыквін — 3, В. Швед — 2, Яновіч — 1, М. Шаховіч — 1, Н. Артымовіч — 1, Я. Бурш — 1 і г. д.), калектыўныя зборнічкі (С. Яновіч, Ю. Геніюш і інш. — 1), сцэнічных твораў. Кожны паасобны член секцыі дасылае свае творы ў «Ніву», «Беларускі каляндар». Секцыя (цяперашняе яе кіраўніцтва, пакліканае Прэзідыумам ГП БГКТ па ўказанню IX з'езда БГКТ: А. Баршчэўскі, Г. Валкавыцкі — старшыня, М. Гайдук, Я. Кірызюк, В. Склубоўскі і В. Швед) збіраецца 1–2 разы ў год на свае семінары, на якіх абмяркоўвае новыя творы, выдавецкія і арганізацыйныя справы, праводзіць аўтарскія вечары, сустрэчы з чытачамі (некаторыя, як В. Швед і А. Барскі правялі дагэтуль па больш як 1000 сустрэч!) у школах, клубах, дамах культуры і г. д. Супольна з польскімі пісьменнікамі і пісьменнікамі з БССР (Н. Гілевічам, А. Пысіным, А. Гардзіцкім і інш.) сустрэчы, супольныя калектыўныя вечары ў Беластоку, Варшаве, Бельску. Аўтары самі прадаюць у асноўным свае кніжкі на сустрэчах, вечарах і г. д. Я. Чыквін меў на ўвазе «Ніву», пішучы ва ўступе да «Белавежы» № 3 пра «адзіны часопіс, мэтанакіраваным на сялянска-гаспадарскую праблематыку», бо «Ніва» і ёсць такой. У «Белавежы» гуртуецца каля 40 чалавек. Прыналежнасць цалкам свабодная, нават адвольная. Той, хто лічыць, што яму варта прымаць удзел у яе рабоце, — прыходзіць. Наогул жа належаць тыя, хто піша і публікуе. Але ёсць і такія, што пішуць і нядрэнна, але ў працы секцыі ўдзелу не прымаюць, або рэдка. Ядро секцыі: 15–20 сталых членаў, актыўных, ахвярных (апрача кіраўніцтва пальма першынства належыць: С. Яновічу, М. Шаховічу, Я. Чыквіну, Ю. Геніюшу і некалькім іншым). Ніякіх складчын ці білетаў няма. Поўная дабравольнасць, свабода. Кошты аплочвае ГП БГКТ (камандзіровачнае, аплата за сустрэчы і г. д.), абяспечвае, часам, транспартам. Нядрэнная рэч! «Белавежа» ў значнай меры дапамагла ўтрымацца беларускасці на Беласточчыне. Людзі ахвотна прыходзяць на сустрэчы, выказваюцца, абмяркоўваюць творы, разгортваюцца цікавыя дыскусіі. ГП БГКТ з удзелам «белавежцаў» і самадзейных калектываў праводзіць «Свята беларускай песні і слова», «белавежцы» выступаюць таксама на фэстах БГКТ. Учытайся ў «Летапіс» у «Бел. календары на 1981 г.», там крыху знойдзеш пра «Белавежу» і «белавежцаў».

---

P. S. Поўныя камплекты (або амаль поўныя) календароў маюць у Мінску: А. Гардзіцкі, А. Мальдзіс, А. Ліс, Я. Саламевіч[44] — звярніся да іх, пагартай.

Маю мноства работы. Наш падручнік па бел мове для IV класа пайшоў у друк, сядаю за такі ж для V класа, тэрмін гарыць! Маю нагоду выдаць зборнік нар. песень з Беласточчыны (народных, свайго запісу), абяцаюць грошы і паперу. Дастаў дазвол і паперу на мае апрацоўкі тутэйшых казак і легенд «Аб чым шуміць Белавежская пушча», за 3–4 тыдні здам у друкарню! На жаль, у Беластоку. Пакрысе пішу пра мае мінскія сустрэчы, апублікаваў пра Савіцкага, Барысевіча, Мальдзіса, Панізніка[45], Марачкіна (! Ага!). Праўда, пра Марачкіна страшэнна парэзаў мне Валкавыцкі, выкінуў самае лепшае — сэрца, лірыку, чуласці. Вышлю выразкі.

Ну, хіба ўсё. Ці вартае што-небудзь — не ведаю. Калі нешта яшчэ трэба, пішы — напішу.

Ці прыедзе к нам Вацлаў? Вельмі чакаю, хачу, бо сродкі цяжка было атрымаць. Набегаўся я ды паклапаціўся, шкада было б, калі б марна прапалі. Заахвочвай, няхай прыязджае. Для яго, як і для Цябе, зраблю ўсё, што магу.

Люблю Вас, мае вы даражэнькія галубочкі.

М. Гайдук.

Беласток, 17.07.81

Паважаная Валянціна Андрэеўна!

Перш за ўсё — вялікае дзякуй ад мяне асабіста і ўсяе нашае сям’і за салодкую пасылку. Нарэшце мы ўбачылі, што на свеце існуюць яшчэ праўдзівыя шакаладныя цукеркі. У нас іх няма роўна год, бо ад ліпеня мінулага года, шакаляд даюць на картачкі толькі дзецям па 1 плітцы ў месяц. Вашыя «Рамонкі», «Белыя акацыі» і асабліва «Беларускія»[46] падтрымалі мяне на душы, узмацнілі псіхічна. Што ж, у нас далей усё развальваецца ды распадаецца, а калі дзе-небудзь і ліпіць, то надта ж няпэўна. Вытворчасць не спыняе паніжацца, калі ў маі г. г. панізілася на 18–20 %, то ў чэрвені на 21–23 % у параўнанні з тымі ж месяцамі ў мінулым годзе. «Салідарнасць», а дакладней яе зачыншчыкі ды правадыры з правага крылы, не ўнімаюцца, на будучы тыдзень аб’явілі новыя забастоўкі, між іншым у «Лёце» (наш «Аэрафлот»). Цікава, што ў гэтым прадпрыемстве пачалося ўсё з таго, што тамашняя «Салідарнасць» не захацела прыняць на генеральнага дырэктара свайго прадпрыемства першага польскага касманаўта Міраслава Гермашэўскага; так, так, таго самага, што лётаў у космас з нашым дарагім і любым мне Пеценькай Клімуком[47]. Калі міністэрства сувязі ўсё ж яго назначыла, «Лёт» аб’явіў забастоўку і баставаў 4 гадзіны. Міністэрства паддалося, адклікала М. Гермашэўскага і назначыла на гэтую пасаду С. Кавальскага — генерала, каменданта ваеннага лётнага вучылішча ў Дэмбліне. «Салідарнасць» быццам бы ўсцішылася, але ўсё яшчэ не здаецца, магчыма, для блізіру. За што ўзненавідзела яна Гермашэўскага — вядома, ён жа Герой Савецкага Саюза! Так, галубка. Такой ёсць «дружественная Польша», цытую за адной вядомай табе і мне таварышкай з БелОКСу. Але, няхай яе, гэтую палітыку.

Здаецца мне, што я ў папярэднім лісце недакладна падаў пачатак друку «Беларускіх календароў». Першы выйшаў на 1957 г., г. зн. той, што выйдзе цяпер на 1982, будзе юбілейным, бо 25-ым.

Прашу, паўтараю гэта за высланай паштоўкай, дашліце Вы з Міхасём свае здымкі. Праўда, я маю адну, тую з Кракава, з «Манаполя», але ці добрая? Ці адпаведная? Міхася ж наогул не маю. Не адкладвайце гэтай справы. Лепш высылаць на «Ніву».

Высылаю ў гэтым жа лісце абяцаныя раней выразкі з «Нівы». Ведаю, што яны Вам патрэбны. Прывітанні Аляксею і ўсім, усім! Выразкі з Сяргеем Панізнікам вышлю ў наступным лісце.

З пашанай М. Гайдук

Паштоўка без карцінак, але ў канверце<br>Беласток, 1.10.81

Шаноўная Валянціна Андрэеўна!

На доўгі ліст аніяк не сабяруся і надалей абыходжуся такімі вось паштовачкамі. Проста: я страшэнна знясілены, змучаны, у самай нізкай дэпрэсіі. І няцяжка на такое — жыццё ў нас становіцца проста невыносным, будучыня туманная, няпэўная і нічога добрага не абяцае. А трэба ж працаваць! Шкада, што Вацлаў Генрыхавіч не прыедзе да нас, усе мае старанні пайшлі на марна, а ён нават словам ка мне не абазваўся, я ж усё афармляў, клапаціўся, пісаў. Няхай. А можа Табе ўдасца да канца года прыехаць. Калі толькі магчыма, пішы — адразу аформлю запрашэнне, або нават звані. Фінансавыя сродкі ж ёсць! Хоць Польшча ўжо не тая, што год таму, але ўсё ж варта прыехаць, хоць бы дзеля таго, каб пераканацца, як за некалькі месяцаў можна зніштожыць такую краіну.

Пасылаю выразку з «Нівы». Яна табе прыдасца ў працы. Артыкул быў большы і лепшы. Валкавыцкі страшэнна яго парэзаў і скараціў. Прывітанне С. Панізніку з пажаданнямі плёну ў вершах і жыцці.

Мікола

*2.01.82*

Шаноўная Валянціна Андрэеўна!

Прабач што дагэтуль аніяк не здолеў напісаць Табе крышку большы ліст, увесь час адсылаўся паштоўкамі. Зрэшты, сітуацыя ў нас такая, што ўсё з рук прэч валіцца, з думкамі цяжка сабрацца. Навіны надта ж прыкрыя. Апошні нумар «Нівы» выйшаў з датай 13 снежня 1981 года і невядома, калі яе выданне будзе ўзноўлена і ці наогул яна будзе выходзіць. Таксама з днём аб'яўлення ваеннага становішча ў краіне спыніла дзейнасць Беларускае грамадска-культурнае таварыства, калі ўзновіць яе — невядома, невядома, ці наогул нешта будзе накшталт таварыства існаваць. Таму няма нічога добрага нават у перспектыве. Скажу адкрыта: калі вы ўсе — «Радзіма», Саюз пісьменнікаў БССР і іншыя дзеячы на ніве беларускай культуры і навукі — не дапаможаце, мы можам перастаць існаваць. Адзіны прасвет у гэтай цёмнай ночы, што «Беларускі каляндар на 1982 год», які праўдападобна (?) выйдзе, але не раней канца студзеня або пачатку лютага. Гэтае спазненне звязана з многімі прычынамі, ад нас незалежнымі. Твой і М. Раманюка артыкулы ў ім будуць ва ўсёй красе і паўнаце. Будзе за іх ганарар, хоць і невялікі; куды яго выслаць? што з ім зрабіць? Калі маеце каго-небудзь у Польшчы, то прышліце даверанасць — звычайную, толькі з якой-небудзь пячаткаю, або на гербавай паперы, натарыяльнае пацверджанне непатрэбнае. Наступны каляндар я асабіста рабіць не збіраюся — яны мне астачарцелі, ды і невядома, ці будзе магчымасць іх выдаваць. Зрэшты, не будзе ў мяне на яго часу: трэба ў рэшце рэшт закончыць працу над «Беларускай мовай для пятага класа». Страшэнна зацягнуў я гэтую справу — гэты падручнік я павінен быў здаць у друк яшчэ ў красавіку 81 года!.. Сёння ж падпісаў умову на чарговы падручнік «Беларуская мова для трэцяга класа» з тэрмінам здачы ў кастрычніку бягучага года. І так, з мяне даволі, па вушы! Ну, і зборнічак песень, можа Бог паблагаславіць, удасца выдаць. Такія мае планы на ўвесь 1982 г. Каб толькі здароўе ды натхненне да працы!

Віншую з усяго сэрца з новай кнігай — «Узвысіць чалавека»[48]! Маладзец жа Ты і то які! Большасць гэтых нарысаў мне вядомая, але Ты іх, відаць, адшліфавала, папоўніла, дапрацавала і атрымалася вельмі ж цікавая кніжка пра людзей добрых і шчырых, мне асабліва блізкіх і дарагіх. Мне ж многія з іх асабіста знаёмы! Словам, добрую рэч Ты зрабіла, зычу наступных і членства ў Саюзе пісьменнікаў БССР.

Ну, а ў нашай краіне — бяда. Экстрэма з «Салідарнасці» не здаецца. Сышла ў падполле, надалей вядзе сваю варожую дзейнасць. Хоць у нас няма тэлефоннай сувязі цалкам, нельга без спецыяльнага дазволу ездзіць па краіне і шмат чаго іншага нельга, як звычайна пры ваенным становішчы, гэтыя варожыя сілы праяўляюць сваю дзейнасць усялякімі спосабамі: ядавітымі лістоўкамі і плёткамі, гаспадарчым шкодніцтвам, падбухторваннем людзей і г. д. Барацьба ў нас зацяжная, доўгая, пакуль што канца ёй не відаць. Жыць жа страшэнна цяжка: ні яды, ні вопраткі, ні якіх-колечы сродкаў гігіены (страшэнна не хапае зубной пасты, мыла, сціральных парашкоў і г. д.). Але ж неяк жыць трэба. Ратуемся самымі прымітыўнымі спосабамі: жонка перашывае ды перавязвае са старога (шкарпэты, рукавіцы), спажываем болей бульбы, хлеба, кашы. Сам я планую заняцца навесну гадоўляй трусоў, жонка — курэй або гусей. Клапоцімся пра свой агародчык, як пра самае каштоўнае! У крамах цалкам пустыя стэлажы, апроч хлеба, малака нічога без картак няма. У прамтаварных — зусім няма нічога! Ні шматкі, ні латкі. Абутку даюць адну пару на ўвесь год, і то чэргі такія, што трэба стаяць па 2–3 дні, каб нешта талковае дастаць. На рынку цэны астранамічныя: пара жаночых туфель 3–4 тыс. зл., мужчынскіх 4–5 тыс., боцікі з халявамі 10–12 тыс., кажух — 60–100 тыс., паўлітра гарэлкі — 1200 зл., пачак найгоршых папяросаў (сігарэт) — 80–100 зл., гуска — 1200–1500, індзюшка — 2500–3000, яйкі па 30 зл. штука! Зарплату нам павысілі ўсяго на 600–

800 зл. у месяц. Вось тут і жыві! Мяса, сала, масла без картак нават на рынку не купіш — забаронены продаж. Во, якое жыццё нас спаткала ў Валенсавай «другой Японіі», якую ён абяцаў збудаваць за год-два! Мы — жабракі, на дне ўпадку, горш Бангладэшу ці іншай самай заняпаўшай краіны. Людзі злосныя, варавітыя, выбуховыя — зразумела, зрэшты. Многа злога рабілі і робяць каталіцкія ксяндзы: падбухторваюць народ, перахоўваюць агітацыйную літаратуру, спрыяюць экстрэме з «Салідарнасці» і іншых варожых арганізацый. Падполле мае ў іх вельмі многа прыхільнікаў. Як толькі на дзень ці два знялі каменданцкую гадзіну, у горадзе адразу паявіліся антыдзяржаўныя і антысавецкія плакаты, лістоўкі! Невыразныя або лепш сказаць — правакацыйныя элементы ёсць у прамовах папы рымскага і польскага кардынала Глемпа. Наша праваслаўнае духавенства нічога з імі не мае супольнага, вядзе сябе прыстойна, падтрымлівае дзяржаўныя пастановы і загады. Але ж колькі нас, праваслаўных, тут? Кропелька ў моры…

Таму не дзівуйся, калі пішу, што перспектывы на суцішэнне, мірную і стваральную працу ў нас яшчэ далёкія, далёкія. Нават баюся, што каб часам ваеннага становішча не знялі зарана, не прадумаўшы. Яно нам тут патрэбна не тыдзень і не месяц. Што ж, і на гэтым канчаю свой ліст, сумны і гаротны, але ж усё гэта праўданька праўдзівейшая!

Перадавай прывітанні ўсім з «Голасу Радзімы», паклоны маім добрым знаёмым М. Савіцкаму, Сарвіру, Янкоўскаму, Марачкіну, Басалыгу, Шчамялёву[49] і ўсім іншым, хто мяне знае. Перадавайце ім: Гайдук яшчэ жыве ў Беластоку і за беларускую справу змагаецца. Сардэчныя прывітанні Сержу.

М. Гайдук

*19.01.82*
*г. Беласток*

Паважаная Валянціна Андрэеўна!

Перш за ўсё: вялікае, вялікае дзякуй за навагодні падарунак-неспадзяванку! Надта ж прыемна асаладзіў ён якраз нашы Каляды, паўспаміналі мы ўсёй сям’ёй сталіцу Беларусі, колішнія і нядаўнія пабыўкі ў ёй. Як ні кажы, але ўсё ж сэрцы нашыя заўсёды там, пры Вас, над Свіслаччу, і то і мае, і жончыны, і дзяцей.

А ў нас тут, на Беласточчыне, нічога добрага: «Ніва» не выходзіць, БГКТ закрыта, мы, журналісты, усе надалей у водпуску. Праўда, па некалькі разоў у тыдзень даводзіцца дзяжурыць у Доме друку па днях і начах — вось і ўсё. У краіне, наогул, быццам бы ўсё супакойваецца, але гэты спакой, здаецца мне, усяго толькі знешні, для зману.

Ворагі сацыялізму, дагэтуляшняга ладу, проста пайшлі ў падполле. Яны цяпер збіраюць, мабілізуюць ды арганізуюць свае сілы. Яны не толькі што не здаліся, але з яшчэ большай заўзятасцю ды пранырлівасцю рыхтуюцца да барацьбы. Інтэрнаваны ў асноўным толькі гарланы, гарлапаны ды балбатуны, затое найбольш ядавітыя і смяротныя ворагі засталіся на волі. Калі зноў ударыць? Цяжка што-колечы сказаць. Адны абяцаюць навесну, другія — на прыезд папы рымскага ў Польшчу недзе ўлетку. Тут паясню: сёлета каталікі Польшчы будуць святкаваць 600-годдзе «набыцця» цудадзейнай іконы Божай Маці Чэнстахоўскай і на гэты юбілей прыязджае папа. Дадам: ікона гэтая была зрабавана ў 1382 годзе ў саборы ў горадзе Белзе (цяперашняя Львоўская вобласць), паходзіць яна з Візантыі, праўдападобна, з самога Канстанцінопаля. Пра гэта ёсць звесткі ў летапісах «рускіх» і польскіх хроніках. Аднак каталікам гэта зусім не перашкаджае лічыць яе сваёй, толькі польскай, уласнасцю. Бывае ж такое!

У мяне ўсё па-старому. Цяпер пакрысе корпаюся ў падручніку. Каляндар яшчэ не выйшаў. Што рабіць з Тваім і Міхасёвым ганарарамі? Жыць цяжкавата, працаваць зусім няма ахвоты. Калі і займаюся чым-небудзь, дык проста па інерцыі, па звычцы, каб за-

біць час. Перспектывы асабістыя паганыя, чысцяць журналісцкае асяроддзе. На нас, беларусаў, глядзяць ненавісным вокам. А што ж мы вінаватыя?

Ці маеш шанц прыехаць да нас у гасціну? Напішы, буду старацца пра грошы і запрашэнне. Але каб не так, як Вацлаў Генрыхавіч! Пры нагодзе перадай яму мае сардэчныя прывітанні.

Усяго самага найлепшага.

М. Гайдук

*Паштоўка з выявамі куткоў Белавежы — 6 здымкаў*
*(штэмпель мінскага паштамта — 25028200 — то бок:1982 год)*
*г. Беласток, 17.02*

Паважаная Валянціна Андрэеўна!

На вялікі жаль, дагэтуль «Ніва» яшчэ не выходзіць і выйдзе не раней, як праз месяц, калі ўсё будзе добра. Друкаванне «Беларускага календара» на 82 г. дагэтуль не распачалося, няма адпаведнай паперы. Калі пачнецца — невядома. Цяжка.

Прывітанні ўсім.

Мікола.

*1.03.82*

Шаноўная Валянціна Андрэеўна!

Дзякуй за ліст, дыхтоўны і падбадзёрваючы. На жаль, не настолькі, каб змог ён пераадолець мой песімізм. Праўда, «Ніва» пачне неўзабаве выходзіць (можа нават з датай 7 сакавіка г. г.), але з цаной… 10 злотых (дагэтуль было 3 зл.). І гэтая цана можа аказацца фатальнай, нават трагічнай, бо наш асноўны чытач — сяляне і школьная моладзь, якіх кішэні не такія ўжо і багатыя. Павышэнне цаны наступіла ў рамках агульнага падарожання газет і часопісаў у Польшчы. Аднак іншыя выданні падарожалі ў 2 разы, радзей 2,5 разы, а «Ніва» амаль у 4 разы! На жаль, наш галоўны нават і пальцам не варухнуў, каб спрабаваць бараніць часопіс. Ён нават здаволены!? У кожным выпадку, успрыняў гэта без якога-колечы супраціўлення ці перажывання. Ён жа за 1–2 гады збіраецца на пенсію, можа нават ісці хоць бы заўтра, і яму хоць і трава не расці, маўляў: «Пасля мяне хоць патоп!». Апрача гэтага, рэдакцыі загадана шукаць паніжэння сабякошту… любым коштам, і перш за ўсё — скарачэннем штатаў, у тым і журналістаў. Гэта вялікая небяспека для нас наогул і для мяне ў прыватнасці. У «Ніву» няма каму пісаць, а Валкавыцкі за 25 год свайго панавання ў ёй, на жаль, не здолеў згуртаваць пры «Ніве» пэўны і пладавіты калектыў пазаштатных аўтараў. Ён толькі дбаў пра «Гумар» (сам асабіста робіць 8-ю старонку), «Трыбуну чытачоў» (робіць Верка Валкавыцкая), «Астрон» (робіць мінчанка родам з «нашых» Ада Чачуга). А гэтыя аддзелы нашага часопіса, як табе добра вядома, толькі кампраміталі і надалей кампрамітуюць «Ніву» і ў вачах яе чытачоў і ў супастаўленні з іншымі часопісамі. Хіба ж нават у найгоршых часопісах афрыканскіх няма такіх прымітыўных матэрыялаў! Я ўпэўнены, што гэтыя «журналісцкія сілы» мэтанакіравана ўжо колькі год клапоцяцца з усіх сіл кампраметаваць наш часопіс, беларускі часопіс, іх на тое і трымаюць у рэдакцыі. Трэба толькі падзеецца, што гісторыя — справядлівы суддзя і спаўна ацэніць і адплоціць гэтым «старателям».

Пра Беларускі этнаграфічны музей у Белавежы не напісаў я артыкула[50] проста таму, што яго няма ўжо 8 год. Зліквідавалі яго нашыя кіруючыя таварышы, г. зн. члены Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ: М. Самоцік, Я. Зенюк, Г. Валкавыцкі, А. Баршчэўскі. Гэта яны безупынна наракалі ды скардзіліся направа і налева на розныя цяжкасці з вядзеннем і ўтрымоўваннем музея і, каб ім аблегчыць працу, Міністэрства

ўнутраных спраў загадала ліквідаваць музей. Праўда, фальшывы Баршчэўскі потым выліваў кракадзілавы слёзы публічна над стратай, але на пратаколе пра згоду на зліквідаванне музея знаходзіцца і ягоны размашысты подпіс. Ці варта было пісаць пра ўпадак наш, пра нізасць і подласць тых, хто і цяпер яшчэ кіруе БГКТ і «Нівай»? Гэта ж зусім не партыя і не ўрад імкнуліся да абмежавання беларускага культурна-асветнага руху ў Польшчы (яны стваралі прыхільныя ўмовы, давалі сродкі), але якраз свае «дзеячы» вылузваліся са скуры, каб ліквідаваць яго, затоптваць ды заплёўваць. Гэтыя ж «дзеячы» выконвалі волю найгоршых, найчарнейшых шавіністычных сілаў гэтага грамадства, апошнімі гадамі цяжка хворага.

І якраз у такой атмасферы і пачаў будзіцца беларускі студэнцкі рух. Пра яго я з Шаховічам[51] пісалі ў апошнім нумары «Нівы» г. зн. ад 13.12.81 г. Сотні студэнтаў-беларусаў ужо многа год не хіліліся да БГКТ, бо яно, як яны самі кажуць: «Таварыства мае прыгожыя ідэалы, лозунгі, праграму, але зусім іх не рэалізуе, не здзяйсняе», а прыватна дадавалі: «БГКТ усю сваю дзейнасць накіроўвала на дыскрэдытацыю беларускай культуры, гісторыі, мовы». Не хацелі яны належаць таксама да старых ці новых польскіх студэнцкіх арганізацый, бо ў іхняй праграме не было нічога для нацыянальных меншасцей — у старых, а новыя былі прасякнуты фашыстоўскай ідэалогіяй (напрыклад, г. зв. Незалежны саюз студэнтаў), антысавецкай і антыбеларускай (дакладней, антыўсходнеславянскай, калі так можна сказаць). Яны ненавідзяць усё, што з усходу, ад мовы — рускай, беларускай, украінскай — да помнікаў на магілах загінуўшых за вызваленне Польшчы савецкіх салдат. Таму нашая студэнцкая моладзь намагалася легалізаваць сваю ўласную арганізацыю. На жаль, ёй гэта не ўдалося, бо не здабыла яна падтрымкі ад членаў Прэзідыума ГП БГКТ, тых жа спомненых ужо ліквідатараў усяго беларускага. Студэнцкі хор паўставаў у Варшаве, але ГП БГКТ не падтрымала, не дапамагло, і ён завяў. У гэтай справе паганую ролю сыгралі якраз Баршчэўскі і Самоцік, бо яны старпедавалі стварэнне арыгінальных беларускіх народных касцюмаў, «не знайшлі» грошай на аплочванне кіраўніка-дырыжора, словам — разагналі нашых дзяцей, што хацелі, палалі жаданнем дзейнічаць на ніве роднай культуры.

Благаю Міхася: няхай як можа хутчэй дашле свой альбом[52]. Вядома, адразу сяду і напішу водгук у «Ніву». Тым больш патрэбны нам, бо яго ж фота народных беларускіх строяў будуць і надалей друкавацца ў нашым тыднёвіку, іх жа дагэтуль мы змясцілі каля 20-і. Даверанасць прышліце, абавязкова, можа быць на мяне. «Каляндар» у друку, выйдзе, мабыць, недзе каля 20-а сакавіка. Як толькі будзе магчымасць яго выслаць (цяпер ніякіх друкаваных матэрыялаў, нават падручнікаў, пакуль што высылаць нікуды па пошце нельга), вышлю адпаведную колькасць Табе, Мішу і іншым сябрам. За ганарар набуду Вам нешта і пры нагодзе забярэце гэта, хоць купіць што-небудзь з сэнсам у нас цяпер няма ніякай магчымасці, проста няма нічога! «Голас Радзімы» атрымліваю рэгулярна, чытаю ўважліва ўсё, што датычыць культуры, асветы і г. д. Вельмі сумую, што Тваіх артыкулаў у ім штораз меней. Прадчуваю нейкую бяду, якая Цябе спаткала, а Ты не хочаш прызнацца мне. Ты ж маеш дасканалую падрыхтоўку, вялікі вопыт і валодаеш дасканалым пяром! Змагайся за права публікавацца, бо ў «Голасе Радзімы», як відаць, ёсць такія ж, як і ў «Ніве», Веры ды Ады, якія кампрамітуюць часопіс. Скажу болей: цяпер паяўляецца ў ім штораз болей слабых матэрыялаў. Твае артыкулы рабілі яго высокі ўзровень — гэта шчырая праўда, апінія не толькі мая, але і ўсіх тут чытаючых Ваш часопіс. Проста, пішы болей, мо ў іншыя часопісы, напрыклад, «Беларусь». Мне здаецца, што твае працы пра людзей мастацтва якраз туды найбольш патрэбны, адпавядаюць. Іх якраз там і не хапае. Вядома, лёгка мне раіць…

Вельмі прашу Цябе: пазвані Адаму Іосіфавічу[53] і скажы, што каляндар яму вышлю, выразак з «Нівы» не магу, не дойдуць. Не забудзь праінфармаваць яго пра тое, што

сёння прачытала Ты ў гэтым лісце, і не толькі Адама Іосіфавіча. Няхай людзі ведаюць, з якой бядой ды нядоляй мы тут мучымся. Пра іншыя «кветачкі» напішу неўзабаве.

З прывітаннем

М. Гайдук

*Беласток, 22.08.82*

Валянціна Аляксандраўна (!? — *В. Т.*), сардэчныя прывітанні!

Як добра, што Ты прамовіла слоўца! А то мне, сам не ведаю чаму, пасля таго Твайго ліста рука не падымалася напісаць. І, шчыра сказаўшы, сам не ведаю чаму. Не хацеў і не хачу ні лаяць, ні ўхваляць Цябе за твой учынак[54] — гэта ж Твая, а дакладней Ваша, прыватная справа. І Ты мяне разумееш, можа хоць крыху. У Тваім лісце я адчуў нейкую насмешку ці нават з'едлівы сарказм. Мо' яго я і варты. Прашу прабачэння. Каб Ты знала — і памаліўся я неаднойчы, і свячу паставіў за Цябе і таго, хто меў прыйсці на свет, шчыра, з вялікім пачуццём. Не трэба насміхацца з мае веры, бо яна правяла мяне праз вялікія нягоды, праз крутыя, небяспечныя павароты. Дай Божа і Табе паверыць, насіць у сэрцы гэтую моц…

У нас, у «Ніве», справы дрэнь, з кожным тыднем горшаюць. Тыраж газеты ўпаў катастрафічна: з 10 тысяч у сакавіку на 3 600 цяпер, зусім рэальнай становіцца пагроза закрыцця газеты. На гэта ўплыла перш за ўсё страшэнна завышаная яе цана — 10 злотых за экземпляр, а таксама інфантыльна-прымітыўныя матэрыялы ў ёй, пісаныя як быццам сумысля «з нашага брата, беларуса, смеючыся», кажучы словамі Багушэвіча. Склалася так, што «Нівы» не чытаюць сяляне, бо дарагая і няма ў ёй нічога цікавага, інтэлігенцыя, бо прымітыўная, без зместу. Вучням яна таксама недаступная з-за цаны. Ды яшчэ на дадатак у мінулым годзе наш шэф распачаў фатальную дыскусію ў «Ніве» наконт «беларускасці» Бельскага беларускага ліцэя, памясціў некалькі вельмі крыўдных для ліцэя, яго настаўнікаў і моладзі артыкулаў, напісаных рознымі пабочнымі і варожа настаўленымі да нас людзьмі. Да гэтага цкавання далучыўся нават Сакрат[55]. Хоць я быў супраць гэтага, але мяне не паслухалі, і газеце падрэзалі карэнні нават у нашых ліцэях. Шэф хварэе і то даволі цяжка. Не ведаю прафесіянальнай назвы захворвання, па-польску: zator (закупараны краваносныя сасуды) у нагах. Спачатку ў адной, потым у другой. «Нівай» упраўляе, таксама як і ў вас, пэўная «дамочка» з вядомай рэпутацыяй. Калі будзе правіць далей, «Ніва» скончыцца натуральнай смерцю. Усё гэта тым больш небяспечна, бо ў краіне зноў неспакойна, нарастае, павялічваецца напружанне. Здаецца, можа быць зноў выбух, нягледзячы на тое, што Урад робіць усё магчымае і немагчымае, каб толькі забяспечыць сякі-такі лад ды спакой. З усяго відаць, рэакцыйнае падполле няспынна ўзмацняецца, гуртуецца і рыхтуецца да больш актыўнай дзейнасці, нават адкрытых выступленняў. Падрыўная дзейнасць вядзецца ўвесь час. Адчуваем, што ў гэтым змаганні нам таксама дастанецца: вядома ж, б'юць слабога, а мы зусім слабыя, інертныя. Беларускае таварыства апошнімі месяцамі зусім замерла, не вядзе амаль ніякай дзейнасці. Крыху фестаў у гонар песняроў і то вельмі слабенькіх адбылося, ды толькі прыезд прафесароў А. Лойкі і Л. Шакуна[56] неяк асвятліў гэты маразм, а потым зноў усё заглохла.

У мяне ўсё па-старому, па-колішняму. Пакрысе пішу ў «Ніву», збіраю фальклор, корпаюся ў падручніку для трэцяга класа ды тупаю каля хаты, рыхтуюся да зімы, бо, пэўна, будзе суровая, вострая ды вельмі цяжкая для нас тут. У міжчасе шукаю сабе працы, бо хачу адысці з «Нівы», вельмі хачу, хоць бы ў прорву, абы толькі не ў гэтым агідным катуху. Усё болей і болей пераконваюся, што маіх 25 год намаганняў, непасільнай працы, ахвярнасці не прынеслі нічога: навучанне бел. мовы ўвесь час змяншаецца, мастацкі

рух беларускі занепадае, умірае мова нават у вёсках, усюды трыумфуе, святкуе перамогу адыход ад свайго роднага, беларускага. 25 год змагання — даволі!

Вялікае, сардэчнае дзякуй за Тваю шчодрасць, спагадлівае і чулае сэрца. Калі не памыляюся, атрымаў я 2 пасылкі і 3–4 бандэролі. Асабліва прыдалося мыла, сціральны парашок, папяросы. Дзякуючы Табе не хадзілі мы ў брудзе ды і людзей мелі чым пачаставаць. І як я табе адудзячуся? Чым ды якім чынам? На глупствы не хачу грошай траціць, а тое, што вам магло б прыдацца, не хоча ніхто браць. Пры нагодзе. Благаю: прышлі, на літасць, абы-якую пісульку — даверанасць на грошы з Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства за артыкул у «Беларускім календары» на 1982 г., бо прападуць, а ўсё ж ёсць там 600–700 зл. І тое самае няхай зробіць М. Ф. Раманюк, ён мае каля 2 тыс. «Беларускі каляндар» на 1982 г. Табе, таксама як і Міхасю, я пераслаў знаёмымі людзьмі. Ты павінна яго атрымаць. З ліста Міхася я зразумеў, што ён атрымаў яго.

Кнігай Міхаіла Фёдаравіча[57] мы тут усе захопленыя. Капітальную рэч зрабіў ён, дасканалую. Такія ж пахвальныя водгукі чуем мы тут і ад знаўцаў гэтай справы, польскіх сяброў, асабліва працаўнікоў культуры і музеяў. Напісаў я ўжо водгук у «Ніву» пра яе, як выйдзе — спрабую выслаць яму выразку. Атрымаў таксама «Помнікі»[58], дзякую. Сардэчна дзякую і Табе, і Міхасю. Кнігі ад Вас, з СССР, да нас ідуць без перашкодаў, а нам нічога друкаванага Вам выслаць нельга. Так што не крыўдуйце. Я спрабаваў быў выслаць «Каляндар» 4 ці 5 асобам у Мінск і Вільнюс — усё вярнулася, не пабачыўшы нават граніцы СССР. Ваеннае становішча не дазваляе і ўсё тут. Неўзабаве напішу пра Міколу-мастака[59]. Ён на маю просьбу даслаў сваё фота. Таксама, як паявіцца, спрабую даслаць выразку. Словам, стараюся, не пакідаю і не забываю, увесь час Вас, маіх мінскіх знаёмых, памятаю і мо гэта дапамагае мне неяк трымацца, хоць усё часцей і часцей задаю сабе пытанне: а пашто? А што з гэтага? Нашто попусту траціць сілы? Мы — апошнія магікане, за намі ўжо нікога, або амаль нікога не застаецца. Бач, які настрой ахоплівае мяне…

А дома, у сям'і, усё добра. Ася[60] паспяхова здала ўступны экзамен у Варшаўскі універсітэт на факультэт псіхалогіі. Прынята. Быў страшэнна вялікі конкурс: 5–6 чалавек на месца. Цяпер яна на балтыйскім узбярэжжы адпачывае, у знаёмых нашых. Марына[61] атрымала працу ў Ваяводскім упраўленні (аблвыканкоме) у дзяржаўных даходах. Добра зарабляе — столькі, як я, хоць я працую 23 гады, а яна 7 месяцаў. Марына мае сваю асобную кватэру, што мы атрымалі ў спадчыну па маме. Яна жыве там, нават мае сваю кватарантку! Шкада толькі, што аніяк не выходзіць замуж, а ўжо пара.

Наогул, у краіне, жывецца ўсё горш ды горш, узровень жыцця няспынна паніжаецца. Дзякуй Богу, што дзеці ў нас ужо дарослыя, неяк пратрываем, абы толькі спакой быў…!

Усяго, усяго найлепшага Табе і Тваім Дзеткам!

Мікола з Беластоку.

*Паштоўка ў канверце. Выява — колішні палацавы домік для гасцей…*
*Беласток, 1.10.82*

Шаноўная Валянціна Андрэеўна!

Прашу прабачэння за памылку[62]. Цяпер, здаецца, правільна. «Каляндар» шукай, бо ён ужо ў Мінску, трапіў у «Голас Радзімы», спрабую выслаць Табе яшчэ адзін экземпляр пры першай нагодзе. Выканаю Тваё душэўнае пажаданне з ахвотаю і шчырасцю. Буду намагацца аформіць ганарарныя справы Табе і Міхасю, не маю ніякага перакананне, што нешта ўдасца, бо хоць бы абы-якая пісулька ад Вас абодвух неабходная. Сардэчна рады, проста ўзрушаны і захоплены я, што Міхась будзе рэдактарам[63] — гэта адно,

а другое, што выйдзе такі часопіс! Павіншуй ад мяне яго пры першай нагодзе і пажадай усяго самага найлепшага, самага ўдалага яму, чалавеку вялікай працы і справы.

Чаму нічога не пішаш пра N? А што, бач, спраўдзілася маё папярэджанне! І навошта было ўсё гэта? Можа, памыляюся, прабач. Не гневайся! Я страшна перажываю за Цябе, за нікога, нават за сваякоў, ніколі не перажываў, не думаў, не маліўся, як за Цябе. Ну, няхай Тваё матчынае сэрца хоць будзе шчаслівае, ушанаванае, спакойнае… У мяне ўсё пастарому. «Ніва» сядзіць без мастака, бо папярэдні захварэў на сэрца (інфаркт). Афармляе газету Валкавыцкі сам, хоць надта ж ён хворы, ледзь-ледзь перастаўляе ногі (цяжкі стан рэўматызму) пасля папярэдняга трамбіёзу. У краіне крыху паспакайнела, але гэта, здаецца, толькі вонкава, бо ўнутры кіпіць ды абяцае зноў выбухнуць у каторы ўжо раз. Працы маю мноства. Залеглыя мае падручнікі давядуць да шаленства, столькі каля іх працы, клопату. Не ведаю, або не памятаю, што хацеў, жадаў ад мяне Мацкевіч наконт «Голасу Радзімы». Будзь ласкавая зараз жа прыпомні мне ліста. Можа, захоча ён прыехаць да нас? Просім! А мо і ты неяк уладкуеш свае справы і наважышся паглядзець свае ўлюбёныя Лазенкі[64]? Зраблю ўсё, каб магла Ты прыехаць!

З прывітаннем

Мікола.

*(Друкарскі подпіс на паштоўцы перапраўлены рукой Міколы: бо музей рэвалюцыйнага руху ператварыўся тым часам у інстытут архітэктуры…)*

*Беласток, 2.01.89 г.*

Шаноўная Валянціна Андрэеўна!

Дзякую за памяць і дбайнае Тваё сэрца. Вядома, усё, што Ты перадавала, трапіла да мяне ў належнай колькасці і добрым стане. Асабліва ўдзячны я Табе за «Помнікі гісторыі», і прашу, як толькі зможаш, падкідай мне хоць гэты часопіс, бо ён вельмі дапаможны. Магчыма, што М. Ермаловіч[65] з «Маладосці» выйдзе кнігай — не забудзь пра мяне, калі ласка (і, вядома, іншае ў гэтай жа тэме).

А цяпер крыху пра сябе. Я ўжо пенсіянер, 14.12.88 развітаўся і то канчаткова з «Нівай» і Беластоцкім выдавецтвам прэсавым. Таму, калі нешта і паявіцца майго ў «Ніве» — гэта будзе допіс, так сказаць, звонку. Баршчэўскі і Чачуга дабіліся (пры дапамозе В. Мацкевіча) свайго і пазбавілі мяне працы ў «Ніве». Губляюся ў здагадках чаму? За што? Разыгралі мяне як самага наіўнага прастачка. Падсунулі разам з Валкавыцкім тэкст нейкага Белямука[66] са ЗША, каб я яго змясціў у «Беларускім календары» на 1987 год. Паводле такой «саліднай» рэкамендацыі я тэкст памясціў. Потым Чачуга з’ездзіла некалькі разоў у Мінск, і ў «Голасе Радзімы» з’явіўся артыкул пра гітлераўца Белямука. Баршчэўскі з гэтай газеткай абабегаў у нас і ў Варшаве ўсе інстанцыі, і Гайдук апынуўся на вуліцы. Вось так заплацілі мне за 30 год катаржнай працы на роднай ніве, на беларускай ніве. Справа, праўда, цягнулася 2 гады, але я не змог абараніцца, бо NN і VV восенню 1988 г. прыязджалі ў Беласток і дабілі мяне на месцы, абхадзіўшы адпаведныя ўстановы ды даўшы ў іх «адпаведныя» паясненні. Да іхняга прыезду ў мяне яшчэ былі такія-сякія шанцы абароны, але пасля — ужо не засталося нічога, толькі — вон з работы! Вось што патрапяць зрабіць універсітэцкія сябры (з VV я быў на тым самым годзе, а NN — годам ніжэй і мы нават сябравалі). Цікава, колькі ім заплацілі за мяне?

«Дзіцячыя» справы і ў мяне благія. Старэйшая дачка разышлася, засталося дзіцятка, дзяўчынка (6 месяцаў). Справа вельмі скамплікаваная, і яна вінавата. Жонка днямі сядзіць пры ўнучцы на кватэры ў дачкі, а я сам, як палец, у доме ў 5-і пакоях: ні глянуць, ні азвацца да каго, ды і пайсці няма куды і да каго.

Меншая дачка (Ты яе ведаеш) яшчэ ва ўніверсітэце, на 4-м курсе паланістыкі. Пакуль што жыве ладна са сваім мужам. Хлопец ён добры, але надта ж непаспешлівы да працы, а займаецца агародніцтвам і садаўніцтвам. Пасадзілі мы 1 га саду, ён гадуе салодкі перац пад фольгай, маем 2 авечкі і 1 барана. Ну, для мяне гэта проста цуд, бо інакш звар'яцеў бы ад траўлі ў рэдакцыі, якую вялі Ада Чачуга з Алесем Баршчэўскім. Елі поедам.

Як Твае сыны[67]? Напішы мне, калі ласка, што ім прыдалося б мець з Польшчы. Але апішы дакладныя памеры: рост (вышыню) у см, шырыню ў поясе таксама ў см, абутак — таксама даўжыню ступні ў см. Не забудзь пра сябе, мусіш прызнацца ў цяперашніх сваіх памерах. Не крыйся — не схаваешся, я таксама большы ўшыркі, як удаўжкі і сівы, як голуб, ды амаль цалкам лысы. Пішы болей, бо не ўсё змагу дастаць, а так, калі болей рэчаў, то што-небудзь хаця б знайду ды падкіну пры нагодзе.

Чытаю ды слухаю і цешуся, што нешта зварухнулася ў Беларусі. Часам нават мне здаецца, што мо і будзем «людзьмі звацца». Хоць і Адамовічава Вандэя,[68] на жаль, праўдзівая. Я крыху дапамагаю нашым маладым ды баявітым, з якімі таксама і Лёнік Тарасэвіч[69]. Але адчуваю сябе блага: стомленасць і абыякавасць да ўсяго цалкам авалодала мною. Здароўе ў мяне таксама дрэннае — прайшоў другі завал (у снежні 1987 г.), апрача таго ёсць і ціск, і каранарная хвароба і іншае. Але мару, каб нейк завяршыць ды давесці да парадку тое, што рабіў дагэтуль. Ці ўдасца?

Вершаў не прышлю і не прасі — бо саромеюся тае блазноты, якую выдалі[70]. Бач, хвіліна разгубленасці, а сораму на ўсё жыццё! Вершыкі слабенькія, вельмі. Як дажыву і выйдзе кніжка казак белавежскіх на польскай мове — абавязкова прышлю.

Усяго, усяго Табе найлепшага! Прывітанні сынам і іншым Тваім Родным!

Мікола

## ЗАЎВАГІ

[1] Людвіка Войцік, больш вядомая як Зоська Верас, ад нараджэння — Людвіка Сівіцкая (1892–1991) — легенда беларускага адраджэнцкага руху: літаратар, выдавец, навуковец; сваімі парадамі і ўспамінамі спрыяла шмат каму з даследчыкаў беларускай гісторыі пачатку XX ст.

[2] Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі (1918–1989) — прафесар-мовазнаўца, беларускі пісьменнік.

[3] Генадзь Іванавіч Цітовіч (1910–1986) — этнамузыказнавец, дзеяч харавога мастацтва, дырыжор. Народны артыст БССР (1955), народны артыст СССР (1968).

[4] Тыднёвік Беларускага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за мяжой, скарочаная назва — Беларускае таварыства «Радзіма». «Голас Радзімы» быў прызначаны для чытачоў за межамі Беларусі, але ў невялікай колькасці разыходзіўся і на Бацькаўшчыне.

[5] Міхаіл Андрэевіч Савіцкі (1922–2010) — народны мастак Беларусі (1972), народны мастак СССР (1978).

[6] Валянціна Ігнатаўна Гапава (1923–2003) — літаратуразнаўца, даследавала беларуска-польскія і беларуска-расейскія літаратурныя ўзаемасувязі.

[7] Барыс Іванавіч Сачанка (1936–1995) — беларускі савецкі пісьменнік; з М. Гайдуком быў знаёмы з часу студэнцтва.

[8] Вацлаў Генрыхавіч Мацкевіч — рэдактар газеты «Голас Радзімы».

[9] Серж (Сяргей) Трыгубовіч разам з М. Гайдуком у 1979 годзе падарожнічаў па ваколіцах Мінска.

[10] Дзіяна Цімафееўна Чаркасава — адказны сакратар газеты «Голас Радзімы».

[11] Мікола Васілеўскі — супрацоўнік «Голасу Радзімы».

[12] Мясцовасць на ўзбярэжжы Балтыйскага мора, Польшча.

[13] Маецца на ўвазе Яўген Карпавіч Казюля, фотажурналіст.

[14] Уладзімір Ілліч Содаль быў блізкі М. Гайдуку як даследчык жыцця і творчасці Ф. Багушэвіча.

[15] Юрый (Георгій) Валкавыцкі (нар. у 1923) — тагачасны рэдактар «Нівы».

[16] Васіль Уладзіміравіч Быкаў (1924–2003) — беларускі пісьменнік, ужо ў той час вядомы за межамі Беларусі. Таго жаданага інтэрв'ю я так ніколі і не зрабіла.

[17] Уладзімір Якаўлевіч Бягун — намеснік рэдактара «Голасу Радзімы».

[18] «Prasa-Książka-Ruch» — дзяржаўны канцэрн, які выдаваў «Ніву» і «Беларускі каляндар».

[19] Аляксей Антонавіч Марачкін (нар. у 1940) — мастак, які ў той час захоплена пісаў партрэты беларускіх гістарычных дзеячаў.

[20] Бона Сфорца (1494–1557) — другая жонка Жыгімонта І Старога (1467–1548), вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага і караля польскага. Пабраліся шлюбам у 1518 г.

[21] Зыгмунт (Жыгімонт ІІ) Аўгуст (1520–1572) — вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага, кароль польскі, сын Жыгімонта І Старога і Боны Сфорца.

[22] Каноса — сімвал прыніжэння ўладу маючага; вобраз угрунтаваны на рэальнай падзеі з часоў Рымскай імперыі: у 1077 г. імператар Генрых IV быў змушаны здзейсніць «паход у Каносу», каб на каленях прасіць даравання ў Папы Рымскага Рыгора VII.

[23] Лех Валэнса (нар. у 1943) — электрык Гданьскай судаверфі, які ўзначаліў у 1980 г. першы ва Усходняй Еўропе свабодны, непадкантрольны дзяржаве прафсаюз «Салідарнасць». Лаўрэат Нобелеўскай прэміі за дзейнасць у падтрымку правоў працоўных (1983). Прэзідэнтам Польшчы ён стане шмат пазней.

[24] «Беларускі каляндар — 1981».

[25] Міхаіл Фёдаравіч Раманюк (1944–1997) — мастацтвазнаўца, этнограф, аўтар фундаментальнай працы «Беларускае народнае адзенне» (Мінск, 1981).

[26] Адам Язэпавіч Мальдзіс (нар. 1932) — літаратуразнавец, доктар філалогіі (1986).

[27] Маецца на ўвазе Аляксей Марачкін.

[28] Гаворка ідзе пра «Біблію», якую Вера Леўчук абяцалася прысланць.

[29] Міколу Гусоўскаму, беларускаму паэту-лаціністу эпохі Адраджэння, адзначалася тады 500-годдзе; мастакі, якіх пазней сталі называць сябрамі суполкі «На паддашку», зладзілі з гэтай нагоды выдатную выставу. Як было не пісаць пра яе…

[30] Маецца на ўвазе 32-і (1975) або 35-ы (1980) тамы «Поўнага збору рускіх летапісаў», выдадзеных у Маскве, складальнікам і рэдактарам якіх быў Мікалай Мікалаевіч Улашчык (1906–1986). «Здабыла» і пераслала абодва, але не за адзін раз.

[31] Падчас вандроўкі па Польшчы было шмат размоваў пра магчымасці, жаданне паехаць у госці, камандзіроўку да беларусаў — у Заходнюю Еўропу, ЗША.

[32] Назвы варшаўскіх гатэляў (з рэстаранамі).

[33] Папулярныя рубрыкі тагачаснай «Нівы».

[34] БелОКС — Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі (спрошчаная абрэвіятура з расейскамоўнай версіі назвы).

[35] Рамуальд Лазаровіч — тагачасны кіраўнік дзяржаўнага канцэрну Prasa-Książka-Ruch.

[36] Артыкул пра беларускамоўнага ксяндза Уладыслава Чарняўскага, які служыў у касцёле вёскі Вішнева Валожынскага раёна, быў змешчаны ў «Голасе Радзімы» № 20, 21 мая 1981 г.

[37] На Юрку Генюша, сына Ларысы Генюш, лекара і паэта, які жыў у Беластоку, быў напад, які выклікаў моцную трывогу маці: яна прасіла мінскіх (думаю, не толькі мінскіх) знаёмых даведацца, як і што было насамрэч.

[38] Міхась Самойлавіч Басалыга (нар. 1940) — беларускі мастак-графік.

[39] Сакрат Яновіч (нар. у 1936) — польска-беларускі пісьменнік, жыве на Беласточчыне.

[40] Вера Леўчук (Валкавыцкая) і Яня Чарнякевіч — супрацоўніцы «Нівы».

[41] Аляксандр Амільяновіч — польскі пісьменнік, з якім я сустракалася ў Беластоку ў 1980 г.

[42] Беларускае таварыства «Радзіма».

[43] Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч (1930–1984) — беларускі пісьменнік, распрацоўваў пераважна гістарычную тэматыку. Пра які менавіта твор ідзе гаворка ў лісце, цяжка сказаць. Можа, М. Гайдук атрымаў тады з Мінска двухтомнік «Выбраных твораў» У. Караткевіча (Мінск, 1980)?

[44] Аляксей Гардзіцкі, Адам Мальдзіс, Арсень Ліс, Янка Саламевіч — беларускія літаратары, якія ў сваёй творчасці закраналі жыццё Беласточчыны.

[45] Сяргей Панізнік (нар. 1942) — беларускі паэт.

[46] Назвы шакаладных цукерак, якія выраблялiся ў Беларусі.

[47] Пётр Клімук (нар. у 1942) — першы касманаўт, родам з Беларусі (в. Камароўка Брэсцкай вобласці). Свой трэці палёт у космас (1978) здзейсніў разам з М. Гермашэўскім, польскім грамадзянінам.

[48] «Узвысіць чалавека» — так называўся зборнік творчых партрэтаў беларускіх мастакоў, які выйшаў у «Бібліятэчцы “Голасу Радзімы”».

[49] Леанід Дзмітрыевіч Шчамялёў (нар. 1923) — народны мастак БССР (1983).

[50] Напісаць артыкул пра Беларускі этнаграфічны музей прасілі М. Гайдука калегі з Беларускай Савецкай Энцыклапедыі.

[51]Міхась Шаховіч — супрацоўнік «Нівы». Беларускае аб’яднанне студэнтаў (БАС) было зарэгістраванае толькі 29 лістапада 1988 г.

[52] Ужо згаданы альбом М. Раманюка «Беларускае народнае адзенне».

[53]Адаму Мальдзісу.

[54] Нараджэнне ў красавіку пазашлюбнага сына Яна.

[55] Сакрат Яновіч.

[56] Алег Антонавіч Лойка — літаратуразнавец, доктар філалогіі (1969), Леў Міхайлавіч Шакун — мовазнавец, доктар філалогіі (1966). Відавочна, яны былі ганаровымі гасцямі на імпрэзах з нагоды 100-годдзя з дзён нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, якое адзначалася ў 1982 г.

[57] М. Раманюка.

[58] «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі» — штоквартальнік, выдаваўся з 1970 г.

[59] Маецца на ўвазе мастак-графік Мікола Купава.

[60] Ася, Іаанна — малодшая дачка М. Гайдука.

[61] Марына — старэйшая дачка М. Гайдука.

[62] Відаць, выбачэнне з прычыны памылкова ўжытага ў папярэднім лісце імя па бацьку.

[63] Гаворка ідзе пра стварэнне часопіса «Мастацтва Беларусі», рэдактарам якога быў прызначаны Міхась Раманюк.

[64] Лазенкі — славуты каралеўскі парк у Варшаве.

[65] Мікола Ермаловіч (1921–2000) — беларускі гісторык, асветнік. Відаць, маецца на ўвазе яго праца «Па слядах аднаго міту».

[66] Міхась Белямук — паваенны эмігрант, актыўны ў грамадскім жыцці беларусаў у ЗША. Артыкул у «Беларускім календары — 87» называўся «Зімовы калядні абрад — Куцця».

[67] Сяргею на той час было 22 гады, Яну — 7.

[68] Вандэя — вобразнае азначэнне Беларусі часоў перабудовы, якое ўжыў Алесь Адамовіч у сваім артыкуле пра сілавы разгон «Дзядоў-88» у Мінску.

[69] Лёнік (Лявон) Тарасэвіч — сусветна вядомы беларуска-польскі мастак родам з Беласточчыны, хросны бацька Гайдуковай унучкі.

[70] Зборнік вершаў М. Гайдука «Ціш» выйшаў у Беластоку ў 1988 г.

## НЕВЯДОМАЕ СЯБРОЎСТВА ПРАЗ АКІЯН
## (Рэтраспектыўны дадатак)

Лісты Міколы Гайдука, пасыланыя калісьці мне ў Мінск і цяпер падрыхтаваныя да друку, ужо колькі часу ляжалі ў выдавецкім партфелі, калі ў мае рукі трапілі новыя канверты з такім знаёмым почыркам… Толькі адрас на іх быў амерыканскі. Лісты зберагла Надзея Запруднік, у тыя далёкія 1980-я, калі яны пісаліся, — Кудасава. Я распавяла ёй пра сваю будучую публікацыю, і яна ў адказ занялася руплівымі пошукамі ва ўласных «старых паперах». Знаходкі парадавалі. Для мяне гэта было надзвычай цікава: дадаваліся нейкія новыя штрыхі да партрэта неардынарнай асобы — журналіста і грамадскага дзеяча, пацвярджаліся асобныя факты яго біяграфіі, якія раней больш былі дапушчэннямі. Найперш пра магчымую паездку Міколы Гайдука ў ЗША, пра што ён не аднойчы гаварыў, аднак заўсёды намёкамі, агульнымі словамі, без імёнаў або датаў. Лісты дадавалі аб'ёмнасці і глыбіні малюнку тагачаснай рэчаіснасці. Паўставала непарыўная повязь беларускіх сяброў-аднадумцаў: «вось Мінск — Беласток — Сомэрсэт».

Дзіўна неяк! Мы жылі з Надзяю па розныя бакі акіяну, у краінах з кардынальна розным грамадскім ладам, ніколі не чулі адна пра адну, але мелі шмат у чым падобныя зацікаўленні, таму шанавалі аднаго і таго ж чалавека, давяралі яму свае клопаты, імкнуліся дапамагчы, чым маглі. Мінуў час, мы з Надзяю сустрэліся, пасябравалі, сталі суседкамі (жывем у Сомэрсэце, штат Нью-Джэрзі). А цяпер вось выявілася, што маглі б даўно працаваць разам, калі б свет не быў так жорстка ідэалагічна падзелены…

Надзея Рагалевіч нарадзілася на Гомельшчыне (вёска Лутоўе Жыткавіцкага раёна) у сялянскай сям'і. Была восьмым дзіцем, апошнім. У 12 гадоў асірацела: памерла маці. Дапамагала братавай жонцы даглядаць малых дзяцей. Як іх нянька і апякунка апынулася разам з сям'ёю брата Міхаля ў эміграцыі. Зведала горкі хлеб чужынства і пагарды ў паваеннай Нямеччыне, шмат высілкаў прыклала, каб выехаць у Злучаныя Штаты Амерыкі. Тут у 1952 г. выйшла замуж за Аўгена Кудасава, які паходзіў з Вільні, чые бацька і дзяды з абодвух бакоў (бацькі і маці) былі праваслаўнымі святарамі. Працавала спачатку на швейнай фабрыцы, потым лабаранткай у медычнай школе. І была актыўнай у беларускім грамадскім жыцці: спявала ў царкоўным хоры, удзельнічала ў розных акцыях, звязаных з будаўніцтвам царквы Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрзі), на ўсіх этнаграфічных выставах і фестывалях дэманстравала народныя строі, паказвала традыцыйныя жаночыя заняткі — найперш апрацоўку лёну, прадзенне. Пазней занялася жывапісам. Шмат чытала.

Аднойчы ўбачыла ў некага ў руках беластоцкую газету «Ніва». Папрасіла паглядзець… Дый выпісала! Хутка вылучыла ў «Ніве» самае цікавае для сябе: публікацыі Міколы Гайдука і жарцікі Дзядзькі Кваса. З іх пачынала чытаць кожны нумар. Міколавы рэпартажы з фальклорных святаў ды артыкулы пра беларускую народную творчасць на Беласточчыне заахвоцілі Надзю распавесці яму пра фестывалі, якія ладзяць амерыканскія беларусы. І яна паслала ў рэдакцыю праграмку чарговага фестывалю (падобна, гэта быў 1977 год). Так пачалася перапіска. Захавалася яна не ўся, але 11 лістоў і 11 паштовак (калядных, велікодных, з рознымі краявідамі Беласточчыны) ад Міколы Гайдука, датаваныя 1979–1989 гг., даюць даволі аб'ёмнае ўяўленне пра характар узаемадачыненняў.

Звярну ўвагу толькі на адну тэму ліставання 1980 г.: магчымую паездку Міколы ў Злучаныя Штаты Амерыкі. Колькі сумненняў і хістанняў перажывае чалавек у сацыялістычнай краіне, перш чым наважваецца станоўча адказаць на прапанову «бур-

жуазных нацыяналістаў» прыехаць пагасціць! Колькі яму трэба займець дазволаў, прыхільных водгукаў, каб аформіць належныя паперы і паляцець «за акіян»… пісаць для газеты рэпартажы пра культурнае жыццё суродзічаў на чужыне! Пры гэтым ягоная эмацыйнасць нідзе не выходзіць за межы культурніцкіх або моўных праблемаў, ён абачліва не закранае ніякіх палітычных аспектаў, ведаючы (не галавой, а інтуіцыяй, як усе мы ў той час), што кожны ліст можа быць прачытаны нябачным цэнзарам. А вось высновы будуць добра бачныя на тваім лёсе!

Паездка тая — чаканая, мараная — не адбылася. Надзя цяпер прыгадвае, што прычынаю, здаецца, была цяжкая хвароба, а неўзабаве і смерць Гайдуковай маці. (Потым да гаворкі пра наведванне Амерыкі ў ліставанні яны ўжо не вярталіся…) Я разумею Надзю: ёй самой у тыя гады было вельмі няпроста. Амаль дзесяць гадоў цяжка хварэў муж, патрабаваў пастаяннага догляду (памёр у 1983 г.). Трэба было працаваць дзеля хлеба надзённага. І адарвацца ад беларускай грамады не выпадала, бо тады жыццё губляла сэнс.

Супастаўляючы сёння занатаваныя ў лістах факты і даты, думаю ўсё ж, што Гайдука проста не пусцілі ў тую паездку. Так, маці была цяжка хворая. Пра гэта ён піша мне 25 студзеня 1981 г. У адказ на маё пытанне, як там справы з «далёкай вандроўкай», паведамляе: «Непрыхільна для іх складваюцца мае хатнія ды іншыя ўмовы». А вось з паштоўкі, датаванай 23.03.1981: «Вярнуўся ў тэрмін і без складанасцей. Маю клопат са спадчынай па маці». У міжчасе Мікола наведвае Беларусь, на рукаве ягонага пінжака — чорная жалобная стужка. Ён перажывае, што не моліцца па памерлай маці, а заняты грамадскімі і прафесійнымі клопатамі. Гаворка пра далёкае замежжа не ўзнікае, заглохла. Трэба думаць, «іншыя ўмовы» таму прычынай. Праз нейкі час у гасцях у амерыканскіх беларусаў апынецца адказны сакратар газеты «Ніва» Ада Чачуга, яе рэпартажы будуць поўныя апісанняў застолляў ды інтэр’ераў. У Надзіных успамінах гэтая госця не фігуруе.

Сустрэліся сябры па перапісцы толькі аднойчы, у 1990 г. Надзя Кудасава разам з некалькімі ўдзельнікамі славутага танцавальнага ансамбля «Васілёк» (выступленні амерыканскіх беларусаў з вялікім поспехам прайшлі тады ў Мінску, у Палацы прафсаюзаў) паехала на Беласточчыну. І наведала сям’ю Гайдукоў, пазнаёмілася з жонкай — Лідзіяй Платонаўнай, пабачыла пісьмовы стол гаспадара. Кнігі ягоныя яна дагэтуль шануе і перачытвае.

Сёння Надзя Запруднік (жонкаю Янкі Запрудніка яна стала ў 1995 г.) — старэйшая ў амерыканскай галіне роду Рагалевічаў. З тых сямі дзяцей брата Міхаля, пляменнікаў, якімі яна апекавалася калісьці і для якіх (іх нашчадкаў таксама!) засталася непарушным маральным аўтарытэтам, трое ўжо адышлі ў лепшы свет. Але жывуць у розных штатах Амерыкі 15 яе ўнучатых пляменнікаў і 20 іх дзяцей… Вялікія сямейныя падзеі збіраюць іх усіх разам. Надзя Запруднік па-ранейшаму спявае ў царкоўным хоры, удзельнічае ў розных беларускіх імпрэзах, займаецца дабрачыннай дзейнасцю — найперш дапамагае станаўленню царкоўнага жыцця ў Беларусі. Яе зборы традыцыйнага беларускага мастацтва і нацыянальных строяў вартыя музея, а жыццё — грунтоўнай кнігі. Можа, з гэтых кароткіх занатовак яна і пачнецца.

*Валянціна ТРЫГУБОВІЧ*

# «МАЕ АРТЫКУЛЫ АПОШНІМ ЧАСАМ СТАЛІ БОЛЬШ АДВАЖНЫЯ»
## Лісты Міколы Гайдука да Надзеі Кудасавай

*Беласток, 2 чэрвеня'80*

Дарагія Спадары[1] Надзя і Яўген!

Выбачце, калі ласка, што я толькі цяпер сабраўся напісаць Вам даўно абяцаны мною ліст. Пасля атрымання Вашага ліста з велікоднымі віншаваннямі з датай 20 сакавіка гг. я выслаў Вам паштоўку і там абавязаўся напісаць крыху болей. Ці дайшла да Вас мая паштоўка? Калі б я спрабаваў апраўдваць сваё дагэтуляшняе маўчанне тым, што меў шмат работы, гэта было б толькі праўда ў некаторай ступені. Так, працы я маю многа — раблю і за вала і за каня, як у нас кажуць, а цяжкасцяў навальваецца на мяне ўсё болей.

Цяпер прыкладаю ўсе намаганні і выціскаю з сябе ўсё магчымае, каб у вызначаны выдавецтвам тэрмін 15 чэрвеня'80 г. закончыць пісанне падручніка па роднай мове беларускай для чацвёртага класа (узрост 10–12 год) нашых дзетак на Беласточчыне. Гэта кніга для чытання, навукі граматыкі, правапісу і г. д. Нялёгка. Малю Бога, каб узмоцніў мяне і дазволіў мне давесці яе да ўдалага канца. Гэта ж нашым дзеткам, нашай будучыні на гэтай зямельцы. Той зямельцы, дзе Замкавая гара ў Драгічыне пераглядваецца ў люстры Буга і чырванеюць рэшткі фундаментаў Благавешчанскай царквы ў Супраслі, той самай, што Вы бачылі[2].

Ляжыць і чакае мае працы «Беларускі каляндар на 1981 год». У яго мне трэба напісаць яшчэ тры-чатыры артыкулы, усю кнігу паправіць, апрацаваць і зрабіць многа-многа яшчэ чаго, каб яна выйшла з друку ў час у пору, хоць на наш праваслаўны Новы 1981 год. Каб трапіла ў рукі тых, каму ён прынясе радасць, хто мовы роднай і традыцыі бацькоўскай не забыўся, не выракся.

І як Вы напэўна заўважылі, пачаў я збіраць і апрацоўваць легенды і паданні з Беласточчыны і змяшчаць іх у «Зорцы» («Нашыя легенды і паданні»). Мне надта хочацца, каб зярняты мудрасці, што пасеялі на гэтай чароўнай зямельцы нашай нашыя дзяды і прадзеды, цалкам не загінулі, каб праараслі, зарунелі.

А трэба ж яшчэ папрацаваць мне над працягам цыкла «Мінскія сустрэчы». Я ж яшчэ не напісаў пра маё гасцяванне ў вядомага Вам фалькларыста і кампазітара Генадзя Цітовіча[3] і ў шэрагу іншых творцаў і дзеячаў на ніве беларускай культуры ў Мінску. Пры гэтым ездзіў я на кошт дзяржавы — Народнай Польшчы — і пачуваюся да маральнага абавязку.

Як на тое хатнія справы, сямейныя, у мяне не надта вясёлыя, цяжкія. Мая матуля (ёй 75 год) вельмі цяжка хворая, вымагае сталай і няспыннай нашай апекі, пераважна маёй. У гаспадарчых справах я не вялікі ўмелец і мастак — занядбаўся, апусціўся. Неабходна зараз жа зрабіць грунтоўны рамонт хаткі, у якой я жыву з сям'ёй. Для мяне, што не маю практычнага падыходу да жыцця, — гэта вельмі скамплікаваная справа. Трэба зараз жа знайсці майстроў, матэрыялы і грошы, і рабіць, рабіць! Але кіньма гэтае! Я непатрэбна перад Вамі разбедаваўся ды расплакаўся. Усё неяк там будзе. Вазьмуся, зраблю, уладкую ўсё. Абы толькі здароўе.

Вядома, я не пісаў Вам не таму, што ў гэтай навале працы і клопатаў не знайшоў часу на ліст. Шчыра кажучы — я проста не ведаў, што Вам напісаць і адказаць на Вашу вельмі-вельмі каштоўную для мяне прапанову. Ужо пасля першага Вашага ліста ў мяне адразу ўзнікла вялікая ахвота паехаць да Вас і сабраць матэрыял да цыкла рэпартажаў, размоваў, справаздачаў з уражанняў і г. д. пра грамадскае жыццё і культурны рух у беларускіх асяроддзях у Злучаных Штатах Амерыкі, культурныя і асветніцкія імпрэзы, што Вы арганізуеце, пра асобы найбольш ахвярных дзеячоў, славутага Багдана Данчыка[4] і іншых, пра якіх слых да мяне не дайшоў і г. д. Але ў мяне было многа, надта многа

сумненняў, хістанняў, ці такое магчыма ў маіх умовах. Але ўчора я сустрэўся з нашай супольнай знаёмай з Гданьска[5], яна перадала памятку, што Вы мне прыслалі і за якую я Вам вельмі ўдзячны. Знаёмая пра многае мне расказала, развеяла мае дагэтуляшнія сумненні і хістанні. Цяпер я пачну весці перамовы з маім шэфам Юрыем Валкавыцкім і іншымі важнымі кіруючымі асобамі пра дазвол на паездку да Вас, а затым публікацыю сабраных матэрыялаў у «Ніве». Калі мне гэтае ўдасца, я буду шчаслівы, і тады Вам напішу і мы разам абмяркуем усё іншае, звязанае з маёй паездкай да Вас. Найважнейшае — атрымаць такі дазвол. Здаецца мне, што было б вельмі добра, калі б Вы спрабавалі напісаць пераканаўчы ліст Ю. Валкавыцкаму ў «Ніву» як галоўнаму рэдактару, што хочаце, каб я прыехаў да Вас, беларусаў у Нью Джэрсі і іншых асяродках і напісаў пра Вашу дзейнасць. Можа, гэта памагло б пераканаць яго у патрэбе такой паездкі. А паехаць і наведаць Вас і іншых беларусаў з ЗША мне надта хочацца. Я ўпэўнены ў тым, што такое падарожжа ўзмоцніла б у мяне і нашых чытачоў упэўненасць і дадало б моцы для працы ў справе зберагання роднай мовы, дапамагло б за Вашым прыкладам шанаваць сваю традыцыю, далей развіваць і ўзбагачаць беларускую культуру ўсюды там, дзе жыве хоць адзін беларус.

Не бярыце з мяне прыкладу ў пісанні лістоў і пішыце ка мне як мага часцей. Кожны ліст ад Вас — у мяне вялікае свята і радасць. Абавязкова павядомце, ці Вы атрымалі гэты мой ліст.

Жадаю Вам усяго найлепшага і перш за ўсё — моцнага здароўя.

Ваш Мікола Гайдук

*Беласток, 17.06.80*

Дарагія Надзя і Аўген!

Як то добра, што ў час роздуму і сумнення магу напісаць Вам лісточак, верачы і будучы ўпэўненым у Вашым поўным зразуменні маіх хваляванняў і трывог. Праўда, да лістоў я не надта паспешлівы — іншыя мае знаёмыя і нават радня мусяць пачакаць. І гэта зразумела, я ж з пісання жыву, таму нялёгка бяруся за пяро, зрэшты, часам і самому брыдка чытаць тое, што з-пад яго выходзіць, сорамна.

На днях закончыў я працу над падручнікам беларускай мовы для чацвёртага класа пачатковай школы. Выслаў яго ў варшаўскае выдавецтва Wydawnictwo Szkolne i Pedagogiczne, якое выдавала і папярэднія мае і жонкі падручнікі для III, IV і V класаў, беларускую граматыку для класаў V — VIII і інш. Перадыхнуў дзень ці два, абагнаў збольшага свае рэдакцыйныя абавязкі і засеў за «Беларускі каляндар на 1981 год». Мушу за няцэлыя два тыдні закончыць гэтую работу — нялёгкую, бо аўтары ў нас слабенькія, матэрыялы надта ж няўклюдныя, сухія. Што ж, усё, што лепшае, пайшло самахонць чужыя загоны гараць, а наш, свой палетачак не хочуць. Ідуць адвечным шляхам… Малавата ў нас тут на Беласточчыне людзей, якія хочуць і сеяць, і ўзгадоўваць пасеянае на роднай ніве і даглядаць яго ды атуляць ад нягодаў. Так патрэбны людзі карпатлівай штодзённай «шэрай» работы пры аматарскай дзейнасці, пашырэння пераканання бацькоў пра патрэбу пасылаць дзетак вучыцца роднай беларускай мове і многа-многа чаго. Не ўмеем мы прыхіляць да сябе людзей, заманьваць іх да работы, але мы мастакі ў знеахвочванні іх да такой працы сваім няўменнем абыходзіцца з людзьмі. Ды і нялёгка працаваць на гэтай нашай дзялянцы, бо плююць у вочы і топчуць свае і чужыя, каму толькі ўздумаецца. Плыве гэта не ад уладаў, але ад розных цёмных ды надта ж заядлых адвечных ворагаў нашага народа і нашай культуры. Гэты націск неталеранцыі і цемрашальства беларусажэрцаў таксама адчуваю я на ўласнай скуры. Але няхай абернецца на іх тое, што яны мне робяць і намерваюцца зрабіць.

Як толькі закончу Каляндар, адразу вазьмуся за складанне зборніка сваіх уласных апавяданняў-замалёвак на гістарычныя тэмы, што я апублікаваў у розным часе ў «Ніве» і іншых выданнях. Некаторыя з іх перараблю, іншыя адрэдагую — збяру ў кніжку. Хоць не веру, што гэтае выданне калі-небудзь убачыць свет, бо ГП БГКТ[6] проста не мае на выдавецкія справы адпаведнай колькасці грошай. Але ўсё ж уладкую, упарадкую. Можа, гэта мяне супакоіць, ураўнаважыць. Адно з такіх апавяданняў надрукавана ў альманаху «Белавежа», што на днях выйшаў з друку ў Беластоку ў выданні ГП БГКТ. Але мой настрой не такі барвовы і ўзнёслы, як у гэтым творы. Проста цяжка змагацца за сваё. Але вось пабядую-пабядую, збяруся ды і паеду па сёлах збіраць фальклор, захапляцца таленавітасцю нашых простых людзей, маляўнічасцю родных краявідаў. У тым уся мая ўцеха.

Ці атрымалі Вы мой ліст ад 2.VI.80 і картку, што выслаў я некалькімі днямі пазней?

Самыя сардэчныя прывітанні
і пажаданні Вам з Беласточчыны

ад М. Гайдука

*Беласток, 1.09.1980 г.*

Дарагія Спадары Надзя і Аўген!

Адчуваю сябе вінаватым перад Вамі — прайшло ўжо больш за месяц часу ад таго, як я атрымаў Ваш ліст з датай 7 ліпеня’80! Спадзяюся, аднак, што Вы будзеце ласкавы мяне зразумець і выбачыць, зважыўшы на неспакойныя падзеі ў нашай краіне якраз у гэтым часе і таксама на тое, якія справы мне трэба было ўладкаваць, каб магчы напісаць Вам гэты сённяшні ліст.

Перш за ўсё вялікае-вялікае дзякуй Вам за ліст майму шэфу Ю. Валкавыцкаму. Ён быў надта задаволены ім, цешыўся высокім прызнаннем Вашым для «Нівы». Ліст Ваш мне выдатна дапамагае цяпер і дапаможа ў будучыні ў працы. Яшчэ большае Вам дзякуй за прывітанні, якія мне перадала ад Вас захапляючая, цудоўная асоба — спадарыня Бася[7]!

З Ю. Валкавыцкім мы доўга і падрабязна разважалі над маёй паездкай да Вас, улічвалі розныя яе аспекты. Пра ўсё гэта я Вам раскажу пры нашай з Вамі сустрэчы ўжо на шаноўнай і няведамай мне амерыканскай зямлі, калі мне пашчасціцца пагасцяваць на ёй.

Ужо я пачаў канкрэтную падрыхтоўку да таго, каб гэтая паездка — мая запаветная фантастычная мара — здзейснілася наяве. Хуценька пачаў я працу над падрыхтоўкай новага падручніка беларускай мовы для пятага класа пачатковай школы. Яго я абавязаны падрыхтаваць і здаць у выдавецтва да 30 красавіка 1981 г. Цяпер з дня на дзень спадзяюся рэцэнзій напісанага мною і маёй жонкай такога ж падручніка для IV класа. Праца над ім зойме мне сама меней 1–2 месяцы (хачу яго зрабіць лепшым, цікавейшым, многае ў ім змяніць, незалежна ад заўваг рэцэнзентаў). Цяпер у друкарні ў Беластоку складаюць «Беларускі каляндар на 1981 год». Праца мая над ім (карэкта, макетаванне і г. д.) зойме мне час да лістапада 1980 г. У міжчасе я пачаў ужо шукаць аўтараў матэрыялаў у «Беларускі каляндар на 1982 г.». У ім планую змясціць вялікі рэпартаж якраз з жыцця і дзейнасці беларусаў у ЗША паводле маіх уражанняў. Такія мае меншбольш планы. Гэта апрача матэрыялаў у «Ніву».

Здаецца мне, што найбольш выгадны тэрмін мае паездкі да Вас быў бы красавік — чэрвень 1981 г. Але гэта зусім не азначае, што гэты тэрмін адзіны. Залежыць ад Вас і Вашых планаў, усё можна дапасаваць, узгодніць. Магу я прыехаць да Вас і раней (напрыклад, студзень — сакавік’81) або пазней (ліпень — верасень’81). Хачу толькі папярэдзіць Вас, што з атрыманнем спецыяльнага замежнага пашпарту ў нас звычайна справа цягнецца каля двух месяцаў, да гэтага трэба дадаць час на атрыманне візы

ў пасольстве ЗША, набыццё білета на самалёт і шэраг іншых спраў. Таму трэба хіба ж з запрашэннем ад Вас справы не адкладваць, але адначасова зрабіць так, каб запрашэнне было дзейснае (важнае) на паўгода ці год часу. Няхай будзе запас часу на розныя нечаканасці. На жаль, паехаць да Вас магу толькі ў прыватнай паездцы, бо службовай камандзіроўкі (дэлегацыі) і службовага пашпарту не атрымаю. Гэта тлумачыцца тым, што мая фірма «Друк — Кніга — Рух» імкнецца асабліва ў апошнім часе ў сувязі з нашымі гаспадарчымі цяжкасцямі ў краіне, асабліва з вялікімі задоўжанасцямі ў заходніх краінах, да як найменшых выдаткаў заходніх валютаў. Што ж, на гэта няма ніякага спосабу, тым больш, што «Ніва» — рэгіянальная газета.

Вельмі прашу адначасова напісаць мне, якія тэмы могуць зацікавіць беларусаў у ЗША — я пастараюся падрыхтавацца да гутарак ці дакладаў на гэтыя тэмы.

Надта ж было б мне прыемна, каб я мог чым-небудзь аддзячыцца Вам за ўвагу і ўсё добрае, што Вы зрабілі і робіце для мяне. Абавязкова напішыце мне.

Жадаю ад усяго сэрца ўсяго найлепшага Вам. Няхай Гасподзь Бог успаможа і благаславіць Вас і Вашыя добрыя, вялікія справы і кожны Ваш дзень і хвіліну.

Удзячны Вам Мікалай Гайдук

*Беласток, 16 верасня'81 г.*

Шаноўныя Спадары Надзя і Аўген!

Так даўно я ўжо не дзяліўся з Вамі сваімі радасцямі і клопатамі! А сабралася ж іх у мяне цэлы мех: вялікіх і малых, але ўсе яны для мяне важныя. З вялікіх, вядома, найважнейшая радасць і пацяшэнне збалелай душы — гэта наведанне Беласточчыны цудоўным, ачаравальным Вашым Данчыкам. Ён сваімі спевамі і абаяльнасцю ўласнай асобы проста запаланіў усіх! Якую ж цудоўнасць Вы, беларусы Амерыкі, выгадавалі, выпеставалі! Толькі зайздросціць. Ён у нас даў аж тры канцэрты: у Белавежы, Гайнаўцы і Беластоку. Многія плакалі ад узрушання. Цяпер жа ён спявае нам на радыё, бо рэдактар беларускіх перадачаў запісаў яго канцэрты ў Беластоку, зрабіў з запісаў вялікую (20 мінут) перадачу, а цяпер падае кожную суботу па 1–2 песні з таго канцэрта. Стараўся я паказаць яму найбольш каштоўнае з беларускай культуры на Беласточчыне: наш ліцэй у Бельску, зборы ікон у Чыжоўскай царкве, новую царкву ў Гайнаўцы, зборы (прыватныя) інжынера М. Байко ў Белавежы і цудоўную нашу Белавежу, вядома, таксама красу і самабытнасць нашых сёлаў, напр. Трасцянку. Не магу затаіць, што мае дзяўчаты проста захоплены ім. Запісалі таксама канцэрт Данчыка ў Беластоку і цяпер амаль штодня пускаюць яго спевы. Словам, «цудоўны беларускі салавей Амерыкі» (так я характарызаваў яго, прадстаўляў у Белавежы і Беластоку) увесь час з намі, назаўсёды. Найважнейшае — ён паказаў, даў асабісты прыклад, як трэба любіць сваё і працаваць для дабра беларускай культуры. Вялікую, аграмадную проста дапамогу зрабілі Вы, беларусы з Амерыкі, для ўмацавання нас, беларусаў Беласточчыны, падтрымалі на духу і мабілізавалі да далейшай нястомнай дзейнасці на ніве роднай культуры якраз песнямі роднымі, беларускімі ашаламляючага Данчыка! Вялікае дзякуй яму за спевы, а вам за яго выхаванне для беларускай культуры! Ад усіх нас!

А мы тут, у Беластоку, таксама не сядзім склаўшы рукі. Наш гурток Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку яшчэ навесну бягучага года пачаў захады пра ўвядзенне навучання беларускай мовы ў пачатковых і сярэдніх школах горада Беластока. Змагаемся за гэтую справу на двух франтах: прыхіляем і заахвочваем бацькоў пасылаць сваіх дзяцей на ўрокі роднай мовы і намаўляем моладзь наведваць такія заняткі, а ў той жа час дамагаемся ад асветных і палітычных уладаў, каб нам дапамаглі арганізаваць заняткі, забяспечыць настаўнікамі і г. д. Надта ж цяжкая і нават небяспечная

гэта праца. Спадзяёмся, што Бог благаславіць яе шляхетныя намеры, успаможа нас. Ёсць спадзяванні і першыя знакі, што нешта ж карыснае для беларускасці выйдзе! Жадайце, зычце нам поспехаў, удачы. Для мяне, як старшыні беластоцкага гуртка БГКТ, гэта проста найважнейшая жыццёвая справа, і не толькі як старшыні — як беларуса.

Сам жа я сяджу сідзьма над пісаннем падручніка для V класа. Тэрміны ўсе даўнымдаўно прайшлі, выдавец злуе, а я яшчэ і паловы не змог адолець. Ці то старасць ужо мяне знемагае? Ды і хочацца, каб падручнік быў ладны, беларускі, наш. Вось і мучуся над ім, свету Божага не бачачы.

Вядома, па-ранейшаму пішу ў «Ніву». Калі чытаеце наш часопіс, дык бачыце, што мае артыкулы апошнім часам сталі больш адважныя, адкрытыя, здаецца нават — мацнейшыя. Праціснуць іх праз нашую ўнутрырэдакцыйную кантролю нялёгка, але цяпер пакуль што ўдаецца. І водгукі ад чытачоў ёсць вельмі прыхільныя, заахвочваючыя.

Ці ведаеце, што спецыяльная дэлегацыя «Салідарнасці» на Спаса 19 жніўня г. г. на св. Гары Грабарцы паставіла вялікі крыж з надпісам на беларускай мове: «Госпадзі Ісусе Хрысце, гэты Твой крыж узводзім у імя еднасці НПС "Салідарнасць"[8] беластоцкага рэгіёну. Члены праваслаўнага веравызнання». Крыж стаіць за алтарнай часткай царквы сярод іншых крыжоў, але на відным месцы. Няхай жа ж гэтыя святыя словы здзяйсняюцца! Нам вельмі патрэбная еднасць у шырокім, вельмі шырокім разуменні гэтага слова і перш за ўсё — еднасць усіх беларускіх сэрцаў свету.

Жадаю Вам усяго найлепшага.

Ваш Мікалай Гайдук

*Беласток, 21.10.81 г.*

Дарагія Надзя і Аўген!

Бяруся пісаць Вам гэты ліст, калі ў мяне на душы і страшна цяжка і адначасова невыказна радасна. Цяжка таму, што на мяне выпала мноства абавязкаў, працы, нерваў у сувязі з намаганнямі ўвядзення навучання нашай роднай беларускай мовы ў школах Беластока. Наведваю ў гэтай справе партыйныя і адміністрацыйныя ўлады: пераконваю, прашу, благаю; бегаю па школах: размаўляю з дырэктарамі, настаўнікамі, нервуюся на сходах праўлення і актыву нашага беластоцкага гуртка Беларускага таварыства, распаўсюджваю нават лістоўку (адну высылаю Вам у гэтым лісце). І цяжка мне, бо хоць маю крыху сяброў, якія мне дапамагаюць, але значна болей сустракаю яўных і патайных ворагаў нашай роднай мовы ў асобах, якія па сваёй пасадзе, здавалася б, павінны быць самымі першымі яе абаронцамі і прапагатарамі. Гэтыя паганцы дзесяткі год кормяцца і нажываюцца на тым, што затоптваюць усё беларускае, заплёўваюць усё наша роднае.

І ў той жа час вельмі мне радасна, што ў гэтым жа Беластоку жывуць праўдзівыя, шчырыя беларусы, якія шануюць сваё роднае і хочуць вучыць сваіх дзетак беларускай мове, нашай матчынай і бацькоўскай. Пакуль што маем такіх каля 30, але гэта на сённяшні дзень. Спадзяюся, што з кожным днём будзе іх болей. І дзеля гэтага я жыву, пішу, бегаю, нервуюся. А работа ляжыць! Перш за ўсё аніяк не магу напісаць у рэшце рэшт падручнік па роднай мове для пятага класа. Ужо ўсе тэрміны (тры), вызначаныя выдавецтвам, даўным даўно прамінулі, а падручнік ляжыць зроблены толькі напалову. Канчаюць набіраць у друкарні «Беларускі каляндар на 1982 г.», трэба брацца за яго макетаванне, вярстанне, канчатковыя дапісванні канцовак тэкстаў, шукаць здымкаў і г. д. І ў той жа час трэба пісаць, бо нямаш за што жыць — есці ды апранацца, хоць у нас з усім тут цяжка. Але спадзяемся, што Бог памілуе, не пакіне нас без падтрымкі і ўспамогі.

І на гэтым канчаю сваё пісанне, зычачы Вам усяго найлепшага.

Удзячны М. Гайдук

*Беласток, 18.05.89 г.*

Дарагая Надзейка!

Спяшаюся паведаміць Вас, што я выпісаў Вам «Ніву» лятунскай поштай, газета павінна прыходзіць да Вас ад 1 ліпеня г. г. да канца чэрвеня будучага або ад 1 жніўеня г. г. да канца ліпеня будучага, гэта залежыць ад таго, як бюро ў Варшаве паспее аформіць справу. Пастараюся сабраць усе (мо таго ці іншага не ўдасца) нумары, якіх Вы не маеце, ад 1 студзеня г. г. і даслаць Вам марской поштай, каб маглі сабе скамплектаваць наш часопіс.

У мяне здароўе крыху быццам бы папраўляецца: ужо некалькі месяцаў не адчуваю болю ў грудзях (каранарная, coronaris), суцішыўся ціск, хоць яшчэ даволі высокі бывае, здаецца, і іншыя хваробы як бы сунімаюцца. Маю надзею, што будзе лепш.

Працую, вядома, колькі сілаў маю на беларускай ніве, але цяпер болей пры царкве, у нашым Праваслаўным брацтве. 24 мая г. г. адбудзецца яго першы ўстаноўчы сход, я належу да нешматлікіх яго заснавальнікаў, ініцыятараў. Брацтва — самастойная арганізацыя агульнакраёвага абсягу. У цяперашні заснавальны перыяд у ім вельмі многа работы: сходы, падрыхтоўка дакументаў і г. д.

Шмат публікую ў праваслаўнай газеце «Tygodnik Podlaski», на польскай мове (бо адрасуецца ён да праваслаўных розных нацыянальнасцей: украінцаў, рускіх і г. д., не толькі да беларусаў), пішу на беларускія тэмы, ужо апублікаваў цыкл артыкулаў пра выдатную living рознабаковую ролю ў беларускай культуры Супрасльскай лаўры, пісаў пра В. Астрожскага і інш. Калі Гасподзь не паскупіць здароўя, планую шмат пра што яшчэ напісаць. Не забываю і не занядбоўваю «Нівы»: «Шляхам гадоў» і «Слаўныя людзі», хоць радзей (не здолею ўсяго зрабіць), усё ж паяўляюцца. І то дзякуючы вам, заходнім і ўсходнім чытачам «Нівы», бо тутэйшыя галавары на чале з Баршчэўскім[9] былі забаранілі мне публікавацца ў «Ніве», але чытачы абаранілі, дамагліся. Вялікае дзякуй усім, хто мяне абараняў і падтрымоўвае! Тутэйшыя ды ўсходнія энкавэдысты і іхнія халуі мяне ды іншых (асабліва маладых) гатовы праглынуць, яны мяне і ў хваробу ўвагналі і на пенсію без часу выправілі. Але няхай ім Бог выбачае. Тое, што я з жонкай 30 год адпрацавалі на роднай ніве, намарна не пайшло.

Яшчэ раз сардэчнае Вам дзякуй за дапамогу, за Ваша шчырае, вялікае сэрца, за Вашу высакароднасць.

З пашанаю да Вас і ўдзячнасцю

Мікола Гайдук

## ЗАЎВАГІ

[1] Паводле назірання Янкі Запрудніка, у 1980 г. у Беластоку, дый у цэлай Беларусі, слова «спадар» і ўсе выводныя ад яго (спадарыня, спадарычня, спадарства) былі навізною. Не кожны мог правільна ўжываць іх. Звяртаючыся так да мужчыны і жанчыны адначасова, Мікола Гайдук робіць памылку. Пакідаем яе ў тэксце як прыкмету часу.

[2] Надзея разам з мужам Аўгенам Кудасавым наведала ў 1960-я гг. Беласточчыну (Польшча), каб пабачыцца з маці Аўгена, якая дзеля гэтай сустрэчы прыехала з Вільні.

[3] Генадзь Цітовіч (1910–1986) — этнамузыказнавец, дзеяч харавога мастацтва, народны артыст СССР — быў жанаты з сястрою архімандрыта Язэпа Строка, які жыў у ЗША, таму ў эміграцыйных асяродках да лёсу Цітовічаў была павышаная ўвага. І Надзя Кудасава, калі ў 1986 г. упершыню пасля ад'езду наведала Бацькаўшчыну, завітала да іх: перадаць падарункі, у тым ліку запісы песень у выкананні Данчыка, пагаманіць пры шклянцы гарбаты.

[4] Маецца на ўвазе Багдан Андрусішын (нар. у 1958), больш вядомы як Данчык, цудоўны выканаўца беларускіх песняў. Паводле адукацыі журналіст, цяпер — супрацоўнік Радыё Свабода.

[5] Галіна — маці Мечыслава Брынкевіча, тагачаснага святара царквы Св. Еўфрасінні Полацкай (Саўт-Рывэр, Нью-Джэрзі, ЗША).

[6] ГП БГКТ — галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

[7] Бася Сасноўская — жонка Аўгенавага стрыечнага брата, гасцявала ў сям'і Кудасавых у Амерыцы.

[8] НПС «Салідарнасць» — Незалежны прафсаюз «Салідарнасць», які паўстаў у Польшчы ў 1980 г.

[9] Аляксандр Баршчэўскі (Алесь Барскі; нар. у 1930 г.) — паэт, літаратуразнавец, шматгадовы старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ) у Польшчы.

# КВЕТКІ ДЛЯ БУЙЛЯНКІ

— Дзядулечка Чорны, а вы ведаеце, хто гэта? Гэта ж наша Буйло!

— Канстанцыя Буйлянка? — перапытаў Кузьма Чорны. — Твае творы чытаў, ведаю, люблю.

*Чаркасава Д. Люблю. Мінск, «Голас Радзімы», 1978.*

«Люблю наш край, старонку гэту…» З тых сонечна-шчымлівых радкоў пачалося наша знаёмства. Верш запаў да памяці яшчэ са школьных чытанак. Адначасна з Купалавым «Што я мужык — усе тут знаюць», Коласавым «Мой родны кут, як ты мне мілы…». Словы, што адразу залягаюць пад сэрцам, не раз узварушваючы тваё пачуццё дзіўным усплёскам чагосьці гожага, роднага — беларускага.

Сапраўды, паэзія, паводле Пушкіна, павінна быць «глуповатой», пэўна — не «дурнаватай», але лёгкай, незнарочыстай, нібы з боскіх вышыняў дасланай. І падказаў Гасподзь юнаму дзявочаму сэрцу просценькае, узварушлівае — праз гады, сталецце не пабляклае: «Люблю народ наш беларускі…», «І песню родную люблю я, што дзеўкі ў полі запяюць…». Пад тое чыстае спяванне дзявок, жанок у полі, на вяселлях, вясковых вечарынках прамінала і маё сталенне.

Не забудзецца: запаветныя радкі музыкай ускалыхвалі пачуцці, бадзёрылі настрой радзецкага дыпламата ў Варшаве на памежжы 1970–1980-х. У прыцішанай вулачцы Jworzynika, блізу шумнае Маршалкоўскае, той штораніцы абуджаўся, шыкуючыся на «достойное явление» ў пасольскі кабінет, пад разлівіста-мілагучнае «Люблю…». З майго «Panosonic» беларуская Свабода (тады — Вызваленне), як і польская, праслухоўвалася выразна — палякі на «глушылку» не траціліся… Так што дзень пачынаўся з настроем прыўзнятым, амаль малітоўным і прапагандаванне представителем ССОД[1] кляйнотаў «зрелого социализма», «советской культуры», «нерушимой советско-польской дружбы» (асабліва) не здавалася справай занадта нуднай, безнадзейнай.

Па нейкім часе, ужо ў Маскве, патэлефанаваў да мяне Віктар Швед, беларускі паэт-варшавянін, камандзіраваны ў Белакаменную па выдавецкіх справах. Папытаўся: як дапасці Канстанцыі Буйло. Мяне раней, прызнацца, падобнае імкненне чамусьці не варухала, але з радасцю пагадзіўся супольна наведаць славутую Пяснярку.

Дапалі мы, крыху паблукаўшы, адпаведнага адраса — Тихвинский переулок, 11; аказалася — недалёка маіх Углового, блізу Бутырскае турмы. Націскаем «гузічак» над кватэрай 20. Дзверы адчыняе светлага твару мужчына, высакаваты, трошку стулены, зычліва запрашае: «Пожалуйста…» Знаёмімся. Гаспадар назваўся Борисом Матвеевичем, мы — адпаведна — маскоўскім і польскім беларусамі, наведнікамі нашае Паэткі. Ступаем вузенькім калідорчыкам направа, у бочны пакойчык. З канапы, усцяж тарцовае сцяны, прыўзнімаецца, ветла ўсміхаючыся, жанчына. Знаёмае з хрэстаматыйных падручнікаў аблічча — можа, крыху прыцярушанае гадамі, але адразу пазнавальнае: круглаваты, прыязна адкрыты твар, глыбокі пагляд сініх вачэй… Абок гаспадыні знаёмыя — Ніл Гілевіч, Валянціна Шчадрына, сакратар Савета па беларускай літаратуры пры СП СССР. Госці завіталі да Буйлянкі з нагоды яе юбілею. Прыдаліся і нашы сціплыя гваздзікі — на прыстойны букет па тым часе нават у Маскве, зімой тым болей, не вельмі было расста-

[1] ССОД — Союз советских обществ дружбы и культурных связей с заграницей.

рацца. Гаворка не задоўжылася. Папярэднія наведнікі ўжо збіраліся адыходзіць, і нам, прыпозненым, не выпадала затрымлівацца, натамляць юбілярку. Далей — дакладнасці дзеля — нататка з майго дыярыуша:

«10.01.1984. З Віктарам Шведам (рэдагуе ў Маскве «спольшчанага» Леніна) — да Канстанцыі Буйло. <…> Жывая легенда беларуская. Сапраўды — кветка: уся сонечная, віхрыстая, з расінкаю ўваччу:

— Мае даражэнькія, ну не уходите! Як я рада, як я рада! Сам Ніл Гілевіч завітаў!

Першаму сакратару СП БССР карцела па неадкладных справах. Ніл аднак патрапіў запытацца, відаць, пра галоўнае, што яму рупіла перад спатканнем з паплечніцай Купалы:

— Дык Вы лічыце, Лойка нахлусіў [у кнізе] пра Купалу? Не так братоў Луцкевічаў апісаў?

— Не, пра Луцкевічаў праўду сказаў. Гэта былі паны, і мы іх не любілі.

Нешта я адважыўся было ўдакладніць наконт сімпатыі-антыпатыі да братоў «нелюбімых». Не сказала — выбухнула:

— Бо Купала ад іх залежаў!

(Пазней у нашых размовах яна праясніць сваё непрыняцце пэўных Лойкавых старонак: «Как это можно, — звычайна, пры ўзбуджэнні, пераходзіла на руска-беларускі «валапюк» [стыль], — у самае інтымнае ступаць сапагамі. Ладзіна, жонка Ластоўскага. Я ж яе ведала, мы сябравалі. Чыстая жанчына, а здесь такія фантазіі! Устань Купала, он бы дастойна, по-мужски, ответил писателю…» Даруе св. п. Алег Антонавіч, глыбокі наш літаратуразнавец. Але што сказала Буйлянка — сказала. Хаця мяне асабіста праймалі не «альковыя» намёкі ў рамане-эсэ. Найбольш — «изобличительные» пасажы адносна Луцкевічаў («Лапкевічаў»), асабліва Івана, да якіх у Купалы засталося, нават са скупых звестак, даволі прызнае стаўленне.)

Было яшчэ некалькі, правам знаёмства, наведванняў. Калі-нікалі тэлефанавалася. Гаманілася пра літаратуру, удакладняліся сякія-такія дэталі з творчых крыніц, з жыццёвага шляху аўтаркі «Курганнае кветкі». Найчасцей запынялася яе ўвага на часох «нашаніўскіх». Запомнілася і такая вясёлая драбніца:

— Мы з Уладкай (Станкевічанкай) часта заглядвалі ў рэдакцыю. Сяброўка тады ўжо вока на Янку мела. І той да яе нераўнадушны. Але будзе мяне іншым разам падзаводзіць: «Костачка, выйшла б за мяне замуж?» — «Не, Яначка, — аджартоўвалася. — Паэт ты цудоўны, але хлопец — такія не па мне. Лепш з Уладзяй дамаўляйцеся». Купала з жыдком Бядулем найбольш сябравалі. Бывала, да нас — просячы: «Дзеўкі, пазычылі б з паўрубля, на “кручок”». Ведама, хлопцы маладыя — любілі выпіць. А якія ў іх заробкі (смеючыся)?

Яшчэ «нашаніўскі» яе ўспамін — зноў жа з маіх дзённікавых нататак:

— …А як на беларускае слова выйшлі, Канстанцыя Антонаўна?

— Як выйшла? Вельмі проста. Прынёс бацька аднекуль «Нашу Ніву». А там — вершы Купалы, Багдановіча. Па-нашаму, па-беларуску! Брат Эдзік: «Давай, Костка, і мы напішам!» І пачалі мы ўтрох — Эдзік, Стася — сястра, і я. У Эдзіка нічога не выйшла, у Стасі амаль нічога, у мяне нешта атрымалася. Эдзік: «Давай у “Нашу Ніву” пашлем!» Я — ні ў какую. Раз ужо была апяклася і цяпер баялася.

— А што за «апёкі» такія?

— Ад настаўніцы ў школе. Напішыце, кажа, пад дыктоўку «Огонь горит». Ну, я і напісала, як пачула: «Агонь гарыт». З трыма памылкамі. Тая мяне і прыстыдзіла перад класам: «Вот видишь, считаешь себя знайкой, а в двух словах — три ошибки». — «Дык я ж напісала, як вы дыктавалі». Тады Эдзік узяў і паслаў пад сваім подпісам. Прыходзіць у вёску беларуская газета (так звалі «Нашу Ніву»), а там пад вершам — Э. Буйло.

Потым зноў верш і той жа подпіс. Стала мне, нарэшце, абідна. «Эдзік, — гавару, — хопіць табе падпісвацца за мяне. Сама буду пасылаць!»

— А што з Эдзікам, як лёс склаўся?

— Эдзіка ўбілі на вайне, пад Рыгай, у Першую міравую. Такі красівы хлопец, афіцэр малады.

Чытанне сваіх «польскіх» вершаў. І паэзія, і бунт, і роспач у тых вершах. За іх Brückner не ўпікнуў бы, як у стасунку да Купалы: a lá Lenartowicz[2].

Не любіць Костка журналістаў, інтэрв'ю. Не хоча на п'едэстал, не зносіць даследчыкаў, здатных калупацца ў асабістым. <…> Пра аднаго з іх — аж занадта жорстка:

— Надоел он своей дотошностью. Я его больше не принимаю.

З нашаніўцаў абок бліжэйшага ёй духам і лёсам Купалы станоўча, без воклічаў, згадвала Ластоўскага. На ім менавіта і запыніла прыпамін аб сваім першым знаёмстве з імем Скарыны (на маёй адпаведнай анкеце): «Упершыню пра Францішака Скарыну даведалася ад Вацлава Ластоўскага. У рэдакцыі "Нашай Нівы" мы чыталі беларускія старадрукі, Статут Вялікага Княства Літоўскага».

Ведаючы яе насцярожлівасць да зацікаўлення жыццятворчымі таямніцамі Паэткі, тым не менш закраналася ў размове штосьці пра імпульсы рамантычна-экзістэнцыйнага перажывання «Курганнай кветкі» навакольнае рэчаіснасці («Адна, саўсім адна…», «Дзень сканаў за ракой…» і г. д.).

— Адразу і не скажаш, адкуль той настрой, пачуцці, — рэфлектавала задуменна. — Можа, ад польскае паэзіі. Была ж троху начытанай: Міцкевіч, Славацкі, Норвід, Лесьмян. Лермантавым таксама захаплялася.

Аднойчы папрасіла прынесці чаго «з польскага» пачытаць. Аднёс ёй «Пана Тадэвуша» ў арыгінале, 2-томную анталогію «Poezja polska» (1973), нават «крамольны» ў СССР на той час зборнічак Чэслава Мілаша. Прызналася, вяртаючы: «Вой, дзякуй. Душой адышла. А Мілаш не "даўся", цяжолый, нешта штучнае — не маё». Тады ж згадала пра свайго бацьку. Надта любіў кнігу. Чытаў пераважна польскую. Ад яго і дзеці пацягнуліся да чытання. Памаўчаўшы — з усмешкай: «Недзе пісалі пра мяне: нарадзілася ў сям'і беднага аб'ездчыка. А гэты "бедны" двух упітаных рысакоў запрагаў, падаючыся на агляд лесу».

З міжвольных рэплік, заўваг вынікалі яе някепскае распазнанне ў бягучым літаратурным жыцці Беларусі, эстэтычныя прыхільнасці. Зноў зазірну ў свой нататнік:

«— …Ніна Мацяш. Як я люблю яе вершы — гэтулькі ў іх хараства, сэрца, пачуцця. А Ніл Гілевіч! У яго столькі душэўнасці, столькі думак, якая вобразнасць! Яго так Пальчэўскі любіў, сябра мой.

— Алесь Пальчэўскі?

— А вы ведалі Пальчэўскага? Столькі ён адпакутаваў. А піша як — цёпла, стрымана. Харошая проза».

Вельмі, памятаю, усцешана была нарысам Шведа ў беластоцкай «Ніве» («Беларуская легенда», 1984, 19 ліст.):

— Вы толькі паглядзіце, — расхінае, расчуленая, атрыманую газету, — як прадставілі Буйлянку. Адзін раз чалавек зайшоў, паглядзеў, паслухаў тую «легенду» і так талкова, хораша выказаўся. Не быў бы паэт!

Жнівеньскім цёплым надвячоркам завітаў да яе з раскошным букетам гладыёлусаў. Таго лета на лапіку майго лецішча за Акой выраслі-расхінуліся яны як ніколі — буйна, квяціста. Белыя, ружовыя, аксамітавыя…

---

[2] Тэафіль Ленартовіч (1822–1893) — польскі паэт, якога Аляксандр Брукнер назваў некалі «польскім Кальцовым». Маецца на ўвазе, што для Брукнера паэзія Купалы была яшчэ больш эпігонскай, чым нават паэзія Ленартовіча.

З тою харашынёй у шкляной вазе і заявіўся я на знаёмым парозе. Жаночае ўзрушэнне-хваляванне:

— Боря! — паклікала мужа. — Посмотри, какая красота! Когда мне такие цветы дарили! — І пераводзячы позірк у мой бок: — Не скажу, он тоже иногда одаривает цветами. Но такие — где их в городе найдешь? Нет, вы цяпер мой друг! — Нахіляецца над пісьмовым сталом, надпісвае на томіку свайго «Выбранага», агучвае надпіс і падае мне кнігу: «Дарагому Аляксею Канстанцінавічу Каўко, які добра і тонка разумее мяне і маю творчасць, — на добры ўспамін. Кан. Буйло. 17.VIII.84». Было ад чаго і адоранаму ўзрушыцца-расхваляваўцца. — А ведаеце, — працягвала, — ля гэтага стала не раз і Купала прыседжваўся. Бываючы ў Маскве, мяне не забываў. Калі ўдваіх, з Уладкай, калі адзін. Прапаноўваў: «Няхай бы ты, Костка, у Менск перабіралася». А я яму (усміхаецца): «Хто ж мяне, Яначка, там чакае? Дзе прытулюся? Я ж не Купала, дачы мне не пастраяць».

Наогул з імем творцы «Жалейкі», «Шляхам жыцця», рэдактара «Курганнай кветкі» абыходзілася яна пачціва, нават узнёсла — як з вялікім Паэтам. Хаця не без лёгкага, крышачку задзёрыстага гумару, калі ішлося пра блізкага сябра, зямнога, прываблівага ёй чалавека, — саўсім не штучнае люстры, у якое толькі і глядзецца.

— Інагда [некаторыя даследчыкі] успрымаюць паэтку Буйло, — іранізавала, — нейкай брошкай на Купалавым пінжаку. А мы — няхай блізкія, але ж розныя! Купала — па сабе. Я — па сабе.

Праслухоўваліся ў гаворцы ноткі яе гордасці, але не напышлівае гардыні, хутчэй, зразумелае ўсведамленне ўласнага «я», натуральнае для кожнае творчае Асобы.

— Вот, пасматрыце, хто пра мяне ўспомніў, — праяснёная, узрушаная бярэ са стала кнігу, паказвае: Кирилл Мазуров. Незабываемое (Минск, 1983). Расхінаю вокладку: «Канстанцыі Антонаўне Буйло — з удзячнасцю за ўсё, што Вы зрабілі для роднай Беларусі. [Подпіс.] 23 студзеня 1985 г.».

Тады, помніцца, падахвочаны беларускім словам колішняга партыйна-савецкага дзеяча звярнуўся да яго з «Скарынаўскай» анкетай, і той добрай літаратурнай мовай адгукнуўся на ўсе пытанні. (Цяперашнім уладарам — суверэннай-незалежнай — хаця б крыху культура-беларускае якасці.)

Падзіўляла яе жыццялюбная мабільнасць. Жанчыне бралася пад дзевяноста, апошнім часам ногі ёй адмаўлялі, на вуліцу не выходзіла, але кожнага разу сустракала, ужо не ўстаючы з канапы, бадзёрым голасам, з прыветнаю смяшынкай:

— Прахадзіце, прахадзіце, мой дарагі! Какие навасці, как наша Беларусь? Как урожай на вашых сотках?

У сваю чаргу падзеліцца сваімі навінамі: хто ліста даслаў, хто пазваніў, хто наведаў. Праўда, наведнікі трапляліся штораз радзей. Скрозь усцешліва, з мацярынскай радасцю і гордасцю згадвала сына Яўгенія, інжынера-будаўніка, унука Віталія, фізіка, — іхняя клапатлівая ласка да маці і бабулі падсілкоўвала, цяпліла яе старэчае самаадчуванне. Цешылася перапіскай з Зоськай Верас (Людвікай Сівіцкай), яшчэ раней — з Алесяй Смоліч, жонкай Міхася Лынькова, а найчасцей-найсвятлей успамінала Уладзіславу Францаўну, Купаліху — наймілейшую, найвярнейшую сваю падругу жыцця.

Не забывалі яе школьнікі-краязнаўцы з Беларусі, асабліва гудзевіцкія. Дарэчы, настаўнік Алесь Мікалаевіч Белакоз, заснавальнік Гудзевіцкага гісторыка-краязнаўчага музея, спрабаваў праз мяне пераканаць Канстанцыю Антонаўну ў мэтазгоднасці гучання яе прозвішча на беларускі лад — з *а* на канцы: Буйла. Пра несуцяшальныя вынікі тае спробы згадвалася ў «Скарынічы» (вып. 2). Тут паўтару толькі яе канчатковы довад у «фамільным пытанні»:

— Памру, можаце тады пісаць Буйла, а пакуль пакінце маё — бацькава Буйло.

Не забылася паэтка павіншаваць з 80-годдзем Мікалая Мікалаевіча Улашчыка. Аб чым славуты гісторык наш не прамінуў удзячна згадаць падчас аказійнае ўрачыстасці ў свой гонар у Інстытуце гісторыі АН СССР:

— Узрост, маўляў, справа адносная для творчага настрою. Мне даслалі віншаванні дзве кабеты — з Масквы і Вільні (Зоська Верас); кожнай з іх за добрых восемдзесят, але яснасці іхняга розуму можна толькі пазайздросціць.

Апошняя наша сустрэча атрымалася вельмі сумнай, драматычнай. Наведаў яе пасля смерці мужа. Сядзела яна на той жа канапе — прыкметна стуленая, бледная, заплаканая. На павітанне і спачувальныя словы тарганула бездапаможна плячыма і, заглытваючы слёзы:

— Асіраціл мяне Боренька мой… Вы ведь не зналі яго. Он же — после моего Калечица[3] быў другім маім незамянімым. Кажется, молчун, а какой человек, какая душа глубокая, отзывчивая. Лётчик-штурман, нашол меня, адзінокую, у вайну. Пражылі с ним столька год. За ним — никакога гора не знала. Все принясет, все досмотрит. Никогда слова грубого. Только и слышала: «Косточка, не волнуйся…» Видели его скромность, застенчивость. О нём ведь — юном коммунаре — Макаренко в своей «Поэме» [«Педагогическая поэма»] вспоминал… Асіраціл мяне мой лётчык… Пара і мне — за ним…

Спакайнеючы, хвіліну памаўчаўшы, працягвае аркушык у палову ліста, горка дадаючы:

— Вот і ўся паэзія Буйлянкі…

Верш той — трагічнае прадчуванне неадольнага сыходу ў небыццё — пазней, праз дваццаць гадоў, аб'явіцца на старонках «Скарыніча» (вып. 6):

І ніхто з табою не раздзеліць
Жаху той, апошняе хвіліны…
А яе як восень яблык — спеліць,
Старасць — што зацісне ў дамавіну.

Аднак жа засталася іншая жыццядайная песня — «Люблю…». Сонечная, неўміручая — пакуль жыве народ і дорыць свету песняроў-паэтаў.

*Аляксей КАЎКА*[*]

---

[3] Віталій Калечыц — вучоны-аграрнік, першы муж Канстанцыі Буйла, рэпрэсаваны ў 1937 г.

[*] Мы вельмі ўдзячныя прафесару Аляксею Каўку, напісаўшаму свае ўспаміны пра Канстанцыю Буйлу адмыслова для альманаха «Асоба і час».

Звяртаем увагу чытача, што ўслед за аўтарам захоўваем асаблівасці мовы Канстанцыі Антонаўны — мовы, на якую паўплывала шматгадовая адарванасць паэткі ад Радзімы.

# КАСТРЫЧНІК 1993 ГОДА Ў МАСКВЕ
## Дзённікавыя нататкі

**28 верасня 93 г.**

21 верасня Ельцын заявіў пра разгон парламента. Газеты й радыё падаюць дазаваную й вельмі адфільтраваную інфармацыю. <…>

Учора

Горад. Дождж. На станцыі метро «Барыкадная» расклееныя ўлёткі зрынутага парламента. Нейкі пан спрабуе атадраць ад сценкі адну ўлётку нажом, але істэрычныя таварышы замінаюць яму гэта зрабіць. <…>

**1 кастрычніка 1993 г.**

Пазаўчора ўвечары я выходзіў з кінацэнтра[1]: паўсюль ачапленне, каб трапіць на станцыю метро, трэба ісці ў абыход. Узяты ў шчыльнае кола аблогі «Белы дом»[2], але, калі раней міліцэйскія кардоны стаялі толькі ля самога будынка, то цяпер яны пачынаюцца ўжо ад «Барыкаднай». Дождж. Але шмат людзей. Мільгаюць у цемры белыя шчыты амонаўцаў, якія займаюць пазіцыі. Вільгаць. Шум. Бляск вады. Раскрытыя парасоны з разбухлымі на роўных паверхнях кроплямі, што скатваюцца ўніз. Згуртаванне людзей ля станцыі, здаецца, чырвоны сцяг. Як потым пісалі газеты ў той дзень, тут загінуў чалавек. <…>

У музеі васковых фігураў, што адкрыты ў будынку (былога?) Музея Астроўскага[3] Іван Грозны забівае Пушкіна, Малюта Скуратаў грае у шахматы з Берыяй. Гучыць кактэйль з Чайкоўскага й Шнітке. <…>

**3 кастрычніка, 24.00**

Сёння, прыкладна а другой палове дня, было разарванае ачапленне вакол «Белага дома». Пасля баявых аперацый сябраў «Працоўнай Расіі»[4] блакада з «Белага дома» была знятая. А ягоныя «абаронцы» штурмавалі мэрыю. Кроў, ахвяры.

На пачатку восьмай баевікі атакавалі Астанкіна. <…> Тэлекампанія была абстраляная з гранатамётаў. Будынак падпалены. Перадачы спыненыя. На пачатку адзінаццатай па радыё (радыё на Шабалаўцы й расейскі тэлеканал працу працягвалі), паведамілі, што «Астанкіна адбіта» (?).

А з 16.00 Ельцын увёў у Маскве надзвычайнае становішча (без каменданцкай гадзіны).

---

[1] Кінацэнтр на Краснай Прэсні, ля станцыі метро «Барыкадная». Да 2005 году там знаходзіўся Музей кіно, які ладзіў унікальныя кінапаказы.

[2] «Белы дом» — (да 1991 г. — Дом Саветаў РСФСР, з 1994 — Дом Урада Расійскай Федэрацыі) — урадавы будынак на беразе Масквы-ракі. У 1991–1993 гг. — Дом Саветаў Расіі. Назва «Белы дом» пашырылася пасля жнівеньскага путчу 1991 г.

[3] Маецца на ўвазе Мікалай Астроўскі, аўтар кананічнага савецкага рамана «Як гартавалася сталь». Музей-кватэра Мікалая Астроўскага працуе дасюль.

[4] «Працоўная Расія» — дробная пракамуністычная арганізацыя. Аформілася ў 1991 г. Брала актыўны ўдзел у падзеях 1993 г. З 1996 г. існуе як дзве фракцыі: «Працоўная Расія» Віктара Анпілава ўваходзіць у «Сталінскі блок — Працоўная Расія — афіцэры за СССР», іншая частка ў складзе блока «Камуністы — працоўныя Расіі — за Савецкі Саюз».

А 21.50 па расейскай тэлевізіі выступіў з заўсёдным прыцмокам Ягор Гайдар[5]. Ён сказаў, што цяпер нельга абапірацца толькі на сілавыя структуры, і заклікаў масквічоў прыйсці да Маскоўскае Рады. Паведамляецца, што да сталіцы рухаюцца верныя Ельцыну часткі. Па радыё гаварылі, што бальніца Скліфасоўскага працуе ва ўзмоцненым рэжыме: ужо паступілі за 70 параненых. А ў «Белым доме», быццам, затрымалі лекара «хуткай дапамогі» — і адабралі машыну.

А 21.00 Хасбулатаў[6] заявіў: «Астанкіна захоплена, засталося ўзяць Крэмль» (у «Белым доме» ўвечары ізноў адключанае святло).

**5 кастрычніка 1993 г.**

Учора з самае раніцы штурмавалі «Белы дом». Днём з 1-га Гуманітарнага корпуса[7], дзе я здаваў іспыты, быў добра бачны пажар ва ўжо падсмаленым доме: густы чорны дым уздымаўся з аднаго паверха — і таму верхняя, счарнелая частка забудовы здавалася выбітай. На станцыях «Барыкадная», «Краснапрэсненская», «Вуліца 1905 года» цягнікі не спыняюцца. Стралялі. Снайперы рассеяліся па ўсім горадзе. Я тэлефанаваў знаёмым, якія жывуць ля метро «1905 года»: транспарт не ходзіць, увечары ў двары страляніна — спрабавалі захапіць аддзяленне міліцыі, потым шчэ нападалі на мясцовую кабельную тэлевізію і рэдакцыю «Маскоўскага камсамольца».

Мой сусед распавёў: быў на Новым Арбаце. Там стаялі БТРы, і вось дазналіся, што дзесьці побач на даху снайпер. Машыны павярнуліся — і адкрылі кулямётны агонь. Шчэ колькі ваенных стралялі з аўтаматаў. Зляканыя месцічы схаваліся пад дахам кінатэатра «Кастрычнік». Але кулі і туды заляталі. На шчасце, ніхто не пацярпеў.

Хаця днём Хасбулатава й Руцкога[8] арыштавалі, але зброя, раздадзеная ля «Белага дома», распаўзлася па ўсёй Маскве (нават некаторыя студэнты філасофскага факультэта прыдбалі пісталеты Макарава й аўтамат — і збіраюцца іх прадаць). Была абвешчаная каменданцкая гадзіна.

Увечары я вяртаўся ў інтэрнат з кінаклуба, каб паспець да 23.00. Ля станцыі «Акадэмічная» зусім не сустрэў людзей. Пуста. І цішыня. Страх на вуліцах — завіс у паветры і загнаў месцічаў па кватэрах.

Абсалютная цішыня. І толькі сухім кашлем брахаў сабака — брахаў доўга і манатонна, як завадная сапсаваная цацка. Я ішоў, і пакрыху гук змяніўся: дзесьці ўдалечыні нудны, то сціхальны, то нейкі халодны гук сірэны.

Знаёмы ў кінаклубе распавёў: у метро да яго падышоў нейкі бамбіза. Яму, маўляў, 37 гадоў, дзяцей няма, прыехаў з нейкай танкавай вучэльні — абараняць парламент. «А потым і Прага, і Варшава нашыя будуць!» Прапанаваў суразмоўцу пайсці з ім. Той адмовіўся: «У мяне, увогуле, двое дзяцей. Схлусіў».

---

5 Гайдар Ягор Цімуравіч (1956–2009) — правы расійскі эканаміст і палітык. У 1991–1994 гг.займаў высокія пасады ва ўрадзе Расіі, у тым ліку выконваў абавязкі прэм'ер-міністра. Аўтар шокавай тэрапіі і лібералізацыі цэнаў.

6 Хасбулатаў Руслан Імранавіч (нар. 1942 г.) — расійскі палітычны дзеяч, апошні старшыня Вярхоўнага Савета Расійскай Федэрацыі.

7 1-ы Гуманітарны корпус Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта знаходзіцца на Вераб'ёвых гарах, побач са станцыяй метро «Універсітэт».

8 Руцкой Аляксандр Уладзіміравіч (нар. 1947 г.) — першы і апошні віцэ-прэзідэнт Расійскай Федэрацыі. Падчас крызісу 1993 г. быў абвешчаны Вярхоўным Саветам прэзідэнтам. Пасля штурму будынка Вярхоўнага Савета Руцкой і Хасбулатаў былі ўвязненыя, але вызваленыя па амністыі ў 1994 г. Хасбулатаў з 1994 г. — загадчык кафедры сусветнай эканомікі імя Г. В. Пляханава, а Руцкой у 1996–2000 гг. быў губернатарам Курскай вобласці.

У шпіталь Скліфасоўскага выклікалі ўсіх медсёстраў, санітарак. Спрабавалі выклікаць адну дзяўчынку-фельчара, але ёй не было на каго пакінуць немаўля.

Лабарантка Юля расказвала, што сёння раніцай на прыпынак транспарту — ля Астанкіна транспарт не хадзіў ці хадзіў вельмі блага — пад'ехала БМП. <…> З машыны высунуўся кіроўца і прапанаваў за стольнік з носа падкінуць любога, хто пажадае, да найбліжэйшай станцыі метро. Жадаючых не знайшлося.

А трэцяга ля тэлевежы стаяў нейкі безгаспадарны БМП. І паўсюдныя дзеткі яго ледзьве не ўгналі.

Дарэчы, дзеткі. Калі бралі «Белы дом», дзеткі добра памарадзёрнічал: хто тэлефон вынес, хто пульт кіравання ліфтам. <…>

Было шмат раззявякаў, якія глядзелі на абстрэл. Час ад часу і з іх кагосьці падстрэльвалі. Знайшлася дура, якая прыперлася да «Белага дома» з каляскай. У натоўпе назіральнікаў меліся й дамы з сабачкамі. <…>

**6 кастрычніка 1993 г.**

Казалі, што ў метро ўжо прадаюць растыражаваныя каляровыя фатаграфіі «Белага дома» ў полымі, зробленыя, як паштоўкі. І яшчэ бачылі, як на станцыі метро «Красныя вароты» міліцыя абшуквала трох хлопцаў — у аднаго знайшлі жменю патронаў. Камендацкая гадзіна ўзмоцненая.

**8 кастрычніка**

У Маскве загінулі 144 чалавекі і болей за 800 параненыя[9]. <…>

**10 студзеня 1994 г.**

Колькі дзён таму я ішоў па халодных вуліцах; мокры снег; я збіўся з дарогі й выйшаў да «Белага дома». Каржакаватая, урослая ў зямлю белымі маналітамі забудова. На тле цёмнага неба ўжо лунаў сцяг, але вежа, на якой ён знаходзіўся, была чорнай. Я падышоў да будынка з тылу і таму не бачыў усіх разбурэнняў, нанесеных яму. Але ж чорная, нязмытая акантоўка наверсе цягнулася па паверхах.

Што гэта? Як санітарныя бінты, ахутваюць будынак, хаваючы чорныя раны, аграмадныя марлі; звісаюць з апошніх паверхаў, пад халодным ветрам шавеляцца — як тонкія празрыстыя пальцы памерлага; скрозь кісейную бялёсую заслону — ілюмінацыя; электрычнасць, вокны свецяцца — гэта новыя жыльцы ўехалі і, відаць, святкуюць улазіны — у пустых, напоўненых толькі электрычнасцю пакоях; святло прабіваецца яскравае, падкрэслена дзелавітае: такое звычайна залівае хірургічныя сталы і кабінеты дантыстаў.

У Маскве — слота…

*Андрэй РАСІНСКІ, беларускі культуролаг і кіназнаўца.*
*У 1993 г. паступаў у аспірантуру МДУ*
*і стаўся сведкам падзей.*

[9] Гэта недакладныя лічбы. Паводле камісіі расійскай Дзяржаўнай Думы, загінулі 123 чалавекі, паранены 389. Маюцца і другія ацэнкі.

# ЖЫЦЦЁ БЕЗ СВЯТЛА
## Лёс сям'і Васіля Быкава ў 1930–1940-я гады

Сястры Васіля Быкава, Валянціне Уладзіміраўне, 7 ліпеня споўнілася 85 гадоў. Тварам падобная на старэйшага брата, жыве яна ў вёсцы Ваўчо, паблізу з Ушачамі, куды пераехала з родных Бычкоў, калі выйшла замуж. Жыццё Валянціна Уладзіміраўна пражыла цяжкое: спачатку галоднае дзяцінства, пасля была вайна, пасляваенны голад, праца ў калгасе; пахавала бацькоў, позна й няўдала выйшла замуж; з цягам часу, пахаваўшы не толькі абодвух братоў, але і мужа, засталася зусім адна з пенсіяй у трыста тысяч. І калі запытацца ў Валянціны Уладзіміраўны пра яе жыццё, дык у першую чаргу пачне распавядаць пра брата Васіля ды пра тое, як жылося ў вайну, быццам было гэта толькі ўчора. Такі ўжо незайздросны лёс у гэтага пакалення…

Прыводзячы тут аповед Валянціны Уладзіміраўны, мы наўмысна захавалі яе ўшацкую гаворку. Гэта некалі Рыгор Барадулін пісаў Васілю Быкаву з Ушачаў у замежжа: «Да нас завітала твая сястрычка Валя. Хоць наслухаўся я ўшацкай мовы, хоць пачуў вушацкі голас. Яна як зязюлька баравая». І іншым разам зноў жа з падстрэшша мамінае хаты пісаў Барадулін сябру: «Раней у Вушачу ехаў паслухаць нашую мову, гаворку нашую. Цяпер глуха. Як з Валянцінай сустракаюся, дык ажываю душой. Слухаю яе, як з крыніцы п’ю».

Дададзім яшчэ, што аповед гэты запісаны падчас некалькіх прыездаў да Валянціны Уладзіміраўны — у красавіку 2004, у маі 2006 і ў маі 2011 г.

Да вайны жыццё цяжкое было ў нас у калгасах: галадалі, на трудадзень давалі стодзвесце грамаў мякіны. Бывала, атрымае бацька палучку — прынясець палову мяшочка нейкай гірсы (не жыта чыстага, а нарасценя з травой, адным словам, абы што), змеле яго, мама мукі дабавіць — каб хоць хлеб зляпіць… Да вайны карова ў нас была, але яе нечым было карміць, дык яна прапала з голаду. Праўда, якраз у той год бацька цялушачку пусціў ад яе. І калі ў пачатку вайны яна ацялілася, дык і дождаліся мы таго малака. Але колькі яна ў нас пабыла? — год ці два, а тады забралі ў нас яе партызаны, кароўку нашу. І зноў мы ні з чым засталіся…

Аднак не сказаць, каб з прадуктамі ў пачатку вайны вельмі дрэнна было. Калі прыйшлі немцы, калгасы яны распусцілі, а зямлю падзялілі — кожнаму гаспадару па «шнурку» далі, пааддавалі людзям коней ды кароў. Помню, конь у нас быў, бацька і пахаў на ім, і сеяў, і жыта добрае вырастала. Мама пажнец, дык пасля мы ўтрох — з бацькам і матуляй — малацілі цапамі. Я спачатку не ўмела, а тады навучылася… *(Смяецца.)* Затым бацька з веялкай гэтак акучыць — мякіна ў адзін бок ляціць, а чыстае зярно ў іншы. А пасля на жорнах спрытненька змелець, тады ўжо мама хлеба напячэ. А хлеб быў такі смачны, пышны! Бацька ўсё хваліў: «Матка, твой хлеб дужа добры, а сусед як спячэ, дык у рот нельга ўзяць!» *(Смяецца.)* І праўда — мама ўмела пякчы хлеб, такі рыхлы быў, пахнючы… І свіней гадавалі, і карова была. А як на трэці год з’явіліся партызаны, дык тады кароў пазабіралі, праўда, не ва ўсіх. Спачатку партызаны не дужа нас абіралі. Казалі, гэта ў Заходняй Беларусі тое было — майго роднага дзядзьку з Завулка (там, дзе раней мяжа з Польшчай была, цяпер гэта Глыбоцкі раён) амаль не ўбілі за соль. Ён сам расказваў, што расстраляць хацелі. Прыйшлі і гаворыць: «Давай соль!» Там жа на станцыі было многа солі, і «западнікі» назагатавалі сабе, але прыйдуць партызаны, і хто не даець, дык наставяць на гаспадара ружжо, а пасля найдуць тую соль і сабе забяруць.

У нас, ва Усходняй Беларусі, дык нічога не было — усю вайну без солі елі. Помню, забіў бацька парасёнка — небальшэнькі такі быў, а як без солі яго есці? — хоць і мяса, але ж несалёнае. Гэта «западнікаў» партызаны абіралі, а нас, дзе была партызаншчына, дык не дужа. Але і ў нас нешта загадвалі здаваць — зярно, кажухі, валёнкі ў каго лішнія, хлеб ім пяклі. Ці калі партызаны ў вёсцы спыняліся, дык па хатах іх размяркоўвалі. У нас таксама два партызаны стаялі. Калі ж пачалася блакада, тады партызанаў разагналі, у Селішчах гарнізон нямецкі стаяў, і ўжо немцы нас абіралі: едуць па вёсцы і дзе якая курыца, зярно, бульбіна якая ці трапка — усё пад мятлу мялі! Хату нашу так вычысцілі, што засталіся толькі голы стол ды лавы — ні бульбінкі! Знайшлі нават вялікі сундук з зярном, што бацька ў аўразе закапаў, — усюды шомпарамі зямлю папорвалі… А ўжо ўначы партызаны прыходзілі — тыя, што паасталіся і ў лесе хаваліся, — таксама нешта давай! Якія па-чалавечы просяць, а калі скажаш, што і самім няма чаго есці, дык вызверыцца — усякія ж былі — і пойдзе ўсюды лазіць, усю хату і чардак абнюхае. Помню, аднойчы ноччу ўдваіх прыйшлі, дык адзін запаліў лучынку — свету ж ніякага не было — і на чардак палез. Як ён яшчэ хату не спаліў? Крыша ж саламяная была. А нічога ўжо не было. Адзёжы, праўда, троху засталося, дык мама сваю схавала — слажыла ў скрыню ды закапала. Але аднойчы дождж пайшоў, і мама ноччу назад усё прынесла — каб прасушыць, а тут якраз партызаны з партызанкаю явіліся, і партызанка тая пазабірала ўсе маміны кофты… Так што, і немцаў баяліся, і сваіх, бо былі свае — усё роўна як ворагі. Іншыя дык нічога, а некаторыя нават пад ружжо ставілі. У Кублічах, мусіць, пяць ці шэсць сямей расстралялі, хто ў немцаў працаваў. Яшчэ нямецкая камендатура там была, а партызаны ўначы ўварваліся. Расстралялі аднаго ветурача, аднаго фельчара, іх сем'і, а тады яшчэ адну сям'ю — і жонку, і мужыка, у іх трое ці чацвёра дзяцей засталося. Звычайна жонку і мужыка забівалі, а рабят, праўда, не чапалі. Чуць каго прыкмецяць, што ў немцаў працаваў, ці хто на каго скажа, тады прыходзілі ўначы і расстрэльвалі.

* * *

А цыгане ж у вайну стаялі ў Бычках табарам, і ў нашай хаце нават жылі. І бежанцы былі, арлоўцы. Адзін раз прыехала жанчына і з ёю пяцёра рабят, і ўсе адзін пад адзін — такія малютачкі. Гэта калі фронт пад Масквой быў і людзей эвакуіравалі. Многа ў каго тады жылі гэтыя сем'і. Рабяткі галодненькія былі, абадраненькія. А дарослыя ходзяць па беднасці з торбачкай і сабіраюць па вёсцы, хто што дасць. Пасля матка зварыць троху якога супу, ці ляпёшку, ці бульбіну спячэ. Прыехалі ж голыя, нічога ў іх не было. Дый у нас дужа такога таксама не было. Праўда, паесці яшчэ троху заставалася, але малавата. Бывала, сядзем есці, і малец, галодны, прыйдзе, стаіць каля стала і глядзіць, як мы ядзём. Тады бацька мой пасадзіць яго за стол: «Хадзі, мой дзетка», і накорміць, і іншым рабяткам нечага дасць — гэтак ён жалеў тых рабятак. Гэтая сем'я стаяла ў нас, мусіць, цэлую зіму, а тады неяк забралі іх ад нас — некуды далей эвакуіравалі. Але іншыя паявіліся, праўда, жыла цяпер у нас адна толькі жанчына. Хоць спакайней было — ад рабят жа спакою не было! Самай маленькай дзяўчынцы быў, мусіць, годзік, дык яна ўночы плакала ды крычала. Ай, такое беспакойства было! Але што ж ты зробіш…

Ну, і цыгане ж часам наязджалі — пастаіць колькі дзён табар у вёсцы, а пасля паедуць. Таксама па беднасці ездзілі. Дык мама ўсё на картах прасіла паваражыць, ці жывы Васіль. І вось ніколі не сказалі — колькі разоў мама пасля вайны ўспамінала, — што ён загінуў. Увесь час гаварылі: ён у вельмі дрэнным стане, пры такой чарнаце, але жывы і вернецца. Ну, дык бацька з мамай верылі і надзеяй жылі.

* * *

У той дзень дзяўчатак якраз у Вуглішча гналі, а мы з сяброўкаю ў лазовым кусце хаваліся, метраў трыста ад дарогі. І вось адна дзяўчына паказвае немцам: «Вунь цюркі! Вунь-вунь, у кусце сядзяць!» Немцы звалі дзяўчат «цюркамі», і яна знала, што немец пойме гэтае «цюркі сядзяць». Немец з вінтоўкай напагатове да нас к кустам шагае, дык мая адважная падруга драпанула ў балота, а я струсіла, не справілася ўцячы. Падышоў і кажа: «Вылазь! Хайт! Хайт!» Ну, і выгнаў мяне з куста. А разам з тымі дзяўчатамі і майго бацьку ўзялі, дык ён стаў прасіць немца, каб мяне не бралі, што ён замест мяне пойдзе. «Толькі адпусціце маю дачку, — гаварыў. — Я пайду за яе». Але немец сказаў бацьку: «Ты, стары, ідзі дамоў, а дачка твая пойдзе з намі». І пагналі нас у Вуглішчыну.

Там шмат дзяўчат было, усё акопы капалі каля ракі, мусіць, месяц. Пакуль дзве дзяўчыны з нашай вёскі не збеглі: іх маткі ведалі ўсе лясныя хады — там лясы каля гэтага Вуглішча, сюды, на Селішча, лясы, — дык павялі сваіх дачок тымі сцяжынкамі, выкралі іх. А я ж маладая дурная была *(смяецца)*, мне таксама захацелася ўцячы — гэтак дамоў хацелася! І вось калі аднойчы раніцай вывелі нас тыя акопы капаць, дык пакуль канваіры-палякі адышлі ў другі бок, я, не доўга думаючы, пабегла за нейкую хату, а пасля цераз кусты па сцяжынцы, якая вяла да возера, і памаленьку, памаленьку пабегла, аглядаючыся. Праўда, там ці немец, ці паляк стаяў, і ці ён мяне не замеціў, ці мо бачыў ды нічога не сказаў. А я бягом-бягом… Маладая ж была — магла бегчы, так да леса на дарогу і выбегла. Там ужо баявая дарога на Баяршчыну і Бабынічы ішла. Думаю: пайду гэтай дарогай на Баяршчыну, так і дадому дайду. І толькі на дарогу выйшла, а там старушка ідзе — можа, тожа ў лагерах была, ды немцы ці палякі адпусцілі яе, ці, можа, проста ішла, дык я дагнала яе, і пайшлі ўжо разам. Як раптам бачым, што ад дальняга берага леса насустрач нам пяць нямецкіх коннікаў скачуць! Далё-ёка яшчэ, а ўжо крычаць: «Хайт! Хайт!» І ружжа на нас настаўляюць. Ну, няма чаго было рабіць, старушка гэта ксціцца, а-я-яй! Я ўжо хацела ў лес драпануць, але яна кажа: «Не бяжы, застрэляць». Немцы пад’язджаюць: «Партызанкі! Партызанкі!» — і ружжа настаўляюць, і не так на старую, як на мяне, бо маладая ж «партызанка». Падышлі і ашчупваюць — думаюць: мо ў мяне дзе граната ці ружжо якое ёсць ці што. А я гэтак кажу: «Паночкі, не партызанка я, з лагера з Вуглішча іду. Немцы мяне адпусцілі. Дамоў іду». А яны ўсё раўно крычаць: «Партызанка!» Асабліва адзін крычаў і ружжо на мяне настаўляў. Ну, думаю, мусіць, заб’е. А тады гляджу — з імі яшчэ адна дзяўчына з Бычкоў, таксама з лагеру ўцякла ўпярод мяне, але і яе паймалі… Пакрычалі на нас, пакрычалі, біць, праўда, не білі, а тады завярнулі ў лес ды загадалі за імі ззаду ісці. Ідзем і дрыжым — мусіць, вядуць нас расстрэльваць. Ай-я-яй!.. Ужо пасля павозка ў другі бок паехала, а коннікі злезлі з коней і загадалі нам сесці каля дарогі. І вось сядзім, дрыжым і ўсё галосім, а яны хахочуць! А што ім — маладыя ж… Але, праўда, нічога — пакрычалі, пасмяяліся з нас, а тут ускорасці павозка ідзець — там, мусіць, немцы забітыя ляжалі ў лесе, дык яны забралі трупы ў павозку і ўжо едуць назад. Коннікі па канях селі, і мы, басаногія, удваіх з гэтай дзяўчынай ззаду пабеглі. Аж да Бабынічаў гэтак нас дагналі. Можа, кіламетраў пятнаццаць. І хоць бягом не беглі — упадбежку ішлі, бо яны ж ціха ехалі, — але ўсё роўна замарыліся.

Прывялі нас у Бабынічы, у камендатуру, і ўсё дапытваліся: «Вас у лесе паймалі. Вы партызанкі?» Ай, мы просімся-молімся: «Не, мы ў лагеры былі, дамоў ідзем…» Праўда, камендант не ругаў нас, не біў, толькі саставіў пратакол і ўручыў нам, а пасля даў аднаго канваіра і нас удзвюх пагналі на Ушачу. А там у камендатуры — дзе ва Ушачах старая школа была, там многа пленных сядзела ў гэтай школе — новы дапрос і зноў цвярдзяць: «Вы партызанкі». «Не, — кажам, — мы не партызанкі». Але таксама дужа не ругаў — толькі дапрасіў і зноў пратакол напісаў. Ужо пасля

загадалі нам на ганку пачакаць. А тая другая дзяўчына і кажа: «А есці ж хочацца!» — «Ай, — адказваю, — не гавары, здаецца, з’ела б невядома што!» — «Давай у перакладчыка папросім, каб ён нам хлеба прынёс». — «Дурная ты, — кажу, — думаеш, ён табе хлеба дасць?» — «Ай, што будзець не будзець, а папросім». Ну, і гаворыць: «Паночкі мае, мы дужа есці хочам, можа, буханку хлеба дасьцё?» І праўда, пайшоў і невялікую буханку хлеба прынёс. Такой смачнай яна нам здалася! А як падкрапіліся, паспасібавалі за тое.

Ужо пасля павялі нас нейкія градкі робіць, тады мы і ўбачылі знаёмага канваірапаляка з Вуглішчаў — канваіры ў лесе ўжо ўсіх дзяўчат зналі, і мы іх таксама зналі. «Паненкі, а чаго вы тут?» — пытаецца. Мы як ўсё было, так і распавялі, што ўцякалі, а нас злавілі, дык ён кажа: «Ай, паненкі, прасіцеся ў каменданта, каб зноў у лагер у Вуглішчы адправіў, інача папруць вас у Лепель, там пасадзяць у вагоны і адправяць як палонных у Германію, і вам там каюк будзе!» І пайшлі мы разам з тым палякам да каменданта. Той нас адпусціў і загадаў гэтаму паляку: «Бяры паненак і вязі зноў у Вуглішчы ў лагер». Паляк і забраў нас у сваю павозку, спас нас тады.

Праўда сказаць, у лагеры нас не білі. Толькі перакладчыца-немка (крываногая такая, усё з кійком хадзіла) вывела нас перад строем і пачала чытаць натацыю па-нямецку ды па-польску — яна ўсяляк гаварыла. Ну, але гэта мы перажылі!.. *(Смяецца.)* Галоўнае было, што зноў да сваіх дзяўчат вярнуліся. Магло ж і не пашчасціць, як тым дзяўчатам з Бычкоў, якія таксама ўцяклі і на якіх указала адна здрадніца — усё указала: якія ёсць дзяўчаты, якія ўцяклі, іх імёны і прозвішчы. Вось немцы і паехалі ўдвох за імі, зноў іх лавіць, у лагер везці. Прыехалі ў Бычкі і хадзілі па хатах. Калі хто пахаваўся і каго не было дома, дык хацелі хаты падпаліць. Таму некаторыя і прывялі тых дзяўчат. Немцы пасадзілі іх на павозку і ў Вуглішча павезлі. А дарога баявая была — свае, бычкоўскія партызаны падлажылі там міну, і калі яна рванула, дзяўчат параскідвала — адну адразу ўбіла, другой нагу адарвало (яна памёрла па дарозе), астатніх таксама параніла, але лёгка, немцы ж жывыя засталіся. Але, праўда, немцы не кінулі параненых — павезлі ва Ушачы ў госпіталь. А забітых ужо бацькі забралі, каб пахаваць. Дык пасля высветлілася, што тую міну падлажылі браты дзвюх забітых дзяўчат. Пад сваіх сясцёр падлажылі, во як выйшла.

Ну, а мы тады яшчэ цэлы месяц акопы капалі. Галодныя былі. Праўда, есці падносілі з дому, маткі паднасілі нам хлеба. А дома ж не было таго хлеба! Такога-сякога мама зладзіць і ляпёшку якую ўжо прынясець мне. У лагеры ж давалі зусім трошачку хлеба. Аднак палякі, якія такія нічога былі, чалавечныя, калі суп елі, дык не з’ядалі ўсё, гаварылі: «Паненка, вазьміце!»

А калі фронт пад Ушачы падышоў і сталі немцы адступаць, сабралі нас канваіры ў калону, завярнулі на бальшак і папёрлі перад сабой на Глыбокае. І так дайшла я да вёскі Пліса. Тут мы пераначавалі, а назаўтра зноў выстраілі нас у калону. Немцы адступаюць — толькі лязг ідзець. Я была крайняя ў калоне. Гляджу: дзяўчаты ракам-ракам за сарай і — у жыта. І я, не доўга думаючы, таксама рашыла: туды ж шмыгну… *(Смяецца.)* Сагнулася і за гэты сарай скоранька-скоранька ракам у жыта! Ну, думаю, зараз аўтамат задасць! Але не, ціха. Можа, і не заўважыў канваір — немцам ужо не да гэтага было, рускія па пятах у іх ішлі, і немцы не спраўляліся ўцякаць і таму дужа не звярталі ўвагі на палонных. Так і пагналі калону, а мы ціхенька ляжым у жыце і калоцімся ад страху. Нас дзяўчат пяць там было. А як стала ціха, дык нейкая жанчына з вёскі выйшла да нас і кажа: «Дзяўчаткі, тут вам не месца, бяжыце ў гэны лес, а то будуць немцы ісці». А там па бальшаку чуецца лязг гусеніц: немцы адступаюць. І мы пабеглі што ёсць сілы цераз луг у лес. Толькі ўбягаем, як насустрач нам чалавек на кані. Ай, думаем, немец ці паліцай — мусіць, папаліся! Але гэта аказаўся жыхар той жа вёскі, шмат

народу з Плісы ў тым лесе пахавалася, і кароў паўвадзілі, і рабят. І вось ён кажа: «Я вас, дзяўчаткі, завяду ў лес глыбей, дзе нашыя пахаваліся».

Там мы прасядзелі трое сутак. Ай, колькі нацярпеліся страху! Немцы адступаюць па бальшаку, а над нашымі галовамі міны і снарады так і свішчуць, так і лопаюць! І чуваць, як танкі ідуць ды як немцы лапочуць — чуваць гаворка іхняя, ну, блізка, зусім блізка… А на чацвёртыя суткі цішыня стала: лязг танкаў чуваць, але нямецкую гаворку — не. Кажам: што такое? Можа, ужо са страху не лапочуць? Тады адзін мясцовы жыхар сеў на каня і паехаў на разведку. На бераг леса, мусіць, выехаў. А пасля прылятае на кані: «Рускія ідуць!» Мы як сядзелі там — я якраз косы расплялa дык не справілася прычасаць іх, — так ірванулі на бальшак, папёрліся ад радасці. *(Смяецца.)* Выбягаем, а нікога няма, хоць і гул ідзе. Ідзем-ідзем, як раптам бачым: шкандыбаець нейкі салдацік, мусіць, адстаў ад сваёй часці. Мы як наляцелі на яго… *(Смяецца.)* Дзяўчаты абнялі яго, цалуюць, а ён просіцца: «Ай, дзяўчаткі, не прыдушыце хоць! Там ужо войскі ідуць, там шмат маладых, вы лепей іх падушыце». Ну, мы і пайшлі, глядзім — ідуць салдаты і на танках едуць, і крычаць нам, і махаюць: «Дзяўчаткі малайцы!» А мы ім тожа крычым: «Дзякуй, што асвабадзілі нас!» Праўда, некаторыя з іх крычалі: «А, шлюхі нямецкія! З немцам адступалі, цяпер ужо варочаецеся…» Ну, усякія ж былі салдаты рускія…

Калі ўжо падыходзілі да вёскі, я тады падумала: ай-я-яй, а можа, там толькі папялішча ў Бычках? Мы ж нічога не ведалі, можа, немцы калі адступалі, дык спалілі вёску? Спыталі ў Кублічах — не, кажуць, цэлая наша вёска. Ну, слава Богу… Ужо калі прыйшла дамоў, бацька з маткай галасілі: «Ай-я-яй, дзе ж наша Валечка?! Ай-я-яй!»

А калі ўжо Васіль з вайны прыйшоў, дык я яму пра тое расказвала. Але не толькі я — да Васіля прыходзіў адзін, у партызанах быў і сам хадзіў грабіў, дык пасля Васілю пра ўсё расказваў. Ды многа хто расказваў…

* * *

Калі блакада была, на нашу вёску не немцы наступалі, а «народнікі»-радзіонаўцы — быў такі камандзір брыгады Радзіонаў, ён спачатку «народнікам» быў і разам з немцамі ваяваў, а пасля перайшоў на бок партызан. Падчас прарыва блакады яго цяжка параніла каля вёскі Пліна. «Народнікаў» першымі ў бой гналі, вось іх амаль усіх і перабілі. Дык Радзіонава тыя партызаны, што ўцалелі, пасля аднеслі ў вялікі лес за Кублічамі, там ён, мусіць, і памёр. Але дзе яго магіла — ці там, ці пасля перахавалі, нешта не чула пасля таго. Таго Радзіонава і тады не дужа паміналі, і цяпер, відаць, таму, што «народнікам» быў і разам з немцамі біўся. Але тыя «народнікі» нас не чапалі. Я якраз толькі з плена ўцякла і дамоў вярнулася, ну і падчас прарыву блакады з партызанамі прыйшлося адступаць, хоць тых партызанаў мы нават не бачылі, — я ішла з сяброўкай, было яшчэ некалькі дзяўчат ды дзве сям'і разам з намі. І вось зайшлі мы ў Бабыніцкі лес, а там людзей — толпы, і мірных жыхароў, і партызанаў! Коні, каровы, павозкі едуць!.. І толькі мы зайшлі ў лес, як наляцелі самалёты нямецкія, як далі па гэтым лесе з кулямётаў! Ай, людзі ўрассыпную! Пакідалі павозкі і коней — ляцелі хто куды! І я таксама пабегла, прылучылася да адной з дзяўчат, астатніх паразгубляла, нават і не ведаю, куды яны падзяваліся. Помню, пад корч сагнулася, галаву гэтак хаваю… А тады браняпоезд падышоў, і як дала артылерыя! І міны цераз лес ляцелі, і снарады рваліся, і чорт ведае што там было! Мы назад-назад, і бабы сталі на мужыкоў галасіць: «Пойдзем дамоў! Што будзе, тое не будзе». І ўгаварылі мужыкоў, дый я з імі прылучылася, думаю: праўда, лепей дамоў ісці, а там ужо што будзе, заб'юць — дык заб'юць. Але ноч яшчэ тамка пераначавалі, каля возера. Гэны ж браняпоезд біў і біў, і цэлую ноч усё на свеце гуло, а як развіднела, дык мужчыны павялі нас на Баяршчыну, а тады на Вуцькавічы. Так

і вярнуліся мы дамоў. Ай, мама з бацькам былі ра-ады, а-я-яй галосяць! Яны ж плакаліся па мне, што я прапала, а як убачылі, што вярнулася, дык заплакалі ад радасці. Ну, і добра. Але толькі я прыйшла, дык глядзім, што цераз кусты ідзе цэп людзей у зялёных мундзірах. Бацька кажа: «Немцы ідуць!» А я стала з перапугу: ай, куды ж падзецца?! Ай, божачка!.. Раней у нас была ў сенях дзірка на чардак і лесніца стаяла, дык я па гэнай лесніцы на чардак і збегла. Сяджу там і ўся калачуся, думаю: а-я-яй… Але нешта ціха — калі б былі немцы, дык балбаталі б. А пасля чую — быццам руская гаворка. Прыйшлі ў хату і нешта гавораць з бацькам і з мамай. Пасля мама адкрыла дзверы з хаты і кажа: «Дзетка, не бойся, гэта не немцы, гэта рускія». А я, маладая, адчаянная была, дык скоранька злезла па лесніцы *(смяецца)* і ў хату прыйшла. Ну, раз не немцы — дык няма чаго баяцца, хаця ўсяка ж магло быць. Яны кажуць: «Не бойцеся, скора ўжо вашыя прыйдуць». Гэта былі «народнікі».

* * *

А агарод жа не было чым садзіць — зерня ніякага не было. Узяла я пяцьдзясят рублёў, мама мне дала, і пайшла ў вёску Празарокі, там раней кірмаш вялікі быў, купляць пялюшак — гэта як гарох. Цэлы пуд прынесла, маладая ж была, але амаль прыйшла. Тады толькі бацька і пасеяў агарод. Увосень ужо мама суп варыла з тых пялюшак з бульбай — бульбу, пуды два, мама ў адной цёткі купіла ў Клябцах за Кублічамі, лапатачкай яе пасадзілі. А вясной жа есці нечага было, ні мучынкі не было — траву елі. Тады мама сабралася да брата ў Завулак, хоць яшчэ польская граніца была, пагранічнікі стаялі і не пускалі на той бок. І хоць баялася мама, але ціхенька пайшла цераз граніцу па лесе. Праўда, нікога не сустрэла. «Заднікаў» жа немцы не грабілі, толькі партызаны наляталі ды грабілі, як на заданне якое ехалі. Так мама, помню, прынесла дзве торбачкі пшанічнай мукі, харошай такой, мяканькай, насілачку, казала, прынесла, ды мяса ці сала брат яшчэ даў. Тады я ўжо шчавулля назбіраю, мама яго натрэць-накрышыць, мукі дадасць, і ляпёшкі пяклі.

* * *

Вайна яшчэ не скончылася, але фронт ужо перайшоў у нас, і калхозы арганізаваліся, капалі зямлю лапатай — араць жа не было чым. А тады прыйшоў старшыня калхоза і гаворыць: «Дзяўчаты, хто хоча ехаць за каровамі ў Германію? З вёскі пасылаюць тры чалавекі. Калі прыгоніце, дадуць вам па карове». Ай, мы ўзрадаваліся і сабраліся ўтраіх: я, мая стрыечная сястра (яна цяпер на могілках ляжыць) і яшчэ трэцяя дзяўчына. Хоць па карове, думаем, атрымаем. *(Смяецца.)* Ну, і паехалі. Спачатку прыехалі ў Вушачу, там нам камандзіроўкі выпісалі. А пасля ў Полацак паехалі на машыне. Адтуль цэлая група дзяўчат і начальнік над намі ўшацкі раённы паехалі цягніком — на таварняк нас пасадзілі і адправілі ва Усходнюю Прусію. Быў красавік, чысла восьмага красавіка, было яшчэ халаднавата, а мы амаль голыя. З абутку ў мяне былі лапцікі нейкія — бацька зробіў такія чунькі, пашыў з нейкай скуры, і чулкі з воўны длінныя — мама звязала мне, ды нейкае пальцішачка, у ім я яшчэ ў школу хадзіла. Ехалі, мусіць два тыдні. Вядома ж, таварняк, яго загонюць на станцыі ў тупік, дык мы цэлы дзень сядзім у вагоне. Мусіць, вакно было там ці нават не было вакна?.. Але што ж мы елі? Нешта, мусіць, нам давалі, толькі я забылася, з галавы выйшла… Ну, прыехалі ў Германію і размеркавалі нас па групах. Гэта каля Кенігзберга было. Мы нават хадзілі туды, Кенігзберг разбіты тады быў. Сабраліся неяк дзяўчаты — давайце сходзім на магілы пахаваных салдат, паглядзім…

Нашу групу прывезлі ў нейкі панскі маёнтак, ба-альшы-ы такі. Там жа маёнткі былі цагляныя, двух- і трохпавярховыя, усе стаялі па адным — як хутары. А каля маёнтка

вялікая ферма і кароў па дзвесце і болей. І вось далі нашай групе — нас восем чалавек было, два мальцы і шэсць дзяўчат, — сто дваццаць кароў. Спачатку мы толькі даілі іх, а даглядалі ўжо палякі ды салдаты, немцаў там не было. Кармілі ж у іхняй сталоўцы. Малака, вядома ж, хапала. Мы і масла самі збівалі, у нас з сабой былі і бітоны, і маслабойкі. Але дзе мы ўсё з'ядзём? Масла саб'ём, астатняе малако выльем. І так мы месяц у тым маёнтку пражылі.

Тады, дарэчы, пачулі, што блізка ёсць мястэчка нямецкае Нікалайкі, дзе стаяць нашы салдаты і дзе танцы будуць арганізаваныя. І вось мы, дзяўчаты, сабраліся на тыя танцы. Прыходзім, музыка іграе, але салдаты да нас не падыходзяць — з полькамі танцуюць факстроты. Вядома ж, у полек і адзежа харошая, яны і прыбраныя ўсе, прыгожыя ды ўкормленыя, а мы — амаль голыя. І вось так мы стаялі-стаялі, а пасля пакрыўдзіліся і ўцяклі, дамоў пабеглі і як сталі плакаць! Асабліва адна дзяўчына плакала: «Ая-я-яй! Рускі нават не падышоў да нас! І не загаварыў з намі! Яму полькі лепей!» — «А чорт іх бярэ! — сказала я на гэта. — Раз мы ім не нада, дык і яны нам не нада!» Я яшчэ безразлічная да гэтага была: мне сямнаццаць гадоў было, толькі васямнаццаты ішоў…

А ўскорасці нас перавялі ў іншы маёнтак, там мы ўжо самі кароў даглядалі — і пасцілі, і даілі. І так, мусіць, чатыры маёнткі перамянілі і тры месяцы ў Германіі прабылі. Жылося нам добра, бо ўсяго хапала — і масла, і смятаны, і хлеба, і бульбы, бо ў кожнага маёнтка былі бурты з бульбай і ў паграбах бульба была пакінута. Дамы ж пустыя стаялі, толькі калі якую пажылую немку сустрэнем, а так нікога не было. Мы ўсё хацелі нейкую адзежу знайсці, абутак які, але там ужо паразграблена было — відаць, перадавыя часці як ішлі, дык паразграбілі ўсё…

А як адбылі тры месяцы, дык пайшлі гнаць кароў на Ушаччыну. Пяшком дзень і ноч тры месяцы гналі. Прыйшлі ўжо пад восень, у верасні, ужо дажджы сталі кожны дзень ісці. Мы змокнем, абсушыцца ж няма дзе, і ходзім каля кароў гэтых, пасвім іх і гонім, цэлы дзень гонім. Толькі ўначы, калі прыйдзем у які-небудзь гарадок ці ў якую вёску, ці каб была якая агароджа, тады запром тых кароў, а самі ўжо дзяжурым па два-тры чалавекі. Спачатку я была галоўная, а як аднойчы карова здохла, дык мяне знялі. Мы ж у полі начавалі, а там блізка канюшына была пасеяна. І вось адна карова неяк вылезла з агароджы і пад'ела той канюшыны, а яна мокрая была, дык карову так абдула, што яна здохла.

Увогуле да Вушачаў мо палавіна тых кароў дайшла. У іх жа за дарогу ногі пападбіваліся. Вядома ж, увесь час ідзём, удзень праходзілі па трыццаць кіламетраў, таму і сталі яны кульгаць. Вось карова ідзець-ідзець, а пасля ляжа і не зварухнуць яе! Што з ёй зробіш? Трэба ж гэтых гнаць, ну, і кідаем на дарозе. Калі блізка хутар, тады мальцы нашы скажуць немцам: забірайце сабе карову. А калі не, дык проста кідалі яе ці прыразалі. Я сама падбілася па дарозе — амаль басяком ішлі ж, і як узарвалі мае нарывы на назе! Не магу ісці, кульгаю, а-ай, на адной назе скокаю. Ну, тады мяне на павозку пасадзілі, так я і ехала, пакуль нага не палепшыла.

Дый запускаліся па дарозе каровы гэтыя. Цэлы ж статак быў, а нас шэсць чалавек дзяўчат, мальцы не даілі, толькі за коньмі глядзелі. Спачатку мы ўсіх кароў стараліся даіць, а тады рукі замлеюць, дык троху, дзве сіські выдаім… Дзе ж усіх падоіш — сто пяцьдзясят кароў! Яны ж многа малака давалі, каб іх халера!.. *(Смяецца.)* Нам і не выпіць было столькі малака, дык калі немка якая падойдзе, тады нальём ёй цэлае вядро… Каровы спачатку здаровыя былі, а пасля павысыхалі, дый мы паробіліся абы-якія. Схуднелі і мы, і каровы, яны ўвогуле знявечаныя прыйшлі…

Ну вось прыйшлі мы ў Вушачу. Кожная дзяўчына прыкмеціла кароўку, якую сабе возьме. Але прыходзіць начальнік, мы пытаемся: «Калі ўжо нам дасцё кароў?», а ён

у адказ: «Прыйшоў загад: кароў нельга вам аддаваць. Ня меем права». Ай, тут дзяўчаты як сталі галасіць: «За што ж мы гэтак мучыліся?! Абяцалі ж нам!..» — «Нічога, мы налічым вам трудадні і камандзіровачныя, і троху аплацім». Ужо не помню, колькі трудадней тады налічылі і колькі заплацілі, але мала далі грошай. Тых жа кароў начальства пабрала сабе ды сваім родным. Далі яшчэ сем'ям чырвонаармейцаў і партызанаў, калі загінуў хто. І хоць Васіль таксама ваяваў, але, відаць, таму, што не ад нас пайшоў на фронт, не з Бычкоў, таму і палічылі, што мы — не чырвонаармейская сям'я. Усё роўна Васіль як не член сям'і быў.

* * *

Шэсць гадоў пасля вайны былі мы зусім без каровы, а тады купілі бацька з маткай маленькую цялушачку ў Чарапоўшчыне. Тры гады мы яе гадавалі, а ўжо, мусіць, на чацвёрты год ацялілася яна нам. І малако сваё было. Але пабыла ў нас яшчэ гады два ці тры, а тады недзе аб'елася напасці і абдулася, тры дні пахварэла і здохла кароўка наша. Ай, бацька бедаваў, плакаў разам з мамай!.. Пасля ўжо сабралі неяк грошай і новую карову купілі ў Слабодцы. Тая ўжо парадачна ў нас пабыла — гадоў сем ці дзевяць, стараватая стала. Радзіла яна нам цялушачку. Яшчэ бацька быў жывы, мама ж зусім не магла ўжо работаць, дык ужо я гадавала тую цялушачку. А памазлівая ж дужа была тая кароўка, як пойдзе на пасту, дык дамоў не прыходзіць, а пойдзе ад іншых кароў, у кусты залезе ці ў шкоду, і вось мы з бацькам ходзім і шукаем яе. Усе лясы абыйдзем, пакуль знойдзем яе! Дык надакучыла яна нам, і адвяла я яе ў Вушачу, а цялушачка — добрая кароўка была…

* * *

Увогуле, у жыцці мала святла было. І да вайны было цяжка, і пасля вайны, і дзяцінства цяжкое было, і юнацтва. Неяк лягчэй стала толькі тады, калі ў калхознай канторы пачала працаваць, дык яшчэ Васіль дасылаў нам тады грошай. Я адзежы сабе справіла, троху плаццяў нашыла, дык на танцы калі ўвечары з дзяўчатамі сабяромся, у Чарапоўшчыну ці ў Кублічы. Вось тады мне было весела, было добра. Ну, вядома ж, маладзейшая была… А пасля зноў стала цяжка — як пайшла ў брыгаду работаць, бо трэба было і сена грабіць, і грузіць што, асабліва як увосень. Цяжкавата было, ну але неяк прывыкла. Аднак галоўнае, што трэба было дома робіць, бо малодшы брат Мікола ўжо зусім быў хворы і нічога сам робіць не мог — ні каля хаты, ні ў сваім агародзе. Я тады і дровы секла: за агарод пайду і за дзень вазы два-тры насяку, пасля трактар наймаю… Ну, а калі замуж пайшла, дык толькі ўсё завяршыла, бо калі раней хоць і робіць што трэба было, дык галава спакойная была, а тут мужык папаўся — і лянівы, і выпіць любіў, не дай Бог…

А цяпер толькі б здароўе было. Праўда, пенсія малая — трыста тысяч. Як раней дзвесце шэсцьдзесят атрымлівала, дык мне неяк хапала, нават заставалася. Ем жа я зусім мала дый толькі два разы ўдзень. Як даўней Васіль да нас прыязджаў, дык таксама казаў, што толькі адзін раз у дзень есць, гэта ўжо ў апошнія гады. І я ж не купляю сабе ні мяса, ні кілбас — толькі малако, смятану ці масла, дык вось бліноў калі напяку. Ну, яшчэ лекаў купляю многа, а яны ж падаражэлі дужа, і прадукты таксама падаражэлі, дык я цяпер толькі-толькі канцы з канцамі зваджу. Ну, што ж ты зробіш… Я ўжо не веру, што будуць калі лепшыя часы. Я не дачакаюся іх… Дый адна зусім засталася. Гэта цяпер як пацяплела, на двор выходжу, а зімой адна ў хаце сяджу. Ніхто нават дзвярэй не адкрыець. І калі б памёрла, дык ніхто б і не даведаўся пра тое…

*Запісаў Сяргей ШАПРАН*

# «ОСТАЮСЬ ЖИВ И ЗДОРОВ. ВАШ СЫН И БРАТ ВАСИЛИЙ»
## Письма Василя Быкова родным (1944–1946)

Это собрание эпистолярного наследия народного писателя Беларуси Василя Быкова, вне всяких сомнений, уникальнейшее: 12 фронтовых писем, написанных в период со 2 апреля 1944 г. до 25 апреля 1945 г., и 12 писем, датируемых маем 1945 г. — ноябрем 1946 г. Причем географическая составляющая их отправки достаточно широка: Украина, Бессарабия, Румыния, Венгрия, Австрия, Болгария, опять Украина. Впрочем, удивительно не только то, что письма эти чудом сохранились, но и то, что о существовании их до последнего времени практически не было известно, — ранее весь цикл писем никогда не публиковался[1] и не упоминается ни в одной из доброго десятка монографий о писателе, вышедших в период с 1968 и вплоть до 2005 г.

Впервые рассказала нам о нем сестра писателя Валентина Владимировна Быкова. Говорила, в частности, что в начале 1980-х письма эти, хранившиеся на чердаке в родовом доме Быковых в д. Бычки Ушачского района (в 2004 г. дом был снесен, вместо него была возведена Усадьба-дом Василя Быкова), были переданы ею в один из музеев Витебска. За исключением первого фронтового письма — оно было найдено во время сноса дома Быковых; год потом водитель возил его в бардачке машины, пока не передал вдове младшего брата писателя Антонине Александровне Быковой, являющейся, по существу, смотрительницей музея в Бычках.

Письма эти вызывают колоссальный интерес, конечно, прежде всего потому, что написаны рукой одного из лучших — наряду с В. Астафьевым, Г. Баклановым, В. Некрасовым — писателей военной темы и что в них нет-нет да проскакивают биографические факты и эпизоды фронтовой жизни Быкова. Так, например, в них дается краткий рассказ о жизни в первые три года войны: отступление с частями Красной армии из Шостки, далее — остановки в Воронеже, на станции Салтыковка, в колхозе в Саратовской области, в Аткарске, учеба в Саратовском военном училище; впоследствии — 2-й Украинский фронт, ранение под Александрией, второе ранение под Кировоградом, наконец, госпиталь. «Воевал я, как положено воевать красному воину и командиру. Сам немцев и румын бил, другими командовал, а те били, в атаки ходил, языков приводил, в тылу у немцев был, в окружении был. Везде одна была забота и приказ начальства — это немцев побольше угробить. Конечно, немцы тоже били и убивали и калечили. Но и мы в долгу не оставались», — писал В. Быков в 1944 г. И в другой раз: «Вся жизнь настоящая состоит из трех этапов: марш, бой и короткий отдых. Так каждый день, так на войне. Продуктов хватает, бывает часто вино и водка. Почти каждый день». Или чего стоит такой фрагмент из письма от 16 марта 1945 г. (до Победы оставалось менее двух месяцев): «…немцы перешли в наступление и хотят при помощи огромной массы танков сбросить нас в Дунай. <…> Уже мы уничтожили более 4 сот танков (за 10 дней), но противник все еще бросает новые и новые. Нет сомненья, что мы их перемелем, но вот пока очень еще трудно». Это тот редкий случай, когда Быков, не удержавшись, все-таки признался: «…но вот пока очень еще трудно». Или вот уже по-мальчишески задиристо написал о похоронке, которую получила его семья: «Если там Вам какой-то дурак пишет, что я убит и где-то похоронен, то плюньте ему в глаза».

В послевоенных письмах Быков уже меньше рассказывает о себе («Вы, может, помните, что с фронта и то я чаще писал. Это потому, что тогда каждый день обстановка

[1] Впервые частично опубликованы: Шапран С. Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах. Мінск: Бібліятэка Бацькаўшчыны; Гародня: Гарадзенская Бібліятэка, 2009.

и положение менялись <…>. А сейчас все так постоянно и одинаково каждый день, что даже писать затрудняюсь») и все чаще спрашивает о том, как и чем живы его близкие: «Очень соскучился по Вас без писем. Ничего мне неизвестно, как живете, есть ли чем питаться, как здоровье, где Валичка? Вот вопросы, которые тревожат меня»; «Дорогой мой Отец! Пишите подробно все об условиях своей жизни. Ничего от меня не скрывайте, а так и пишите как есть. И особенно о своем здоровье и здоровье Мамочки»; «Мне удивительно и непонятно, почему это с колхоза ничего почти не дали из хлеба. Как же жить, если осенью и то уже нет хлеба. <…> Это очень меня тревожит, и я все думаю над тем, какая тяжелая жизнь и когда же ей придет конец, когда же засветит счастье и достаток и в Вашем бедном и горемычном крае?». И не раз и не два сообщает, что хотел бы приехать на побывку, однако обстоятельства каждый раз оказывались выше его: «Когда возвращусь на родину, не знаю. Во всяком случае, не скоро. Надоела уже эта жизнь за границей, хочется в свои края, но что ж, ничего не поделаешь, раз так, значит так нужно». Лишь в 1947-м Быков был демобилизован из армейских рядов.

Многое расскажут эти письма и об отношении будущего писателя к своим родным: сестра у него почти всегда — Валечка, младший братишка — Николка, отец — «татуль», «татулечка», мама — «мамочка», причем нередко пишет «Татуль» и «Мама» как имена собственные — с заглавной буквы. Точно так же, обращаясь ко всей семье, и «Вы» часто писал опять же с заглавной буквы — таковым было уважительное отношение двадцатилетнего Василя Быкова к близким ему людям. И ведь своей жизни ему было не жалко — «жалел только, что в случае гибели моей никто Вам не сообщит».

Хотя встречаются в этих письмах и несколько пафосные заявления: «Эти проклятые немцы ограбили все, что могли и везде. <…> Но все это им не пройдет даром. Могучая Красная Армия неуклонно приближается к границам Германии. Немцы ответят за каждую каплю нашей крови, за каждую слезинку». Впрочем куда как больше искренности все-таки в иных словах лейтенанта Быкова: «…мы не против наломать дров с проклятых фрицев, как это было раньше». Или, скажем, еще такое его признание, уже совсем иного рода: «Соскучился очень по Белоруссии, ее живописной природе, ее лесах и озерах. Не думайте, дорогие мои, что наша земля (Белорусская) плохая. Она многим лучше многих земель, где я бывал». И в другой раз: «Весь юг европейской части Союза исходил — от Волги до Прута. Много чего видел и жил поразному — и хорошо и плохо, а все же Родина — родные края наши — дороже и милее всех земель. И мне кажется, что наша местность лучше других. Родину никогда нельзя забыть. Она одно из немногих постоянных вещей, которые для человека дороги всегда». Подобные слова не пишутся под впечатлением от занятий по политподготовке и газетных клише — они исходят из самых глубин человеческой души, оказавшейся в несусветной дали от родного дома. Вообще говоря, этот цикл писем, на наш взгляд, вполне мог бы стать предметом самостоятельного литературоведческого исследования, которое, обнаруживая биографические параллели и анализируя эволюцию литературного стиля, связало бы в одно целое художественное творчество писателя и его эпистолярное наследие.

Остается добавить, что все письма Василя Быкова (за исключением первого, хранящегося у А. А. Быковой) печатаются по копиям, которые были сделаны с рукописных подлинников, находящихся в фондах Витебского областного краеведческого музея.

* * *

*2 апреля 1944 г.*[2]

Добрый день, дорогие родители! Пишу Вам, но не надеюсь, чтобы Вы получили мое письмо. Не знаю, живы ли Вы и как Вы живете. Я пока жив. Воюю. Сейчас направляюсь на фронт из госпиталя. От родных мест дал [*неразб.*]. Освобождаю Украину.

Больше ничего не сообщаю, но если буду живой, то буду писать.

С прив[етом], Ваш сын и брат

Василий Быков

* * *

*7 августа [1944 г.]*

Добрый день, дорогие мои, Татуль, мама, Валя и Николка[3]! Сегодня, 7 августа, я впервые увидел адрес, писанный твоею рукой, и хотя обратный адрес стерся, все же я сразу узнал, чья это рука.

Как я рад, что Вы все живы. Все эти годы я очень боялся, что больше никогда не увижу и ничего не услышу от Вас. Я хорошо знал немецкие повадки, пройдя с боями через всю Украину, я насмотрелся на все несчастья народа, освобождаемого от немецких захватчиков. Очень боялся, что Валечку увезут в Германию. Но хорошо, что все обошлось хорошо. На Украине тоже так, остались только те девушки и хлопцы дома, кто случайно сумел убежать из лагеря или прыгнул из поезда. На правой стороне Днепра, здесь села

---

[2] На обороте надписи типографским способом (вверху и внизу): *Выше черты не пишите!*; *Ниже черты не пишите!* На титульной стороне листа типографским шрифтом (соответственно сверху вниз): справа — *Для карандаша*; ниже — *Смерть немецким захватчикам!* **ВОИНСКОЕ**; далее рукой В. Быкова написан адрес (тут же два почтовых штемпеля, дата неразборчиво, возможно: 4.04.1945 г.):

Куда *Витебская обл.*
*Ушачский р-н*
*Череповский с/с д. Бычки*
Кому *Быкову Владимиру*
Адрес отправителя: Полевая почта «*2623*» (указать номер
полевой почты)
*Быков Василий Вл.*
(Фамилия, имя и отчество) Цена 6 коп.
«Советский График» Всекохудожника по заказу УВПП. Рис. В. Бибикова. № 22.
Далее идет рисунок праздничного салюта над Кремлем и стихотворение справа:

САЛЮТ

С каждым днём настойчивей, победней
Залпы орудийные в Кремле.
Будет день, когда раскат последний
Праздник возвестит родной земле.

Возвестит победу над врагами,
Что падут, разбившись о гранит.
И, как прежде, ленинское знамя
Все края Отчизны осенит.

Наши сёла встанут из развалин,
Города пышнее расцветут…
Будет день, когда прикажет Сталин:
— Победившей Родине — салют!

*С. Маршак.*

[3] Быков Николай Владимирович — младший брат В. Быкова.

больше пострадали от боев, меньше были сожжены немцами. На левобережье же (Полтавская, Харьковская обл.), там буквально все сожжено.

Это я вообще. Сейчас напишу о себе.

В 1941 году, с начала войны, я был в городе Шостка. В августе 41 г. город заняли немцы. Я вместе с Николаем Степановичем[4] и другими тов[арищами] ушел из города вместе с Красной Армией. Всю осень части Красной Армии отступали. С ними отступал и я. Путь был тяжел и долог. В непрерывных боях мы дошли до Воронежа. Там я потерял Николая, не знаю, куда ушел из Воронежа, но в той неразберихе ничего нельзя было понять. Больше я его не видел и ничего не слыхал о нем. В конце ноября 1941 года я в составе одной части прибыл на ст. Салтыковка (это уже в Саратовской обл.). Весь путь был проделан пешком, иногда на повозках и машинах. Там меня, как еще молодого для службы, отпустили из части и направили в колхоз на работу. Всю зиму и весну 1941–1942 года я был в Саратовской обл. сначала в колхозе, потом в г. Аткарске (в 90 км от Саратова) на транспорте ж[елезно]-д[орожном]. Летом 1942 г. снова меня взяли в армию и через некоторое время направили в военное училище в г. Саратов. В училище я был довольно долго (больше 1 года). Осенью 1943 года меня выпустили оттуда офицером и направили на 2-й Украинский фронт. С первого же дня пошел в бой. Тогда уже воевали на Кировоградской обл. В наступательных боях освобождали села и города. Под городом Александрия 2 декабря 43 г. я был ранен в руку и голову. Ранение было легким, и я, не уходя в тыл, вылечился в медсанбате. Потом 7 января при наступлении на г. Кировоград я был вторично ранен пулей в правую ногу. Тут уже пришлось ехать в госпиталь. В госпитале был 2 месяца с половиной, вылечился и снова в строй.

Вот такой мой путь за эти 3 года. Кратко. Чего пришлось пережить, сами знаете. Своей жизни не было жалко, жалел только, что в случае гибели моей никто Вам не сообщит, потому что родная Витебщина еще не была освобождена. Мое письмо Вам я написал еще с самого начала наступления Белорусских фронтов. Как раз оно оказалась впору.

Сейчас я нахожусь в Бессарабии. Далеко от родных мест. Соскучился очень по Белоруссии, ее живописной природе, ее лесах и озерах. Не думайте, дорогие мои, что наша земля (Белорусская) плохая. Она многим лучше многих земель, где я бывал. И климатом и местностью.

Так вот я сейчас, значит, в центральной Бессарабии. Недалеко от румынского города Яссы, который стоит по ту сторону реки Прут. Пока живется неплохо. Пока не начнутся жестокие бои.

В этом письме шлю Вам свою фотокарточку последнего времени. Скоро высылаю денежный перевод на 1000 руб.

В Киевской обл. у меня есть знакомые. Я был у них весной в госпитале. Они тоже напишут вам обо мне. Я просил их еще весной об этом.

* * *

<u>письмо № 2</u>

Добрый день, дорогие мои: Отец, мать, Валя и Николка!

Сегодня, 12 августа, получил Ваше второе письмо. Вы беспокоитесь, получив извещение о моих похоронах. Все это чепуха и неправда, как сами видите. Правда, был бит, но недобит и отправлен в госпиталь на ремонт, а не похоронен. Ранение было тяжелое, но благополучно зажило, и сейчас все в порядке. Нога находится в хорошем состоянии. И вообще, надо сказать, что медицина у нас работает прекрасно.

[4] Быков Николай Степанович — двоюродный брат В. Быкова.

С мая м[еся]ца я нахожусь в Бессарабии. Служу на такой должности, на какой служил в 38–39 г. в Кубличах[5] Хиль, а несколько раньше его Жигалов[6]. Живу в селе. Население тут большей частью молдоване, по-русски почти не понимают. Есть некоторые села украинские. Пока живу хорошо. Много фруктов: были черешни, вишни, абрикосы, сейчас спеют сливы, яблоки, груши. Весною было оч[ень] много вина виноградного. Пили бочками. К концу августа поспеет виноград, с него же будет вино.

Солдаты со мною все украинцы. Все старики, годны мне в отцы. Народ хозяйственный и толковый.

Конечно, в то время, когда Вы будете читать эти строки, я, по-видимому, буду уже в боях, в наступлении. Как тогда буду жить, можешь, дорогой отец, судить сам. Описывать нечего, сам знаешь. По тому, как Вы пишете, я знаю, что живете плохо. Эти проклятые немцы ограбили все, что могли, и везде. На Украине то же самое. Забрали скот, забрали имущество, людей тоже угнали в Германию. Но все это им не пройдет даром. Могучая Красная Армия неуклонно приближается к границам Германии. Немцы ответят за каждую каплю нашей крови, за каждую слезинку.

Но мужайтесь, дорогие мои. Были бы только живы и здоровы, а все остальное будет. Буду жив, я обязательно буду помогать Вам.

Дорогой Отец! Пишите побольше о своей жизни и о жизни всех. Я все беспокоюсь, как здоровье мамы. Оно и раньше неважное было, а сейчас, наверное, еще хуже. Пусть пишет мне и Валечка. Она напишет подробнее. В первом письме Валя написала мне подробно о наших знакомых в селе. Пусть она напишет, как живут в Кубличах, там ведь тоже было много мне знакомых. Где наши учителя из Кублич[ской] школы.

Ну, я кончаю. Остаюсь жив и здоров Ваш сын и брат

Василий.

12 авг[уста] 1944 г.
Бессарабия
Пришлите адрес Миши[7].
ПИШИТЕ почаще и
подробнее.

Привет всем родным и знакомым — дяде Степану, Василию, Жене, Наде, Мане[8]. И дочкам Степана Федор[овича], кто есть дома.

Привет партизанам и партизанкам нашим[9].

* * *

Добрый день, мои дорогие — татачка, мама, Валичка и Николка. Чтоб Вы не обижались, пишу Вам часто, хотя писать нового, особенно такого, чтоб Вас интересовало, нечего, а старое, минувшее вспоминать тоже неохота. Если бы чего хорошего вспомнить, а то все одно и то же — войну. Что такое война, наверное, уже все знают, все ею насытились

[5] Кубличи — местечко недалеко от деревни Бычки, куда В. Быков ходил в среднюю школу.

[6] Имена и должности Хиля и Жигалова не известны. В это время сам В. Быков был командиром взвода армейской артиллерии на 3-м Украинском фронте.

[7] Быков Михаил Дмитриевич — земляк В. Быкова, друг детства. Проходя до войны службу в Красной армии, находился в Москве.

[8] Степан, Василий — родные братья отца В. Быкова; Женя, Надя, Маня — дочки Василия Федоровича Быкова.

[9] На титульной стороне письма слева внизу, рядом с текстом наискосок: *В прошлом письме я слал Вам свое фото. Получили ли Вы его?*

по горло. То, что я видел, видели и Вы. Как люди умирали, как села горели, как добро народное погибало — кто не видел за эти страшные годы войны? Валя спрашивает в первом письме, как я воевал. Воевал я, как положено воевать красному воину и командиру. Сам немцев и румын бил, другими командовал, а те били, в атаки ходил, языков приводил, в тылу у немцев был, в окружении был. Везде одна была забота и приказ начальства — это немцев побольше угробить. Конечно, немцы тоже били и убивали и калечили. Но и мы в долгу не оставались. Если там Вам какой-то дурак пишет, что я убит и где-то похоронен, то плюньте ему в глаза. Что будет дальше — не знаю, а пока меня еще никто не хоронил. Я сам уверен и вас хочу уверить, что я живой есть и совершенно здоров.

За время войны бывал во многих областях и городах нашей страны. Весь юг европейской части Союза исходил — от Волги до Прута. Много чего видел и жил по-разному — и хорошо и плохо, а все же Родина — родные края наши — дороже и милее всех земель. И мне кажется, что наша местность лучше других. Родину никогда нельзя забыть. Она одно из немногих постоянных вещей, которые для человека дороги всегда.

Я все прошу, чтобы Вы написали подробно, как живете. Немцы, наверное, разграбили все хозяйство, как личное, так и колхозное. Как собираете хлеб, как сами живете. Напишите, как дороги у Вас продукты и что можно купить нужное для Вас. Чем могу, я всегда помогу Вам. На днях я выслал Вам несколько денег, узнайте на почте. Если нужно чего купить, пишите. Сколько смогу, пришлю.

Я пока живу хорошо. Все есть. И время, и отдых. Но, конечно, скоро пойду в бой, за окончательный разгром врага.

Я кончаю. До свидания.

С прив[етом] Ваш сын и брат

Васька

Привет дяде Васе, дяде Степе, их семьям, всем знакомым партизанам.

20 авг[уста] 1944 г.

Мой адрес: полевая почта

25771 — Быкову В. В.

Получил письмо от Миши Дм.[10] Он сейчас в Москве, где был и до войны. Если есть еще чьи адреса, то пришлите, как Ильюши Степановича или Коли Борисовича[11].

С прив[етом] Васька[12]

* * *

Добрый день, дорогие мои Тата, Мама, Валичка и Николка! Передаю свой фронтовой привет из далекой знойной Румынской земли. Несколько дней назад мы, форсировав реку Прут, вошли на румынскую территорию. У переправы немцы ожесточенно сопротивлялись, но мы, перебив их, переправились на правый берег. Крестьяне в Румынии

[10] Быков Михаил Дмитриевич.

[11] Быков Николай Борисович — сосед В. Быкова, друг детства.

[12] На конверте рукой В. Быкова:
*Витебская обл.*
*Ушачский р-н*
*Череповский с/с*
*к-з «2-я Пятилетка»*
*Быкову Владимиру Ф.*
*полевая почта 25771-т*
*Быкову В. В.*
На штемпеле — 23.10.1944 г.

*— Аркадзь Аляксандравіч збіраўся на наступны дзень да Пятра Машэрава.*

— Тым не менш падпісаў. Апошнім быў Максім Танк. Мы спецыяльна пайшлі да яго пасля Лынькова і Куляшова, бо абодва яны былі для Танка, можна сказаць, настаўнікамі. Да таго ж была розніца ва ўзросце: Лынькоў быў старэйшы на трынаццаць гадоў, і Танк ніколі не гаварыў «Міхась» — заўсёды «Міхась Ціханавіч». (Праўда, пазней я чуў ужо «Міхась», але гэта калі ўжо самому Танку пераваліла за 50.) Таму архіважна было, каб Танк убачыў, што Лынькоў і Куляшоў ужо паставілі свае подпісы. Трэба сказаць, што пры ўсёй яго вялікай палымянай любові да Бацькаўшчыны, да мовы — якія тут могуць быць сумненні? — ён не вызначаўся смеласцю. Куляшоў у гэтым сэнсе быў больш рашучы. Але гэта была вялікая заваёва, калі мы атрымалі вось гэтыя тры галасы.

* * *

Дарагі Ніл!

Дзякаваць богу, ёсць яшчэ на свеце сяброўства. Хлопцы падбадзёрваюць — гэта ўмацоўвае мае сілы. А ўвогуле кепска. Не артыкул[48], артыкул — глупства. Па ўсіх іншых каналах. Дайшлі нават да школ і дзяцей. У школах даводзяць, што Быкаў — гэта гродзенскі Сіняўскі[49], вораг. І хто? Ведама, кадравыя работнікі КГБ. Пайшлі на прадпрыемствы «с разъяснениями». З дня на дзень усё горш. Як воўка ў аблаву.

Але — вытрымаем!

І падтрымка сяброў — абавязвае.

Дзякуй!

Шчыра твой *В. Быкаў*.
*14/IV-66 г.*

— Пасля пайшлі «агітаваць» аднаго рэдактара часопіса — Ілью Данілавіча Гурскага, равесніка Лынькова, які, зрэшты, не паглядзеў на гэтыя аўтарытэты і, выйшаўшы з намі ў альтанку, сказаў: «Хлопчыкі, не рабіце гэтага, бо бяды наробіце ўсім нам і Быкаву. Не рабіце гэтага, паслухайце мяне…» І — не падпісаў… Быў яшчэ трошку гумарыстычны эпізод з Іванам Навуменкам, які спачатку адмовіўся, а на наступны дзень сам прыбег і папрасіў падпісаць… Бывае, ведаеце… Вы павінны помніць адно — гэта некалі ў мяне Быкаў спытаў:

— Ты вось тое, што мне кажаш, усім гаворыш?

— Ну, што значыць — усім? — адказваю. — Я ж з незнаёмымі на вуліцы не гавару, а калі выступаю з трыбуны з’езда, дык ты сам чуў. Ты выступіў, і я выступіў. Ты — наконт дэмакратычных свабод і свабоды слова, наконт засілля цэнзуры, а я пра мову гаварыў.

— Ну, гэта на з’ездзе. Ты ўсё-ткі помні, што з кожных трох пісьменнікаў адзін стукае.

— Перабольшваеш.

— Перабольшваю. А можа, не…

---

[48] Артыкул супраць В. Быкава «Вопреки правде жизни» (Советская Белоруссия. 1966. 8 апр.).

[49] Сіняўскі Андрэй Данатавіч (1925–1997) — рускі пісьменнік, які разам з таксама рускім пісьменнікам Даніэлем Юліем Маркавічам (1925–1988) быў прыгавораны ў 1966 г. да сямі (Ю. Даніэль — да пяці) гадоў зняволення за публікацыю за мяжой твораў, якія нібыта ўтрымлівалі паклёп на сацыялістычны лад.

Адзін раз, як сядзелі з Быкавым у мяне на куханьцы… а мы сядзелі толькі на кухні, па зразумелых прычынах — там няма тэлефона. Гэтыя штучкі я ўжо ведаў — мяне Быкаў папярэджваў…

*— Якія штучкі?*

— «Жучкі» ж звычайна дзе? Яны ўсе тут (*паказвае на тэлефон*).

*— Інга Анатолеўна Карпюк распавядала, што менавіта Быкаў наказаў, каб тэлефон ставілі ў калідоры.*

— І вось аднойчы Быкаў кажа: «Хачу сказаць табе нешта вельмі важнае, толькі зразумела, што гэта строга між намі». Я кажу: «Тут я магу табе сказаць, як герой аповесці Катаева "Белеет парус одинокий"…» Там Пецька ці хто сказаў: «Еш зямлю, што нікому не скажаш!» І вось кажу цяпер Быкаву: «Ну што, мне трэба зямлі з'есці? Кажы смела». — «З самых дакладных крыніц вядома — а менавіта ад майго сябра, які па няшчаснай волі лёсу ў свой час даў згоду супрацоўнічаць, — што ў дасье "Беларускія нацыяналісты" гэнай арганізацыі Ніл лічыцца нумарам адзін». У адказ я засмяяўся і гавару: «Яны памыляюцца — вось нацыяналіст нумар адзін, — і паказаў на Ніну Іванаўну. — Яна пераўзышла мяне абсалютна ў гэтых сваіх пачуццях».

Якраз пасля гэтай размовы Быкаў і напісаў Ніне Іванаўне: «Добраму анёлу беларускасці».

*— А што гэта за гісторыя, Ніл Сымонавіч, калі ў радыёэфіры адцэнзуравалі Вашае слова пра Васіля Быкава?*

— У 1996 годзе Уладзімір Львовіч Механ — ён тады загадваў на Беларускім радыё літаратурнай часткай — арганізаваў перадачу пра Быкава, прыняць удзел у якой запрасіў і мяне. І вось перадача прагучала ў эфіры, але няма самага галоўнага пасажа, дзеля чаго я і згадзіўся ўдзельнічаць у ёй. Калі літаратар, які не толькі мае сваю пазіцыю, але і думку па розных пытаннях, у тым ліку і па творчасці сваіх калег і сяброў, згаджаецца на выступленне ў радыёэфіры ці ў друку, натуральна, што ён думае пра тое галоўнае, што ён павінен будзе сказаць. Таксама і я гаварыў пра грамадзянскую пазіцыю Быкава, пра яго мужнасць і салдацкую смеласць і пра тое, у што гэта яму абыходзілася. Але слухаю перадачу — якраз гэтага і няма. Усё астатняе пакінулі, а гэтага — няма! Аднак я таварыш з характарам, і таму тут жа, сходу напісаў у «ЛіМ» невялікую нататачку пад назвай «Зноў выстрыглі! І зноў праўду», у якой працытаваў менавіта тое, што і выстрыглі з радыёэфіра. Зрабіў гэта, каб павучальна было на будучыню — не выстрыгайце, тым больш не выстрыгайце галоўнага. Або не запрашайце зусім.

* * *

Мушу гэтым лістом паведаміць грамадскасці, слухачам Беларускага радыё: я шкадую, што даў згоду ўдзельнічаць у гэтым «радыёвечары». Чаму? А таму, што з майго слова пра Васіля Быкава выстрыглі тое, наконт чаго ў мяне было асабліва моцнае жаданне, каб яно прагучала. Вось гэтыя выразаныя з магнітнай стужкі і не пушчаныя ў эфір радкі: «Пра якія званні гаварыць, калі маральныя пігмеі публічна абліваюць брудам выдатных людзей нацыянальнай культуры. Дарэчы, грамадзянскае процістаянне Быкава свету пігмейства, халуйста і прыстасавальніцтва, свету злабы і подласці, хлусні і здрады — гэтаксама з'ява фенаменальная ў грамадскім жыцці-быцці Беларусі».

Пра што сказана ў выкінутых радках? Па-першае, пра тое, што сапраўды мае месца ў нашай рэчаіснасці — пра ганьбу і сорам нібыта еўрапейскай краіне Беларусь, а іменна, што ў многіх сродках масавай інфармацыі зневажаюцца, брыдзяцца, аплёўваюцца імёны тых, хто з'яўляецца гонарам беларускай культуры і сумленнем нацыі (дазвольце прыклады не прыводзіць). Па-другое, аб тым, што подламу кусліваму свету пігмейства, хлусні і нянавісці процістаяць такія асобы, як Васіль Быкаў. Толькі і ўсяго. І нічога больш. Што ў гэтых выразаных радках месціцца такое страшнае, такое шкоднае для грамадства, для яго маральнага здароўя, што іх нельга пускаць у эфір? Мяркуйце, шаноўчыя чытачы, самі.

*Гілевіч Н. Зноў выстрыглі! І зноў праўду // Літаратура і мастацтва. 1996. 16 жн.*

— Назваў жа так сваю нататку таму, што годам раней ужо друкаваў артыкул пад назвай «Выстрыглі», але ў той раз размова ішла пра тое, што запісвалі мае вершы і выстрыглі, не пусцілі ў эфір галоўны мой верш, дзеля якога я і пайшоў на радыё. І калі б ён быў у канцы і не хапала часу — не, ён ішоў усярэдзіне і пасля яшчэ была вялікая музычная паўза. Ну, але гэта штрышок да таго, у якіх умовах жылі і працавалі паэты.

*— Ніл Сымонавіч, можа быць, не надта прыемнае пытанне, але неаднойчы падчас ранейшых нашых з Вамі гутарак Вы выказвалі шкадаванне, што некаторыя Вашыя агульныя з Быкавым сябры пастараліся, каб Вы…*

— Пастараліся, так. Але вы самі разумееце, што паколькі некаторыя з іх жывыя і пакуль я сам жывы, іх імёны не назаву.

*— Тым не менш, не называючы прозвішчаў, можаце сказаць, што ўсё-ткі адбылося?*

— Калі пачну тлумачыць прычыну, прозвішчы называць ужо не трэба будзе — і так усё будзе ясна. Пакіньце гэта так. Вось калі не стане мяне, тады ўсё праясніцца. Адзінае, што магу сказаць, — гэта вельмі горкая і сумная праўда, ох, пастараліся! Ну, што ж… У прынцыпе, у маіх адносінах да Быкава, як да пісьменніка і грамадзяніна, нічога не змянілася. Змянілася, канечне, толькі ў асабістым плане, бо не магло не змяніцца пасля таго, што Быкаў дазволіў сабе сказаць пра мяне ў друку — на старонках «Правды», «Литературной газеты» і «ЛіМа»…

* * *

Праз паўгоду, у канцы лістапада, В. Быкаў на старонках «Правды» і «ЛіМа» даў сваё тлумачэньне прычын маёй паразы, залічыўшы мяне да тых, каму ўласьцівы «сацыяльны канфармізм, праслужніцтва перад уладай», хто «дэманструе палітычнае віхляньне паміж разьлікам і ісьцінай», да тых «надзеленых сумленьнем і розумам» мастакоў слова, каму не хапае «сілы характару, каб ва ўсіх выпрабаваньнях лёсу застацца верным сабе, ісьціне і болей нікому». Такога страшнага ўдару ад самага блізкага сябра, аднаверца і паплечніка я ня толькі не чакаў, а і прысьніць ня мог. Пачуцьцё крыўды і абурэньня ўва мне проста ня месьцілася. І хацелася ў гневе крыкнуць: «Так, я — не цьвердакаменны, напэўна, ішоў дзесь на кампрамісы, бо такі меў сьветапогляд і перакананьне, бо вырас у сям'і камуніста-ідэаліста, але верным сабе заставаўся заўсёды, у самым галоўным верны — у служэньні Беларусі, беларускай ідэі, беларускай мове і культуры!»

Пры першай жа сустрэчы з Быкавым (пасьля нейкага сходу ў Доме літаратара) я выказаў яму сваё абурэньне ягоным інкрымінаваньнем мне бог ведае якіх грахоў. «Дык гэта ты, мой самы блізкі сябра, такой думкі пра мяне і маю грамадзянскую пазыцыю? Прабач, але ў такім разе я мушу сказаць: ты мне не судзьдзя. І ты знаеш — чаму». (Што я меў на ўвазе — Быкаў зразумеў.)

Ясна, што пасьля гэтага нашы сяброўскія ўзаемаадносіны заставацца ранейшымі не маглі.

*Гілевіч Н. Між роспаччу і надзеяй //*
*Гілевіч Н. Зб. тв.: у 23 т. Т. 23. С. 391–392.*

— Я ніколі нікому не глядзеў у рот, у тым ліку і Быкаву — я ў душу глядзеў Васілю. Я быў перакананы, што сяброўства ў нас ідзе на роўных, што ў нас поўны давер. Ва ўсякім выпадку з майго боку. Дый з яго таксама, бо калі ён мне такое даверыў — пра дасье і пра тое, што ў тым дасье я нацыяналіст нумар адзін. Ці іншы прыклад: гэта ж Быкаў прывёз мне дваццаць вершаў Геніюш, надрукаваных на машынцы і падпісаных Ларысай Антонаўнай. Яны і цяпер у мяне захоўваюцца. Прывёз і сказаў: «Табе гэта больш трэба, хай будуць у цябе, таму што ў мяне гэта канфіскуюць». Быў канец 1960-х ці пачатак 1970-х. Я гавару: «І ў мяне ж могуць канфіскаваць…» — «Ну, у цябе не так, а ў мяне — могуць…» Вершы, як я пасля высветліў, былі напісаны Ларысай Антонаўнай у лагеры і ніколі не друкаваліся.

Ці вось яшчэ адна гісторыя, якая таксама сведчыць пра поўны давер між намі. Напісаўшы «Сказ пра Лысую гару», я вельмі прасіў Аўрамчыка: «Спяшайся аддрукаваць і разаслаць, каб паспець да пісьменніцкага з'езду». І вось канец красавіка 1971 года, пачынаецца з'езд, але прамоўцаў слухаюць мала, бо ўсе чытаюць і шэпчуцца пра «Лысую гару»…

— *Такі ценевы даклад.*

— Во-во, яшчэ адзін даклад, але ценевы… (*Смяецца.*) Таму што гутарка аб літаратуры, аб праблемах, ды прычым так востра аб праблемах — пра што многія сумленныя пісьменнікі думалі, але не гаварылі. Астатняя ж маса… У паэме ёсць такія дзве страфы:

І калі раптам Грыша-Міша
Мяне ты ў госці пазавеш,
Я не спытаю, што ты пішаш,
А я спытаю: чым жывеш?

Ты зубы мне не загаворыш,
Ёсць дыялектыкі закон:
Дзярмом жывеш — дзярмо і творыш,
А натварыў — дык выкінь вон!

Таму, канечне, справядліва будзе сказаць, што гэта быў своеасаблівы ценевы даклад, бо ў паэме ставіліся якраз такія пытанні: чым жывем? Хочам ствараць вялікую літаратуру, поўную грамадзянскай доблесці, жыццёвай праўды? Ды не, браткі мае, пераціраем камякі на градах… І вось у канцы першага дня з'езда вяртаемся з Быкавым дадому і абменьваемся думкамі, бо абодва выступалі ў гэты першы дзень, і раптам Васіль кажа:

— А цяпер спытаю ў цябе нешта вельмі важнае для меня. Думаю, ты скажаш мне праўду, — і нават прыпыніўся, каб не на хаду гаварыць. — Ты бачыў, там па руках у зале ўвесь дзень хадзіла паэма?

— Бачыў, — адказваю.

Ён паглядзеў мне ў вочы і пытаецца:

— Твая работа?

— Васіль, запомні, калі ласка: я табе нічога не гаварыў.

— А-а, ну дык гэта вядома… Ну, малайчына, ну, малайчына!..

Быкаў быў адзіным чалавекам, якому я прызнаўся ў аўтарстве «Лысай гары» — пра гэта нават Ніна Іванаўна не ведала. Вось якая была ступень даверу між мной і Быкавым! Ніна Іванаўна сама «вылічыла» мяне пасля таго, як Бураўкін прачытаў ёй паэму па тэлефоне, і дужа пакрыўдзілася на мяне. Памятаю, прыйшоў дадому, а яна кажа: «Што ты нарабіў?! Што ты нарабіў?! У якую малатарню ты галаву сунуў?! Ай-ай-ай! Давай, пісака, тэкст хутчэй! Усе ж, нават школьнікі пазнаюць, што гэта ты напісаў!» Я даў ёй паэму, яна пайшла ў свой пакой, і ўжо чую праз пару хвілін — рагоча, аж заходзіцца!..

Што ж тычыцца ўзаемнага даверу, дык такая наша блізкасць з Быкавым сямутаму не падабалася. Але што рабіць? Жыццё ёсць жыццё. Я цяпер горка шкадую, горка плачу, але назад нічога не адкруціш… І асабліва мне горка, што калі Васіль Уладзіміравіч пісаў сваю кнігу споведзі, дык, не маючы магчымасці нешта зверыць, дапусціў вельмі крыўдныя для мяне недакладнасці. Гэта мяне нават здзіўляе: як пры яго выдатнай памяці ён мог сказаць, што я быў супроць стварэння БНФ? Гэта, груба кажучы, чорт ведае што такое! Бо я ж на сваіх касцях, на сваёй крыві паўгода трымаў аргкамітэт БНФ у 306-м пакоі Дома літаратараў! А колькі мне было званкоў з ЦК, з гаркама, каб я выгнаў той аргкамітэт! Але бачаць, што нічога ад мяне не даб’юцца, дык тады ўжо на Яўгена Іванавіча, на Максіма Танка ўсселі. Той літаральна праз дзень прыходзіць: «Ніл Сямёнавіч (ён “Ніл Сямёнавіч” гаварыў), ну, трэба нешта рабіць. Ну, не даюць спакою! Кожны дзень звоняць з ЦК, з гаркама: “Колькі ў вашым доме будзе сядзець гэтая банда нацыяналістаў?!”» Яўген Іванавіч мог, калі набярэ паветра, і закрычаць: «Дык што гэта такое?! Нейкія тут па лесвіцах патлатыя бегаюць, носяцца, крычаць. Што ім тут трэба ў нашым Доме літаратараў?!» Я кажу: «Яўген Іванавіч, скора, ужо скора». Танк жа сам мог аддаць загад Алесю Емельянаву — гэта яго быў 306-ы пакой, рабочы кабінет кансультанта Саюза пісьменнікаў, але ж не — маўляў, я хоць і старшыня, але пасада ганаровая, а ты — першы сакратар, значыцца, рабочы чалавек, усе практычныя пытанні на табе. Таму я і сказаў Емельянаву: «Сёння на пасяджэнні сакратарыята будзем цябе бэсціць за тое, што трымаеш у сваім кабінеце аргкамітэт Беларускага народнага фронту. Ты, Алесь, слухай, пагаджайся і далікатна абяцай: скора, ужо скора. І — усё. Каб Яўгену Іванавічу было што сказаць і ў ЦК, і ў гаркаме…» І вось пасля гэтага Быкаў піша, што я быў супроць стварэння БНФ! Гэта ўдар проста пад дых, бо абсалютна несправядліва, жудасна несправядліва. Як Васіль Уладзіміравіч мог такое дапусціць, ён жа ўсё гэта ведаў? Ну, мабыць, забыўся…

* * *

Пра тое першае паседжаньне аргкамітэту ўспамінае ў кнізе «Доўгая дарога дадому» В. Быкаў. На жаль, ня маючы за мяжой дакументаваных матэрыялаў, паспадзяваўся на памяць і дапусьціў крыўдную для мяне памылку (не хачу думаць горш). Напісаў,

што я выступіў супраць стварэньня БНФ, ды яшчэ і «рашуча». Па якой жа гэта логіцы член аргкамітэту БНФ мог пайсьці супроць стварэньня БНФ? Абсурд! Па нармальный логіцы я заявіў бы спачатку аб сваім выхадзе з аргкамітэту: але такой заявы не было, у аргкамітэце я заставаўся аж да яго самароспуску на Устаноўчым зьезьдзе БНФ у чэрвені 1989-га. Чытач ужо зразумеў, што я «рашуча выступіў» не супроць стварэньня народнага руху «Адраджэньне», а супроць слова «фронт» — усяго і толькі. Дык я і сёньня перакананы, што праўда была на маім баку, што слова «фронт» трэба было замяніць іншым, не такім «ваяўнічым».

*Гілевіч Н. Між роспаччу і надзеяй //*
*Гілевіч Н. Зб. тв.: у 23 т. Т. 23. С. 383.*

*— Ніл Сымонавіч, а памятаеце, калі апошні раз бачылі Быкава ці, можа, размаўлялі з ім па тэлефоне?*

— Апошні раз… *(Праз паўзу.)* Адна з апошніх сустрэч была ў 1994-м. Справа ў тым, што Вайтовічу, калі ён быў міністрам культуры, прыйшла такая дабрачынная задума ў галаву — памагчы матэрыяльна пісьменнікам. Не помню ўжо, якая была сума — не Бог ведае якая вялікая, але ж і не капейкі. І вось Вайтовіч кажа мне: «Не ведаю, як Быкаў можа ўспрыняць такую дапамогу. Ці не скажа: я, маўляў, не жабрак, мне падачкі не трэба?» І вось я пазваніў Васілю і папрасіў яго ўспрыняць місію міністра спакойна і з разуменнем, не пакрыўдзіць яго. Тым больш, што гэта дапамога не аднаму яму. Быкаў даў згоду, і мы прыехалі, але пабылі ў яго нядоўга: выпілі па кілішку каньяку, і міністр уручыў канверт.

А затым, у чэрвені 1995-га, была сустрэча з ім у Акадэміі навук. Па ініцыятыве віцэ-прэзідэнта Радзіма Гарэцкага там сабралася група прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі — для абмеркавання палітычнай сітуацыі ў краіне. Ад пісьменнікаў былі Быкаў і я. З Акадэміі мы вярталіся з ім удваіх і трохі пагутарылі. Развіталіся ў метро… Ці былі яшчэ сустрэчы да яго ад’езду ў Фінляндыю — не помню. Хіба дзе-небудзь мімалётныя[50].

Пасля яшчэ было некалькі лістоў ад яго, у тым ліку віншаванне з 2002 годам. Помню, я адказаў тады, што пра іншае, пра самае важнае, пагаворым пры сустрэчы, і заклікаў Быкава вяртацца. А калі ён, хворы, вярнуўся, ад мяне гэта ўтаілі, — як гэта ў нас звычайна і робіцца. Пакуль акольнымі шляхамі да мяне дайшло, што Быкаў вярнуўся, ён быў ужо ў бальніцы. Вярцінскі, паведаміўшы пра гэта, сказаў, што справы кепскія. І вось я прыйшоў ужо на пахаванне, стаяў ля труны ў ганаровай варце, а пасля правёў Васіля ў апошнюю дарогу…

*Запіс, прадмова і каментар Сяргея ШАПРАНА*

[50] Можна меркаваць, што апошняя сустрэча адбылася ў гадавіну БНР у 1998 г. — на карысць гэтага сведчыць дарчы надпіс Н. Гілевіча на кнізе «Ёсьць зямля…» (Мінск: Белфранс, 1997): «Васілю Быкаву — чыё жыццё і слова памагае трымацца ўсёй беларускай Беларусі. І, можа, у першую чаргу — мне. Хай літасцівы і шчодры на ўсё добрае будзе да цябе Бог! Ад сэрца — *Ніл Гілевіч. 25.3.98*».

## ЛЕОНИД МАРТЫНЮК:
## «ТАКИХ, КАК БЫКОВ, ВО ВСЕ ВРЕМЕНА БЫЛО МАЛО»

В ноябре 1966 г. на экраны вышел фильм «Западня» — экранизация выпускника Высших режиссерских курсов ВГИКА Леонида Мартынюка одноименной повести Василя Быкова. Дебют оказался не слишком удачным, в том числе и из-за беспрестанного вмешательства кинематографической цензуры. В результате литературный и режиссерский сценарий неоднократно были переписаны, но даже и тогда художественный совет «Беларусьфильма», белорусское и союзное Госкино, высказывая на протяжении более года ряд существенных претензий к картине, едва не положили ее на полку. И неудивительно — после выхода в начале 1966 г. в журнале «Новый мир» повести В. Быкова «Мертвым не больно» началась многолетняя травля писателя, и Мартынюк угодил под общую «раздачу» — связываться с Быковым в то время означало ставить крест на своей судьбе если не навсегда, то во всяком случае на годы. А молодой режиссер, не зная этого, задумал после «Западни» экранизировать еще и ту самую крамольную вещь Быкова — «Мертвым не больно». Причем, упорно добиваясь разрешения на постановку, стучался в наглухо закрытые двери не один год и всё — безуспешно (перенести на кинопленку эту повесть ему не удалось даже в конце 1980-х). Неслучайно спустя три с лишним десятилетия Леонид Владимирович сказал с горечью: «Если бы я начал с тех сценариев, которые три года толкал на студии, я был бы совершенно другим режиссером». Однако судьбе человеческой сослагательное наклонение, подчас к великому сожалению, попросту неведомо.

*— Леонид Владимирович, как возникла идея экранизации повести Василя Быкова «Западня»?*

— Когда я еще учился, Игорь Добролюбов подсказал: «Леня, возьми журнал «Юность» и прочти “Западню”. По-моему, отличный материал для диплома». Но, на мой взгляд, повесть эта никак не могла вместиться в короткометражный фильм — сначала ведь речь шла о двух частях, это уже потом добавили третью. Тогда Добролюбов посоветовал: убери все воспоминания — о коллективизации и прочее, оставь лишь военный сюжет… Так что прародитель этой истории, окончившейся для меня столь трагически, — Игорь Добролюбов, он ее крестный отец.

*— Если правильно понимаю, Вы написали первый вариант сценария, не поставив в известность Быкова?*

— Да, но сценарий я писал, не зная еще, буду ли ставить его. Был там ассоциативный ряд и все такое прочее — существовали в то время в кинематографе такие веяния. Но позже все эти ассоциации и ретроспекции отлетели — я все больше и больше возвращался к прозе Быкова.

*— Помните ли, когда впервые рассказали Василю Владимировичу о желании экранизировать «Западню»?*

— Были каникулы, и я, приехав в Минск и позвонив Быкову, поехал к нему в Гродно. Кстати, тогда же увидел у его дверей целую демонстрацию, в его окна бросали камни…

*— Вы сами это видели?*

— Да. Василь сказал, что его начали травить… Когда же рассказал о замысле поставить «Западню», Василь посоветовал: «Ты не воевал, и для того, чтобы почувствовать правду атмосферы войны, перечитай “Севастопольские рассказы” Толстого. Там всё правда».

* * *

Лене Мартынюку,

с дружбой и надеждой, что в кино получится лучше, чем в этой книге. Пусть твоим девизом будет: ломоть черствого хлеба, густо посыпанный солью.

Искренне *В. Быков*

*6 [?]/XI—64 г.*

*Дарственная надпись на издании*
*В. Быкова «Повести огненных лет»*
*(Роман-газета. № 19.*
*М.: Художественная литература, 1964).*
*Оригинал. Архив Л. Мартынюка.*

*— Вы показывали Быкову первый вариант сценария?*

— Да. «Леня, то, что ты придумал, это всё интересно, — сказал Василь. — Но это всё не мое».

*— Второй вариант сценария тоже писали исключительно Вы?*

— Все варианты писал я. От Василя я получал только поправки.

*— Поправки в каком виде?*

— Устные.

*— То есть руки Быкова ни в одной из редакций литературного сценария нет?*

— Нет, но в одном из своих писем он сам объяснил, почему не любил писать сценарии: «Я дал себе слово завязать с кино, у меня больше нет сил, а главное — нет нервов — все повытащили по пучку, по волоконцу». Кстати сказать, позже я спрашивал у Ларисы Шепитько, кто написал сценарий «Восхождения». Так вот Быков сказал ей тогда: «Верю тебе. Напиши, как ты видишь всё это на экране».

*— Но справедливо ли будет сказать, что Василь Быков был во всяком случае Вашим устным соавтором?*

— Ну конечно.

*— А не припомните, какого рода были замечания?*

— Это было так давно, сейчас трудно вспомнить… Его замечания касались, я бы сказал, кинематографических изысков. «Зачем эта ассоциация, — говорил Василь, — когда главного героя убивают, и вдруг раздаются крики: “Весна! Весна!..”? Это не мое». И он был прав: это было не его. Поэтому я и возвращался к прозе Быкова. Но кто его знает, если бы я снял фильм по первому варианту сценария, не исключено, что получилось бы интересное кино… Уже после «Пятерки отважных»[51] я все сценарии переписывал под себя, убирая из них то, что на душу не ложилось. Экранизация — это уже другое произведение. Режиссер вправе иметь свой взгляд.

*— Но, Леонид Владимирович, опять же: каким образом делал замечания Быков — по телефону или Вы каждый раз приезжали в Гродно?*

— Не-ет, это каждый раз было личное общение, не по телефону. Мы встречались и в Гродно, и в Минске, когда Быков приезжал на худсовет.

---

[51] Фильм Л. Мартынюка 1970 г.

* * *

Уважаемый тов. Порицкий!

Я не писал сценария по моей повести «Западня», предоставив это не слишком веселое дело дипломанту Л. Мартынюку, который месяца четыре назад приезжал в Гродно для переговоров по этому поводу. Он согласился. Но в каком состоянии находится сейчас эта работа, сказать не могу, т. к., кроме повести, к данному замыслу ничем более не причастен. Но мне думается, что сценарий Мартынюком уже написан и Студия его получит.

С уважением,

*В. Быков*

*5 марта 1965 г.*

*Письмо В. Быкова исполняющему обязанности директора «Беларусьфильма» А. Порицкому. Оригинал. Белорусский государственный архив-музей литературы и искусства. Ф. 112, оп. 1, ед. хр. 426, л. 106.*

*— И литературный, и режиссерский сценарии «Западни» проходили различные инстанции с большим трудом. Причем удивительно: Москва в какой-то момент уже давала «добро», а в Минске требовали существенной переработки сценария, причем инициатива исходила ни много ни мало, а от тогдашнего председателя Госкомитета Совета министров БССР по кинематографии Б. Павленка…*

— Да, Павленок тогда получил втык из Москвы: как же так, раньше Вы одобряли сценарий Мартынюка, а теперь категорически отвергаете?! У меня сохранилась копия этого письма, я никому ее не показывал, — мне ее дала секретарь Павленка… Уже спустя годы, когда Павленок приезжал в Минск на какой-то юбилей, я сказал ему: «Борис Владимирович, жалко, что Вы загробили меня на первой же работе». — «Леня, ты что, не понимаешь? Такое было время, — ответил он. — Шауро[52] сказал мне, что готовится разнос творчества Быкова. Как я в этой обстановке мог представить в Госкино твою картину?! Так что, извини…» Кстати, живой еще дядька…

* * *

На наш взгляд, рассказ В. Быкова, также как и созданный на его основе сценарий, представляют собой интересное художественное произведение, которое может послужить основой для создания фильма выпускника Режиссерских курсов Л. Мартынюка. Этот вопрос уже много времени тому назад при Вашем согласии был положительно решен Советом режиссерских курсов.

Нас несколько удивила Ваша неожиданная новая позиция по данному сценарию. Насколько нам известно, у Вас до сих пор не было вообще никаких критических замечаний, а сейчас Вы ставите под сомнение произведение в целом. <…>

Анализируя сценарий «Западня», мы гораздо ранее Вашего письма пришли к выводу о том, что данное произведение нуждается в некотором уточнении по смыслу, и у Главного управления имеется договоренность с режиссером фильма Л. Мартынюком об изменении финала сценария и его начальных эпизодов. По нашей рекомендации авторы сценария и режиссер будут заканчивать фильм не смертью героя, а сценами атаки, нового боя, в который идет человек, много переживший, для того, чтобы защищать Роди-

[52] Шауро Василий Филимонович (1912–2007) — заведующий отделом культуры ЦК КПСС (1965–1986); кандидат в члены ЦК КПСС (1966–1986). Имя В. Шауро неоднократно встречается в докладных ЦК КПСС и КГБ СССР в связи с делом В. Быкова.

ну. Фильм должен стать рассказом о мужестве и стойкости советских солдат, которые превыше всего ставят гражданский долг. Таким образом при этих изменениях фильм, на наш взгляд, будет освобожден от некоторого пессимистического оттенка, который в сценарии имеется.

Главное управление считает, что этими поправками сценарий «Западня» может быть принят к постановке.

В связи с Вашим письмом нам хочется высказать пожелание, чтобы студия более точно вела работу с авторами и режиссерами, тем более когда это касается таких незаурядных писателей, как В. Быков. Совместными усилиями нескольких редакционных коллегий и режиссерских курсов сначала сценарий был утвержден без каких бы то ни было официальных замечаний, а потом он начинает подвергаться сомнению в целом.

Мы высказываем эти соображения для того, чтобы в дальнейшем не давать повода писательской общественности подвергать нас с Вами основательной критике.

*Из письма заместителя начальника Главного управления художественной кинематографии Комитета по кинематографии при Совете министров СССР И. Кокоревой и члена сценарной редколлегии Главного управления Т. Юреневой председателю Госкино БССР Б. Павленку. Машинописная копия. Архив Л. Мартынюка.*

Художественному совету и
Сценарной коллегии студии
«Б е л а р у с ь ф и л ь м»

Недавно я просмотрел неоконченный вариант короткометражной к/картины «Западня», снятой Л. Мартынюком по моей повести, и считаю необходимым заявить о следующем:

1). Отснятый материал соответствует духу и теме повести, ряд сцен разработаны с должной достоверностью и проникновением в идею произведения;

2). Некоторые сцены страдают от неизбежной при таком размере скороговорки и беглости, что в общем понятно и с моей стороны возражений не вызывает;

3). Я возражаю против попытки заставить постановщика исключить из картины Петухова как образ и истолковать идею фильма любым, отличным от повести образом.

*В. Быков*,

автор повести и соавтор сценария
к/ф «Западня»

*20/III—66 г.*

*Оригинал. БГАМЛИ. Ф. 112, оп. 1, ед. хр. 426, л. 5.*

— Но кого у нас в то время не казнили, не резали? С картиной Бычкова «Христос приземлился в Гродно» еще хуже вышло. Я как раз тогда в Комитет приехал, Юренева говорит: «Леня, зайди в кинозал — сейчас Бычка покажут картину». Я отвечаю: «Я ее на худсоветах посмотрю». — «Леня, этой картины ты больше никогда не увидишь — она будет стерта и закрыта…» Блистательное кино! Какие в этом сказочном сюжете

Бычок нашел ассоциации с современностью! Особенно этот иезуитский орден, который всем командует! Там еще иезуит, которого играл Банионис[53], говорил: «Христа надо уничтожить». Ему возражали: «Как же?! — люди ведь ему поклоняются». — «Нам нужны деревянные идолы, а не живые…» Я смотрел и думал: неужели это может сегодня пройти?.. Ты же знаешь, что картину бесконечно резали, и тот вариант, который спустя двадцать лет был выпущен на экран, — это всего лишь ошметки от того, что было[54].

*— Если вернуться к «Западне» — и Быкова же вынудили переделать финал повести: в первой редакции главный герой стрелялся…*

— Я знаю, мне об этом Василь рассказывал, говорил, что редактор сказал ему: «Могу опубликовать, если уберешь самострел и особиста». Правда, особиста все-таки оставили…

Однако скажу тебе еще об одной вещи, о которой и говорить-то нельзя. Дело в том, что через три месяца после того, как я получил свою половину гонорара за сценарий «Западни», позвонил Василь: зайди ко мне. Прихожу, а он дает мне деньги: «Это потиражные». — «Но я уже получил потиражные!» — «Леня, я знаю, что у тебя неприятности на студии после моей "Западни", тебе будет очень и очень тяжело. А я получил две тысячи. Бери». Точно так же он поступил с «Мертвым не больно». А больше никто из моих соавторов… В тот раз Василь пригласил меня на студию, говорит: «Я получил четыре тысячи за экранизацию, две — твоих». Я возражаю: «Вася, никаких денег мне не надо!» — «Леня, ты писал? — писал. За свою первооснову я получил, это — твои деньги». Повторюсь: никто больше так не поступал. Только Вася Быков.

*— Леонид Владимирович, но о какой экранизации «Мертвым не больно» Вы говорите? Ведь эта повесть до сих пор не поставлена…*

— Вообще говоря, если бы я начал с тех сценариев, которые три года толкал на студии, я был бы совершенно другим режиссером. Совершенно другим. У меня ведь был потрясающий, гениальный сценарий Тюрина — о протопопе Аввакуме, по «Житию». Этот сценарий ходил по всем студиям, по Госкино, но так и не был нигде поставлен. После выхода «Андрея Рублева» нечто подобное было запрещено к постановке. И когда вышел «Новый мир» с «Мертвым не больно», я просто обалдел от этой вещи! Какой потрясающий сюжет! Не было еще такого в нашей прозе, чтоб русский солдат, попадая во всякие передряги, все равно спасал жизнь немцу, спасал от этого Сахно! А заканчивается как? Фриц, перезарядив ружье, сказал: «Прости, Иван» и выстрелил в него. Долг оказался выше всего человеческого…

Ты видел рисунок Лужанина[55]? Это мой первый враг. Тут готовилась передача о Лужанине, Катьер приглашал участвовать в ней, я ответил: «Про этого человека ничего хорошего сказать не могу». — «Но он столько сделал для белорусского кино!» — «Он столько загробил, что не хочу об этом говорить». Именно Лужанин загробил мне «Мертвым не больно». Как было дело? Получив от Василя машинопись, я привез ее Лужанину, сказал: «Хочу с вами посоветоваться. Только прошу: никому не давайте это

---

[53] Донатас Банионис исполнял роль монаха-иезуита Босяцкого.

[54] Другие названия фильма режиссера Владимира Бычкова: «Летопись Белой Руси», «Житие и вознесение Юрася Братчика» (1969) (экранизация романа В. Короткевича «Христос приземлился в Городне» (1966). Пройдя двенадцать редакций, сокращений и перезаписей, картина вышла на экран под названием «Христос приземлился в Гродно» только в 1989 г.

[55] Рисунок, выполненный Л. Мартынюком. Максим Лужанин был членом сценарной коллегии «Беларусьфильма» и главным редактором студии (1967–1971).

читать». Проходит неделя, вторая, третья. Звоню Лужанину, он отвечает: «Я еще не прочитал». И вдруг звонок от директора студии Ивановского: «Леня, зайди ко мне». Прихожу, а у него лежит «Мертвым не больно». «Забери и никому не показывай! И запомни: пока я директор студии, повесть эта никогда на “Беларусьфильме” поставлена не будет».

*— События эти относятся, по-видимому, к 1966 году, когда повесть и появилась в «Новом мире»?*

— Совершенно верно.

*— Простите, Леонид Владимирович, но вот в «Заявке на войска и технику», которую вижу у Вас, значится 1989 год…*

— Это повторно я хотел запуститься. Уже была составлена смета, сделана заявка в Госкино. Василь тогда позвонил: «Леонид, пиши сценарий, современный сюжет выброси. Я согласен. Верю в тебя. С Богом». Спасибо ему — поверил… Жалко, жалко, мне до сих пор жалко, что эта вещь не поставлена. Э-эх… Это самое больное место в моей биографии.

*— И все-таки уточню: во второй раз Вы думали экранизировать повесть уже в конце 1980-х?*

— Дорогой мой, я каждый год пытался пробить эту постановку! Но мне еще в Госкино СССР объяснили, что существует закрытое постановление ЦК не печатать и не ставить «Мертвым не больно». Правда, узнал об этом я гораздо позже. Василю же это подтвердил Горбачев, когда он ездил с ним в Америку, — собираясь в ту поездку, Быков сказал, что узнает, действительно ли есть такое клеймо на его повести. Такое постановление ЦК действительно существовало, но Горбачев сказал, что запрет они снимают, кино можно снимать. И ведь всё было готово, я думал, что мы проскочим, была и съемочная группа, и заявка на войска была послана, сценарий написан. Я сказал еще Василю: «Мне не надо никакого литературного авторства, не надо даже упоминать мою фамилию. Для меня важно, что ты мне доверяешь». А Василь пошутил: «Если поставишь эту картину, то вылезешь наконец из своего окопа детского кино». Это он здорово сказал. «Я понимаю, почему ты не лез снимать на всякие коньюктурные темы, — говорил он еще, — ты сидел в окопе детского кино». Он, конечно, был прав.

*— Так почему же опять не получилось?*

— Ты забыл, какое время было?! Беларусь объявила о суверенитете, и тогда же шесть сценариев, посланные в Госкино СССР, были возвращены с сопроводительным письмом: Госкино субсидии с киностудии «Беларусьфильм» снимает. Не только мой — все сценарии вернулись обратно! И, кстати, ни один из них так и не был поставлен. Хотя примерно тогда же на «Беларусьфильме» в течение только одного года было снято сорок картин! Причем снимали все подряд: вторые режиссеры, ассистенты режиссеров, директора картин, предприниматели, один банкир даже! И практически ни одна из этих картин на экраны не вышла. Это было время, когда деньги на кино не облагались налогом. Тогда я этого не знал.

*— Но вот еще в 1968 году Василь Владимирович дважды сообщал Вам в письмах о своей новой повести: «…я имел в виду свою новую повестушку, которая готова и к весне есть возможность напечатать. <…> Как только это случится, я готов предложить ее вашей студии. Правда, я оч[ень] сомневаюсь, что студия и ее началь-*

*ство придет от этого предложения в восторг»; «Что же касается экранизации, то я почти на 99 % уверен в ее невозможности, хотя, конечно, как только определится окончательный вид, я дам тебе прочесть». Речь, очевидно, о «Круглянском мосте», поскольку в это время Быков работал как раз над этой повестью…*

— Я уже не вспомню, о чем речь… Говоришь, 1968 год? Я тогда был в черном списке — после «Западни» мне до 1970 года вообще ничего не давали ставить. Но почти каждый год я тормошил Госкино — хотел поставить «Мертвым не больно»… Была такая Фирсова — знаменитый документалист, позже она стала куратором Госкино по военной теме. Она говорила: «Леня, миленький мой, не заикайся — еще не время, и не знаю, когда оно наступит. Ищи что-то другое». Я отвечал, что устал от посредственных сценариев. Я ведь филолог и воспитывался на литературе. Это было моим большим горем, что я никак не мог найти сценарий, который был бы мне по душе… Это удивительно, что наша студия боялась неординарных и острых вещей! Всегда, во все эпохи. И до сих пор боится.

*— И уже в заключение хочу спросить у Вас: Леонид Владимирович, теперь, по прошествии лет, каким человеком остался в Вашей памяти Василь Быков?*

— Вася?.. Извини, что я его Васей называю… Это человек правды, я бы так сказал. Всё, что он говорил, было искренне и — правда. Он никогда не юлил. Очень откровенный был человек. Таких во все времена было мало.

*Запись, предисловие и комментарии Сергея ШАПРАНА*

# СПРЭЧКА ДЗВЮХ КУЛЬТУР: абмеркаванне даклада Восіпа Воўк-Левановіча 1 лютага 1924 г. у кантэксце філалагічнай навукі Беларусі 1920-х гадоў[1]

Парадокс: гісторыя робіцца на эмоцыях, аналізуецца — халоднымі рацыяналістамі. Эмацыйнасць у гісторыі навукі з'яўляецца тым больш парадаксальнай, бо тут прадмет спрэчак палягае ў сферы рацыянальнага. Ідзе змаганне канцэпцый, якое часта замешанае не толькі на эйдасах, але і на суб'ектыўна-спекулятыўных момантах.

Для таго каб узнікла паўнавартасная гарачая дыскусія, яна павінна быць падмацаваная якасцямі характару дыскутантаў. Бясспрэчна, у беларускім мовазнаўстве 1920-х гг. падобнымі гарачымі галовамі можна назваць Язэпа Лёсіка і Восіпа Воўк-Левановіча. Разам з тым іх супрацьстаянне толькі падае ў зыркім святле прыхаваную спрэчку дзвюх культур і дзвюх навуковых школ — маладой нацыянал-беларускай і старой акадэмічнай рускай. У першай яшчэ многае знаходзілася ў пачатковай стадыі: даследчыкаў мала, пытанні асветлены фрагментарна, дасканалых падручнікаў і фундаментальных прац (за выняткам «Беларусаў» акадэміка Яўхіма Карскага) — яшчэ не створана. Руская школа мела сваю навуковую традыцыю, метадалогію (хоць і не ва ўсім дасканалую), дасягненні ў аналізе і недзе нават прызнанне ў сусветнай навуковай супольнасці. У той жа час, ствараючы нацыянальную дзяржаву, дзеячы-адраджэнцы гаварылі пра непарыўную сувязь беларускай рэспублікі з мінулым — Полацкім княствам, Вялікім Княствам Літоўскім і г. д. Але на справе здабыткаў было вельмі мала, бо шмат часу аддалося на здабыццё якой-кольвек незалежнасці (няхай у выніку і пад пратэктаратам ленінскай нацыянальнай палітыкі). Няшмат было і ўласна навуковых выданняў.

Пералом наступіў пасля адкрыцця ўвосень 1921 г. Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, а таксама пасля рэарганізацыі Навукова-тэрміналагічнай камісіі пры Наркамасветы ў Інстытут беларускай культуры. У краіне ўзніклі прафесійныя навуковыя асяродкі. Вучоныя з'ехаліся з розных канцоў былой імперыі. Першы рэктар Уладзімір Пічэта асаблівую ўвагу звяртаў на мясцовых людзей, беларусаў па паходжанні, гэта быў прыярытэтны кірунак пошукаў. Але ў той жа час універсітэт мусіў станавіцца сапраўды навуковым цэнтрам. Гэта разумеў Пічэта выдатна, таму большая частка прафесарска-выкладчыцкага складу абіралася ў адпаведнасці з тагачаснымі правіламі прыёму: на працу бралі зазвычай, калі ў прэтэндэнта была салідная адукацыя, дастатковая колькасць значных навуковых публікацый, рэкамендацыі і водгукі найбуйнейшых спецыялістаў, а таксама зацікаўленне ў сталым супрацоўніцтве (напрыклад, была адхіленая прапанова праф. Мікалая Дурнаво прыязджаць у Мінск толькі зрэдку, для спарадычнага чытання лекцый)[2]. Плюс да ўсяго працы, прадастаўленыя ва ўніверсітэт, тымі ж спецыялістамі рэцэнзаваліся, у выніку чаго кандыдатура нярэдка адхілялася (так, у прыватнасці, не быў зацверджаны выкладчыкам філасофіі Мікола Байкоў — пасля разгромнага водгуку на машынапіс ягонага падручніка; тую адпаведзь напісаў маскоўскі філосаф Густаў Шпет[3]). Зрэшты, сістэма была даволі гнуткай, і ў новы ўніверсітэт часам траплялі і вучоныя-пачаткоўцы, без вялікіх дасягненняў — напрыклад, па пратэкцыі чыноўнікаў з Наркамасветы альбо членаў Праўлення БДУ.

---

[1] Выказваю шчырую падзяку сп. Сяргею Запрудскаму, кваліфікаванаму лінгвісту, які азнаёміўся з артыкулам да публікацыі і ўнёс цэлы шэраг каштоўных заўваг і прапаноў да ўдасканалення тэксту.

[2] НАРБ. Ф. 205. Воп. 1. Спр 22. Л. 1–2.

[3] Гл. НАРБ. Ф. 205. Воп. 3. Спр. 813. Л. 6–7.

Асноўны склад навукоўцаў — вучоныя з Масквы і Петраграда, а таксама з былога Варшаўскага ўніверсітэта (у той час — Данскога). Зразумела, што многія з іх зусім не ведалі беларускай мовы і пытаннямі нацыябудаўніцтва перайmaліся найменш. Іх мэтай было займець месца, дзе можна спакойна займацца навуковай дзейнасцю і ўзнавіць свае сілы пасля разбуральнай вайны, рэвалюцыі і галоднага міжчасся. Мінск для гэтага быў ці не найлепшым варыянтам: недалёка да Еўропы (куды тэарэтычна можна выехаць у камандзіроўку — многія спадзяваліся, што вернецца старая практыка, але на справе вучоных выпускалі за мяжу вельмі рэдка), блізка і да буйных бібліятэк Масквы і Петраграда. У той жа час — пэўная аддаленасць ад цэнтра, дзе значна прасцей згубіць свабоду і становішча. Маладым вучоным у Мінску было лягчэй атрымаць пасаду выкладчыка, хутка стаць дацэнтам, а ў перспектыве і прафесарам. Універсітэт ствараўся з нуля, і таму перад навукоўцамі з арганізатарскімі здольнасцямі адкрывалася вялікае поле для дзейнасці.

Так атрымалася, што чаканні дзеячаў беларускага адраджэння не спраўдзіліся: універсітэт не адразу стаўся нацыянальна арыентаванай адукацыйнай установай і напачатку меў многія адзнакі рускага ўніверсітэта старога тыпу, нават і з рэцыдывамі адпаведных ідэалагічных установак (што зусім характэрна, бо ад рэвалюцыі прамінула ўсяго некалькі гадоў). Інстытут беларускай культуры, наконт якога разглядалася магчымасць далучэння да БДУ[4], атрымалася зрабіць больш-менш незалежнай установай, падпарадкаванай непасрэдна народнаму камісару асветы. Уладу ў філалагічным сегменце ІБК узялі нацыянальна арыентаваныя навукоўцы. У гуманітарыстыцы ва ўніверсітэце (першыя гады існавання БДУ) апошніх было зусім няшмат. Паступова аднак карціна змянялася, і ў выніку ва ўніверсітэцкай філалогіі вызначыліся дзве яскравыя групы, Г. Цыхун у артыкуле пра мемуары В. Воўк-Левановіча ўмоўна назваў іх «артадоксамі» і «младабеларусамі»[5].

Тварам першай групы лёсіла стаць лінгвісту Восіпу Воўк-Левановічу.

Яго постаць — неардынарная для таго часу — неаднаразова асвятлялася даследчыкамі[6]. Каб у чарговы раз не пераказваць энцыклапедыі дамо слова самому Воўк-Левановічу, цытуючы ягоную аўтабіяграфію, прадастаўленую ў Праўленне БДУ ў 1923 г.

4 Гл.: Петрыкаў П. Ц. Стварэнне і дзейнасць Інстытута беларускай культуры / П. Ц. Петрыкаў, М. У. Токараў, М. І. Галенчык // Інстытут беларускай культуры / М. П. Касцюк [і інш.]; рэдкал.: М. А. Барысевіч (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Навука і тэхніка, 1993. С. 6–32

5 Гл.: Цыхун Г. А. Язэп Воўк-Левановіч і яго ўспаміны (з гісторыі ўніверсітэцкай славістыкі) // Славянские языки: аспекты исследования: сб. науч. ст. / Белорус. гос. ун-т, каф. теорет. и славян. языкознания; под общ. ред. Е. Н. Руденко. — Минск: Изд. центр БГУ, 2009. — С. 230–235. Рускамоўныя ўспаміны Воўк-Левановіча ўяўляюць з сябе разасобленыя аркушы, маюць несістэмны характар (пачатак іх напісання адносіцца прыкладна да 1928–1929 гг.). Рукапіс быў перададзены сваякамі вучонага ў Інстытут мовазнаўства БССР. Паводле інфармацыі В. Скалабана, у дадзены момант мемуары захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь.

6 Адным з першых вяртаць паўзабытыя імёны філолагаў 1920-х гг. стаў Іван Клімавіч Германовіч, гісторык лінгвістычнай навукі Беларусі. Менавіта ён у 1970-я гг. надрукаваў шэраг біяграфічных артыкулаў пра рэпрэсаваных вучоных даваеннага часу, у тым ліку і пра В. Воўк-Левановіча (БелСЭ. Т. 3. Мінск: БелСЭ, 1973. С. 168; Веснік БДУ. 1971. Сер. 4. № 1. С. 31–36). Найбольш поўна даробак Воўк-Левановіча быў раскрыты І. Германовічам у кнізе нарысаў «Беларускія мовазнаўцы», выдадзенай двойчы, другі раз — пасмяротна (Германовіч І. К. Беларускія мовазнаўцы: Нарысы жыцця і навуковай дзейнасці. Мінск: Універсітэцкае, 1985. С. 115–126; Германовіч І. К. Беларускія мовазнаўцы: у 2 т. Т. 1. Мінск: БДУ, 2006. С. 120–130). Аднак на час напісання гэтых прац не былі зняты забароны на абмеркаванне пэўных тэм і персанажаў гісторыі навукі, у прыватнасці не згадваліся імёны Я. Лёсіка, В. Ластоўскага і інш., без якіх карціна тагачаснай сітуацыі ў навуцы станавілася няпоўнай. Гл. таксама: Шчэрбін В. К. Пытанні моўнай палітыкі ў працах І. Воўк-Левановіча // Беларуская лінгвістыка. 1989. Вып. 36. С. 24–31.

(балазе, яна мае большую стылістычную і фактыталагічную вартасць, чым звычайны пераказ біяграфіі):

*«Я радзіўся 25 кастрычніка 1891 году ў Бабруйскім павеце ў сям'і дробнага беларуса-земляроба, які і ў цяперашні час займаецца сялянскай гаспадаркай, абрабляючы невялічкі кавалак зямлі ўласнай працай, ня гледзячы на тое, што мае ад роду 82 гады.*

*Змалку праявіўшы імкненьне да навукі, я, як самы малодшы ў сям'і (якая налічвала 4-х сыноў і 3-х дачок), пачаў вучыцца ў той час, калі доўг за зямлю быў бацькам выплачан, і старэйшыя мае браты выйшлі на самастойны шлях жыцьця. З гэтага бацькі мае атрымалі магчымасьць аддаць мяне ў Бабруйскую гімназію[7]. Першае паўгодзьдзе бацькам было цяжкавата дзеля таго, што прыйшлося заплаціць за маё вучэньне, але потым я пачаў добра вучыцца і ўжо на ўсім працягу гімназічнага курсу аслабаняўся ад платы.*

*Скончыўшы гімназію ў 1911 годзе з сярэбранай мадальлю, я паступіў на гістарычна-філёлёгічны факультэт Пецярбурскага Унівэрсітэту. Унівэрсітэцкая праца, асабліва праца ў сэмінарыях, моцна мяне захапіла і я з вялікай прыемнасьцю ўспамінаю тыя часы, калі прыходзілася праседжваць у рускім аддзеле Публічнай бібліятэкі, ці то на пасяджэньнях сэмінарыю, прымаючы ўдзел у дыспутах[8].*

*Першы (1911–12 акад.) год я працаваў у праф. И. А. Шляпкіна і напісаў у той час працу: "Баба-Яга в русском и иностранном эпосах". На другі год (1912–13 акад.) я прымаў удзел у сэмінарыі праф. В. В. Сіпоўскага, у якога для працы ўзяў тэму: "Жизнь и творчество А. А. Бестужева (Марлинского)". Гэтую працу я пісаў на працягу цэлага году, працуючы ў Публічнай бібліятэцы па першакрыніцах, і меў намерам абраць гэтую тэму й для залічнага твору (дыплёмнай працы), зразумела больш дэтальна распрацаваўшы яе. Але здарэньні вайны 1914–1918 (і 1919–1920 гг.), у якой у наступнасьць прымаў актыўны ўдзел, зрабілі тое, што я, меўшы дурны звычай вазіць усе свае паперы з сабой, урэшце загубіў іх усе, у тым ліку і памянёныя працы. На трэці год (1913–14 ак.) прымаў удзел у двох сэмінарыях: у акад. А. А. Шахматава па аднаўленьню тэкста "Жития Феодосия" па сьпіску XII ст. і ў праф. И. А. Бодуэна дэ Куртэнэ па польскай мове параўнальна з рускай і іншымі славянскімі мовамі. У 1914 годзе я перайшоў на IV курс, калі пачалася вайна. К гэтаму часу я вытрымаў бадай што ўсе факультэцкія экзамены.*

*Калі-ж пачалася вайна, я ня доўга здолеў займацца навуковай працай пад грукат гарматаў і ахвотнікам паступіў у войска[9]. Гэткім чынам з лістападу 1914 году аж да лютага 1918 году я прабыў у радах старой арміі, прыймаючы ўдзел у паходах і бойках. Захварэўшы пляўрытам у восень 1917 г., я быў эвакован у Палтаву, гдзе й пралежаў да сьнежаня таго ж году. Потым па камісії быў адпушчан на хатняе злячэньне й паехаў да бацькоў у Бабруйскі павет, гдзе мяне й захапіла нямецка-польская акупацыя. У час гэтай акупацыі я быў выкладчыкам расійскай мовы й літаратуры, а таксама й лацінскай мовы ў Бабруйскай гімназіі б. Гадыцкага-Цвыркі й Клецкай (Слуцк[ага] пав[ета]) гра-*

---

[7] У чарнавіку аўтабіяграфіі 1928 г. аўтар паведамляў, што магчымасць вучыцца з'явілася толькі тады, калі сястра выйшла замуж за дробнага бабруйскага чыноўніка: «Когда мне исполнилось 10 лет, родители мои получили возможность определить меня в гимназию, т. к. жившая в городе моя замужняя сестра предоставила мне бесплатные квартиру и стол, а мои успехи в учении дали возможность бесплатного обучения в Бобруйской гимназии на протяжении всего курса» (АРКР ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 34. Воп. 1. Спр. 22. Л. 97 об.).

[8] Гл. таксама ў чарнавіку аўтабіяграфіі 1928 г: «В столице жил на средства, зарабатываемые мною частными уроками» (АРКР ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 34. Воп. 1. Спр. 22. Л. 97 об.).

[9] Гл. аўтабіяграфію, што захоўваецца ў асабовай справе: паступіў у войска «па прычынах асабістага характару, адной з якіх была матэрыяльная незабяспечанасць» (НАРБ. Ф. 205. Воп. 3. Спр. 1353. Л. 41; цыт. паводле: Германовіч І. К. Беларускія мовазнаўцы: Нарысы жыцця і навуковай дзейнасці. Мінск: Універсітэцкае, 1985. С. 116).

*мадзкай гімназіі. У 1920 г. быў заклікан у Чырв[оную] армію (другі раз), у якой і служыў да 1922 году (вясны), калі быў звольнены ў бястэрміновы одпуск.*

*Увесь час жадаючы зьвярнуцца да перарванай сур'ёзнай навуковай працы й фактычна ня меўшы магчымасьці ёю грунтоўна заняцца на працягу ўсіх гэтых 8-і гадоў, я ўрэшце, пасьля звальненьня ад вайсковай службы, атрымаў гэтую магчымасьць. У верасьні 1922 г., пры дапамозе Наркамасьветы Беларусі, я зноў быў залічан студэнтам у Пецярбурскім Унівэрсітэце, які й скончыў у канцы травеня 1923 году. Гэты апошні год я слухаў між прочым акад. Е. Ф. Карскага, прафесараў: П. А. Лаўрова, Д. И. Абрамовіча, Д. К. Петрова, И. И. Толстога, у якіх і здаваў экзамены. З даўніх часаў цікавіўся я беларускім адраджэньнем, будучы сам натуральным беларусам, але ня меў часу да гэтага руху прыстаць актыўна й грунтоўна.*

*Цяпер жа, маючы закончанае навуковае падрыхтаваньне, я жадаў бы скарыстаць яго для далейшай навуковай працы у напрамку культурнага будаўніцтва сваёй Бацькаўшчыны*[10].

*Восіп Воўк-Левановіч*

*28.9.1923 г. Менск»*[11].

Супрацьстаянне Восіпа Воўк-Левановіча і Язэпа Лёсіка пачынаецца ў 1923 г., неўзабаве пасля прыходу Восіпа на кафедру да Язэпа. Як ні парадаксальна, але можна гаварыць, што паспрыяў уладкаванню апанента сам Лёсік (відавочна, не ўяўляючы, да якіх канфрантацый дойдзе ў далейшым). Так, у пратаколе № 10 паседжання прадметнай літаратурнай камісіі ад 11.06.1923 г. чытаем:

«Слушали:

5) Вопрос о количестве часов лекций и практич. занятий по белор. языку на всех курсах и отделениях педагогического факультета.

Постановили:

5) Назначить согласно заявлению преподавателя белор. языка И. ЛЕСИКА, 32 часа лекций и практических занятий считая по 4 часа (из коих 2 часа лекций и 2 практ. занятий) на каждый курс и каждое отделение пед. фак-та.

Слушали:

6) Заявление И. ЛЕСИКА о необходимости назначения ассистента по белорусск. языку в виду большого количества часов занятий по указанному предмету и невозможности одному преподавателю обслужить их.

Постановили:

6) Поддержать перед Правлением заявление И. ЛЕСИКА, если будет представлен соответствующий кандидат для занятия должности ассистента».[12] На пачатку беларусізацыі

---

10 У чарнавіку аўтабіяграфіі 1928 г.: «В конце мая 1923 г. я окончил университетский курс и, желая быть полезным своей научной работой в культурном строительстве своей родины, не останавливаясь на предложении работы в Ленинграде, сделанном мне проф. Н. М. Соколовым (методистом рус[ского] языка и литерат[уры]), немедленно уехал в Белоруссию, т. к. у меня там оставались без средств к жизни жена и дочь, и я не мог далее оставлять их без непосредственной помощи» (АРКР ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 34. Воп. 1. Спр. 22. Л. 97 об.).

11 Гэтая аўтабіяграфія захавалася ў некалькіх копіях. Цытую паводле таго экзэмпляра, што знаходзіцца ў фондзе Народнага камісарыята асветы БССР (НАРБ. Ф. 42. Воп. 1. Спр. 1201. Л. 212 — 212 адв.). Больш дэталёва біяграфія Воўк-Левановіча, прааналізаваная на каштоўных архіўных дакументах, пададзена ў артыкуле В. Скалабана і Л. Рублеўскай «Лингвистическая дискуссия с расстрелом», выдрукаваным 28.09.2009 г. у газеце «СБ — Беларусь сегодня» (http://pda.sb.by/post/90234/). Тамсама асветлены перыпетыі жыцця Воўк-Левановіча ў 1917–1921 гг.

12 НАРБ. Ф. 205. Воп. 1. Спр. 765. Л. 14.

БДУ Язэп Лёсік быў фактычна адзіным выкладчыкам беларускай мовы ва ўніверсітэце (крыху дапамагаў С. Некрашэвіч, але гэтага было мала). У выніку пачаўся пошук новых выкладчыкаў, бо аб'ём працы быў вялікі. Пасля летніх вакацый кандыдаты з'явіліся. Першым быў якраз Восіп Воўк-Левановіч, выкладчык Польскага педтэхнікума: «Слушали: 3. Заявление И. И. ЗАМОТИНА и М. Н. ПЕТУХОВИЧА о кандидатуре И. В. ВОЛК-ЛЕВАНОВИЧА на кафедру истории белорусского языка и литературы в Б. Г. У. Постановили: 3. Кандидатуру ВОЛК-ЛЕВАНОВИЧА на должность научного сотрудника (ассистента) при кафедре истории белорусского языка и литературы признать желательной и предложить ему подать заявление и curriculum vitae»[13]. Амаль праз тры тыдні камісія атрымала яшчэ дзве заявы на замяшчэнне вакансіі выкладчыка беларускай мовы — ад Л. Рудніцкага і К. Міцкевіча (Якуба Коласа). У той жа дзень, 6 кастрычніка, адбыўся разгляд аўтабіяграфіі і водгукаў В. Воўк-Левановіча: «3. Заявление и curriculum vitae лектора белорусского языка в польском техникуме и вечернего рабфака БГУ ВОЛКА-ЛЕВАНОВИЧА о предоставлении ему должности ассистента при кафедре белорусского языка.

3. Принимая во внимание серьезную научную подготовку ВОЛК-ЛЕВАНОВИЧА и положительный отзыв о нем М. Н. ПЕТУХОВИЧА, поддерживаемый препод[авателем] И. ЛЕСИКОМ, признать кандидатуру ВОЛК-ЛЕВАНОВИЧА очень желательной и просить деканат и Правление об утверждении его в указанной должности. ВОЛК-ЛЕВАНОВИЧ обязан начать чтение курса по истории белор[усского] языка не позднее 1 февраля 1924 г.»[14]. Якраз 1 лютага 1924 г. і адбылася ўступная лекцыя Воўк-Левановіча перад прафесурай БДУ (гэткая была ў той час універсітэцкая традыцыя), абмеркаванне якой публікуецца ніжэй. Такім чынам, Язэп Лёсік падтрымлівае станоўчую характарыстыку Воўк-Левановіча. Ён ухваляе тое, супраць чаго будзе пасля пратэставаць. Нельга не задумацца, што прывяло навукоўцаў да канфрантацыі. Магчыма, гэта была кулуарная сутычка. Але тут мы ўваходзім у сферу прыпушчэнняў. Відавочна адно: пасля абмеркавання даклада Воўк-Левановіча 1 лютага 1924 г. пачаўся доўгі перыяд супрацьстаяння Лёсіка і Воўк-Левановіча.

Студэнты (вельмі нават верагодна, што заахвочаныя Лёсікам, які заслужана карыстаўся ў нацыянальна арыентаванай моладзі найвялікшым аўтарытэтам) праводзілі мэтанакіраваную работу па «выцісканні» Воўк-Левановіча з універсітэта. Адразу пасля ўступнага даклада, пратакол абмеркавання якога друкуецца ніжэй, яны наладзілі выкладчыку байкот: на наступную лекцыю прыйшла толькі адна студэнтка, якая заявіла, што людзі не збіраюцца хадзіць на ягоныя лекцыі і працаваць у ягоных семінарах[15]. З вялікімі намаганнямі ўдалося наладзіць працу па чытанні гісторыі беларускай мовы. Аднак кожны раз выкладчыку даводзілася быць пад пільнай увагай студэнтаў, якія лавілі яго на памылках, адмаўляліся здаваць яму залікі, а то і проста здзекаваліся[16]. Так, ва ўспамінах

[13] Пратакол № 13 паседжання прадметнай літаратурнай камісіі ад 20.09.1923 г. (НАРБ. Ф. 205. Воп. 1. Спр. 765. Л. 16 адв.)

[14] Пратакол № 14 паседжання прадметнай літаратурнай камісіі ад 06.10.1923 г. (НАРБ. Ф. 205. Воп. 1. Спр. 765. Л. 17 адв.)

[15] Гэтая гісторыя складае змест справаздачы Воўк-Левановіча за першы свой працоўны семестр у якасці выкладчыка БДУ (тэкст яе захоўваецца ў фондзе БДУ ў НАРБ).

[16] Трэба сказаць, што байкот і студэнцкая крытыка працягвалася ўвесь час выкладання Воўк-Левановіча ў БДУ. Так, у «Пратаколе № 1 нарады студэнцкай фракцыі прадметнай камісіі сумесна з сакратарамі груп і сэмінараў Літаратурна-Лінгвістычнага аддзялення ад 12 лістапада 1927 г.» чытаем: «5. Інфармацыя т. Вараб'ёвай сакратара сэмінару па мовазнаўству доц. Воўк-Левановіча. Наведваньне сэмінару дрэннае, студэнцтва не зацікаўлена. Не здавальняю[ць] студэнцтва ні матар'ял, ні мэтад. <…> У спрэчках выказваліся: <…> Мястоўская. Сэмінара Воўк-Левановіча пажадана каб зусім не было, бо ён нічога не дае» (НАРБ. Ф. 205. Воп. 1. Спр. 882. Л. 41–42). Зазначым, што ў 1920-я гг.

ён занатаваў: «Сегодня на лекции студенты меня уличили в ошибке… Случилось же сегодня так, что когда я записав на доске образцы спряжения imperfecta и аориста от “плести” по сербски, привел параллельно образец спряжения этого же глагола по болгарски, “камчатка”, т. е. несколько студентов (три-четыре человек), сидящие на задней парте, со злорадными улыбками заявили мне (собственно один — Иодо), что в свое время я форму imperfecta по болгарски сообщил им не так и они записали не так. Если бы это было сделано без злорадных улыбок, а спокойным деловым тоном, то я бы вероятно с честью вышел бы из этого обстоятельства… Но тут мне сразу ударило в голову: Снова травля! <…> Воображаю, как эта хеўра будет ликовать и звонить о моей действительной ошибке!.. Я уже давно не пытаюсь оправдаться. Уже какие там оправдания, когда теперь роль профессора, лектора сведена к роли актера, подвизающегося на театральных подмостках; актера, которого может судить и освистывать не только знаток и истинный ценитель искусства, но и всякий невежда, простой зевака, зашедший в храм искусства от нечего делать»[17].

Паралельна канфрантацыя адбывалася на старонках друку. Спачатку ў факультэцкім (насценнай газеце «Кузьня Асветы»), а тады і ў цэнтральным. Сцішаны байкот набыў больш моцнае гучанне пасля выхаду з друкарні ў 1927 г. «Лекцый па гісторыі беларускай мовы» В. Воўк-Левановіча. Нягледзячы на тое што кніга была выпушчаная літаграфскім спосабам на сродкі аўтара і вельмі невялікім тыражом (100 экз., пры тым у продаж было аддадзена аўтарам толькі 24 экз.)[18], яна неўзабаве атрымала жорсткі разнос ад Язэпа Лёсіка. Прычынай гэтай разгромнай рэцэнзіі з’яўлялася не ўласна навуковая сутнасць кнігі Воўк-Левановіча, а перадусім ягоны правапіс і, канкрэтна, прынцып перадачы запазычаных слоў у беларускай мове: аўтар «Лекцый» спавядаў набліжэнне беларускага правапісу да рускага, пераймаў на пісьме словаўтваральныя базы, фанетычныя асаблівасці рускай мовы, маніфестуючы такім чынам супрацiў нялюбай яму паланізацыі беларускай мовы[19]. Пры ўдзеле Язэпа Лёсіка з кнігі быў зняты грыф Метадкамітэта Наркамасветы, і пасля гэтага яна не магла лічыцца паўнавартасным навуковым даследаваннем. Пасля падобных спрэчак Воўк-Левановіч пачаў шукаць магчымасці з’ехаць з Беларусі: да 1928 г. адносіцца першая спроба гэткага парадку, пасля кожны год Воўк-Левановіч спрабаваў змяніць месца жыхарства[20]. Пэўных гарантый

---

прадстаўнікі ад студэнцтва мелі права вырашальнага голасу ў самых высокіх інстанцыях універсітэта. Гэтаксама і прапановы іх абавязкова ўлічваліся, абмяркоўваліся і часта прымаліся Праўленнем БДУ і дэканатамі. Гл. яшчэ тлумачальную запіску Воўк-Левановіча ад 19.IV.1930 г. «Па поваду заметкі ў насьценнай газеце “Кузьня Асьветы”, перадрукованай у “Чырвонай зьмене” ад 17. IV.1930 г.» прарэктару па навучальнай частцы, дэкану педфака і рэдакцыі газеты «Кузьня Асьветы» (АРКР ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 34. Воп. 1. Спр. 108. Л. 1–3).

[17] Цыт. паводле: Цыхун Г. А. Язэп Воўк-Левановіч і яго ўспаміны (з гісторыі ўніверсітэцкай славістыкі) // Славянские языки: аспекты исследования: сб. науч. ст. / Белорус. гос. ун-т, каф. теорет. и славян. языкознания; под общ. ред. Е. Н. Руденко. Минск: Изд. центр БГУ, 2009. С. 233.

[18] Другое выданне ўбачыла свет толькі ў 1994 г.

[19] Гл.: Лёсік Я. Цікавішся — прачытай («Лекцыі па гісторыі беларускай мовы» О. Воўк-Левановіча) // Савецкая Беларусь. 1928. 2, 3 лют.; Воўк-Левановіч Я. Пацікавіўся, прачытаў і… пашкадаваў, што прачытаў // Савецкая Беларусь. 1928. 22 лют.; Лёсік Я. Лісты ў рэдакцыю // Савецкая Беларусь. 1928. 24 лют. (артыкулы Лёсіка рэпублікаваны ў кнізе «Збор твораў, 1921–1930» (Мінск: Логвінаў, 2003), адказ Воўк-Левановіча — у ARCHE (2010. № 11. С. 219–226). Гл. таксама: Запрудскі С. Распрацоўка правапісу беларускай мовы ў канцы 1920-х гг. // Роднае слова. 2005. № 10. С. 39–42.

[20] У архіве вучонага, які захоўваецца цяпер у аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі, маюцца чарнавік Curriculum vitae і характарыстыка Я. Карскага за 1928 г., заява ў Галоўпрафасветы СССР аб пераводзе ў бліжэйшы рускі ўніверсітэт (сакавік 1929 г.).

і сур’ёзных прапановаў ён не атрымліваў. Да таго ж сітуацыя пакрысе змянялася: у 1929 г. Інбелкульт прыняў Воўк-Левановіча на пасаду вучонага спецыяліста — сакратаром Камісіі для ўкладання гістарычнага слоўніка беларускай мовы.

Новая хваля абвінавачанняў абрынулася на Воўк-Левановіча пасля прачытання 16.XII.1929 г. у Акадэміі навук даклада «Пра некаторыя важнейшыя недахопы беларускай літаратурнай мовы»[21]. Сёння ўжо вядома, што вучонага падгаварыў на гэты палемічны даклад сакрэтны супрацоўнік АДПУ: «В октябре 1929 г. я уговорил Волк-Левоновича выступить со своим докладом в Академии о белорусском языке. Великодержавные шовинистические установки В.-Левоновича, посещение им Карского мне были известны и ранее, но от поправок и замечаний к докладу я воздержался. После доклада В.-Левоновича я пошёл к Мамчицу и возмущённо говорил ему, как это никто не реагирует на выступление В.-Левоновича. И группа начинает действовать. Студент Ленинградского ВТУЗа едет на родину В.-Левоновича для собирания сведений о нем на месте. В Минске распускаются слухи по поводу доклада, и, конечно, от В.-Левоновича остались рожки да ножки»[22]. Супраць Воўк-Левановіча зноў выступае група нацыянальна арыентаваных беларускіх навукоўцаў. Ад плётак і паклёпаў вучоны стараецца абараніцца. У ягоных выпісках з кнігі М. Федароўскага «Люд беларускі» захаваўся чарнавік заявы ў Камісію па чыстцы ячэйкі КП(б)Б Беларускай Акадэміі навук. Уважаючы, што дакумент дагэтуль не друкаваўся, падаю яго тут цалкам: «У Камісію па чыстцы ячэйкі КП(б)Б БАН. Да майго ведама дайшло, што на агульным сходзе работнікаў БАН 24. XII г. г.[23] т. Жылуновіч у сваёй прамове чамусьці знайшоў патрэбным ахарактарызаваць мой даклад, зачытаны ў апошнія пасяджэньні Інстытуту мовы БАН на тэму “Пра некаторыя важнейшыя недахопы ў літарат[урнай] бел[арускай] мове”. Па словах асоб, якія былі на сходзе, т. Жылуновіч прыраўняў установку майго дакладу да ўстановак, якія даваліся да рэвалюцыі нейкімі чарнасоценнымі газетамі (здаецца, ён назваў “Крестьянина”) і аўтарамі, якіх я ніколі не чытаў. З гэтае прычыны я не магу ўступаць з т. Жылуновічам у палеміку тым больш на агульным сходзе, большасьць якога майго дакладу ня чулі. Але павінен тым ня менш давесьці да ведама Камісіі па чыстцы ячэйкі КП(б)Б БАН, якая кіруе агульнымі сходамі наступнае.

Даклад на вышэйазнач[аную] тэму у пасядж[эньні] Інст[ытуту] мовы (16.XII.1929 г.) я пасьпеў толькі зачытаць і запісаць тыя пытаньні, якія былі мне пастаўлены прысутнымі на ім асобамі, у тым ліку і т. Жылуновічам. За позьнім часам абгаварэньня дакладу ў цэлым (у тым ліку і адказы на пытаньні) было адкладзена на наступнае пасяджэньне, якое да гэтага часу яшчэ не адбылося (пэўна, і невядома, калі адбудзецца). Між тым некаторыя таварышы, як З. Жылуновіч, якім не падабаецца мая ўстаноўка ў закранутых мною пытаньнях нармаваньня літар[атурнай] бел[арускай] мовы, відаць ужо да абгаварэньня дакладу хочуць скампрамэтаваць яго з політычнага боку, ня маючы ніякіх фактычных падстаў.

Гэта ўжо не палеміка, але тэндэнцыйная політычная інсінуацыя, працяг той жа лініі цкаваньня і выжываньня ў адносінах ня толькі да мяне, але і да некаторых іншых

[21] Упершыню гэтая праца Воўк-Левановіча была апублікаваная С. Запрудскім у тэматычным нумары часопіса «ARCHE»: «Лінгвістыка 1920-х: тэрміналёгія, лексыкаграфія, правапіс, фармаваньне літаратурнай мовы» (ARCHE. 2010. № 11. С. 354–380).

[22] Гл.: Платонаў Р. Агляд настрояў. Гартаючы старонкі дакладаў «сакрэтнага супрацоўніка» // Полымя. 1994. № 4. С. 188. Гл. таксама: Цыхун Г. А. Ibid. С. 234–235.

[23] 1929 г.

навук[овых] работнікаў, якая наглядаецца ўжо ня першы год у нас на Беларусі. Прычыны гэтага цкаваньня ў тым, што навук[овыя] работнікі, якія падлягаюць гэтаму цкаваньню, у сваёй навуковай рабоце рэзка разыходзяцца ў пытаньнях навуковай мэтодолёгіі з тымі ідэалістычна-нацыяналістычнымі анцімарксісцкімі ўстаноўкамі, якія праводзіць у сваёй рабоце значная частка беларускіх навуковых і наогул культ[урных] работнікаў, якія займаюць у гэтай рабоце кіруючае палажэньне.

Для таго, каб Камісія магла об'ектыўна разабрацца ў тым, наколькі правільную ацэнку так пасьпешна даў т. Жылуновіч майму дакладу і наколькі з другога боку праў я, называючы гэтую ацэнку тэндэнцыёзнай політычнай інсінуацыяй, прыкладаю пры гэтым тэзісы майго дакладу. Апроч таго прасіў бы Камісію, разам з партыйнай арганізацыяй БАН прыняць удзел у дыскусіі па майму дакладу. Бо мне, які заўсёды імкнуўся совесна працаваць на карысьць пралетарскай навукі, вельмі важна ведаць ацэнку гэтай работы з боку не аддзельных безадказных асоб, але ўсяе партыйнае арганізацыі тае ўстановы, дзе я работаю, у цэлым.

Вучоны Спэцыяліст Інстытуту Мовы БАН, доцэнт Бел[арускага] Дз[яржаўнага] Унівэрсітэту

Воўк-Левановіч. 27.XII.1929 г.»[24].

Гэтак вучоны спрабаваў абараніцца… У той жа час сам фактычна даносіў на сваіх апанентаў, ведаючы, што ў СССР пачалася паласа арыштаў дзеячаў навукі і культуры, і атмасфера ў Беларусі таксама напятая, як струна. Магчыма, менавіта гэтая заява паўплывала на тое, што Воўк-Левановіча не арыштавалі падчас першай хвалі справы «СВБ», выпусцілі з Беларусі[25]. Зрэшты, бачыць абаронцу рускіх поглядаў пасля першага пагрому нацыянальнай культуры мала хто хацеў. У ЦК склалася дваістае стаўленне да Воўк-Левановіча. 18 мая 1930 г. ён падае заяву рэктару БДУ: «З прычыны неабходнасьці па сямейных абставінах выехаць з Менску на тэрмін няпэўнай прадоўжанасьці, пасьля сканчэньня мною заняткаў гэтага навуч[альнага] году прашу аслабаніць мяне ад займаемае ў Бел[арускім] Дз[яржаўным] Унівэрсітэце пасады»[26]. Аднак пасля зацвярджэння адстаўкі в. а. рэктара С. Вальфсонам Народны камісарыят асветы наклаў рэзалюцыю «Паведаміць, што НКА не зацьвярджае 27.05.30»[27]. Так ці інакш, а з'ехаць Воўк-Левановічу ўдалося. Атрымалася, хоць і ненадоўга, разгарнуць спакойную навуковую дзейнасць. Спачатку ў сценах Саратаўскага дзяржаўнага ўніверсітэта (нейкі час ён быў начальнікам высланага В. Ластоўскага ў аддзеле рэдкай кнігі тамтэйшага ўніверсітэта). Аднак увішныя супрацоўнікі АДПУ знайшлі яго і там. Пасля саратаўскага арышту і допытаў у 1934 г. ён пераводзіцца ў Арэнбургскі педагагічны інстытут. У крывавым 1937-м Воўк-Левановіча арыштоўваюць зноў.

---

[24] АРКР ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 34. Воп. 1. Спр. 82. Л. 4 адв., 2 адв., 3 адв., 1 адв.

[25] Ускосна пра гэта сведчыць увогуле станоўчая характарыстыка, дадзеная Воўк-Левановічу ў дакладной запісцы старшыні ДПУ БССР т. Рапапорта сакратару ЦК КП(б)Б т. Гею ад 22 мая 1930 г.: *«...считаю в корне неверной позицию некоторых членов КП/б/Б — (Волобринского, Белуги, Сенкевича), занятую по отношению к Волк-Левановичу. Их выступления против Волк-Левановича на руку белорусским нац. демократам — укрепляет положение последних. Отъезд Волк-Левановича из БССР политически невыгоден, ибо с его отъездом разваливается группа белорусов-восточников, ведущих непрерывную борьбу с группой западников и расшифровывающая их контр-революционную сущность»* (гл.: В. Скалабан, Л. Рублеўская «Лингвистическая дискуссия с расстрелом» http://pda.sb.by/post/90234/).

[26] НАРБ. Ф. 205. Воп. 1. Спр. 410. Л. 209.

[27] НАРБ. Ф. 205. Воп. 1. Спр. 410. Л. 207 (копія — л. 198).

След яго губляецца ў прасторах сталінскага «архіпелагу ГУЛАГ» (лічыцца, што вучоны памёр у 1943 г. на Поўначы)…

…Вядомы кожнаму беларусу Кандрат Крапіва ў 1930 г., ужо развітаўшыся са сваімі сябрамі па «Узвышшы» (хоць, па ўсім відаць, не дужа сумуючы па іх), напісаў сатырычна-фантастычную паэму «Хвядос — Чырвоны нос». У ёй апавядаецца, як забулдыжны паэт знянацку трапляе ў будучыню — у камуністычнае грамадства. І дужа яму там становіцца самотна. У выніку жыхары будучыні вымушаны адвесці зусім ссумаванага па «родных вобразах» Хвядоса ў музей старога Мінска. Там ён пачувае сябе выдатна. І многае пазнае. Напрыклад, завітаўшы ў Акадэмію навук, ён бачыць, як

*Ў эксцэнтрычным танцы лоўкім*
*Абняліся Лёсік з Воўкам,*
*Той — на левай, той — на правай, —*
*За агульнай скачуць справай,*
*Разышліся ёт і яць, —*
*Мяккім знакам не суняць.*
*А напроці, ў іншай залі,*
*Ім ужо адгаблявалі*
*З дубу лоўкую мяшалку —*
*Будзе Воўку і «маршалку»*[28].

Дубовая мяшалка, пра якую так смешна і па-народнаму піша Крапіва, пасля ператварылася ў «драўляны касцюм» — для абодвух. Зрэшты, у іх выпадку маглі абысціся і без «касцюма». Язэпа Лёсіка ў 1940 г. замардавалі ў саратаўскай турме. Воўк-Левановічу (па афіцыйных звестках) было адпушчана крыху больш часу (праўда, усе вязні паўночных лагераў, паводле сведчання Варлама Шаламава, проста марылі вярнуцца ў адносна цёплую і сытую турму). Іх «эксцэнтрычны танец» па волі крамлёўскага горца ператварыўся ў «танец смерці». Рэпрэсіўная машына калі не фізічна, то маральна змалола ў сваіх жорнах увесь першы склад Інбелкульта і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта — і «артадоксаў», і «младабеларусаў».

Навуковых апанентаў прымірыла сырая зямля.

Нам жа застаецца толькі памятаць урок гісторыі і вучыцца сапраўднаму дыялогу, чаму ў нейкім сэнсе і мусіць паспрыяць публікацыя пратакола абмеркавання ўступнай лекцыі Восіпа Воўк-Левановіча «Гістарычнае вывучэнне беларускае мовы ў славянскай філалогіі» 1 лютага 1924 г.

*Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ*

[28] Крапіва К. Збор твораў: у 6 т. Т. 1. Вершы, байкі, эпіграмы, паэмы / уклад., прадм., камент. С. Лаўшука; маст. А. Александровіч. Мінск: Мастацкая літаратура, 1997. С. 428.

# ДАДАТАК

## Протокол № 1

## Заседания Совета этнолого-лингвистического и социально-исторического отделений Педагогического факультета Б. Г. У.

1/II-24 г.

Председатель: Н. М. Никольский[29], секретарь: А. Н. Вознесенский[30].

Присутствовали: И. И. Замотин[31], М. Н. Петухович[32], В. Н. Перцев[33], Н. Н. Щекотихин[34], М. Б. Вейнгер[35], В. Д. Друщиц[36], И. В. Волк-Леванович[37], Л. Н. Цветков[38], И. Ле-

[29] Мікалай Міхайлавіч Нікольскі (1877–1959) — гісторык-усходазнаўца, даследчык гісторыі рэлігіі. На той час дэкан педагагічнага факультэта БДУ, прафесар. З 1931 г. акадэмік АН БССР, у 1937–1953 гг. дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР.

[30] Аляксандр Мікалаевіч Вазнясенскі (1888–1966) — літаратуразнаўца. На той час дацэнт БДУ, выкладчык гісторыі рускай літаратуры, метадалогіі літаратуразнаўства. З 1927 г. прафесар БДУ. У 1930 г. быў вымушаны з'ехаць з Беларусі, працаваў у ВНУ Масквы. У 1934 г. па «справе славістаў» (другая назва «справа Расійскай нацыянальнай партыі») быў асуджаны на 5 гадоў лагераў. З 1939 г. выкладаў рускую літаратуру ў Казані. Пазней дэкан філфака Казанскага ўніверсітэта. Доктар філалагічных навук (1943).

[31] Іван Іванавіч Замоцін (1873–1942) — літаратуразнаўца. У 1904 г. дацэнт, з 1908 да 1915 г. прафесар Варшаўскага, у 1916–1922 гг. — Данскога ўніверсітэта. У 1922–1938 гг. прафесар кафедры рускай літаратуры і методыкі выкладання літаратуры БДУ і Вышэйшага педагагічнага інстытута. Правадзейны член Інбелкульта і акадэмік АН БССР, член-карэспандэнт АН СССР. Арыштаваны ў 1938 г., асуджаны 5 жніўня 1939 г. да 8 гадоў выпраўленча-працоўных лагераў. Памёр у ГУЛАГу.

[32] Міхаіл Мікалаевіч Піятуховіч (1891–1937) — літаратуразнаўца. З 1922 г. дацэнт, з 1926 г. прафесар кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ і дэкан педфака БДУ. Правадзейны член Інбелкульта. У 1937 г. расстраляны.

[33] Уладзімір Мікалаевіч Перцаў (1877–1960) — гісторык, з 1922 г. загадчык і прафесар кафедры сярэдніх вякоў БДУ, доктар гістарычных навук (1935), акадэмік АН БССР (1940), акадэмік-сакратар аддзялення грамадскіх навук АН БССР (1943).

[34] Мікалай Мікалаевіч Шчакаціхін (1896–1940) — гісторык мастацтва. Скончыў Маскоўскі ўніверсітэт. У 1922–1924 гг. выкладаў гісторыю беларускага мастацтва ў БДУ. У 1925–1930-х гг. працаваў у Інбелкульце, пазней БАН. Аўтар важных для свайго часу «Нарысаў з гісторыі беларускага мастацтва. Т. 1» (1928). У 1930 г. арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі» і асуджаны на 5 гадоў высылкі ў Башкірыю. Там неаднаразова арыштоўваўся, у турме захварэў на сухоты, ад чаго і памёр.

[35] Міхаіл (Мордхе) Барысавіч Вейнгер (1890–1929) — спецыяліст па яўрэйскай дыялекталогіі і літаратуры. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта ў 1913 г. Дацэнт кафедры яўрэйскай філалогіі БДУ, выкладчык яўрэйскай дыялекталогіі і германістыкі. Аўтар фундаментальных прац па граматыцы і лінгвагеаграфіі мовы ідыш: «Яўрэйскі сінтаксіс» (1913), «Лінгвістычная картаграфія і яўрэйскі моўны атлас» (1929) і інш.

[36] Васіль Данілавіч Дружчыц (1886–1937) — гісторык. Скончыў Юр'еўскі ўніверсітэт у Тарту (1911). З 1922 г. выкладчык БДУ, з 1927 г. прафесар кафедры гісторыі Беларусі БДУ. Правадзейны член Інбелкульта з 1924 г. З 1933 г. у Маскве. Спецыяліст па гісторыі гарадоў Беларусі. Расстраляны.

[37] Восіп Васілевіч Воўк-Левановіч (1891–1943) — мовазнаўца. Вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце на гісторыка-філалагічным факультэце, пакуль не ўступіў у 1914 г. у армію. Дэмабілізаваўшыся ў 1919 г., аднавіў вучобу. З 1923 г. дацэнт БДУ, працаваў у 1920-х гг. вучоным спецыялістам у Інбелкульце. У 1930 г. быў вымушаны з'ехаць з Беларусі, працаваў у Саратаўскім універсітэце, пазней Арэнбургскім педінстытуце. Беспадстаўна арыштаваны ў 1937 г., памёр у лагеры. Аўтар «Лекцый па гісторыі беларускай мовы» і некалькіх дзясяткаў навуковых артыкулаў. Некаторыя з работ засталіся ў рукапісе.

[38] Леў Мікалаевіч Цвяткоў (1881–1937) — мовазнаўца, крытык. Скончыў Маскоўскі ўніверсітэт (1904). З 1922 г. выкладчык беларускай мовы ў БДУ (чытаў курсы «Уводзіны ў мовазнаўства», «Стараславянская мова»), з 1927 г. дацэнт, але ў тым жа годзе быў змушаны пакінуць універсітэт. Аўтар шэрагу прац па пытаннях беларускага правапісу і гісторыі мовы, шматлікіх рэцэнзій. У 1930-я гг. настаўнічаў на Смаленшчыне. Расстраляны ў Смаленску 28 лістапада 1937 г.

сик[39], Я. Колас-Мицкевич[40], И. Я. Герцык[41], Г. Э. Земель[42], И. Ю. Маркон[43], Азбукин[44], представители от студентов: Апационок[45], Плащинский[46].

Слушали: Протокол № 5 Заседания Совета гуманитарных отделений от 5/XII- 1923г.

Постановили: Утвердить.

Слушали: Доклад ассистента при кафедре Истории Белорусского языка И. В. Волк-Левановича на тему: «Гістарычнае вывучэньне Беларускае мовы ў славянскай філялёгіі» — Историческое изучение Белорусского языка в славянской филологии — для получения права чтения лекций по названной кафедре[47].

[39] Язэп Юр'евіч Лёсік (1883–1940) — мовазнаўца, грамадскі дзеяч. Скончыў Ноўгарад-Северскае гарадское вучылішча. У 1911–1917 гг. у высылцы ў Сібіры. У 1917–1918 гг. — рэдагаваў газету «Вольная Беларусь», быў членам БСГ і шэрагу нацыянальных палітычных арганізацый, удзельнік Усебеларускага з'езда, адзін з стваральнікаў БНР, член Рады БНР. У 1920 г. арыштаваны бальшавікамі, але адпушчаны паводле хадайніцтва У. Ігнатоўскага. З 1921 г. у БДУ, выкладчык беларускай мовы. З 1922 г. праўдзейны член Інбелкульта, з 1928 г. Беларускай акадэміі навук. У 1930 г. арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі» і асуджаны на 5 гадоў высылкі. У 1938 г. паўторна арыштаваны, расстраляны ў саратаўскай турме ў 1940 г. Аўтар шэрагу падручнікаў і папулярных граматык беларускай мовы, артыкулаў па нацыянальным пытанні, мастацкіх твораў.

[40] Якуб Колас (1882–1956) — класік беларускай літаратуры, паэт, празаік, перакладчык, публіцыст, метадыст. Пасля Першай сусветнай вайны вярнуўся ў Беларусь (у 1921 г.) Працаваў у Навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы, з 1922 г. у літаратурнай камісіі Інбелкульта. У 1923 г. стаў выкладчыкам беларускай мовы БДУ. У 1929–1956 гг. віцэ-прэзідэнт АН БССР. Пляменнік Язэпа Лёсіка.

[41] Ілья Якаўлевіч Герцык (1872–1938) — педагог, метадыст, псіхолаг. У 1920-я гг. дацэнт БДУ, выкладаў палітычную эканомію, гісторыю сацыялізму. У 1931 г. як «контррэвалюцыянер» і «шкоднік» асуджаны на 10 гадоў лагераў. Памёр у ГУЛАГу.

[42] Г. Э. Зэмель — выкладчык класічных моваў, рускай мовы і літаратуры ў БДУ. Быў членам прадметнай лінгвістычнай камісіі, намеснікам дэкана рабфака па навучальнай рабоце, членам Савета БДУ.

[43] Ісаак Юльевіч Маркон (1875–1949) — семітолаг, даследчык яўрэйскай літаратуры і культуры, кананічнага права. Скончыў у 1901 г. Пецярбургскі ўніверсітэт (усходняе аддзяленне і юрыдычны факультэт), пасля стажыраваўся ў Берліне. Па вяртанні ў Пецярбург загадваў яўрэйскім аддзелам Імператарскай публічнай бібліятэкі. У 1907 г. заснаваў яўрэйскі навуковы часопіс «Га-Кедем». Адзін з заснавальнікаў і аўтараў рускамоўнай «Яўрэйскай энцыклапедыі». У 1920–1922 гг. выкладаў у Петраградскім універсітэце, пасля — прафесар БДУ. Чытаў на этнолага-лінгвістычным аддзяленні БДУ курсы «Уводзіны ў семіцкую філалогію», «Гісторыя яўрэйскай літаратуры Сярэднявечча». З 1926 г. у эміграцыі ў Латвіі, пасля ў Германіі, дзе займаўся выкладчыцкай і навуковай працай. У 1938 г. высланы нацыстамі. З 1940 г. у Вялікабрытаніі, у Каледжы Мантэф'ёрэ (Рэмсгейт).

[44] Мікалай Азбукін (1894–1943?) — краязнаўца, географ, грамадскі дзеяч. Першы рэдактар краязнаўчага часопіса «Наш край». Аўтар шэрагу навуковых прац і падручнікаў па геаграфіі Беларусі, Заходняй Еўропы. Скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт (1917). У перыяд паслярэвалюцыйнага міжчасся арыштоўваўся за грамадскую дзейнасць польскімі ўладамі, а пасля бальшавікамі за прыналежнасць да партыі эсэраў. З 1921 г. працаваў у Навукова-тэрміналагічнай камісіі пры Наркамасветы, пазней — у Інбелкульце і БАН. У 1930 г. арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі» і высланы ў Налінск на 5 гадоў. Памёр у ГУЛАГу.

[45] Федар Андрэевіч Апацёнак (1902–1943) — педагог. У гады міжчасся наведваў знакамітую «Беларускую хатку». Пасля заканчэння БДУ выкладаў на вышэйшых курсах беларусазнаўства, у Белпедтэхнікуме, школах Мінска. У 1931 г. быў асуджаны па справе «Саюза вызвалення Беларусі» на 3 гады лагераў. У 1938 г. вярнуўся ў Мінск, настаўнічаў. Загінуў на фронце. На час дыскусіі — студэнт БДУ.

[46] Язэп Паўлавіч Плашчынскі (Пушча) (1902–1964) — паэт, перакладчык, адзін з заснавальнікаў літаратурных згуртаванняў «Маладняк» і «Узвышша». Арыштаваны ў 1930 г. па справе «Саюза вызвалення Беларусі», асуджаны на 5 гадоў высылкі. Вярнуўся ў Беларусь у 1958 г. На час дыскусіі — студэнт БДУ.

[47] Неўзабаве даклад быў апублікаваны. Гл.: Воўк-Левановіч В. Гістарычнае вывучэньне беларускае мовы ў славянскай філялёгіі: гістарычна-метадалагічны нарыс // Працы БДУ. 1925. № 6–7. С. 98–127. Даследаванне ўбачыла свет таксама і ў выглядзе асобнага адбітка.

Постановили: Перед докладом препод[аватель] Лесик заявил, что белорусское общественное мнение в его лице возражает против поручения курса истории белорусского языка ассистенту Волк-Левановичу, ибо он, по его мнению, не знает белорусского языка.

Председатель Совета, Н. М. Никольский разъяснил, что Волк-Леванович прошел все избирательные инстанции и утвержден ассистентом; вопрос о знании или не знании им белорусского языка будет виден из доклада, который предстоит ему прочесть в сегодняшнем собрании Совета.

Докладчик в начале своего сообщения, прочитанного на белорусском языке, указывает, что он очень удивлен заявлением преп. Лесика и не знает тех причин, по которым он возражает против его намерений читать историю белорусского языка. В самом докладе Волк-Леванович дал критико-библиографический обзор изучения белорусского языка в славянской филологии — именно, в тех отраслях ея, которые чаще всего и больше всего касались его истории — в русском языкознании и польском. Докладчик отметил выдающиеся моменты в области этих изучений, подчеркнув в них методологическую сторону вопроса. Более подробно докладчик остановился на характеристике двух главных школ в славяно-русском языкознании — школы Фортунатова-Шахматова и школы Соболевского-Карского[48]. В заключение Волк-Леванович сделал соответствующие выводы, выразив в них и свое методологическое credo.

По выслушании доклада первым слово для возражения взял преп[одаватель] Лесик, который указал на причину недружелюбного и отрицательного отношения его и других белоруссов к Волк-Левановичу.

Причина та, что докладчик, прибыв в Минск и взявшись вести белорусскую работу, повел ее на русском языке; именно, будучи назначен преподавателем Польского Педтехникума он начал свои уроки на русском языке. Это с точки зрения оппонента является совершенно недопустимым явлением. Затем, переходя к возражениям по существу доклада, препод[аватель] Лесик отметил, что Волк-Леванович не знает белорусского языка, допуская много руссицизмов и склоняя числительные имена, начиная с 5-го десятка. Лесик считает, что Волк-Леванович поступает недопустимо, называя таких ученых, как Надеждин[49], Буслаев[50], Гримм[51], и др. «нашими» учеными; нашими, т. е. белорусскими, эти ученые никогда не были; это — ученые российские.

[48] У працы «Гістарычнае вывучэньне беларускае мовы ў славянскай філялёгіі: гістарычна-метадалагічны нарыс», а пазней у «Лекцыях па гісторыі беларускай мовы» В. Воўк-Левановіч з уласнага аналізу вылучыў дзве асноўныя метадалагічныя парадыгмы ў сучаснай яму мовазнаўчай думцы: першая звязвалася з імёнамі Ф. Фартунатава і А. Шахматава; другая — з метадам А. Сабалеўскага і Я. Карскага. «У той час як Сабалеўскі і Карскі стаяць на строга фактычным грунце, акад. Шахматаў (наследуючы метад свайго настаўніка Ф. Фартунатава. — *Ц. Ч.*) з вялікай ахвотай прыбягае да пабудоў гіпотэтычнага характару» (Воўк-Левановіч В. Гістарычнае вывучэньне беларускае мовы ў славянскай філялёгіі: гістарычна-метадалагічны нарыс // Працы БДУ. 1925. № 6–7. С. 103). Шахматаў сцвярджае важнасць прыцягнення дыялектнага матэрыялу ў працы па гісторыі мовы, каб не абапірацца выключна на старажытныя пісьмовыя помнікі. Ён таксама абгрунтоўвае большую значнасць для гісторыкаў мовы пісьмовых помнікаў свецкага характару, чым уласна царкоўных кніг.

[49] Мікалай Іванавіч Надзеждзін (1804–1856) — рускі гісторык, этнограф, філолаг, літаратурны крытык, рэдактар і выдавец. Трэба адзначыць, што менавіта ён надрукаваў у сваім часопісе палемічнае «Філасафічнае пісьмо» П. Чаадаева, а таксама выступаў супраць ідэі панславізму.

[50] Фёдар Іванавіч Буслаеў (1818–1897) — рускі філолаг, мастацтвазнаўца, этнограф. Аўтар першай гістарычнай граматыкі рускай мовы (1858), у даследаваннях па фальклоры прытрымліваўся поглядаў «міфалагічнай школы».

[51] У апублікаваным дакладзе Воўк-Левановіча сапраўды ёсць спасылкі на класіка нямецкай філалогіі і этнаграфіі Якаба Грыма (1785–1863), далучаць якога да расійскіх вучоных было б, мякка кажучы, не зусім апраўдана. Але гэта магла быць апіска сакратара паседжання. Магчыма, Лёсік назваў імя Якава Грота (1812–1893).

Упоминание Карского в ряду историков белорусского языка неправильно, ибо он в своих трудах занимается живою белорусскою речью[52]; кроме того, Карский, при всей его учености, к белорусскому движению переносится враждебно[53]. Докладчик все время, по словам оппонента, говорил о русском языке; между тем, такого языка совершенно нет, ибо понятие «Русский язык» есть измышление русского империализма; есть язык великорусский, украинский и белорусский[54].

М. Н. Петухович отметил, что доклад Волк-Левановича его вполне удовлетворяет как со стороны формы, так и содержания; он свидетельствует о большой эрудиции докладчика и умении разбираться в вопросах лингвистических изучений. Что же касается заявления Лесика, что белорусское общественное мнение возражает против кандидатуры Волк-Левановича, то Петухович указывает, что далеко не все члены Института Белорусской Культуры высказываются против нее; мы все белоруссы, — говорит Петухович, стоим всецело на стороне Волк-Левановича, кроме того, один общественный белорусский деятель в разговоре с оппонентом выразил свое удивление перед тем, что Волк-Леванович, как хорошо знающий белорусский язык, не назначен на вакантное место Директора Белорусского Педтехникума. Петухович высказывает опасение, не считает-ли Лесик себя единственным носителем и выразителем белорусского общественного мнения, но в таком случае не приходится говорить о каком либо общественном мнении, а лишь о диктатуре Лесика, что фактически и наблюдается. Доклад, по мнению Петуховича, написан вполне удовлетворительно, и он считает Волк-Левановича достойным звания преподавателя.

М. Б. Вейнгер заявляет, что протестует против тона возражения Лесика и берет свое слово только для того, чтобы высказать этот свой протест против его шовинистических заявлений. По мнению Вейнгера, в словах Лесика определенно высказывается крайний национализм, переходящий в каннибализм, что совершенно противоречит видам и Советской власти и Коммунистической Партии, которая стремится построить новую

---

52 Няслушная думка. Гісторыі беларускай мовы, аналізу помнікаў старажытнага пісьменства Я. Карскім былі прысвечаны некалькі дзясяткаў асобных даследаванняў пачынаючы з самых першых прац (гл., напр., «К истории звуков и форм белорусской речи», Варшава, 1893).

53 Намёк на т. 3 «Беларусаў» (1922) Я. Карскага, у якім вучоны крытыкаваў беларускі адраджэнскі рух, што было надзвычай негатыўна ўспрынята навуковымі і літаратурнымі коламі Беларусі (Гл.: Дзяржынскі Ул. «Белорусы» Е. Ф. Карскага // Полымя. 1923. № 2. С. 112–132; Б-ка [Бабарэка], А. 3-ці вечар «Полымя» // Полымя. 1923. № 3–4. С. 125–127). Паказальна, што менавіта за лучнасць з Я. Карскім В. Воўк-Левановіч быў высмеяны пазней А. Александровічам у правакацыйнай паэме «Цені на сонцы»: «Было ён першы рынуўся на фронт, / на абарону — / «Единой неделимой». / I незадоўга Карскага портфэль / і рэчы іншыя за Карскім носіць. / …Зайшлася-закруціла карусель — / здаць позыцыі бяз бою давялося! / Зьмяніўся час… О, доля перамен! / Дый што зрабіць, прышлося пагадзіцца. / Сёньня ўжо — дзівіцца — ён доцэнт! / Сваяцтву гімн! / Няма чаму дзівіцца!» (Александровіч А. Цені на сонцы. 2-е выд. Мінск: БДВ, 1931. С. 18). Адзначым, што менавіта Карскі напісаў кароткую рэкамендацыю В. Воўк-Левановічу яшчэ ў 1923 г. (гл. асабовую справу ў БДУ: ф. 205, воп.3, спр. 1353). У 1928 г. акадэмік напісаў грунтоўную характарыстыку Воўк-Левановічу для Галоўпрафасветы СССР (АРКР ЦНБ НАНБ. Ф. 34. Воп. 1. Спр. 149. Л. 1). У сваю чаргу, Воўк-Левановіч на замову Карскага рабіў картатэку па беларусазнаўстве (гл. ягоную адпаведную заяву ў Акадэмію навук СССР з просьбай аплаціць 700 картак бібліяграфіі ў разліку 10 капеек за картку; АРКР ЦНБ НАНБ. Ф. 34. Воп. 1. Спр. 82. Л. 10 адв.).

54 Лёсік пярэчыць супраць выкарыстання тэрміна «руская мова» ў дачыненні да нацыянальнай мовы расіянаў на той падставе, што ў старажытнасці «рускай» мовай называлі беларускую. Наконт такога выкарыстання тэрміна «руская мова» ў старажытнасці гл.: Запрудскі, С. Назвы беларускай мовы ў працах даследчыкаў XIX стагоддзя. Працы 1800–1810-х гадоў // Беларусь і беларусы ў прасторы і часе: зборнік да 75-годдзя прафесара Адама Мальдзіса / пад рэд. С. Запрудскага, А. Фядуты, З. Шыбекі. Мінск: Лімарыус, 2007. С. 252–268.

жизнь на полном содружестве всех национальностей. Оппонент считает, что тем настроениям, которые создает препод[аватель] Лесик, инспирируя студентов, совершенно не место в Университете. Он находит, что каждый желающий работать на благо науки, может это делать беспрепятственно. Вейнгер надеется, что представители от студентов не пойдут за людоедским шовинизмом преп[одавателя] Лесика, а отнесутся к возникшему инциденту совершенно объективно.

Доклад, с точки зрения оппонента, как специалиста, хотя и не в области славянской филологии, но все же лингвиста, знакомого с методами языкознания, написан вполне удовлетворительно и свидетельствует о широкой начитанности и умении оперировать научным материалом.

Представитель от студентов Плащинский, возражая Вейнгеру, говорит, что в словах Лесика нет никакого шовинизма. Говоря о докладе, оппонент сначала передает свое впечатление о внешней форме доклада, а затем о внутренней. По первому пункту он считает, что язык, на котором излагается доклад, не есть белорусский; он весь пересыпан руссицизмами, напр.: именно, по крайней мере, очевидно, строго и т. д.

По второму пункту он указывает, что доклад был лишь библиографическим изложением вопроса и что прочитан очень вяло.

И. И. Замотин заявляет, что заседание Совета Отделений есть заседание чисто академическое, посвященное, согласно повестке, заслушанию и обсуждению научного доклада т. Волк-Левановича, между тем, здесь академизм совершенно забыт и на первый план, по-видимому, поставлено обсуждение общественной позиции референта, что в задачу нынешнего заседания не входит; преп. Лесик, возражая докладчику, стремится, именно, на этой почве, обосновать все свои возражения. Оппонента, как человека академического, такая атмосфера сильно угнетает.

Председатель Совета Н. М. Никольский приостанавливает речь проф. Замотина и заявляет, что он должен был-быть в интересах академичности заседания остановить преп[одавателя] Лесика, поставившего с первых же слов обсуждение доклада Волк-Левановича и самой личности докладчика на общественно-политическую точку зрения и тем создавшего крайне напряженную атмосферу, но он, дабы избежать нареканий и указаний на то, [что] председатель «затыкает рот», вынужден был предоставить свободу обсуждения доклада.

И. И. Замотин вновь продолжает свое слово. Его мнение относительно доклада таково, что он представляет собою критико-библиографический обзор исторического изучения белорусского языка, очень продуманный и осмысленный; скомпонован в методологическом отношении очень недурно и вполне удовлетворительно. Указание же предыдущих оппонентов на то, что доклад Волк-Левановича есть только библиографический перечень мнений, доказывает слабость знаний и научных сведений самих возражающих, ибо в докладе Волк-Левановича есть не только библиографическая сторона вопроса, но что самое главное — критическая и методологическая. Некоторым недочетом И. И. Замотин считает то, что сведения об историческом изучении белорусского языка в славянской филологии он не сконцентрировал в более выпуклой и яркой форме, а изложил их несколько в разбросанном виде. Что же касается чистоты и правильности белорусского языка, то эту сторону доклада оценят другие, равно они же укажут, насколько является недостаточным то, что докладчик не вполне овладел белорусской речью. Что же касается оценки предыдущими оппонентами чистоты белорусского языка, то она была сделана настолько в научном отношении неубедительно и [в] настолько общей форме, что такую оценку можно приложить и ко многим другим, которые говорят на белорусском литературном языке. Возражающие никаких ни фонетических, ни

морфологических, ни фразеологических недостатков в речи Волк-Левановича не отметили и указали лишь ряд руссицизмов.

По содержанию доклад Волк-Левановича удовлетворяет И. И. Замотина вполне.

И. Ю. Маркон указывает, что в области науки очень часты примеры того, что ученые, не владея в совершенстве, как им владеют туземцы, которые обыкновенно и приглашаются лекторами, разговорным языком, в то же время были большими специалистами в области его истории; эти явления можно наблюдать в сфере арабского языкознания, еврейского, персидского и турецкого. И. Ю. Маркон считает, что, по заявлению некоторых оппонентов-белоруссов, Волк-Леванович недостаточно хорошо владеет белорусским языком, то это обстоятельство не может служить препятствием к допущению его в качестве преподавателя, читающего курс истории белорусского языка.

Волк-Леванович, как лингвист, обнаружил в своем докладе очень основательные знания.

Студент Дзержинский[55] возражает сначала против слов Вейнгера, говоря, что все его указания на шовинизм, национализм, коммунизм и т. п. его не устрашают. Если, как заявляет докладчик, он читал свой доклад для профессоров, а не для студентов, то пусть он им-же читает и лекции по истории белорусского языка. Возражая Маркону, Дзержинский говорит, что изучать мертвые языки можно, не зная разговорной его речи; но для живого языка это невозможно. Что касается кандидатуры Волк-Левановича, то белорусское грамадзянство[56], по мнению Дзержинского против ее, между тем как Университет вопреки этому поддерживает докладчика.

Председатель Совета Н. М. Никольский останавливает оппонента и заявляет, что он считает недопустимым подобное противопоставление Университета и Белорусского грамадзянства, предлагая оппоненту держатся в рамках критики доклада по существу.

Переходя к докладу, Дзержинский отмечает, что Волк-Леванович говорил об историческом изучении белорусского языка не в славянской филологии, а в русском языкознании; на польском языкознании он остановился мимоходом; не остановился докладчик, по мнению оппонента, на свидетельстве историка польской литературы Вишневского[57], который впервые употребил термин — белорусский язык[58], между тем как многие из русских лингвистов называли его наречием[59]. Оппонент считает недостатком то, что Волк-Леванович много говорил о мнениях Буслаева, Потебни и др[угих], но мало

[55] Уладзіслаў Вікенцьевіч Дзяржынскі (сапр. Чаржынскі) (1897–1974) — беларускі літаратуразнаўца, крытык, педагог. На той час вучыўся на этнолага-лінгвістычным аддзяленні педфака БДУ і выкладаў беларускую мову на рабфаку. Публікаваўся з 1922 г. Супрацоўнічаў з Інбелкультам, пазней — з БАН. У 1930 г. арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі» і высланы на 5 гадоў у Казань, дзе і пражыў да самай смерці. Выкладаў у ВНУ Казані.

[56] У значэнні «грамада» (магчыма, «грамадства»).

[57] Міхал Вішнеўскі — аўтар шматтомнай «Гісторыі польскай літаратуры». Беларуская літаратура разглядалася ў 8-м томе працы, апублікаваным у 1851 г.

[58] Сярод польскіх навукоўцаў у XIX ст. пад уплывам расійскага бібліёграфа Васілія Сопікава першым ужыў выраз «беларуская мова» Самуэль Багуміл Ліндэ. Гл.: Запрудскі С. Беларусістычныя зацікаўленні Самуэля Багуміла Ліндэ // Droga ku wzajemności. 50 lat białorutenistyki na Uniwersytecie Warszawskim / redakcja naukowa Mikołaj Timoszuk i Mikołaj Chaustowicz. (*Acta Albaruthenica 6*). Warszawa, 2007. S. 382–395.

[59] Прынамсі ў першай трэці XIX ст. шэраг расійскіх навукоўцаў (В. Сопікаў, Я. Балхавіцінаў, К. Калайдовіч, М. Грэч, Д. Языкаў) пісалі пра беларускую мову, разумеючы пад ёй пераважна мову старажытных беларускіх і ўкраінскіх пісьмовых помнікаў. Гл.: Запрудскі С. М. Аб філалагічнай рэцэпцыі беларускай мовы ў Расіі ў першай трэці XIX стагоддзя // Веснік БДУ. Серыя 4. 2011. № 2 (у друку).

о Шахматове[60]. Дзержинский видит грубую ошибку в утверждении Волк-Левановича о том, что история белорусского языка есть наука; такой науки нет; мнения Срезневского, Карского и др[угих] не являются тем, что можно назвать наукой[61]. Докладчик дал просто библиографическую сводку и притом не полную; у Карского она приведена полнее. Докладчик не указал, по мнению оппонента, значение методологических предпосылок Шахматова для изучения белорусского языка. Вообще доклад не имеет никакого значения для исследования истории белорусского языка[62]. Что касается его формы — то очень трудно указать недостатки его, ибо в нем такая масса руссицизмов.

Н. М. Никольский возражает студенту Дзержинскому и говорит, что арабский, турецкий, персидский и даже еврейский не мертвые, а живые языки, но их тем не менее изучают люди, часто не владеющие беглой разговорной речью, поэтому возражение Дзержинского не имеет под собою основания.

Доклад Волк-Левановича, он считает вполне удовлетворительным, свидетельствующим о его серьезной научной подготовке. Прочитанное сообщение является первым опытом систематизации научного материала, касающегося истории белорусского языка, и с этой точки зрения работа докладчика имеет большое научное значение. Что касается его языка, то он ничем не отличается от языка других белорусов, которых он слышал на различных выступлениях.

Л. Н. Цветков находит, что построение и изложение доклада его вполне удовлетворяют; он находит методологические сведения в языкознании, изложенные в докладе, очень ценными и полезными. Но он мог бы, пожалуй, возразить только против категорического разделения всех ученых на две школы — школу Фортунатова-Шахматова и на школу Соболевского-Карского. В частности, Карский так же, как и Шахматов, допускает натяжки в области изучения явлений белорусского языка, что говорит о том, что резкого разграничения между названными школами провести невозможно.

И. Лесик вновь берет слово и отмечает, что все профессора, выступавшие с обсуждением доклада, заявляли, что они не специалисты в области лингвистики, между тем давали соответствующую оценку сообщению Волк-Левановича. Это очень плохо. Раз есть кафедра истории белорусского языка и есть постановление, по которому этот курс должен читаться на белорусском языке, то значит он и должен на нем читаться, между тем Волк-Леванович этого языка не знает. Если бы приехал из Москвы Расторгуев[63] и стал бы читать этот курс на русском языке, то это ничего, но раз приглашается белорус, то он должен знать этот язык и читать только на нем. Между тем Волк-Леванович работал над своим докладом 2 месяца,

---

[60] Беспадстаўнае абвінавачанне. Меркаванне Міхала Вішнеўскага з 8-га тома «Гісторыі польскай літаратуры» было агучанае Ваўком-Левановічам у дакладзе (гл. ніжэй выступы А. Вазнясенскага і самога дакладчыка). Шахматаву ў паведамленні было адведзенае месца не менш, чым Ф. Буслаеву і А. Патабні. У друкаваным варыянце Шахматаву прысвечаны асобны раздзел (Гл.: Воўк-Левановіч В. Гістарычнае вывучэньне беларускае мовы ў славянскай філялёгіі: гістарычна-метадалагічны нарыс // Працы БДУ. 1925. № 6–7. С. 103–113).

[61] Празмерна катэгарычныя і не адпаведныя рэальнасці сцверджанні.

[62] Выключна тэндэнцыйнае і неабгрунтаванае выказванне.

[63] Павел Андрэевіч Растаргуеў (1881–1959) — рускі мовазнаўца, займаўся вывучэннем беларускай мовы, у прыватнасці дыялекталогіі і праблемамі беларуска-руска-ўкраінскага памежжа. Пасля заканчэння Маскоўкага ўніверсітэта там жа быў пакінуты выкладчыкам. У 1918–1920 гг. чытаў лекцыі ў Беларускім народным універсітэце ў Маскве. У 1926 г. браў удзел у Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу. Правадзейны член Інбелкульта. У 1930-я гг. арыштоўваўся па «справе славістаў» і быў высланы. Рэшту жыцця правёў на выкладчыцкай працы ў Навазыбкаўскім педінстытуце. Аўтар кніг «Северско-белорусский говор. Исследование в области диалектологии и истории белорусских говоров», «Говоры восточных уездов Гомельской губернии в их современном состоянии» і інш.

